# Радзінна-хрэсьбінныя абрады і звычаі беларусаў

*На матэрыяле фальклору Гомельскай вобласці*



Гомель
Барк
2013

**УДК 392.1(=826)(476.2)**
**ББК 63.521(=411.3)-534(4Беі-4Гом)**
**Р 15**

Рэцэнзенты:

**А.С. Ліс,**
доктар філалагічных навук, ДНУ "Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі";
**А.Г. Алфёрава,**
кандыдат філалагічных навук, ДНУ "Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі".

**Р15** Радзінна-хрэсьбінныя абрады і звычаі беларусаў (на матэрыяле фальклору Гомельскай вобласці) /аўтары-укладальнікі Новак В. С., Шынкарэнка В. К., Кастрыца А. А., Воінава А. М., Вяргеенка С. А., Палуян А. М., Партнова-Шахоўская А. У. – Гомель: Барк, 2013. – 380с.

ISBN 978-985-6763-94-9

Кніга прысвечана разгляду радзінна-хрэсьбінных абрадаў і звычаяў беларусаў (на матэрыяле фальклору Гомельшчыны) і ўключае два раздзелы. Змест аднаго з іх складаюць артыкулы, у якіх тэарэтычна асэнсоўваюцца структура і рэгіянальна-лакальныя асаблівасці радзінна-хрэсьбіннага комплексу, семантыка яго асобных структурных кампанентаў і сутнасць звязаных з імі самабытных міфалагічных вераванняў, даследуецца этналінгвістычны кантэкст сакральных абрадавых дзеянняў і радзінна-хрэсьбінных песень, іх паэтыка.

У другім раздзеле кнігі прадстаўлены сучасныя запісы аўтэнтычных матэрыялаў па радзінна-хрэсьбіннай абраднасці, зробленыя на тэрыторыі Гомельскай вобласці ў экспедыцыях выкладчыкамі і студэнтамі УА "Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны".

Выданне будзе цікавым для фалькларыстаў, этнографаў, гісторыкаў, культуролагаў, работнікаў устаноў адукацыі і культуры, студэнтаў і школьнікаў, усіх аматараў традыцыйнай культуры беларусаў.

**УДК 392.1(=826)(476.2)**
**ББК63.521(=411.3)-534(4Беі-4Гом)**

ISBN 978- 985-6763-94-9

**Алена КАСТРЫЦА, Валянціна НОВАК, Вольга ШЫНКАРЭНКА**

# Спрадвечнае жыцця вітанне

*Замест прадмовы*

Кніга “Радзінна-хрэсьбінная абраднасць беларусаў (на матэрыяле фальклору Гомельскай вобласці)” прысвечана звычаям і абрадам, якія суправаджаюць адзін з важнейшых у жыцці чалавека біясацыяльных цыклаў – нараджэнне дзіцяці і яго далучэнне да сям’і, соцыуму. Паводле выпрацаваных вякамі вераванняў, немаўля з’яўляецца неабходнай умовай стварэння сапраўднай сям’і, забеспячэння яе шчасця, дабрабыту, надання агульначалавечага сэнсу існаванню. Менавіта таму спрадвеку павышаную ўвагу людзей выклікае ўсё, што так ці інакш адносіцца да цяжарнасці жанчыны, яе гарманічных стасункаў з універсумам. На працягу стагоддзяў у нашых продкаў фарміраваліся агульнаэтнічныя маральна-этычныя каштоўнасці, пэўная светапоглядная сістэма, значнае месца ў якой займаюць магічныя ўяўленні, шматлікія забароны і засцярогі ад негатыўнага ўздзеяння варожых сіл, адметныя прынцыпы паводзін як самой цяжарнай, так і галоўных удзельнікаў хрэсьбіннай цырымоніі (бабкі-павітухі, кума і кумы).

Прадстаўленыя ў кнізе ўзоры радзінна-хрэсьбіннай абраднасці, шырокі арэал яе бытавання – яскравае сведчанне відавочнай запатрабаванасці і зацікаўленасці грамадства ў такога кшталту матэрыялах. Акрамя таго, гэта цудоўная магчымасць відавочна пераканацца ў добрай сённяшняй захаванасці беларусамі, і палешукамі ў прыватнасці, асноўных традыцыйных дзеянняў і слоўных формул у надзвычай адказны момант іх сямейнага жыцця. Названая адметнасць не з’яўляецца выпадковасцю, бо менавіта з радзінна-хрэсьбіннай абраднасцю як унікальным відам вуснапаэтычнага мастацтва звязаны важныя філасофскія ідэі працягу роду, захавання жыцця на зямлі наогул. У радзінна-хрэсьбінных абрадах і песнях нашых продкаў, што маюць высокі гісторыка-пазнавальны і духоўна-каштоўнасны патэнцыял, знайшлі адлюстраванне асаблівасці сацыяльна-эканамічнага ўкладу жыцця грамадства ў мінулым, паказаны адносіны народа да нараджэння дзіцяці, дастаткова поўна выяўлены ўвесь шырокі спектр чалавечых пачуццяў і ўнутраных перажыванняў, звязаных з гэтай важнай асабістай і сацыяльнай падзеяй.

Зафіксаваныя сумеснымі намаганнямі выкладчыкаў і студэнтаў філалагічнага факультэта УА “ГДУ імя Ф. Скарыны” матэрыялы па

радзінна-хрэсьбіннай абраднасці – не толькі яшчэ адно пераканаўчае сведчанне выключнага багацця фальклору Гомельшчыны ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Беларусі, але і аргументаваны доказ захавання ў ім на дзіва прыгожых і арыгінальных сакральных абрадавых дзеянняў, якімі традыцыйна суправаджаўся прыход новага чалавека ў свет.

Як адзначыла Т.І. Кухаронак, “комплекс традыцыйных радзінных звычаяў і абрадаў ... складаўся з трох цесна звязаных цыклаў: дародавага, родавага і пасляродавага. У першыя два ўваходзілі звычаі, уяўленні, павер’і і абрадавыя дзеянні, накіраваныя на захаванне цяжарнасці і паспяховае завяршэнне родаў. Пасляродавы цыкл, які быў накіраваны на прыняцце нованароджанага ў сямейна-грамадскі калектыў, уключаў у сябе звычаі і абрады імянарачэння дзіцяці, наведвання парадзіхі і нованароджанага, выбару кумоў, абраду далучэння дзіцяці да хатняга ачагу, які папярэднічаў царкоўнаму хрышчэнню, а таксама абраднасці, прысвечанай святкаванню хрэсьбін, ачышчэнню дзіцяці, першаму яго пастрыжэнню, кроку, слову, з’яўленню першага зуба”. Змешчаныя ў кнізе сучасныя запісы матэрыялаў па радзінна-хрэсьбіннай абраднасці даюць падставы сцвярджаць, што ў ёй пераважна захаваліся два цыклы – дародавы і пасляродавы.

Абрады, звычаі і рытуалы, звязаныя з нараджэннем немаўляці, дазваляюць пераканацца ў архаічнасці народных вераванняў, важнай мэтай якіх было засцерагчы маці-парадзіху і дзіця, захаваць іх здароўе ў крытычныя, пераломныя моманты жыцця, а ў будучым забяспечыць дабрабыт, шчасце, душэўны спакой. Дасягненню такіх вынікаў адпавядае разнастайны характар магічных дзеянняў і слоўных формул у радзінна-хрэсьбінных абрадах і паэзіі. І ўсё ж за першачарговую мэту яны мелі якраз ачышчэнне і ахову нованароджанага ад звышнатуральнага ўздзеяння злосных сіл, яго далейшае, не абцяжаранае непатрэбнымі турботамі, уключэнне ў сацыяльна-грамадскае жыццё.

Неабходна заўважыць, што радзінныя абрады і песні розных народаў свету, у тым ліку і славянскіх, маюць шмат агульнага. Калі спаслацца на меркаванне аўтарытэтнага даследчыка рускага фальклору М.І. Краўцова, то гэта можна растлумачыць і тым, “што сам акт нараджэння – акт агульны, агульначалавечы, ды і ў выхаванні дзіцяці нямала агульнага, і тым, што, несумненна, у старажытнасці ў славян існавалі аднолькавыя абрады, якія адлюстроўвалі агульныя для іх земляробчыя ўяўленні пра прыроду, пра чалавека, пра законы жыцця”.

Многія правілы паводзін цяжарных жанчын грунтуюцца на шматвяковым вопыце і абрадавай практыцы нашых продкаў. У аснове сістэмы падобных забарон і засцярог – імкненне прадухіліць непажаданыя для маленькага чалавека фізічныя і маральна-псіхалагічныя траўмы, пазбегнуць у будучым праблем, звязаных з перадачай на генетычным уз-

роўні якасцей, характэрных, скажам, для злодзея, зайздросніка, грубіяна. Самім працэсам таямнічасці нараджэння, інтымным характарам многіх абрадавых дзеянняў былі прадыктаваны агульнапрынятыя ў грамадстве нормы і правілы, звязаныя з маральна-этычным кодэксам. Адсюль пры выкананні радзінна-хрэсьбінных рытуалаў (у адрозненне, напрыклад, ад вясельнай абраднасці) можна назіраць дакладнае захаванне асвечаных спрадвечным ладам патрабаванняў звычаёвага права. Традыцыйныя формы паводзін пры нараджэнні чалавека складваліся на працягу вякоў, яны захавалі ўстойлівасць і нават пэўны кансерватызм, бо ад выканання абрадаў залежалі здароўе і дабрабыт нованароджанага.

Асабліва строгай нязменнасцю і жорсткай рэгламентацыяй характарызуюцца своеасаблівыя паводзіны цяжарнай жанчыны, яе ўзаемаадносіны са сваякамі і знаёмымі. Як слушна зазначае Т.І. Кухаронак, “гэты звод правілаў з’яўляўся складовай часткай сацыяльна-псіхалагічнага механізма, які непасрэдна ўздзейнічаў на цяжарную жанчыну. У час калектыўных работ, у паўсядзённых зносінах адбывалася назіранне за яе паводзінамі, асуджэнне адхіленняў ад агульнапрынятых у дадзенай мясцовасці нормаў і ўяўленняў”.

Калі разглядаць праблему вывучэння радзінна-хрэсьбіннай абраднасці ў нацыянальным маштабе, то паспяхова вырашыць яе можна толькі праз сістэмна-цэласны аналіз матэрыялаў з усіх абласцей рэспублікі, выяўленне агульных і найбольш характэрных для асобных раёнаў заканамернасцей, вылучэнне тыпалагічна роднасных элементаў і спецыфічных адметнасцей. Рэгіянальнае вывучэнне аднаго з відаў сямейнай абраднасці ў дадзеным выпадку прымушае ўлічваць і малазначныя элементы, бо ў сукупнасці ўсе мясцовыя асаблівасці, нават дробязныя, дазваляюць стварыць цэласную карціну яе сённяшняга стану і бытавання, зрабіць адпаведныя абагульненні.

У сувязі з гэтым цалкам лагічнай прадстае абраная структура дадзенага выдання. Адказы на пытанні пра характар агульнапрынятых норм і ўяўленняў, звязаных з радзінамі ў той ці іншай мясцовасці, пра паступовае фарміраванне іх у пэўную сістэму ўстойліва-стэрэатыпных абрадавых дзеянняў і правіл, самабытных міфалагічных вераванняў, што адлюстраваліся ў прымеркаваных да сакральнай дзеі радзінна-хрэсьбінных песнях з іх багатым этналінгвістычным кантэкстам і мастацкімі выяўленчымі магчымасцямі, можна атрымаць, пазнаёміўшыся з артыкуламі першага раздзела кнігі **“Радзінна-хрэсьбінная абраднасць беларусаў: фальклорна-этнаграфічны і этналінгвістычны аспекты даследавання”**. Змест другога раздзела **“Радзінна-хрэсьбінныя абрады і звычаі Гомельшчыны ў сучасных запісах”** складаюць аўтэнтычныя апісанні-ілюстрацыі

абрадаў, звычаяў, рытуалаў, якія запісаны ва ўсіх раёнах Гомельскай вобласці і з'яўляюцца яскравым сведчаннем багацця рэгіянальна-лакальных асаблівасцей на самых розных узроўнях: структурных кампанентаў, прыкмет і павер'яў, песеннага суправаджэння, мастацкіх сродкаў. Гэта яшчэ раз дазваляе пераканацца ў тым, што пры ўсёй сваёй самабытнасці радзінна-хрэсьбінная абраднасць Гомельшчыны – неад'емная частка сямейнай абраднасці беларусаў, якая развіваецца ў агульным этнічным рэчышчы і падпарадкоўваецца прынцыпам развіцця вуснапаэтычнага мастацтва і заканамернасцям функцыянавання соцыуму.

Цуд з'яўлення немаўляці, парады для будучай маці і правілы паводзін для ўсіх членаў сям'і, маральна-этычныя нормы грамадства, народжаныя вопытам і выверaныя часам, спрадвечная мудрасць продкаў і паэзія штодзённага жыцця – усё гэта знаходзіць непасрэдны адбітак у радзінна-хрэсьбіннай абраднасці і песеннай лірыцы беларусаў адпаведнай тэматыкі. У пэўным сэнсе мы можам гаварыць пра іх як пра сапраўдную энцыклапедыю маці і дзіцяці, што ніколі не страціць сваёй актуальнасці і заўсёды будзе прыцягальнай для сучаснікаў і наступных пакаленняў дзякуючы ўвасобленай у ёй ідэі неўміручасці душы народа, спрадвечнага светла-радаснага вітання ім кожнага новага жыцця.

Агульнавядома, што найвышэйшая каштоўнасць сабранага фалькдорнага матэрыялу па кожным з жанраў вызначаецца яго аўтэнтычнасцю, максімальна поўнай перадачай тэкстаў інфарматараў і дакладным адлюстраваннем у іх уплыву дыялектных гаворак, фанетычных, марфалагічных, лексіка-семантычных, сінтаксічных асаблівасцей вуснага маўлення. Якраз ад вытрыманасці гэтых прынцыпаў пры зборы, афармленні і апрацоўцы народна-паэтычных запісаў і адштурхоўваліся аўтары-ўкладальнікі кнігі. Фальклор як від мастацтва, у прыватнасці і радзінна-хрэсьбінны, існуе менавіта на мясцовым узроўні, а вуснасць бытавання забяспечвае магчымасці яго жанраў быць адкрытымі для змен і іх мастацкага ўдасканалення, захавання адметнасцей мясцовых гаворак, што надзвычай важна для разумення свайго гістарычнага лёсу, ведання геаграфіі распаўсюджанасці абрадаў, уліку міжэтнічных уплываў традыцый, а па вялікаму рахунку, – і для спасціжэння характару беларусаў і менталітэту народа.

Хочацца спадзявацца, што дадзенае калектыўнае выданне, падрыхтаванае да друку з пачуццём непрыхаванага захаплення мудрасцю і талентам продкаў і адначасова вялікай і сёння асабліва востра наспелай адказнасцю за справу захавання іх спадчыны для нашчадкаў, абавязкова натхніць аматараў народнай творчасці на больш дэталёвае вывучэнне сучаснага стану радзінна-хрэсьбіннай абраднасці і ў іншых рэгіёнах Беларусі.



# Радзінна-хрэсьбінная абраднасць беларусаў:

## фальклорна-этнаграфічны і этналінгвістычны аспекты даследавання

**Валянціна НОВАК**

# Радзінна-хрэсьбінная абраднасць Гомельшчыны: семантыка дзеянняў і прадметнай атрыбутыкі

Структура радзінна-хрэсьбіннага абраду Гомельшчыны ўключае такія абрадавыя моманты, як прыкметы і павер'і, звязаныя з цяжарнасцю жанчыны, выбарам кума і кумы, падрыхтоўкай бабкай-павітухай абрадавай стравы – кашы, абрадам хрышчэння дзіцяці, хрэсьбінным застоллем, абрадам разбівання гаршка з кашай, дзяльбой кашы, рытуаламі ўшанавання бабкі-павітухі, адорваннем падарункамі бабкі і жанчыны-парадзіхі, выкананне радзінна-хрэсьбінных песень, адрасаваных кумам, бабцы, бацькам нованароджанага.

Што датычыць семантыкі дзеянняў у сістэме радзінна-хрэсьбіннай абраднасці, то варта адзначыць іх разнастайнасць. Як падкрэсліў А.С. Фядосік, "без перабольшвання можна сцвярджаць, што ва ўсіх народаў свету існавалі пэўныя традыцыйныя правілы, забароны і засцярогі паводзін цяжарнай жанчыны, якія павінны былі аблегчыць роды, садзейнічаць здароўю і шчасцю нованароджанага ў будучым. Але ў розных народаў гэтыя правілы і засцярогі былі ў значнай частцы адметныя, часам нават мелі неаднолькавы семантычны сэнс пры падобных дзеяннях" [1, с. 26]. Адзначым, што паводзіны будучай маці атрымалі даволі пэўную рэгламентацыю ў рэгіянальна-лакальных традыцыях Гомельшчыны. Напрыклад, паводле ўспамінаў жыхароў Мазыршчыны, цяжарнай жанчыне забаранялася выконваць наступныя дзеянні: "*Пераступаць вяроўку, провалку, ваабшчэ, каб пятлі не было*" (в. Слабада Мазырскага р-на) [2, с. 152], "*Калі спужалася, то нельзя себя трогаць, а то на тым месцы ў дзіця радзімае пятно будзе*" (в. Бярозаўка Мазырскага р-на) [2, с.152].

Нашы продкі былі перакананы, што нават знешні выгляд дзіцяці залежаў ад выканання тых ці іншых забарон і прадпісанняў. Як адзначылі жыхары Брагінскага раёна, "*нельзя було цяжарнай*

*жанчыне падразаць косы, а то ў дзіцяці косы будуць жыдкія, непрыгожыя*" (запісана ў в. Зарэчча ад Фраловай Кацярыны Дзмітрыеўны, 1913 г.н.). Клопаты аб нараджэнні здаровага дзіцяці былі звязаны з забаронай па вечарах "*прасці, ткаць, вязаць, а то дзіця будзе абмотана пупавінай*" (запісана ў в. Зарэчча Брагінскага раёна ад Фраловай Кацярыны Дзмітрыеўны, 1913 г.н.); "*Цяжарнай нельзя пераступаць праз вяроўку. Нельзя праходзіць паміж двумя стаўбамі. Нельзя што-небудзь вязаць ці прасці ў празнік ці ў пост*" (запісана ў г. Гомель ад Злыдзенка Любові Мікітаўны, 1928 г.н., ураджэнкі п. Новы Шлях Брагінскага раёна). У аснове прыведзеных засцярог і забабонаў можна ўбачыць праявы гомеапатычнай і кантагіёзнай магіі, якая "грунтуецца на ўяўным звышнатуральным уздзеянні пэўных рэчаў, прадметаў, людзей адзін на аднаго, калі яны сутыкаліся і былі раз'яднаны" [1, с.27]. Цяжарная жанчына з мэтай засцярогі ад звышнатуральнага ўздзеяння выкарыстоўвала чырвоную шарсцяную нітку, якую прынята было насіць, як адзначыла Настасся Паўлаўна Юрчак, 1925 г.н., з в. Валосавічы Акцябрскага раёна, "*на руцэ ці на шыі*". Паводле яе сведчанняў, "*аберагаліся іголкамі, шпількамі, вугальчыкамі, засушанымі кавалачкамі вясельнага каравая, велікоднай соллю, галінкамі рабіны*". Сярод іншых засцярог, пры дапамозе якіх імкнуліся забяспечыць здароўе дзіцяці, а таксама прадухіліць шматлікія негатыўныя моманты ў яго будучым жыцці, можна вылучыць наступныя: забаранялася хадзіць цяжарнай жанчыне на пахаванне, бо лічылі, што "*дзіцяці будзе шмат хварэць*", станавіцца ў той след, што быў "*астаўлены ад мокрага вядра ў час, калі прыбіралі ў хаце, бо дзіця будзе ўвесь у лішаю і ня будзе доўга жыці*" (запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна ад Шыгалёвай Аляксандры Канстанцінаўны, 1935 г.н.).

Важным момантам у сістэме радзінна-хрэсьбіннай абраднасці адводзілася выбару кумоў. У сувязі з гэтым была выпрацавана ў розных лакальных традыцыях Гомельшчыны адпаведная рэгламентацыя, згодна з якой як да выбару кума, так і кумы прад'яўляліся пэўныя патрабаванні. Напрыклад, у в. Старая Дуброва Акцябрскага раёна кумоў выбіралі, каб "*былі малодшыя*

*за бацькоў, тады дзеці не будуць доўга заседжваца ў халасцяках: дзеўкі будуць замуж ісці, а хлопцы жаніцца"* (запісана ад Краўчанка Таццяны Міхайлаўны, 1948 г.н.). У якасці кумоў у в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна выбіралі толькі жанатых людзей, але *"не ў коім разе муж і жонка – гэта забаранялася, бо пасля гэтых хрэсьбін яны пачыналі жыць вельмі дрэнна"* (запісана ад Шыгалёвай Аляксандры Канстанцінаўны, 1935 г.н.). Паколькі традыцыя кумаўства ў народных уяўленнях мела высокі аўтарытэт, то і рытуалу выбару кумоў надавалася вялікае значэнне. Звычайна гэту высокую місію выконваў бацька, які павінен прыйсці абавязкова з хлебам і гарэлкай, пры гэтым ён прагаворваў сваё запрашэнне (быць кумам) у становішчы *"стоячы, каб дзіцё хутка навучылася хадзіць"* (запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага раёна ад Васілеўскай Марыі Андрэеўны, 1930 г.н.). Тым, каго запрашалі ў кумы, зыходзячы з народных вераванняў, адмаўляцца нельга было: *"Адказвацца, калі цябе звалі быць кумам, была нельзя"* (запісана ў в. Залатый Рог Веткаўскага раёна ад Лук'яненка Вольгі Цімафееўны, 1935 г.н.). Як пацвердзілі жыхары в. Старое Сяло Веткаўскага раёна, хросных бацькоў выбіралі з ліку блізкіх або далёкіх родзічаў, бо яны *"далжны аб дзіцёнку забоціцца, калі што з роднымі бацькамі здарыцца"* (запісана ад Мацюковай Ніны Данілаўны, 1930 г.н.).

Акрамя кумоў, ганаровай асобай радзінна-хрэсьбінных святкаванняў з'яўлялася бабка-павітуха, якая рыхтавала абрадавую страву – кашу, гаршчок з якой разбівалі падчас застолля. Звычай "бабіна каша" – важны момант радзінна-хрэсьбіннай абраднасці: *"Крута звараную кашу зверху ўпрыгожвалі кветкамі або цукеркамі. Падавалі яе ў канцы застолля"* (запісана ў в. Валосавічы Акцябрскага раёна ад Юрчак Настассі Паўлаўны, 1925 г.н.). "У некаторых месцах (на Палессі) раней кашу прыносіла і хросная маці, але "білі" гаршчок толькі з "бабінай кашай" (часцей за ўсё крута зваранай прасяной). Абрад сімвалізаваў надзею на дабрабыт, здароўе парадзіхі і нованароджанага і даваў магчымасць падмацаваць іх матэрыяльна: сабраць грошы і іншыя падарункі для сям'і і бабкі" [1, с.33].

Семантыка дзеянняў бабкі-павітухі падчас хрэсьбінных святкаванняў вылучалася сакральнасцю. Адной з галоўных функцый бабкі-павітухі з'яўлялася купанне дзіцяці, што вымагала высокай адказнасці, і без вопыту спрактыкаванай жанчыны абысціся было нельга. Як правіла, "*дзіцёнка мыюць у настоі розных духмяных траў. У тую ваду кідаюць шчэ сярэбраную манету і жытнёвыя зярняткі, каб жа яно было багатае і шчаслівае. Калі купаюць дзяўчынку, дык жа ўліваюць у воду малака, а гэта ж каб яна была прыгожая*" (запісана ў в. Лубянікі Брагінскага раёна ад Гайдук Ганны Севасцьянаўны, 1922 г.н.). Баба-"пупарэзніца", як называлі яе ў в. Гаць Акцябрскага раёна, выконвала шэраг магічных рытуалаў засцерагальнага характару, звязаных з падрыхтоўкай дзіцяці да хрышчэння: "*Перад тым як везці дзіця ў царкву, баба-пупарэзніца абавязкова купала дзіця. Ваду набірала ў калодзежы, грэла яе ў печы, налівала ў драўлянае карыта, кідала ў ваду сухую траву (чыстацел), каб было ў дзіцяці чыстае цела, дубовую кару, каб былі моцныя зубкі*" (запісана ад Кулак Евы Іванаўны, 1923 г.н.). Многія дзеянні, якія выконвала бабка-павітуха падчас купання дзіцяці, грунтаваліся на прынцыпах імітатыўнай магіі. Устойлівай была традыцыя дыферэнцыраваных адносін да ажыццяўлення рытуалу купання хлопчыка і дзяўчынкі: "*Купала першы раз тожа бабка-павітуха. Калі нараджалася дзевачка, то купала яе бабка ў святых красках і ґаварыла: "Каб і мая ўнучка была такая красівая і шчаслівая, як етыя краскі". А калі нараджаўся хлопчык, то клалі ў начоўкі тапор і гвоздзі, каб хлопчык быў масцеравым*" (запісана ў в. Міхалёўка Буда-Кашалёўскага раёна ад Данюк Варвары, 1932 г.н., перасяленкі з в. Пучын Брагінскага раёна). Менавіта з першым рытуальным купаннем дзіцяці звязвалі надзеі на яго фізічную прыгажосць, здароўе, шчаслівую долю: "*На дзевяты дзень – першае рытуальнае купанне дзіцяці. У ночвы кладуць соль і лекавыя травы, сярэбраную манету, каб дзіця было чыстае, здаровае і багатае. Каб дзіця было багатае і ў пары, кідалі калечка. Дзевачку першы раз мылі ў малаке, тады яна будзе белая, красівая. Хлопчыка купалі ў піве – будзе, калі маладым, красівы*" (запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна ад Татарынавай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.).

Амаль ва ўсіх раёнах Гомельскай вобласці падчас святкавання хрэсьбін кум або той чалавек, які пакладзе больш грошай, выкупляў гаршчок з кашай. Акрамя кашы, бабка-павітуха рыхтавала і "бабін боршч", падаючы які на стол, прыгаворвала: "*Ешце, госці дарагія, цэлую ноч не спала, па балоту брадзіла, буслоў лавіла, каб боршч быў вельмі смачны і ўнук шчаслівы*" (запісана ў в. Чамярысы Брагінскага раёна ад Кудранок Анастасіі Рыгораўны, 1927 г.н.). Сапраўдную "бабіну кашу" прыносілі толькі за трэцім разам, а перад гэтым мелі месца дзеянні з "падманнай" кашай: "*Потым падаюць кашу. Ловяць ката ці пеўня і саджаюць у чыгун, накрываюць ручніком і пытаюцца ў бабы, ці яе гэта каша. Баба адказвала, што гэта не яе каша. Кату ці пеўню абавязкова даюць з ложкі гарэлку, для таго каб хрэснік быў здаровы і шчаслівы. После гэтага падаюць сапраўдную кашу. Верх кашы баба ўпрыгожвае кветкамі, кладзе грошы і абавязкова ўтыркае карандаш, прыгаворваючы: "Вучыся добра, жыві багата і каб квітнеючае была ў цябе жыццё*" (запісана ў в. Чамярысы Брагінскага раёна ад Кудранок Анастасіі Рыгораўны, 1927 г.н.). "На хрэсьбінах абавязкова білі бабіну кашу. Гэты абрад не толькі сімвалізаваў дабрабыт, здароўе сям'і і нованароджанага, але і даваў магчымасць сабраць сродкі для парадзіхі і дзіцяці. Абрад захаваўся да нашых дзён, але выконваецца па-рознаму: у адных месцах бабіну кашу б'е хросны бацька, у другіх – той, хто больш пакладзе "на кашу"грошай, у трэціх – хто апошні пакладзе грошы, незалежна ад сумы" [3, с.24].

Рытуал разбівання гаршка з кашай – кульмінацыйны момант радзінна-хрэсьбіннай абраднасці. Магічнае значэнне надавалася "разбітым чарапкам" ад гаршка. Семантыку дзеянняў, звязаных з імі, хоць і тлумачылі мясцовыя жыхары па-рознаму, аднак амаль ва ўсіх мясцовасцях "зводзілі" да прадуцыравальнай магіі. З магіяй дзетанараджэння быў звязаны звычай у в. Пучын Брагінскага раёна класці "*на галаву таму мужыку, у каго няма сыноў, дно з гаршка*" (запісана ад Данюк Варвары, 1932 г.н.). У в. Кіцін Жлобінскага раёна "*дно гаршка клалі на галаву куме, а чарапкі – іншым жанчынам. Прыгаворвалі, каб нарадзіла ці сына, ці дочку*"

(запісана ад Ткачовай Аляксандры). У в. Перадавец Веткаўскага раёна *"бабы бяруць чарапкі з разбітага гаршка і водзяць імі па галаве мужыка і кажуць: "Сколькі на галаве валаскоў, столькі хай будзя раткоў"* (запісана ад Суглоб Марыі Іванаўны, 1932 г.н.). У в. Лозаў Буда-Кашалёўскага раёна "*чарапкі звязваюць у платок, а потым рэшткі кашы аддавалі свінням, каб свінні вяліся*" (запісана ад Авяр'янавай Марыі Восіпаўны, 1937 г.н.). У в. Расвет Акцябрскага раёна некалькі чарапкоў ад разбітага гаршка аддавалі незамужнім дзяўчатам, тыя, што засталіся, бабка-павітуха збірала і кідала ў кут, прыгаворваючы: "*Кідаю на кут, каб на будушчы год зноў быць тут*" (запісана ад Расюк Марыі Дзянісаўны, 1945 г.н.). Дакладны адказ на пытанне, з якой мэтай клалі чарапкі на галаву незамужняй дзяўчыне, далі жыхары в. Лубянікі Брагінскага раёна: "*Тады той, хто сядзіць бліжэй за ўсіх ля кашы, хватае чарапкі і кладзе або б'е аб голавы сваіх суседзяў. Часцей за ўсё гэтыя чарапкі клалі на голавы маладым дзеўкам, каб быстрэй нарадзілі дзіця*" (запісана ад Касцючэнка Вольгі Васільеўны, 1930 г.н.). Утылітарна-практычную скіраванасць мелі адпаведныя дзеянні з чарапкамі ад гаршка ("варэйкі") і ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага раёна, калі "*кусочкі гаршка-варэйкі лажылі на голавы тым, у каго дзяцей німа, і тады яшчэ парасятам у хлеў кідалі, каб здаровыя раслі*" (запісана ад Здольнікавай Таццяны Піліпаўны, 1927 г.н.). У в. Рычоў Жыткавіцкага раёна кум, разбіваючы гаршчок з кашай, прыгаворваў: "*Дзе чарапкі б'юцца, там дзеці вядуцца*" (запісана ад Рыдзецкай Г.М.).

Адметную семантыку мелі дзеянні з чарапкамі падчас выканання абраду разбівання гаршка ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага раёна, дзе "*чарапкі збіралі і потым выкідалі, каб хвароб у дзіцёнка не было*" (запісана ад Васілеўскай Марыі Андрэеўны, 1930 г.н.). У в. Глазаўка Буда-Кашалёўскага раёна кашай абавязкова павінны былі пачаставаць дзяцей, асабліва дзяўчат, каб "*быстра выходзілі замуж*" (запісана ад Цыркуновай Марыі Апанасаўны, 1940 г.н.). З магіяй забеспячэння дабрабыту былі звязаны дзеянні з чарапкамі падчас абраду разбівання гаршка з кашай у в. Колбаўка Веткаўскага раёна, калі "*чарапкі паразбіраюць бабы, каб у хатах усё вялося*"

(запісана ад Кавалёвай Ефрасінні Паўлаўны, 1930 г.н.). Жыхары в. Гарысты Веткаўскага раёна з хрэсьбіннай кашай звязвалі надзеі захаваць здаровыя зубы: “*На трэці раз кум разбіваў гаршок так, каб каша была цэлай. Яе рэзалі і давалі ўсім гасцям. Калі яе елі, то стараліся, каб каша папала на ўсе зубы. Казалі, калі кашы на хрэсьбінах паесць, то зубы цэлы год балець не будуць*” (запісана ад Якубовіч Марыі Іванаўны, 1936 г.н.).

Хрэсьбіннае застолле ў розных мясцінах Гомельшчыны, як правіла, заканчвалася старадаўнім звычаем “адвозіць бабку-павітуху” або куму. Адзначым факт шырокага распаўсюджання дадзенай з’явы, звязанай асабліва з ушанаваннем бабкі-павітухі, на тэрыторыі Гомельшчыны, а таксама багацце яе рэгіянальна-лакальнай спецыфікі. У в. Дуброва Акцябрскага раёна, “*калі госці добра развесяліліся, нажартаваліся, прыпаміналі даўні звычай адвозіць бабу дадому. Бабу садзілі на санкі, на барану зуб’ем угору. Сцялілі кажух. А калі жартаўнікі, маглі і ў карыце зацегці*” (запісана ад Краўчанка Таццяны Міхайлаўны, 1948 г.н.). Рытуальныя дзеянні, звязаныя з адвозам бабкі-павітухі ў магазін, вылучаюцца разнастайнасцю, жартамі і гумарам.

Адметнай з’явай радзінна-хрэсьбіннай абраднасці ў в. Буркі Брагінскага раёна з’яўляўся звычай “вадзіць хвост”: “*А баба брала тарэлку і карміла ўсіх гасцей кашай, а тыя плацілі грошы. Таксама баба гатавала боршч. Пасля вадзілі “хвост”. Баба, кум і кума ішлі дадому да бабы, а за імі ўсе астатнія, і працягвалі гулянне*” (запісана ад Раманюк Марыі Адамаўны, 1930 г.н.). Аналагічная з’ява ў в. Дуброўнае Брагінскага раёна мела назву “вазіць на хвост”: “*А на другі дзень трэба ж бабу на барану пасадзіць да везці да яе дому. А як жа: “Ты, баба, баба, глядзі, а на хвост павязем”. Бяруць барану, перакульваюць тымі зубамі ўніз, а бабу на барану садзяць, падсцілаюць ей, штоб мякка було, і вязуць тую бабу на баране мужыкі, бабы ідуць іззаду, спяваюць: “Ой, ты, баба, баба! //Да не жалей ты нам на хвасту, // Да ўгасці ты нас дабрэнна, // Да пабачым, як ты, баба, жывеш, // Якія ў хаце песні пяеш”.*

Прыведзеныя матэрыялы па радзінна-хрэсьбіннай абраднасці дазваляюць зрабіць высновы аб багацці вар'іравання семантыкі рытуальных дзеянняў і прадметнай атрыбутыкі ў розных лакальных традыцыях Гомельшчыны.

Літаратура


1. Сямейна-абрадавая паэзія. Народны тэатр / А.С. Фядосік, А.С. Емяльянаў, У.М. Сысоў, М.А. Каладзінскі; Навук. рэд. К.П. Кабашнікаў. – Мн.: Бел. навука, 2001. – 422 с.

2. Мазыр. 850 год: У 3 т. Т. 3. Спрадвечнай мудрасці скарбонка: сучасны стан традыцыйнай культуры г. Мазыра / Укладанне, сістэматызацыя, тэксталагічная праца, уступныя артыкулы, рэдагаванне В.С. Новак, Л.В. Мельнікавай, С.А. Вяргеенка, А.А. Кастрыцы, А.В. Кучаравай і інш. Гомель: КВПУП "Сож", 2005. – 296 с.

3. Фядосік, А.С. Беларуская сямейна-абрадавая паэзія / А.С. Фядосік / Навук. рэд. А.С. Ліс.– Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. – 126 с.


Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Валянціна НОВАК**

# Элементы сатыры ў радзінна-хрэсьбіннай абраднасці і паэзіі беларусаў

У комплексе традыцыйнай радзінна-хрэсьбіннай абраднасці вылучаюцца тры цыклы, першыя два з якіх звязаны з уяўленнямі і дзеяннямі, скіраванымі на захаванне цяжарнасці і паспяховае завяршэнне родаў жанчыны, а апошні цыкл складаецца з абрадаў і звычаяў, што сімвалізавалі ідэю прыняцця нованароджанага ў сям'ю і грамаду. Назавем асноўныя структурныя кампаненты радзінна-хрэсьбіннай абраднасці як пэўнай сістэмы: міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з цяжарнасцю жанчыны і нараджэннем дзіцяці; адведкі (наведванне жанчыны-парадзіхі і яе дзіцяці); запрашэнне бабкі і кумоў; царкоўны абрад хрышчэння (язычніцкі абрад абмывання дзіцяці вадой); хрэсьбіннае застолле; адорванне маці-парадзіхай бабкі і кумоў; абрад разбівання гаршка з кашай; цырымонія падзелу бабінай кашы; абрад адвозіць бабку-павітуху дадому; частаванне апошняй удзельнікаў хрэсьбін; выкананне радзінна-хрэсьбінных песень. Як слушна адзначыла Т.І. Кухаронак, "прайшоўшы доўгі і складаны шлях узнікнення, фарміравання, развіцця, трансфармацыі, маючы беспамылковы механізм адбору і захавання найбольш каштоўнага з усяго таго, што стыхійна стваралі народныя філасофія, мастацтва, этыка, медыцына, традыцыйная радзінная абраднасць Беларусі ў сучасны перыяд уяўляе даволі складаную і стройную сістэму..." [1, с.191].

Сатырай і гумарам у найбольшай ступені насычаны абрадавыя этапы хрэсьбіннага застолля, на якім меў месца абрад разбівання гаршка з кашай, а таксама выконваліся песні, адрасаваныя бабцы і кумам. Як адзначыў А.С. Фядосік, "у рускім і ўкраінскім фальклоры хрэсьбінная паэзія амаль поўнасцю знікла, а ў беларускага народа захавалася і дае магчымасць уявіць сутнасць старажытнай хрэсьбіннай паэзіі ўсходнеславянскіх народаў. Пры гэтым трэба ўлічваць, што яна не магла не змяняцца, не трансфар-

мавацца, на пэўных этапах развівацца. Сатыра і гумар з цягам часу набывалі ў ёй большае значэнне" [2, с.45].

Варта адзначыць, што функцыянальнасць радзінна-хрэсьбінных рытуалаў і абрадаў была абавязкова звязана з імкненнем засцерагчы жанчыну-парадзіху і дзіця ад розных шкодных уздзеянняў, забяспечыць ім шчасце і долю. Такую ахоўную функцыю выконвалі гумар і смех: "На хрэсьбінах спявалі асабліва многа гумарыстычных песень, якія разам з жартоўнымі прыгаворкамі, прыпеўкамі, тостамі-зычэннямі стваралі вясёлую атмасферу застольнай урачыстасці. Смех у іх адыгрываў магічную ролю: ён імітаваў шчаслівую вясёлую будучыню нованароджанаму і сям'і" [3, с.145].

Звернемся спачатку да этнаграфічных звестак пра радзіннахрэсьбінныя абрады і звычаі, каб пераканацца, што сатыра і гумар – гэта зусім не антонімы, а паняцці, якія ўзаемазвязаны і ўзаемадзейнічаюць. Напрыклад, абрад падрыхтоўкі бабкай-павітухай кашы ў в. Вараніно Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці адбываўся ў тэатралізаванай камічнай гульнёва-драматычнай форме. Акрамя галоўнага персанажа – бабкі, выбіралі з ліку гасцей "рослых мужыкоў (міліцыю)", удзельнічалі ў гэтым дзействе дзед, кум і іншыя. Такія сімвалічныя дзеянні, як найманне бабкай "міліцыі" для аховы кашы, спробы ўкрасці гаршчок з кашай, сцэны, дзе спачатку падносілі падманную кашу (гаршчок з буракамі, бульбай, катом), а затым "адзін з мужыкоў (міліцыянераў)" – самы дужы, уносіў бабу разам з кашай да стала" [3, с.145], жартаўлівыя дыялогі гасцей з кумам, калі апошняга падбухторваюць пакласці больш грошай на кашу, падскокі бабкі-павітухі (з наміткай на галаве) і выказваемыя ёю пажаданні ў адрас нованароджанага, "арышт" той жанчыны, што "была ўкрала раней кашу", прасякнуты гумарам і парадыйна-іранічнай сатырай: "Баба варыла пшонную кашу ў гліняным гаршку, прыносіла ў хату да парадзіхі і хавала дзе-небудзь у каморы. Пасля баба наймала двух ці трох рослых мужыкоў ("міліцыю") сцерагчы сваю кашу. Яны бралі качаргу і ішлі ахоўваць кашу. Астатнія госці "чудзілі", спрабавалі кашу ўкрасці, тры разы ўносілі і ставілі на стол не сапраўдную кашу, а гаршчок з бульбай ці буракамі" [3, с.145].

Магічнае значэнне надавалі абраду разбівання бабінай кашы. Паводле народных уяўленняў, чарапкі з кашай павінны былі садзейнічаць увогуле нараджэнню дзіцяці, асабліва ў той сям'і, дзе іх доўга не было. З гэтай мэтай і клалі іх *"на галаву маладым"* (запісана ў г. Мазыр ад Барысенкі Фёдара Іванавіча, 1927 г.н.), *"чарапкі ад гаршка кладуць на галаву маладым мужчынам, каб у каждага булі дзеці. Раз яму кладуць чарапок, значыць, абязацельна перадаецца эстафета яму, і не будзе ён бяздзетны, а абязацельна радзяцца дзеці"* (запісана ў г. Мазыр ад Кадол Алены Паўлаўны, 1930 г.н.).

Калі прыведзеныя прыклады дэманструюць філасафічнасць і сур'ёзнасць народных вераванняў, звязаных з прадуцыравальнай магіяй бабінай кашы, то іншы раз дасціпным народным гумарам вызначаліся наступныя дзеянні: *"Бывала так шуцілі: калі дзе блізка мужык які сядзіць, дак яму чарапок еты на галаву – плясь, а ён ужэ начынае: "Яшчэ не хватала мне дзяцей раджаць"* (запісана ў г. Мазыр ад Сузько Зінаіды Ісакаўны, 1930 г.н.).

Камічны эфект стваралі нечаканыя дзеянні з чарапкамі ад разбітага гаршка, калі іх імкнуліся, як адзначалі самі інфарматары, пакласці *"старому якому для смеха"* (запісана ў г. Мазыр ад Шынкарэнка Антаніны Юр'еўны, 1925 г.н.).

Прыведзеныя камедыйныя сітуацыі, пабудаваныя па прынцыпу сэнсавага кантрасту (маладыя жанчыны і мужчыны – і стары чалавек), маюць імправізаваны характар і даказваюць, наколькі моцнай была вера ў звышнатуральную сілу смеху, з абавязковасцю якога на хрэсьбінах звязвалі ўплыў на забеспячэнне здароўя і добрай долі нованароджанаму.

Гумарыстычныя сцэны, якімі суправаджаўся абрад падзелу бабінай кашы, вылучаюцца не толькі адлюстраванымі ў іх каштоўнаснымі маральна-этычнымі традыцыямі, але і багатай мясцовай спецыфікай, аб чым сведчыць шырокая геаграфія іх запісу. Нельга не пагадзіцца з думкай Т.І. Кухаронак, што менавіта ў гэтых сцэнах "праглядваюцца карнавальныя рысы народнасмехавай культуры (пераапрананне). Зафіксаваны намі ў Мінскай вобласці (Цэнтральная Беларусь) звычай прыходзіць на

хрэсьбіны "буслу" (чалавек у вывернутым кажусе, зверху звязаныя рукавы нагадвалі дзюбу птушкі), які віншаваў бацькоў з нараджэннем дзіцяці і абяцаў насіць ім дзяцей штогод, мае глыбокі сэнс... рызыкнём выказаць меркаванне аб існаванні ў старажытнасці ў беларусаў уяўленняў аб татэме, якім, верагодна, лічыўся бусел" [3, с.19].

Застольная бяседа на хрэсьбінах, як правіла, заканчвалася камічнай сцэнай адвозу бабкі ў карчму. Даследчыца Т.І. Кухаронак заўважае, што абрад пад назвай "цягаць бабу на баране" быў асабліва распаўсюджаным у паўночна-ўсходніх, цэнтральных і паўднёва-ўсходніх раёнах Беларусі" і сутнасць яго заключалася ў наступным: "госці выходзілі на двор, рыхтавалі санкі, калёсы, на якія клалі барану, засланую кажухом, садзілі бабу і вазілі яе па вуліцы. У больш раннія часы ў абрадзе выкарыстоўвалася толькі адна барана, пакрытая кажухом" [4, с.200].

Прыведзеныя звесткі пра абрад, звязаны з адвозам бабкі, пацвярджаюць факт яго багатага вар'іравання ў розных рэгіянальна-лакальных традыцыях беларусаў.

Аповеды інфарматараў пра гэты абрад надзвычай важныя, бо ўяўляюць своеасаблівы гіпертэкст, які ўтрымлівае багатую смехавую палітру – насмешку і жарты, іронію, дабрадушны гумар і сатырычныя элементы.

Як падкрэсліў Ю. Бораў, "смех заўсёды ўключае ў сябе адмаўленне і сцвярджэнне. Немагчыма смяяцца, не адмаўляючы таго, што супярэчыць ідэалам мастака, і не сцвярджаючы таго, што адпавядае ім. Правільная мера смеху – гэта дакладна знойдзеныя сіла і суадносіны адмаўлення і сцвярджэння ў смеху, гэта поўная адпаведнасць адцення смеху прадмету высмейвання..." [5, с.174].

Прывядзем асобныя фрагменты, звязаныя з абрадам "*адвозіць бабку ў карчму*", прадстаўленыя ў розных рэгіянальных традыцыях беларусаў: "*Назаўтра збяруцца бабу цягаць на калясках, зімой на санках. Надзенуць ёй капялюш, пер'я ўставяць, па вуліцы ідуць, крык, смех, качалкай у вядро стукаюць*" (запісана ў в. Вялікая Быхаўшчына Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці);

*“У канцы хрэсьбін бабку цягалі на баране, а часта яшчэ і кумоў. Бабу ўпрыгожвалі пер’ямі, каснікамі, кветкамі, твар мазалі сажай, чырвонай фарбай, бураком націралі. Бабу цягнулі па вуліцы, усе госці крычалі, галёкалі, білі палкамі ў пустыя вёдры. Затым увальваліся ў магазін, бабка купляла гарэлку і аддавала гасцям”* (запісана ў в. Варатынь Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці); *“На другі дзень раніцай збіраюцца госці, п’юць і закусваюць. Затым усе госці робяць “складку” на гарэлку. Далей бяруць павівальную бабку, прыбіраюць яе улетку кветкамі, узімку лентамі і стужкамі. Потым бяруць перакуленую ўверх зубамі барану (улетку) ці сані (узімку), садзяць бабку на барану ці сані і вязуць яе на сабе ў бліжэйшую карчму”* (запісана ў Віцебскай вобласці).

Камедыйнасць прыведзеных сітуацый, звязаных з бабкай як адным з галоўных персанажаў радзінна-хрэсьбіннай абраднасці, абумоўлена верай у магічную сілу смеху, якому надавалася ў дадзеным выпадку прадуцыравальнае значэнне, функцыя забеспячэння здароўя і шчаслівага жыцця нованароджанага. Невыпадкова працэс “цягання бараны” ад хаты да брамы і зноў да хаты суправаджаўся славеснымі прыгаворамі магічнай скіраванасці: *“пры гэтым прыгаворвалі разнастайныя добрыя пажаданні для нованароджанага: “каб шчасце было”, “каб здаровы быў, жаніўся”, “каб ціхі быў, спагадлівы”* і г.д. [3, с.174].

У розных рэгіёнах Беларусі звычай адвозіць бабку-павітуху атрымаў мясцовыя асаблівасці. Напрыклад, іншы раз выконваўся гэты абрадавы момант у некаторых мясцовасцях Мінскай вобласці на другі дзень хрэсьбінных святкаванняў: *“На другі дзень застолле павінна зрабіць павівальная бабка. Калі яна адмаўляецца весці гасцей у сваю хату – яе садзяць у ночвы або на барану і возяць са смехам па двары. Бабка можа наладжваць гасціны і ў доме парадзіхі. У гэты ж дзень была звычка хадзіць у госці да кума і кумы”* [6, с.139].

Абрад адвозін бабкі суправаджаўся песнямі-ілюстрацыямі. У некаторых тэкстах можна назіраць спалучэнне матываў, звязаных як з адвозам бабкі-павітухі, так і кумы:

*“Запражыця, запражыця*
*Да дзвенаццаць валоў.*
*Атвязіце, атвязіце*
*Да бабульку дамоў.*
*Наша бабулька, наша рабулька*
*Да паязды любіць.*
*Завязіця ў карчомачку*
*Кварту гарэлкі купіць.*
*Запражыця, запражыця*
*Да дзвенаццаць валоў.*
*Атвязіця, атвязіця*
*Нашу кумку дамоў.*
*Наша кумка, наша галубка*
*Да паязды любіць.*
*Завязіця ў карчомачку*
*Кварту гарэлкі купіць.*
*Запражыця, запражыця*
*Да дзвенаццаць валоў.*
*Атвязіця, атвязіця*
*Да кумочка дамоў.*
*Наш кумочак, наш галубочак*
*Да паязды любіць.*
*Завязіця ў карчомачку*
*Кварту гарэлкі купіць”* [6, с.145].

Заўважым, што ў в. Малыя Нямкі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, калі ўжо заканчваліся святкаванні, то “*хроснага і хроснаю садзілі на паясы, тачанку і вязлі іх к ім дамой. Там выпівалі і ехалі зноў прадаўжаць гулянне*” [7, с.298].

Песенны рэпертуар хрэсьбін складалі не толькі хрэсьбінныя песні, але і прыпеўкі, прыгаворы бабкі, кумоў, застольна-бяседныя тосты і інш. Што датычыць непасрэдна песень, то яны падзяляюцца на велічальныя, рытуальна-заклінальныя, бяседныя і гумарыстычныя. Дзякуючы апошнім, на хрэсьбінах панавалі смех і весялосць, самыя ганаровыя госці ўрачыстых святкаванняў

(бабка і кумы) не толькі велічаліся, але і з'яўляліся ў сатырычна-гумарыстычных песнях аб'ектамі насмешак. Як слушна адзначыў А.С. Фядосік, "хрэсьбінныя жартоўныя песні, прысвечаныя галоўным удзельнікам падзеі – нараджэння і хрышчэння дзіцяці, рэзка не адмяжоўваліся ад велічальных і заклінальных, многія з іх мелі пераходны характар" [2, с.49].

У песнях, адрасаваных бабцы, выяўляюцца розныя адценні смеху, найперш, незласлівага і пацяшальнага, нават спагадлівага. Характэрная для велічальных песень ідэальнасць вобраза бабкі-павітухі развенчваецца ў жартоўных хрэсьбінных песнях. Пра бабку-павітуху гаворыцца, што яна *"дай гультаечка"* [2, с.349]; *"Упілася бабка, упілася, // Пад столікам звілася, звілася"* [2, с.352]; *"Наша бабка падпіла, // Падпіла, падпіла, // Пад прыпечкам спаць легла"* [2, с.359].

У камічна-іранічным плане прадстаўлена ў песенных варыянтах сцэнка адвозу бабкі ў магазін ("кабак"): *"Запрагу я, запрагу я // Да дванаццаць сабак, // Павязу ж я, павязу ж я // Да й бабусю ў кабак"* [2, с.368].

Сатырай і гумарам былі насычаны і хрэсьбінныя песні, адрасаваныя кумам. "Хрэсьбінныя жартоўныя песні нібы развейвалі ідэальнасць абмаляваных вобразаў удзельнікаў урачыстага застолля ў велічальных песнях і высмейвалі іх заганы: бабка не хваравіта, а "варавіта", – "як жыта жаць, дык ляжыць, як ісці ў бабкі, бяжыць", кумок – "як сена касіць, дык ляжыць, як ісці куміць, бяжыць". Аналагічна абмалёўваецца і кума. Па сутнасці адна і тая ж жартоўная песня спявалася і пра бабку, і пра куму, і пра кума, змяняліся толькі назвы галоўных персанажаў. Паводзіны кума і кумы часам не толькі камічныя, але і недарэчныя" [2, с.45-46].

Для параўнання, у в. Белявіны на Беласточчыне (Польшча) быў вядомы звычай вазіць на баране пасля таго, як адбудзецца абрад хрышчэння, кумоў, у якасці якіх былі запрошаны маладыя людзі: *"Паложаць барану на воз, пасадзяць кума і куму і вязуць у ваду. Ведама, не ганарова будзе злезці з воза, і таму кум выкупляецца, чым можа, каб назад прывезлі"* [3, с.197].

У шматлікіх песнях эратычнага характару кум і кума, іх узаемаадносіны становяцца аб'ектам высмейвання, аднак смех у гэтых творах мае амбівалентны характар, адначасова адмаўляе пэўныя заганы і сцвярджае станоўчае. Можна меркаваць, што і эратычныя паводзіны кумоў, і лёгкі дасціпны смех, што мелі месца на хрэсьбінах, былі закліканы спрыяць у будучым дзіцяці, садзейнічаць захаванню здароўя і шчаслівага жыцця. Адсюль невыпадковасць у песенных тэкстах парадыйных сексуальных сцэн, эпізодаў, у якіх гаворыцца пра інтымныя ўзаемаадносіны паміж кумамі:

***

*Кум да кумы прыхадзіў,*
*Падарачкі прынасіў.*
*– Кумачка ты мая,*
*Галубачка ты мая.*
*Кума кума прыняла,*
*Кума з кумам спаць лягла.*
*– Кума, кумачка ты мая,*
*Шызая галубачка ты мая* [3, с.382].

***

*Кум не п'ець, кум не п'ець,*
*Кума не хочыць.*
*У кумы ў прарэсе, у кумы ў прарэсе*
*Блых шчакоціць.*
*– Кумочак-браточак, кумочак-браточак,*
*Не бойся грэху.*
*Выгані ў кумы, выгані ў кумы*
*Блыху з прарэху* [3, с.382].

Рытуальны характар смеху ў хрэсьбінных абрадах і песнях звязвалі з вясёлым і бесклапотным жыццём нованароджанага ў будучым. Формамі камічнага смеху напоўнены шматлікія жартоўныя эратычныя песні, адрасаваныя кумам, пра невыпадковасць сустрэчы якіх трапна гаворыцца ў песні *"А кум ідзець па вуліцы": "Зышліся, зляцеліся, // Як шэрыя гусі"* [3, с. 382]. Іранічна, з лёгкай усмешкай паказваюцца заляцанні да кумы кума, які

“*чорныя сцежкі павыбіваў і жаўровыя боты патаптаў*”, просячыся пераначаваць, “*упіўся і на крэселку шапачку забыўся*” [3, с.375].

Калі ў жартоўных песнях грахоўныя паводзіны кумоў абмалёўваюцца камічна, але з лёгкімі “мяккасцю”, спагадай, насмешлівасцю, не асуджаючы распусных інтымных сувязей самых ганаровых персанажаў, то зусім па-іншаму гучыць народны смех у застольна-бяседных хрэсьбінных песнях. Ён набывае адценні вострай сатырычнай з’едлівасці, выкрываючы такую загану, як п’янства. У сувязі з гэтым А.С. Фядосік адзначае, што пры абмалёўцы вобразаў п’яных удзельнікаў хрэсьбін “песні не абмяжоўваліся простай канстатацыяй, што хрэсьбінныя важнейшыя асобы “ўпіліся”, а давалі іх камічныя вобразы” [2, с.51].

***

*Я ўчора сувячора*
*На радзінах была,*
*А сягоння ранюсенька*
*На хрысцінкі прыйшла.*
*Добрыя людзі*
*Упаілі мяне,*
*Пад вішанькай, пад чырвоненькай*
*Спаць палажылі мяне* [3, с.399].

***

*А я ўчора кумой была,*
*П’яненька ў двор прыйшла.*
*Свякровачка стучыць, гручыць,*
*Свякровачка пабіць вяліць,*
*А міленькі ўцяшаецца,*
*Па пасцелі качаецца.*
*Ня б’ець жану п’яненькую,*
*Трэба біць жану цвярозую,*
*Пад белаю бярозаю* [3, с.382].

Прыведзеныя матэрыялы па беларускай радзінна-хрэсьбіннай абраднасці і паэзіі дазваляюць зрабіць высновы адносна сатырычна-гумарыстычнай скіраванасці хрэсьбінных песень, у якіх, на

наш погляд, гарманічна ўраўнаважваюцца два планы адлюстравання рэчаіснасці – пацяшальны гумар і сатырычнае высмейванне. Не менш важны і такі аспект радзінна-хрэсьбінных песень, як яскрава выражаны ў іх рытуальны характар смеху, якому надавалі здаўна магічнае значэнне і дзякуючы якому прагназавалі шчаслівае жыццё дзіцяці і дабрабыт яго сям'і.

Літаратура

1. Фядосік, А.С. Праблемы беларускай народнай сатыры / А.С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 288 с.

2. Сямейна-абрадавая паэзія. Народны тэатр / А.С. Фядосік, А.С. Емяльянаў, У.М. Сысоў, М.А. Каладзінскі; навук. рэд. К.П. Кабашнікаў. – Мн.: Беларуская навука, 2001. – 422 с.

3. Радзіны: Абрад. Песні / Уклад. і сістэм. тэкстаў Г.А. Пятроўскай, апісанне абрадаў Т.І. Кухаронак; уступ. арт. і камент. Г.А. Пятроўскай, Г.В. Таўлай, Т.І. Кухаронак; Рэдкал.: А.С. Фядосік і інш. – Мн.: Беларуская навука, 1998. – 637 с.

4. Сям'я і сямейны быт / В.К. Бандарчык, Г.М. Курыловіч, Л.В. Ракава і інш. – Мн. : Навука і тэхніка, 1990. – 256 с.

5. Бореев, Ю. О комическом / Ю. Бореев. – М.: Искусство, 1957. – 232 с.

6. Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыц. жанры: Мінск. вобл. / Уклад. В.Д. Ліцвінка; уклад муз. часткі Г.Р. Кутырова. – Мн.: Універсітэцкае, 1995. – 384 с.

7. Вечнае: Фальклорна-этнаграфічная спадчына Веткаўскага раёна / Аўт.-уклад.: І.Ф. Штэйнер, В.С. Новак. – Гомель : УА "ГДУ імя Ф. Скарыны", 2003. – 362 с.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Алена КАСТРЫЦА**

# Міфалагічныя ўяўленні ў радзінна-хрэсьбіннай абраднасці Рэчыцкага раёна

## (на матэрыялах, зафіксаваных у апошняе дзесяцігоддзе)

Матэрыялы палявых экспедыцый апошняга дзесяцігоддзя дазваляюць гаварыць аб добрай захаванасці ў памяці жыхароў Рэчыцкага раёна, а таксама аб устойлівым бытаванні радзіннахрэсьбінных абрадаў і шырокім спектры адлюстраваных у іх міфалагічных уяўленняў.

Прыклады сведчаць, што беларусы-палешукі надавалі вялікае значэнне асобе цяжарнай жанчыны, якую “чамусьці ў тыя часы баяліся” (в. Гірава; Сычыкава Л. А., 1910 г.н.). Паводле народных уяўленняў, будучая маці павінна быць шчодрай (“Калі ў цяжарнай папросяць падаяння, трэба *абавязкова падаць, каб дзеці не прасілі*” (в. Салтанава; Кляцоўская М.І., 1935 г.н.)), ветлівай і акуратнай (“Калі цяжарная *ела са скаварады*, то лічылі, што *дзіця будзе чорнае*” (в. Гірава; Сычыкава Л.А., 1910 г.н.)), спакойнай і ўраўнаважанай у розных жыццёвых сітуацыях (“Калі жанчына ўбачыць пажар, ёй *нельга хватацца* за рукі і твар, бо ў дзіця *будуць чырвоныя плямы* на твары (г. Рэчыца; Еўтушэнка Р.П., 1930 г.н.));“І калі ўпадзеш сільна да *спужаешся*, то *дзіця* можа нарадзіцца *глуханемым*” (в. Красная; Міхалка Л.В., 1920 г.н.); “Забаранялася цяжарнай жанчыне хвалявацца” (в. Ведрычы; Шапавал Х.Ю., 1930 г.н.,), павінна весці “строгае жыццё” (“Цяжарная жанчына вяла строгае жыццё” (в. Гірава; Сычыкава Л.А., 1910 г.н.)), не парушаць забарон і прытрымлівацца правіл, якія, варта адзначыць, уяўляюць сабой своеасаблівы маральна-этычны кодэкс.

Паводзіны цяжарнай маглі ўплываць на *знешні выгляд* (“Нельга было бурыць ластаўчае гняздо, бо *будзе рабое* дзіця” (г. Рэчыца; Еўтушэнка Р.П., 1930 г.н.); “Наведванне цяжарнай жанчы-

най нябожчыка было непажаданым, бо яе дзіця магло радзіцца *бледным*" (г. Рэчыца; Еўтушэнка Р.П., 1930 г.н.)), *фізічны стан* ("Яна не павінна была вельмі часта глядзецца ў люстэрка, бо дзіцё магло быць *касым*"; "...забаранялася глядзець на людзей, у якіх былі якія-небудзь фізічныя дэфекты (уродцы). І яна не павінна была абгаворваць такіх людзей. Бо яе дзіця магло радзіцца таксама *з заганамі*" (в. Красная Дуброва; Міхалка Л.В., 1920 г.н.); "Нельга было пераступаць цераз крывыя прадметы – бо ў дзіця маглі быць *крывыя ногі*" (г. Рэчыца; Еўтушэнка Р.П., 1930 г.н.); "*Цяжарнай нельга біць наском абутку жывотных, асабліва свіней, бо дзіця будзе сапець у нос"; "Нельга смяяцца з калек, каб дзіця такое не было*" (в. Салтанава; Кляцоўская М.І., 1935 г.н.)) і *характар* дзіцяці ("...ёй *забаранялася красці, зайздросціць, абгаварываць* людзей-уродаў – гэта магло адбіцца на характары яе дзіця" (г. Рэчыца; Еўтушэнка Р.П., 1930 г.н.)). Прыклады сведчаць, што парушэнні правіл, дапушчаныя з боку маці, маглі справакаваць у будучым розныя непрыемнасці для яе дзіцяці (у дадзеным выпадку відавочны элементы магіі падабенства). Такім чынам, цяжарная жанчына нібы здавала экзамен на права называцца сапраўднай маці, а таму павінна была не толькі пастарацца пазбегнуць дрэнных думак і ўчынкаў, але і праявіць свае лепшыя якасці, каб выхаваць такія ж у будучага дзіцяці.

Працэс родаў і падрыхтоўкі да іх таксама суправаджаўся павер'ямі і звязанымі з імі міфалагічнымі ўяўленнямі. Паводле вераванняў жыхароў Рэчыцкага раёна, цяжарнай нельга было станавіцца на вяроўку або пераступаць праз яе, каб дзіця пры родах не толькі не "задушылася пупавінай" ("...*нельга* было *станавіцца на вяроўку*, таму што дзіця можа нарадзіцца *задушаным пупавінай* (в. Гірава; Сычыкава Л.А., 1910 г.н.); "...*нельга пераступаць*, бо дзіця пры родах *задушыцца пупавінай*" (в. Салтанава; Кляцоўская М.І., 1935 г.н.)), але і нарадзілася лёгка, спакойна ("Прыказваюць, дзе там ніткі ці вяроўкі, штоб не ступала. Тады *спакойна дзіця родзіцца*" (в. Красная Дуброва; Міхалка Л.В., 1920 г.н.)). Зразумела, што асноўная частка гэтых і згаданых вышэй правіл, прадпісанняў і забарон грунтуецца на элементах гомеапатычнай і кантагіёзнай магіі.

Сярод дзеянняў, скіраваных на палягчэнне родаў, найбольш папулярнымі ў народзе з'яўляюцца адкрыванне (адмыканне) і развязванне (распусканне): "У гэты час ў хаце *адкрывалі* ўсе дзверы і юшкі, *адмыкалі* ўсе замкі..." (в. Гірава; Сычыкава Л.А., 1910 г.н.); "Калі набліжаліся роды – *адчыняліся* ўсе вокны, дзверы, развязваліся паясы, вузлы, калі ў каго-небудзь з жанчын была каса, яе распляталі..." (г. Рэчыца; Еўтушэнка Р.П., 1930 г.н.); "Калі бяруць жанчыну на роды, то яна павінна *распусціць* косы, *парашчопвацца* ўсюды" (в. Перасвятое; Шувалава Г.П., 1925 г.н.). Косы распускалі, дарэчы, не толькі цяжарныя жанчыны, але і іх маці ("Радзіцелі, вот там матка, дак даўжна тожа распусціць косы, *штоб лёгкія роды былі*" (в. Перасвятое; Шувалава Г.П., 1925 г.н.)). Прыведзеныя прыклады дазваляюць сцвярджаць, што падобныя адмыканні, "распусканні", "расшпільванні" былі напоўнены сімвалічным зместам і ўвасаблялі сабой пачатак новага жыцця.

Першаму купанню дзіцяці, зыходзячы з міфалагічных уяўленняў жыхароў Рэчыцкага Палесся, надаваліся магічныя якасці забеспячэння здароўя і дабрабыту дзіцяці ("У ваду, у якой *купалі* дзіця *першы раз*, кідалі *грошы і лекавыя травы*, каб той быў *здаровы і багаты* (в. Гірава; Сычыкава Л.А., 1910 г.н.)), абароны яго ад "дурнога вока" ("Каб абараніць младзенца ад дурнога вока, трэба пасля купання тую ваду, у якой купалі, *выліць пад бярозку ці пад яблыню*, калі купалі дзяўчынку, *ці пад дуб*, калі купалі хлопчыка" (в. Салтанава; Кляцоўская М.І., 1935 г.н.)). Як сведчыць фактычны матэрыял, пры дапамозе пэўных магічных дзеянняў выканаўцы імкнуліся перадаць дзіцяці сімвалічныя якасці тых прадметаў, што выкарыстоўваліся ў абрадах (грошы = багацце, дрэвы і лекавыя травы = здароўе, абарона ад шкоднага ўздзеяння).

Важным абрадавым момантам было і першае наведванне дзіцяці – "адведкі": "*Адведкі спраўлялі ў нас у пятніцу, на першым тыдні. Да парадзіхі прыходзілі мы пасля абеда. ...Стараліся на дзіця не глядзець, бо яно яшчэ нехрышчонае і няма ў яго імя. Калі ўжо хто і паглядзеў, то тры разы перахрысціўся, ды тры разы паплюваў праз левае плячо*" (г. Рэчыца; Палівач Валянціна Міхайлаўна, 1957 г.н.); "*Перад хрэсьбінамі друзья і родственнікі*

*ідуць у адведкі, абавязкова з падаркамі. Без падаркаў ісці – грэх"* (в. Салтанава; Кляцоўская М. І., 1935 г.н.). Дарэчы, падарункі валодалі надзвычайнымі якасцямі. Напрыклад, даматканы пояс, прынесены бабкай-павітухай ("*...штоб малыша звязвалі ім пасля пеленання*" (в. Васількаў; Шафарэнка Л.)), спрыяў дзіцяці, дапамагаў "*расці добрым, паслухмяным і дужым*" (в. Васількаў; Шафарэнка Л.), служыў своеасаблівым абярэгам ад усяго дрэннага і небяспечнага, а таксама, па народных уяўленнях, "*быў сімвалам моцы ў дачыненні да мужчынскага пачатку і сімвалам цнатлівасці ў дачыненні да жанчын*" [1, с.391]. Першае купанне і першае наведванне нованароджанага былі звязаны з магіяй пачатку, а таму сімвалізавалі закладванне шчаслівага лёсу дзіцяці.

Асаблівае значэнне надавалася "паездцы да царквы" і назад, а таксама дзеянням, якія яе суправаджалі. Жыхары Рэчыцкага Палесся верылі, што выкананне правіл, закладзеных мудрымі продкамі, паспрыяе фарміраванню пэўных рыс характару дзіцяці. Напрыклад, маўчаннем можна было забяспечыць паслухмянасць і спакой дзіцяці: "*...хросныя ў дарозе не разгаварывалі, каб дзіця не было крыклівым*" (в. Гірава; Сычыкава Л.А., 1910 г.н.), "*...пасля таго, як яго перахрысцілі, матка хросная ўваходзіць на руках з дзіцём у хату і кладзе яго на пол ля печы, каб дзіця ляжала ціха, як тыя дровы, і як палена, было спакойнае*" (в. Азершчына; Цуранкова С.К., 1925 г.н.).

У радзінна-хрэсьбіннай абраднасці Рэчыцкага раёна выразна выявілася карпаганічная семантыка крыжа ("*Кум з кумой вязуць малога ў цэркву, там яго бацюшка свеціць і вешае на шыю пасвяцоны крэсцік. І гэты крэсцік нельга знімаць з малога*" (в. Заспа); "*Калі маломy не палажыць крэст (не пакрысціць), то на яго будут сыпацца ўсе напасці*" (г. Добруш; Гарбунова К.М. (раней пражывала ў г. Рэчыца), 1907 г.н.); "*Калі ў цэркві пры хрышчэнні дзіця заплача пад крастом, значыць, будзе яно шчасліваe і шмат пражыве*" (в. Салтанава; Кляцоўская М.І., 1935 г.н.)). У гэтай частцы абраду выразна адчуваецца ўплыў хрысціянскай рэлігіі на народную практыку.

Адным з сакральных момантаў хрэсьбіннага застолля было біццё гаршка з "бабінай кашай". Нават чарапкі з гэтага гаршка лічыліся цудадзейнымі і выкарыстоўваліся ў народзе з наступнымі мэтамі:

спрыяць нараджэнню дзяцей (*"Чарапкі з гаршка ложаць усім маладым дзяўчынам на галаву, каб тыя таксама нарадзілі дзяцей"* (в. Заспа); *"Чарапкі ложаць на галовы гасцям, асобенна ў каго няма дзяцей"* (в. Васількаў; Шафарэнка Л.); *"Калі ў маладых нараджалася дачка, то бабка рабіла так: ...другі кавалак кашы клала на галаву маладога бацькі і казала: "Табе клад у чарапок, каб на другі год быў сынок"* (в. Левашы; Калеснік І.С., 1925 г.н.); *"...чэрапкі кладуць мужчынам ці маладым на галовы, каб на той год было і ў іх дзіця"* (г. Рэчыца; Худзенка В.Ц., 1926 г.н.));

садзейнічаць здароўю і прыгажосці дзіцяці (*"Кум рэжа астатнюю кашу, бярэ сабе кавалак і гаворыць: "Няхай майму дзіцятку шчасця, долі ў хатку, хай яму столькі год пражыць, сколькі ў маёй чарцы кропель дрыжыць, быць яму здаровым, крэпкім, як мядзведзь, і ніколі не балець"* (в. Левашы; Калеснік І.С., 1925 г.н.); *"Верх кашы знімалі і клалі асобна, каб яго не пачаставала маці дзіцяці, бо тады ў дзіцёнка будзе лічыка ў прышчах"* (в. Салтанава; Кляцоўская М.І., 1935 г.н.));

уплываць на дабрабыт у гаспадарцы (*"Кашу раздзяляюць дзецям, грошы – парадзісе, а чарапкі – у сарай. І госці ідуць у сарай, разбіраюць сабе чарапкі, штоб вялася ў кожнага худоба"* (в. Азершчына; Цуранкова С.К., 1925 г.н.); *"Яшчэ чарапкі забіраюць дамой і аддаюць свінням, каб вялося патомства"* (в. Заспа)).

Акрамя прафілактыкі хвароб, прагназавання станоўчых рыс характару нованароджанага, забеспячэння яго шчаслівага лёсу, важнае значэнне надавалася дзеянням засцерагальнага характару. Паводе вераванняў жыхароў Рэчыцкага раёна, каб абараніць дзіця ад шкоднага ўздзеяння ("дурнога вока") нядобрых людзей, "трэба было прышпіліць шпільку на сарочку, каб не сурочылі. А калі дзіця сурочылі, трэба было выцерці яго падолам спадніцы і сказаць: *"Якая маці радзіла, такая і выхадзіла"; яшчэ ў дзірку ў услон-*

*чыку трэба было пераліць тры разы ваду і даць дзіця выпіць (ад спугу)"* (в. Яноўка). У папярэдніх прыкладах тут выразна прасочваецца станоўчая семантыка металу і вады як сімвалаў сілы і чысціні.

Відавочна, што ў радзінна-хрэсьбіннай абраднасці адлюстроўваюцца адносіны чалавека да рэчаіснасці і пэўныя маральна-этычныя нормы, арганічна паяднаны ірацыянальныя і прагматычныя дзеянні, заснаваныя на народных практычным вопыце і ведах, што ашчадна перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

Літаратура

Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск : Беларусь, 2004. – 592 с.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фальклярыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Алена КАСТРЫЦА, Алена ПАЛУЯН**

# Абрады, звычаі і павер'і радзіннага комплексу жыхароў Веткаўшчыны

У традыцыйных абрадах і звычаях беларусаў знайшлі адлюстраванне разнастайныя бакі народнай культуры, быту, філасофіі, рэлігіі, светаўспрымання і светаасэнсавання. У прыватнасці, даследаванне радзінных звычаяў і абрадаў як складовай часткі духоўнай культуры і народнага быту веткаўчан дае падставы сцвярджаць, што галоўнымі каштоўнасцямі ў іх жыцці з'яўляюцца сям'я і дом, жаданне жыць у згодзе са сваім сумленнем, з людзьмі, з навакольным светам. Выконваючы тое ці іншае абрадавае дзеянне, чалавек верыў, што гэтым забяспечвае сабе і сваім блізкім здароўе, шчасце, дабрабыт. Менавіта ў радзінна-хрэсьбінным абрадавым комплексе беларусаў, у прыватнасці жыхароў Веткаўшчыны, надзвычай шырока прадстаўлены рацыянальныя веды пра чалавека, з'явы і аб'екты рэчаіснасці, а таксама міфалагічныя ўяўленні. Спецыфіка аксіялагічнай прыроды радзінных звычаяў, прыкмет і павер'яў прадыктавана самім жыццём, у якім яны выступаюць своеасаблівым маральна-этычным кодэксам і з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай практычнай народнай мудрасці.

Сістэма радзіннай абраднасці, як слушна сцвярджае Т.І. Кухаронак, "фарміравалася на працягу шматлікіх стагоддзяў, таму ў ёй можна сустрэць і універсальныя магічныя ўяўленні, і водгаласы агульначалавечай стадыі асэнсавання працэсаў зараджэння і канца жыцця, і сведчанні разумення нашымі продкамі цеснай сувязі паміж зямным жыццём і космасам, і рэлікты вераванняў у татэма-бусла. Добра захаваліся ў ёй культы продкаў, агню, вады, расліннасці" [3, 4].

Матэрыялам для нашага даследавання паслужылі запісы, зробленыя студэнтамі і выкладчыкамі філалагічнага факультэта падчас праходжання фальклорна-краязнаўчай практыкі на тэрыторыі Веткі і Веткаўскага раёна.

Комплекс традыцыйных радзінных звычаяў і абрадаў Веткаўшчыны, як і іншых раёнаў Беларусі, складаецца з трох цесна звязаных цыклаў: дародавага, родавага і паслясродавага. Першыя два ўключаюць уяўленні, павер'і і абрадавыя дзеянні, накіраваныя на захаванне цяжарнасці і паспяховае завяршэнне родаў, апошні – звычаі і абрады, якія сімвалізавалі ідэю прыняцця нованароджанага ў сям'ю і грамаду.

Сістэма вераванняў і нормаў паводзін, звязаная з цяжарнасцю жанчыны, захавала перажыткі папярэдніх стадый развіцця чалавечага грамадства і яго рэлігійнага мыслення, адлюстроўвае шматгадовыя народныя медыцынскія веды, светапогляд, маральныя каштоўнасці. Звычаі дародавага цыклу мелі рацыянальнае прызначэнне – "захаваць цяжарнай фізічны спакой, ліквідаваць усялякія псіхічныя хваляванні і гэтым самым забяспечыць правільнае развіццё плода" [3, 13].

Па сённяшні дзень на тэрыторыі Веткаўскага раёна існуе вялікая колькасць забаронаў і павер'яў, якія заклікaны, з аднаго боку, зрабіць дабратворны ўплыў на здароўе, выгляд, характар і лёс будучага дзіцяці, а з другога – забяспечыць паспяховы зыход родаў.

Некаторыя звычаі і нормы, якімі кіравалася жанчына ў час цяжарнасці, былі заснаваны на шматгадовых жыццёвых назіраннях і вызначаліся вялікім практычным зместам, што знайшло пацвярджэнне ў сучаснай медыцынскай навуцы: "нельзя піць водку" (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло), "работаць цяжола ня нада; няльзя пужацца, бо дзіцёнак родзіцца дурны" (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло).

У большасці правілаў паводзін рацыянальныя і магічныя элементы настолькі цесна спляліся, што іх цяжка адлучыць адзін ад аднаго. Як трапна адзначыў Э.Б. Тайлар, "...чалавек яшчэ ў ніжэйшым разумовым стане навучыўся аб'ядноўваць у думках тыя рэчы, якія ён знаходзіў звязанымі паміж сабой у рэчаіснасці. Аднак у далейшым ён сказіў гэту сувязь, зрабіў вывад, што асацыяцыя ў думках павінна дапускаць такую ж сувязь і ў рэчаіснасці. Кіруючыся гэтым, ён спрабаваў адкрываць, прадказваць і выклікаць падзеі такімі, якія, як мы бачым зараз, мелі чыста фантастычны характар" [6, 94].

Вельмі распаўсюджна на Веткаўшчыне забарона (яна, дарэчы, характэрна для ўсіх раёнаў Гомельшчыны), згодна з якой цяжарнай забаранялася глядзець на пажар, а калі такое здарылася, то нельга было, спалохаўшыся, дакранацца рукамі да свайго цела, бо лічылася, што ў адпаведным месцы на целе дзіцяці будзе чырвоная пляма (“Када пабачыць пажар, не нада хватацца рукамі за галаву – дзіцёнак красны будзе (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло); “Еслі пажар, то нельзя рукамі за цела брацца, бо абязацельна будуць лапікі красныя на целе” (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., в. Данілавічы); “Бярэменнай жэншчыне нельзя было хапацца за ліцо рукамі, калі бачыш пажар” (Гарбузава М.Я., 1929 г.н., в. Казацкія Балсуны)).

Цяжарным нельга было крыўдзіць жывёлу або пераступаць праз яе: “нельзя ніякай скаціны голай рукой біць і асобенна выспяткам – будзе шэрсць у дзіцёнка” (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., в. Данілавічы); “нельзя пераступаць цераз сабаку” (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло).

На Веткаўшчыне існуе забарона, якая не дазваляе цяжарным жанчынам хадзіць на пахаванні, глядзець на нябожчыка: “мяртвяка няльзя бачыць” (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло); “нельзя хадзіць на кладбішча” (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло); “еслі дзеўка замуж пашла, а на пахаранах не была і ў палажэніі, то нельзя ідці ёй на кладбішча” (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., в. Данілавічы). Меркавалі, што ў такім выпадку дзіця будзе ўвесь час хварэць або мець жоўты, хваравіты колер скуры. У сувязі з гэтым прыгадаем меркаванне Дж. Фрэзера: “Старажытны чалавек упэўнены, што толькі ён зробіць так і так, і ў суаднесенасці з адным з гэтых законаў, непазбежна адбудуцца такія і такія вынікі. А калі вынікі нейкага ўчынку, як яму здаецца, непажаданыя ці небяспечныя, ён, безумоўна, імкнецца зрабіць так, каб не наклікаць іх на сябе. Іншымі словамі, ён устрымліваецца ад здзяйснення таго, што, як ён мяркуе, ...можа яму пашкодзіць. Такія рэчы ён табуіруе” [8, 27].

Асобную групу складаюць забароны, у якіх адлюстраваны этычныя і эстэтычныя нормы: “са скаварады нельзя есці”; “нельзя глядзець на калекаў ці гаварыць плоха пра іх і смяяцца – дзіцёнак плахі будзе” (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло); “удзіўляцца

нельзя з некрасівага ці інваліда, бо дзіцё будзе такое ж; еслі жэншчына ў палажэніі, старалася, каб прыпечак чысты быў, еслі будзе гразна, значыць, будзе дзіцёнак нехарошы, гразны; вот еслі ідзеш і там кот ляжыць прапаўшы, ваняе, то пляваць нельзя, бо будзе ў дзіцёнка ваняць з рота" (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., в. Данілавічы); "нельзя было красці, штоб дзеці не былі злодзеямі" (Гарбузава М.Я., 1929 г.н., в. Казацкія Балсуны). Нашы продкі лічылі, што падобнае выклікае падобнае, вынік нагадвае сваю прычыну. Больш за гэта, як трапна заўважыў Е. Меляцінскі, "тое, што ў навуковым аналізе выступае як падабенства, ...у міфалогіі выглядае як тоеснасць" [5, 168].

Шырокае распаўсюджанне ў Веткаўскім раёне атрымалі разнастайныя павер'і, забароны і магічныя дзеянні, у аснове якіх ляжаць элементы магіі падабенства (імітатыўнай, гомеапатычнай): "нельзя ваду ў калодзежы, калі набіраеш, то адліваць у калодзеж абратна – будуць слюнкі ў дзіцёнка цекчы і з носа тожа; нельзя ў празнікі секчы нічога тапаром, бо ў дзіця губа будзе рассечана, асобенна, еслі на пароге секчы" (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., в. Данілавічы); "калі дзеўка цяжкая, бярэменная, то ей нельзя перастурпаць праз вяроўку" (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло); "у мяне была цётка, ножка ў яе была крівая. Кажуць, калі матка была ў палажэнні, бацька крук зацесваў і забіваў, і радзілася крівая дзевачка" (Саломенная У.М., 1932 г.н., в. Неглюбка). Папярэднія прыклады дазваляюць сцвярджаць, што вобразы візуальнага мыслення, створаныя па аналогіі, напоўнены разнастайным зместам і часцей за ўсё па некаторых сваіх уласцівасцях і характарыстыках набліжаны да звычайных пачуццёвых уражанняў.

Існуе ў гэтай мясцовасці і забарона цяжарнай пазычаць штонебудзь: "еслі ў палажэнні – нельзя ні ў кога прасіць, нічога ўзяць нельзя" (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., в. Данілавічы). Лічылі, што ў такім выпадку дзіця пражыве век ў беднасці і галечы.

Колькасць забарон, якіх павінна была прытрымлівацца цяжарная, уражвае. Зразумела, што іх нарадзіла пэўнае бяссілле чалавека перад прыродай, няведанне яе законаў, прымхлівы страх, які, на думку З. Фрэйда, "у значнай ступені чаканне няшчасця. ...Прымхлівы чалавек схільны надаваць знешняму выпадку

значэнне, якое павінна з’явіцца ў форме рэальных падзей, схільны бачыць у выпадку сродак выражэння чаго-небудзь знешняга, схаванага ад яго” [7, 297-298]. Таму выкананне забаронаў – гэта, напэўна, надзея на патуранне, выратаванне.

Таксама цяжарная жанчына павінна была абавязкова насіць фартух, каб засцерагчы дзіця ад сурокаў: “трэба насіць фартук, штоб не быў дзіцёнак урочаны (не баяўся ўроку)” (Гарбузава М.Я., 1929 г.н., в. Казацкія Балсуны).

Аналіз фактычнага матэрыялу дазваляе зрабіць вывад, што забароны і прымхі перыяду цяжарнасці з’яўляюцца “складовай часткай сацыяльна-псіхалагічнага механізма, які непасрэдна ўздзейнічае на цяжарную жанчыну... Старанна прытрымліваючыся ўсіх мясцовых звычаяў, жанчына набывала ўпэўненасць у паспяховым зыходзе родаў, псіхалагічна была да іх падрыхтавана” [3, 25–26].

Не менш важным было выкананне ўсіх спрадвечных звычаяў і абрадаў, звязаных з нараджэннем дзіцяці. Сёння, безумоўна, усе нараджаюць у бальніцы. Але людзі старэйшага ўзросту расказваюць, як раней пры родах карысталіся паслугамі вясковых бабак-павітух: “калі радзіцца дзіцёнак, побач бабка-пупарэзніца, яна бабіла: адразае пупок, мые, пеленае. Ёй давалі гасцінца, і яна што-небудзь прынасіла” (Лук’яненка В.Ц., 1935 г.н., в. Залаты Рог); “раньшэ ражалі дома, патаму што негдзе была. Я тожа пачці всех ражала дома... Бабка Малання за бабу была. Яна бабіла (мыла, пуп перавязвала)” (Рыбачкіна П.Р., 1933 г.н., в. Баркі).

Акрамя чыста практычных акушэрскіх прыёмаў, непасрэдна ў час родаў выконвалі шэраг магічных дзеянняў, якія заснаваны на веры ў звышнатуральныя сілы і спалучаюць у сабе элементы імітатыўнай і кантактнай магіі: “калі баба ражае, усе вузлы развязваюць і замкі адпіраюць, каб аблегчыць мукі” (Кавалёва Е.П., 1930 г.н., в. Колбаўка); “як цяжэло ражае, дак паяса нада развязываць, пугаўкі расшпыляць тым, хто ёсць у хаце ў эты мамент. Еслі ёсць юбкі, абезацельна далжны развязаць іх” (Рыбачкіна П.Р., 1933 г.н., в. Баркі); “еслі дзеўка дома ражала, тагда всягда адкрывалі вокны, і дзе які замок – каб усё чыста было адкрыта. Гаварылі, што так легша родзіцца” (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н.,

в. Старое Сяло). Як адзначыў сучасны даследчык А. Гурскі, "з цягам часу дыялектыка свядомасці і мыслення, шматвяковы працоўна-вытворчы вопыт абумовілі ўсё больш глыбокае пранікненне чалавека ў сутнасць рэчаў і з'яў, а разам з тым у свядомасці яго шырылася кола асацыятыўных сувязей паміж імі, пабудаваных на параўнанні асобных прадметаў, іх якасцей, уласцівасцей, функцый і да т. п." [2, 15].

Паводле народнага ўяўлення, нованароджанага трэба ахоўваць ад уздзеяння злых сіл, у сувязі з чым прытрымліваліся пэўных забарон: "калыску пустую, када ў ей дзіця няма, нельзя калыхаць, бо памрэ дзіцятка" (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло). Як трапна сцвярджае Л. Леві-Бруль, на думку старажытнага чалавека, "...усе прадметы і істоты ў прыродзе ўцягнуты ў шэраг містычных сутыкненняў і выключэнняў, якія якраз і ствараюць у ёй сувязь і парадак... Калі чалавек зацікаўлены якой-небудзь з'явай, ён не абмяжоўваецца пасіўным і бяздзейсным успрыманнем, а выказвае здагадку аб якой-небудзь акультнай і нябачнай сіле, праявай якой і стала дадзеная з'ява" [4, 23].

Традыцыйныя нормы звычаёвага права прадпісвалі абавязковае наведванне парадзіхі і дзіцяці сваякамі і суседзямі, што як бы сімвалізавала прыняцце нованароджанага ў пэўны калектыў: "хадзілі сначала ў даведкі. Варылі бульбяныя пампушкі, узвар" (Чуяшова Г.Ф., 1930 г.н., в. Стаўбун); "спачатку хадзілі ў даведкі. Людзей гаспадары не звалі, яны ішлі самі. Гаспадары садзілі іх за стол, потым спявалі песні. А потым дзелалі хрэсьбіны і звалі тых, хто прыходзіў у даведкі" (Азаранка Г.І., 1932 г.н., в. Малыя Нямкі); "калі дзіця народзіцца, к яму і к матке ў бальніцу хадзілі. Паздраўлялі іх, гасцінчыкі насілі" (Чайкова К.Ц., 1930 г.н., в. Залаты Рог); "раньша так было: радзіўся дзіцёнак, хадзілі ў атведкі" (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло).

Таксама існаваў звычай далучэння нованароджанага да царквы, які папярэднічаў абраду хрышчэння: "ездзілі ў цэркаў, і бацюшка "ўводзіў" дзіцёнка. Не, не хрысціў, а ўводзіў, ну, штоб яму харашо было. Штоб яго прынялі, ці што. Ну, так нада было. І бацюшка маліўся Богу" (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло); "праз нядзелю (пасля нараджэння дзіцяці) ехалі ў царкву, і бацюшка

ўводзіў у святое, толькі ён купае рабёнка. Маці і дзіцё ехалі дамой, а бацюшка яшчэ чытаў малітвы ім” (Лук’яненка В.Ц., 1935 г.н., в. Залаты Рог).

Правядзенне хрэсьбін – цэнтральны момант той часткі комплексу радзіннай абраднасці, якая сімвалізавала ідэю прыняцця нованароджанага ў сям’ю і грамадства. Шматлікія абрадавыя элементы, якія ўтрымліваюцца ў святкаванні хрэсьбін, выяўляюць генетычную сувязь са старажытнымі звычаямі і абрадамі, з сацыяльным і гаспадарчым жыццём беларускай вёскі, з хрысціянскай ідэалогіяй.

Вялікае значэнне надавалася выбару кумоў – хроснага бацькі і хроснай маці нованароджанага, паколькі пасля здзяйснення абраду хрышчэння яны павінны былі выконваць пэўныя патрабаванні, якія кантраляваліся грамадскай думкай вёскі: “Бацькі дзіцяці яшчэ да хрэсьбін дамаўляюцца, хто ж у іхняга дзіцяці будзе нарачоным бацькам ці маці” (Лупекіна А.Я., 1923 г.н., перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на); “У кумы бралі знакомых, родственнікаў. Еслі хлопец з дзеўкай хрэсцяць, то ім нельзя жаніцца” (Гарбузава М.Я., 1929 г.н., перасяленка з в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на); “У кумы бралі таго, каго добра ведалі і каму давяралі. Любога чалавека можна было браць” (Чайкова К.Ц., 1930 г.н., в. Залаты Рог); “Бацька рабёначка доўжан зваць кума. Кум – гэта не абязацельна радня. Можа быць саўсім чужы чалавек. Часта друзей звалі, шахверак са свадзьбы. Толька нельзя было бяздзетных зваці” (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло); “Тада ўжэ мама з бацькам далжны хросных выбіраць. Ну, іх яшчэ раньша выбіралі і гаварылі ім да таго, як дзіцё нарадзіцца. У хросныя бралі каго-нібудзь з блізкіх ілі далёкіх родзічаў. Хросныя, і бацька, і маці, далжны аб дзіцёнку забоціцца, калі што з роднымі бацькамі здарыцца”( Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло).

Пры запрашэнні бацькі дзіцяці абавязкова неслі будучым кумам падарунак – хлеб: “І нясуць куме хлеб, куму нясуць хлеб, хлеб-соль і бабе. Яны ўжо знаюць, што гэта ўжо хрысціць будуць” (Прыходзька В.В., 1935 г.н., в. Неглюбка); “Еслі ідуць кумоў прыглашаць, то бацька абязацельна нясе хлеб куму. І куме нясе

хлеб-соль" (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., Чуяшкова Л.К., 1933 г.н., в. Данілавічы).

Паводле народных звычаяў, адмаўляцца ад кумаўства не раілася: "І нельзя было адказывацца ад кумоўя" (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло); "Як завуць, дак адказывацца нельзя" (Рыбачкіна П.Р., 1923 г.н., Бегічава А.К., 1923 г.н., в. Радуга). Асабліва ахвотна ішлі хрысціць незаконнанароджаных дзяцей дзяўчаты, бо існавала павер'е, што яна выйдзе замуж, калі хроснік пачне хадзіць: "І хадзілі хрысціць дажа незаконных дзяцей. Дзеўкі з удавольствіям хадзілі хрысціць, патаму што кагда рабёначак начне хадзіць, ана замуж пойдзе" (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло).

Абрад царкоўнага хрышчэння як афіцыйны абрад далучэння нованароджанага да праваслаўнай веры адбываўся ў адзін з нядзельных дзён: "У васкрасенне раніцай яны збіраюцца, каб ісці ў царкву" (Лупекіна А.Я., 1923 г.н., перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на); "Хрісцілі цераз шэсць недзель пасля таго, як народзіцца" (Рыбачкіна П.Р., 1923 г.н., Бегічава А.К., 1923 г.н., в. Радуга).

У царкву нованароджанага везлі кум і кума, прычым апраналі малое ў тое адзенне, што прыносіла ў падарунак кума: "Кагда нясуць дзіцёнка ў цэркаў, дак хросная полнасцю далжна надзець яго ва ўсё сваё, што прынесла ў падарак" (Рыбачкіна П.Р., 1923 г.н., Бегічава А.К., 1923 г.н., в. Радуга); "Патом яго вярцелі (заварочвалі) у пялёнкі, што хросная дала" (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло).

Пэўных звычаяў прытрымліваліся і ў час непасрэдна царкоўнага абраду хрышчэння: "Калі гэта дзяўчына, то ўсю службу яе на руках дзержыць кум, а несці к купелі павінна кума. Калі поп пачаў называць імёны дзіцяці, адзін з кумоў, у каго няма на руках дзіця, запальвае свечку, загорнутую ў платок або ў палаценец" (Лупекіна А.Я., 1923 г.н., перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на).

Пасля царкоўнай службы кум і кума нясуць нованароджанага дадому. Перад парогам хрэсніка сустракае баба-павітуха з блінамі, "каб дзіця расло круглым і румяным, як на дражжах" (Лупекіна А.Я., 1923 г.н., перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на).

У назначаны час да бацькоў дзіцяці збіраюцца госці з падарункамі для нованароджанага, прычым часцей за ўсё толькі жанатыя, бо там здараліся жарты і выказванні гуллівага характару, і народная традыцыя тактоўна засцерагала ад іх моладзь: “На хрэсьбінах прысутнічалі толькі жанатыя” (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., Чуяшкова Л.К., 1933 г.н., в. Данілавічы); “… у назначанае время прыходзілі госці, садзіліся за сталы, а перад гэтым дарылі падарункі для нованароджанага” (Азаранка Г.І., 1932 г.н., в. Малыя Нямкі); “Бабка нясе ўзел бальшой гасцінцаў” (Кавалёва Е.П., 1930 г.н., в. Колбаўка); “Гасцінцы дарылі маломy, жадалі яму і матке здароўя, шчасця, усяго-ўсяго” (Чайкова К.Ц., 1930 г.н., в. Залаты Рог). У сваю чаргу бацькі нованароджанага дарылі падарункі куму, куме і бабцы: “Дарылі палатно. Бабе-павітухі давалі на юбку. Куме на кохту” (Чуяшова Г.Ф., 1930 г.н., в. Стаўбун); “Бабке даюць падарак: на плацце, платок” (Кавалёва Е.П., 1930 г.н., в. Колбаўка); “Даюць падарункі куму, падарункі куме і бабе, і свякрусе даюць” (Прыходзька В.В., 1935 г.н., в. Неглюбка); “Парадзіха дае падарункі куме, куму, бабе” (Суглоб М.І., 1932 г.н., в. Перадавец).

Ладзілася агульнае частаванне, і на стол падаваліся стравы, прыгатаваныя гаспадыняй і прынесеныя гасцямі: “Садзяцца за стол, бабы пачынаюць спяваць. Славяць бацькоў, кума з кумой, пасаджоную бабу. Жадаюць хрэсніку здароўя, добрай долі ў жыцці” (Лупекіна А.Я., 1923 г.н., перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на); “Как пахрысцяць, дак сразу ж за стол. Усе ядзяць. А пасля пажаланні гаворaць рабёначку, падарачкі дораць. У канцы пачынаюць шумець: гуляць, танцаваць, песні пець” (Васільцова М.С., 1925 г.н., в. Старое Сяло).

Спецыяльнай абрадавай стравай на хрэсьбінах была бабіна каша, якую на Веткаўшчыне, як і на большай тэрыторыі Беларусі, варыла павітуха, і часцей з пшана, а пазней і з рысу, і ўпрыгожвала цукеркамі: “Баба варыла кашу. Прынясе кашу, становя на прыпечак” (Прыходзька В.В., 1935 г.н., в. Неглюбка); “Бабу на хрэсьбіны бяруць, яна вара кашу з пшана, канфетак накідаюць у тую кашу” (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., Чуяшкова Л.К., 1933 г.н., в. Данілавічы); “На радзіны выклікалі бабку, яна кашу варыла з пшана, хоць з рысу, салодкую” (Барсукова А.А.,

1925 г.н., в. Неглюбка); “Кашу варылі. Харошы гаршчок пшоннай кашы. Рассыпную дзелаюць. Як садзяцца за стол, ставяць тую кашу пасярод стала” (Кавалёва Е.П., 1930 г.н., в. Колбаўка); “Бабка-пупарэзніца павінна была купіць новы гаршчок (крэпкі). У ім варылі бабіну кашу, часта пшонную” (Лук’яненка В.Ц., 1935 г.н., в. Залаты Рог); “У канцы бабка ўсіх угашчала сваёй кашай. Варылі яе ўкрутую, стараліся, каб смачная, салодкая, добрая была. Варылі абычна з пшана” (Чайкова К.Ц., 1930 г.н., в. Залаты Рог); “Была і “бабіна” каша. За бабу звалі любую жэншчыну, што спанаравіцца маладой. Баба ўжэ варыла тую кашу. Можна было варыць з любых крупаў. І нада так зварыць кашу, штоб калі разбівалі, гаршчок разбіўся, а каша асталася, як у гаршку была. Баба прыносіла кашу” (Мацюкова Н.Д., 1930 г.н., в. Старое Сяло); “На хрэсьбінны стол варылі “бабіну кашу”. Варылі яе з проса, самі таўклі. Варылі ў двух гаршках: адну варыла тая, хто ражала, а другую – баба-павітуха” (Гарбузава М.Я., 1929 г.н., перасяленка з в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на).

Бабіна каша, слушна сцвярджае Т.І. Кухаронак, выконвала пэўныя “абрадавыя функцыі: падавалася ў канцы хрэсьбіннага застолля, і яе падзел з’яўляўся кульмінацыйным момантам урачыстасці, без якога прысутныя не ўяўлялі сабе гэтага святкавання” [3, 62]. У большасці раёнаў Беларусі, і ў тым ліку на Веткаўшчыне, адбываўся абрад выкупу кашы і разбівання гаршка з кашай, з якім у народнай свядомасці звязваліся шматлікія ўяўленні магічнага характару: “Калі ўжо гаспадары бачуць, што людзі нашумеліся, то баба несла кашу і яе выкуплялі (спецыяльных песень не спявалі), тады кашу разбівалі і раздавалі патрошкі кожнаму. Яшчэ гаварылі, калі ўхопіш кавалак разбітага гаршка, то будзеш шчаслівы” (Азаранка Г.І., 1932 г.н., в. Малыя Нямкі); “А яны хто ўжо кажа: “Хто больш грошай паложа, той ужо кашу паб’е”. Ну, абязан кум пабіць кашу. Ну, і сячас нясуць кашу. Такую жанчыну шутлівую выбіраюць. Яны ёй гаворać: “Ідзі, нясі!” Яна ідзець, баба та, надзяець шапку і нясе. І нясе. І храмае:

*Мая каша з канапелькамі,*
*А вы ўсе з капейкамі.*

І па сталах носяць гэту находку – гаршчок з кашай. І хто паложа большэй. І сейчас жа кум большэ ложыць, і паб'ём гаршчок. Еслі не паложа кум больша – і не паб'е кашы. Хто больш – паб'е, а тады тыя бяруць тыя чарапочкі. І носяць гэтыя па галавах. Ета ў каго ў маладой пары якой: "Вот, Саш, табе, штоб у вас на лета сын ці дачка". І так ета ўсе шумяць, усе гладзяць па галавах, гладзяць чарапкамі тымі... І кашу тую бяруць, і кускамі разламваюць, і па сталах носяць кашу. Хто бярэ дамой – нада ж даць парасятам, курам, штоб яны вяліся, штоб няслі яйкі" (Прыходзька В.В., 1935 г.н., в. Неглюбка); "Засцілаюць кашу палаценцам, становяць тарэлку, на тарэлку тожа ложаць платочак, і госці кідаюць грошы, хто болей пакладзе. Кум стараецца болей пакласці. Тады ўжо тую кашу, гаршчок, нада разбіць. Калі вопытны кум, ён тую кашу – чок аб рог стала, і паб'е... Тады кашу на тарэлку кладуць, парэжуць-парэжуць, і ядзяць. Еслі ў каго дзяцей няма, маладыя пажаніліся, то бралі чарапкі з гаршка, над галавой разаб'еш і скажаш: "Чарапок разбілі, будуць дзеці ў цябе" ((Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., Чуяшкова Л.К., 1933 г.н., в. Данілавічы); "Усе, хто на хрэсьбінах, кладуць грошы ці што-небудзь для малога на кашу. Хто больш паложа, той і разаб'е кашу. Усегда доўжан выйграць кум. Тады ён бярэ і разбівае гаршок з кашай. Бабы бяруць чарапкі з разбітага гаршка і водзяць імі па галаве мужыка і кажуць:

*Сколькі на галаве валаскоў,*
*Столькі хай будзе раткоў.*

Бабка потым нося кашу, і кажды доўжан палажыць яе трохі сабе. Абязацельна хваляць бабу і кашу" (Суглоб М.І., 1932 г.н., в. Перадавец); "Кум разбіваў гаршчок кашы: браў адзін аб адзін і разбіваў. Тады тую кашу на стол людзям. А чарапкі бралі і грызлі зубамі, каб зубы не балелі, свінням кідалі, штоб свінні вяліся. І калі не было доўга дзяцей, бярэш кусочак і кладзеш мужыку на макушку, і прыгаворвалі. Кусочак кашы ў платочку няслі дамой дзецям, штоб здаровыя былі. На кашу клалі падаркі: грошы, мацерыю і другое" (Гарбузава М.Я., 1929 г.н., перасяленка з в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на); "Тады на стол бабіну

кашу падаюць, калі вып'юць тры разы і грошы пакладуць: хто больш грошай пакладзе, той будзе бабкіну кашу біць" (Барсукова А.А., 1925 г.н., в. Неглюбка); "За трэцім сталом кум дзеліць кашу. Кум нясе вялікую талерку, пакрывае ручніком і ставя на стол. Побач баба ставіць бліны і пірог. Кум пачынае дзяліць кашу, кожны, хто ложыць падарунак дзіцяці, жадае яму шчасця, долі, здароўя. А кум дае кавалак пірага, блін і кашу. Даходзіць чарга і да кума. Ён павінен закончыць дзяленне кашы сваім падарункам, але ён павінен быць лепшым за астатнія, каб разбіць кашу!.. Каб захаваць пажаданні дзіцяці, маці хавае кавалкі разбітай кашы, калі ў хаце ёсць большыя дзеці, кавалачкі разбітай кашы даюць ім" (Лупекіна А.Я., 1923 г.н., перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на). Як бачым, падзел бабінай кашы суправаджаўся пажаданнямі дзіцяці, у якіх знаходзілі адлюстраванне маральныя нормы і прынцыпы беларускага народа, яго каштоўнасныя арыентацыі.

Завяршальным абрадавым дзеяннем на хрэсьбінах было "цяганне бабы на баране": "Бабу содзяць на калёсы ці на барану, без каня кругам возяць, а тады яна ўжо ўгашчае іх дома" (Дзмітрачкова Т.К., 1936 г.н., Чуяшкова Л.К., 1933 г.н., в. Данілавічы); "А тады сабіраюцца мужчыны і жэншчыны, бяруць тачку, а ў каго няма тачкі, калёсы бяруць і вязуць бабу ў магазін. Сабіраюць бабу і кума, садзяцца і вязуць іх – хто за аглоблі, хто за што цягнуць" (Прыходзька В.В., 1935 г.н., в. Неглюбка); "Быў звычай вазіць бабку, яе саджалі ў начоўкі і вазілі, каб гарэлкі дала" (Барсукова А.А., 1925 г.н., в. Неглюбка); "Бабку вязуць у магазін. Як зімой – на санках, летам – на калёсах" (Кавалёва Е.П., 1930 г.н., в. Колбаўка).

Вытокі ўзнікнення народных вераванняў – рэальныя ўмовы жыцця і побыту: чым больш значнае месца ў жыцці чалавека займала сям'я, тым больш захавалася звычаяў, прыкмет, павер'яў, магічных дзеянняў, выхаваўчых прыёмаў, якія былі накіраваны на забеспячэнне здароўя, сямейнага шчасця, удалага асабістага лёсу і павінны былі ўздзейнічаць на фізічнае, разумовае, духоўнае і эстэтычнае развіццё асобы. Вывучэнне радзінных абрадаў, звычаяў і павер'яў жыхароў Веткаўшчыны паказвае, што перад

намі вельмі цікавая група з'яў з яскрава адлюстраванымі міфалагічнымі ўяўленнямі, са спецыфічнымі адносінамі да рэчаіснасці і спосабамі яе адлюстравання: знешнія фактары тут адлюстроўваюцца праз прызму ўнутранага светаўспрымання чалавека.

Літаратура

1. Вечнае: Фальклорна-этнаграфічная спадчына Веткаўскага раёна / аўт.-уклад.: І.Ф. Штэйнер, В.С. Новак. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2003. – 362 с.

2. Гурскі, А.І. Беларускія загадкі : даследаванне жанру / А.І. Гурскі. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – 80 с.

3. Кухаронак, Т.І. Радзінныя звычаі і абрады беларусаў: Канец XIX – XX ст. / Т.І. Кухаронак. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – 126 с.

4. Леви-Брюль, Л. Первобытный менталитет / Л. Леви-Брюль. – СПб.: Европейский дом, 2002. – 400 с.

5. Мелетинский, Е.М. Поэтика мифа / Е.М. Мелетинский.– М.: Наука, 1976. – 407 с.

6. Тайлор, Э.Б. Миф и обряд в первобытной культуре / Э.Б. Тайлор. – Смоленск: Русич, 2000. – 624 с.

7. Фрейд, З. Психология бессознательного: Сборник произведений / З. Фрейд. – М.: Просвещение, 1989. – 447 с.

8. Фрезер, Дж. Дж. Золотая ветвь: Исследование магии и религии / Дж. Дж. Фрезер. – М.: ООО Издательство АСТ: ЗАО НПП Ермак, 2003. – 781 с.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Валянціна НОВАК, Алена КАСТРЫЦА**

# Традыцыі радзінна-хрэсьбіннай абраднасці Хойнікшчыны

Сямейна-абрадавы комплекс Хойнікшчыны захоўвае агульна-этнічную аснову і вылучаецца багаццем рэгіянальна-лакальных асаблівасцей. Традыцыйна падзяляецца на тры часткі: радзінна-хрэсьбінную, вясельную і пахавальную, якія суправаджалі жыццё чалавека ад нараджэння да яго апошніх дзён. Засяродзім увагу на мясцовым характары радзінна-хрэсьбінных абрадаў і звычаяў, якія, трэба адзначыць, адрозніваюцца добрай захаванасцю і карыстаюцца надзвычайнай папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва.

Звернемся да асобных структурных кампанентаў радзінна-хрэсьбіннай абраднасці. Як вядома, у сістэме народных вераванняў важнае месца належыць традыцыйным забаронам, засцярогам і прадпісанням для цяжарных. Так, напрыклад, цяжарным забаранялася працаваць у святы, "стрыгчыся, красіцца" ("Бярэменнай няльзя многа чаго рабіць: стрыгціся, красіцца" (в. Вялікі Бор)), быць скваннымі ("І бярэменная нічога жалець не даўжна була, а то дзіця родзіцца жадным, гліну есці будзе" (в. Казялужжа)), нельга было станавіцца на вяроўку ("Дзеўке, якая носіць дзіця, нялзя было станавіцца на вяроўку, бо дзіця можа задушыцца пупавінай" (в. Стралічава)), хадзіць на пахаванні і глядзець на пакойнікаў ("Бярэменнай нельзя было глядзець на пакойніка ці на памерлую скаціну, а такжа хараніць, быць на пахаранах" (в. Стралічава)), дакранацца да твару рукамі пры пажары і да т.п. ("Калі бярэменная абпекалася, то ей нельзя трогаць рукамі галаву ці шэю, покуль не пройдзе шок, бо дзіця можа нарадзіцца с краснай плямай на тым месце" (в. Стралічава)), калыхаць пустую калыску ("Нельзя калыхаць каляску ці краватку, калі там няма дзіця. Гаварылі, што дзіця памрэ" (в. Стралічава)), даваць гадаваламу дзіцяці люстэрка і шыць яму вопратку з новага

матэрыялу (“Да аднаго года няльзя даваць дзіцю зеркала, няльзя шыць яму адзежу з новага матэрыялу” (в. Стралічава)), многа спаць (“Як ходзіла бярэменна, то сільна хацела спаць, а баба мая казала: “Не спі, бо прыспіш дзіцятко”(в. Судкова)) і інш. Спецыфічнай мясцовай рысай з’яўляецца своеасаблівая варажба аб поле (“Варожаць, каб узнаць, хто будзе. Кажуць, каб бярэменная паказала рукі. Калі яна пакажа ладонямі – будзе дзевачка, калі другім бокам – хлопчык” (в. Вялікі Бор)) і лёсе (“У цэркві кумы хрысцілі дзіця, а як бацюшка састрыжэ ў дзіцяці валосікі, то кум капае на іх воскам і кідае ў купель. Калі валасы адразу патонуць, то дзіця скора памрэ, а як будуць наверсе плаваць, то дзіця будзе шчасліваe” (в. Аравічы)) будучага дзіцяці.

Цяжарная жанчына імкнулася прытрымлівацца шэрагу прадпісанняў, звязаных з засцярогай дзіцяці ад “сурокаў”. Напрыклад, “...калі цяжарная ішла на пахараны, яна прывязвала да пояса чырвоную лентачку ці адзявала чырвоную хустку, каб не прычынілася ліхога. Цяжарная павінна насіць увесь час хвартух, тады дзіця не будзе баяцца благога вока. Каб людзі не ўраклі, цяжарная, як ідзе ў людзі, павінна апранаць усё да пары: пару сарочак, пару спадніц і г.д. Тады ніхто не ўрачэ. Калі цяжарная спужаецца каго-небудзь, то павінна заткнуць за пояс вялікі палец левай рукі” (в. Аравічы), “Калі нараджалася дзіця, то, каб абараніць яго ад дурнога глаза, яго ўмывалі свянцонай вадой” (г. Хойнікі). Нараджэнне дзіцяці і забеспячэнне яго шчаслівага лёсу з’яўляліся прыярытэтнымі для любой сям’і.

Мясцовыя жыхары шчыра верылі ў прыкметы і павер’і (прычым іх прытрымлівалася не толькі жанчына-парадзіха, але і яе муж, бабка-павітуха і інш.), зыходзячы з якіх можна было забяспечыць лёгкія роды: “Трэба расплесці косы ёй, развязаць усе вузлы, адкрыць усе замкі” (в. Вялікі Бор); “Шоб лёгка радзіла, дак маліліся. Як трэ ісці раджаць, дак косы распускалі, шоб лягчэй радзіць” (в. Казялужжа) і да т.п.

Пасляродавы цыкл уключаў абрады і звычаі, звязаныя з прыняццем нованароджанага ў грамадска-сямейны калектыў. У гэтых адносінах вылучаўся абрад наведвання парадзіхі і нованароджанага сваякамі і знаёмымі Адзначым, што ў вёсках Хойніцкага раёна

наведваць парадзіху (“прыходзіць у адведкі”) маглі праз некалькі дзён, прычым толькі родныя і знаёмыя з шэрагу замужніх жанчын і абавязкова з якімі-небудзь стравамі: “Хто родзіць дзіця, дык сабіраюцца тады бабы і ідуць даведацца. Бралі міску мукі, крупу, ілі сухароў напякуць, ілі якога малака возьмуць, ну што было. Прыходзяць сюды, етая рожаніца саджае за стол. Там іх сабярэцца чалавек пяць-шэсць, а можа і болей. Вуп’юць, тады закусяць, трохі пагуляюць і пайшлі дадому. Ета былі так называемыя вотведы” (в. Алексічы); “...к ёй ішлі жэншчыны, хто ўжэ хацеў, той і шоў к рожаніцы, нёс ёй такое, што есці: канхветы там, пячэнне, хто булку спячэ, хто што. Неслі за полаг – ета называлася к рожаніцы хадзілі” (г. Хойнікі).

Асабліва важным і надзвычай урачыстым лічыўся абрад хрышчэння. Заўважым, што ў рытуальных дзеяннях, выкананне якіх было звязана з галоўнымі персанажамі (кум, кума, бабка-павітуха) радзінна-хрэсьбіннай цырымоніі, не было нічога выпадковага і раптоўнага: загадзя выбіралі хросных бацькоў (“Хлеб вязуць куме і куму. З хлебам бацькі ішлі да кумоў, каб пагадзіліся” (в. Клівы)), бабку-павітуху (“За бабу бралі тожа тую, што была пры родах” (в. Вялікі Бор)), прызначалі дзень хрышчэння.

Кожны з персанажаў выконваў свае строга акрэсленыя абавязкі: бабка-павітуха рыхтавала дзіця да паездкі ў царкву (“На хрэсьбіны дзіця ў царкву сабірае баба: мые, пелянае ў свае пялёнкі, адзявае ў сваю адзежу” (в. Стралічава)), хросныя павінны былі аднесці нованароджанага ў царкву, прытрымліваючыся пэўных патрабаванняў, таксама строга рэгламентаваных (“У дзень нараджэння ці назаўтра дзіця вязуць у царкву хрысціць. Кум з кумою садзяцца на лаве, а хазяйка перад тым закрывае печ засланкаю, каб у дарозе добра паводзілася. Кумы бяруць у дарогу хлеб і соль, каб дзіця багатае было” (в. Аравічы); “У цэркву едуць толькі кум, кума і дзіця. Радзіцелей не бяруць. У цэркві кума адзяе дзіця ва ўсё сваё” (в. Вялікі Бор)), святар праводзіў царкоўны абрад хрышчэння дзіцяці (“Прыбіраюць дзіцятка харашэнька, вязуць у цэркву. Бацюшка ўжэ малітвы такія чытае над тым дзіцяткам, на руках дзяржаць кум і кума, спярва падзержыць кума, а потым бацюшка кажа: “Перадайце куму дзіцятка”. Бацюшка

мірам такім мазаў, тут на ладонькі крэсціка на адной, на другой, на ножках, ну і свечанаю вадою яго пасвеціць, і такая цёплая вадзічка стаяла ў такім чайніку, апускалі тое дзіця ў тую воду, ета называецца крысцілі. Тады ужо бацюшка вымае тое дзіцятка з тае вадзічкі, і яно яго ўжэ пялёначкаю абатрэ сухенькаю і зноў у пялёначку чысценьку ўкруціць яго, і зноў дзержыць, бацюшка зноў малітвы чытае, ну, во ета так крысцілі дзіця (г. Хойнікі)). Усе названыя абрадавыя дзеянні мелі важнае значэнне і былі скіраваны на захаванне дзіцяці ад усяго дрэннага і на забеспячэнне доўгага і шчаслівага жыцця.

Безумоўна, ганаровымі гасцямі на гэтым застоллі былі кум, кума, бабка-павітуха, якіх садзілі на лепшыя месцы і адорвалі падарункамі: “Пасля царквы ўсе садзяцца за стол. Куму, куме і бабе радзіцелі дарылі падаркі” (в. Стралічава); “Калі кумы з дзіцём вяртаюцца з цэрквы і ўсе госці збіраюцца ў хаце, парадзіха падносіць бабе падарак, кланяецца ў ногі і кажа: “Прасціце мяне, бабусечка. Дзякуй вам за вашу працу, што не пагрэбавалі мною” (в. Аравічы).

Кульмінацыяй хрэсьбіннага застолля з’яўлялася рытуальнае біццё “бабінай кашы”, якой надавалі магічнае значэнне. Знешняя гульнёвасць і гумарыстычнасць гэтых абрадавых дзеянняў мела на мэце пэўныя сімвалічныя функцыі: закладванне асноў будучага дабрабыту дзіцяці, а таксама пажаданне бацькам далейшага працягу роду. Паводле народных уяўленняў, чарапкі з кашы павінны былі садзейнічаць нараджэнню (“А чарапкі з етага разбітага гаршка потым адзявалі на галаву. Ета ўжо счыталася, што будзе дзяцей багата” (в. Алексічы); “І была прыкмета: на колькі чарапкоў разаб’ецца гаршок – столькі будзе дзяцей” (г. Хойнікі)) і здароўю (“Як разбілі кашу, чарапкі кідалі ў парог, штоб было дужэйшае дзіця” (в. Вялікі Бор)) дзяцей, а таксама таму, каб бралі за кума і куму (“Хто схваціць чарапок і надзене каму-небудзь на голаву, то яго возьмуць за куму, кума ілі бабу”(в. Вялікі Бор)).

Цікавым абрадавым дзеяннем на хрэсьбінах было “цяганне бабы на баране”: “Другі дзень называўся пахмелле. Баба несла патраўку з грыбамі і мясам. А тады бабу везлі на баране, ішлі да яе ў госці” (в. Вялікі Бор); “На хрэсьбіны садзілі бабку на возік і вазілі па сялу, і магарыч штоб яна паставіла” (в. Судкова).

Радзінна-хрэсьбінныя абрады суправаджаліся песнямі-ілюстрацыямі ("Песні на хрысцінах спяваюць. Як нап'юцца, дык спяваюць" (в. Клівы)), сярод якіх вылучаюцца

*велічальныя* (для маці і бабкі-павітухі):

*Не кукуй, зязюлечка, рана,*
*Не кажы, што ночачка мала.*
*Аленка ўсю ночку не спала,*
*Яна к сабе госцікаў звала,*
*Любых госцікаў ды бабулю.*
*Столікі абрусом засцілала,*
*Талеркі сухароў накладала,*
*Кубачкі ды віном налівала,*
*Яна сваю бабулю частавала.*

(в. Аравічы)

*гумарыстычныя* (для бабкі, кума, кумы):

*– Мой кумочак, мой кумочак,*
*Не на тое прыйшла,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшла.*

*– Залажыце, запражыце*
*Клячу вараную,*
*Завязіце, адвязіце*
*Куму маладую.*

*– Мой кумочак, мой кумочак,*
*Не на тое прыйшоў,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшоў.*

*– Залажыце, запражыце*
*Ды дванаццаць сабак,*
*Завязіце, адвязіце*
*Майго кума ў кабак.*

*– Мой унучак, мой унучак,*
*Не на тое прыйшла,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшла.*

*– Залажыце, запражыце*
*Ды рабую свінню,*
*Завязіце, адвязіце*
*Усю бабіну сям'ю.*

(в. Аравічы)

*застольна-бяседныя* (часта не звязаныя з радзіннай абраднасцю):

*За лес, за лес сонца коціцца,*
*Уся бяседачка расходзіцца.*
*Мамка мая дамоў строіцца,*
*Я ж малада, пайду правадзіць*
*Праз два полі, праз два чыстыя,*
*Праз тры рэчкі беражыстыя.*
*– Ты, свякроўка, мая матачка,*
*Калышы маё дзіцятачка.*
*– А чорт яго накалышыцца,*
*Трое, двое у калысачцы.*

(г. Хойнікі)

Як бачна, радзінна-хрэсьбінны комплекс жыхароў Хойнікшчыны адрозніваецца багаццем лакальных асаблівасцей, характэрных для розных структурных кампанентаў, семантычнай разнастайнасцю абрадавых дзеянняў, шырокім спектрам міфалагічных уяўленняў.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Святлана ВЯРГЕЕНКА**

# Замовы як сродак засцярогі цяжарных і немаўлят

Замовы – унікальны фальклорны жанр, які пры сваёй архаічнасці ўвабраў у сябе культурныя традыцыі пазнейшага часу, у першую чаргу хрысціянства. Гэта адносіцца як да выбару персанажаў і іх дзеянняў, так і да месцаў, на якіх адбываецца асноўнае дзеянне (гаворка ідзе пра вербальны кампанент – тэкст замовы). У лекавых замовах найбольш пашыранай з'яўляецца група хрысціянскіх персанажаў. Спынімся больш падрабязна на вобразе Багародзіцы ў замовах, звязаных з родамі, вызначым яго месца ў замоўным тэксце, семантыку дзеянняў і прадметаў, што яму належаць.

У межах аналізуемай функцыянальнай групы замоў можна вылучыць тры падгрупы: "На захаванне плода" (або "Абярогі цяжарным жанчынам"), "На добрыя роды" (у тым ліку і "Пры цяжкіх родах"), сітуацыйныя замовы, калі адбываюцца пэўныя ўскладненні (напрыклад, "На астаноўку матачнага кровацячэнія" або "Масціт") і ў залежнасці ад гэтага мяняецца скіраванасць дзеяння асноўнага персанажа. Адзначым, што ў розных матывах вобраз Прачыстай Маці выконвае ролю розных матыўных кампанентаў: аб'екта ў матыве "Зварот замаўляльніка...", суб'екта ў матывах "Адмыкання-замыкання", "Міфалагічны цэнтр" і інш. У беларускіх лекавых замовах увогуле і ў замовах, звязаных з родамі, у прыватнасці, вобраз Багародзіцы выступае і як фальклорна-міфалагічны, і як персанаж хрысціянскай міфалогіі. Як персанаж хрысціянскай міфалогіі вобраз Прачыстай Маці выступае аб'ектам у матыве "Зварот замаўляльніка...", які выконвае структураўтваральную функцыю і з'яўляецца па сутнасці этыкетнай формулай блаславення: "Госпадзі Божа, благаславі, Прачыстая Маці, памажы" ("На добрую цяжарнасць" [1, с.328, №1109], вар. "Пры родах" [1, с.330, №1116]); "Госпадзі Божанька, Матачка Насвенчая, Багародзіца Прысвятая,

прыхініцеся, прыступіцеся!” (“Замова пры родах” [2, с.46, №95]). Даследчыкі сцвярджаюць, што “паўсюдна ў рускіх Багародзіцу лічылі лекаркай самых розных хвароб” [3, с.622]. Прыведзены тэзіс пацвярджаюць і прыклады беларускіх замоў, у якіх замаўляльнік звяртаецца да Прачыстай Маці з просьбай пазбавіць чалавека ад канкрэтных захворванняў (напрыклад, ад хваробы вачэй, “уроку”, зубнога болю і інш.) або паспрыяць захаванню цяжарнасці. У некаторых тэкстах матыў “Зварот замаўляльніка...” прысутнічае разам з матывам “Адмыкання-замыкання”: пры звароце да Прачыстай Маці гучыць просьба “Найсвеньшая Прачыстая матка, прыступіся, залатым замком замкніся, залатым пругом падружыся, шаўковай запонай запніся” ((“На захаванне плода”) [1, с.327, №1103], вар. “Замова на захаванне цяжарнасці”) [2, с.44, №84]).

У некаторых выпадках Прачыстая Маці выступае разам з Госпадам Богам, і сюжэт замовы разгортваецца праз дыялог паміж імі: “Ішла Божая Маці дарогаю, сустрэла Ісуса Хрыста. – Куда ідзеш, Божая Маці? – Іду ў цэркаўку...” (“На захаванне плода” [6*]) або “сустракае яе Ісус Хрыстос.– Куда ідзеш, Божая Маць? – Іду рабе божай (імя) замкі адкрываць, вароты адпіраць, младзенца выпускаць” (“К родам” [1*]), ці “Ішоў Гасподзь Бог Ісус Хрыстос з нябес, за ім Прачыстая Матка ішла, у правай руцэ залатыя ключы нясла. Сустракая Гасподзь Бог Ісус Хрыстос з нябес.– Куды ты, Маць Прачыстая, ідзеш? – Іду я парадніцу адведаці і младзенца з жывата выпускаці” (“На добрыя роды” [4*]) і інш. У прыведзеных прыкладах вобраз Прачыстай Маці выступае суб’ектам сюжэтаўтваральнага матыву “Адмыкання-замыкання” – цэнтральнага матыву замоў, звязаных з родамі.

У якасці суб’екта Багародзіца выступае і ў матыве “Міфалагічны цэнтр”. Як і ў іншых функцыянальных групах лекавых замоў, у замовах, звязаных з родамі, локусы, якія з’яўляюцца міфалагічнымі цэнтрамі, можна падзяліць на першасныя і другасныя. Да першасных адносяцца мора, поле, гара; да другасных – камень, лукамор’е, трава, царква, “камора”, “прыстол”. У пераважнай большасці замоўных тэкстаў гэты матыў з’яўляецца вынікам структуравання прасторы па прынцыпу яе сту-

пянёвага звужэння. Найбольш аб'ёмная прастора (мора-акіян) паслядоўна ўключае ў сябе прасторы меншага памеру (востраў, камень і г.д.), у выніку чаго атрымліваецца кампактная, упарадкаваная карціна: "Як на мор'і, на лукамор'і там ляжыць бел камень, а на том камні сядзіць мацер Божая Бугуродзіца Трыярушніца..." ("Пры родах" [1, с.330, №1116]); "І на Сіяньскай гарэ, на шаўковай траве, там стаяла божжая цэрква, у той цэркві Божжая мацер службу служыла, царськія вароты зачыняла" ("На захаванне плода" [1, с.326, №1098]). Паводле народных уяўленняў, і мора, і поле, і гара – гэта той міфалагічны цэнтр, за якім пачынаецца іншасвет, а медыятарам паміж светам жывых і светам мёртвых у замовах становіцца царква/прастол, дзе і выконвае Прачыстая Маці пэўныя магічныя дзеянні, скіраваныя на захаванне парадзіхі і яе немаўляці: у асноўным устае з "прыстола" і ключамі "адкрывае/закрывае" "царскія вароцечкі".

Паводле народных уяўленняў, Божая Маці "ўспрымалася блізкай простым людзям, іх першай заступніцай перад Сынам, якая па-мацярынску перажывае за ўсіх, суцяшае, якая міласцівая, спагадлівая да любога няшчасця і якая аблягчае боль" [3, с.610], у замовах яна выступае як "заступніца мацярэй", якую просяць выйсці "з нябесных дзвярэй" ("Замова на захаванне цяжарнасці") [2, с.44, №86] да людзей, таму нярэдка яна прымае на сябе адказнасць за лекаванне. Так, напрыклад, Багародзіца клапоціцца аб захаванні плода і ідзе "ў цэркаўку ключыкаў браці, (імя) Еве цела замыкаці, на свет младзенца не пускаці" ("На захаванне плода" [6*]) (вар. "іду ў цэркаўку, ключы браці, сваё цела замыкаці..." [2, с.43, №82]), ці наадварот, калі падышоў час родаў, спяшаецца "...рабе божай (імя) замк адкрываць, вароты адпіраць, младзенца выпускаць" ("К родам" [1*]), або "Прачыстая Божая Маці з прыстолу ўставала, рабе божай (імя) помачы стала, залатыя ключыкі дзяржала, царскія вароцечкі адмукала" ("Для добрых радзін жанчын" [8*]), ці "яркія свечы запалівала, залатыя замкі адмыкала, царскія вароты адкрывала, на абедню паступала, матку ўмаўляла, на места ставіла, у гэтай рабы божай нарады займала" ("Пры родах" [4*]). У замове "На добрыя роды" Прачыстая Маці прымае на сябе функцыі бабкі-павітухі, у той жа час, мяркуючы

па локусе, на якім адбываецца дзеянне, застаючыся персанажам хрысціянскай міфалогіі, здольнай перайсці "поле чыстае" і "мора быстрае": "Чараз поле чыстае, чараз мора быстрае шла Маць Прачыстая. Там яна траўку рвала, вадзіцу брала, рабу божую Ганну ўсё цела падмывала і ў мора спускала" [1, с.330, №1118]. У гэтых і шматлікіх іншых прыкладах вобраз Багародзіцы спалучае ў сабе дзве названыя вышэй іпастасі.

Для замоў аналізуемай функцыянальнай групы характэрна наяўнасць спецыфічных міфалагем, семантыка якіх звязана з замыканнем-адмыканнем і адпавядае скіраванасці замоўнага тэксту. Так, семантыка міфалагем "ключы" і "замкі" звязана з тым, каб "вароты адпіраць/запіраць", а метафарычны эпітэт "залатыя/ сярэбраныя" нясе на сабе яшчэ і дадатковую нагрузку незвычайнасці, паказваючы пры гэтым іх хрысціянскае паходжанне. Такія ключы могуць належаць толькі Госпаду Богу ці Прачыстай Маці: "Ішоў Ісус Хрыстос высокаю гарою, шаўковаю травою, нёс дванаццаць ключоў з сабою" ("Замова пры нараджэнні дзіцяці ці свойскай жывёлы" [2, с.47, №100]); "Ішоў сам Гасподзь з небяса, згубіў залатыя ключы з-пад паяса. Мацер Божая ішла, залатыя ключы знайшла" ("На добрыя роды" [4*]); "Шла Божая Маці залатою сцежкаю, несла залатыя ключы з сабою" ("Ад цяжкіх родаў" [2*]) і інш. У той жа час Багародзіца, як звычайная жанчына, насіла ключы "ў прыполі": "Прысвятая Багародзіца хадзіла па полі, насіла ключы ў прыполі" ("Замова на парадзіху (ці на хлеб)" [2, с.46, №97]); "Прачыстая Мацер ідзе, у прыполі залатыя ключы нясе..." [3*] і да т.п. Божая Маці замыкае ключамі цела жанчыны або "сваё цела", адкрывае замк або вароты/ "вароцечкі". Вароты – гэта мяжа паміж сваёй, засвоенай прасторай і чужым, знешнім светам. У замовах, звязаных з родамі, вароты выступаюць і як міфалагічная перашкода, якую неабходна знішчыць або ўзнавіць (у залежнасці ад скіраванасці замовы). Паводле ўяўленняў нашых старажытных продкаў, вароты – гэта яшчэ і мяжа паміж тым і гэтым (белым) светам, і ненароджанае дзіця з'яўляецца часткай "таго" свету, нават называюць яго "ангелам", "грэшнай душой" ("А ты, ангел, не ляжы, ножкамі папіхайся, даверху дабірайся" ("На добрыя роды" [4*]); "Бог на свет

ангела нараджае, у гэты мір пускае" ("Замова на лёгкія роды" [2, с.45, №89]); "Тыя ключы забіраю, царскія вароты адчыняю, на свет белы грэшну душу выпускаю" [2, с.46, №94] і інш.). Як адзначае С.Д. Домнікаў, "нараджэнне дзіцяці – гэта прыход істоты з іншага свету" [4, с.172]. Пацверджанне гэтаму знаходзім і ў замовах: "Прачыстая Божая Маці з прыстолу ўставала, рабе божай (імя) помачы стала, залатыя ключыкі дзяржала, царскія вароцечкі адмукала. Косці-мосці, разыйдзіцеся, а ты, дзіцятка, на гэты свет явіся" ("Для добрых радзін жанчын" [6*]); "... к рабе Божай (імя) прыступаці і выхад адкрываці, на гэты свет дзіцятка ўгавараці" ("Замова пры нараджэнні дзіцяці ці свойскай жывёлы" [2, с.47, №100]); "...красная ружа, распусціся, младзенец, на гэты свет нарадзіся" ("Замова пры родах" [2, с.48, №102]) і інш. У замове "Пры родах" побач з магічна-сакральнымі рэкамендацыямі мы нечакана сустракаемся з традыцыйна-побытавай сітуацыяй "пры родах": "Шаўковыя шнурочкі разшнурыцеся ... штоб нажымы бралі і не адпускалі" ("Пры родах" [7*]). Агульнавядома, што пад час родаў карысталіся рознымі прыёмамі сімпатычнай магіі: адкрываліся ўсе дзверы, адмыкаліся ўсе замкі, расшпільваліся гузікі, нават расплятаціся косы, здымаліся пярсцёнкі і завушніцы, а пры цяжкіх родах прасілі царкоўнага служку адчыніць царскія вароты. У замове "Пры родах" якраз упамінаецца такая сітуацыя, толькі царскія вароты адкрывае Багародзіца: "Маць Прачыстая ... яркія свечы запальвала, залатыя замкі адмыкала, царскія вароты адкрывала..." ("Пры родах" [4*]).

У далёкія часы нашы продкі лічылі, што напісанае слова, тэкст валодаюць сапраўды магутнай, звышнатуральнай сілай. Гэтая вера дайшла да нас у прыказцы "Што напісана пяром – не вырубіш тапаром". Таму пры цяжкіх родах "...загавор трэба перапісаць на лісток бумагі і палажыць пад падушку рожаніцы", – рэкамендуе Аляксандра Міхайлаўна Барабанава, 1941 г.н., з в. Новая Гусявіца Буда-Кашалёўскага раёна. І хаця зноў жа мы сустракаемся з аксесуарамі, можна сказаць, сённяшняга дня, мова замовы сведчыць пра архаічнасць паходжання тэкста: "Дзверы прахадныя атверзашася, сірэч нябесныя, і ты, атрочыца ізыдзі, заве Хрыстос, Гасподзь Бог наш. Амінь".

Такім чынам, вобраз Багародзіцы з’яўляецца асноўным вобразам замоў, звязаных з родамі, бо менавіта да яе звяртаюцца ў час выпрабаванняў у розных жыццёвых сітуацыях, і ў першую чаргу ў час з’яўлення на свет новага чалавека. У замоўных тэкстах Прачыстая Маці выступае і як фальклорна-міфалагічны, і як персанаж хрысціянскай міфалогіі з адпаведнымі атрыбутамі.

***

У функцыянальнай групе лекавых замоў асобную падгрупу складаюць замоўныя тэксты ад дзіцячых хвароб, сярод якіх найбольшай папулярнасцю карыстаюцца замовы “Ад начніц” (“Ад крыксаў”).

Паводле міфалагічных уяўленняў, “калі дзеці курчацца і крычаць ад болю, не спяць па начах, – гэта іх катуюць начніцы – маленькія і злосныя духі ночы” [5, с.16]. Л. Вінаградава адзначала, што “прычынай дзіцячага плачу і дрэннага сну лічылася ўздзеянне на дзіця дэманічнай істоты (пераважна – жаночых міфічных персанажаў)” [6, с.302]. Як паведаміла інфарматар Е. Ф. Рэвуцкая з в. Колкі Петрыкаўскага р-на, “у нас не спіць дзіця, дак думаюць, нейкія крыксы там, гаварылі. А крыксы я вам раскажу. Хто яго ведае, яно праўда – яно не праўда, а робіцца” [1, с.556-557].

Вытокі гэтай хваробы разнастайныя. У замове “Ад начніц”, прыведзенай А. Багдановічам, “Цёмная ночка // Начніц парадзіла, – // Малому дзіцяці // Мукі нарабіла” [5, с.16]. Калі вытокі хваробы дакладна не вызначаны, выгаворваюцца начніцы “дзённыя, палудзенныя, начныя, палуначныя, прыдуманыя, прыгаданыя, урочлівыя, прыгаворныя” (в. Бярозкі Гомельскага р-на [1, с.333, №1135]), “бацькавы і маткіны, і дзявоцкія і парабоцкія, і жалосныя і карысныя, уцешныя і пасмешныя, светавыя, заравыя” (в. Чарацянка Гомельскага р-на [1, с.334, №1136]), “... урошныя, прыгаворныя, ветраныя, вадзяныя ... жаноцкія, дзявоцкія, рабяцкія, хлапяцкія” (г. Ветка Гомельскай вобласці [1, с.335, №1144]), “раннія, вячэрнія ... пужаныя, здрыганыя, уляканыя, крыкслівыя, дрыслівыя, прыглядныя, прыпадныя, пацешныя, пасмешныя, ад старых старух, старыкоў, ад старых старыц, ад маладых маладзіц, ад красных дзявіц” (в. Барсукі Кармянскага р-на [1, с.341, №1172]) і інш.

Паводле міфалагічных уяўленняў, начніцы "... толькі можа прагнаць светаносны пачатак – агонь. Ноччу, калі дзіця асабліва раскрычыцца, распальваюць печ і перад полымем "палаюць" хворае дзіця. Палаць – уласна азначае ачышчаць ад шалупіння ячныя ці якія-небудзь іншыя крупы пасродкам патрэсвання ў асобых ночвах-паланках. Нешта падобнае робяць і з хворым дзіцём. Яго кладуць у "прыпол", у падол сукенкі, гойдаюць перад полымем, злёгку патрэсваючы, і шэпчуць замову... Полымя або пажырае начніц, або праганяе іх" [5, с.16-17]. Адзін са спосабаў пазбаўлення ад начніц звязваўся з выкарыстаннем печы ці іншых хатніх прылад. Як паведаміла Н.Г. Раманава, 1920 г. н., з в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на, падчас прамаўлення замовы неабходна "розачкамі павадзіць, павадзіць, ды ў печ укінуць. Да сказаць: "Ад чаго стала, шоб так яно і прапала". І прападуць гэтыя крыксы" [1, с.558]. Каля печы неабходна здзяйсняць рытуал лекавання, пра які гаворыць у каментарыі да замовы "Ад крыксаў, плаксаў" В.П. Сугак, 1910 г.н. (в. Казлы Ельскага р-на): "Шэпчуць рана раніцай каля печы, паставіўшы нагу на табурэтку і ўзяўшы дзіця на рукі" [1, с.554]. Сярод замоўных матываў, звязаных з пазбаўленнем ад начніц, можна назваць мікраматыў "Адсыланне ў печ" ("Шух у печ! Шух у печ!" (в. Старынкі Шчучынскага р-на, вар. в. Кавалі Ельскага р-на) [1, с.333, №1131]).

Суб'ектамі сюжэтаўтваральнага матыву "Спосабы пазбаўлення ад хваробы" выступаюць як ***хрысціянскія персанажы*** (*папы*, што за прыстолам, які стаіць на камені ў полі пад грушай, "кадзільніцамі матаюць, ад гэтага дзіцяці крыксы і плаксы і нуду атнімаюць і на сіняе мора ссылаюць, а яму сон прысылаюць" (в. Колкі Петрыкаўскага р-на [1, с.337, №1153]), *архангел Міхаіл* ("там ездзіць архайла Міхайла на вараным кані, коніка паганяе, пачынкаю не пускае, ад Тані вотначы адганяе" (в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на [1, с.339, №1162])), *дзячок*, які пад бярозаю ў чыстым полі доўгай пугаю "крыксы паганяе, крыксы, плаксы панянятам у падушку. Там вам піць і гуляць і да етага дзіцяці патрэбы не маць" (в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на [1, с.336, №1151])), так і ***персанажы язычніцкай міфалогіі*** (*замаўляльнік* ("Крыксы-плаксы ўгавараю, упрашаю з ёлкі зваліцца, на сук прабіцца, на

іголкі пакалоцца, на шчэпкі нашчапіцца, а з (імя) адкасніцеся” (в. Барсукі Кармянскага р-на [1, с.340, №1165])), *дзявіцы* (“дзевяць дзевяцей дзявіц, да ўсе яны сястрыцы”), што беглі з-пад цёмнага лесу ды “ўхапілі ад маго дзіцятка крыксы і плаксы і начніцы, пабеглі крутымі беражкамі, жоўтымі пяскамі за цёмныя лясы, на зялёну мураву. Там яны сабе гуляюць і спачыўкі маюць. Там вы сабе гуляйце і спачыўкі майце, а маго дзіцятка не турбуйце! Няхай мае дзіцятка спіць і гуляе, і расце і прыбывае. Угу! Пабеглі, панеслі! Бяжыце, нясіце, а маго дзіцятка не турбуйце” (в. Дзерашэвічы Мазырскага п. [1, с.337, №1152])), ***прадстаўнікі жывёльнага свету*** (*вараны* (“вачамі яны выглядалі, дзюбкамі яны выклявалі, кохцямі яны выдзіралі, крылламі яны вымяталі, Івану спакойны сон засыпалі” (в. Трылесіна Быхаўскага р-на [1, с.337, №1156])), *певень* (“ён песінкі (с)піваў, з раба божага (імя) начніцы ўга[в]араў. Начніцы дные (дзённыя), супаўночныя, уга[в]араў, усылаў: “На сіням моры сталы засціланые, кубкі наліваные. Там вам, начніцы, піць, гуляць! Там вам свадзьбы спраўляць! У раба божага (імя) век зроду начніц не бываць!”” (в. Залатуха Калінкавіцкага р-на [1, с.338, №1157])).

У замовах аналізуемай функцыянальнай групы матыў “Спосабы пазбаўлення ад хваробы” цесна звязаны з матывам “Зварот замаўляльніка...”. У тэкстах замаўляльнік звяртаецца як непасрэдна да ***хваробы*** (з субматывам “Адсыланне на непрывабныя месцы”: “Крыксы-начніцы ... ідзіце на мхі зыбучыя, на воды бягучыя, дзе люлькі, зыбкі, разныя напіткі” (г. Гарадок [1, с.334, №1137]), “Дабрыдзень, начніча, добры чалавеча ... Ідзі ў шчырыя бары, у цёмныя лугі, дзе ногі не ходзяць, тавары не гоняць. Там табе піці, гуляці, шумаваці” (в. Прусы Старадарожскага р-на [1, с.338, №1159]); з субматывам “Адваротнае адсыланне”: “Нашнік-нашнік, жалезны сашнік, адкуль прыйшоў, туды пайшоў, адкуль прыехаў, туды паехаў, адкуль прыляцеў, туды паляцеў” (в. Будзенічы Старадарожскага р-на [1, с.337, №1155]); з субматывам самагубства: “Начніцы, ці вы начныя, ці паўночныя, ці вы светавыя, ці вы ранішнія, ці вы дзёняшнія? Наце вам ножык да зарэжцеся, верацяно – скалецеся, нітачку – павесцеся, а ад (імя) адкасніцеся” (в. Дзяржынск Лельчыцкага р-на [1, с.339, №1164])), так і да пасрэднікаў, у якасці якіх выступа-

юць ***бабкі*** (“Прашу цябе, бабка, благаю цябе, бабка, прыйдзі забяры з мае Мані крыкі, зыкі ... Занясі іх за Дунай-мора, за Дунай-поле. Там ім піць-гуляць, добра сабе маць, а ў рабы божай Мані начніцы не бываць і болі не чуваць, і харч паядаць, і крэпкім сном спаць” (в. Асарэвічы Брагінскага р-на [1, с.336, №1149])), “***лялькі і мамкі***” (“Лялькі і мамкі, няньчыцеся, мамчыцеся, вотначай не пускайце... Ссылайце, дзе пеўні не пяюць, сабакі не брэшуць, дзе людзі не ходзяць” (в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на [1, с.339, №1162])), “***зоры-зарнічкі***” (з просьбай забраць ад дзіцяці “крыксы-плаксы” і занесці іх “на сіняе мора, на крутыя горы, на Васіяньску гору”, дзе ўжо прыгатаваны “калыскі залатыя, пелюшкі шаўкавыя” (в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на, вар. в. Усоха-Буда Добрушскага р-на [1, с.333, №1133]) (або “Зарніцы, родныя сястрыцы, вазьміце Валіны крыксы, плаксы, па гарах, па далінах панасіце” (в. Казлы Ельскага р-на [1, с.333, №1134])), ***ваўкі*** (“Ты, ваўчок-ваўчышча, бяры Івана начышча, нясі сваім дзеткам” (в. Пятровічы Светлагорскага р-на [1, с.335, №1146])), ***куры*** (з просьбай забраць хваробу (“Курачкі-сакатушкі, вазьміця ад маладзенца начнушкі” (в. Пятровічы Светлагорскага р-на [1, с.334, №1140]), “Дабрывечар, курачкі-сястрычкі! Вазьміця ад Адаркі нашнічкі...” (в. Задораўка Гомельскага павета [1, с.334, №1141]) і інш.). Як бачым з прыведзеных прыкладаў, мэта звароту – пазбаўленне ад хваробы – у розных выпадках дасягаецца па-рознаму ў залежнасці ад аб’екта звароту, прычым, калі да хваробы выяўляюцца розныя адносіны – ад задобрывання да праклёну (“дабрыдзень, начніча, добры чалавеча”, “наце вам ножык да зарэжцеся, верацяно – скалецеся, нітачку – павесцеся”), – то да іншых персанажаў замаўляльнік звяртаецца толькі паважліва, што выражаецца пры дапамозе памяншальна-ласкальных суфіксаў (-ачк-, -ушк-, -ок-), наяўнасці прывітанняў (“дабрывечар”), выказвання роднасных адносінаў (“зарніцы, родныя сястрыцы”).

Матыў “Зварот замаўляльніка...” звязаны і з даволі папулярным матывам замоў функцыянальнай групы “Ад начніц” – “Пасватаемся-пабратаемся”. Аснову сюжэта складае супастаўленне “дзіця міфалагічнага персанажа – дзіця замаўляльніка” з наступнай дамоўленасцю, напрыклад, “тваёй дачухначке крыксы-плаксы,

а майму сыночку спаць, гуляць, а на гора забуваць" [1, с.341, №1170]. У большасці выпадкаў гучаць субматывы "Зварот замаўляльніка да язычніцкіх персанажаў" (лесавога (верасовага) дзеда, дзеда Севярына, баравой (лесавой, балотавай, чаротавай, заморскай) бабы), "Зварот замаўляльніка да прыродных з'яў і аб'ектаў" (цёмнай ночкі, зорачкі-зарыцы, дуба Лебядзіна): "Ты дзед лесавы, я баба барава. Ідземо пасватаемся, пабратаемся. Вазьміце Наташыны крыксы, плаксы, па гарах, па далінах панясіце, Наташцы ў калыску сну прынясіце" (в. Казлы Ельскага р-на [1, с.340, №1166]), "Лесавы дзед – гу-у, лесавая баба – гу-у. Пасватаемся, пабратаемся. У цябе маладзёна, у мяне маладзёніха. Вазьмі ў маёй маладзёніхі крыксы, плаксы, занясі сваёй маладзёніхі, пуд галаваньку пакладзі, штоб мая маладзёніха спала і гуляла, штоб у яе цела прыбывала" (в. Антонаў Нараўлянскага р-на [1, с.340, №1168]). У апошнім прыкладзе наладжванне роднасных адносінаў ("пасватаемся-пабратаемся") узмацняецца эўфанічным прыёмам усталявання двухбаковай сувязі – выкарыстаннем выклічнікаў "гу-у". Часта гэты матыў сустракаецца з матывам абмену: "Бабка балотавая, бабка чаротавая, сыйдзем пасватаемсь, пабратаемсь, у цябе дачухначка, у мяне сыночак. Тваёй дачухначке крыксы-плаксы, а майму сыночку спаць, гуляць, а на гора забуваць" (в. Хутар Светлагорскага р-на [1, с.341, №1170]); "Твайму сыночку Захарцы па лесу крычаці ды верашчаці, маёй дочачцы Наталцы ў калысаццы спаці, да гуляці, да прыбуваці" (в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на [1, с.340, №1167]). У апошнім прыкладзе сын міфалагічнага персанажа мае ўласнае імя, што ў беларускай замоўнай традыцыі – з'ява даволі рэдкая, тым больш што імя Захар часцей прысутнічае ў замовах ад сурокаў і ад зубнога болю. У дадзеным выпадку наяўнасць гэтага імя сведчыць пра больш позні час з'яўлення замовы, бо лічыцца, што на Русь імя Захар прыйшло з Візантыі пасля прыняцця хрысціянства.

У невялікай колькасці замоўных тэкстаў аналізуемай функцыянальнай групы матыў "Пасватаемся-пабратаемся" гучыць з матывам вяселля дачкі міфалагічных персанажаў ("заморскай бабкі" і "лесавога дзядка" ці цёмнай ночы, або сасны-красны)

і сына замаўляльніка: “Добры вячор табе, цёмная ночка. У мяне сынок Адамко, у цябе Еўка дочка, пасватаймось, пабратаймось, пакахаймось і падружымося” (в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на [1, с.342, №1173]). Як адзначае Г. Барташэвіч, у варыянце гэтай замовы, запісаным у в. Барталамееўка Веткаўскага р-на, матыў жаніцьбы дапаўняецца матывам падзелу крыксаў-плаксаў: “Сасна красна, у цябе сын, а ў мяне дачка. Давай мы іх пажэнім, крыксы-плаксы падзелім”. Апошні матыў удакладняецца ў замове з в. Вішнёўка Гомельскага р-на: “...Крыксы-плаксы падзелім, табе няхай болей, а мне няхай меней” [1, с.559]. Матыў вяселля ўзгадваецца і ў замове, запісанай у в. Барсукі Кармянскага р-на. Замаўляльнік звяртаецца да зары-зарыцы з просьбай забраць для яе сына сваю дачку (або наадварот, у залежнасці ад таго, каго лечаць), і ў якасці прыданага – “мае крыксы-плаксы, раннія, вячэрнія, начныя, палуночныя, дзянныя, палудзённыя, пужаныя, здрыганыя, уляканыя, крыкслівыя, дрыслівыя, прыглядныя, прыпадныя, пацешныя, пасмешныя, ад старых старух, старыкоў, ад старых старыц, ад маладых маладзіц, ад красных дзявіц” [1, с.341, №1172]. Сюжэт наступнай замовы дапаўняецца матывам абмену: “Пасватаймася, пабратаймася, пакумемася, палюбемася. У мяне сынок, у цябе дочачка, пажанема, падружэма. Няхай тваёй дочачцы крыксы-крыксавіцы і плаксы-плаксавіцы, а майму сынку спанне-прыбыванне. Усякія вочы хай прымае. Каб твая дочачка крычала і верашчала, а мой сынок спаў і прыбываў і ўсякія вочы прымаў” (в. Прыбалавічы Лельчыцкага р-на [1, с.340-341, №1169]). Пажаданне “штоб у яе цела прыбывала” (“а мой сынок спаў і прыбываў”), як лічыць Т. Агапкіна, “адлюстроўвае ўяўленне аб тым, што дзеці растуць у сне” [7, с.47].

У некаторых выпадках матыў абмену больш падобны на матыў ахвярапрынашэнняў: “Добры вечар, куркі серыя, белыя! К вам хазяюшка прыйшла, хлеб-соль прынясла. Хлеб-соль вы з’ядалі, а майму дзіцёначку каб спаць далі” (в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на, вар. в. Пятравічы Кармянскага р-на, в. Вішнёўка Гомельскага р-на [1, с.334, №1139]), “Куркі чубатыя, хахлатыя, чорненькія, рыжанькія, беленькія, наце вам хлеб-соль, дайце дзіцяці сон, штоб спаў, драмаў і яшчэ хацеў” (в. Задуб’е Кармянскага р-на

[9, с.98, №367]). У апошнім прыкладзе пры намінальным звароце замаўляльніка да курэй рэальныя дзеянні не былі звязаны з імі: "Тройчы абносіш хлебам вакруг дзіця, гаворыш..." [9, с.98, №367]. Г. Барташэвіч адзначала, што "замовы са зваротам да курэй суправаджаюцца адпаведным рытуалам, які ў розных месцах вар'іруецца, застаючыся адзіным у асноўных дэталях: паход да курасадні, сыпанне курам харчавання або абліванне вадой. У в. Вішнёўка нясуць хлеб і соль, становяцца задам і гавораць замову. Трэба яшчэ плюнуць на левы бок ("урагу ў вочы, бо па праваму боку ідуць праведныя людзі, а па леваму грэшныя"), а ў хату вяртацца не аглядваючыся. Больш складаны рытуал у в. Пятравічы. Там гатуюць дзевяць хлебных галачак, тройчы па тры падкідаюць іх угору з адпаведнымі словамі, а дзіця трымаюць на руках" [1, с.555]. Ахвяры прыносіліся і непасрэдна самой хваробе: "Крыксы-начніцы, наце вам хлеба-солі, дайце майму дзіцяці сну даволі" (в. Кротаў Калінкавіцкага р-на [9, с.78, №260]), "Крыксы, крыксы, дарую я вас хлебам-соллю, белай рубашачкай, красным паясочкам – даруйця майго дзіцяці добрым здароўем і сном!" (в. Барталамееўка Веткаўскага р-на [1, с.334, №1138]). У каментарыі да апошняй замовы інфарматар паведаміла, што неабходна было выканаць і пэўныя дзеянні: "Усё адбывалася не перад печчу, а "на тры калы" – стаякі дзвярэй, бакавыя і верхні. Адпаведна ўжываўся і тэкст замовы. "Пакойніца свякруха насіла на тры калы: "Добры вечар, тры калы, вазьміце маіх тры бяды, прыміце маю хлеб-соль і дайце рабе божае Каці сон". Як вячэраеш, дак яна сцірае са стала крошачкі, што нацярушацца, і тады ўжо гэтыя крошачкі ў руку бярэ і бярэ гэтае дзіця і нясе пад етых тры калы на калідоры. І кажа: "Прыміце мой хлеб-соль, – і шпурне гэтыя крошачкі, – а дайце рабе божай Каці сон". Гэта на вячэрнюю зару. Ну, гэта ж выходзя так: на дзверы ж два стаіць і сюды адзін. Ну, вот і тры калы выходзя. Эта ж цяпер аббіваюць кругом, а тады аббівалі толькі ўнізу, а гэтыя ж і стаяць стаякі, вот тры калы палучаецца" (зап. Г. Барташэвіч [1, с.554]).

У замове, прыведзенай Е. Раманавым у "Беларускім зборніку", матыўны комплекс набывае наступны выгляд: "Зварот замаўляльніка да дуба" → "Пасватаемся-пабратаемся" (мяркуемы) → "Вытокі хваробы" → "Адсыланне з частак цела" → "Адсыланне

ў непрывабныя месцы”, прычым непрывабнымі гэтыя месцы з’яўляюцца толькі для чалавека, а для дачкі дуба Лебядзіна – родным домам: “Дабрыдзень, дуб Лебядзін! У цябе дочка, у мяне сын… І бяры ты ад яго плаксы і крыксы, і варыксы, і дзянныя … І бяры з жыл, з пажыл, з гаручыя крыві… Ідзіця вы на цёмныя лясы, на тоўстыя дубы, на шырокія лісты – там вам піць і буяць…” [8, с.33, №115].

У замовах аналізуемай функцыянальнай групы сустракаецца і формула магічнага падабенства “як-так”. У тэксце, запісаным ад А.Г. Касцель, 1902 г.н., з в. Языль Старадарожскага р-на, замаўляльнік загаворвае “начнікі, крыксы”, успамінаючы сваю памерлую маці: “Ішла пані ў чорным плацці, нясла начнікі – на панянята, на дзекаранята, на жыдзянята. І як з таго свету мамачцы не ўстаць, так крыксаў, начнікоў у Наташкі да смерці не бываць” [1, с.338, №1158], або “Як мне, Просі, пад вянцом не стаяці, на пасадзе не сядзеці, а дзіцяці легенька спаці, так вам, пакідным начнікам, ніколі не бываці” (в. Прусы Старадарожскага р-на [1, с.338, №1159]). Тэкст апошняй замовы запісаны ад П.С. Вусік, 68 год. Рэальны выканаўца замовы хутчэй за ўсё з’яўляецца і віртуальным галоўным дзеючым персанажам у замоўным тэксце, прычым гэта жанчына сталага ўзросту, якая ўжо замуж выходзіць не будзе.

Да выканаўцаў замоў ад іншых дзіцячых хвароб таксама прад’яўляюцца пэўныя патрабаванні. Напрыклад, як паведаміла Соф’я Міхайлаўна Пазняк, 1935 г. н., з г.п. Азарычы Калінкавіцкага раёна, пры лекаванні “Ад заікання (для дзіцяці)” замову можа чытаць як знахарка, так і сам хворы, аднак, “еслі лечіць масцер, надо, штоб отчество его не совпадало с отчеством больного. Еслі самого сябе лечіць, то ўсе зеркала ў доме должны быць повёрнуты на восток. Лечіць в среду” [9*]. Часцей за ўсё замовы ад дзіцячых хвароб чытаюцца або бабкамі-шаптухамі, або маці немаўляці. У каментарыях да некаторых тэкстаў пра гэта паведамляецца: “Я бяру дзіця на рукі і іду ў тую хату, дзе адно вакно. Да сцяны прытулю нагу, і дзіця на руках. І шапчу…” [1, с.557, №1160]. У большасці выпадкаў інфарматары не ўдакладнялі, хто павінен чытаць замову, але часам каментарыі даюць магчымасць

выказаць меркаванне адносна галоўнай дзеючай асобы ў замоўна-заклінальным комплексе. Напрыклад, “як захварэе первенец вельмі цяжка, нада апрануць свадзебны нарад і як бы прысесці ў ім на дзіцця, гаворачы: “Якім местам парадзіла, такім і ісцаліла”” [5*]. Як бачым з прыведзенага прыкладу, і каментарый інфарматара, і змест замоўнага тэксту дазваляюць меркаваць, што выконваць падобныя дзеянні павінна маці дзіцяці.

Спіс інфарматараў:

1*. Барабанава Аляксандра Міхайлаўна, 1941 г.н., в. Новая Гусявіца Буда-Кашалёўскага раёна.

2*. Вага Ева Пятроўна, 1942 г.н., в. Дуброва Лельчыцкага раёна.

3*. Валатковіч Т. А., 1956 г.н., в. Загорыны Мазырскага раёна (замовы пераняла ад маці).

4*. Горбач Марыя Іванаўна, 1931 г.н., в. Хамічы Калінкавіцкага раёна.

5*. Грыневіч Марыя Іванаўна, 1930 г.н., г. Мазыр (нарадзілася ў в. Матрункі Мазырскага раёна).

6*. Грышчанка Еўдакія Пятроўна, 1921 г.н., в. Пярэдзелка Лоеўскага раёна (у вёсцы вядома як знахарка).

7*. Жураўлёва Ганна Іванаўна, 1914 г.н., в. Каменка (нарадзілася ў в. Бераставец) Кармянскага раёна.

8*. Леўкавец Васіліна Фёдараўна, 1926 г.н., в. Хваенск Жыткавіцкага раёна.

9*. Пазняк Софія Міхайлаўна, 1935 г. н., г.п. Азарычы Калінкавіцкага раёна.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

Літаратура

1. Замовы / уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г.А. Барташэвіч; рэдкал.: А.С.Фядосік (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 597 с.

2. Замовы / уклад.: У.А. Васілевіч, Л.М. Салавей; уступ. арт.: Л.М. Салавей. – Мінск: Беларусь, 2009. – 519 с.

3. Русская мифология. Энциклопедия. – М.: Эксмо; СПб.: Мидгард, 2005. – 784 с.

4. Домников, С.Д. Мать-земля и Царь-город. Россия как традиционное общество / С.Д. Домников. – М.: Алетейа, 2002. – 672 с.

5. Богданович, А.Е. Пережитки древняго миросозерцания у белоруссовъ : этнографический очерк / А.Е. Богданович. – Гродна: Губернская Типография, 1895. – 186 с.

6. Виноградова, Л.Н. Народная демонология и мифо-ритуальная традиция славян / Л.Н. Виноградова. – М.: Издательство "Индрик", 2000. – 432 с. (Традиционная духовная культура славян / Современные исследования).

7. Полесские заговоры (в записях 1970–1990 гг.) / сост., подготовка текстов и коммент. Т.А. Агапкиной [и др.]. – М.: Издательство "Индрик", 2003. – 752 с.

8. Романов, Е.Р. Белорусский сборник. Вып. 5. Заговоры, апокрифы и духовные стихи. – Витебск, 1891.

9. "На моры-акіяне, на востраве Буяне..." (лекавыя замовы Гомельшчыны) : фальклорна-этнаграфічны зборнік / С.А. Вяргеенка; пад рэд. В.С. Новак; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2009. – 220 с.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

# Асаблівасці вобразна-паэтычнай сістэмы радзінна-хрэсьбінных песень Гомельшчыны

Як вядома, значнае месца ў сямейна-абрадавым фальклоры займае радзінна-хрэсьбінная паэзія. Разам са шматлікімі рытуальнымі дзеяннямі і бытавымі традыцыямі святкаванне прыходу ў жыццё і хрышчэнне нованароджанага, вітанне яго з пажаданнямі здароўя, шчаслівай долі, дабрабыту, абароны ад усяго нядобрага суправаджаецца спевамі. У асноўным радзінна-хрэсьбінныя песні па сваім змесце і гучанні могуць быць зычэннямі, творамі заклінальнага, велічальнага, гулліва-жартоўнага, бяседнага і больш шырокага па тэматыцы характару. Пераважна яны маюць канкрэтных адрасатаў у асобах непасрэдных удзельнікаў сямейнай урачыстасці: дзіцяці, парадзіхі ці абодвух бацькоў, але найбольш часта – бабкі, кума і кумы. У значнай ступені якраз пэўнай акрэсленасцю кола “дзеючых асоб” абумоўлена традыцыйная ўстойлівасць вобразна-мастацкіх прыёмаў і сродкаў стварэння і абмалёўкі іх характараў, вызначэння ролі ў самім радзіннахрэсьбінным абрадзе і тых тэкстах, што яго суправаджаюць.

У адпаведнасці з акрэсленым крытэрыем спынімся больш дэталёва на асаблівасцях паэтычнай сістэмы радзінна-хрэсьбінных песень Гомельшчыны, сабраных на працягу некалькіх гадоў студэнтамі і выкладчыкамі філалагічнага факультэта УА “ГДУ імя Ф. Скарыны”.

Папярэдне хацелася б вылучыць такую ўстойлівую для ўсіх “адрасных” тэкстаў адзнаку, як **выкарыстанне звароткаў**, што часта выступаюць штуршком для далейшага прадстаўлення ў творах заклінальных і велічальных формул. Пра гэта сведчаць ужо першыя радкі радзінных песняў. Да прыкладу: “***Ой, учора, мае кумочкі***”, “***Ой, куме, куме***”, “***Ой, ты, куме, куманёк***”, “***Мой кумочак, мой кумочак***”; “***Кума мая, кумачка***”, “***Ой, учора ў кумы***”; “***Ой, ты, баба, баба***”, “***Баба мая, бабулечка***”, “***Бабулька ж мая міленькая***” і інш.

Традыцыйна народныя песні суправаджаюцца **выгукамі (воклічамі),** што могуць спалучацца з тымі ж зваротkамі, **памяншальна-ласкальнымі формамі слоў.** У некаторых выпадках узмацняльнымі выгукамі пачынаецца кожны песенны радок:

***Ох****, зялёны дуб развіваецца,*
***Ох****, кум да кумы сабіраецца.*
***Ох****,* ***кумка*** *мая, прынясу я жыта.*
***Ох****, не нясі,* ***куманёк****, бо я буду біта.*
***Ох****, кумка мая, прынясу я грэчкі.*
***Ох****, кум, не нясі, будуць супярэчкі.*

(Запісана ў в. Букча Лельчыцкага р-на ад Сушчык Надзеі Раманаўны, 1926 г.н.).

Шмат велічальных і жартоўных песень прысвячалася бабцы-павітусе, якая спяшалася найперш дапамагчы парадзісе. У тым ліку, і мудрымі парадамі, добрымі пажаданнямі: *"Дай жа,* ***Божа,*** *маёй* ***унучцы,*** *//* ***Лягенько, дабрэсенько, скарэсенько!"*** (запісана ў в. Буркі Брагінскага р-на ад Раманюк Марыі Адамаўны, 1930 г.н.). У другім варыянце яны гучаць так: "*Дай жа,* ***Божэ****, маёй унучцы //* ***Лягесенько, дабрэсенько, скарэсенько!***" (запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на ад Пiліпейка Надзеі Мікалаеўны, 1930 г.н.). Бабку адорвалі падарункамі, усяляк ухвалялі, даручалі першы раз купаць дзіця, садзілі на пачэснае месца ў хаце – у покуце пад абразамі ("Сядзіць бабка на куце", "Бабулька ж мая міленькая", "Каб я знала, ведала", "Не стук стучыць па вуліцы", "У нядзельку рана-ранюсінька" і інш.).

Характэрнай прыкметай народна-песеннай паэтыкі з'яўляецца частае выкарыстанне **рытарычных пытанняў**. Менавіта яны, паводле меркавання Ніла Гілевіча, – "лепшы спосаб завязаць размову, пачаць шчырую і пранікнёную лірычную споведзь" [1, с.190]. Варта ўдакладніць, што ў асобных творах такія пытанні не толькі ўтвараюць інтрыгуючы пачатак, але і працягваюць далей утрымліваць напружанне сюжэтнага дзеяння праз чаргаванне іх і адказаў. Пры гэтым песенны лірызм можа змяняцца жартаўліва-размоўнай, прыпевачнай інтанацыяй, гумарам, іроніяй, дакладнасць дэталяў схіляцца ў бок непраўдападобнасці.

Якраз такія пераўтварэнні адбываюцца ў песнях “А хто ў нас ды па ночцы ходзіць”, “Выйшла хмарка, выйшла цёмна”, “Кума мая, кумачка”, “Чаго ты, кумок” і інш.

Значную ролю ў радзінна-хрэсьбінным меласе выконваюць **паўторы** самастойных і службовых часцін мовы. На **падвойным паўторы кожнага радка** заснаваны тэксты песень “А ў саду явар зелянюсенькі”, “А кум куме рад, павёў куму ў сад”, “Сягоння ў нас імяніны”. Надзвычай узмацняюць сэнсавую завершанасць думкі і музычную напеўнасць твораў **спіральныя паўторы** (стыкі), а таксама **паўторы другога радка** іншы раз структурна не вылучаных дыстыхаў, што адразу робіць іх, як у прыведзеным ніжэй прыкладзе песні, трохрадкоўямі:

*Стаіць шацёр над вадою,*
***Вецейкі да долу,***
***Вецейкі да долу.***
*А ты ж сабе, мая кумачка,*
***Едзь сабе дадому,***
***Едзь сабе дадому.***
*Ды я ж цябе, мая кумачка,*
***Люблю і кахаю,***
***Люблю і кахаю.***
*Ды я ж цябе, мая кумачка,*
*Я ж цябе не трымаю.*

(Запісана ў в. Аравічы Хойніцкага р-на ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.).

У адрозненне ад **эпіфар**, якія часткова рэалізуюцца ў тэкстах праз радковыя паўторы ці скразную рыфму (“Ой, завешаны каўры”, “Сягоння ў нас імяніны”, “Не кукуй, зязюлечка, рана” і інш.), у гэтым разрадзе сямейна-абрадавай лірыкі асаблівую ўвагу звяртае на сябе вялікая колькасць выкарыстання **анафар**. У некаторых песнях, пабудаваных у форме дыялогу паміж будучым бацькам і бабкай-павітухай, з дапамогай іх у кампазіцыі твора размяжоўваюцца пытальны і адказавы планы размоўнай канструкцыі.

*__А хто ў нас__ ды па ночцы ходзіць,*
*__А хто ж у нас__ ды бабульку просіць:*
*– Бабулечка мая, галубачка мая,*
*Прыдзі ж ты ко мне, ды к моёй жане.*
*У моей жаны жыватокс баліць,*
*Жыватокс баліць, усю сярэдзіну ломіць.*
*– Унучак ты мой, галубочак мой,*
*Не журыся ж ты, каго Божа дасць.*
*__Як__ сын, то пісаці будзе,*
*__Як__ дачка, то вышываці будзе.*
*__Як__ сын, малявана калыбелька,*
*__Як__ дачка, лубяная каробачка .*

(Запісана ў г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на ад Карась Валянціны Ігнатаўны, 1919 г.н., Кулеш Настассі Ігнатаўны, 1925 г.н.).

Прысутнасць адзінапачаткаў у тэксце іншы раз становіцца больш адчувальнай дзякуючы такім сродкам паэтычнага сінтаксісу, як **інверсія і эліпсіс.**

*__А я ж і ету__ бабку,*
*__А я ж і ету__ любку,*
*__А я ж__ й бабкай не браў.*
*__Ні__ часта хадзіла,*
*__Ні__ смачна насіла,*
***Усё ўнучцы сваёй.***
*Першы раз __к унучцы свае –__ юшку.*
*Другі раз __к унучцы свае –__ калатушку,*
***Усё к унучцы свае.***

(Запісана ў в. Гулевічы Калінкавіцкага р-на ад Шорап Марыі Іванаўны, 1923 г.н.).

Па колькасным паказчыку сярод радзінна-хрэсьбінных песень Гомельшчыны пераважаюць творы, адрасаваныя куме і куму. Яны вылучаюцца дасціпнасцю, жартаўлівым характарам, часта змяшчаюць у сабе адкрыты ці прыхаваны намёк на магчымы працяг блізкіх адносін паміж героямі. Як, скажам, у адной з наступных песень, запісанай у Калінкавіцкім раёне.

*Кума кума любіла,*
*К сабе ў госці звала.*
***– Ты, кума, ты, душа,***
***Саўсім кума хараша, красіва.***
*Кум к куме ў хату,*
*Кума куму букату.*
***Ты, кума, ты, душа,***
***Саўсім хараша.***
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў ножкі:*
***Спасіба табе, кумок, мой галубок,***
***Што дамоўкі прывёз.***
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў пяткі:*
***Дзякуй табе, мой кумок,***
***Што прывёз да хаткі.***

**(**Запісана ў в. Гулевічы Калінкавіцкага р-на ад Шорап Марыі Іванаўны, 1923 г.н.**)**.

Прыведзеныя прыклады – яшчэ адзін доказ таго, што ў народнай паэзіі фанетычная і рытмічна-інтанацыйная цэласнасць лірычнага твора пераважна дасягаецца не столькі за кошт сугуччаў клаўзул, колькі дзякуючы гукавым супадзенням у пачатку і сярэдзіне радкоў, актыўнаму выкарыстанню розных відаў паўтораў. Так, акрамя анафар, у тэксце песні “А хто ў нас ды па ночцы ходзіць” прысутнічае **стык** “*жыватак баліць, // Жыватак баліць*”. У творы “А я ж і ету бабку” сустракаецца **радковы паўтор** “*Усё ўнучцы сваёй*”, відазменены ў другім выпадку (“*Усё к унучцы свае*”). У апошнім з прыведзеных тэкстаў “Кума кума любіла” колькасць такіх відаў **паўтораў**, але ўжо **двухрадковых**, павялічваецца ўдвая. І калі ў першай частцы песні падкрэсліваецца вабнасць кумы, прыязнае стаўленне да яе кума (“*Ты, кума, ты, душа, // Саўсім кума хараша, красіва*”), то ў другой гіпербалізавана перадаецца ўдзячнасць жанчыны, якая суправаджаецца паклонам куму ў ногі, затым у пяткі, за суправаджэнне дадому (“*Спасіба табе, кумок, мой галубок, // Што дамоўкі прывёз*”). Пры гэтым цалкам дапушчальным становіцца яго далейшае гасцяванне ў хаце кумы, прычына для якога называлася яшчэ ў са-

мым пачатку песні: “*Кума кума любіла, // К сабе ў госці звала*”. Вядомы фалькларыст А.С. Фядосік падобныя да апісанай з’явы, як і папулярнасць такіх песень, растлумачвае тым, што “ўдзельнікі беларускіх хрэсьбін у мінулым верылі ў звышнатуральную сілу смеху, эратычных песень, надзялялі іх прадуцыруючай функцыяй, здольнасцю забяспечыць нараджальнасць, здароўе і шчасце нашчадкаў” [2, с.47].

У паэтыцы радзінна-хрэсьбінных песень часта сустракаюцца такія прыёмы інтанацыйна-сінтаксічнай арганізацыі тэксту, як **бяззлучнікавасць** і **шматзлучнікавасць**. Абодва яны ўласцівы многім песням, адрасаваным куме і куму, іх, ухваленаму гасцямі і шчодраму на гарэлку, пачастунку (“Куме, куме, добра гарэлка”, “Ішоў кум гарою”, “Сядзіць кумка на куце” і інш. ). У некаторых выпадках выкарыстанне асіндэтона і полісіндэтона суправаджаецца ўласцівымі для традыцыйнага народнага светаўспрымання сродкамі каляндарна-тыднёвай дэталізацыі, градацыйнага нанізвання, адпаведнасцю дакладнага побытавага і сакральнага дзеяння паслядоўнаму лінейнаму часу, што яшчэ больш спрыяе перадачы жартаўліва-вясёлага ці ўзрушана-ўрачыстага эмацыянальнага стану герояў дзеі. У прадстаўленым ніжэй тэксце песні, прысвечанай бабцы, чыя каша за падарункі раздавалася гасцям, паўтараецца не толькі злучнік “а”, але і прыназоўнік “ў”, ужываюцца аднародныя сінтаксічныя канструкцыі. Адметна, што гэты твор амаль цалкам супадае з варыянтам запісу, атрыманым ад Гарбуновай Кацярыны Мітрафанаўны, 1907 г.н., з Добруша (раней пражывала ў г. Рэчыца).

*Наша бабка пірагі пякла,*
***Ай, у** панядзелак муку сеяла,*
***А ў** ваўторак вадзіцу грэла,*
***А ў** сераду цеста чыніла,*
***А ў** чацвер жа цеста мясіла,*
***А ў** пятніцу жа цеста кісліла,*
***А ў** суботу ў печ садзіла,*
***А ў** нядзелю ўмывалася,*
*К унучачцы (або ўнучку) сабіралася.*

(Запісана ў г. Мазыр ад Чырыч Вікторыі Паўлаўны, 1921 г.н.).

У многіх песнях бабка просіць Госпада Бога надзяліць дзіця шчаслівым лёсам, даць яму: *“Долю харошую і дамавую, і векавую, // I долю венчальную, // I долю венчальную”* (запісана ў в. Будкі Нараўлянскага р-на ад Макаранка Ульяны Фёдараўны, 1922 г. н.).

Прадстаўленне дзеючых асоб хрэсьбіннага абраду ў песнях часта здзяйсняецца праз сумежна афармленую і заснаваную на падабенстве або процілегласці вобразаў, персаніфікаваных прыродных з’яў і чалавечых перажыванняў стылістычную фігуру **паралелізму**. Абапіраючыся на палажэнні міфапаэтыкі А. Весялоўскага, даследчык Б. Іванюк падкрэслівае ўніверсальнае значэнне гэтай фігуры, што нарадзіла “ўсю мадыфікацыйную разнастайнасць тропа”, нагадвае пра генетычную абумоўленасць паралелізму “анімізмам архаічнай свядомасці”, узнаўленне праз яго ўяўленняў “старажытнага чалавека пра ўсеагульную адушаўлёнасць акаляючага свету” [3, с.180].

На прыкладзе запісанай у в. Стоўпня Рагачоўскага р-на ад Міхейкавай Ніны Мікалаеўны, 1920 г. н., 6-радковай песні няцяжка пераканацца, што названы паэтычны прыём можа быць скразным у структуры тэксту. У дадзеным выпадку ён засноўваецца на трох паралелізмах і амаль поўнасцю супадае з прыведзеным ніжэй 7-радковым прыкладам.

*А ў саду **явар зелянюсенькі**,* 2 р.
*На куце **кумок маладзюсенькі**.* 2 р.
*А ў саду **вішня зелянюсенька**,* 2 р.
*На куце **кума маладзюсенька**.* 2 р.
*Пад гарой **вярба сукаватая**,* 2 р.
*На куце **бабка дай гарбатая**.* 2 р.
*Йна й гарбатая, йна **й багатая**.* 2 р.

(Запісана ў в. Будкі Нараўлянскага р-на ад Макаранка Ульяны Фёдараўны, 1922 г.н.).

Як бачым, выяўленне асобасных асацыяцый, узросту персанажаў у гэтай песні кожны раз дасягаецца праз аналогіі з адпаведна адухоўленымі прыроднымі вобразамі. Дакладна: дрэвамі, якія ў славян звычайна выступаюць двайнікамі чалавека, надзелены выразным сакральным статусам. Так, паводле меркавання І. Швед,

зялёны явар мае станоўчую міфалагічную ацэнку, шматаспектнае сімвалічнае тлумачэнне, у тым ліку і эратычнае, характарызуе пераважна маладога, прыгожага і здаровага мужчыну [4, с.117]. Вішня асацыіруецца найперш з жаночым пачаткам, "аб'ядноўвае матывы нараджэння і пладнасці, уваходзіць у сімвалічны рад, пры дапамозе якога афармляюцца ўяўленні пра фертыльнасць" (г.зн. здольнасць арганізма нараджаць патомства. – В. Ш.) [4, с.246]. Адносна выкарыстанага ў песні вобраза вярбы можна зазначыць наступнае. Пэўна, што яе сукаватасць падкрэслівае сталы ўзрост бабкі, яе заможнасць, сама ж семантыка дрэва ў дадзеным выпадку ўказвае на яго здольнасць лёгка прыжывацца, лекавую і ахоўную сілу [5, с.106].

На аснове псіхалагічнага паралелізму ўтвораны пачатак песень, адрасаваных парадзісе *("Раса пала на травіцу", "За лес, за лес сонца коціцца")*, маладым бацькам *("У полі гаёк расшугаўся")*, бабцы *("У лугу вярба лахматая", "У лузе вярба махната")*, куме і куму *("Ох, зялёны дуб развіваецца", "Стаіць шацёр над вадою")*. Як вядома, на радзінах і хрэсьбінах выконваліся не толькі абрадавыя, але і наогул застольныя, бяседныя песні. Некаторыя з іх былі прысвечаны ўзаемаадносінам жанчыны і мужчыны *("У саду груша расла, у саду груша вырасла")*, жаночай долі *("Выйшла хмара, выйшла цёмна")*. Дзеянне ў такіх творах таксама разгортваецца двухпланава, па прынцыпу сумежнага супастаўлення.

У радзінна-хрэсьбінных песнях Гомельшчыны сустракаецца таксама форма адмоўнага паралелізму, што, на думку Л. Астаф'евай, "узнікае пры вылучэнні адной з'явы з дапамогай другой, якая адмаўляецца. У сінтаксічных адносінах абедзве паралелі незалежныя" [6, с.176]. У якасці прыкладаў можна назваць такія творы, як "Не стук стучыць па вуліцы", "Не кукуй, зязюлечка, рана". Адзін з варыянтаў апошняй з названых песень пачынаецца так: "*Не кукуй, зязюлечка, рана, // Не кажы, што ночачка мала. // Аленка ўсю ночку не спала, // Яна к сабе госцікаў звала...*" (запісана ў в. Аравічы Хойніцкага р-на ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.). У працытаваным творы стомленай ад перажытага і падрыхтоўкі да ўрачыстасці маладой жанчыне зусім не хочацца чуць зязюліна самотнае кукаванне, для яе

куды больш важна разам з блізкімі людзьмі напоўніцца радасцю сямейнага свята, уласнага мацярынства, пачуць найперш бабуліны пажаданні і песні: "*А первую ды раджоную, // А другую ды саджоную, // А трэцюю хрэсьбінную*".

Прыведзеныя прыклады дазваляюць пераканацца, што сярод прыёмаў паэтычнага сінтаксісу, якія найбольш часта (зразумела, пасля багатых разнавіднасцей паўтораў) выкарыстоўваюцца ў дадзеным пласце сямейна-абрадавай лірыкі, варта назваць паралелізм. Растлумачваецца гэта тым, што ва ўсе часы чалавеку было ўласціва выяўляць свой унутраны стан праз прыродныя з'явы, знаходзіць блізкае сабе ў раслінах, дрэвах, насельніках жывёльнага і птушынага свету.

Неабходна адзначыць, што пры ўсім багацці сродкаў інтанацыйна-сінтаксічнай выразнасці, а менавіта яны, як заўважыў Ніл Гілевіч, ілюструюць склад і гнуткасць народнага мыслення, яго характар [1, с.194], радзінна-хрэсьбінная паэзія, у роўнай ступені цесна звязаная з рэшткамі міфалагічнага светаўспрымання, абрадамі, магічнымі дзеяннямі і рэальным вясковым побытам, дакладнымі прыроднымі і жыццёвымі дэталямі, у аснове сваёй пераважна канкрэтная па вобразных малюнках, не схільная да метафарычнасці. З мастацкіх тропаў у народных песнях акрэсленага кірунку найбольш часта сустракаюцца **простыя** і **разгорнутыя параўнанні**. Прычым у творах велічальнага і жартоўнага характару яны будуць істотна адрозніваццa лексічна і стылістычна. Да прыкладу: "*Сядзіць бабка на куце, //* ***Як тая птушка ў гняздзе***"; (пра ахвочую да чаркі куму) "*І гарэлку п'е,* ***як у бочку лье***" (запісана ў в. Гарысты Веткаўскага р-на ад Якубовіч Марыі Іванаўны, 1936 г.н.); "*У мяне куманёк,* ***як каравачка***" (запісана ў г. Добруш ад Гарбуновай Кацярыны Мітрафанаўны, 1907 г.н., раней пражывала ў г. Рэчыца); (з пажаданняў бабкі ўнуку) "*Быў здаровы,* ***як мядзведзь***" (запісана ў в. Шырокае Чачэрскага р-на ад Хранькова Валянціны Іванаўны, 1928 г.н.) і інш. Варта ўдакладніць, што пры абмалёўцы асоб парадзіхі, бабкі, кумоў пераважаюць усё ж параўнанні, заснаваныя на вобразах станоўчай ці ўзнёслай семантыкі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі (галубок, галубка, галубачка,

галубуся, лябёдка і інш.). Сустракаюцца ў радзінных песнях і так званыя **сцягнутыя параўнанні**, якія ўключаюць у свой склад **сталыя эпітэты** і афармляюцца ў сказах з дапамогай эліпсісаў:

*Бабуля –* ***пахучая мята****,*
*Любім цябе, што ты вельмі багата.*
*Кумачка –* ***чырвоная рожа****,*
*Любім цябе, што ты вельмі прыгожа.*
*Кумочак,* ***сіні васілёчак****,*
*Любім цябе, што ты сеў з намі ў радочак.*

(Запісана ў г. Мазыр ад Чырыч Вікторыі Паўлаўны, 1921 г.н.).

Пра ашчаднае стаўленне народа да слова, наогул аб'ёму твора сведчыць зварот да прыёму **параўнання ў форме назоўніка ў творным склоне**. Эфектыўнасць выкарыстання дадзенай разнавіднасці мастацкага тропа можа ўзмацняцца эліпсісамі, анафарычнымі і стыкавымі паўторамі. Так, у песні "Ішоў кум гарою", запісанай ад Паляшчук Марыі Міхайлаўны, 1925 г.н. (в. Шчыбрын Рагачоўскага р-на), чытаем:

*Зацвёў* ***кум яварам****,*
***А кума калінаю****,*
***А хрэсьнічак доляю****,*
***Доляю*** *шчасліваю...*

Ці возьмем яшчэ адзін прыклад: *"А па сенцам, // А па новым, //* ***Вецер дымам вее****"* (запісана ў в. Аравічы Хойніцкага р-на ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.).

Сам разгляд спосабаў утварэння паралелізмаў, разгорнутых параўнанняў дае магчымасць пераканацца ў тым, што большая колькасць мастацкіх азначэнняў у радзінных песнях адносіцца да разраду сталых. Прычым выкарыстоўваюцца яны і самастойна, а не толькі ў складзе іншых сродкаў мастацкай выразнасці. У тым ліку, у форме кароткіх і поўных прыметнікаў: **зеляно** віно, **саладок** мядок, **горка** гарэлка; **чорны** воран, **горкі** п'яніца, конь **вараны**, **мілы** друг, бабулька **міленькая**; прыслоўяў – (кланяцца) **нізенька** ў ножкі, у нядзельку **рана-ранюсінька**, просіць **шчырэсінька** і інш.). **Метафарычныя эпітэты**, як і самі метафары,

у радзінна-хрэсьбіннай лірыцы – з'ява рэдкая. Сярод шматлікіх пажаданняў дзіцяці, што тройчы прамаўляюцца бабкай, затым кумам і кумой, звяртае на сябе ўвагу наступнае:

*А дай, Божа, етаму дзіцяці*
*Да добрую* ***долю.***
***І грашовую, і збажавую,***
***І*** *трэцюю –* ***вянчальную.***

(Запісана ў в. Касакоўка Жлобінскага р-на ад Страковіч Марыі Фёдараўны, 1919 г.н.).

Сустракаюцца таксама **эпітэты** ў форме **складаных слоў** і **прыдаткаў**: мёд-віно, хлеб-соль; кладачка-сірабраначка, жана-гаспадыня, мамачка-парадзіца, кумачку-пане, сарочка-белка. Іншы раз яны перабіваюцца паўторамі слоў: *Наш* ***кумочак,*** *наш* ***галубочак;*** *Наша* ***кумуся,*** *наша* ***галубуся;*** *Я б гэту* ***кумку,*** *я б гэту* ***галубку;*** *Выбачай,* ***бабка,*** *выбачай,* ***любка;*** *Ты,* ***кума,*** *ты,* ***душа,*** *// Саўсім, кума,* ***хараша*** *і інш.*

У некаторых выпадках эпітэты дапаўняюць **перыфразы**, што, як і многія іншыя сродкі вобразнай выразнасці, таксама актыўна выкарыстоўваюць памяншальна-ласкальныя формы слоў. Дзякуючы ім, паводле назіранняў А. Емельянава, і дасягаецца “непаўторная высокая экспрэсіўна-эмацыянальная танальнасць многіх песень” [7, с.103]. У нашым прыкладзе гэта (пра куму): **гарна рыбанька**, **гарна кветачка**. У час выкупу кашы для народжанага хлопчыка спяваюць песню “У нас радзіўся **панічок**”, для дзяўчынкі – “Наша **Манічка** ні ўдава”. Разгорнутая форма перыфраза ўжываецца пры звароце да бацькі дзіцяці ў песні “Дзякуй нашаму кавалю”, запісанай у Лельчыцкім раёне, і яшчэ адным блізкім да яе варыянце, што сустракаецца на Хойнікшчыне:

*Паздраў, Божа,* ***каваля,***
*Што скаваў нам дзіця.*
*А ні ў ручкі не хукаў,*
*А ні малатком не стукаў,*

*А ў мяккіх падушках,*
*А пад цёплай дзяружкай,*
*Без молата, без кавадла,*
*А паглядзім: дзіця ладна.*

(Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі) ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.).

Паэтычнай сістэме хрэсьбінных песень уласцівы прыём **антытэзы**, які ў асноўным рэалізуецца ў тэксце праз выкарыстанне антанімічнай пары слоў. У якасці прыкладаў можна працытаваць запеўныя радкі твораў, прысвечаных хросным бацькам: "*Ішоў* ***кум гарою***, // ***Кума далінаю***"; "*Ішоў* ***кум па сялу***, // ***Кума па гародзе***". Сярод лірычнай спадчыны, прадстаўленай у архіўных матэрыялах Гомельшчыны, сустракаецца некалькі варыянтаў песні "А кум куме рад", дзе герой настолькі захапляецца гераіняй, што ўсажвае яе на кветку і ўсяляк запрашае: "*Еш,* ***кумка, ягадкі***, // *Якія* ***салодкі***. // *Якія* ***горкі*** *– // Дай маёй* ***жонкі***".

У многіх тэкстах радзіннай паэзіі шырока выяўляе сябе эстэтычная катэгорыя камічнага, карані якой у народнай смехавой культуры, святочна-карнавальных гульнях. З дапамогай камічнага адлюстроўваюцца пэўныя адхіленні ад нормы, кантрасныя разыходжанні паміж непасрэдным зместам прадмета, з'явы, паняцця і формай іх падачы з мэтай жарту ці бязвіннага высмейвання.

Калі мы гаворым пра **гумар**, то пад маскай смешнага тут хаваецца дабразычлівае, незласлівае стаўленне да прадмета ці аб'екта абмеркавання, звычайна з перавагай станоўчых, светлых думак і эмоцый. У цэлым гумарыстычныя сітуацыі ўтрымліваюць толькі намёк ці ўказанне на нязначныя недахопы, якія пры жаданні самой асобы ці іншых персанажаў можна лёгка выправіць або яны наогул не патрабуюць сур'ёзных змен з прычыны сваёй бяскрыўднасці ("Ой, учора ў кумы", "Напілася, кума, напілася", "Ой, ты, кум, куманёк", "Упілася бабка"). Ва ўжо цытаванай вышэй песні "Ішоў кум гарою" эфект камічнага рыхтуецца праз падкрэсленую падачу адрознасці і адначасовага

падабенства вясёлага нораву і жартаў герояў, што падмацоўваюць выкарыстаныя ў тэксце прыёмы **гіпербалы і літоты**: *А як к куму кума // **У рэшаце прыплыла,** // **Грабянцом праграбала***; ***Верабей** у саду // Да й тэй **без заду;** Як завешу я **кацёл** // **Паўтараста вядзёр** // І згатую **для кумы** // **Адну шыячку**.*

У хрэсьбінных прыпеўках і песнях сустракаецца таксама прыём **іроніі**, г. зн. прыхаванай насмешкі, заснаванай на супрацьлегласці прамоўленага і таго, што насамрэч маецца на ўвазе. Зазначаную з'яву можна прасачыць у песні "Кума мая, кумачка", дзе кум абяцае куме даплесці да яе хаты сенечкі "*З харошага **дзераўца,** // З **асату***". Сама ж яна так апісвае сваё жыллё: "*А вунь мая хатачка // Ля вады, // **З высокага дзераўца,** // **З лебяды***" (запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на ад Піліпейка Надзеі Мікалаеўны, 1930 г.н.). Камічнае падаецца тут пад маскай сур'ёзнага праз вытрыманае іншасказанне. Вядома, што ні асот, ні лебяда дрэвамі не з'яўляюцца. І можна толькі здагадвацца, наколькі "ўстойлівымі" атрымаюцца наяўны і абяцаны героем будынкі. Толькі наўрад ці хто-небудзь з удзельнікаў свята ці слухачоў стане ўсур'ёз успрымаць заявы ўдзельнікаў гэтай дыялогавай песні.

Зразумела, што ў дадзенай працы разгледжаны далёка не ўсе асаблівасці паэтычнай сістэмы радзіннай лірыкі. Заслугоўваюць асобнай увагі такія аспекты даследавання, як выкарыстанне ў гэтым разрадзе сямейна-абрадавай паэзіі пэўнай колеравай гамы, сімволікі асобных вобразаў і лічбаў, вызначэнне шматпланавасці зместу і тыпаў кампазіцыйнай арганізацыі тэкстаў, больш падрабязная дэталізацыя разнавіднасцей паўтораў і іншых сродкаў мастацкай выразнасці. Менавіта яны і павінны скласці аснову далейшых пошукаў у акрэсленым кірунку.

Літаратура

1. Гілевіч, Н.С. Паэтыка беларускай народнай лірыкі / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Выш. школа, 1975. – 285 с.

2. Фядосік, А.С. Радзінная паэзія (функцыянальнасць абрадаў і абрадавай паэзіі, семантыка, жанравы састаў) / А.С. Фядосік

/ Сямейна-абрадавая паэзія. Народны тэатр / А.С. Фядосік, А.С. Емяльянаў, У.М. Сысоў, М.А. Каладзінскі; Навук. рэд. К.П. Кабашнікаў. – Мінск: Бел. навука, 2001. – 422 с.– С. 21–56.

3. Иванюк, Б.П. Поэтическая речь: словарь терминов / Б.П. Иванюк. – М.: Флинта: Наука, 2008. – 312 с.

4. Швед, І.А. Дэндралагічны код беларускага традыцыйнага фальклору : манаграфія / І.А. Швед; Нац. акад. навук, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы, Брэст. дзярж. ун-т імя А.С. Пушкіна. – Брэст: УА "БрДУ імя А.С. Пушкіна", 2004. – 301 с.

5. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

6. Восточнославянский фольклор: Слов. науч. и нар. терминологии / Редкол.: К.П. Кабашников (отв. ред.) и др. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 478 с.

7. Емельянаў, А.С. Паэтыка хрэсьбінных песень / А.С. Емельянаў / Сямейна-абрадавая паэзія. Народны тэатр / А.С. Фядосік, А.С. Емяльянаў, У.М. Сысоў, М.А. Каладзінскі; Навук. рэд. К.П. Кабашнікаў. – Мінск: Бел. навука, 2001. – 422 с.– С. 57–105.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фальклaрыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Ала ПАРТНОВА-ШАХОЎСКАЯ**

# Праграмаванне жыццёвага шляху чалавека
## (на матэрыяле лексікі радзінна-хрэсьбіннай абраднасці Хойнікшчыны)

Мова з'яўляецца люстэркам грамадскай і працоўнай дзейнасці, рэалій асабістага жыцця чалавека, адлюстроўвае яго імкненне праграмаваць свой лёс на шчаслівую будучыню. А паспяховасць асобы ў сваю чаргу непарыўна звязана з такім феноменам, як творчасць.

Творчасць – гэта дзейнасць, у выніку якой з'яўляецца нешта новае, тое, чаго раней не было. Гэта найвышэйшая форма чалавечай жыццядзейнасці, звязаная з яго здольнасцю нестандартна мысліць. Сёння людзі лічаць, што творчасць – гэта дар выбраных. Менавіта таму большасць з нас не піша, а слухае музыку, не ставіць спектаклі, а ходзіць у тэатры. Значыць, мы не ствараем, а ўспрымаем. Ці мала гэта? Не, таму што патрэба спасцігаць навакольны свет праз прызму творчасці – гэта таксама творчасць, здольнасцю да якой надзелены кожны, паколькі яна дае магчымасць рэалізацыі непаўторнасці асобы. Зусім іншае пытанне: ці кожны сучасны чалавек унутрана матываваны да творчасці? У жыцці мы гуляем, але саромеемся гэтага, бо баімся здацца "анамальнымі". І дарма: галоўны вораг творчасці – страх адхіліцца ад агульнапрынятых норм. Дастаткова ўспомніць, што адным з найбольш эфектыўных метадаў выхавання творчых здольнасцей з'яўляецца сінектыка – ператварэнне знаёмага ў дзіўнае: чалавек імкнецца ўбачыць добра знаёмае з іншага боку. Ці не даводзілася вам пры наведванні незнаёмых мясцін адчуваць, што вы калісьці ўжо тут былі? Напэўна. Але мы мала каму прызнаемся ў гэтым: не зразумеюць. Адкуль у чалавека такая здольнасць? Ці не гэта "памяць продкаў", праявы міфалагічнага мыслення, якое вызначае лёс чалавека і яскрава праяўляецца ў вуснай народнай творчасці?

Гомельшчына – гэта рэгіён багатай духоўнай спадчыны. Не з'яўляецца выключэннем і Хойнікшчына, народная творчасць якой была прадметам вывучэння навукоўцаў яшчэ ў XVIII стагоддзі (узгадаем працы Ч. Пяткевіча). На сучасным этапе фальклорнага развіцця назіраецца яскрава выражаная тэндэнцыя "згасання" казачнай традыцыі, нешматлікімі з'яўляюцца і ўзоры наратыўнага няказкавага фальклору, асабліва легенды і паданні. Ці выпадкова гэта? Як гэты факт уплывае на выбар сучасным чалавекам спосабаў пабудовы свайго жыццёвага шляху?

Як вядома, у сусветнай педагогіцы і псіхалогіі існуюць два падыходы да тлумачэння працэсу структуравання жыццёвага шляху [2]. Айчынныя аўтары (С.Л. Рубінштэйн, Б.Р. Ананьеў) падкрэслівалі, што асоба свядома вызначае свае адносіны да жыцця і свядома рэгулюе працэс жыцця. Другі падыход (А. Адлер, К. Роджэрс і інш.) пабудаваны на ўпэўненасці ва неўсвядомленым выбары жыццёвага сцэнарыя, які "пішацца" на ранніх стадыях развіцця дзіцяці. На наш погляд, паміж гэтымі падыходамі няма супрацьстаяння, паколькі замежныя псіхолагі імкнуліся пранікнуць у "перадгісторыю чалавека", падкрэсліваючы, як і айчынныя спецыялісты, вялікую ролю бацькоў у фарміраванні жыццёвых ўяўленняў дзіцяці. Як ні дзіўна, але ўсё яшчэ даволі добра ўтрымліваюцца ў памяці інфарматараў звесткі па каляндарна-абрадавай і сямейна-абрадавай паэзіі. Ці выпадкова гэта? Думаецца, што не. Жыццёвы сцэнарый, які фарміруецца на падставе ранніх жыццёвых уяўленняў і суадносіцца са сцэнарыем, знаёмым дзіцяці з казкі, апавядання, легенды, "запускаецца" ў дзіцячым узросце. Таму вельмі важна, каб сцэнарый быў "шчаслівым".

Мысленню чалавека ўласціва міфалагічнасць, і гэта ў некаторай ступені тлумачыць той факт, што зараз казкі, паданні, легенды з жанраў вуснай народнай творчасці перабраліся ў сферу пісьмовай літаратуры і трывала замацаваліся там (аб чым сведчыць вялікая колькасць падобных твораў у розных галінах мастацтва). Магчыма, на сучасным этапе развіцця фальклору "яўная міфалагема" казачнай традыцыі саступіла месца "скрытай міфалагеме" сямейнай і каляндарнай абраднасці, у якой сцвярджаюцца міфалагічныя па сваёй сутнасці маральныя правілы, што вызначаюць напрамак жыццёвага шляху чалавека.

Лёс чалавека – гэта шлях з мінулага праз сучаснасць у будучыню. Паразважаем: ці шмат у чалавечым жыцці рэальнага, канкрэтнага? Мінулае і будучае – гэта тое, чаго ці ўжо, ці яшчэ няма. Значыць, гэта сфера абстрактнага. Канкрэтнай уяўляецца толькі сучаснасць, якую можна структураваць у адпаведнасці з пажаданым напрамкам. А калі сучаснасць звязана не толькі з табой, а яшчэ і з блізкімі людзьмі, дзецьмі... А ты ведаеш, што лёс чалавека вызначаецца задоўга да яго з'яўлення на свет і абумоўлены лёсам і паводзінамі яго бацькоў... Ці не адсюль факт устойлівага захавання ў народнай памяці звестак па сямейна-абрадавай паэзіі і цікавасць вучоных да іх тэарэтычнага асэнсавання?

Не толькі літаратары, але і лінгвісты могуць знайсці шмат цікавага для даследавання ў фальклорным матэрыяле. Як лёс чалавека ўяўляе сабой перапляценне яго абстрактных уяўленняў і канкрэтных дзеянняў, так і моўная структура тэкстаў сямейна-абрадавай паэзіі вызначаецца заканамернасцямі функцыянавання ў іх дзвюх семантычных груп лексікі: слоў з абстрактным значэннем і слоў з канкрэтным значэннем. Паспрабуем прааналізаваць гэтыя заканамернасці ў тэкстах радзінна-хрэсьбіннай абраднасці Хойніцкага раёна.

Працэсу з'яўлення на свет жывой істоты ў сямейнай абраднасці адводзіцца асобае месца. Сакральнасць моманту праяўляецца нават у жанравай спецыфіцы народнай творчасці, якая па сутнасці абмяжоўваецца прыкметамі. Паколькі прыкметы выконвалі чыста прагматычную функцыю, нягледзячы на тое, што жыццёвы сцэнарый быў невядомы (як напярэдадні вяселля), у лексічным складзе фраз (у адрозненне ад вясельнай абраднасці) амаль няма слоў з абстрактным значэннем. Дзеля дасягнення станоўчага выніку нашы продкі быццам бы спецыяльна імкнуліся перанесці дзеянне з абстрактнай сферы невядомага ў рэальную сферу канкрэтнага. Сінтаксічная структура славеснай формулы характарызуецца ўстойлівасцю: "мадальныя словы *нельга, нада, даўжна* + інфінітыў.., *або* ...мадальнае слова *можа* + інфінітыў або дзеяслоў у форме будучага часу". Прыкмета выконвае перасцярагальна-папераджальную ролю праз забарону нейкага дзеяння часцей за ўсё з тлумачэннем канкрэтных вынікаў у выпадку невыканання. Заўважым, што "забаронная частка" датычылася

перш за ўсё цяжарнай жанчыны, а “папераджальная” – будучага дзіцяці, значыць, сцвярджалася, што маці адказная за лёс свайго немаўляткі яшчэ да яго нараджэння: *“дзеўке, якая носіць дзіця, нялзя было станавіцца на вяроўку, бо дзіця можа задушыцца пупавінай”, “бярэменнай нялзя было глядець на пакойніка ці на памерлую скаціну, а также хараніць, быць на пахаранах”, “калі бярэменная абпекалася, то ёй нялзя трогаць рукамі галаву ці шэю, покуль не пройдзе шок, бо дзіця можа нарадзіцца з краснай плямай на тым месце”* (запісана ў в.Стралічава ад Сацура Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н.); *“нялзя было воласы абразаць, ета нялзя”* (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., перасяленкі з в. Дворышчы); *“бярэменнай нялзя многа чаго рабіць: стрыгціся, красіцца, нялзя ёй адказываць, а то ў селішчы завядуцца мышы”* (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); *“бярэменнай усё нада было даваць, што яна папросіць, ёй усё пазычалі. І бярэменная нічога жалець не даўжна була, а то дзіця родзіцца жадным, гліну есці будзе”* (запісана ў в. Казялужжа ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н., перасяленкі з в. Небытаў Хойніцкага р-на).

Непасрэдна ў перыяд родаў папераджальна-ахоўная функцыя абраднасці “змяшчаецца” на жанчыну, бо на першы план выходзіць задача захавання яе жыцця і здароўя: *“яе, ражаніцу, глядзелі, сцераглі яе, адну не пускалі нікуды, за ёю ці мужык хадзіў, ці большае дзіця, ці сястра якая”* (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., перасяленкі з в. Дворышчы). Сакральнасць, міфалагічнасць дзеяння выражаецца ў асаблівасцях лексічнага складу славесных формул, дзе сэнсаўтваральнымі зноў з’яўляюцца словы з непасрэдна абстрактным або канкрэтна-метафарычным значэннем: “павітуха даўжна быць *чыстая* і не павязана са *злымі духамі*. Каб *роды* былі *лёгкімі*, то трэба *расплесці косы* ёй, *развязаць* усе *вузлы*, *адкрыць* усе *замкі*” (запісана ў в.Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); *“ну вот да кругом стала водзяць, штоб лягчэй было нарадзіць”* (запісана ў в. Глінішча ад Кудрыцкай Еўдакіі Еўфімаўны, 1903 г.н.); *“шоб лёгка радзіла, дак маліліся. Як трэ ісці раджаць, дак косы распускалі, шоб лягчэй радзіць”* (запісана ў в. Казялужжа ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н., перасяленкі з в. Небытаў

Хойніцкага р-на); “*ужо як ражалі, нада было, штоб нічога не было на целі, штоб свабодна*” (запісана ў в. Стралічава ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н. (раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на), Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н., Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.).

Радзінамі інфарматары называюць перыяд непасрэдна пасля нараджэння дзіцяці: “*раней цяжарную жэншчыну ў бальніцу не вазілі, ражалі дома. Ражаць дапамагала бабка. Яна прыходзіць, пупа адразае, і ўжэ радзіны правяць*” (запісана ў в. Казялужжа ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н., перасяленкі з в. Небытаў Хойніцкага р-на); “*як радзілася дзіця, то бабка-павітуха яго купае ў начоўках, тады пелянае ў льняныя пялёнкі. Тады ідуць радзіны*” (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.). Жанчына пасля нараджэння дзіцяці называецца парадзіхай: “*як родзіш, баба пупа завязвае, у нас яна называецца парадзіха*” (запісана ў в. Стралічава ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н. (раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на), Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н., Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.). Абрад радзін, у якім моцны язычніцкі пачатак, выконваў аберагальную функцыю, якая становіцца дамінуючай у хрэсьбінах, заснаваных на хрысціянскіх традыцыях: “*прыходзілі на іх толькі жэншчыны і неслі хто што. Раньшэ не було як купіць, то неслі сахар, коржыкі, сыр*” (запісана ў в.Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); “*тады ўжо садзяцца і красну замачваюць. Мужыкоў штоб ні было, адны толькі жэншчыны. Эта п’юць красну, яна ў нас так называлася. Усе садзяцца за стол, а жаншчыну, якая радзіла, за стол не пускаюць, так няльзя, патаму што ў цябе яшчэ ідуць роды, ты не дажна за сталом сядзець, ты не далжна абшчацца, вось так*” (запісана ў в. Стралічава ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н. (раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на), Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н., Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.). Паказальна, што, нягледзячы на сакральнасць абрадавых дзеянняў, у прыведзеных тэкстах, як і ў тэкстах прыкмет, звязаных з нараджэннем дзіцяці, зусім няма (за выключэннем паўабстрактных назваў ежы) слоў з адцягненым значэннем.

“Спіралепадобны” працэс мыслення чалавека, які ўвасабляецца ў заканамернасцях ужывання ў славесных формулах канкрэтнай і абстрактнай лексікі, адлюстроўвае зменлівасць абставін радзін, у прыватнасці, і адвечнасць заканамернасцяў жыцця, увогуле.

*“Да, хрэсьбіны – абрад вядомы. Хрэсьбіны, ці, інакш кажучы, хрысціны”* (запісана ў г. Хойнікі ад Лагвіненка Марыі Васільеўны, 1960 г.н.).

Хрэсьбіны (фанетыка-словаўтваральныя варыянты *хрэсбіны, хрысціны, храсціны, крашчэнне*) – узор хрысціянскага абраду з яскрава выражанымі язычніцкімі традыцыямі, якія бяруць свой пачатак у радзінах: “маці імкнулася *закрываць* немаўлятка “*ад чужога вока*”. Калі хто-небудзь убачыў яго, ён тут жа *тройчы сплёўваў назад праз левае плячо* і прыгаворваў: “*Дай Бог, каб здаровенькім расло!*”” (запісана ў г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н., перасяленкі з в. Настолле Хойніцкага р-на); *“калі нараджалася дзіця, то, каб абараніць яго ад дурнога глаза, яго ўмывалі свянцонай вадой”* (запісана ў г. Хойнікі ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.). Варта адзначыць, што сэнсаўтваральнымі ў славесных формулах з’яўляюцца ўстойлівыя выразы з метафарычным абстрактным значэннем.

Перш за ўсё паўстае пытанне, актуальнае і сёння: калі трэба хрысціць дзіця? *“Пасля радзін ішлі хрысціны. Хрысцілі да года”* (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); “*ета ж зараз доўга не хрысцяць, а тады – сёння родзіцца, а назаўтра і хрысцяць*” (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., перасяленкі з в. Дворышчы). Як бачым, тэрмін даволі доўгі, але канкрэтна акрэслены – да года, на працягу якога чалавек праходзіць першы цыкл свайго жыцця.

Па нашых назіраннях, хрэсьбінная абраднасць мае больш агульных рысаў не з радзіннай, а з вясельнай абраднасцю: у адрозненне ад радзін, сцэнарый якіх быў непрадказальным (і таму, магчыма, трагічны), хрэсьбіны (падобна вяселлю) заўсёды звязаны з радаснымі пачуццямі чалавека. У матэрыялах інфарматараў як па вясельнай, так і па хрэсьбіннай абраднасці выразна прасочваецца хрысціянская сімволіка лічбаў, якія дзеляцца на тры (сімвал адвечнасці жыцця): “*тры* сваты було...”, “брала я *шэсць*

дружак", "гулялі свадзьбу *тры* дні" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н., Навуменка Аляксандра Аляксандравіча, 1940 г.н.); "вяселле заўжды было ў *суботу*" [*шосты* дзень тыдня], "на *трэці* дзень гулялі "цыгане зайца"" (запісана ў в. Віць ад Судзенка Вольгі Васіл'еўны, 1952 г.н.); "перад тым як ехаць у цэркву, абходзілі *тры* разы маці з бацькам" (запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.); "у царкве маладых... абводзяць вакруг стала з іконай *тры* разы" (запісана ў в. Навасёлкі ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.); у сваты "ідуць кросны бацька, матка маладога, сам хлопец", бацькі благаслаўляюць дзяльбу каравая "*тры* разы", "на *трэці* дзень бабы ўсе прыбіраюцца ў цыганак..." (запісана ў в. Валокі ад Краўчанка Ксеніі Паўлаўны, 1936 г.н. (нарадзілася на Украіне, з 1947 г. жыве ў в. Валокі)); "у сваты ідуць хросны бацька маладога, два чалавекі з радні, чацвёрты – жаніх", у першы вечар вяселля, калі шукаюць маладую, "выводзяць *трох* дзяўчат...", бацькі благаслаўлялі маладых "*тры* разы" па просьбе (якая вымаўлялася "*тры* разы") *трох* баб ("роднай сястры, крышчонай маці, дзядны – жонкі роднага брата"), пры "прадажы" маладой "сват ложыць два разы грошы. Дважды дружкі адмаўляюцца. На *трэці* раз больш грошай ложыць. Дружкі згаджаюцца", "галоўныя сваты спявалі: "Ацец, маці, благаславіце каравай падзяліці". Ім у адказ: "Бог благаславіць". І так *тры* разы", свахі "*тры* разы пяюць песню, *тры* разы зводзяць свечкі і *тройчы* цалуюцца" (запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н.); пры сватанні "свечкі *тры* разы паляць і *тры* разы тушаць на парозе", песня пры завіванні маладой "пяецца *тры* разы", "у *дванаццаць* часоў ночы дзеляць каравай... на *тры* часткі", "просім каравай дзяліць... *адзін* раз кажа, *фтарой* раз, *трэці* раз" (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., перасяленкі з в. Дворышчы); "сягоння ў нас імяніны добрай жаны-гаспадыні, сягоння ў нас госці будуць, госці будуць *траякія*" (запісана ў г. Хойнікі ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.); "дружак была *няпарная калічаства*", "дзялілі першы каравай да *дванаццаці* часоў", "ставілі *тры* чаркі", "было і *тры* кашы. Сначала давалі бабін боршч, кашу, але над ёй шуткавалі да *трох раз*" (запісана ў в. Вялікі Бор

ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); "чэраз *шэсць* дней пасля раджэння дзіця выбіралі яму хросных бацькоў, якія аберагалі дзіця ўсё яго жыццё" (запісана ў в. Стралічава ад Сацура Аляксандры Ўсцінаўны, 1914 г.н.); "рожаніца ў цэркву *дванаццаць* дней не хадзіла" (запісана ў в. Казялужжа ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н., перасяленкі з в. Небытаў Хойніцкага р-на).

У адрозненне ад радзін, у аснове хрэсьбін, падобна вясельнай абраднасці, ляжыць сюжэтная гульня са строгім ралявым размеркаваннем: "*Дома хрысціны правілі. Гатовілі ўсё як на свадзьбу. Падаркі дарылі малому*" (запісана ў в. Казялужжа ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н., перасяленкі з в. Небытаў Хойніцкага р-на); "*глаўнымі гасцямі былі кум, кума і бабка. За куму бралі ад бацькі, а ад маці – за кума. А зараз бяруць лучшых друзей. За бабу бралі тожа тую, што была пры родах*" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); "*ражалі ў хаце пры бабках. Назначалі бабу, яна завязвала пупавіну. Гэту бабу бралі і на хрэсьбіны*" (запісана ў в. Рудыя ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.). У прынцыпах адбору ўдзельнікаў абраду адчуваюцца традыцыі культу сям'і і лёсу з пазіцый як язычніцтва, так і хрысціянскай веры: "калі первая дзевачка, тады кума была *замужам*, а то казалі, што дзевачка *забярэ судзьбу* кумы... *Кашу* дзялілі на ўсіх абязацельна. Хто схваціць чарапок і надзене каму-небудзь на голаву, то яго возьмуць за куму, кума ілі бабу. На хрысцінах кумоў і бабу падымалі, бо гэта буў *гонар* і раньшэ кумаўё садзілася ў *пачоце*" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны); "калі гулялі хрэсьбіны, то прыглашалісь *жанатыя* мужчыны і жанкі" (запісана ў в. Віць ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.); "*кашу* варыла баба, перакупвалі кашу, хто болей *грошай* дасць, абычна кум перакупліваў, а тады ўжо кашу разбівалі і дзялілі на ўсіх, а чарапкі адзявалі незамужнім дзяўчатам, каб хутчэй *замуж выйшлі*" (запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.); "потым *кашу* павінны былі *выкупіць*, а кум – пабіць кашу. Чарапкамі пакрывалі галовы маладзіцам, у якіх доўгі час не нараджаліся дзеці, або дзяўчатам, якія доўгі час не выходзілі *замуж*" (запісана ў г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н., перасяленкі

з в. Настолле Хойніцкага р-на); "*кашу* разбівалі. Асколкі ад гаршка кідалі ў малодшых, каб ім тожа *прыплод* быў" (запісана ў в. Рудыя ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.). Сэнсаўтваральнай у дадзеных тэкстах зноў выступае абстрактная лексіка, якую ўвогуле можна лічыць дамінуючай у хрэсьбіннай абраднасці: "калі бралі за куму, то насілі *хлеб* і *соль*" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); "адным з галоўных момантаў на хрэсьбінах з'яўляецца падача на стол "*бабінай кашы*" (запісана ў г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н., перасяленкі з в. Настолле Хойніцкага р-на). Пры семантычным аналізе гэтых тэкстаў звяртаецца ўвага на метафарычна-пераноснае значэнне паўабстрактных назваў ежы, бо стравы набываюць міфалагічна-сімвалічны сэнс: "частуючы *кашай*, кум гаворыць: "Няхай *Бог* нашага хросніка (імя) гадуе ды *долю* яму гатуе" (запісана ў г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н., перасяленкі з в. Настолле Хойніцкага р-на); "як *разбілі кашу*, чарапкі кідалі ў парог, штоб было *дужэйшае* дзіця" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); "*вяршок кашы* павінен зрэзаць кум і аддаць хрэсніку ці хрэсніцэ" (запісана ў в. Рудыя ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.).

Частка інфарматараў зазначае, што *"спявалі песні для кумы, кума, бабы. Усе падрад, якія зналі"* (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.), *"песні на храсцінах спяваюць, якія хочаш"* (запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.). Але паколькі па станоўчай эмацыянальнай накіраванасці хрэсьбіны можна параўнаць з вяселлем, якому ўласцівы спецыфічныя песенныя тэксты, то натуральна, што ў большасці мясцовасцей адзначаюцца адпаведныя хрэсьбінныя песенныя тэксты:

*А кум куме рад, павёз куму ў сад,*
*Пасадзіў куму ў садзе на цвет:*
*– Еш, кумка, ягодкі, каторы салодкі,*
*Каторы горкі – аддай маёй жонкі.*

(Запісана ў в. Стралічава ад Сацура Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н.).

*Паздраў, Божа, каваля,*
*А што скаваў нам дзіця.*
*А ні ў ручкі не хукаў,*
*А ні малатком не стукаў,*
*А ў мяккіх падушках,*
*А пад цёплай дзяружкай,*
*Без молата, без кавадла,*
*А паглядзім: дзіця ладна.*

(Запісана ў г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н., перасяленкі з в. Настолле Хойніцкага р-на).

*Сягоння ў нас імяніны,*
*Сягоння ў нас імяніны*
*Добрай жаны-гаспадыні,*
*Добрай жаны-гаспадыні.*
*Сягоння ў нас госці будуць,*
*Сягоння ў нас госці будуць.*
*Госці будуць траякія,*
*Госці будуць траякія.*
*Першыя госці – дзед і баба,*
*Першыя госці – дзед і баба.*
*Другія госці – кум з кумою,*
*Другія госці – кум з кумою.*
*Трэці госці – брат з сястрою,*
*Трэці госці – брат з сястрою.*
*Брат з сястрою – размаўляці,*
*Брат з сястрою – размаўляці,*
*Кум з кумою – пагуляці,*
*Кум з кумою – пагуляці,*
*Дзед і баба – уся парада,*
*Дзед і баба – уся парада.*

(Запісана ў г. Хойнікі ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.).

*Бывайце здаровы,*
*Жывіце багата.*
*Ужо ж мы паедзем*
*Да сваёй хаты.*

*У зялёнай дуброве*
*Мы начаваць будзем,*
*А вашае ласкі*
*Павек не забудзем.*
*Каб жыта ў полі*
*Трубою вілося,*
*Каб сала ў хаце*
*Кублам вялося.*
*Штодзень у капусце*
*Каб плавала скварка,*
*А к сварцы часінай*
*Знайшлася б і чарка.*
*Яшчэ вам жадаем*
*Прыбытку у хаце –*
*Не мала, не многа –*
*Штогод па дзіцяці.*
*Бывайце здаровы,*
*Жывіце багата.*
*А мы ад'язджаем*
*Дадому, дахаты.*

(Запісана ў в. Віць ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н., нарадзілася ў г. Данецку).

Як і ў вясельных песнях, у вышэйпрыведзеных тэкстах няма ўзвышанай абстрактнай лексікі. Гэтая адметнасць можа быць звязана з тым, што хрэсьбінная абраднасць таксама заснавана на прыёме аберагальнай падмены (сакральнасць моманту "хаваецца" за наўмыснай прастатой і іранічнасцю дзеяння): "*у цэркву едуць толькі кум, кума і дзіця. Радзіцелей не бяруць. У цэркві кума адзяе дзіця ва ўсё сваё*" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.); "*бацькі навароджанага ў цэркву не ездзілі, ехалі толькі хросныя бацька і маці*" (запісана ў г. Хойнікі ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.); "*калі неслі "бабіну кашу", то неслі спярва абман*" (запісана ў в. Віць ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.); "*была таксама падманная каша, маглі ката пасадзіць у гаршок ці ў каструлю, для смеху*" (запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.); "*як хрысцілі, то ў цэркву матак не бралі. Ішлі толькі хросны, хросная, бацька.*

*Таксама была і падманная каша, куру паднасілі ў гаршку. Курыцу ці ката ў гаршок пасадзяць, накрыюць. Шуцяць, а тады ўжэ нясуць кашу нармальную*" (запісана ў в. Казялужжа ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н., перасяленкі з в. Небытаў Хойніцкага р-на); "*была падманная каша. Ката садзяць у каструлю. Бывала, што і кроліка садзілі*" (запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада) ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.); "*калі прасілі бабіну кашу, то ў мяшок клалі петуха ці ката, каб пажартаваць*" (запісана ў в. Рудыя ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.).

Мы паспрабавалі прааналізаваць з пазіцый псіхалінгвістыкі фальклорныя тэксты, у якіх знайшлі адлюстраванне радзінныя і хрэсьбінныя традыцыі Хойнікшчыны. Пачатковыя этапы жыцця чалавека прадвызначаюць жыццёвы сцэнарый, які карэкціруецца кожным чалавекам на працягу ўсяго жыцця ў адпаведнасці з абставінамі і тымі маральнымі нормамі, якіх прытрымліваліся ў сям'і. Сям'я адыгрывае значную ролю ў працэсе дасягнення чалавекам акмеалагічных вяршынь, бо на працягу жыцця рэалізуецца праграма, закладзеная ў дзяцінстве. Гэта добра разумелі нашы продкі. Таму працэс "праграміравання на поспех" пачынаўся задоўга да з'яўлення чалавека на свет. Гульня, заснаваная на магіі дакладна падабранага слова, – вось аснова сямейнай абраднасці.

Літаратура

1. Богоявленская, Т.Б. Психология творческих способностей / Т.Б. Богоявленская. – М.: Академия, 2002. – 305 с.

2. Деркач, А.А. Акмеология: Пути достижения вершин профессионализма / А.А. Деркач, Н.Я. Кузьмина. – М., 1993. – 201 с.

3. Лексіка Палесся ў прасторы і часе / Рэд. В.У. Мартынаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – 216 с.

4. Словарь символов и знаков / Авт.-сост. Н.Н. Рогалевич. – Минск: Харвест, 2004. – 512 с.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

**Алена ВОІНАВА, Алена ПАЛУЯН**

# Лексіка радзінна-хрэсьбіннай абраднасці Гомельшчыны

Комплекснае вывучэнне духоўнай спадчыны беларусаў, якое аб'ядноўвае этнаграфію, фальклор і мовазнаўства, з'яўляецца адным з самых актуальных і перспектыўных напрамкаў сучасных навуковых даследаванняў. Этналінгвістычныя даследаванні разглядаюць мову праз прызму традыцыйнай народнай духоўнай культуры.

У мове захоўваюцца самыя разнастайныя па часе ўзнікнення і функцыянавання лексічныя адзінкі. У сістэме нацыянальнай мовы гэта скарбніца ўяўляе сабой абрадавыя назвы, якія адлюстроўваюць важныя падзеі ў грамадскім і сямейным жыцці народа: называюць святы, прысвяткі і абрады розных перыядаў земляробчага календара беларуса, абазначаюць самыя значныя змены і падзеі ў жыцці чалавека – нараджэнне, хрышчэнне, сватаўство, заручыны, вяселле, пахаванне.

Так, у складзе сямейна-абрадавай лексікі выразна вылучаецца лексіка вясельнай абраднасці; лексіка радзінна-хрэсьбіннай абраднасці і лексіка пахавальнай абраднасці.

Лексіка радзінна-хрэсьбіннай абраднасці як аднаго з найбольш важных комплексаў сямейнай абраднасці мае даўнія развітыя традыцыі бытавой культуры, уяўляе значную цікавасць для даследавання. Нараджэнне дзіцяці – новага члена грамадства – суправаджалася вялікай колькасцю засцярогаў і прыкмет, якія былі рознымі ў розных раёнах Гомельскай вобласці.

З'яўленне дзіцяці поўнасцю мяняла жыццёвы ўклад бацькоў, а таксама індывідуальныя і сацыяльныя звычкі. З гэтай прычыны ў фальклоры ўсіх народаў захаваліся паслядоўныя і грунтоўныя радзінна-хрэсьбінныя абрады, а ў слоўніку ўтрымліваецца вялікая колькасць адпаведных абрадавых лексем. Гэта частка беларускага народнага слоўніка з'яўляецца і састаўной адзінкай

усходнеславянскай лексікі, а таксама – больш шырока – часткай велізарнай славянскай культуры.

Лакалізацыя Гомельскай вобласці спрыяла цесным міжмоўным кантактам. Вынікі гэтага кантактавання адзначаюцца ў абрадавай лексіцы гомельскіх гаворак. У першую чаргу тут адлюстроўваюцца доўгатэрміновыя і трывалыя сувязі беларускай і рускай моў, абумоўленыя і падмацаваныя наяўным у штодзённым маўленні жыхароў рэгіёна беларуска-рускім білінгвізмам. Разам з тым пастаянныя шматвяковыя сацыяльна-эканамічныя і культурныя зносіны і ўзаемадзеянне суседніх роднасных народаў паўплывалі на фарміраванне асобных блізкіх і агульных рытуалаў і ў сямейным жыцці беларусаў і ўкраінцаў. Паспрыяла такім працэсам і агульная старадаўняя гісторыя, і падобныя аб’ектыўныя сацыяльныя сучасныя рэаліі.

У складзе радзіннай абраднасці вызначаюцца тры асноўныя моманты: само нараджэнне, прыём у грамадства новага члена і ачышчэнне маці і бабкі-павітухі [1, с.319]. Для кожнага этапу радзіннага абраду маюцца спецыфічныя найменні, якія можна прадставіць у выглядзе наступных тэматычных груп:

**1. Назвы абраду і яго этапаў.**

Пасля нараджэння дзіцяці бацькі ладзілі **адведкі, ответкі, вотведы, вотвяткі, отвяткі, радзіны:** *У **адведкі** пеклі каравай, рабілі багаты стол.* Сінічына Буда-Каш.; *Баба-прыродуха – старая баба, баба-павітуха. Яна прыходзіла ў **ответкі** тры разы, прыносіла падаркі.* Удалёўка Лоеўск.; *Ставіць міскі ў каробку і ідзе разам з кумаўямі ў **вотведы**.* Навасёлкі Петр.; Сначала быў у нас такі звычай – хадзіць у ***вотвядкі***. Шчыбрын Рагач.; ***На отвядкі** прыносілі на пялёнкі матэрыю. Частавалі тым, у каго што было.* Мазыр.

У адведкі прыходзілі замужнія жанчыны, прычым не з пустымі рукамі: *Спачатку да жанчыны (парадухі) прыходзілі родственнікі. Гэта былі **вотведкі**. Прыносілі пячэнне, канфеты, бліны, каб падкрапляць сілы ў парадухі.* Кіцін Жлоб.; *Да жанчыны-парадухі (так у нашай вёсцы называлі рожаніцу) прыходзілі жанчыны ў **адведкі,** прыносілі розныя стравы. Самыя родныя жанчыны прыходзілі, калі родзіцца дзіця.* Каралёва Слабада Светлаг.

У некаторых раёнах для адведак быў вызначаны пэўны час: ***Адведкі спраўлялі ў нас у пятніцу, на першым тыдні.*** *Да парадзіхі прыходзілі мы пасля абеда.* Рэчыца. *Прывозяць рожаніцу дамой і прыходзяць в* ***атведкі*** *толькі жанчыны.* Печышчы Светлаг.

У Веткаўскім раёне адведкі мелі назву **хрысціны-перададведкі:** *Гэта прыходзілі ўсе родственнікі. Былі тут і бабка-свякруха, і дзед-свёкар. Усе паздраўлялі і маці, і бацьку, і рабёнка. Бабка, што прымала дзіцё, тожа прыхадзіла.* Залаты Рог Ветк.

У іншых раёнах звычай наведваць толькі што нарадзіўшую жанчыну называўся **красная, родыны, радзіны, сматрыны:** *Радзіцца дзіця, тры дні акрэпне – спраўлялі* ***красную*** *(радзіны). Звалі толькі бабу. Яна яго мыла, апранала. Потым спраўлялі хрысціны, звалі ўсіх: бабу, кума з кумой.* Старыя Цярэшкавічы Гом.; *На отвядкі прыносілі на пялёнкі матэрыю. Частавалі тым, у каго што было. Называлася* ***родыны****. "Проведаем рожэніцу", – казалі.* Козенкі Маз.; *Потым жанчыны згаварваліся і прыходзілі на* ***радзіны.*** Каралёва Слабада Светлаг.; *У той дзень, калі нарадзіцца дзіцё, так у госці не ходзяць, а ходзяць патом на* ***сматрыны.*** Пірэвічы Жлоб.; *На трэці дзень спраўлялі* ***радзіны.*** *На радзіны прыходзілі родственнікі, друзья, саседзі. Праз месяц спраўлялі хрэсьбіны.* Бабічы Чачэр.; ***Радзіны*** *святкаваліся праз два-тры тыдні пасля нараджэння дзіцяці.* Белін Петр.

Нараджэнне дзіцяці святкавалася не адзін дзень: *Тры дні людзі гулялі на нараджэнні дзіцяці. Трэці дзень называлі муравіны.* Красніца Рагач.

Царкоўны абрад хрышчэння называўся **хрэсьбіны, крысціны, красціны, крэсціны:** ***Хрэсьбіны*** *праводзіліся звычайна ў той хаце, дзе жыве дзіця.* Рычоў Жытк.; *Як прынясуць ад краста, то спраўлялі* ***хрысціны.*** Мазыр; ***Хрэсьбіны*** *святкавалі вельмі добра. Пахрысцяць дзіця ў цэркві і гуляюць хрэсьбіны, як свадзьбу. Прыходзяць у атведкі, нясуць падаркі.* Макаўе Гом.; *Саўсім нядаўна ў нас былі* ***крэсціны.*** Макаўе Гом.; ***Хрэсьбіны*** *рабіліся не раней, чым праз сорак дней пасля нараджэння.* Багрымавічы Петр.; *У дзень* ***крысцін*** *кума прыходзіла ў дом да дзіцяці з хлебамсоллю, ручніком і грашамі.* Лубянікі Браг.; *На* ***красціны*** *сабіраецца ўся радня, абязацельна кум, кума і баба.* Глазаўка Буда-Каш.; Вядомы такія назвы этапаў хрэсьбін, як **збіраць на шапачку:**

*Першым дзелам* ***збіралі*** *дзіцяці* ***на шапачку***. Петрыкаў; **торг:** *Гэта традыцыя з кашай называецца* ***“торг”***. Івольск Буда-Каш.; **разбіць гаршчок:** *Хто дасць больш грошай, той і* ***разбівае гаршок***. Лучыцы Петр.; **вадзіць хвост:** *Пасля* ***вадзілі “хвост”***. *Баба, кум і кума ішлі дадому да бабы, а за імі ўсе астатнія і працягвалі гулянне.* Буркі Браг.

Адным з этапаў правядзення абраду хрышчэння было **перапіванне кумоў:** *Дзед навароджанага налівае чарку гарэлкі, выпівае сам, а рэшткі вылівае ўверх са словамі: «Дай жа, Бог, штоб наш унук вялікі рос!» Ложыць капейку ў чарку, налівае ў яе гарэлку і перадае хроснаму бацьку. Той кажа словы, выплюхнуўшы рэшткі ўверх: «Каб наш хрышчонік так высока скакаў». Перадае чарку дзеду. Дзед, ложачы ў чарку срэбную грыўню, налівае яе гарэлкай і перадае куме. Яна кажа тыя ж словы, што і кум. Тады пачынаюць частаваць гарэлкай усіх, толькі не кідалі ўжо ў чарку грошы. Перадача ж чарак з грашыма хросным бацькам называецца «перапіваць кумоў».* Юравічы Калінк.

У Калінкавіцкім раёне вядомы элемент абраду хрышчэння, які называўся **змуркі:** *Калі з’елі «кумаву» кашу – трэці гаршок, усталі з-за стала падпіўшыя, і паміж бабамі пачалася нарада! – Калі рабіць* ***змуркі,*** *бо заўтра кума не прыйдзе да нас, ёй трэба прамыць вочы.*

*Баба бярэ кубак і, трымаючы на руках раздзетае дзіця, абліла яго вадой. Бацька дзіцяці прыносіць дзевяць галінак з лісточкамі, каб навароджаны дасягнуў дзевяноста гадоў. Стол накрываюць чыстым абрусам, ставяць міску з галінкамі і такую ж другую з салодкаю гарэлкаю, і ложачы хлеб-соль, кажа: “Прамый жа, кума, вочы і рукі, каб не хварэлі”*. Юравічы Калінк.

Спецыяльнае найменне меў і другі дзень хрэсьбін: **барана, пахмелкі, пахмелле:** *Назаўтра бралі барану клецамі ўверх, садзілі на яе кума, куму, бабку і везлі па вёсцы. Возлі магазіна яны давалі гарэлку ўсім і возлі дома частавалі ўсіх за тое, што добра вазілі.* Сінічына Буда-Каш.; *На другі дзень тожа гулялі хрэсьбіны. Называўся гэты дзень* ***“пахмелкі”***. Азяраны Рагач.; *Другі дзень называўся* ***пахмелле***. *Баба несла патраўку з грыбамі і мясам.* Вялікі Бор Хойн.

**2. Назвы асоб, якія ўдзельнічаюць у абрадзе.**

Пры нараджэнні дзіцяці галоўнымі асобамі з'яўляюцца, канечне, **роджаніца, рожэніца, рожаніца; парадзіха, парадуха, парадзіца, парадзеля, радзільніца, паражайка**: *Лічылася, што сорак дней **роджаніца** находзілася паміж небам і зямлёй*. Багрымавічы Петр.; *Называлася родыны. "Проведаем **рожэніцу**", – казалі*. Козенкі Маз.; *Прывозяць **рожаніцу** дамой і прыходзяць в атведкі толькі жан-чыны*. Печышчы Светл.; ***Парадзісе** нельга заходзіць у храм*. Вало-савічы Акцябр.; *Калі **парадуха** была маладая, то баба вучыла яе, як абыходзіцца з дзіцём*. Кіцін Жлоб.; *Наша мама – **парадзіца***. Добруш; *Жанчына, якая павінна народзіць, звалась **парадзеля***. Запясочча Жытк.; *Грошы кідаюць **радзільніцы***. Маркавічы Гом.; *А **паражайка** ложа яго пад галаву маломy, каб не прыставалі сурокі*. Мазыр; і **бабка, бабулька, бабка-павітуха, баба-пупарэзні-ца, баба папярэзна, пупавая баба, спавівальная бабка** – абавязкова немаладая паважаная жанчына, у якой ёсць свае дзеці: ***Бабку** выбірают самую опытную і ўважаемую. Обязацельна, штоб у яе быў унук*. Глазаўка Буда-Каш.; *Мая **бабка** прымала роды ва ўсіх жанчын*. Петрыкаў; *Калі прыходзіла врэмя родаў, **звалі бабульку**. Яна памагала парадзіхі радзіць*. Добруш; *На хрэсьбінах была **бабка-павітуха**, якая прыгатавала кашу*. Багрымавічы Петр.; ***Баба-пупарэзніца** абавязкова купала дзіця*. Гаць Акцябр.; *І ўжо тую бабу, яна як **пупавая баба**, на хрысціны звалі*. Краўцоўка Гом.; ***Спавівальная бабка** гаварыла розныя загаворы спецыяльныя і адразала пупавіну*. Баравая Ляда Буда-Каш.; *К абеду ў хату збіраліся кумы і **бабуля-пупарэзніца***. Валосавічы Акцябр.; *Роды ў жанчыны прынімала **бабка-павітуха**, і яна шчыталася **хроснай бабкай***. Міхалёўка Буда-Каш.; *Пры родах **баба папярэзна** была, як пагукаюць яе, адна прыходзіла*. Мазыр.

Набліжэнне родаў і самі роды будучая маці і ўсе члены сям'і ўтойвалі, каб не сурочыць і каб роды прайшлі лёгка. Калі нараджэнне дзіцяці суправаджалася тайнай і шматлікімі забабонамі: *У час радзін баба вадзіла рожаніцу вакол стала, каб хутчэй разрадзілася*. Антонаўка Калінк., то ў наступным этапе радзіннага абраду – хрышчэнні – удзельнічае вялікая колькасць народу.

Пры хрышчэнні галоўнымі ўдзельнікамі былі **хросныя бацькі:** *У народзе іх называлі **кум і кума***. Баршчоўка Добр.; ***Кросныя***

***бацькі** выбіраліся зараней сярод сваякоў, сяброў. Бацькі дзіцяці яшчэ да хрэсьбін дамаўляюцца, хто ж у іхняга дзіцяці будзе **нарачоным бацькам ці маці**.* Плёсы Гом. Лічылася, што хросныя бацькі павінны быць маладзейшымі за бацькоў, каб прыглядалі за хрэснікам, калі нешта здарыцца з роднымі.

На тэрыторыі Гомельшчыны для наймення хросных бацькоў зафіксаваны наступныя назвы: **хросная маці, матка хрышчоная**: *Для гэтага бяруцца **хросныя маці і бацька**.* Белін Петр.; *Куму называлі **матка хрышчоная**.* Мазыр; **хросны бацька, хросны тата**: ***Хросны бацька** бярэ дзіця і дзержыць яго пры малітвах.* Белін Петр.; *Кум з кумою станавіліся блізкімі людзьмі бацькам дзіцяці, якое яны перахрысцілі. Для дзіцяці – хроснай маці і **хросным татам**.* Мілашавічы Лельч.; **хросныя**: ***Хросныя** павінны дапамагаць хрэсніку, як у яго не астанецца родных бацькоў.* Лубянікі Браг.; **хрэсны, хросная:** *Садзіцца баба, **хрэсны, хрэсная**, а тады вжэ ўсе госці.* Краўцоўка Гом.

У адносінах да бацькоў хросныя дзіцяці называліся **кум і кума**: *Ідзе бацька нованароджанага і прыглашае да сябе бабу, **куму, кума**.* Навасёлкі Петр.; ***Кум** падчас гульні даўжон быў выкупіць яе.* Багрымавічы Петр.; *Дзіця ў цэркаў адзявае **кума**.* Петрыкаў. Зафіксавана і зборная назва **кумаўё:** *Прыходзім, гуляем, дзіцёначка **кумаўё** ложа пад печ, каб быў такі крэпкі, як печ.* Мірны Гом.; *Большое значение придавалось выбору **кумовьёв (крёстных)** для ребёнка.* Зябраўка Гом.

Нованароджаны пры крышчэнні называўся **хрэшчэнік, хрэснік:** *Пакуль за **хрэшчэніка** мёд-гарэлку не пап'ю.* Беланавічы Петр.; *Куму называлі матка хрышчоная, а дзіцятка – **хрышчэніца, хрышчэнік**.* Мазыр; *Два раза ў год хросная і бабка наведваюць **хрэснікаў**: на шчодры вечар (шчадраванне) 13 студзеня і на Вялікдзень (Хрыставанне).* Крыўск Буда-Каш.

Пачэснае месца адводзілася **бабе, бабе-прыродухе, бабушцы:** ***Баба**, што купала ў первы раз, кашу варыла. **Баба-прыродуха** – старая баба, баба-павітуха. Яна прыходзіла ў ответкі 3 разы, прыносіла падаркі.* Удалёўка Лоеўск.; *А перад хрысцінамі **бабка** далжна тры разы атведаць "унучку" сваю – парадзіху з рабёнкам.* Ліцвінавічы Карм.; ***Бабушка** варыла кашу, пірага пекла з макам ці з ігрушамі.* Жлобін; ***Бабушка** выставіла кашу на аўкцыон.* Лоеў.

Мнагазначнымі былі найменні **ўнук, унучка:** *А перад хрысцінамі бабка должна тры разы атведаць **"унучку"** сваю – **парадзіху** з рабёнкам. **Парадзіха з мужам** – гэта **"ўнукі"** называюцца, а **рабёначак** таксама бабе **"ўнук"**.* Ліцвінавічы Карм.

У абрадзе "хрышчэнне" вылучалі таксама **паверанага** і **касіра, ці лічыльніка:** *Бабка аддае кашу **паверанаму,** і ён яе прача.* Ліцвінавічы Карм.; *Але перад этым нада было выбраць **касіра,** які будзе збіраць выкуп за кашу.* Петрыкаў; *Выбіралі сярод прысутных самага гаварлівага і жартаўлівага чалавека, які быў **лічыльнікам** (лічыў, на якую суму пакладзе на горшчык з кашай кум, кума, баба).* Дзякавічы Жытк.

"Усе прыведзеныя факты даюць нам падставу разглядаць частку абрадаў, звязаную з нараджэннем дзіцяці, як акт прыёму нованароджанага ў грамадства. Асноўнымі тут з'яўляюцца хрысціянскія моманты, асабліва правядзенне хрышчэння", – сцвярджае вядомы даследчык усходнеславянскай этнаграфіі Д.К. Зяленін [1, с.323].

**3. Назвы рытуальных прадметаў або сімвалаў,** якія выкарыстоўваліся падчас такіх этапаў, як нараджэнне, першае купанне, хрышчэнне: **ручнік:** *Спачатку яна пераадзявалася ва ўсё чыстае, потым са сваім **палаценцам** шла да рожэніцы. Абавязкова трэба было выцерці рукі этым **палаценцам**.* Петрыкаў; *Пасля царквы, калі прыдуць усе дадому, бабка ложыць дзіця на новы **саматканы ручнік,** а з другога баку ручніка саскубае ножыкам пушок, якім пасыпае дзяўчынцы ў пахі, каб не было апрэласцей, а хлопчыку – на пупок, каб не было грыжы.* Губічы Буда-Каш.; *Бабіна каша ўгортваецца ў **ручнік**.* Навасёлкі Петр.; **дзяжа:** *А калі сільна цяжкімі былі роды, дак разводзілі ў **дзяжы** цеста для хлеба і садзілі на яе парадзіху.* Каменка Рагач.; **стужка:** *Абязацельна дзіцятка перавязуюць **стужкай:** хлопчыка – галубой, дзяўчынку – краснаю або розавай.* Валосавічы Акцябр.; **шпага:** *Раней, каб дзеці не былі труслівыя, ім пры раджэнні давалі ў рукі **шпагу**.* Дзімамеркі Лоеўск.

Прадметы, якія выкарыстоўвалі, калі пераразалі пупавіну, таксама мелі сімвалічнае значэнне: *При рождении **девочки** пуповину перерезали **на книге, ножницах, различных орудиях ткачества,** а когда рождался **мальчик – на книге, топоре, ноже**.* Зябраўка Гом.; *Пры бабцы ражалі. Яна бабіла і пуп абразала. **А тое месца клала ў чаранок і пад прыпечкам.** А еты пуп, калі адсохне, дык*

*калі вырасце дзіця, то даўжно з самага пупа развязаць вузліка. І казалі, што будзе шчаслівае дзіця, калі развяжа пуп.* Краснагорск Буда-Каш.

Шмат рытуальных прадметаў выкарыстоўваліся пры з'яўленні ў сям'і нованароджанага, каб засцерагчы яго ад сурокаў, каб вырас дужым і прыгожым. З гэтай мэтай у розных рэгіёнах выкарыстоўваліся самыя разнастайныя прадметы і прыстасаванні: **арэхі, часнок, кажух, мак, ёмка, кавеня, вілкі:** *Каб **навароджанага не сурочылі**, у калыску пад матрац клалі два ці шэсць **арэхаў**, галоўна, каб арэхі былі ў пары. Каб **не сурочылі парадзіху**, яна клала ў карман **часнок**.* Жлобін; *Маці прымала дзіця ў **вывернутым кажусе**, каб засцерагчы ад сурокаў.* Валосавічы Акцябр.; *Маломy нованароджанаму ад урокаў надзявалі рубашку на левую сторану, пад падушачку лажылі **свянцовы мак**.* Навасёлкі Петр.; *Двенаццаць дней после родаў нельга выходзіць на вуліцу. Калі гэта неабходна, то патрэбна браць з сабою **ёмку, кавеню ці вілкі**, каб не зурочылі.* Дуброва Лельч.; **вугольчык, хлеб:** *Каб адагнаць ад дзіцяці злыя сілы, у калыску клалі **вугольчык, хлеб, соль, жалезны прадмет**.* Лубянікі Браг.; **венік:** Адразу пасля нараджэння дзіцяці ў галаве маці клалі **венік-галень**, які аберагаў жанчыну ад сурокаў. Знамя Добр.

Парадзіха **аберагала** сябе і сваё дзіця ***чырвонай шарсцяной ніткай***. *Аберагаліся **іголкамі, шпількамі, вугальчыкамі, засушанымі кавалачкамі вясельнага каравая, велікоднай соллю, галінкамі рабіны**.* Валосавічы Акцябр.; *Парадзіху і навароджанага **абаранялі соллю і пасвяцонай вадзіцай**.* Юркавічы Ветк.

Самыя разнастайныя прадметы выкарыстоўваліся пры першым купанні нованароджанага. Найперш гэта былі травы, у адвары з якіх купалі дзіця: *Купалі ў настоі з травы **любісцік** для таго, каб любілі хлопцы дзеўку і наадварот.* Старая Дуброва Акцябр.; *Бабка кідала ў ваду сухую траву **чыстацел** (каб было ў дзіцяці чыстае цела), **дубовую кару** (каб былі моцныя зубкі).* Гаць Акцябр.; *Баба гатовіць воду маломy і говорыць, шоб он чуў, шо ў водзе: "Во, мой дорогі, каб ты буў хорошы і чысты, я добаўлю **чыстоцелу**, а коб спаў добрэ – **горбацу**".* Малы Малішаў Жытк. У некаторых вёсках дзяўчынку купалі ў малацэ, а хлопчыка ў вадзе з дабаўленнем піва: *Дзевачку першы раз мылі ў **малаке,***

*тады яна будзе белая, красівая. Хлопчыка купалі ў* ***піве*** *– будзе маладым, красівым.* Кірава Добр.

Часта ў ваду для купання дабаўлялі іншыя прадметы, каб дзіця было здаровае, прыгожае, гаспадарлівае: **манеты, зерне:** *Дзіцёнка мыюць у настоі розных духмяных траў. У тую ваду кідаюць шчэ* ***сярэбраную манету і жытнёвыя зярняткі****, каб жа яно было багатае і шчаслівае. Калі ж купаюць дзяўчынку, дык жа ўліваюць у воду* ***малака,*** *а гэта ж каб яна была прыгожая.* Лубянікі Браг.; **святыя краскі, цвяты, вусеўкі з пшаніцы:** *Бабка сейчас і купала. У ваду ў вузліку клалі* ***вусеўкі з пшаніцы****, каб дзіця поўнае було, і* ***цвяты, што на Тройцу свецяць,*** *дабаўлялі.* Краснагорск Буда-Каш.; *Купала дзіця першы раз тожа бабка-павітуха. Калі нараджалася дзевачка, то купала яе бабка ў* ***святых красках*** *і гаварыла: "Каб і мая ўнучка была такая красівая і шчаслівая, як етыя краскі"*. Міхалёўка Буда-Каш.; **сякеру, цвікі:** *А нараджаўся хлопчык, то клалі ў начоўкі* ***тапор і гвоздзі****, каб хлопчык быў масцеравым.* Міхалёўка Буда-Каш.; **кніжку:** *Першы раз купае ета баба. Яна берэ пялёнкі, своё што ў яе е. У воду кладуць* ***кніжку под голову і копейкі*** *кідаюць, штоб дзіця було багатае і ўмное.* Даўгалессе Гом.; **соль:** *дзявяты дзень – першае рытуальнае купанне дзіцяці. У ночвы кладуць* ***соль і лекавыя травы,*** *сярэбраную манету, каб дзіця было чыстае, здаровае і багатае. Манеты забірала сабе бабка-павітуха.* Кірава Добр.; **калечка:** Каб дзіця было багатае і ў пары, кідалі **калечка.** Кірава Добр.

Перад адпраўленнем ў царкву новародженага мылі ў спецыяльным адвары: *Перад царквой бабка купала малое, кідала* ***ў ваду мох і кару дуба,*** *каб "не баяўся" і каб "зубкі былі моцныя"*. Жлобін.

Пасля купання новародженага ***клалі коло печы****, там, дзе* ***ложылі дрова****, для того, шоб нечыста сіла побачыла з коміна, шо гето дрова і потом не прыставала до дзіцяці, так дзіця будзе спокойнэ, і ешчэ дзіця, колі вырасце, будзе хозяйскім чоловеком. Потом дзіця клалі ў колыбель і вешалі над ім* ***дзерэвянные цацкі з віду пташок ці жывёл, коб зашчыціць ад заговороў.*** *Дзерэвянные пташкі вешалі на нітачцы на покуцці, шоб зашчыціць.* ***Лялькі, зробленыя з онуч, ставілі на вокна, оны булі заступнікамі од ночніц*** *– злых духоў, екія мучаць малэ по ночам.* Малы Малішаў Жытк.

Прынцыповае значэнне мелі і прадметы, якія трэба было браць у царкву для правядзення абраду хрышчэння: **крыж, крэшчык:** ***Крыж** у асноўным ляжыць на хлебе, а хлеб ляжыць на рушніку, затым **крыж** свеціцца і адзяецца на дзіця; У цэркві кум должэн быў купіць **крэшчыка** сваяму хрышчэнцу.* Петрыкаў; **хлеб, соль, свечка, сякера, нож:** *Калі кумы адпраўляліся хрысціць дзіця, то стараліся прыхапіць з сабой розныя прадметы, якія прынясуць шчасце нованароджанаму. Бралі з сабой **грамнічную свечку, кусок хлеба, шчапотку солі, іншыя клалі грошы, сыр** і яшчэ штонебудзь, каб чалавек стаў шчаслівым і багатым.* Кірава Добр.; *Выносячы дзіця з дому, кум правай нагой станавіўся на **сякеру** альбо **нож**.* Казлоўка Лельч.; **мятнік, увівч:** *Кума брала ў цэркву **мятнік** (кусок тканіны) і хлеб, аддавала цэркве ето ўсё. Хрысцілі на мятніку.* Мілашавічы Лельч.; *Ім даюць **увівч*** (кавалак тканіны), *каб выціраць рукі.* Мормаль Жлоб.

Калі вярталіся з царквы, сустракалі хросных і новага хрысціяніна іншымі прадметамі – хлопчыка будаўнічымі інструментамі, дзяўчынку – шавецкімі, каб выраслі добрымі гаспадарамі: *Был такой обряд. Родители встречают, когда с церкви идут. Если мальчика встречают, **ложат на пороге молоток, пилу, гвозди,** если хотят, чтоб хозяин был. Если девочку встречают, **ложили вилки,** чтоб хозяйкой была, **иголку с ниткой,** чтоб вышивала. В общем, кем хочешь, чтоб твой ребёнок стал, то и ложи. Чтоб красивая была, **можешь розу положить**.* Дзяражычы Лоеўск.

Самыя разнастайныя прадметы выкарыстоўваліся і ў час застолля пасля хрышчэння: **мыла, ануча:** *Калі дораць падаркі, гавораць розныя прыказкі: “Нарадзілася дзіця на белы свет, хай не знае ніякіх бед. Вот яму **мыла, каб было для ўсіх міла, дару анучы, каб ножкі не былі босы**”.* Рассвет Акцябр.; **капейкі, сярэбраная грыўня:** *Тады ў чарку гарэлкі кідалі **капейкі** і выпіваў гарэлку хросны бацька. Астаткі гарэлкі ён жа выліваў уверх, дый жа гаварыў: “Каб наш хрышчэнік так высока скакаў!” Тады ізноў жа кідалі ў чарку, толькі ж ужэ **сярэбраную грыўню**. Выпівала хросная. Другім гасцям капеяк ужэ не лажылі.* Лубенікі Браг.

Падчас застолля сімвалічнае значэнне мелі нават жывыя істоты: **кот, певень:** *Потым падаюць кашу. Ловяць **ката ці пеўня** і саджаюць у чыгун, накрываюць ручнікам і пытаюцца ў бабы,*

*ці яе гэта каша? Баба адказвала, што гэта не яе каша. Кату ці пеўню абавязкова даюць з ложкі гарэлку, для таго каб хрэснік быў здаровы і шчаслівы.* Чамярысы Браг.; *Верх з кашы абавязкова сабіраюць і аддаюць **курам**.* Чамярысы Браг.

Пасля застолля бабу дадому вазілі на **баране:** *Садзілі кума і куму на **барану** і ездзілі да крамы.* Навасёлкі Петр.; **на тачцы:** *Яшчэ вазілі куму на **тачцы** ў магазін.* Валосавічы Акцябр.; **на санках:** *Бабу садзілі на **санкі**, на барану зуб'ем угору. Сцялілі кажух.* Старая Дуброва Акцябр.; *Садзяць бабу зімой на **санкі**, а летам – на **калёсы** і вязуць яе дамой, а яна едзе і ўсіх угашчае.* Жлобін.; **у карыце:** *А калі жартаўнікі, маглі і ў **карыце** зацегці.* Старая Дуброва Акцябр.; *Патом везлі бабу на **карыце** дадому. Як добра заплоціць, дак добра правязуць, патом яна ставіць магарыч.* Дзімамеркі Лоеўск.; **у начоўках:** *Быў звычай вазіць бабку, яе саджалі ў **начоўкі** і вазілі, каб гарэлкі дала.* Неглюбка Ветк.; **калясцы, балеі:** *Каталі ў **калясцы** ці ў **балеі** якой, гаварылі: "Давай, баба, магарыч за то, што вазілі!"* Удалёўка Лоеўск.; **на калёсах:** *Бабушку нада была вазіць. Калісь вазілі на **санях**, еслі зімой, летам* – ***на калёсах**. Летам вязуць **яе "ўтапіць"**. А бабушка **ўзяла венік з сабой**, к вадзе падвазілі, яна венік ужэ мачае і па ўсім махае, адбіваецца.* Лоеў; **на карчы:** *Потым возяць бабку: зімой – на санях, а так **то на карчы,** то на баране.* Вашчанкі Карм.

Папярэднія прыклады дазваляюць гаварыць аб тым, што асацыяцыі і аналогіі – адзін з механізмаў узнікнення прыкмет, павер'яў, звычаяў. Калі гаварыць пра асацыяцыі, то яны заключаны ў спецыфічным характары мыслення нашых продкаў, ва ўласцівым для іх міфалагічнай свядомасці сінкрэтызме і ў немалой ступені прадвызначаны фактарамі неразумення свету. "Чалавек яшчэ ў ніжэйшым разумовым стане навучыўся аб'ядноўваць у думках тыя рэчы, якія ён знаходзіў звязанымі паміж сабой у рэчаіснасці. Аднак у далейшым ён сказіў гэту сувязь, зрабіў вывад, што асацыяцыя ў думках павінна дапускаць такую ж сувязь і ў рэчаіснасці. Кіруючыся гэтым, ён спрабаваў адкрываць, прадказваць і выклікаць падзеі такімі, якія, як мы бачым зараз, мелі чыста фантастычны характар" [2, с.94].

**4. Назвы абрадавай ежы.**

Напярэдадні родаў пры выбары бабкі-павітухі абавязкова ішлі да яе з хлебам: *Нясуць ужо свякроўка ці мамка, ці мужык хлеба (нада хлеба занясці бабе) і ўжо просяць, што вот мы хочам вас узяць за бабу, штоб вы нашага мальчыка ці дзевачкі булі бабаю.* Павітуха, пагадзіўшыся, павінна была прыгатаваць яечню: *І вот яна ўжэ жарыць **талерку яечні,** боўтае-боўтае, і такую ўжэ разбаўтае, такую тоўсту-тоўсту яічніцу. Бальшую міску гэтай яічніцы прыносіць, **напячэ каржоў**. І эта потым ідзе яна ўжэ бабіць.* Дуброўнае Браг. Абавязкова частавалі бабку пасля завяршэння родаў: *Роды прынімала бабка. Да родаў яна далжна прыйці да рожаніцы тры раза. Выбіралі знакомую, з добрымі рукамі, бабку, якая ўмела. Ей давалі ўгашчэнне, ну, там што какое свойскае: **малако, сыр, сала, мяса**.* Мазыр.

Пасля родаў бабка-павітуха наведвала парадзіху і дапамагала ёй, у тым ліку гатавала пэўныя стравы: *На другі дзень яна (бабка) прыходзіла на радзіны атведаць унука ці ўнучку. Прыносіла абязацельна **квас, які варылі з агурэчнага расолу, клалі з ячменя крупы, немнога грыбоў**. Ета было абязацельна блюда бабчына.* Міхалёўка Буда-Каш.; *У першыя дні пасля родаў бабка ва ўсім дапамагала парадзісе. У першы тыдзень тройчы прыходзілі ў адведкі. Прыносіла **аладкі, налісннікі, коржыкі, кісель** і інш.* Славань Светл.; *После етаго бабка-павітуха шла дадому, **пекла блінцы, пампушкі, брала мёд** і несла парадзісе для ўзнаўлення сіл.* Дуброва Лельч.; *Бабка-павітуха варыла **ўзвар, пякла аладкі, мачала іх у тоўчаны мак** і прыносіла да парадзіхі.* Глазаўка Буда-Каш.

Акрамя бабкі, парадзіху наведвалі яе сваякі і сяброўкі, якія таксама прыходзілі не з пустымі рукамі: *Каб парадзіха не ўтамлялася, к ёй у адведкі прыходзілі па дзве-тры жанчыны. Яны прыносілі гаспадыне **бліны, яечню, хрушчыкі, мёд, яблыкі, грушы**.* Лубянікі Браг.; *Спачатку да жанчыны (парадухі) прыходзілі родственнікі. Гэта былі вотведкі. Прыносілі **пячэнне, канфеты, бліны**, каб падкрапляць сілы ў парадухі.* Кіцін Жлоб.; *Прывозяць рожаніцу дамой і прыходзяць в атведкі толькі жанчыны. Прыносяць усю прыгатаваную страву, рожаніца не павінна гатаваць. Прыносяць **ладкі, раней з макам**, рожаніца паесць, і дзіця добра спала. Прыносілі **мёд, каб салодка было, сухарыкі выпякалі,***

***кісель з журавін і чарніц*** *у місках, густы, штоб ложкай есці, абавязкова* ***хлеб, гарэлку, віно***. Печышчы Светл.; *Калі прыходзілі наведываць роджаніцу, прыносілі што-небудзь пячонае:* ***блінчыкі, пампушкі, сухарыкі, булачкі.*** *Нада было абязацельна памакаць пампушку ў сметану, а потым пакачаць у сахары і даць жэншчыне.* Дуброва Лельч.; *Адведкі спраўлялі ў нас у пятніцу, на першым тыдні. Да парадзіхі прыходзілі мы пасля абеда. Бралі з сабой* ***аладкі, варэнне, цукар,*** *можна было ўзяць трохі* ***масла са смятанай.*** Рэчыца; *Калі адбыліся роды, маці накарміла дзіця і к ёй прыходзяць жэншчыны. Але пасля абеду яны прыносяць якое-небудзь печыва:* ***аладкі, бублікі, рагалікі, булачкі, варэнікі, якія абмочвалі ў мёд, салодкую смятану, варэнне. Яшчэ неслі кісель, розныя ягадныя адвары. Каўбасу, яечню, малочныя прадукты.*** Кругавец Добр.

Усе прыгатаванні да радзін рабілі самі, жанчыны прыходзілі на радзіны з прыгатаванымі стравамі: *Прыносілі* ***мёд, студзень, мяса, сала, рыбу, кісель, кампот, медавуху, аладкі, сухарыкі, блінчыкі, бульбу-смажанку з мясам, з грыбамі.*** Каралёва Слабада Светл.; *На радзіны прыходзілі родственнікі, друзья, саседзі. Кожны штосьці прыносіў на радзіны:* ***хто зерно, хто хлеб, сала,*** *прыносілі і* ***кампот гарачы*** *ў куўшыне. Усіх, хто сабраўся на радзіны,* ***угашчалі самагонам і жарылі яешніцу, гушчу, дранікі.*** Бабічы Чачэр.; *У асноўным гатавалі* ***блінчыкі, халоднае, кісель.*** *А галоўным быў* ***кампот з яблыкамі і грушамі сушанымі,*** *каб не балеў жывот.* ***Гарбуз (кабачок)*** *на хрэсьбіны надзяром,* ***чарніц сушаных намочым – яны набракаюць, буракоў надзяром – атрымлівалася павідла. Мы называлі “мёд”. Маку натаўком.*** Баравікі Светл.

Стол накрывалі з захаваннем традыцый, што склаліся ў пэўным рэгіёне: *Стол быў накрыты скацеркай, на голы стол ежа не ставілася.* Каралёва Слабада Светл.; *Затым маці садзіць гасцей за стол, што накрывалі* ***белай скацеркай з розавымі цвяточкамі, калі дзевачка, і з сінімі ці з зялёнымі, калі хлопчык.*** Добруш.

***Пасля адведак рыхтаваліся да абраду хрышчэння і святочнага застолля ў яго гонар:*** **Пасля храсцін у хаце рабілі адведкі. Пеклі** каравай, **рабілі** багаты стол. ***Сінічына Буда-Каш.;*** **Пасля**

**царквы дома рабілі** святочны абед. **На ім былі ўсе родственнікі і кум з кумой.** ***Баршчоўка Добр.***

У час падрыхтоўкі да святочнага абеду існавалі пэўныя звычаі, у тым ліку звязаныя і з тым, хто, калі і якія стравы будзе гатаваць, у якім парадку іх будуць падаваць: *Хазяйка* ***строіла гарэлку, кашу варыла і борщ варыла.*** *Кашу з пшана.* Новыя Галоўчыцы Петр.; *Абавязкова павінны быць на стале* ***блінчыкі з смятанай і макам, кісель.*** Гаць Акцябр.; *Маладая маці выпякці далжна што-небудзь на стол:* ***аладкі, булачкі.*** Пружынішчы Акцябр.; *На хрэсьбіны кума варыла* ***кашу*** *ў гліняным гаршку, штоб разбіць можна было.* Церахоўка Добр.; *Кроме кумоў выбіралі яшчэ і бабу. Ёй можа быць чужая жанчына. Яна варыла* ***кашу і квас з грыбамі.*** Вуглы Калінк.; *Перад тым як перахрысціць дзіця, кума і бабка варылі* ***кампот з сухіх ягад*** *і ішлі ў вотведкі, штоб адведаць парадзіх, абязацельна з кампотам.* Церахоўка Добр.; *Бабушка варыла* ***кашу, пірага пекла з макам ці з ігрушамі.*** Жлобін.

Найбольш пільная ўвага надавалася бабінай кашы: *На хрэсьбінах была бабка-павітуха, якая прыгатавала* ***кашу.*** Багрымавічы Петр.; ***Бабіна каша*** *ўгортваецца ў ручнік.* Навасёлкі Петр.; *На абедзе была* ***"бабкіна каша".*** Пірэвічы Жлоб.; *На абедзі галоўным блюдам была* ***красцінная каша.*** Баршчоўка Добр.; *На хрэсьбінах бабка кашу варыць. Яе выкупаюць. І кум павінен болей за ўсіх грошай даць, каб разбіць ету кашу. Сначала з кашы знімаюць пігарку.* ***Пігарка*** *– гэта верхняя частка кашы, што як корачка. Гэтую пігарку разам з дзеньгамі, якія даюць кум і бабка, кладуць у фартух паражайцы. А паражайка ложа яго пад галаву маломy, каб не прыставалі сурокі.* Мазыр.

Увогуле, каша як адна з галоўных абрадавых страў не толькі беларусаў, але і ўсіх славян рыхтавалася падчас значных падзей у жыцці чалавека ці групы людзей і набывала сімволіку дабрабыту, багацця, заможнасці. "Здольнасць кашы пры варцы павялічвацца ў аб'ёме, "расці" матывавала такія яе значэнні, як пажаданне хуткага росту, памнажэння і развіцця, галоўным чынам у радзінных абрадах, а таксама ў жывёлагадоўчых абрадах" [3, с.483].

Да прыгатавання бабінай кашы прад'яўляліся пэўныя патрабаванні, яе абавязкова ўпрыгожвалі: *Баба варыла* ***кашу з прасяных круп,*** *дабаўляла ў кашу* ***масла, мёд, малако.*** Гаць Акцябр.; *Верх*

*кашы баба ўпрыгожвае* ***кветкамі, кладзе грошы*** *і абавязкова ўтыркае* ***карандаш****, прыгаворваючы: “Вучыся добра, жыві багата і каб квітнеючае была ў цябе жыццё”*. Чамярысы Браг.; *От ужо будуць хрысціць, і баба доўжна варыць* ***кашу,*** *обычна* ***з пшана****. Туды вжо кладуць, не шкадуючы,* ***масло, яечкі і сахар****. Як зварацць,* ***конфеты ўтыкаюць і каліною краснай*** *обкідаюць горшчочка.* Даўгалессе Гом.

Неабходна адзначыць, што ў некаторых мясцовасцях кашу гатавалі таксама кум і кума: *На хрэсьбінах было* ***тры кашы: бабіна каша, куміна каша, кумава каша****.* Старыя Цярэшкавічы Гом.; ***Частаваліся квасам, блінцамі, а пасля – бабінай кашай****. Гэты гаршчок з кашай разбівалі аб стол. Баба ставіла талерачку, лажыла на яе капейку і частавала ўсіх па ложцы кашай. Кожны з гасцей браў рукою кашу, а на талерку лажыў грошы. Пасля ставілі* ***кашу хроснай маці****, якая ўжо была ў каструлі, пасля яшчэ была і* ***кумава каша,*** *але за яе ўжо грошы не плацілі.* Рассвет Акцябр.

У некаторых раёнах Гомельшчыны першы раз падавалі **падстаўную кашу**: *Першы раз бабе падавалі не яе кашу, а падстаўную.* Гаць Акцябр.; *Той, хто нашоў кашу, выносіць сначала* ***“падманкавую” кашу*** *(то петуха, то капусту).* Зялёная Слабада Жлоб.

Застолле магло працягвацца не адзін дзень: *Другі дзень называўся пахмелле. Баба несла* ***патраўку з грыбамі і мясам****.* Вялікі Бор Хойн.

**5. Назвы адзення, звязанага з радзіннай абраднасцю.**

*Баба адзявала на хрэсьбіны* ***вышытую кохту, спадніцу шырокую, фартух, хустку****.*

*Дзіцятка пахрысцяць, пакупаюць, баба яго спавівае. Бярэ длінны пояс, метра 1,5, штоб усё дзіця спавіць, абмотуе яго ўсяго. Ета* ***спавівач*** *называецца.* Мазыр.

*Для лёгкіх родаў сцялілі* ***штаны мужчыны*** *на парозе і бярэменная павінна была пераступіць праз іх, для лёгкіх родаў.* Пераросты Добр.

*Родившегося мальчика бабушка обычно заворачивала* ***в женскую сорочку, а девочку – в мужскую****. Считалось, что впоследствии выросшего ребёнка будут любить представители противоположного пола.* Зябраўка Гом.

*Як ходзіш у палажэнні, трэба было насіць* ***фартух,*** *штоб не быў дзіцёнак урочаны ( не баяўся ўроку ).* Брылёва Гом.

Абрады, звязаныя з сямейным жыццём чалавека, з'яўляюцца праяўленнем традыцыйнай культуры беларусаў, таму ў генетычных адносінах амаль уся лексіка належыць да агульнаславянскага лексічнага фонду. Гэта такія лексемы, як *бабка, дзед, кум, радня, хрысціць, каша, гаршчок, мятнік, ручнік, кажух, маці, бацька, парадзіха* і інш. [4].

Большасць зафіксаваных лексем з'яўляюцца матываванымі найменнямі. Фактар матываванасці слова звязаны з лексічным значэннем, прадвызначае лексіка-семантычную характарыстыку слова, яго семантычную валентнасць, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць і вобразнасць.

Пад матываванасцю слова звычайна разумеюць "абумоўленасць яго значэння значэннем іншага слова, ад якога яно ўтворана" [5, с.121], усведамленне сувязі значэння і гукавой абалонкі, якая выражае гэта значэнне [6, с.153].

Больш дакладнае, на нашу думку, азначэнне разглядаемага паняцця падае В.І. Блінова, якая лічыць, што "матываванасць – структурна-семантычная ўласцівасць слова, якая дазваляе ўсвядоміць рацыянальнасць сувязі значэння і гукавой абалонкі слова на аснове яго суадноснасці з аднакаранёвай (аднакаранёвымі) і аднаструктурнай (аднаструктурнымі) адзінкамі" [7, с.6].

У адпаведнасці з такім падыходам да праблемы матываванасці слова выдзяляюцца розныя тыпы матывацыі: *лексічная* (адносіны матываванага слова з аднакаранёвым словам) і *структурная* (адносіны слова з аднаструктурнымі найменнямі). У аснове лексічнай матывацыі – сувязь вытворнага слова з гучаннем і значэннем утваральнай асновы і ўсведамленне матывуючай прыметы абазначаемага слова. Структурная матывацыя вызначаецца суадносінамі намінатыўнай адзінкі са словам ідэнтычнай або падобнай структуры і асэнсаваннем класіфікацыйнай прыметы наймення [5, с.6].

Словы, у якіх лексічнае значэнне матываванае, маюць т. зв. "унутраную" форму. Унутраная форма матывуе сувязь паміж утваральным і вытворным словам. Яна з'яўляецца зыходным пунктам матывацыі значэння новай намінатыўнай адзінкі. У лексічнай сістэме народна-дыялектнай мовы пераважаюць матываваныя

назвы. Іх унутраная форма, разам са складанафанемнай структурай і граматычным ладам, надае мове нацыянальны каларыт.

Пад структурна-семантычным тыпам матывацыі мы разумеем адзінства лексічнай і структурнай матывацыі слова, якое праяўляецца ў яго сувязі з гучаннем і значэннем утваральнай асновы і суадносінах з аднаструктурнымі моўнымі адзінкамі.

Як паказвае аналіз, самым пашыраным тыпам структурна-семантычнай матывацыі разглядаемых назваў з'яўляецца намінацыя паводле працэсуальнай прыкметы: *пахмелкі, роджаніца, парадуха, радзільніца, хрышчэнік, мятнік, хрэсьбіны, красціны, радзіны, адведкі, вотведы, сматрыны, павітуха, рубаха*. У такой дэрывацыі ўдзельнічаюць суфіксы *-к-, -ух-, -іц-, -ах-, -ын*.

Радзей утвараюцца найменні ад назоўнікаў: *кажух, бабушка, ручнік*.

Зафіксаваны на тэрыторыі Гомельскага рэгіёна і складаныя назвы. Сустракаюцца наступныя мадэлі састаўных назваў:

прыметнік + назоўнік: *сваццовы мак, падстаўная каша, хросны бацька, хросная маці, пупавая баба, спавівальная бабка;*

дзеяслоў + назоўнік або назоўнік з прыназоўнікам: *вадзіць "хвост"; збіраць на шапачку; класць на кашу;*

назоўнік + назоўнік: *перапіванне кумоў.*

дзеяслоў + назоўнік + назоўнік з прыназоўнікам: *выціраць рукі аб плацце*: *Пасля бабцы дарылі падарак, ткань на плацце. Гэта называлася выціраць рукі аб плацце.* Кіцін Жлоб.

Адзінкавымі з'яўляюцца выпадкі субстантывацыі: *красная* 'радзіны': *Радзіцца дзіця, тры дні акрэпне – спраўлялі красную (радзіны).* Старыя Цярэшкавічы Гом.; складання слоў: *пупарэзніца* 'спавівальная бабка'.

Даволі значную групу ў гаворках Гомельшчыны складаюць экспрэсіўныя абрадавыя назвы. Асаблівасцю эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі з'яўляецца тое, што эмацыянальная афарбоўка накладаецца на лексічнае значэнне слова, але не зводзіцца да яго: дэнататыўнае значэнне слова ўскладняецца канататыўным. Такія лексемы, акрамя намінатыўнай, маюць яшчэ і экспрэсіўную функцыю, якая робіць іх адметнымі, выразнымі ў лексічнай сістэме народна-дыялектнай мовы. Дадатковыя сэнсавыя кампа-

ненты, уключаныя ў семантычную структуру слова, дазваляюць перадаць такія эмацыянальна-ацэначныя адносіны суб'екта да прадмета, як ласкальнасць, іронія, кпіны.

У складзе эмацыянальнай лексікі можна выдзеліць наступныя групы:

1. Словы з яркім канататыўным значэннем, якія ўтрымліваюць ацэнку фактаў, з'яў, прыкмет, што даюць адназначную характарыстыку: "*Каб і мая ўнучка была такая* ***красівая і шчаслівая****, як етыя краскі*". Міхалёўка Буда-Каш.; *Еслі ідзе дождж, эта тожа* ***плоха****.* Добруш; *Нельга было ругацца з кумаўямі, гэта было вялікім* ***грахом****.* Баршчоўка Добр.; *Роды часцей усяго праходзілі ў бані, яна лічылася* ***святым*** *месцам.* Знамя Добр.; ***Шчаслівым*** *лічылася тое дзіця, калі ў дзень яго народзінаў у доме быў яшчэ які-небудзь прыбытак.* Кірава Добр.; *Кашу варылі, бабку звалі,* ***харошую*** *бабку выбіралі.* Перараст Добр.; *Ета каша не мая, мая* ***красівая, дарагая****.* Зялёная Слабада Жлоб.; *Пелі, якая* ***добрая*** *гаспадыня,* ***харошая*** *жонка,* ***красівая*** *маладзіца.* Лясань Жлоб.

2. Мнагазначныя словы, нейтральныя ў асноўным значэнні, якія атрымліваюць якасна-эмацыянальнае адценне пры пераносным ужыванні: *А штоб наша* ***ягодка*** *(дзяўчынка) бальшая расла.* Гулевічы Калінк.; *А там мышы* ***шалелі****.* Касакоўка Жлоб.; *Спасіба табе, кумок, мой* ***галубок****, Што дамоўкі прывёз.* Гулевічы Калінк.; *Ты, кума, ты,* ***душа****, Саўсім хараша.* Гулевічы Калінк.

3. Словы з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі, якія перадаюць розныя адценні пачуццяў. Такія адценні значэння могуць выражацца ўнутраным зместам моўных адзінак, з'яўляюцца імпліцытнымі – выражацца праз знешнія, фармальныя паказчыкі (суфіксы суб'ектыўнай ацэнкі).

Выключным багаццем экспрэсіўных адценняў вылучаецца лексіка са значэннем асобы. Шырока прадстаўлена яна ў радзіннаабрадавых песнях: ***Бабулька*** *ж мая міленькая.* Добруш; ***Бабуленька*** *мая міленькая...* Добруш; *Вот родзіцца* ***дзіцёначак****.* Дуброўная Браг.; *А дзесятую* ***дачушку****. Яе браты калыхалі.* Добруш; *Люлі, люлі,* ***сястрыца****.* Добруш; *Зеляно віно для* ***радзішачкі****.* Добруш. *Не шкадуйце, мае* ***кумочкі****.* Добруш; *А на* ***дачушку*** *– няхай выбачае.* Тураў Жытк.

Памяншальна-ласкальныя суфіксы назоўнікаў, што сустракаюцца ў радзінных песнях, у сваёй большасці не звязаны з памяншэннем прадмета (*хацінка* не *маленькая хата*), а з выражэннем адносін велічальнасці або ласкальнасці. Так, суфіксы *-еньк-, -аньк-, -іньк-* выяўляюць станоўчыя адносіны да аб'екта, маюць значэнне яркай эмацыянальнасці і размоўнай экспрэсіўнасці: *Бяжыць (імя) к сваёй* ***бабусеньке****. Бяжыць яна* ***скоранька****, Просіць яна* ***шчыранька****: – Дай жа, Божа, маёй унучцы* ***Лягенько, дабрэсенько, скарэсенько****!* Буркі Браг.

Такія ж адносіны выражаюцца з дапамогай такіх суфіксаў, як

*-к-: Аж да* ***ўторнічка*** *гуляць.* Добруш; *У нас* ***радзінкі*** *былі.* Добруш; *Паміж іх да ручаёк бяжыць. А ў тым ручайку да тры* ***кубачкі****.* Добруш; *А хто ў нас ды па* ***ночцы*** *ходзіць.* Тураў Жытк.; *Як сын, малявана* ***калыбелька****.* Тураў Жытк.; *Еш,* ***кумка, ягодкі****, каторы салодкі.* Стралічава Хойн.;

*-ак-, -ок-, -ёк-: Вот родзіцца* ***дзіцёначак****.* Дуброўная Браг. *Абы вырас* ***унучак****.* Добруш; *А Машын* ***палюбоўнічак****.* Покаць Чачэр.; ***А свежая*** *рыбачка –* *Акунёк. Ні вор, ні* ***зладзейнічак****, ні* ***разбойнічак****.* Юравічы Калінк.; *У моей жаны* ***жываток*** *баліць.* Тураў Жытк.;

*-ц-: З харошага* ***дзераўца****, З асату.* Юравічы Калінк.;

*-ачк-, -очк-, -ечк-, -ейк-*: *Кума мая,* ***кумачка****.* Краснае Браг. ***Баханачку*** *хлеба.* Лубянікі Браг.; *Чаму мяне ў* ***госцейкі*** *Не завеш?* Юравічы Калінк.; *Затым маці садзіць гасцей за стол, што накрывалі белай скацеркай з розавымі* ***цвяточкамі****, калі* ***дзевачка****, і з сінімі ці з зялёнымі, калі хлопчык.* Добруш; *То мы будзем, мае* ***кумочкі****, Усю* ***нядзелечку*** *гуляць.* Добруш; *Не шкадуйце, мае кумочкі, Па* ***каровачцы*** *даць.* Добруш; *Як свежае* ***рыбачкі*** *Навару.* Юравічы Калінк.; *Горка* ***гарэлачка*** *для* ***суседачак****.* Добруш; *Яшчэ к таму* ***сенечкі*** *Прыпляту.* Юравічы Калінк.; *А вунь мая* ***хатачка*** *Ля вады.* Юравічы Калінк.; *Кацілася, валілася* ***Калодачка*** *з печы.* Тураў Жытк.; *Як дачка, лубяная* ***каробачка****.* Тураў Жытк.; *Прыдзіце ка мне, жанчыны, з* ***падарачкамі****.* Шырокае Чачэр.;

-чык: *Не шкадуйце, мае кумочкі, Па* ***рубельчыку*** *даць.* Добруш;

-ятк-: *Дадому з* ***дзіцяткам****.* Лубянікі Браг.;

-іц-: *Раса пала на* ***травіцу****.* Добруш; *Люлі, люлі,* ***сястрыца****, Спі доўга, расці скора.* Добруш.

У складзе суфіксальных утварэнняў можна вылучыць словы максімальнай ступені экспрэсіўнасці – такія дымінутывы, якія ўтвараюцца ад дымінутываў: *бабулечка* ад *бабуля*: *Дам табе, **бабулечка**, Тры пуды маку* Добруш; *бабусенька* ад *бабуся*: *Бяжыць (імя) к сваёй **бабусеньке**.* Буркі Браг.; *У нядзельку ранесінька Бяжыць Іван к сваёй **бабусенькі**.* Касакоўка Жлоб.; *дзіцёначак* ад *дзіцёнак*: *Вот родзіцца **дзіцёначак**.* Даброўная Браг.; *кумочкі* ад *кумок*: *А сягоння, мае **кумочкі**, Мы на хрэсьбіны прыйшлі.* Добруш.

У такіх назоўнікаў праяўляецца ўзмоцненая ступень ласкальнасці, мяккасці, добрых адносін.

Часта ў складзе радзіннай лексікі выяўляюцца прыметнікі і радзей прыслоўі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі. У шырокім спектры чалавечых пачуццяў – захапленне, замілаванне, цікавасць і падобнае, якія праяўляюцца ў адносінах да асобы ці прадмета, якія надзелены гэтай прыкметай і выражаюцца прыметнікам з памяншальным значэннем, немагчыма вылучыць адзіны сэнсавы кампанент, які можна было б адназначна прыпісаць суфіксу. Можна толькі канстатаваць, што такія прыметнікі адназначна выражаюць узмацняльна-станоўчыя адносіны: *Бабулька ж мая **міленькая**, Парода твая **лёгенькая**.* Добруш; *Да ўгасці ты нас **дабрэнна**.* Даброўная Браг.; *Да тры кубачкі **маляваненькіх**.* Добруш; *У нядзельку **ранесінька** Бяжыць Іван к сваёй бабусенькі.* Касакоўка Жлоб.; *Бяжыць яна, **скарэсінька**, Просіць Бога **шчырэсінька**: "Дай жа, Божа, маёй унуцы **Лягесенька, дабрэсенька, скарэсенька**".* Касакоўка Жлоб.

Суфіксы *-j- (-j-э, -j-о)* акцэнтуюць увагу на зборнасці: кумаўё: *Сабіраліся ўся радня, **кумаўё** пасадзяць за сталом.* Вуглы Браг.; *Потом прыходзяць **кумоўя**, і баба отдае дзіцятко куму.* Малы Малішаў Жытк.

Сустракаюцца ў традыцыйных фальклорных радзінных песнях і клічныя формы назоўнікаў: *Ці ты, **куме**, розуму Пытаеш?* Юравічы Калінк.; *Ой, ты, **кумачку-пане**, Ой, такі ў цібе стане.* Касакоўка Жлоб.; уласна дыялектныя канчаткі дзеясловаў: *Наша бабка ды па двару ходз**я**.* Касакоўка Жлоб.; *Бабка кашку нясе**ць**, А кум казной трасе**ць**.* Касакоўка Жлоб.; *Буд**умо** піці До понедзелка.* Рычоў Жытк.

У песнях, звязаных з радзіннай абраднасцю, часта фіксуюцца кароткія формы прыметнікаў, якія, як вядома, сустракаюцца найчасцей у фальклорных творах: *Бяжыць яна* ***боса.*** Буркі Браг.; ***Малада*** *Марына У адным кубку* ***зеляно*** *віно.* Добруш; *У трэцім кубку* ***горка*** *гарэлка.* Добруш; *У другім кубку* ***саладок*** *мядок,* ***Зеляно*** *віно для радзішачкі,* ***Саладок*** *мядок для кумы з кумам,* ***Горка*** *гарэлачка для суседачак.* Добруш; *У бабкі кашка* ***смачна,*** *А ў кума казна* ***ясна.*** Касакоўка Жлобін.

Прадстаўлены ў радзінных песнях і вобразныя сродкі, якія таксама прызначаны падкрэсліць важнасць абраду, прысвечанага з'яўленню новага члена сям'і. Сярод тропаў найчасцей сустракаюцца параўнанні: *Каша павінна вырасці і быць* ***жоўтай, як сонца,*** *рассыпчатай, каб спадабалася гасцям, тады і ў дзіцяці будзе доля і шчаслівая, і прыгожая.* Покаць Чачэр.; *Калі адкрываюць ручнік, адтуль,* ***як шалёны,*** *вылятае кот.* Палессе Чачэр.; эпітэты: *Цячэ* ***рэчанька,*** *цячэ* ***быстрая.*** Іванаўка Чачэр., *Із-пад* ***камушка серабрыстага.*** Іванаўка Чачэр., сярод якіх шмат традыцыйных: *у кубку* ***саладок*** *мядок,* ***зеляно*** *віно,* ***горка*** *гарэлка.* Добруш.

Іншамоўная лексіка ў межах разглядаемага семантычнага поля складае даволі кампактную мікрагрупу і адносіцца пераважна да так званых "культурных" запазычанняў. Многія з іх былі засвоены беларускай мовай яшчэ ў старажытнасці, з'яўляюцца даўнімі запазычаннямі:

з польскай: кофта < пол. kofta; [4, т. 2, с.355];

нямецкай: хвартух < пол. fartuch < ням. Vortuch; [4, т. 2, с.300];

лацінскай праз пасрэдніцтва польскай мовы: касір < пол. casa < лац. capsa 'футарал'; [4, т. 2, с.300];

арабскіх моў: хуста < пол. chusta < іт. fustagno < ст.лац. fustanūm < араб. Fastât, стар. назва Каіра.

Даследаванне радзінна-хрэсьбінных звычаяў і абрадаў як складовай часткі духоўнай культуры і народнага быту жыхароў Гомельшчыны дае падставы сцвярджаць, што галоўнымі каштоўнасцямі ў іх жыцці з'яўляюцца сям'я і дом, жаданне жыць у згодзе са сваім сумленнем, з людзьмі, з навакольным светам. Выконваючы тое ці іншае абрадавае дзеянне, чалавек верыў, што гэтым забяспечвае сабе і сваім блізкім здароўе, шчасце, дабрабыт.

Веданне і дэталёвае выкананне традыцыйных абрадаў і нормаў паводзін стварае чалавеку ці сям'і добрую славу, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне і высока ацэньваецца грамадой.

Менавіта ў радзінна-хрэсьбінным абрадавым комплексе надзвычай шырока прадстаўлены народжаныя шматвяковым вопытам і паўсядзённым жыццём народа не толькі разнастайныя міфалагічныя ўяўленні, але і рацыянальныя веды пра чалавека, з'явы і аб'екты рэчаіснасці, а спецыфікацыя аксіялагічнай прыроды радзінных звычаяў, прыкмет і павер'яў прадыктавана самім жыццём, у якім яны выступаюць своеасаблівым маральна-этычным кодэксам і з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай практычнай народнай мудрасці.

Сістэма радзіннай абраднасці, як слушна сцвярджае Т.І. Кухаронак, "фарміравалася на працягу шматлікіх стагоддзяў, таму ў ёй можна сустрэць і ўніверсальныя магічныя ўяўленні, і водгаласы агульначалавечай стадыі асэнсавання працэсаў зараджэння і канца жыцця, і сведчанні разумення нашымі продкамі цеснай сувязі паміж зямным жыццём і космасам" [8, с.4].

Лексіка радзінна-хрэсьбіннай абраднасці, якая да сённяшняга часу шырока функцыянуе на тэрыторыі Гомельскага рэгіёна, вызначаецца багатай і складанай сістэмай лексічных сродкаў, варыянтнасцю і разнастайнасцю сродкаў з іх семантычнымі і граматычнымі асаблівасцямі, з'яўляецца неад'емнай часткай духоўнай культуры беларусаў, у якой захаваны старажытныя моўныя з'явы.

Літаратура

1. Зеленин, Д.К. Восточнославянская этнография / Д.К. Зеленин. – М.: Наука, 1991. – 511 с.

2. Тайлор Э.Б. Миф и обряд в первобытной культуре. – Смоленск: Русич, 2000. – 624 с.

3. Толстая, С.М. Пространство слова. Лексическая семантика в общеславянской перспективе / С.М. Толстая. – М.: "Индрик", 2008. – 528 с.

4. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: В 4-х т.: пер. с нем. и доп. О.Н. Трубачёва / под ред. и с предисл. Б.А. Ларина / М. Фасмер – М., 1986–1987.

5. Моисеев, А.И. Мотивированность слов // Исследования по грамматике русского языка. Учёные записки ЛГУ, 1963. Вып. 68, №322.

6. Супрун, А.Е. Лекции по лингвистике / А.Е. Супрун. – Мн., 1980.

7. Блинова, О.И. Предисловие // Мотивационный диалектный словарь. Говоры среднего Приобья. – Томск, 1982.

8. Кухаронак, Т.І. Радзінныя звычаі і абрады беларусаў: Канец XIX – XX ст. / Т.І. Кухаронак. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – 126 с.

Выкарыстаны матэрыялы з архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі пры кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

Умоўныя скарачэнні

Акцябр. – Акцябрскі раён
Браг. – Брагінскі раён
Буда-Каш. – Буда-Кашалёўскі раён
Ветк. – Веткаўскі раён
Гом. – Гомельскі раён
Добр. – Добрушскі раён
Жлоб. – Жлобінскі раён
Жытк. – Жыткавіцкі раён
Калінк. – Калінкавіцкі раён
Карм. – Кармянскі раён
Лоеўск. – Лоеўскі раён
Маз. – Мазырскі раён
Петр. – Петрыкаўскі раён
Рагач. – Рагачоўскі раён
Светлаг. – Светлагорскі раён
Хойн. – Хойніцкі раён
Чачэр. – Чачэрскі раён



# Радзінна-хрэсьбінныя абрады Гомельшчыны

*ў сучасных запісах*

# Акцябрскі раён

Каб абараніць сябе, парадзіха аберагала сябе і сваё дзіця чырвонай шарсцяной ніткай, якую насілі на руцэ ці на шыі. Аберагаліся іголкамі, шпількамі, вугальчыкамі, засушанымі кавалачкамі вясельнага каравая, велікоднай соллю, галінкамі рабіны. Калі па вёсцы ішла пахавальная працэсія, то цяжарная расшпільвала ўсё адзенне і развязвала ўсе вузлы.

Цяжарнай не дазвалялася спаць у тым месцы, куды трапляла святло месяца. Нельга глядзець на агонь, пераступаць праз шнуры. Не дазвалялася станавіцца на парог.

Парадзісе нельга заходзіць у храм, даіць і выганяць карову, ісці на вяселле.

Адразу пасля родаў дзіця купалі.

Напярэдадні хрышчэння дзіцяці бацькі выбіралі кумоў – хросных бацьку і маці.

Заключным этапам пасляродавага перыяду былі хрэсьбіны. Пакуль кумы вазілі дзіця ў царкву, дома накрывалі сталы, запрашалі сваякоў і блізкіх.

Пасля хрышчэння кумы кіраваліся дадому, дзе іх сустракала маці немаўля. Яна прымала дзіця ў вывернутым кажусе, каб засцерагчы ад сурокаў. Усе прысутныя запрашаліся за стол. Галоўнымі і найбольш паважанымі гасцямі былі кумы і бабка.

Святочнае застолле распачынаў кум: “Як мы відзелі Іванку пад храстом, штоб так відзелі мы яго пад вянцом, штоб ён добра пахаў ды малаціў”.

Абавязковай на хрэсьбінах была “бабіна каша”. Крута звараную кашу зверху ўпрыгожвалі кветкамі або цукеркамі. Падавалі яе ў канцы застолля. Распачынаў дзяльбу кашы кум. Ён адкладваў на талерку тры лыжкі кашы, ставіў побач чарку і нёс маці немаўля. Затым кожны з гасцей прапаноўваў сваю цану кашы. Хто дась больш грошай, таму і застанецца каша. Гэты чалавек і разбіваў кашу. Каша пры гэтым павінна застацца цэлай. Яшчэ вазілі куму на тачцы ў магазін. На хрэсьбінах таксама спявалі песні.

***Запісана ў в. Валосавічы Акцябрскага р-на***
***ад Юрчак Настассі Паўлаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Голуб А.***

Пазбягалі, каб хто-небудзь хоць вокам зірнуў на малое, баяліся, што нехрышчонае дзіця вельмі лёгка сурочыць. Для етага калыску абвешвалі посцілкамі ці якім-небудзь матэрыялам. Калі ж хто-небудзь убачыў яго, адразу тройчы сплёўваў праз левае плячо і прыгаворваў: “Дай, Бог, каб здаровенькім расло”.

Да хрэсьбін бацькі выбіралі кумоў. Дзіця везлі хрысціць у другой палове дня. К абеду ў хату збіраліся кумы і бабуля-пупарэзніца. Кума прыносіла хлеб, пялёнкі, адрэз палатна, камплект дзіцячага адзення і інш. Бабуля даўжна памыць дзіця. Пасля загортвалі яго ў пялёнкі і разам з кумой апраналі.

Потым усе абедалі. Першай уставала з-за стала бабка, яна спавівала дзіцятка і перадавала яго куме. Абязацельна дзіцятка перавязуюць стужкай: хлопчыка – галубой, дзяўчынку – краснаю або розавай.

Пасля царквы ўсе садзіліся за стол. Госці прыносілі падарункі: дзіцячую адзежу, цацкі, спальныя прынадлежнасці.

Хрэсьбінны стол завяршае торг за кашу. Спяваюцца песні з прашэннямі аб добрым лёсе і здароўі дзіцяці.

*Запісана ў в. Валосавічы Акцябрскага р-на.*

Перад тым, як везці дзіця ў царкву, баба-пупарэзніца абавязкова купала дзіця. Ваду набірала ў калодзежы, грэла яе ў печы, налівала ў драўлянае карыта, кідала ў ваду сухую траву чыстацел (каб было ў дзіцяці чыстае цела), дубовую кару (каб былі моцныя зубкі). Пашыўшы пялёнкі, загортвала ў іх дзіця. Затым бацькі, кумы і баба садзіліся за стол частавацца. Першай з-за стала ўставала бабуля, спавівала дзіця і аддавала куме.

Прыехаўшы з царквы, усе госці садзіліся за сталы. На куце садзілі кумоў і бабу. Баба варыла кашу з прасяных круп, дабаўляла ў кашу масла, мёд, малако. Кожная бабуля старалася, каб каша ўдалася вельмі смачная, каб яе ўсе хвалілі. Перад тым як падаць бабіну кашу, на стале на куце засцілалі ручнік, на якім кум біў кашу. Першы раз бабе падавалі не яе кашу, а падстаўную. Баба адразу пазнавала, што гэта не яе каша. Затым падавалі бабіну кашу. Кум купляе ў бабы кашу. Потым казаў усім гасцям, каб уступалі ў пай. Затым кажа гасцям: “Хто паложыць больш грошай, будзе таго і каша”. Кум заўсёды стараўся палажыць грошай болей за ўсіх, каб пабіць кашу. Калі кум паб’е кашу, то з гаршка чарэпкі госці бралі і клалі на галовы

маладзейшым парам, каб хутчэй нарадзілася дзіця. Кум рэжа кашу нажом і дае гасцям. Яны зноў ложаць на кашу хто грошы, хто падарункі і прыказваюць: "Дару грошы, каб былі дзеці харошы", "Жадаю здароўя, добрую долю, век доўгі". Як толькі кум паб'е кашу, гаспадары давалі кумам і бабе падарункі. Паеўшы кашы, госці садзілі на каляску бабу і кумоў і везлі іх к ім дамоў ці ў краму. Баба, кум бралі гарэлку і іх зноў везлі назад. Там усім гасцям кум разліваў бабіну і сваю гарэлку, і частаваліся. Ежа гатавалася розная. Але абавязкова павінны быць на стале блінчыкі з смятанай і макам, кісель. Баба адзявала на хрэсьбіны вышытую кохту, спадніцу шырокую, фартух, хустку. Кохта і фартух былі вышытыя хрэсцікамі.

*Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на*
*ад Кулак Евы Іванаўны, 1923 г.н.*
*(раней пражывала на хутары Кулаковых).*

Этаму бальшому святу аддавалі многа ўвагі. Адведкі ўсе спраўлялі абычна на первай нядзелі жызні дзіця. Маладая маці выпякці далжна што-небудзь на стол: аладкі, булачкі. І сама ад гасцей палучала падаркі і гасцінцы. Нельзя было глядзець на дзіця людзям, бо шчыталі, што зглазяць. Бацька ставіў на стол гарэлку. Первая чарка ішла за здароўе маці. У адведкі, кажысь, не прыглашалі. Шоў хто хацеў. Нельзя было хадзіць жанчынам з месячнымі ў адведкі. У куму бралі замужнюю дзеўку, еслі ражалі дзевачку, інакш будзе дальша ў дзіця саперніца.

*Запісана ў в. Пружынішчы Акцябрскага р-на*
*ад Парахневіч Таццяны Ульянаўны, 1940 г.н.*

На хрэсьбіны з прысутных сабіраліся парадзіха, бацька дзіцяці, кум, кума, бабка-павітуха і госці. На стале абычна ляжала буханка хлеба, прынесеная гасцямі, гарэлка.

Спярша выпівалі, але стакан з гарэлкай не да канца выпівалі. Тое, што аставалася на дне, вылівалі ўверх і гаварылі такія словы: калі піў дзед, то гаварыў, каб унук здаровы рос, калі кум або кума – каб хрышчэнік высока скакаў.

Пасля выпіўкі быў абед. Частаваліся квасам, блінцамі, а пасля – бабінай кашай. Гэты гаршчок з кашай разбівалі аб стол. Баба ставіла талерачку, лажыла на яе капейку і частавала ўсіх па ложцы кашай.

Кожны з гасцей браў рукою кашу, а на талерку лажыў грошы. Пасля ставілі кашу хроснай маці, якая ўжо была ў каструлі, пасля яшчэ была і кумава каша, але за яе ўжо грошы не плацілі.

*Запісана ў в. Рассвет Акцябрскага р-на ад Савельевай Марыі Пятроўны, 1933 г.н.*

Пасля нараджэння дзіцяці матка і бацька бяруць хлеб-соль і ідуць да той жанчыны або дзяўчыны, якую яны вырашылі ўзяць за куму. Прыходзяць да яе і кажуць: “Вам хлеб-соль, а нам кумушку”. Затым дамаўляюцца, у які дзень будуць хрэсьбіны.

У дзень хрэсьбін кума з кумам бяруць дзіця і вязуць у царкву. Меркавалі, калі будзе ісці дождж у гэты дзень, то дзіця будзе багатае. Кума павінна была ўзяць у царкву рушнік, а кум грошы, каб расплаціцца за хрышчэнне. Кума павінна была поўнасцю адзець малое дзіця ў царкву. Пасля царквы ўсе едуць да хаты, дзе іх ужо чакаюць госці. Куму з кумам садзяць разам, радам з імі бабу. Пачынаецца гульня. Баба хавае гаршок з кашай, і кум або другія з гасцей павінны знайсці гэты гаршок.

Выпівалі, елі, танцавалі, пелі песні, а затым садзіліся за стол. Той, хто паймаў кашу, выносся спачатку “падманку”-кашу і пытае ў бабы: “Твая каша?”, а тая гавора: “Гэтая каша не мая, мая была прыгажэйшая”. Затым баба бярэ сваю кашу, ды кажа: “Мая каша з канапелькамі, а вы, госці, з капейкамі”. Кум павінен купіць гэтую кашу. Калі каша куплена, ею ўгашчаюцца ўсе госці. Калі кашу з’елі, кум бярэ гаршок і разбівае яго аб вугал, а чарапкі даюцца незамужнім дзеўкам, а тыя, што астаюцца, баба сабірае і кідае ў вугал, прыгаворваючы: “Кідаю на кут, каб на будушчы год зноў быць тут”.

Куме, куму і бабе матка і бацька дзіця дораць падаркі, якія доўжан хто-небудзь выкрасці, а патом браць выкуп з таго, чый гэта падарак. Калі дораць падаркі, гавораць розныя прыказкі: “Нарадзілася дзіця на белы свет, хай не знае ніякіх бед. Вот яму мыла, каб было для ўсіх міла, дару анучы, каб ножкі не былі босы”.

Уканцы абраду бабу садзяць зімой на санкі, летам – на каляску і вязуць у магзін, дзе яна купляе віно, закуску, цукеркі і дае тым, хто яе вёз. Нагуляўшыся, госці разыходзяцца, дзякуюць хазяеў.

*Запісана ў в. Рассвет Акцябрскага р-на ад Расюк Марыі Дзянісаўны, 1945 г.н., студэнткай Дудко В.*

Калі нарадзілася дзіця, то першы раз купаць трэба бабцы. Купалі ў настоі з травы любісцік для таго, каб любілі хлопцы дзеўку і наадварот. У воду трэба пакласці золата, каб дзіця было багатым. Калі дзіця пакупаюць і спаўюць яго, баба бярэ на рукі, падносіць да кожнага акна і кажа: “Глядзі, мая ўнучачка, у кожнае акенца, каб на цябе, як вырасцеш, глядзелі хлопцы”.

Кумоў трэба выбіраць, каб былі малодшыя за бацькоў, тады дзеці не будуць доўга заседжвацца ў халасцяках: дзеўкі будуць замуж ісці, а хлопцы жаніцца. Як ідуць зваць у кумы, бяруць соль, хлеб. Адказвацца не можна, як прыглашаюць. Цераз сорак дней дзіця хрэсцяць. Кум і кума трэба каб былі хрышчоныя. У царкву везлі кум і кума. Як прыязджалі дадому, сустракала бабка. Дзіця клалі спаць, а самі садзіліся абедаць. Прыходзілі ўсе родзічы. Зразу садзілі бабу з дзедам на пачотнае месца, кума з кумой, а тады ўжо сабіраліся ўсе астатнія госці. На працягу абеда жадалі дзіцяці ўсяго самага лепшага. Спявалі песні, танцавалі. Было тры кашы. Зразу даюць бабіну, затым кумаву і кумавую. Гаршкі з кашаю ўпрыгожваюць усякімі цукеркамі ў прыгожых бумажках. Затым гаршкі разбіваюць. Каша павінна была добра выпасці з гаршка. Хто зазяваецца, чарапок з гаршка адзявалі на галаву, а астатнія чарапкі кідаюць у парог. Адзін дзень не вымятаюць хату, а толькі назаўтра раніцаю.

Кашу куплялі. Кажды, хто купляў, жадаў дзіцяці здароўя, шчасця, доўгіх гадоў, дабрабыту, клаў які-небудзь падарунак ці грошы і казаў: “Мая каша!” Цана кашы з кожным госцем узрастала. У канцы трэба было, каб кум купіў кашу. Купіўшы кашу, ён разбіваў гаршок. А кашу елі ўсе госці. Калі госці добра развесяліліся, нажартаваліся, прыпаміналі даўні звычай адвозіць бабу дадому. Бабу садзілі на санкі, на барану зуб’ем угору. Сцялілі кажух. А калі жартаўнікі, маглі і ў карыце зацегці. Хто яе вёз, спявалі песні:

*Вецер з поля, хвіля з мора,*
*Ой, да давяла любоў да гора.*

Баба выстаўляла пачастунак, пасля чаго гулянка зноў працягвалася.

***Запісана ў в. Старая Дуброва Акцябрскага р-на***
***ад Краўчанка Таццяны Міхайлаўны, 1948 г.н.***
***(нарадзілася ў в.Касцюга Капыльскага р-на Мінскай вобл.),***
***студэнткай Гаўрыловіч В.***

# Брагінскі раён

Госці прыносілі хлеб і гарэлку. Кума і куму садзілі за стол першымі. Потым кожны выпіваў па чарцы гарэлкі і жадаў што-небудзь дзіцяці. Пасля пачынаўся абед. Баба (тая, што купала дзіця) гатавала кашу. Кум павінен быў выкупіць кашу. Баба з кумам таргавалася. Пасля выкупа кум разбіваў гаршок. А баба брала тарэлку і карміла ўсіх гасцей кашай, а тыя плацілі грошы. Таксама баба гатавала боршч. Пасля вадзілі "хвост". Баба, кум і кума ішлі дадому да бабы, а за імі ўсе астатнія і працягвалі гулянне.

*У нядзелю раненька*
*Бяжыць (імя) к сваёй бабусеньке.*
*Бабусенька дагадалася,*
*У адзін чобат абувалася.*
*Бяжыць яна боса, без пояса,*
*Бяжыць яна скоранька,*
*Просіць яна шчыранька:*
*– Дай жа, Божа, маёй унучцы*
*Лягенько, дабрэсенько, скарэсенько!*

Забаранялася прышываць і зашываць што-небудзь на сабе, бо будуць цяжкія роды.

Цяжарным нельга пераступаць цераз круг, бо дзіця будзе калесатае.

***Запісана ў в. Буркі Брагінскага р-на***
***ад Раманюк Марыі Адамаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кашэвіч Л.***

Сабіраліся ўся радня, кумаўё пасадзяць за сталом. Тады адпраўляюцца кум з кумою ў цэркву дзіцятка хрысціць. Там бацюшка малітвы прачытае, святою вадой абмые маленькае, зробіць што нада. А дома ждуць, пакуль тыя прыедуць. Тады садзяцца за стол, ядзяць, вупіваюць. Баба варыць кашу. Калі яна ўжэ гатовая, то кум разбівае гаршчок. Кладуць грошы. Хто болей пакладзе, таго і каша. Тады ўжэ і пяюць і гуляюць.

***Запісана ў в. Вуглы Брагінскага р-на***
***ад Найдзенка Клары Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнтам Васілеўскім У.***

Цяжарнай нельзя было перастyпаць праз вяроўку. Нельга праходзіць паміж двумя стаўбамі. Нельзя што-небудзь вязаць ці прасці ў празнік ці ў пост.

Калі ў мяне радзілася дзіця, то ў яго была пупавіна тры разы перакручана праз шэю, дак бабы казалі, што гэта таму, што я прала ў пост.

Ражалі тады дома. Баба-павітуха атразала пупавіну і купала малога. Тады ўжо на хрэсьбіны звалі кума і куму, і бабу, і везлі дзіця ў царкву. Там бацюшка даваў імя. Потым баба варыла боршч і кашу. Так і называлася – "бабіна каша" і "бабін боршч". Ставілі боршч на стол, разлівалі і елі, а потым ставілі кашу. Баба тую кашу прадавала. Усе таргаваліся, клалі грошы, а хросны павінен быў купіць. Ён ужо клаў больш за ўсіх. Тады той гаршчок білі, а чарапкі клалі адзін аднаму на галаву, каб было шмат дзяцей, каб яшчэ адны хрэсьбіны хутчэй былі.

Хросная была ў мяне бабай-павітухай. Яе дзеці былі для мяне кумаўя. Яе дочка – кума, хрысціла маіх дзяцей. І так далей, па наследству. А хроснага ўжо так выбіралі.

Кумаўям дарылі падаркі. Дзіцю баба прыносіла пялёнкі, шапачку, плаціца. Кума яшчэ ў царкву ехала са сваім вузлом. Там, калі бацюшка пахрысціў, тады пераапранала ў сваё, што прынесла.

За сталом кума дае мне падарак, грошы на плацце. А я дарыла падаркі бабе і кумаўям.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Злыдзенка Любові Мікітаўны, 1928 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Новы Шлях Брагінскага р-на),*
*студэнткамі Ліпавай К., Савінскай І., Прыходзька К., Чарновай Л.*

Вот родзіцца дзіцёначак, і ідуць ужо па бабу. Ну вот, ідуць тыя ўжэ жэншчыны: матка хросна, бралі ўжо сабе бабу. Нясуць ужо свякроўка ці мамка, ці мужык хлеба (нада хлеба занясці бабе) і ўжо просяць, што вот мы хочам вас узяць за бабу, штоб вы нашага мальчыка ці дзевачкі булі бабаю. І вот яна ўжэ жарыць талерку яечні, боўтае-боўтае, і такую ўжэ разбаўтае, такую тоўсту-тоўсту яічніцу. Бальшую міску гэтай яічніцы прыносіць, напячэ каржоў. І эта потым ідзе яна ўжэ бабіць. Прыходзіць, нагрэюць вады ўжэ там, свякроўка ці мамка начовачкі такія возьме, пасцелем туды палаценца, а зімою так цвяткі

на акенцы стаяць, дык як дзевачка – кладуць туды цвяточкі. Зрываюць і ў ету ваду кідаюць цвяточкі – любісцік. Прыгаворваюць, штоб була здаровенька, штоб була красівенька, штоб була любая, штоб яе любілі, паважалі. Ну, пакупаюць ету дзевачку, пупок заўвяжуць. Памыюць потым рукі ўсе, памоляцца Богу, дзіцёначка гэтага палажаць, спавінуць яго ў палатняныя полачкі, лентачкай баба заўвяжа. Ну, ужо баба пойдзе, бо ўжо пабабіла. А тады ўжо падгатуюцца, хрэсьбіны гуляюць.

Хрэсьбіны гуляюць бальшыя, завуць усіх роственікаў, хросных, саседзей. І гэта ўжо баба варыць боршч у бальшым чыгунку, бальшым, на 15 літраў. Яна туды кідае курыцу, грыбы, сноп таго пахучага чобра. І гэты чугун ужо баршча і кашы пшанянай з рысам ці з аднае пшанянае кашы, але бальшую каструлю кашы. І вот ужэ гасцююць, п'юць, ядзяць боршч смачны гэты, а тады гавораць: "Давайце ж сюды бабіну кашу на стол, пабачым, што яна там, як баба хараша, можна ў бабы хадзіць ці не". Ну, на тую кашу кладуць падаркі, тады на тую кашу й гавораць: "Хто купіць гаршчка, таго і каша". І вот ужэ мужыкі ўпярэганкі: хто скольki, хто два рубля, хто пяць, хто дзесятку. І ўжэ хто болей кіне, ужэ ніхто пасля яго не кідае, значыцца, таго гаршчок. Кашу тую выкінеш, а макацёр буў, не гаршчок, а макацёр такі гліняны. І таго ўжо макацёра кідаюць у дзверы ўхадныя. Нада штоб папаў мужык у дзверы і тады разбіў. Ён стаіць (мужык) за сталом ды як гопне, тыя чарапкі ўсе пасыпаліся дадолу. Бягуць, збіраюць чарапкі. У каго няма дзяцей, тыя жэншчыны кладуць чарапкі на галаву, і праз нейкі час жэншчына забярэмяняе і ражае.

Вось прыкметы такія булі.Тую ўжо кашу купілі, нарэзалі на стале, зноў выпіваюць, кашу ядзяць, спяваюць. А на другі дзень трэба ж бабу на барану пасадзіць да везці да яе дому. А як жа: "Ты, баба, баба, глядзі, а на хвост павязем". Бяруць барану, перакульваюць тымі зубамі ўніз, а бабу на барану садзяць, падсцілаюць ей, штоб мякка було, і вязуць тую бабу на баране мужыкі, бабы ідуць іззаду, спяваюць:

*Ой, ты, баба, баба!*
*Да не жалей ты нам на хвасту,*
*Да ўгасці ты нас дабрэнна,*
*Да пабачым, як ты, баба, жывеш,*
*Якія ў хаце песні пяеш.*

Ну, гэта баба ўжэ прыводзіць дадому. Яна ўжэ падгатовілася раней. На стале ставіць не так, як на хрысцінах, але закусіць ё і выпіўка, галоўнае, ё. Выпілі ў тае бабы, пагулялі і зноў жа на хрысціны пайшлі. Там ужэ гульні, ноч гуляюць і пяюць, і танцуюць.

*Запісана ў в. Дуброўная Брагінскага р-на*
*студэнткамі Баўтручок Л., Судаленка Н.*

Цяжарная жанчына ўсё ўрэмя даўжна была прыдзержвацца забабонаў. Няльзя було падразаць косы, а то ў дзіцяці косы будуць жыдкія, непрыгожыя. Па вечарам няможна прасці, ткаць, вязаць, а то дзіця будзе абмотана пупавінай. І яшчэ багата чаго.

Калі прыходзіць урэмя ражаць, матка ці свякруха брала дзеўку за руку і вяла кругом стала тры разы, казала: "Памажы, Божа, добра радзіць".

У той дзень, як дзіця ражаецца, з хаты нікому нічога не даюць. Так жа робяць і як быў прыплод у скаціны.

Каб роды былі лягчэйшыя, у хаце развязвалі ўсе вузлы, паясы, ленты, расплятали косы.

Як дзіця радзілася, то яго да сарака дней трэба було пахрысціць. Хрэсьбіны гулялі весела.

Кум з кумою везлі дзіця ў цэркву хрысціць. Перад алтаром дзевачку дзяржаў кум, а хлопчыка – кума. Пахрысціўшы, ехалі дадому, дзе наладжвалася застолле. Самымі пачэснымі гасцямі былі кум, кума і баба. За бабу бралі хросную матку дзяўчыны, што радзіла.

На хрэсьбіны баба з сабой прыносіла боршч і кашу. Боршч проста ставілі на стол, а кашу трэба було купіць куму. Тады, як кум купіў кашу, ён яе разбіваў аб рог стала. Чарапкі ад гаршка лажылі кумаўям на галаву, каб яны шчэ раз куміліся.

На кашу ўсе адорвалі дзіця, жалалі ўсяго добрага. Бацькі доўжны булі адарыць кума з кумой і бабку.

Пасля хрэсьбін бралі барану, лажылі на яе кажух і на гэтай баране везлі бабку дадому.

Так у нас гулялі хрэсьбіны.

*Запісана ў в. Зарэчча Брагінскага р-на*
*ад Фраловай Кацярыны Дзмітрыеўны, 1913 г.н.,*
*студэнткай Лук'янавай Л.*

***

*Кума мая, кумачка,*
*Дзе жывеш?*
*Скажы ты мне праўдачку,*
*Дзе жывеш?*
*А я б табе праўдачку*
*Сказала,*
*Калі б к табе ў госцейкі*
*Ды прыйшла.*
*А гарненька рыбанька,*
*Хароша.*
*А я гарна кветачка,*
*Мой кумок.*

***

*У гародзе бурак родзіцца,*
*Не родзіць.*
*А кум да кумы*
*Штовечара ходзіць.*
*Ой, кумка мая,*
*Прынясі мне грэчкі.*
*Не йдзі, не нясі.*
*Ой, кумка мая,*
*Прынясі мне жыта.*
*Не йдзі, не нясі,*
*Бо будзеш ты біта.*

***Запісана ў в. Краснае Брагінскага р-на***
***ад Мікалаенка Алены Мікалаеўны, 1978 г.н.,***
***студэнткай Лук'янавай Л.***

Нарадзілася дзіця, і яго адразу крысцяць. За хросных бяруць любых людзей. Бралі часцей за ўсё сваіх лучшых друзей. Збіраюцца госці, бяруць дзіця і едуць усе ў цэркву. Бацькі дзіця даўжны стаяць ля цэрквы, а ў цэркву дзіця нясуць хросныя. Там бацюшка яго ахрысціць, і ўсе госці едуць да бацькоў дзіця. Але было і так, што пасля цэрквы ехалі ўсе па сваіх дамах, а гулянне бацькі намячалі на другі дзень.

На другі дзень усе збіраліся ў бацькоў дзіцяці. Баба, якая рэзала пуп і мыла дзіця, варыць боршч і кашу. Каша павінна быць добра зваранай, штоб, калі яе біў кум, яна не распалася. Кашу доўжан выкупіць кум. Калі ён яе выкупіў, то падходзіць, бярэ гаршок з кашай і б'е яго. Кашу разразаюць і раздаюць усім. Таксама і астатнія выкупляюць кашу. Яны кладуць грошы на гэту кашу. Тады той, хто сядзіць бліжэй за ўсіх ля кашы, хватае чарапкі і кладзе або б'е аб галавы сваіх суседзяў. Часцей за ўсё гэтыя чарапкі клалі на галавы маладым дзеўкам, каб быстрэй нарадзілі дзіця. Было і так, што гэтымі чарапкамі і галавы білі. Затым пачыналі гуляць і пець песні.

На хрэсьбіны песні пелі розныя. Хто якую завядзе, тую і пелі.

### *Васіль і Марына*

*На паповым гаі*
*Васіль сена косіць.*
*Малада Марына*
*Дзяціну прыносіць.*
*На табе, Васілю,*
*Маладую дзяціну,*
*А не возьмеш дзяціну –*
*На пакосе кіну.*
*На табе, Марына,*
*Баханачку хлеба,*
*Да скажы, Марына,*
*На старога дзеда.*
*На табе, Марына,*
*Каня варанога,*
*Да скажы, Марына,*
*На каго другога.*
*На табе, Марына,*
*Карову з цяляткам,*
*Ды ідзі, Марына,*
*Дадому з дзіцяткам.*

***Запісана ў в. Лубенікі Брагінскага р-на***
***ад Касцючэнка Вольгі Васільеўны, 1930 г.н.,***
***Хвост Сафіі Карнееўны, 1928 г.н.,***
***Захожай Ганны Паўлаўны, 1928 г.н.,***
***Касцючэнка Таццяны Сямёнаўны, 1938 г.н.***

Нарадзілася дзіця. Ля яго завіхаецца бабка-павітуха. Дзіцёнка мыюць у настоі розных духмяных траў. У тую ваду кідаюць шчэ сярэбраную манету і жытнёвыя зярняткі, каб жа яно было багатае і шчаслівае. Калі ж купаюць дзяўчынку, дык жа ўліваюць у воду малака, а гэта ж каб яна была прыгожая.

Ваду ж гэту пасля першага купання на ноч у хаце не астаўлялі. Ваду вылівалі ў ціхім месцы, туды, дзе не хадзілі людзі і жывёла. Калі ж купалі дзяўчынку, ваду вылівалі на ганак, каб дзяўчына быстрэй выйшла замуж. Вымытае дзіцятка загортвалі ў чыстую бялізну.

Каб адагнаць ад дзіцяці злыя сілы, у калыску клалі вугольчык, хлеб, соль, жалезны прадмет.

Парадзіха ў гэты час некалькі дзён не магла выконваць хатнюю работу. Ёй памагала бабка-павітуха. Яна гатовіла яду, глядзела за іншымі дзецьмі парадзіхі.

У першыя дні пасля родаў парадзіху праведвалі суседкі, сяброўкі. Яны хацелі памагчы парадзісе і яе сям’е, дзіцяці. Каб парадзіха не ўтамлялася, к ёй у адведкі прыходзілі па дзве-тры жанчыны. Яны прыносілі гаспадыне бліны, яечню, хрушчыкі, мёд, яблыкі, грушы. Аддавалі ўсё гэта і казалі: “З’еш, каб заклалася месца ў жываце”.

Мужчыну ў адведкі прыходзіць нельзя была.

Як прайшло некалькі дзён, пачынаюць гатовіцца да крышчэння дзіцяці. Бацькі навароджанага дзіцяці вырашылі аб тым, каго возьмуць за хросных бацькоў свайму дзіцяці. Хросныя павінны быць маладзейшымі за бацькоў, каб дапамагаць хрэсніку, як у яго не астанецца родных бацькоў.

У дзень крысцін кума прыходзіла ў дом да дзіцяці з хлебам-соллю, ручніком і грашамі. Хлеб жа яна кладзе на стол са словамі: “Няхай жа добрае вядзецца”.

Калі дзіця неслі да царквы, кум з кумою не гаварылі паміж сабой, каб дзіця было спакойнае.

Як жа толькі кумы пайшлі ў цэркву, дык жа старэйшая дачка гаспадароў ходзіць па вёсцы і запрашае на хрэсьбіны. Без запрашэння ніхто не ішоў. На хрэсьбіны жанчыны неслі яду і падарункі, а мужчыны ж – толькі грошы.

Усе госці збіраліся ў хату. Пазней туды прыходзілі кумы з дзіцём. Пакрысцілі яго, дык жа і дзіця аддавалі бацькам, дый жа казалі: “Дай жа, Божа, твайму сыну стаяць так пад вянцом, як пад храстом”.

Вось і пачыналася гулянка. Усе садзіліся за стол. Першую чарку выпіваў дзед дзіцяці, дый жа казаў: “Дай жа, Божа, штоб наш унук вялікі рос!” Тады ў чарку гарэлкі кідалі капейкі і выпіваў гарэлку хросны бацька. Астаткі гарэлкі ён жа выліваў уверх, дый жа гаварыў: “Каб наш хрышчэннік так высока скакаў!”

Тады ізноў жа кідалі ў чарку, толькі ж ужэ сярэбраную грыўню. Выпівала хросная. Другім гасцям капеяк ужэ не лажылі.

Баба-павітуха варыла “бабіну кашу”. Каша была смачненькая, салодзенькая, з маслам. Хросны разбіваў гаршчок з кашай, кашу дзялілі ўсім. Кажны, хто браў кашу, клаў капейку.

На хрысцінах і спявалі багата:

***

*Ой, учора, мае кумочкі,*
*У нас радзінкі былі,*
*А сягоння, мае кумочкі,*
*Мы на хрэсьбінкі прыйшлі.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па рубельчыку даць.*

*То мы будзем, мае кумочкі,*
*Да аўторка гуляць.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па каровачцы даць,*
*То мы будзем, мае кумочкі,*
*Усю нядзельку гуляць.*

* * *

*Кум з кумою на куце сядзіць,*
*Паміж іх да ручаёк бяжыць.*
*А ў тым ручайку да тры кубачкі,*
*Да тры кубачкі маляваненькіх.*
*У адным кубку зеляно віно,*
*У другім кубку саладок-мядок,*
*У трэцім кубку горка гарэлка.*
*Зеляно віно для радзімачкі,*
*Саладок мядок для кум'е з кумам,*
*Горка гарэлка для суседачак.*

* * *

*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў грудцы:*
*– Дзякуй табе, мой кумочак,*
*Што звазіў у людцы.*
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў ножкі:*
*– Дзякуй табе, мой кумочак,*
*Што прывёз з дарожкі.*
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў пяткі:*
*– Дзякуй табе, мой кумочак,*
*Што прывёз дахаткі.*

Хросным бацькам і бабе-павітусе дарылі падаркі. Маглі даваць жа палатно, рушнікі, хлеб.

Павітуха атвячала за падаркі словамі: "Дай жа, Божа, каб мой унучок вялікі рос, шчаслівы быў! Каб на яго долю паслаў Бог усяго ўволю!"

Госці бралі карыта і везлі бабу-павітуху дамоў.

На трэці дзень пасля етага апяць збіраліся ў хаці бацькоў. Бабка-павітуха гатуе ваду для мыцця дзіцяці, сыпле ў яе авёс.На стол сцелюць кажух. На ім дзержаць дзіця і абліваюць етай вадой. Дык жа асталася вада, дак бабка мыла ліцы ўсім і выцірала іх рушніком. Госці кідалі ізноў грошы ў міску, а іх жа ж бацькі ўгашчалі.

Вось так і канец хрышчэнню.

***Запісана ў в. Лубенікі Брагінскага р-на***
***ад Гайдук Ганны Севасцьянаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Хвост І.***

Радзіцелі наварождзенага запрашалі да сябе на хрэсьбіны бабу-павітуху, кума і куму хрысціць народжанага. Астатнія запрошаныя павінны быць замужнімі і жанатымі. Баба варыла кашу. Кум доўжан разбіць яе, затым ідзе торг за кашу. Праходзіў весела: хавалі кашу, прасілі як мага больш грошай, рознай стравы. Разам з хлебам даюцца падарункі і кажуць: “Хай ваша дзіця будзе дужым, прыгожым”. Хто што хацеў, той і тое прыказваў. Пелі песні, танцавалі, вадзілі вакол маці з дзіцём карагоды, каб расло дужым ды ласкавым.

*Запісана ў п. Рытаў Брагінскага р-на*
*ад Палявога Андрэя Якаўлевіча, 1931 г.н.*

Нельга было паказваць дзіця падругам, бо маглі зглазіць. Прыбіраліся, звалі кумаўёў. Кумаўё несла дзіця да бацюшкі. Там купалі, прычашчалі. Матку ў цэркаў не пускалі, толькі кумаўёў. А пасля хрэсьбіны адмячалі, сабіраліся ў хаце. Баба рабіла кашу, боршч варыла. Кашу разбівалі, а гаршок адзявалі на галаву дзеўкі, у каторай няма дзяцей.

Народжанага адорвалі хто чым мог: хто шапачку, палатно, грошы. Адорвалі і бабу: на плацце ці палатно – штапель які.

Трэба было каб бабіна каша густая была і стаяла, а як катора рабіла, што развальвалася, тады з яе смяяліся, паганая хазяйка, значыцца. Вяршок знімалі дзіцяці. Тады білі кашу: хто болей грошай выкіне, той і разбівае.

*Запісана ў в. Старыя Храковічы Брагінскага р-на*
*ад Падчанка В.К., 1924 г.н.*

Калі бярэш куму, бабу, кума, то прыходзіш к ім у хату з караваем хлеба, завернутага ў ручнік. І пытаем, ці згодны яны пайсці к табе ў кумы. Калі яны згодныя, то прынімаюць хлеб, а калі – не, то вяртаюць назад. Па старыннаму і божаму, адмаўляцца ад кумаўства нельга.

У той дзень, у які назначылі хрысціны, кума прыходзіць са сваімі пялёнкамі, распашонкамі. І ў гэтых куміных распашонках дзіця хрэсцяць. З сабой яна таксама прыносіць хлеб-соль, завернутыя ў ручнік. Кум з кумою нясуць хрысціць дзіця. Бацьку з маткаю ў царкву, калі хрысцяць дзіця, не пускаюць. Калі пахрысцілі і вярнуліся дадому, пачынаюць садзіць за стол. На кут, там дзе вісіць ікона, садзяць бацьку хроснага і хросную маці, а потым побач з імі бабу.

Бацька хросны налівае ўсім па чарцы і прыглашае выпіці за здароўе хрэсніка. Баба абавязкова прыходзіць на хрысціны з гаршком кашы. Каша абавязкова даўжна быць з проса, пшана або рысу. А яшчэ баба варыць і прыносіць боршч. Калі баба падае свой боршч на стол, то прыгаворвае: “Ешце, госці дарагія, цэлую ноч не спала, па балоту брадзіла, буслоў лавіла, каб боршч быў вельмі смачны і ўнук быў шчаслівы”.

Калі выпілі па чарцы, паелі боршч, тады заспявалі песні. Песні пяюць усякія. Танцавалі таксама ўсякія танцы. Калі пасадзілі другі раз за стол, то бацька з маткай адорваюць кумаўё. Падаркі былі ўсякія. У каго што было. Хустка або кусок палатна, або яшчэ што.

Калі хто з гасцей гэты падарунак украдзе, то кумаўё дае адкупны (грошы, гарэлку або цукеркі). Потым падаюць кашу. Ловяць ката ці пеўня і саджаюць у чыгун, накрываюць ручніком і пытаюцца ў бабы, ці яе гэта каша. Баба адказвала, што гэта не яе каша. Кату ці пеўню абавязкова даюць з ложкі гарэлку, для таго каб хрэснік быў здаровы і шчаслівы. После гэтага падаюць сапраўдную кашу. Верх кашы баба ўпрыгожвае кветкамі, кладзе грошы і абавязкова ўтыркае карандаш, прыгаворваючы: “Вучыся добра, жыві багата і каб квітнеючае было ў цябе жыццё.”

Госці, якія сядзяць за сталом, купляюць кашу. Хто болей пакладзе грошай, таму і дазваляецца разбіць гаршок з кашай. Чарапкі ад гаршка абавязкова надзяюць незамужняй дзяўчыне або хлопцу, каб скарэй ажаніўся ці вышла замуж. Кашай частуюць усіх гасцей. Таксама на кашу клалі падарункі. Верх з кашы абавязкова сабіраюць і аддаюць курам.

Пасля гэтай гулянкі куму ці кума, ці бабу саджаюць на каляску, санкі або ў карыта і вязуць па вуліцы дадому, і яны абавязкова частуюць гасцей.

Нельга хрысціць дзяцей у Піліпаўку або ў дні пастоў.

***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на***
***ад Кудранок Анастасіі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Галко В.***

# Буда-Кашалёўскі раён

На хрэсьбіны баба абязацельна варыла кашу ў гліняным гаршочку. Абязацельна ў гліняным, каб потым можна было разбіць яго. Кум доўжэн выкупіць у бабы кашу. Калі ў кума грошай не хватае, яму кума памагае. Бабку выбірают самую опытную і ўважаемую. Абязацельна штоб у яе быў унук. Кагда кум выкупает кашу, ён абвяртае яе ў платочак, штоб яна не разляцелася, тады яе, цэленькую, рэжуць, кладуць. Бабка далжна за внука ўгашчаць, раз ана на кашу сабрала. Её садзяць у каляску ці на падушку і вязуць у магазін. Яна пачынае адкупліванца. Бабка што-небудзь пакупае ребёнку. Потым яе вязуць назад у хату. Вязуць з гармошкай і калакольчыкамі, каб суседзі відзелі, што гэта бабка едзе.

***Запісана ў г. Буда-Кашалёва***
***ад Мільячэнкі Анатоля Мікалаевіча, 1941 г.н.,***
***Мільячэнка Веры Аляксандраўны, 1946 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Жлобін),***
***студэнткамі Міненка В., Барадзіной В., Валошынай А., Кашлаковай А.***

Бярэменнай жанчыне не дазвалялася работаць у празнікі. Калі калёса стаяць, нельзя праз іх і аглоблі пераступаць, бо ў дзіцёнка пупавіна за шыйку запляцецца. Прыглашалі бабку-павітуху. Кумам звалі блізкага чалавека ці чалавека, які быў пачценны срэдзі вёскі. Маглі таксама быць і дружкі ці дваюрадныя родственнікі. Бабка разбівала гаршчок з кашай.

***Запісана ў г. Буда-Кашалёва***
***ад Прусавай Зоі Фёдараўны, 1922 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Кутнева Салігорскага р-на),***
***студэнткамі Міненка В., Барадзіной В.,***
***Валошынай А., Кашлаковай А.***

Раней жа не было бальніц і маглі радзіць у полі, дома ці яшчэ дзе. Роды прымала спавівальная бабка. Яна гаварыла розныя загаворы спецыяльныя і адразала пупавіну. Первы раз абмывала дзіця.

Дзіця хрысцяць чэраз месяц послі народзінаў. Уранні дзіця бацькі сабіраюць у цэркву для хрышчэння. Хрысцілі дзяцей у нядзелю.

Дзержыць дзіця ў цэркві бацька хросны, а хросная маці купляе малому хрэсцік і малую іконку. Послі хрышчэння дзіця прыносяць з цэрквы і сабіраюць гасцей. Первай запрашаюць павівальную бабку. Бабка прыносіць разныя падаркі, мыла і купае дзіця, спавівае яго ў пялёнкі. За стол сначала запрашаюць куму з кумам, павівальную бабку і ўжо патом астальных гасцей. Сеўшы за стол, бабка падае гаршок з кашай (з пшонных круп). Кажды, хто захоча кашы, должэн купіць сабе порцыю. Кум кладзе больш за ўсіх грошаў і разбівае гаршок, а госці хватаюць сабе кашу. Послі этага людзі пачыналі есці розныя блюда. Послі застолля бабку шанавалі: садзілі яе на тачанку і вазілі з песнямі і смехам па вёсцы. У канцы застолля госці дарылі малому разныя падаркі і канхветы. Спавівальную бабку, кума і куму выбіралі бацькі малога і запрашалі іх з хлебам-соллю. Адказвацца была нельзя, бо шчыталася, што адказ прынясе няшчасце гэтаму чалавеку. Кумам і бабе пелі песні:

### *Сядзяць кумкі на куце*

*Сядзяць кумкі на куце,*
*Бы галубкі ў гняздзе. 2 р.*
*Месца іхна ганарова,*
*Бо яны бацькі малога. 2 р.*
*Кумкі доўга п'юць, ядуць,*
*За кашку грошыкі кладуць. 2 р.*

*Сядзіць і бабка на куце,*
*Бы галубачка ў гняздзе. 2 р.*
*Яна малога спавівала,*
*Пупавіну адразала. 2 р.*
*Кумоў і бабку ўсе частуюць*
*І падарункі ім даруюць. 2 р.*

Былі забароны для жанчын у палажэнні. Будучы ў палажэнні, нельзя ругацца, а то дзіцё будзе ругацца, чалавек вырасце грубым.

Нельзя ў палажэнні пераходзіць цераз вяроўку, шнур, веткі – будуць цяжкія роды.

Нельзя нікому ўступаць дарогу, а нада ісці первай, каб былі лёгкія роды.

Нельзя сядзець на кортачках – будуць цяжкія роды.

Нельзя работаць і мыцца ў святыя дні і ў нядзелю, у дзень сваіх радзін, бо шчыталася, што жанчыну ў палажэнні ахоўвае Бог, дзіцё – ета дар Божы. Калі будзеш работаць, Бог можа раззлавацца і можа радзіцца бальное дзіця або не радзіцца ў час.

Нельзя глядзець на мертвякоў – дзіця народзіцца жоўтае.

Нельзя мыцца ў гарачай вадзе і парыць ногі – дзіця родзіцца не ў свой час.

Нельзя гладзіць кошку і сабаку, бо ў дзіцяці будуць очэнь бальшыя радзімыя плямы, могуць быць пятны на целе.

У час палажэння нельзя стрыгці косы.

Нельзя гладзіць жывот – будзе пуглівае дзіця.

Нельзя глядзець на некрасівых людзей, калек – такое можа радзіцца дзіця. А каб дзіця радзілася красівым, нада глядзець на красівых людзей, на цвяты красівыя.

Каб дзіця радзілася песняром або музыкантам, трэба ў палажэнні пець песні і танцаваць, іграць на музыкальным інструменце.

Калі жанчына многа пугаецца, будучы ў палажэнні – дзіця будзе пуглівае.

Ад злога глазу жанчына насіла булаўку або красівую вяровачку на руцэ.

Нельзя прасіць пазыкі, каб дзіця пры жызні не было беднае.

Цвяты, што дарылі на вяселлі, сушылі і купалі ў іх дзіця. Яно будзе дужым, багатым.

*Запісана ў п. Баравое Ляда Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Ваўчковай Соф'і Макараўны, 1929 г.н.*
*(перасяленка з в. Хоўхла Буда-Кашалёўскага р-на),*
*студэнткай Герцавай Т.*

Раней жа як было: калі сёдня радзіўся дзіцёнак, дак назаўтра ці на трэці дзень ужо вязлі яго хрысціць. Для етага прыглашалі кума, куму і бабу: насілі ім лусту, ну, хлеб з соллю. А потым ужо вязуць у царкву. Кумы павінны былі адзець хрэсніка ў тое адзенне, што самі купілі.

А як прыязджаюць з царквы, дак ужо і стол гатуюць, і кашу, і ўсё як трэба. Прыходзілі толькі жанатыя, бо маладзёж і не прыглашалі а навошта гэта ім). І ўсе неслі і прадукты, ну, і падаркі ж тожа.

Яшчэ калі вярталіся з царквы, дак кумы не аддавалі адразу бацькам дзіця, а клалі пад прыпек. А потым аддавалі ўжэ бацькам. А пасля гэтага была гулянка ўжэ. Стол накрываць і гуляць. Як пагуляюць, дак гаворать, што кашу ўжо будуць падаваць. Гэту ж кашу баба варыла. Калісь яе дзелалі толькі з пшана. Калі баба ўмела гатаваць, дак смачную варыла кашу. А верх упрыгожвалі і канфетамі, і абаранкамі. Ні раз так не было, каб адразу кашу натуральную прынясуць

і паставяць. То ката якога ўсадзяць у гаршок ці ў чыгун, а потым накрываюць і крычаць: "Бабіна каша! Бабіна каша!" А баба крычыць, што не мая каша. Яны забіраюць тады, выпускаюць таго ката, а потым якую курыцу прынясуць ды зноў у гаршок і паставяць. А патом пакуль ужо прынясуць гаршок з кашай. Тады ўжо баба прызнае яго. Скажа: "Точна ўжо, станавіце. Гэта мая каша". І ўжэ ставяць кашу на стол, і пачынаецца гульня. Баба кладзе грошы і гаворыць: "Бабіна каша". А потым нехта гаворыць: "Мая каша". І таксама грошы кладзе. А потым ужо кум павінен выкупліваць кашу, прычым кум доўжан пакласці больш грошай – выкупіць. А так пакуль усе ўжо грошы не папаложаць, дак тады ўжо і гульня канчаецца. Патом кум бярэ палаценца і кашу аб стол, каб разбілася. Потым рэжуць і па ўсіх сталах ставяць, а чарапкі пад стол кідаюць. А такога, каб захоўваць, дак не было.

Калі кончылісь хрэсьбіны (а ета і цяпер так ё), дак еслі летам, то прывозяць калёсы, становяць, садзяць бабу, дзеда, кумоў і вязуць. Без каня, без нічога – самі на сабе. Становяцца ў аглоблі, а хто ззаду папірае. Едуць па вуліцы туды, дзе баба жыве, к бабе, значыць. Баба тады ўсіх прыглашае ў хату, графін на стол, угашчае ўсіх. Патом зноў сабіраюцца і вязуць кума, куму, усіх па хатах. А пад паслед ужо так панап'юцца, што і калёсы кінуць, бо гэта ж кожны, каго адвозілі, угашчаў.

А зімой вазілі на санях, тожа без коней, самі. А калі што, дак вязуць у магазін, просяць, каб адкрылі. Адкрываюць ім, яны бяруць там што і ўсіх угашчаюць (і не толькі тых, хто ўдзельнічаў, але ўсіх, хто прыходзіць). А то і на дзецкіх санях вазілі тожа.

*Запісана ў в. Бацунь Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Цітарэнка Евы Іванаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Цітарэнка Н.*

Берэменнай цераз аглоблі нельзя пераступаць, іначай пупавіна закруціцца. Дзецям гаварылі, што знайшлі іх каго ў канаплі, каго ў капусце.

На хрэсьбіны была талака. Кума і куму ўсёй талакой везлі ў магазін, і яны павінны былі купляць, што ім кажуць. Кума і з кумой садзілі на барану (санкі, цялежкі) і везлі ў магазін. Кросная бабка

варыла кашу і гэтую кашу выкуплялі. Кашай маглі паддурваць – клалі замест кашы ката, куру. Кашу б'е той, хто больше на яе пакладзе. Кум абязан перакласць кашу. Кашу кідалі ўсім на сталы, клалі патроху. Бабе, куму і куме па кашы ложуць падарак. “Мая каша з канапелькамі, а вы, госці, з капейкамі”. Гэта казала бабка, каб людзі клалі деньгі на кашу.

*Запісана ў в. Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Свірыдзенка Тацяны Дзянісаўны, 1923 г.н.,*
*студэнткамі Кузьмянковай Н., Варажун С., Валошынай А.*

На красціны сабіраецца ўся радня, абязацельна кум, кума і баба. Баба варыць бабіну кашу. Кашу ложаць у гаршок. Кум і баба кладуць грошы. Хто дасць больш, таго і каша. Кум б'е гаршок, каб каша была як бы цэлая. Яе дзеляць, як і каравай на свадзьбе, кажды бярэ кашу і што-небудзь жалае дзіцёнку. Потым кашу ядзяць. За бабіну кашу ўсе дараць грошы, пялёнкі, канфеты.

*Запісана ў в. Глазаўка Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Кавалёвай Паліны Міхайлаўны*
*студэнткамі Міненка В., Барадзіной В.,*
*Валошынай А., Кашлаковай А.*

Калісьці не казалі, што бярэменная, а пузатая. Старыя людзі заўважалі змяненні над бровамі, змяненні нагцей на руках. Не дазвалялася стаяць на парозе, каб пры родах дзіця не стаяла ў праходзе; пераходзіць праз аглоблі і вожкі ў калёсах, каб дзіця не закруцілася пупавінай за шыю. Заўсёды такой маладзіцы ўступалі месца прайсці першай пры спатканні. Калі наступалі роды, клікалі бабку-павітуху. Такія заўсёды былі ў сяле. Яна прынімала роды, адразала пупавіну. Пасля родаў прыходзілі радня, суседзі к парадзіхі. Неслі, што была ў каго. Бабка-павітуха варыла ўзвар, пякла аладкі, мачала іх у тоўчаны мак і прыносіла да парадзіхі. Не дазвалялася парадзісі хадзіць у царкву шэсць нядзель і жыць з мужам. Пасля шасці нядзель яна ішла з дзіцём у царкву ўводзіцца. Пасля ўводзін яна магла жыць, як і раней.

Таму, каго бралі кумам і кумой, неслі лусту хлеба. Калі лусту прымалі, то яны ішлі хрысціць дзіця. Адправіць у царкву хрысціць павінна была бабка-павітуха. Калі вярталіся з царквы, бабка брала

малога і клала пад прыпячак, каб дзіця была спакойнае. Патом пачыналася гулянне. Бабка варыла кашу, якую аддавала, калі прыходзіла. Патом яна павінна была назваць сваю кашу. Дзелалі падман. Садзілі ў гаршок то ката, то курыцу. Калі кашу пазнавала бабка, яе ставілі на стол, зразалі верх кашы, на гаршок ставілі тарэлку. Бабка первая клала ўнуку ці ўнучцы грошы на мыла і затым усе клалі грошы і аддавалі матцы. І пачыналася пакупка кашы. Усе клалі грошы, а кум павінен быў класць за кожным. І так прадаўжалася да тых пор, пакуль ніхто больш не паложыць, як кум. Тады кум біў гаршок з кашай, і ўсе бралі кашу, давалі дзецям, асабліва дзеўкам, каб быстра выходзілі замуж. Послі гэтага давалі гаспадары падаркі куму і куме, бабцы. Пачыналася пацеха. Хто-небудзь з гасцей выкрадаў падаркі, і кум, кума і бабка давалі магарыч за падаркі. Послі садзілі бабку на барану зубам уверх і везлі да яе дома, а яна павінна была ўсіх частаваць.

***Запісана ў в. Глазаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цыркуновай Марыі Апанасаўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Герцавай Т.***

У нашай вёсцы, калі хрысцілі дзіця, існаваў такі абрад. Пасля царквы, калі прыдуць усе дадому, бабка ложыць дзіця на новы саматканы ручнік, а з другога баку ручніка саскубае ножыкам пушок, якім пасыпае дзяўчынцы ў пахі, каб не было апрэласцей, а хлопчыку – на пупок, каб не было грыжы.

***Запісана ў в. Губічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Капанцовай Зінаіды Якаўлеўны, 1943 г.н.***

Хрэсьбіны гулялі. Дзень не назначалі, ну, хрэсціць дзіцёнка ў цэркву вазілі, штоб бацюшка пахрысціў. Назначалі куму, кума (ілі родственнікі, ілі знакомыя). Калі раждаецца дзіцёнак, яго купаюць і ў начоўкі ложуць капейкі, каб грошы вадзіліся. І ета праўда, той Вацік добра жыве, ё ў яго грошы. Кумоў сабіралі, хто як хацеў. Хрысціць трэба дзіцёнка быстрэй, каб не хварэў.

Баб, што ражаць жэншчынам памагалі, папарэзніцамі называлі, або пупарэзніцамі. Яны тожа абавязкова на хрэсьбінах былі. У бабы маглі малому другую ўзяць. Баба кашу варыла ў варэйках. Кашу варылі з проса. Потым кум разбіваў варэйку, штоб каша вывалілася

ўся, штоб такой формы і асталась. Кашу рэзалі і нyслі гасцям. Кусочкі гаршка-варэйкі лажылі на галовы тым, у каго дзяцей німа і тады ішчэ парасятам у хлеў кідалі, каб здаровыя раслі. Калі баба давала кашу, гаварыла: "Мая каша з лімонам – вы ка мне з мільёнам. Мая каша з канаплямі – вы ка мне з рублямі. Мая каша з пячоткамі – вы ка мне з пяцёркамі". Тады на хрэсьбіны кажды з міскай проса прыходзіў, што самі аббівалі.

Бабу вазілі на баране, засланай кажухом, на слончыку і дажэ на сабе вярхом. І кумоў вазілі. Баба к сабе вяла частаваць. А яшчэ, калі первы раз радзіла, то вялі ў баню і перад кожным парогам хрэст нажом выразалі, каб радзіць было лёгка.

*Запісана ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Здольнікавай Тацціяны Піліпаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткамі Самуйленка А., Самуйленка С.*

У нас білі гаршкі толькі як родзіцца дзіцёнак. Вядуць яго к храсту, бацюшка пахрэсціць яго, а тады бяруць кумоў, вот – кума і куму. Ён вязе гэтага дзіцёнка крысціць. А бяруць бабу, яна яму адрэжа пуп, і вот яна тады вара кашу з проса, прасяную. Вара кашу, а тады ўжо пахрэсцюць дзіцёнка, тады ўжо садзяцца за стол, выпіваюць і ўжо б'юць гэту кашу. Б'юць ужо гэты гаршок, а кашу патом ужо ўсім людям раздзяляюць патрохі.

*Запісана ў в. Забалоцце Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Чыкезавай Ганны Сцяпанаўны, 1929 г.н.,*
*Мацвеевай Марыі Раманаўны, 1944 г.н.,*
*Юранавай Анастасіі Андрэеўны, 1924 г.н.,*
*студэнткамі Малаковіч І., Пархоменка Д., Помазавай Т.,*
*Зубец Т., Фяськовай К., Байдаковай К.*

Бярэмянныя стаялі над ступай і елі, каб дзіця добрае было.

На святы нічога не рабілі, асабліва на Каляды і Вялікдзень.

Нельга было, каб бярэмянная плявала – гэта нядобра для яе дзіця.

Бярэмянным часцей трэба глядзець на прыгожых людзей, а не на інвалідаў.

Перад родамі звалі бабу, якая многае ведала. Яна на куцці сядзела, якую сама гатавала, яна ж і дзіця памагала нарадзіць. Некаторыя бабкі загаворвалі дзіця, каб тое не хварэла.

Баба павінна пасля родаў варыць кашу, прыносіць гасцінцы дзіцёнку. Каша, якую баба варыла, называлася "бабінай кашай".

Выбіраюць сабе кума і куму. Кашу, што баба наварыла, кум б'е, разбівае разам з гаршком. На хрысцінах пачынаюць выкупляць кашу. Сначала кум ложыць грошы, потым і другія, і кум павінен класці і класці, пакуль не выкупіць (пакрые), а ўжо потым разбівае на шчасце і на здароўе дзіцяці. Гэта традыцыя з кашай называецца "торг".

***Запісана ў в. Івольск Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мартынавай Ганны Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Венскай М.***

Калісь звалі бабку. Пры бабцы ражалі. Яна бабіла і пуп абразала. А тое месца клала ў чаранок і пад прыпечкам. А еты пуп, калі адсохне, дык калі вырасце дзіця, то даўжно з самага пупа развязаць вузліка. І казалі, што будзе шчасліваe дзіця, калі развяжа пуп.

Бабка сейчас і купала. У ваду ў вузліку клалі вусеўкі з пшаніцы, каб дзіця поўнае було, і цвяты, што на Тройцу свецяць, дабаўлялі.

А калі ішлі ў кумы брацъ, бралі хлеб, палаценцам яго абвертувалі і казалі: "Просім у кумы вас". Пазначалі, на які дзень хрысціць дзіця будуць.

Куплялі падаркі. Куме – на плацце мацерыі, а куму – на штаны і на рубашку, і бабе – на плацце. Калісь у цэркву вазілі на кані. Бацькі не ездзілі, толькі кум і кума. У цэркву бралі хлеб і палаценца. Пахрысціўшы дзіця, ехалі дадому, і начыналіся хрэсьбіны. На кут садзілі кума, куму і бабу. Баба варыла вялікі гаршчок баршчу і кашу. Боршч налівалі ў міску і ставілі на стол. А кашу куплялі, кідалі грошы. Хто болей перакіне, той тады і б'е гаршчок.

***Запісана ў в. Краснагорск Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Філінавай Марыі, 1918 г.н.***
***(перасяленка з в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кірпічовай І.***

Раней дзіця паяўлялася на свет у любым месцы: на полі, дома, на сенажаці. Тут глаўная роля адводзілася бабцы-павітухі. Яна прымала дзіця, перавязвала яму пупавіну, першы раз у жыцці мыла яго. Купанне малога – гэта цэлы рытуал. Гатовілася вада, цэлая балея. Вада была не очань гарачая. Бабка брала дзіця і ціхенька клала яго

ў ваду, а галоўка каб была над вадой, штоб вада не папала ў вушы. Пры гэтым яна чытала якіясь замовы. Яна іх нікому не расказывала.

Цераз нядзелю для наварождзенага павінны былі выбраць хросных, перахрысціць дзіця. Бабку і кумоў бралі з чысла добрых суседзяў, родзічаў. Дзіця рана ўранку вязуць кум з кумой у цэркаў. Пасля абеду госці і сяброўкі парадухі збіраюцца ў яе. Усе людзі, што ішлі на радзіны, неслі падарак (ежу не менш як тры міскі), гарэлку. Кум, кума, бабка займаюць месца ў красным вугле. Чым больш была ежы, тым лепш. Рытуалам з'яўляецца каша. Кашу стараюцца ўкрасці ад бабкі і замяніць чымсь. Каша ў кума, і яе выкупляюць. Кум за кожным разам перакрывае выкуп, каб каша была яго. Куплялі кашу за палатно, сала, ткань. Калі ўсе ўжо паклалі выкуп, кум крычыць: “Каша мая!” – і разбівае гаршок. Калі каша добрая, добра зваранае, і астаецца такая, як гаршок, яе катаюць па сталу, каб малы катаўся і рос кругленькім і румяненькім. Кускі ад гаршка сабіраліся ўсімі, хто гуляў хрэсьбіны. У іх ёсць магічная сіла. Калі іх мелка разбіць і закапаць у агародзе – будзе добры ўраджай. Як толькі кум разбіў кашу, парадзіха адорвае кума, куму, бабку падаркамі (палатно).

Другі дзень хрэсьбін называлі “барана”. Назаўтра бралі барану клецамі ўверх, садзілі на яе кума, куму, бабку і везлі па вёсцы. Возлі магазіна яны давалі гарэлку ўсім і возлі дома частавалі ўсіх за тое, што добра вазілі. Два раза ў год хросная і бабка наведваюць хрэснікаў: на шчодры вечар (шчадраванне) 13 студзеня і на Вялікдзень (Хрыставанне). Каб дзіця не сурочылі, яму надзявалі навыварат распашонку або ніз шпількай зашпільвалі.

***Запісана ў в. Крыўск Буда-Кашалёўскага р-на ад Цыркуновай Вольгі Цімафееўны, 1912 г.н., студэнткай Герцавай Т.***

Нараджэнню дзіцяці надавалі вялікую ўвагу, бо народжанае дзіця – гэта прадаўжальнік роду. Жанчыну маглі наведваць сяброўкі, сёстры. Яны прыходзілі ў адведкі. Незамужняя моладзь і мужчыны ў такім абрадзе ўдзелу не прымалі. Адведкі спраўляліся ў той дзень, калі назначала маці. Сяброўкі прыносілі булкі, аладкі, бублікі, мёд. Віншавалі маці, казалі: “Каб здаровы рос і шчаслівы быў”. Бацькі наладжвалі застолле. Выпівалі за здароўе маці, бацькі дзіця і за яго самога. Пагуляўшы, павесяліўшыся, госці расходзіліся. “Малыя

дзеці – малыя клопаты, вялікія дзеці – вялікія клопаты”, – так казалі пра дзяцей. Казалі: “Адно дзіця – не дзіця, двое дзяцей – палова дзіцяці, трое дзяцей – гэта дзіця”.

Абрад “Хрысціны” праводзіўся ў царкве. Для гэтага бацькі выбіралі кумоў: мужчыну і жанчыну, якія вязлі дзіця ў царкву. Кума прыносіла пялёнкі, розныя пачастункі. Пасля царкоўнага абраду бацькі наладжвалі застолле, частавалі кумоў, бабу, родзічаў. Бацькі чакалі, калі прыедуць з царквы. Заходзілі кумы і казалі імя дзіця. Садзіліся за стол, першую чарку падымалі за нованароджанага, другую за бацькоў, кумоў і г.д. Казалі розныя пажаданні ў гонар дзіця: “Дай, Бог, каб наш малы шчаслівы рос!” Потым пачыналі падаваць бабіну кашу. Баба варыла кашу. Каша – гэта рытуальная страва. Кашу варылі з прасяных круп, абавязкова дабаўляла мёд, каб жыццё дзіцяці было салодкім, масла, малако. Каша павінна быць жоўценькай і абавязкова смачнай. Перад тым як прынесці кашу, засцілалі новы ручнік. Кашу прыносілі тройчы, першыя дзве былі паддзельныя. Выкупіўшы кашу, кум разбіваў гаршчок з кашаю. Баба рэзала сваю кашу і раздавала ўсім прысутным. Чарапкі звязваюць у платок, а потым рэшткі кашы аддавалі свінням, каб свінні вяліся. Бацькі давалі падарункі бабе і кумам. На другі дзень вазілі бабу і кумоў на баране, на калёсах, вазілі па ўсёй вёсцы і частавалі прахожых.

*Запісана ў в. Лозаў Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Авяр’янавай Марыі Восіпаўны, 1937 г.н.,*
*студэнткай Авяр’янавай Н.*

Нараджэнне дзіця – гэта падарунак самой прыроды. Галоўнай дзеючай асобай была бабка-павітуха. Яна прымала роды і рабіла засцерагальныя дзеянні над парадзіхай і дзіцём. Потым бацькі выбіралі хросных. Хросныя вязуць дзіця ў царкву, дзе адбываецца хрышчэнне, а бабка тым часам чакае іх, прыгатаваўшы кашу. Прыехаўшы з царквы, дзіця адразу лажылі каля печкі, а маці родная павінна потым забраць яго (а лажыла хросная). Садзіліся абедаць, гулялі хрэсьбіны. Потым збіраюцца біць кашу. Але пачынаюць насіць не бабіну кашу, а іншую, нават дзяцей, курэй – да трох разоў, а бабка павінна была здагадацца, дзе яе каша і, знайшоўшы, пачынае закупліваць: “Мая каша, хто купіць яе?” Хто болей паложа, таго і каша. І лажылі грошы да тых пор, калі кум пакрывае ў апошні раз

і б’е гаршок. У той час родная маці нясе падарункі хроснай маці, бацьку, бабке. Затым раздаюць кашу ўсім. Асколкі гаршка кідалі на прыпалы, кажучы: “Каб ты радзіла”. Падарункі хросных маглі і ўкрасць, трэбуючы затым магарыч. Пасля гэтага бабу, куму і кума вязуць дамоў на калёсках, баронах, санках. Кумаўё ўгошчвалі тых, хто іх вёз. Грошы, сабраныя адразу, аддаюць маці, каб яна хутчэй іх пасчытала, дзеля таго, каб малы хутчэй загаварыў. І ўсё гэта суправаджалася песнямі.

Цяжарным жанчынам забаранялася штурхаць нагамі кошак, сабак, свіней (народзіцца вырадак).

Нельга пераступаць праз ляжачую сабаку.

Нельга было падстрыгаць валасы, хадзіць на могілкі, нічога браць з агню голымі рукамі (злодзеям будзе), пераступаць праз сякеру.

***Запісана ў в. Лозкі Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Сюськінай Лідзіі Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кавалёк Н.***

На хрэсьбіны выбіралі бабку. І бабку выбіралі з багатых. Везлі дзіцёнка ў цэркву. Потым бабка лажыла дзіцёнка перад печчу, штоб быў мужны. Бабка пекла кашу ў плахім гаршочку, каб потым яго разбіць. На хрэсьбінах у кумоў кралі падаркі. Потым выкупалі іх. Кумоў садзілі на барану, качалі на пасцілках. Запрагалі кума ў каня і ехалі да магазіна.

Чарапкі ад кашы кідалі ў хлеў. У адзежы хрэшчанага хрэсцілі другіх дзяцей, каб потым яны дружылі.

***Запісана ў в. Марозавічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Давыдзенка Кацярыны Апанасаўны, 1928 г.н.,***
***Столпнік Ганны Аўрамаўны, 1930 г.н.,***
***Леўчанка Вольгі Сямёнаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткамі Азарэвіч В., Карлікавай К., Смірновай А.***

Цяжарную жанчыну называлі прыродніца. У святы забаранялася працаваць, нельга дзівіцца з калек, каб дзіця не было такім. Пасля родаў да прыродніцы хадзілі ў атведкі. У кумоў выбіралі з блізкіх. Кашу з проса ў бабкі выкупалі за падарункі. У хаце прыродніцы гулялі не доўга, пасля ішлі дамоў.

***Запісана ў в. Мікалаеўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Мацюшэнка Марыі***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

Роды ў жанчыны прынімала бабка-павітуха, і яна шчыталася хроснай бабкай.

На другі дзень яна прыходзіла на радзіны атведаць унука ці ўнучку. Прыносіла абязацельна квас, які варылі з агурэчнага расолу, клалі з ячменя крупы, немнога грыбоў. Ета было абязацельна блюда бабчына. Бабка гаварыла:

*Ешце, дзеткі, квас, каб было ўсё добра ў вас,*
*Каб дзеткі не балелі, каб ваша хата была багата,*
*Каб было багата солі і хлеба,*
*І да хлеба ўсё, што трэба.*
*Каб і вы, дзеткі, жылі, красаваліся*
*І на бабку не забываліся.*

Купала дзіця першы раз тожа бабка-павітуха. Калі нараджалася дзевачка, то купала яе бабка ў святых красках і гаварыла: “Каб і мая ўнучка была такая красівая і шчаслівая, як етыя краскі”.

А нараджаўся хлопчык, то клалі ў начоўкі тапор і гвоздзі, каб хлопчык быў масцеравым.

Імя дзіцяці самі бацькі не давалі. Бралі кумаўё, яны везлі дзіця цэркву і па царкоўнай кнізе бацюшка даваў імя таго дня, у якое радзілася дзіця. У цэркву кум з кумою бралі булку хлеба, рушнік. Етым рушніком у царкве бацюшка выціраў рукі і дзіця, якое апускаў у свечанаю ваду.

Пасля хрышчэння прывозілі дзіця дадому і дзелалі хрэсьбіны. На хрэсьбіны бабка пекла кашу ў гліняным гаршку. Кум разбіваў яго і дно з гаршка клаў на галаву таму мужыку, у каго няма сыноў. Маладая маці адарвала ўсіх падаркамі: дзеда, бабку, куму і кума, і сваю маці, каб памагала малога калыхаці.

Тады кума і куму везлі да карчмы на калясцы. Кум угашчаў усіх гарэлкай і закускай, а бабку хросную везлі на баране. А ўсе, хто гуляў, беглі ўслед за каляскай і пелі песні.

***Запісана ў в. Міхалёўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Данюк Варвары, 1932 г.н.***
***(перасяленка з в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кірпічовай І.***

Калі родзіцца дзіця, то яго нада была хрысціць. Тады бралі кума, куму, хросную бабу. Каждаму з іх неслі хлеб-соль і гаварылі: “Наце вам хлеб-соль, а дайце нам кума (куму, бабу)”. У дзень хрэсьбін да бацькоў малога прыходзілі кумы і баба. Баба малога брала на рукі і хадзіла вакруг стала, на якім хлеб ляжаў. За ёй кум і кума ішлі. Хадзілі так тры раза. Баба цалавала хлеб і гаварыла: “Каб дзіця да сям’і далучылася, гора, бяда абмінулася, а шчасце ды здароўе прыхінулася”. Патом баба давала кумам дзіця і прыказвала: “Наце вам народжанае, нам прынясіце хрышчанае”. Патом ішлі ў цэркаў. З цэркві дзіця нясуць кумы і ў хаце аддаюць яго бацькам. Самай галоўнай ядой на хрэсьбіны была бабіна каша. Баба яе хавала дзесьці ў хаце, а кумы шукалі яе і выкуплялі. Як каша ўжэ будзе ў кума, ён разбіваў гаршчок і ўгашчаў кашай усіх. Адразу даваў хазяйцы, а патом гасцям. Хазяйка дорыць кумам і бабкі падаркі. Хрэсьбіны гулялі два дні. На ўтары дзень сабіраліся ў той жа хаце і гулялі далей. Патом мужчыны запрагалі каня ў санкі ці воз, садзілі туды кумоў і бабу і везлі каждага дамоў, а тыя іх частавалі. Усе пелі і жартавалі.

*Запісана ў в. Негаўка Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Кажамякіна Рыгора Сямёнавіча, 1925 г.н.,*
*студэнткай Герцавай Т.*

Перад народзінамі дзіцяці цяжарнай жанчыне шмат чаго не дазвалялася рабіць. Нельга было хадзіць на пахаванне, бо казалі, дзіцяці будзе шмат хварэць. Нельга было станавіцца ў той след на падлозе, які быў астаўлены ад мокрага вядра ў час, калі прыбіралі ў хаце, бо дзіця будзе ўвесь у лішаю і ня будзе доўга жыці. Нельга было брацца за цела пры іспузе або пажару – у дзіця будзе радзімае чырвонае пятно. Нельга было біць хатнюю жывёлу, бо дзіця вырасце забойцам.

Раней дзіцяці наражалі дома, і гэтыя роды прымала бабка-павітуха. Вось калі народзіцца дзіця, яна яго купала, апускала яго ў ваду тры разы, штоб гэтае дзіцё здаровае было.

Перад тым як хрысціць дзіцё, маці і бацька выбіралі сабе кумоў. Кумамі маглі быць толькі жанатыя людзі, але не ў коім разе муж і жонка – гэта забаранялася, бо пасля гэтых хрэсьбін яны пачыналі жыць вельмі дрэнна. Адмаўляцца ад прыдлажэнія быць кумамі грэх было, нельга адказвацца. Перад тым як несці дзіцё хрысціць у царкву, бабка-павітуха павінна была дзіцё памыць і абвярнуць

яго ў чыстую пялёначку і пры гэтым казала: “Во, унучок, будзеш цяпера добра спаць, а гасподзь Бог цябе пасвеціць”. Потым дзіця аддавала кумам з такімі словамі: “Наце вам нараджонага, а прывязіце нам хрышчонага”.

Вярнуўшыся з царквы з хрышчоным дзіцём, кум усіх запрашаў да стала, але да гэтага кума даравала маці народжанага платком, а кум даваў грошы. Кумоў і бабку-павітуху за сталом садзілі на самае пачэснае месца. Сеўшы за стол, усе павінны памаліцца і толькі пасля пачыналі есць. Усе гулялі, спявалі розныя песні, танцавалі, а пад канец успаміналі пра бабіну кашу. Гэту кашу ў асноўным варылі з пшана і з мёдам. Успомніўшы пра кашу, бабка яе выносіла, і разбіваў гэту кашу тый, хто больш за ўсё паложа грошай. Часцей гэта быў кум. Гэту кашу павінны былі ўсе паспрабаваць. Пасля таго як усе паспрабавалі кашу, маці і бацька дзіцяці давалі падарункі кумам і бабцы.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Шыгалёвай Аляксандры Канстанцінаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Жэўнеравай В.***

Нараджэнне дзіця – гэта вялікае свята. Калі ён нараджаўся, яго трэба было хрэсціць. У нас, у Рагіні, гэта дзелалася так. Бацькі нясут хлеб, соль бабе (жанчына, якая павінна была пакупаць дзіця), затым нясуць хлеб, соль куме і куму (яны нясуць дзіця ў царкве к крыжу). Калі бацькі прыходзяць за бабай, яны з парога гаворацы: “Наш хлебсоль, а нам дайце бабу”. Калі гэта жанчына згодна быць бабай, яна адкусвае хлеб, а астатак раздае ўсім астатнім у хаце.

Выбіраюць дзень хрэсьбін. Затым прыходзяць хросныя (кум, кума), баба. Яны апранаюць дзіця і едуць у царкву. Усе госці прыходзяць у назначаны час і чакаюць, калі вярнуцца з царквы. Калі яны прыехалі, усе садзяцца за стол, як гавораць, трэба адзначыць свята. Пачынаецца гулянне.

Потым пачынаюць вазіць кашу (апранаюцца некалькі чалавек у касцюмы і робяць каня). Падвозят к бабе ў першую хату, баба ўсіх частуе, глядзіць кашу. Словы бабы: “Каша на стале, а зараз збірайце грошы на мыла, каб мой унук заўсёды хадзіл у чыстым”. Ёй даюць грошы, затым баба падзывае сваіх унукаў к сталу. Баба мовіць: “Дарагія ўнукі, вось вам грыбочак, каб моцным быў ваш сыночак.

Вось вам падушачка, каб праз год яшчэ была дачушачка. А яшчэ вам цукеркі, каб моцнымі былі вашы дзеткі, бацькоў не забывалі, старых паважалі. Мая каша з грыбамі і лімонамі, ваша каша з рублямі і купонамі". Баба перадае кашу куму і гаворыць, што гэта не яе каша. Затым другі раз падносяць кашу (ката, гуся і т.п.). Апяць гаворыць, што гэта не яе каша, частуе ўсіх на дарожку. Трэці раз падвозят кашу (ужо бабіну), якую яна гатовіла дома. Баба гаворыць, што гэта ўжо яе каша, і яна за грошы прадае кашу куму. На гэтым бабіна работа канчаецца.

На другі дзень у нас, у Рагіні, катаюць на баране бабу, куму, кума. Пасля яны частуюць усіх, гулянне працягваецца.

*Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Санчанка Ганны Пятроўны, 1923 г.н.,*
*студэнткай Хімачка А.*

Радзіцелі рэбёнка нясуць хлеб, соль бабе (жэншчыне, якая купала адзін раз рэбёнка), затым куме і куму. Калі прыходзяць к бабе, з парога гаворaць: "Наш хлеб, соль, а нам дайце бабку!" Баба аткусывае хлеб, а астаткі раздае ўсім, хто побач. І бабка вырашае дзень хрэсьбін.

Кум і кума адзеваюць рэбёнка і вязуць у цэркву. А госці ждуць у хаце, пакуль кумы з рэбёнкам прыедуць дамой. За стол без іх не садзяцца. Калі малога перахрысцяць, едуць дахаты. Разам з гасцямі сядаюць за стол. І недзе ў сярэдзіне бяседы пачынаюць вазіць кашу. Некалькі чалавек перадзяваюцца ў каня. І гэты конь падвозіць к бабе першую кашу. Гэта можа быць картошка або які-небудзь прадмет. Баба крыкам крычыць, што гэта не яе каша. Затым падвозяць другую кашу – што-небудзь жывое. Напрыклад, петуха. Усё зноў паўтараецца, і гэта баба не прызнае. І калі ўжо прыносяць бабіну кашу, яна гаворыць: "Каша на стале, а зараз збірайце дзеньгі на мыла, каб мой унук заўсёды быў чыстым". Баба падае паднос з сваімі грашамі, і ўсе кладуць грошы, потым гэты паднос аддаюць бабе, і баба падзывае сваіх унукаў да стала і гавора: "Дарагія ўнукі, вось вам грыбочак, каб крэпак быў ваш сыночак. Вось вам падушэчка, штоб чэраз год яшчэ была душачка-дачушачка. А вось вам канфет, кабы крэпенькі былі вашы дзетачкі, бацькоў не забывалі, старыкоў уважалі". Затым кашу баба перадае куму. На гэтым яе работа скончваецца.

Кум выкупляе кашу, і госці кладуць грошы на кашу. Баба з кумам таргуюцца, пакуль не выцягнуць з яго ўсе грошы. Кум кашу накрывае бальшой сумай і разбівае кашу. Вянок аддаюць маці і бацьку, а астатнія хватаюць хто што (для парасят). Хросная жадае: “Куда б мая хрэсніца не пашла, каб усюды шчасце і долю знайшла”.

У канцы застолля бабу вязуць на “барану” на тачцы. Яе вязуць да бліжняй вады (сажалкі) і кідалі ў ваду (летам), а затым ехалі да яе хаты, і яна ўсіх угашчала. Расходзячыся, гаварылі хазяіну благадарнасць, баба пры раздачы кашы гаварыла, каб пазвалі цераз год.

У нас умеюць гуляць хрэсьбіны, і на іх інтарэсна ўсім.

*Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Сілінай Марыі Рыгораўны, 1920 г.н.,*
*студэнткай Краўчанка Н.*

Калі нараджалася дзіцё, выбіралі кума і куму. Прыглашаў іх бацька. Ён заходзіў у іхнюю хату з хлебам і бутылкай гарэлкі. Зваў у кумы стоячы, каб дзіцё хутка навучылася хадзіць. Быць кумамі ўсе хацелі, бо іх паважалі. Вось кажуць: “Баба судзімая, а кума любімая”.

Пасля храсцін у хаце рабілі адведкі. Пеклі каравай, рабілі багаты стол. Госці неслі падаркі: мацерыю, грошы, канфеты. Баба сама варыла на адведкі бабіну кашу. Спачатку каша стаіць у бальшым гаршку. Усе вып’юць, пагуляюць і тады крычаць: “Нясіце ўжо бабіну кашу!” Баба, кум і кума выносяць гаршок з кашай, ставяць на стол. Баба кладзе грошы, потым кум і кума. Хто клаў грошы, таго і каша. Усе падходзілі да гаршка. Там была прывязана нітка, на яе вешалі канфеты, пячэння. Клалі грошы – трошку ці пяцёрку. Баба каждаму давала з ложкі кашы. Трэба было што-небудзь пажадаць дзіцёнку, беручы кашу: каб рос бальшой, каб быў здаровы, шчаслівы. Як усе паложаць грошы, кум разбіваў гаршок з кашай аб стол. Чарапкі збіралі і потым выкідалі, каб хвароб у дзіцёнка не было. Кашу дзялілі на ўсіх і хутка елі. Шчэ й казалі: “Як мы хутка бабіну кашу з’ядзім, так хутка наша дзіцятка няхай пачне хадзіць і гаварыць”.

За сталом гаварылі пажаданні: “Каб маё дзіцятка вялікае расло, каб маё дзіцятка здаровае было, каб на долю было ўсяго ўволю”. Пасля кашы зноў прадаўжаюць гуляць.

*Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Васілеўскай Марыі Андрэеўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Барадзіной В.*

Дома родзіцца дзіцё, тады бальніц не было ж. Бабку якую-небудзь пазавуць, старэйшых звалі, тыя і прымаюць роды. Мы ражалі, дак у нас баба была калісьці, патом бабіла яна. Тады спавявае вон у трапкі, "караўкі", саматканыя сарочкі. Баба прынясе сарочку, разарве яе і ўкручвае малога.

Хрысцілі хто як калі. Калі чэраз нядзелю, калі два дні як толькі родзіцца, нясуць хрысціць, а калі і месяц пражыве, так во, як хто.

Гатуюцца ўжэ к хрэсьбінам, бяруць кумаўство: куму і кума. Хрысцяць у царкве, бацюшка хрысціць. Спраўляюць хрэсьбіны, гатуюцца, вон з пшанічнай мукі натруць ладак якіх-небудзь, напякуць, халоднага наварaць. А кашу баба аддзельна варыць. Тая, каторая бабіць, тая ўжэ і кашу пшонную варыць. Тады гуляюць усе, завуць на кашу ўсіх гасцей. Госці гуляюць, б'юць тую кашу на стале, грошы кладуць. Кум адзін кладзе, пакрывае.

А на другі дзень захочуць пагуляць болей, даўжэй, сабіраюцца госці. Садзяць на "барану" кумаўство. Пасадзяць, завязуць і к куме, і к куму, і там ужэ кума, што ё, яблак паставіць, што-небудзь, абы бутылачку паставіла. Пагуляюць, а патом ізноў вязуць. Ета называецца толькі "барана", а садзяць у калёсы, а зімой на саначкі і вязуць ужэ яе дамоў, і пяюць песні па вуліцы, ета ўжэ штоб вясялей было, штоб болей падурэць.

*Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Цыбранковай Наталлі Іванаўны, 1928 г.н.,*
*студэнткай Галушкінай С.*

На хрэсьбінную кашу (як ставяць на стол): каша далжна быць пшонная (а не з канфет і другіх зерней). Бяруць 4 капейкі і гавараць: "Гасподзь кашу благаслаўляе, младзенцу шчасце пасылае". На гаршчок кладуць грошы, і кум б'е кашу (1-ая капейка – сверху, 2 к. снізу, 3 к. – слева, 4 к. – справа: як хрэст кладуць).

*Запісана ў г.п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Свярдловай Кацярыны Сямёнаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Свярдловай К.*

# Веткаўскі раён

Крэсціць нада на сёмы дзень. Маць бярэ кума і куму. Кросны ацец, как і родны, адказваюць за няго на працягу ўсёй жызні. Кумы не павінны паміж сабой ссорыцца – гэта вельмі плоха. Пакрэсцяць дзяцёнка – едуць дамой. Прыносяць кашу, бяруць бабку-павітуху, ета бабка варыць кашу ў гаршочку і ставіць гэтую кашу на стол. Патом разбівают гаршочак, і ўсе бяруць па кусочку, а бабке ложаць за гэта грошы.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Войнавай Вольгі Рыгораўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Сахоўскай А.***

Раней жанчыны ражаць у бальніцу не ехалі. Ражалі дома. У вёсцы была вельмі ганаровая бабка-павітуха. Яна і прынімала роды ва ўсіх цяжарных жанчын вёскі. Бабка адразала ў дзіцяці пупавіну, чытала над ім розныя замовы, каб дзіця не баялася ўроку, іспугу і другіх напасцяў. У гэты ж дзень бабка першы раз купала дзіцяці. У ваду лілі хрышчэнскую воду і над дзіцём чыталі малітвы.

Праз некалькі дзён да рожаніцы прыходзілі ў адведкі. У адведкі хадзілі толькі жанчыны. Яны дагаворваліся ісці ў адзін дзень, каб не было многа клопату гаспадарам. Жанчыны неслі малому нейкія падарункі, а ў хату неслі абавязкова што-небудзь, як казалі, з хлеба. Хто нёс муку, хто крупу, нехта пек аладкі або блінчыкі, багацейшыя куплялі цукеркі або пернікі.

Калі дзіця крыху падрасце, яго везлі ў царкву хрысціць. Напярэдадні бацька браў хлеб-соль, гарэлку і ішоў запрашаць кума і куму быць хроснымі бацькамі яго дзіцяці. Хросны бацька плаціў за абрад хрышчэння, купляў хрэсцік маломў, а хросная маці купляла ўсё новае маломў і адзявала яго к хрышчэнню. Брала з сабой у царкву ручнік, як казалі, выціраць послі хрышчэння бацюшку. Імя даваў дзіцяці свяшчэннік.

Пасля абраду родныя і кумы садзіліся за стол абедаць. А вечарам у хаце сабіралася ўся радня. Бабкай на хрэсьбінах была тая павітуха, што прыймала роды. Яна варыла кашу, абавязкова ў гліняным гаршочку. За стол садзіліся кум з кумой і бабка, а затым астатнія госці.

Бабка выносіла кашу, абгортаную рушніком, і пачыналіся таргі. Усе лажылі грошы. Кум лажыў больш за ўсіх. А калі ў кума грошы канчаліся, яму дапамагала кума. Затым, калі таргі канчаліся, кум падымаў кашу тры разы, а разам з ім падымаў дзіцяці бацька, каб дзіця бальшое расло. На трэці раз кум разбіваў гаршок так, каб каша была цэлай. Яе рэзалі і давалі ўсім гасцям. Калі яе елі, то стараліся, каб каша папала на ўсе зубы. Казалі, калі кашы на хрэсьбінах паесць, то зубы цэлы год балець не будуць. Затым спявалі жартоўныя песні:

*Я б гэтага кума, я б гэтага кума*
*І за кума не браў, і за кума не браў:*
*І гарэлку п'е, і закуску жрэ,*
*А песень не пяе, а песень не пяе.*

*Я б гэту кумку, я б гэту галубку*
*І за кумку не браў, і за кумку не браў:*
*І гарэлку п'е, як у бочку лье,*
*Харавод не вядзе, харавод не вядзе.*

Бабка была паважаным чалавекам у вёсцы і насміхацца над ёй не маглі, ёй спявалі памяркоўныя, добрыя песні:

*Сядзіць бабка на куце,*
*Як тая птушка ў гняздзе.*
*Яна дзіцяці пелянала,*
*Пупавіну адразала.*

У канцы хрэсьбін бралі санкі ці цялежку, засцілалі іх і садзілі бабку. Ёй казалі, калі яна добра адкупіцца, то павязуць на санках, а калі не, то на баране. Бабка абяцала добра адкупіцца, і яе везлі дадому. Дома бабка накрывала стол і частавала гасцей, каб уся вёска ведала, што пачастунак яе быў багаты. Назад ужо везлі бабку з музыкай і з песнямі.

***Запісана ў в. Гарысты Веткаўскага р-на***
***ад Якубовіч Марыі Іванаўны, 1936 г.н.***

Нельзя нікакой скаціны голай рукой біць і асобенна выспяткам – будзе шэрсць у дзіцёнка.

Нельзя ваду ў калодзежы, калі набіраеш, то адліваць у калодзеж абратна – будуць слюнкі ў дзіцёнка цекчы і з носа тожа.

Еслі пажар, то нельзя рукамі за цела брацца, бо абязацельна будуць лапікі красныя на целе.

Нельзя ў празнікі секчы нічога тапаром, бо ў дзіця губа будзе рассечаная, асобенна, еслі на пароге секчы.

Еслі жэншчына ў палажэніі, старалася, каб прыпечак чысты быў, еслі будзе грязна, значыць, будзе дзіцёнак нехарошы, грязны.

Еслі дзеўка замуж пашла, а на пахаранах не была і ў палажэніі, то нельзя ідці ёй на кладбішча.

Еслі ў палажэніі – нельзя ні ў кога прасіць, нічога ўзяць нельзя.

Вот еслі ідзеш і там кот ляжыць прапаўшы, ваняе, то пляваць нельзя, бо будзе ў дзіцёнка ваняць з рота.

Удзіўляцца нельзя з некрасівага ці інваліда, бо дзіцё будзе такое ж.

На даведкі жэншчыны ідуць. Хто кампот нясе, хто місачку пшана якога прынясе, хлеб, у каго што было.

Еслі ідуць кумоў прыглашаць, то бацька абязацельна нясе хлеб куму. Адказвацца нельзя было. І куме нясе хлеб-соль.

На хрэсьбінах прысутнічалі толькі жанатыя. Бабу на хрэсьбіны бяруць, яна вара кашу з пшана, канфетак накідаюць у тую кашу. Засцілаюць кашу палаценцам, становяць тарэлку, на тарэлку тожа ложаць платочак, і госці кідаюць грошы, хто болей пакладзе. Кум стараецца болей пакласці. Тады ўжо тую кашу, гаршчок, нада разбіць. Калі вопытны кум, ён тую кашу – чок аб рог стала, і паб'е, а другі будзе гасіць-гасіць тэй гаршчок, стол паламае, а гаршка не паб'е. Тады кашу на тарэлку кладуць, парэжуць-парэжуць і ядзяць.

Еслі ў каго дзяцей няма, маладыя пажаніліс, то бралі чарапкі з гаршка, над галавой разаб'еш і скажаш: "Чарапок разбілі, будуць дзеці ў цябе".

Бабку содзяць на калёсы ці на барану, без каня кругам водзяць, а тады яна ўжо ўгашчае іх дома.

У царкву толькі кумы ходзяць, радзіцелі дома сядзяць.

***Запісана ў в. Данілавічы Веткаўскага р-на ад Дзмітрачковай Тамары Кузьмінічны, 1936 г.н., Чуяшковай Любові Кузьмінічны, 1933 г.н., студэнткамі Кушнаровай К., Булдзінай М.***

Калі дзіця народзіцца, к яму і к матке ў бальніцу хадзілі. Паздраўлялі іх, гасцінчыкі насілі. А ўжо як яны дамоў вярнуцца, красцілі дзіця. Красціў бацюшка ў царкве. Малітвы асобныя чытаў над ім і над

маткай. У кумы бралі таго, каго добра ведалі і каму давяралі. Любога чалавека можна было браць.

Патом ужо дзелалі стол для радных. Гасцінцы дарылі малому, жадалі яму і матке здароўя, шчасця, усяго-ўсяго. У канцы бабка ўсіх угашчала сваёй кашай. Варылі яе ўкрутую, стараліся, каб смачная, салодкая, добрая была. Варылі абычна з пшана. Далей шоў торг за кашу бабіну. Хто дзенег больш дасць, тот і палучыць. Шчэ песні пелі, але ўжо не помню, якія.

*Запісана ў в. Залаты Рог Веткаўскага р-на*
*ад Чайковай Клаўдзіі Цярэнцьеўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Глазковай М.*

Калі радзіцца дзіцёнак, побач бабка-пупарэзніца, яна бабіла: адразае пупок, мые, пеленае. Ёй давалі гасцінца, і яна што-небудзь прынасіла. Як родзіцца рабёнак, баба з радасцю ішла да дачкі, благаслаўляла, паздраўляла. Пасля таго як родзіш, шэсць нядзель не спалі з мужыком. Праз нядзелю ехалі ў царкву, і бацюшка ўводзіў у святое, толькі ён не купае рабёнка. Маці і дзіцё ехалі дамой, а бацюшка яшчэ чытаў малітвы ім. У нас сначала былі хрысціны-перададведкі. Гэта прыходзілі ўсе родственнікі. Былі тут і бабка-свякруха, і дзедсвёкар. Усе паздраўлялі і маці, і бацьку, і рабёнка. Бабка, што прымала дзіцё, тожа прыхадзіла.

На хрэсьбіны ўжо выбіралі кумоў. Адказвацца, калі цябе звалі быць кумам, была нельзя. Бацюшка ў гэты раз купаў рабёнка.

Усе прыносілі канфеты і складалі ў гаршочак. Бабка-пупарэзніца павінна была купіць новы гаршчок (крэпкі). У ім варылі бабіну кашу, часта пшонную. Баба хавае кашу, жэншчын спецыяльна нанімалі, штоб яны іскалі. Усе за сталом п’юць, ядзяць, а яны кашу ішчаць. Як не могуць знайці, бралі петуха, маглі кроліка ілі ката, садзілі ў чугун і няслі цераз стол бабкі, баба крычала: “Не мая!”

У другі раз куклу садзім і нясём, баба дае выкуп – бутылку віна. Баба прыносіць сваю кашу, таргуецца з кумам да сотні. Кум хватае гаршчок, кідае. Калі за раз паб’е – добры кум, калі за два – дрэнны. На разбіты гаршчок баба ложа грошы і кажа: “Мая каша з лімонамі, з рублямі і мільёнамі”. Усе пачынаюць лажыць грошы, пры гэтым што-нібудзь жадаюць рабёнку і яго маці.

Кашу падымаюць, рэжуць на кускі і ўгашчаюць усіх. Астатняе ставяць на стол, і бярэ ўжо хто хоча. Усе за сталом п'юць і ядзяць.

***Запісана ў в. Залаты Рог Веткаўскага р-на ад Лук'яненка Вольгі Цімафееўны, 1935 г.н., студэнткай Лапіцкай В.***

Спачатку назначаюць, на які дзень будуць хрэсьбіны. Перад хрэсьбінамі прыглашаюць у хату бацюшку, кума і куму. Бацюшка ў дамашніх условіях хрэсціць дзіця. Потым сабіраюцца госці і прыходзіць бабка. Родныя спачатку кажуць: "Баба, кум і кума, займіце свае месцы на куце". Пачынаюцца хрэсьбіны. Усе спачатку ўгашчаюцца. Потым пачынаюць падносіць кашу. Спачатку могуць прынесці гаршчок з ачысткамі, завернуты ў скацерку. Кажуць: "Баба, выкупай кашу". Кашу не паказваюць. А баба ўсё таргуецца: "Гэта не мая каша". І ў другі раз могуць прынесці ложную кашу. А ў трэці раз прыносяць сапраўдную кашу, но баба таксама самневаецца, што гэта сапраўдная каша. Яе ўгаварываюць. Потым адкрываюць кашу, і на кашы знаходзяцца розныя падарункі куме, куму, бабе. Аддаюць ім падарункі, ставяць кашу перад бабаю на стол. Даюць бабе тарэлку. Баба бярэ кашу, абварочвае насавым платком і калупае кашу тры разы, і ложа ў тарэлку. Потым перадаюць ложку куму. Ён таксама тры разы калупае кашу і ложа ў тарэлку. Кум перадае ложку куме. Яна робіць тое ж самае. Потым бярэ кум кашу ў двух гаршках і паднімае тры разы кашу да паталка. Як тосты трэці раз паднялі, баба і кума адпускаюць кашу, а кум б'е гаршчок аб гаршчок. І потым сабіраюць на паднос падарункі.

***Запісана ў в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на ад Бондар Ганны Афанасьеўны, 1941 г.н., студэнткай Каральковай В.***

Кагда баба ражае, усе вузлы развязваюць і замкі адпіраюць, каб аблегчыць мукі.

Кагда хрэсцят рабёнка, празнуюць. Бабка нясе ўзел бальшой гасцінцаў. Як дараць, нясуць куклу замест дзіцяці. А хазяін усячыну гатовіць. Тады садзяцца за стол, п'юць, ядуць.

Кашу варылі. Харошы гаршчок пшоннай кашы. Рассыпную дзелаюць. Як садзяцца за стол, ставяць тую кашу пасярод стала. Радзіце-

лі ідуць з тарэлкай накрытай і збіраюць грошы. Пачынаюць з края, з кума. Хто болей грошай паложа, той і кашу б'е. Должан біць кум. А другі, хто з сваіх грошай падкіне болей: "Вой, сядзі, кум! Няхай гэты б'е!". Кум – бух на кашу ўсё. Усе: "Кумава каша!". Калі хто болей за кума даў: "Не кумава каша". Б'юць кашу, і яна па сталу рассыпаецца. Чарапкі паразбіраюць бабы, каб у хатах усё вялося. Усе ядуць кашу.

Падымаюць рабёнка, штоб красівы, шчаслівы быў, жалаюць яму. Бабке даюць падарак – на плацце, платок. Нада ж плацце замачыць. Бабку вязуць у магазін. Як зімой – на санках, летам – на калёсах. Бярэ бутылку водкі. І ў бабкі па тры разы адбіраюць падарак: нада замачыць.

Песні пелі, хто якую ўжо ўздумае, гармошка іграе, а ўсе танцуюць.

*Запісана ў в. Колбаўка Веткаўскага р-на*
*ад Кавалёвай Ефрасінні Паўлаўны, 1930 г.н.,*
*студэнтамі Крупскай Н., Шабалінай Н., Малашковай Л., Вержахоўскай В., выкладчыцай Новак В.С.*

Спачатку хадзілі ў даведкі. Людзей гаспадары не звалі, яны ішлі самі. Гаспадары садзілі іх за стол, потым спявалі песні. А потым дзелалі хрэсьбіны і звалі тых, хто прыходзіў у даведкі. Гаспадары загадзя выбіралі хроснага, хросную і бабу. Хросны і хросная ўтрам ехалі ў цэркву і хрысцілі дзіцяці, а потым у назначанае время прыходзілі госці, садзіліся за сталы, а перад гэтым дарылі падарункі для навароджанага. Песні спецыяльныя на радзінах не спявалі. Калі ўжо гаспадары бачуць, што людзі нашумеліся, то баба несла кашу, і яе выкуплялі (спецыяльных песен не спявалі), тады кашу разбівалі і раздалі патрошку кожнаму. Яшчэ гаварылі, калі ўхопіш кавалак разбітага гаршка, то будзеш шчаслівы. Потым апяць прадаўжалася вяселле. На заканчэнне свята хроснага і хроснаю садзілі на паясы, тачанку і вязлі іх к ім дамой. Там выпівалі і ехалі зноў прадаўжаць гулянне.

*Запісана ў в. Малыя Нямкі Веткаўскага р-на*
*ад Азаранка Ганны Іванаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Азаранка А.*

На радзіны выклікалі бабку, яна кашу варыла з пшана, хоць з рысу, салодкую. Тады на стол бабіну кашу падаюць, калі вып'юць тры разы і грошы пакладуць: хто больш грошай пакладзе, той будзе

бабкіну кашу біць. Быў звычай вазіць бабку, яе саджалі ў начоўкі і вазілі, каб гарэлкі дала.

Калі нараджалася дзіця, то яго нельга было стрыч да года. Імя яму заўсёды давалі да хрышчэння.

*Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на*
*ад Барсуковай Анастасіі Афанасьеўны, 1925 г.н.,*
*студэнткамі Чарняўскай В., Платонавай А., Цэпавай Ю.,*
*выкладчыцай Новак В.С.*

У мяне была цётка, ножка ў яе была крівая. Кажуць, калі матка была ў палажэнні, бацька крук зацесваў і забіваў, і радзілася крівая дзевачка.

*Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на*
*ад Саломеннай Ульяны Мікалаеўны, 1932 г.н.,*
*студэнткамі Чарняўскай В., Платонавай А., Цэпавай Ю.,*
*выкладчыцай Новак В.С.*

Родзе роджаніца. І зараз бацьку дзяруць за вушы. Ета ж сын ілі дочка найшліся. І зразу яго за вушы дзяруць, і прыходзяць саседзі ўсе і за вушы дзяруць. А ён станове водку. Давай замачываць дочку ілі сына. Ну, ён адразу ўжо станове ім магарыч, становяць і п’юць. І тады ўжо інтарэсна, хто ж ужо будзе кумамі. Хто кума? Баба будзе? Ужо прапытуюць ужо ж у яго. Хто прапытуюць? Ці свякруха, ці матка. Яна кажа: “А тый, тый будзе кума. Тый, тый – кум”. Ну, і тады ж хрэсціць ужо сабіраюцца. Нада ж папрасіць яго. Дзяцёнак жа не хрэшчаны – ета ж нідзе нігож. Гэта ж грэх бальшы. Нада ж абязацельна дзяцё перахрысціць. Вобшчам, маладыя гэтыя нічога, а свякруха і матка родная: “Нада абязацельна пахрысціць!”

Ну, і хрэсцяць дзяцё. Сабіраюцца хрэсціць і хрэсьбіны гуляць.

Хрэсьбіны гуляюць найбольш у бацькавых радзіцеляў. Ну, і хрэсьбіны сабіраюцца. І нясуць куме хлеб, куму нясуць хлеб, хлеб-соль і бабе. Яны ўжо знаюць, што гэта ўжо хрэсціць будуць. І сабіраюцца хрэсьбіны. Баба вара кашу. Прынясе кашу, становя на прыпячак. Ну, а тады, калі садзяцца ўжо за сталы, як ужо з-пад Хрыста прыедуць, ужо п’юць, гуляюць ужо, песні пяюць. І нада ўжо дзяліць падаркі. Даюць падаркі куме, падаркі куму і бабе, і свякрусе даюць. А яны хто ўжо кажа: “Хто больш грошай паложа, той ужо кашу

паб’е”. Ну, абязан кум пабіць кашу. Ну, і сяйчас нясуць кашу. Такую жанчыну шутлівую выбіраюць. Яны ёй гавораць: “Ідзі, нясі!”. Яна ідзець, ідзець баба та, надзяець шапку і нясе. І нясе, і храмае: “Мая каша з канапелькамі, а вы ўсе з капейкамі”.

Значыць, з капейкамі. Ну, я, прымерна, іду і нясу ім, ну, дзясятку ці колькі там. І па сталах носяць гэту находку-гаршчок з кашай. І хто паложа большэй. І сейчас жа кум большэ ложыць, і паб’ём гаршчок. Еслі не паложа кум больша – і не паб’е кашы. Хто больш – паб’е, а тады тыя бяруць тыя чарапочкі. І носяць гэтыя па галавах. Ета ў каго ў маладой пары якой: “Вот, Саш, табе, штоб у вас на лета сын ці дачка”. І так ета ўсе шумяць, усе гладзяць па галавах, гладзяць чарапкамі тымі.

Ну, тады кашу разбілі і трэба замачыць кашу. Наліваюць па сто грам і даюць выпіць каждаму. І кашу тую бяруць, і кускамі разламваюць і па сталах носяць кашу. Хто бярэ дамой – нада ж даць парасятам, курам, штоб яны вяліся, штоб няслі яйкі. А тады ўжо вылазяць і гуляюць, гармонь іграе, і танцуюць яны аж да самага ж вечара. А тады ж апяць за стол. А тады сабіраюцца мужчыны і жэншчыны, бяруць тачку, а ў каго няма тачкі, калёсы бяруць і вязуць бабу ў магазін. Сабіраюць бабу і кума, садзяцца і вязуць іх – хто за аглоблі, хто за што цягнуць. Народу столькі, штоб везці ў магазін. І заўмаг ідзе і адкрывае магазін. І бярэ баба гарэлкі, кум. І там частуюць. Уродзі бы як тут ужо не панапіваліся. І там частуюць. Выпіваюць. І тады апяць бабу вязуць на насілках. І за сталы садзяцца і выпіваюць да дванаццаці часоў ночы, гуляюць. Ну, а тады расходзяцца. Ну, тады баба выходзя і кажа:

*– Ну, мае дзеткі,*
*Штоб ета хата*
*Не знала ні гора,*
*Нічога благога!*

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Прыходзька Веры Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Вайцяхоўскай І.***

Хрысціць дзіцёначка можна ў любы дзень. Калі ета будзённы дзень, то хрысцяць дома, дзе ён радзіўся, у сваёй хаце. Прыходзіць поп, з ім жонка. Бацюшка рызу надзяе, хвартук. Яна пяець, а сам

поп хрысця. Усё, што нада, ён з сабой нясе. Як дзевачку хрысцяць, то кума дзяржыць, а як мальчыка – поп. Калі хрысцяць у выхадны дзень ці ў празнік, то ў царкве. Хрысцяць пасля абедні, як атчытаюць малітвы. Поп тады мальчыка етага возьме і к кожнай іконе паднясець. А патом нясе за царскія вароты – ета, дзе людзі не ходзяць, а толькі поп. Там такія жалезныя дзверцы з ряшоткай, і людзі ўсё відзяць, што ён дзелае: ён падносіць і к каждай іконачке дзіцёначка там. Абыходзіць вакол самай бальшой іконы, што ў цэнтры стаіць. Пасля, як выйшаў з царскіх варот, то паложыць дзіцёнка на пол, а сам пойдзе. Тады кум забірае яго. Еслі хрысцяць дзевачку, то яе толькі к кожнай іконе ў царкве паднясець, а патом тожа на пол ложыць, а за царскія вароты не нясе. Нельзя дзевачак насіць. Як толькі адчытаў малебень, усё пабрызгае вадой. Паднясець к вядру з пасвяцонай вадой і – брызь-брызь на галоўку дзіцёначку.

Багатыя, дак усягда на дом вызываюць папа. Плацяць яму.

***Запісана ў п. Новы Мір Веткаўскага р-на***
***ад Хадуньковай Ганны Трафімаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Хадуньковай Н.***

Парадзіху і навароджанага абаранялі малітвамі, рабілі загавары на вадзе. Жадалі здароўя дзіцю і матцы. І гасцінцы прыносілі: пранікі, сладасці, пялёнкі. За сталом выконваліся песні.

***Запісана ў в. Палянаўка Веткаўскага р-на***
***ад Целяпнявай Е.С., 1931 г.н.,***
***Валасянкінай А.І., 1921 г.н.,***
***студэнткай Валасянкінай Ю.***

Хрысцілі дзіцёнка ўранні. Кумаўя забіралі яго і ехалі ў царкву. Радзіцелі аставаліс дома. Пахрысціўшы, прыязджалі дамоў. Садзілісь за стол, начыналі дзяліць кашу. Кашу вара бабка. Усе, хто на хрэсьбінах, кладуць грошы ці што-нібудзь для малога на кашу. Хто больш паложа, той і разаб’е кашу. Усегда доўжан выйграць кум. Тады ён бярэ і разбівае гаршок з кашай.

Бабы бяруць чарапкі з разбітага гаршка і водзяць імі па галаве мужыка і кажуць: “Сколькі на галаве валаскоў, столькі хай будзя раткоў”.

Бабка патом нося кашу, і кажды доўжан палажыць яе трохі сабе. Абязацельна хваляць бабу і кашу. Патом садзяць бабу на начоўкі і возяць яе. Парадзіха дае падаркі куме, куму, бабе. Бывае, што госці крадуць падаркі і трэбуюць за іх выкупа. Ім ставяць гарэлку.

*Запісана ў в. Перадавец Веткаўскага р-на*
*ад Суглоб Марыі Іванаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Барсуковай А.*

Раньшэ ражалі дома, патаму што негдзе была. Я тожа пачці всех ражала дома. Пашла была ў лес за дровамі, прішла дамой, а ў мяне ўжэ схваткі. Бабка Малання за бабу была. Яна бабіла (мыла, пуп перапазала). З бабкай зараней не дагаварваліся. Як цяжэло ражае, дак паяса нада развязываць, пугаўкі расшпыляць тым, хто ёсць у хаце ў эты мамент. Еслі ёсць юбкі, абезацельна далжны развязаць іх.

Хрісцілі цераз шэсць недзель пасля таго, як народзіцца. На хрэсьбіны завуць бабку, што памагала ражаць, ёй падарак купляліі, хросную завуць, хроснага. Як завуць, дак адказывацца нельзя. Кагда нясуць дзіцёнка ў цэркаў, дак хросная полнасцю должна надзець яго ва ўсё, што прынесла ў падарак.

Панясуць дзіцёнка ў цэркаў. Там не хрісцяць у самой цэркві, а рядам зданіе. Там іканастас, алтарь, іконы разныя, свечкі, толька эта не цэркаў, а спецыяльнае зданіе. Паставяць там усіх у ряд. Сначала мальчыкаў, а патом хто з дзевачкамі. Поп паставіць бальшую табурэтку, на яе чан такі бальшы, вада ў ім цёпленькая. Сам стане, Богу памоліцца. Маці і бацьку быць там нельзя. Толькі хрёсная і хрёсны. Дзержыць хрёсная дзіцёнка. Сначала хрісцяць мальчыкаў, патом дзевачак. Для папа должэн быць абізацельна падарак – маціp'ял. Ён бярэ яго і складуе ў кучку. Бярэ дзіцёнка і мажа крэсцік на лбу і пятачках. Патом ён дае дзіцёнка маці хроснай, сам бярэ маціp'ял, хросная ложыць туды дзіцёнка. Патом яна вынося яго, аддае маці, тая яго спавівае, і едуць дамоў.

*Запісана ў в. Радуга Веткаўскага р-на*
*ад Рыбачкінай Пелагеі Рыгораўны, 1933 г.н.,*
*Бегічавай Аляксандры Кірылаўны, 1923 г.н.*
*(перасяленка з в. Баркі Веткаўскага р-на),*
*Батраковай Ганны Пятроўны, 1947 г.н.,*
*студэнткамі Урбан В., Горбач М., Галавачовай М., Хадуньковай Н.*

Калі жэншчына бярэменная, ей нельзя датрагівацца к любому рабёначку. Нельзя пераступаць цераз сабаку. Нельзя хадзіць на кладбішча. Нельзя стрыгці косы. Нельзя купацца ў рэчкі. Нельзя піць водку.

Бацька рабёначка доўжан зваць кума. Кум – эта не абязацельна радня. Можа быць саўсім чужы чалавек. Часта друзей звалі, шахверак са свадзьбы. Толька нельзя была бяздзетных звацi. І нельзя была адказывацца ад кумоўя. І хадзілі хрысціць дажа незаконных дзяцей. Дзеўкі з удавольствіям хадзілі хрысціць, патаму што кагда рабёначак начне хадзіць, ана замуж пайдзе.

Как пахрысцяць, дак сразу ж за стол. Усе ядзяць. А пасля пажаланні гаворацьрабёначку, падарачкі дорацЬ. У канцы пачынаюць шумець: гуляць, танцаваць, песні пець.

*Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на*
*ад Васільцовай Матроны Сяргееўны, 1925 г.н.,*
*студэнткай Задзірака А.*

Сыйчас ужэ няма пупарэзніц (бабка-павітуха). Все ражаюць у бальніцах. Раньша так было: радзіўся дзіцёнак, хадзілі ў атведкі. Тада ўжэ мама з бацькам далжны хросных выбіраць. Ну, іх яшчэ раньша выбіралі і гаварылі ім да таго, як дзіцё народзіцца. У хросныя бралі каго-нібудзь з блізкіх ілі далёкіх родзічаў. Хросныя, і бацька, і маці, далжны аб дзіцёнку забоціцца, калі што з роднымі бацькамі здарыцца.

Еслі дзеўка дома ражала, тагда всягда адкрывалі вокны, і дзе які замок, каб усё чыста было адкрыта. Гаварылі, што так легша родзіцца. Патом, як родзіць (дзеўка), не нада спаць з мужам нядзелю.

Ездзілі ў цэркаў, і бацюшка “ўводзіў” дзіцёнка. Не, не храсціў, а ўводзіў, ну, штоб яму харашо было. Штоб яго прынялі, ці што. Ну, так нада было. І бацюшка маліўся Богу.

Патом храсцілі дзіця. Патом яго вярцелі (заварочвалі) у пялёнкі, што хросная дала. Патом ужэ звалі гасцей. Ну, і гулялі. Была і “бабіна” каша. За бабу звалі любую жэншчыну, што спанаравіцца маладой. Баба ўжэ варыла тую кашу. Можна было варыць з любых крупаў. І нада так зварыць кашу, штоб, калі разбівалі, гаршчок разбіўся, а каша асталася, як у гаршку была. Баба прыносіла кашу. А патом, штоб пашуціць, кашу хавалі. Баба гаварыла: “І дзе мая каша?” Ну, тагда ей выносілі гаршчок ці чыгун у трапцы. А там усяродку курыцу садзілі ці ката, ці бульбы насыплюць. Баба гаварыла: “Не, не мая

каша! Давайце маю!” А ей апяць вынасілі што-небудзь не тое. А патом ужэ давалі яе гаршчок. От, баба ўжэ носіць кашу па гасцях. І госці лажылі ў кашу грошы, хто сколька. Ну і жалалі дзіцёнку ўсяго харошага і мамку маладую паздраўлялі. А патом кашу куплялі. А нада так, штоб каша абязацельна дасталася куму, і ён, бедны, даваў больш за ўсіх грошай. Так таргаваліся. Патом ужэ кум усё-такі купляў кашу і разбіваў яе ў платку. Так нада была. Ну, а гаршчок аставаўся дома. Патом ужэ пелі, танцавалі. Ну, а ў песнях жалалі што-небудзь дзіцёнку і маладой мамцы з бацькам. Када дарылі грошы, гаварылі:

*Лажу грошы,*
*Штоб быў сын харошы!*

ці:

*Лажу пятачка,*
*Штоб расла дачка!*

Ну, так і гулялі ўсю пачці ноч. А патом разыходзіліся. Ну, еслі багатыя (гаспадары), то і на другой дзень мужыкі прыходзілі пахмяліцца. Када дзеўка цяжкая, бярэменная, то ей нельзя пераступаць праз вяроўку. Са скаварады няльзя есці. Няльзя пужацца, бо дзіцёнак родзіцца дурны. Няльзя глядзець на калекаў ці ґаварыць плоха пра іх і смяяцца – дзіцёнак плахі будзе. Када пабачыць пажар, не нада хватацца рукамі за галаву – дзіцёнак красны будзе. Мяртвяка няльзя бачыць. А калыску пустую, када ў ей дзіця няма, няльзя калыхаць, бо памрэ (дзіцятка). Ну, і работаць цяжола ня нада.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Мацюковай Ніны Данілаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Пісарэнка С.***

Прыглашалі бабку, вопытную пажылую жанчыну, якая ў курсе дзела. Калі рабёначак памрэ, хавалі на могілках, у маленькім гробіку, крэшчык ставілі. Нехрышчоных і даўленых усё роўна хавалі разам. Штоб рабёнка не зглазілі, прышпілечку прышпільвалі к рубашачкі, булавачку. Сабіралі людзей і хрысцілі. Зразу хрысціць бацюшка, тут кума і кум, а патом, калі ўжо яму месяцы два ці тры, робяць хрысціны, сабіраюцца харашо знакомыя, варацць гаршчочак кашы і на гэты гаршчочак ложаць дзеньгі – кума столькі, а кум яшчэ больш, а потым гаршчок разбівалі, і ўся каша рассыпалася. Тады кашу елі.

Калісь як жэншчына ражае, то мужык зусім сыходзіць з хаты, бабка выганяе, штоб ніхто не прысутнічаў, адна яна. Ну, уродзе, стыд.

***Запісана ў в.Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Грышуціка Уладзіміра Панфілавіча, 1928 г.н.,***
***Грышуцік Надзеі Ісакаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткамі Пашук А., Юрчанка Н.***

У нашай дзярэўні радзіны праводзілі проста. Хадзілі сначала ў даведкі. Варылі бульбяныя пампушкі, узвар. Дарылі палатно. Бабе-павітухі давалі на юбку, куме на кохту. Білі кашу. За кашу бралі грошы. Глядзелі, хто первы выкупіць, ці кум, ці кума. Потым чарапок хавалі ад грому.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на***
***ад Чуяшовай Галіны Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Трухановіч Л.***

Парадзіху і навароджанага абаранялі соллю і пасвяцонай вадзіцай. На хрэсьбіны пелі песні:

*Ой, ты сад, ты мой сад, сад зялёненькі,*
*Чаго рана цвіцеш, расцвітаеш.*
*А куды, мілы друг, сабіраешся?*

Навароджанага і парадзіху адорвалі на хрэсьбінах, калі кашу білі. Бабіна каша, так і называлася. А калі збіралі грошы на бабіну кашу, то пелі так:

*Бабіна каша з канапельцы,*
*А вы, людзі, па капейцы.*

У канцы гуляння каша выкупалася.

***Запісана ў в. Юркавічы Веткаўскага р-на***
***ад Аўсейковай Марыі Фёдараўны, 1936 г.н.,***
***Адзіночкінай Марыі Канстанцінаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Глуханько А.***

# Гомельскі раён

Про беременную женщину ничего не знаю. Знаю, крестят ребёнка, когда пройдёт сорок дней, когда мать очистится, только тогда. Крестить ребёнка надо быстрей. Когда только родился ребёнок, мама моя говорила, сразу крестить, очень плохо, когда некрещёный. Если был больной ребёнок, то надо крестить, чтобы был здоровенький. Мама говорила, что батюшка выстригал волос с головы ребёнка, закапывал воском и кидал в воду. Если на поверхности плавает, то ребёнок будет живой, а если тонет – умрёт. Меня на дому крестили. Советская власть была, было запрещено крестить, церкви были закрыты.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Посахавай Любові Пятроўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Абдуліна Арэнбургскай вобл.),***
***студэнткай Рыбак Т.***

Беременной женщине нельзя было, если шнур, пруты лежат, нельзя перешагивать, чтоб препятствий не было при родах, чтоб легко рожать. Нельзя было у порога стоять, через порог надо было быстро перешагивать, нельзя стоять у калитки, чтобы ребёнок быстро родился. Нельзя было смотреть на некрасивых, чтоб родился красивый, на уродливых нельзя смотреть.

Если беременная покажет ладони вверх, то на девочку, если женщина покажет ладони вниз, то мальчик. Так бабки гадали. У меня лично так совпало – Валя, дочка родилась. Беременным ещё нельзя на кладбище ходить, покойника смотреть. Нам сказали, что может быть выкидыш, бабки так сказали. Беременным нельзя воровать, всё отражается на ребёнке.

Беременная женщина боялась, чтоб её не сглазили. Одевалась, прятала живот, чтоб не сглазили, меньше ходила по гостям, по людям. Если хочет сохранить ребёнка, то лучше не ходить по соседям. Когда беременная восьми месяцев, нельзя делать тяжёлую работу, связанную с руками вверх, поднимать руки вверх нельзя.

В любой деревне повитуха была одна, то у нас была бабка-лекарь. Не только повитуха, но и шептуха. Повитуху вызывали при родах. В чугунах грели воду, рвали простыни, полотняные тряпки.

Бабка-повитуха три раза перевязывала пупок, чтоб отпал. Три узла этих, что от пупка отпало, отдавать матери. Для того, когда уже дитя будет в совершеннолетии и развяжет эти узлы, то в жизни узла никакого не будет, в жизни у него всегда будет успех, удача. Так говорили, а кто его знает.

Крещение было только по воскресениям. По воскресениям всегда святой день, и в церковь нас, родителей, не пускали, в церкви – только кума и кум. Приглашали кума и куму, выбирали, кто пришёл с хлебом и солью, ты уже не откажешься, это грех. Родственников нельзя приглашать, только чужого человека. Это уже по-церковному, я не знаю, так говорили. Родственники и так родственники, а это будут вторые мать и отец новорожденному. Это уже и на свадьбе, как мать и отец, кума и кум то же самое.

На Пасху должны подарки отнести, на все святые праздники. Кум и кума крестнику обязаны принести в подарок на Пасху яйцо, это святое. Бабки говорили, что в трудную минуту, это уже вторые родители. Уважение кума к куме – это уже святое, дружба должна быть между кумом и кумой.

Пока крестят, мы уже стол накрываем, а бабушка кашу в чугуне готовит. “Бабина каша”. Выбирается та бабка, которая покупала первая ребёнка. Купала в травах (череде, чистотеле), настаивала их заранее после родов. Бабка – это любой человек, женщина, девушка, любая на кресьтинах будет бабкой. Первый чугунок с кашей может выкупить любой с гостей, они специально ходят для веселья, а деньги, которые собранные, только младенцу. Первый горшок бился об угол стола, продавался каждый кусочек. Уже настоящий горшок – с настоящей кашей. Каша варилась рисовая, перловая, с рисом, с изюмом. Горшки украшали платками. Каша была сладкая. Выкупить должен только кум. Потому что передаётся от бабки к куму, в семье отец – голова, а при крестинах – кум, как отец младенца, а кума – уже как мать. Сейчас вместо каши можно положить много конфет, что-нибудь сладкое. И это всё раздаётся гостям.

Пели песни застольные, но не только застольные, кто что знал. Наряжались в национальные костюмы, сами шили, ткали, вышивали наряд, белорусские костюмы.

В процессе крестин садили бабку, если зимой, то в сани, если летом – коляска, тачка. Садили на вывернутый кожух, натуральная

овчина. К богатству, говорили. Бабку кто-то из гостей везёт в магазин, был раньше только один магазин. Уже люди стоят, ждут возле магазина. Бабка должна купить выпивки и закуски, угостить всех, кто присутствовал: и продавцов, и людей. Люди уже бегут как на свадьбу, крестины – это святое, они знали, в какой хате, когда и что. Ну, дальше возвращались, гуляние продолжалось. О ребёнке говорили.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Котавай Наталлі Аляксандраўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Рыбак Т.***

Яшчэ задоўга да родаў цяжарная жанчына павінна была шмат чаго асцерагацца ў жыцці. У вёсцы Палессе цяжарным давалі парады. Не рабі ў святы, а то дзіця народзіш калекам. Як пойдзеш паласкаць на рэчку бялізну, не круці яе ў вадзе, а то будзе непаўнацэнны або пупавіна закруціцца. Не хапайся на пажары за твар рукамі, а то ў малога будзе радзімае пятно.

Раней раджалі нават у полі (пойдзе жанчына жыта жаць, а назад нясе ў фартушку дзіця). Каб засцерагчы парадзіху ад чужых вачэй, вялі раджаць на печ або ў баню, або завешвалі вугал у хаце (сем'і былі вялікія), стараліся, каб менш людзей ведала аб родах. Роды прымала бабка-павітуха, абразала пуп. Каго па вёсцы бралі ў бабкі, было вельмі пачэсна. Таму людзі гаварылі: "У бабкі бяруць – аўтарытэтная". Дзіця ўкутывалі ў палатно, стараліся не паказваць нікому, акрамя сваіх, бераглі ад сурокаў. А калі паўрочылася, маці павінна была падолам сподняй сарочкі тры разы правесці па дзіцяці ад галавы да ног і сказаць: "Прачыстая маці цябе нарадзіла, прачыстая маці цябе адхадзіла". Калі дзіця пражыло тры дні, яго хросныя бацькі неслі ў храм пад малітву імя накладваць. Хлопчыка насілі ў алтар, дзевачку – не. Імя навароджанаму даваў бацюшка па святцах. Часта здаралася так, што ў сям'і былі дзеці з аднолькавымі імёнамі.

У першыя дні пасля народзін былі адведкі: бабка-павітуха прыходзіла абавязкова тры разы (тры дні запар), несла з сабой падарункі. Раней была вялікая беднасць, неслі кусок самаробнага палатна або навогул рукаў ад сарочкі на пялёнкі малому, варылі кісель або кампот з сухафруктаў, неслі сушаныя грушы, яблыкі, неслі, калі было, сала і яйкі, каб падтрымаць здароўе маці, пазней нізку баранак або печыва. Таксама з падарункамі прыходзілі радня і суседзі. Гаспадары

ладзілі стол для гасцей, гучалі добрыя пажаданні для маці і дзіця. Людзі верылі, што чалавек нараджаецца і яму даецца лёс, доля. Глядзелі, у які дзень нарадзілася дзіця, у якую пару сутак, на якім месяцы (поўня, маладзік, або сходок). Калі на Раство, Пасху, Благавешчанне, то добра, а калі ў пост і месяц на сходку, то дрэнна. Таксама лічылася, калі нарадзіўся ў пятніцу, то нешчаслівы будзе. Песня ў в. Палессе пяецца:

*А нашто ж ты мяне, мамачка,*
*Ой, у пятніцу радзіла?*
*Усім долечку давала,*
*А мне долі не дала.*

Калі цяжарная жанчына нешта прасіла (пазычыць ці нешта даць), ёй ніколі ні ў чым не адказвалі.

Перад хрэсьбінамі маладыя бацькі выбіраюць кумоў. Калі ідуць іх зваць, нясуць хлеб і соль, зайшоўшы ў хату, кладуць на стол са словамі: “Хлеб-соль вашы, а кума або кум нашы”.

Раніцой кумы ідуць або едуць з дзіцём у царкву, каб пахрысціць яго. Гасцей завуць к абеду. Калі запрашаюць за сталы, то куму, кума і бабу садзяць за першы стол на куце. Баба абавязкова варыць салодкую кашу з прасяных круп у гаршку.

Цікава ў нас падносяць кашу. Заўсёды сярод гасцей знаходзяцца вясёлыя, знаходлівыя людзі, якія пераапранаюцца ва ўсё смешнае, зношанае і з жартамі ў вязёнках нясуць бабіну кашу. Пры гэтым яны кажуць: “Гарачая, рукі папалілі!” і закрываюць ручніком. Са стала, які на куце, усё прыбіраюць, каб ён быў чысты і пусты, сюды і ставяць кашу. Калі адкрываюць ручнік, адтуль, як шалёны, вылятае кот, а баба кажа, што гэта не яе каша. Праз некаторы час ізноў прыносяць кашу, але на гэты раз у чугунку певень, баба таргуецца, што каша не яе. І толькі на трэці раз прыносяць бабіну кашу. Баба ставіць яе на стол, наверх кладзе падарунак або грошы і кажа: “Мая каша з канапелькамі, а вы, госцейкі, з капейкамі”.

Потым пачынаюць “класці на кашу”. Кум абавязаны выкупіць кашу так, каб за ім было апошняе слова. Для гэтага ён разменьвае грошы на мелкія. Кожны з гасцей кладзе падарунак са словамі “мая каша”, а кум за кожным павінен выкупіць яе, калі гасцей шмат, куму даводзіцца нялёгка. Калі ўсе госці падаравалі гаспадарам, кум яшчэ кладзе грошы і кажа: “Мая каша!” Госці крычаць: “Кумава каша!” І дазваляюць біць.

Кум з сілай разбівае гаршок з кашай аб стол. Усе прысутныя стараюцца ўхваціць бабінай кашы, так як у вёсцы кажуць, калі яе з'ясі, зубы балець не будуць. Хватаюць таксама і чарапкі з гаршка, прыносяць дамоў і кідаюць у пуню свінням, каб вяліся.

Гаспадары адорваюць бабу і кумоў падарункамі, якія госці пытаюцца ўкрасці, каб з жартамі даставіць іх дадому, каб выкупілі падарункі гарэлкай і закускай. Асабліва цікава, як вязуць бабу дадому, хто на павозцы або санях без каня, хто на тачцы, цягнуць яе самі госці, усе запрошаныя з гармонікам, песнямі, скокамі ідуць па вёсцы следам. Пасля вяртаюцца да гаспадароў, дзе гуляюць да позняй ночы.

Калі нараджалася дзіця, яго бацькі выбіралі яму хросных бацькоў сярод блізкіх і знаёмых. Калі нараджалася дзевачка, то за хросную маці нельга было браць дзяўчыну, якая яшчэ ні разу не хрысціла дзіця.

У дзень хрэсьбін збіраліся госці. Хрысціць дзіця везлі ў царкву, пасля абеда.

Бацькі бралі хлеб, заварочвалі яго ў ручнік, давалі яго кумаўю. Першай хлеб неслі дзяўчыне, якую выбіралі ў хросную, а потым хлопцу. Калі яны былі згодныя, то забіралі хлеб сабе. Не аддавалі назад. Кума, перад тым як везці дзіця ў царкву, адзявала яго ў адзенне, якое прынесла з сабою.

У царкву ехалі без бацькоў. Калі была дзяўчынка, то ў царкве на руках яе дзяржала хросная маці, хлопчыка – хросны бацька.

***Запісана у г. Гомель***
***ад Маславай Кацярыны Архіпаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Селівестранка Аленай.***

Бяруць крайчык хлеба і ідуць да кумы (кума), кажуць: “Наце вам хлеб-соль, а мне дайце куму (кума)”. Бяруць дзіця і нясуць хрысціць. Прыносяць з хроста, і хросная аддае дзіця маці і кажа: “Ваша дзіця нарадзёнае, а маё хрышчонае”. Цалуюцца, за стол содзюцца, выпіваюць.

Бяруць бабушку. Нясуць хлеб-соль і кажуць: “Наце вам хлеб-соль, а мне дайце бабу”. Баба вара кашу (пшоннаю) у гаршку, наверх кладзе канфеты, таргуюцца за кашу. Усе кладуць грошы, кум паследні даўжон выкупіць. Бярэць і разбівае гаршок. Маладым усім чарапкі на галаву кладуць, штоб дзеці былі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Глазянковай Надзеі Іванаўны, 1923 г.н.***

После цэрквы, як ужо там пакрэсцілі, ішлі на бабіну кашу. Калі кашу ўкрадалі, то баба шукала і выкуплівала яе. Госці перадзяваліся ў цыган і клалі ў мех замест кашы што-небудзь: то петуха паложаць, то трапкі нейкія. Паўдуруюць так бабу. А баба кажа: “Не, эта не мая каша!” Тады кум пачынае выкупаць кашу. Ложыць грошы і ўсі падаркі. Таргуюцца, хто больш дасць – баба ці кум. Кум усё-такі пакупае кашу. Разбівае гаршок, і людзі бяруць і ядуць кашу. Інагда кашу канфетамі ўкрашаюць.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Юрчанка Святланы Іванаўны, 1968 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Данілаўка*
*Краснагорскага р-на Бранскай вобл., РФ),*
*студэнткай Маргуновай М.*

Каб абараніць парадзіху і навароджанага: “Урок-урочышча, ідзі на папялішча. Аб каго плоха стала, штоб на ім цела трашчала. Соль яму ў вочы, цыпунь на язык. Первым разам, Гасподнім часам Госпаду Богу памалюсь, Мацеры Прачыстай пакланюсь. Святая Маць Прачыстая, стань на помашч і ад уроку, і ад нагавору. Гавару, выгаварываю, урокі паганага вока, паганага языка, жаночага полу ці мужчынскага полу і таго выгаварываю, хто мамку сасаў, і таго, хто дзіця наражаў. З жыл, з касцей і полукасцей, і не сам сабой, а сілай Господняй. Дай, Божа, час добры”.

Пасля родаў дзіцёнка купала баба, выбраная, толька не ўдава і не разводная. Грэлі ваду, кідалі ў ваду любістак, які астаўлялі з Тройцы, штоб малога ўсе любілі. Кідалі яшчо манеты медныя і штось баба прыгаварывала. Кагда ехалі ў цэркаў, абязацельна выбіралі хросную і хроснава, штоб ані атвечалі за малога на небесах, да і пры нясчасцях. Пад цэркаўю нельзя браць случайную жэншчыну. После хрышчэння прывазілі дамой дзіцёнка. І ўсе прыглашоныя дарылі падаркі парадзіхе і навароджанаму. Бабе і хросным купляла падаркі парадзіха. Гатовілі стол з ядой. Кашу варыла баба. Баба вынасіла кашу, штоб её падзяліць. Абязацельна каша гарачая і ў чугунку далжна быць. Заплаціць за кашу должэн хросны, даць сама большай грошы. Чугунок разбівалі, і кажды, хто клаў грошы, забіраў абломак чугунка,

а самы бальшы – хросны. Кашу аддавалі курам, што добра неслісь. Кагда на дзіцёнка глядзелі, штоб не сурочыць, плявалі з левага пляча: “Цьфу, цьфу на цябе”.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Даніленка Ніны Пятроўны, 1959 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Церахоўка Добрушскага р-на),*
*студэнткай Бацюк Ж.*

Угашчала людзей баба. Варылі кашу. Садзілі бабу на санкі (і летам) і каталі. А ана дзержала кашу, каб не ўкралі. Как кумаўя пабегаюць за санкамі, бралі падстаўную кашу, каб ані яе выкупалі. Яны не згаджаліся. Тады баба вытасківала: “Во (імя навароджанага) каша!” На кашу лажылі дзеньгі (хто большэ). Насіў яе крэсны бацька (ложыць большэ ўсіх грошэй). Патом разбіваў кашу. Усе яе бралі, елі, неслі дзецям па кавалку (за здароўе дзіця).

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Тупіцкай Галіны Мікалаеўны, 1938 г.н.,*
*студэнткамі Тупіцкай А., Кузьмянковай А.*

Када-то ражалі з бабкамі. Бабка была лучшэ акушэркі. А калі ўжо родзя, купалі маленькага ў вадзе ў купеле. Бабка потым ішла дадому, варыла ўзвар і прыносіла парадзіхе. А потым родзічы, знакомыя, суседзі прыходзілі на радзіны, прыносілі падарункі маленькаму, жадалі шчасця, здароўя і іншага.

Крысцілі дзяцей вельмі маленькімі (тыдні 2-4). Тая баба, што прынімала роды, варыла кашу. Калі выкуплялі кашу, баба казала: “Мая каша з канапелькамі, а вы, людзі, падходзьце з рублямі-капейкамі”. Каму біць кашу, баба таргавала і гаварыла: “Хто пакладзе болей – таго каша”. Але кум усё забівае, каб разбіць кашу яму. Кум разбіваў кашу аб стол. Кашу разбівалі, чарапкі клалі на галаву мужчынак, каб у іх радзілася дзіцё.

У бабы кралі кашу. Спачатку, калі баба выкупляла кашу, у чугун клалі бульбу, ката, петуха і г.д., а потым толькі прыносілі сапраўдную кашу. Той, хто ўкрадзе кашу, вешаў яе на вілы ці чапялу. Потым

бабу садзілі на санкі, у начоўкі, на лісты жалеза, на тачку, вязлі яе дадому, яна павінна была іх угасціць. Маглі вазіць куму ці кума. У кумы таксама маглі ўкрасці падаркі, каб яна дала выкуп.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Баранавай Зінаіды Фёдараўны, 1932 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Акшынка Веткаўскага р-на),***
***студэнткай Баранавай М.***

Обычно на роженицу и ребёнка одевали рубашку наизнанку или на внутреннюю сторону рубашки прикалывали булавку: так защищали от злых духов.

На хрэсьбины звали кумов. Присутствовала бабка-повитуха. Бабка готовила кашу пшённую или рисовую с молоком, много яиц, сахара и масла. Крёстные дарили подарки крестнику, а мать ребёнка дарила подарки кумовьям. Потом садились за стол. Крёстный должен был выкупить кашу, а если он не мог выкупить, то бабка-повитуха разбивала горшок и делили кашу, а если мог выкупить – выкупал и сам делил, за это он получал подарок.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Юрасік Валянціны Савельеўны, 1946 г.н.***
***(перасяленка з в. Рудня-Каменева Лоеўскага р-на),***
***студэнткай Юрасік Т.***

Для таго, штоб дзеткі былі здаровымі, іх стараліся перахрысціць праз нядзелю ілі дзве нядзелі пасля раждзенія.

На хрэсьбіны прыязджалі да хаты, кум з кумой забіралі младзенца і ехалі ў цэркву ўтраіх (кум, кума і малое). Прыехаўшы ў цэркву, аб’явілі бацюшку, што прыехалі перахрысціць младзенца. Бацюшка паставіў кума і куму радам у цэркві. Кума разаслала палаценца на рукі куму і дала яму младзенца. Бацюшка пачытаў над малым малітву, узяў яго з рук кума і акунуў у святую вадзічку тры разы. Куме і куму даў пацалаваць крэст. Бацюшка аддаў младзенца куме, яна завярнула яго ў палаценца. Кум аддаў бацюшку грошы за крэст младзенца. Селі ў вазок і паехалі дадому.

Прыехаўшы, увайшлі ў хату. Кум узяў младзенца на рукі і на дзвярах паздравіў: “Паздраўляю з (імя)”, тры разы.

Аддалі малога маці. Самі селі за стол са всемі гасцямі. Пілі за ўсіх: за малога, за папку, за маці. Пасля ўгашчэння баба заварачывала ў палаценца гаршчочак з кашай і ставіла на стол, і начыналі гуляць у кашу.

Сперва была бабіна каша: баба клала ў кашу грошы, патом грошы клаў кум. Кум гаварыў: “Мая каша”, а ўсе госці тожэ клалі грошы ў кашу і гаварылі: “Мая каша”. Кум крычаў: “Мая!” Клаў зноў грошы. Яму ў атвет зноў крычалі да тых пор, пакуль кум з бабай не паложаць усе грошы, што хацелі. Кум браў гаршчочак і разбіваў яго аб стол. Кашу рэзалі па кусочках і раздавалі ўсім гасцям. Куму, куме і бабе маці давала падаркі: або рубашку, або кофтачку. Патом пелі песні, танцавалі да тых пор, пакуль хто хацеў, а патом разыходзіліся па дамах.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Грышчанковай Домны Мітрафанаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Ткачовай Т. (2003 г.).***

Як ходзіш у палажэнні, то нельзя было хапацца за ліцо рукамі. Трэба было насіць фартух, штоб не быў дзіцёнак урочаны (не баяўся ўроку). Кум разбіваў гаршчок кашы, а чарапкі бралі, грызлі зубамі, каб зубы не балелі, свінням у сарай кідалі, штоб свінні вяліся. І калі не было дзяцей доўга, то бярэш кусочак і кладзеш на макушку і прыгаворвалі. Кусочак кашы ў платочак клалі і неслі дамой дзецям, штоб здаровыя былі. Еслі хлопец з дзеўкай хрэсцяць, то ім нельзя жаніцца.

***Запісана ў в. Брылёва Гомельскага р-на***
***ад Гарбузавай Марыі Яўсееўны, 1929 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на),***
***студэнткай Кашлаковай А. (2001 г.).***

Бярэменнай жэншчыне нельзя было хапацца за ліцо рукамі, калі бачыш пажар.

Трэба было насіць фартук, штоб не быў дзіцёнак урочаны (не баяўся ўроку).

Нельзя было красці, штоб дзеці не былі злодзеямі.

На хрэсьбінны стол варылі “бабіну кашу”. Варылі яе з проса, самі таўклі. Варылі ў двух гаршках: адну варыла тая, хто ражала, а другую – баба-павітуха.

У кумы бралі знакомых, родственнікаў. Еслі хлопец з дзеўкай хрэсцяць, то ім нельзя жаніцца.

Кум разбіваў гаршчок кашы: браў адзін аб адзін і разбіваў. Тады тую кашу на стол людзям. А чарапкі бралі і грызлі зубамі, каб зубы не балелі, свінням кідалі, штоб свінні вяліся. І калі не было доўга дзяцей, бярэш кусочак і кладзеш мужыку на макушку, прыгаворвалі. Кусочак кашы ў платочку няслі дамой дзецям, штоб здаровыя былі.

На кашу клалі падаркі: грошы, мацерыю і другое.

***Запісана ў в. Брылёва Гомельскага р-на***
***ад Гарбузавай Марыі Яўсееўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на),***
***студэнткай Кашлаковай А.***

Раней жанчына ражала рабёнка дома. Да яе ва ўрэмя родаў прыводзілі жанчыну прэклоннага возраста, бабку. Яна адразала пупавіну рабёнка і перавязвала льном.

Да дня хрэсьбін бабушка гатовілася. Яна варыла кашу ў гліняным гаршке з пшана і прынасіла яе да ражэніцы. Госці любымі срадствамі ўхітраліся ўкрасці кашу. Бабка выкупае кашу, і нясе яе на стол, і гаворыць: “Мая каша з канапелькамі, а вы, госцікі, з капейкамі”. Кум (хросны ацец) бярэ кашу і разбівае яе аб стол. Паложаныя падаркі на кашу аддаюць ражэніцэ, пасля чаго ідзе гулянне.

***Запісана ў п. Высокі Гомельскага р-на***
***ад Калюзы Соф’і Цімафееўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Бунько Н., Якіменка С.(1994 г.).***

Еслі хлопчык, то кум бярэ на рукі, еслі дзевачка, то кума.

Забралі і паехалі хрысціць. Вжэ назад, як перехрысцілі, то кума дзержа.

Выкуплівалі кашу і кум біў. А эці чэрапкі хранілі кум і кума, пакуль жылі хрэснікі.

***Запісана ў в. Даўгалессе Гомельскага р-на***
***ад Рыпінскай Таццяны Яўфімаўны,***
***студэнткамі Мендзелевай Т., Ачарэт А. (2006 г.).***

Катора родзіць, а чоловек её кіне, яна ў маткі гуляе хрэсьбіны. І тогды вжэ співають:

*Ой, добрая да годзіночка да ностала,*
*Што Манечка по свою мамку коні послала.*
*Ой, послала чэцьверо коней,*
*П'яты воз, а шостого ізвозчыка,*
*Штоб мамку прывёз.*
*Даш ему ползолотого на піво,*
*Штоб ён прывёз мою мамочку на дзіво.*

А кашу варыць обязацельно баба. Катору бярэш за бабу. От намечаеш кого і говорыш: "Пашлі покупаем моё дзіця". Першы раз купае ета баба. Яна берэ пялёнкі, своё што ў яе е. У воду кладуць кніжку под голову і копейкі кідаюць, штоб дзіця було багатае і ўмное.

От ужо будуць хрысціць, і баба доўжна варыць кашу, обычна з пшана. Туды вжо кладуць, не шкадуючы, масло, яечкі і сахар. Як зварацъ, конфеты ўтыкаюць і каліною краснай обкідаюць горшчочка. Ета так украшаюць. А тогды вжэ кашу ставяць на стол і выкуплюють. Крычаць тры раза: "Кумава каша!" І ён б'е аб стол. Етыя чарапкі паадставалі, а іх бяруць і, у кого дзяцей мала, на галаву кладуць.

***Запісана ў в. Даўгалессе Гомельскага р-на***
***ад Антоненка Вольгі Мінічны, 1927 г.н.***
***(пераехала з в. Дзёрнавічы Нараўлянскага р-на),***
***студэнткамі Мендзелевай Т., Ачарэт А. (2006 г.).***

Предпочтение отдавалось рождению сыновей. Сын был наследником в доме, женившись, приводил в дом ещё работницу. Девочка считалась "отрезанным ломтем" и источником лишних расходов и забот.

Роды принимали сельские повитухи, которые выполняли различные магические действия, облегчающие роды: растирали роженице живот, заставляли её ходить, развязывали все узлы на её одежде, расстёгивали пуговицы, открывали в доме все замки и двери. Родившегося мальчика бабушка обычно заворачивала в женскую сорочку, а девочку – в мужскую. Считалось, что впоследствии выросшего ребёнка будут любить представители противоположного пола. При рождении девочки пуповину перерезали на книге, ножницах, различных орудиях ткачества, а когда рождался мальчик – на книге, топоре, ноже. Новорождённого сразу купали в лекарственных травах, а чтобы он был богатым и счастливым, в воду опускали несколько серебряных монет и хлебных зёрен.

Большое значение придавалось выбору кумовьёв (крёстных) для ребенка. На кристины по приглашению хозяев приходили только женатые мужчины и замужние женщины. Большое значение имел обмен подарками. Дарили ткань, хлеб, разные продукты. Исполнялись родинные песни, которые посвящались роженице, её мужу, повитухе и кумовьям.

Через год совершался обряд пострижения ребенка, завершавший принятие новорожденного в семью.

*Запісана ў в. Зябраўка Гомельскага р-на*
*ад Краўчанка Кацярыны Еўдакімаўны, 1938 г.н.*

Кумоў жа бралі. Вазілі крэсціцца, а патом прыязджалі, тожэ ўжэ ўгашчалі. Угашчэнне было. Нада было, канешне, хрысціць, у старое врэмя, к сарака дням. Ну, а цяпер ужэ крэсцяць калі хто: і ў тры гады, і ў дзецясь гадоў. Баба харошае купляла там што-небудзь: адзёжкі, гасцінцы. Ну і кумаўя і родственнікі тожа куплялі. Хто што мог. Хто касцюмчык, дзевачке – плаціца, шапачку, мальчыку – касцюмчык. Каша была. Я не знаю, какая ўжэ каша. Ад бабы каша абязацельна трэбавалась. І баба варыла кашы гаршок. Прыносіла той гаршок. Ну і дзеньгі ўжэ, канешна, баба лажыла. І радзіцелі навароджанага падарак бабе давалі. У такое врэмя тарты не пяклі. Каша тады і канфеты. Баба забоцілася: кашу і канфеты.

*Запісана ў п. Калініна Гомельскага р-на*
*ад Філонавай Ганны Фёдараўны, 1928 г.н.,*
*студэнткай Калеснік Ю.*

Вязлі дзяцёнка ў царкву кум і кума. Крысціў яго поп, чытаў малітвы. Выстрыгаў на галаве малога крэст і акунаў у купель. Прывозілі дадому і гулялі хрэсьбіны. Баба варыла кашу, госці кідалі грошы, хто колькі мог, ці хто болей кінуў, той і біў кашу. Бацькі давалі падарункі бабе, куму і куме. Яшчэ быў у нас такі абрад. Садзілі кума і куму на санкі, каляску і каталі іх па дзярэўні, за тое, што іх каталі, госці бралі з іх гасцінцы.

*Запісана ў п. Калініна Гомельскага р-на*
*ад Стасенка Ганны Рыгораўны, 1928 г.н.,*
*Ісачэнка Любові Аляксееўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Каржовай Н.*

Когда рождался ребёнок, его купали на девятый день после рождения в деревянном корыте. Сначала наливали немного обычной колодезной воды, добавляли кружку воды, взятой в храме на Крещение. Потом доливали горячую воду, доводя до нужной температуры.

Нельзя купать ребёнка до года после захода солнца. Если ж пришлось покупать, воду выливали только на утро, в сторону солнца. В воде, где мыли маленького, нельзя стирать (маленький будет болеть). Купали только родные, чужим нельзя было быть при купании (могли сглазить малыша).

***Запісана ў в. Каранёўка Гомельскага р-на***
***ад Раманавай Ганны Пятроўны, 1934 г.н.***
***(раней пражывала ў Бранскай вобл.),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І.***

Родзіцца дзіця. Яму адрэжуць пуп. І ўжо тую бабу, яна як пупавая баба, на хрысціны звалі. Яе садзілі на кут. Эта пачотнае места. Садзіцца баба, хрэсны, хрэсная, а тады вжэ ўсе госці. Этая ж баба і купала. Налівалі трохі свечанай вады, любісцік у ваду клалі.

Вот ужо радзілася эта дзіця, баба прыходзіць назаўтра. Вот ужо згатуе там, то і прыходзіць на радзіны, прыносіць пялёнкі, но тады пялёнак не было. Тады ў нас палатняныя рубашкі былі, штаны. Вот яно, як вымыецца, дак ужэ мякенькае.

На крысціны звалі ўсіх, каго хочаш, родзічаў. Сабіраюць куму і кума. Дзіцёнка ўвертуюць і атпраўляюць іх к бацюшку. Эта калі пакрысцілі дзіцёнка, з купелі вынулі, і кума расцілае свое, і яна ложыць у етую, і ўварачывае. Прыносяць і кажуць бацькам: “Паздраўляем вас з Іванам, Марыяй” і г.д.

Сабіраюцца госці. Усе садзяцца. Баба гатовіць кашу, абычна пшонную. Біў гаршчок той, хто болей грошай дасць. Но абычна кум выкупаў. Баба засцілае на кашу хустачку, і кум на хрэст перахрэшчуе і тады б’е кашу. Бяруць кашу і даюць матцы, парадзіхі, а потым дзеляць. Чарапочкі чаго-та шыбалі, у каго пападзе. А чаго – я ўжэ не скажу. А так іх выкідалі туда, дзе ніхто не ходзіць.

Пупок перавязуюць, патом ён адпадае, яго забіраюць і даюць, калі дзіцёнак падрасце, штоб ён яго развязаў. Эта штоб вумны быў.

***Запісана ў в. Краўцоўка Гомельскага р-на***
***ад Аленчык Антаніны Ігнацьеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткамі Мендзелевай Т., Ачарэт А. (2006 г.).***

Хрэсьбіны святкавалі вельмі добра. Пахрысцяць дзіця ў цэркві і гуляюць хрэсьбіны, як свадзьбу.

Прыходзяць у атведкі, нясуць падаркі. Падаркі любыя (хусткі, навалачкі, простыні, пялёнкі, пасуду). Таксама дарылі падаркі бабе, якая бабіла дзіця, куму, куме.

На стале абавязкова была бабіна каша, якую дзелала баба ў гліняным гаршке. Каша варылася з проса. Проса таўклі, патом туды дабаўлялі яйца, масла, сахар, соль і ставілі ў печ. Потым гэтую кашу кум выкупляе за грошы і разбівае гаршок. Гліняныя чарапкі кладуць незамужнім на галаву, каб нарадзілі дзіця. Гліняныя чарапкі бралі дамой і клалі на акно. Верылі, што гэта засцярога ад грома.

Бабу вязуць дамой на баране або на санках. І баба ўжо ўгашчае тых, хто яе прывёз, у сваёй хаце.

*Запісана ў в. Макаўе Гомельскага р-на*
*ад Маісеенка Праскоўі Рыгораўны, 1920 г.н.*
*(перасяленка з в. Глухавічы Брагінскага р-на),*
*студэнткай Бажковай С.(2006 г.).*

Саўсім нядаўна ў нас былі крэсціны. Крэсцілі маю плямянніцу. Сабралася многа гасцей. Страў на стале было нагатавана шмат. Пелі песні. У мяне вельмі добра спяваюць маці, цётка, бабуля.

*Запісана ў в. Макаўе Гомельскага р-на*
*ад Кісловай Антаніны Васільеўны, 1925 г.н.,*
*студэнткай Бажковай С.(2006 г.).*

Ішлі ў цэркву, неслі дзіця. Там поп яго хрысціў вадой. Ён браў дзіця, макаў яго ў ваду. Варылі бабіну кашу. Каша варылася з пшэна, грэчкі. Пакупалі кашу. Хто дасць болей грошай, той і разбівае кашу.

*Запісана ў в. Маркавічы Гомельскага р-на*
*ад Мельнікава Івана Пятровіча, 1912 г.н.*

Прыходзіць цётка, хрэсціць, кашу пякуць. Потым кум разбівае кашу і выкупаюць чаркі. Грошы кідаюць радзільніцы.

*Запісана ў в. Маркавічы Гомельскага р-на*
*ад Юравай Анастасіі Яфімаўны, 1922 г.н.,*
*студэнткамі Яськовай Т., Парашчанка С.(2006 г.).*

Прыходзім, гуляем, дзіцёначка кумаўё ложа пад печ, каб быў такі крэпкі, як печ.

Песні ўсякія пелі. А потым гаршок уносяць з кашай, а каша толькі пшонная даўжна быць. І вось кашу выкупваем. Хто сколькі паложа, тая і каша, а кум, бедны, кладзе, каб болей. Ну, колькі там абойдам і крычым: “Кумава каша”. А там: “Твая каша”. Доўга-доўга крычым. Тады кум – трэсь гаршчок, а ў каго дзяцей няма, – трэсь аб галаву чарапок, каб былі. А яшчэ, калі не было доўга дзяцей, гэтыя чарапкі бралі з сабой, а хто первы раз гуляе, тыя бралі і грызлі чарапок зубамі, каб зубы крэпкія былі. Тады кум з кумою на санях па дзярэўні, а каго сустрэў – гарэлкі. Ой, інцярэсна гулялі.

***Запісана ў п. Мірны Гомельскага р-на***
***ад Абрамцавай Лідзіі Уладзіміраўны, 1927 г.н.,***
***студэнткамі Яськовай Т., Парашчанка С.(2006 г.).***

Хрэсцят дзіцёначка ў царкве, прыязжаюць дамоў і ў той дзень сабіраюць стол. Прыходзяць родныя, кум з кумой. Калі ўжэ пагуляюць, тады напаследак баба выносіла кашу і ставіла на стол.

Кашу варыла баба рысавую ці пшонную на малаке з кумавай крупы, каб дзіцёначак багаты быў і шчаслівы. Тады ўжо пачынаюцца таргі, хто большэ дасць за кашу. Большэ должэн быў дасць кум, і ўжо ён разбіваў гаршчок. Усе госці бралі па куску кашы і далжны былі з’есць. Кусок гаршка адзявалі на галаву тым, у каго няма дзяцей, тады лічылася, што ў іх скора будзе.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на***
***ад Чыжовай Соф’і Іванаўны, 1941 г.н.***
***(прыехала з в. Новая Гута Гомельскага р-на),***
***студэнткай Аніпавай Ю. (2004 г.).***

Хрэсьбіны гулялі, кашу варылі. Збіраюцца ўсе ўжэ ды варуць кашу ў гаршчок. Гуляюць, а тады ўжэ кашу б’юць. Сначала возьмуць у гаршчок (гаршчок плахі які) пасадзюць кошку туды. Кум стане біць, а там – кошка. Яны ўжэ смяюцца. Тады ўжэ апяць нясуць гаршчок з кашай. Тады выкупляюць ужэ кашу. Плацяць сколькі грошай, таргуюцца. “Мая каша”, – баба гавора. А кум гавора: “Мая каша”. Хто

болей паложа, таго й каша, той і б'ець. У асноўным то куму нада. Кум разбівае. Тады чарапочкі адзяюць на голаву. Кум кожнаму носе і на голавы раскладае.

*Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на ад Скачковай Зінаіды Фёдараўны, 1939 г.н., студэнткамі Бакланавай А., Балакішыевай Ю.*

Бацькі дзіцяці яшчэ да хрэсьбін дамаўляюцца, хто ж у іхняга дзіцяці будзе нарачоным бацькам ці маці. У васкрасенне раніцай яны збіраюцца, каб ісці ў царкву. Баба дзіцяці ў гэты час вара кашу і гатуе бліны для ўнука. Маці і бацька застаюцца дома, а нарачоныя маці і бацька нясуць дзіця ў царкву да папа. Поп павінен адчытаць малітву, наракае нарачоных бацькоў кумам і кумой. Калі гэта дзяўчынка, то ўсю службу яе на руках дзержыць кум, а несці к купелі павінна кума. Калі поп пачаў адпяваць імёны дзіцяці, адзін з кумоў, у каго няма на руках дзіця, запальвае свечку, загорнутую ў платок або ў палаценец. Пасля малое дзіця купаюць у купелі або ў чану. Пасля службы кум з кумою нясуць хрэсніка дадому. Перад парогам баба сустракае хрэсніка блінамі, каб дзіця расло круглым і румяным, як на дражжах. Садзяцца за стол, бабы пачынаюць спяваць. Славяць бацькоў, кума з кумой, пасаджонаю бабу. Жадаюць хрэсніку здароўя, добрай долі ў жыцці.

За трэцім сталом кум дзеліць кашу. Кум нясе вялікую талерку, пакрывае ручніком і ставя на стол. Побач баба ставіць бліны і пірог. Кум пачынае дзяліць кашу, кожны, хто ложыць падарунак дзіцяці, жадае яму шчасця, долі, здароўя. А кум дае кавалак пірага, блін і кашу. Даходзіць чарга і да кума. Ён павінен закончыць дзяленне кашы сваім падарункам, але ён павінен быць лепшым за астатнія, каб разбіць кашу. Калі ўсе згаджаюцца з падарункам кума, кум б'е кашу. Каб захаваць пажаданні дзіцяці, маці хавае кавалак разбітай кашы, калі ў хаце ёсць большыя дзеці, кавалачкі разбітай кашы даюць ім.

*Запісана ў в. Плёсы Гомельскага р-на ад Лупекінай Арыны Яўціхіеўны, 1923 г.н. (перасяленка з в. Барталамееўка Веткаўскага р-на), студэнткай Невядомскай М.*

Гуляюць тры дні. Бяруць бабу. Яна купае дзіцёнка. Бабе даюць падарак, а тады варут кашу ў гаршку. Усе прыходзяць на радзіны. Тады б'юць кашу, даюць грошы. Кашу б'е баба, якая купала, але еслі хто болей даў грошай, то каша яго, і ён б'е яе.

*Запісана ў в. Ракопаўка Гомельскага р-на*
*ад Сабурцовай Марыі Міхайлаўны, 1931 г.н.,*
*студэнткамі Усольцавай А., Каморынай С.(2006 г.).*

Баба варыла кашу. Прыбірала красіва гаршчочак канфетамі, пячэннем, цвяточкамі. Бабіну кашу купляліі.

На хрысціны шуцілі. Бывае, гулякі такіе ёсць, засунуць у чыгун ката, а тады гавораць: "Во бабіна каша. Купляйце". Купяць, развяжуць, а там кот выпрыгне: "Ой, баба якую кашу зварыла". А баба гавора: "Жывая каша. Лавайце". І лаваюць.

*Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на*
*ад Майоравай Ефрасінні Іванаўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Усольцавай А. (2006 г.).*

На радзіны завуць бабку-павітуху. Сколькі ў сям'е дзяцей – бабка павінна быць адна. Яна шыла шапачкі мальчыку. На дзевачку шыла плаціца. Баба варыць кампот, прынясе маладой маці, каб ёй было чым карміць дзіця.

На хрышчэнне баба варыць кашу. Яна садзіцца на кут з кумаўём на кажух. Баба беражэ кашу, каб ніхто не ўкраў. А калі ўкрадуць, то той, хто ўкраў, уносіць петуха. Баба выкуплівае кашу. Кум павінен выкупіць у бабы настаяшчую кашу і разбіць чыгунок, а чарапок ложаць младзенцу на галаву. Песні пелі і маці, і дзіцяці, і кумаўю.

*Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на*
*ад Марымонавай Таісіі Дзямідаўны, 1941 г.н.,*
*студэнткай Галка Н.*

Калі нараджаўся малы, мы ўжо бралі ў радзільны дом тарэлку адну-другую ежы. Бутылку не бралі, бо нельзя було. Забралі так, значыць. А калі хрэсцілі дзіця, маці яго, куму і куме ды бабке давалі падаркі. Спявалі песні, у асноўным простыя застольныя:

*На каліне чорны воран крача,*
*На чужбіне сіраціна плача.*
*Яна плача, слёзы праліваe,*
*Горку долю сваю праклінае.*
*Гаварылі праўражыя людзі:*
*– Замуж пойдзеш, добра табе будзе.*
*– Я людскую волю ўчыніла,*
*Пайшла замуж і галоўку ўтапіла.*
*Утапіла галоўку ў глыбокай крыніцы,*
*Пайшла замуж за горку п'яніцу.*

Кашу ў нас не кралі. Яе заўсёды разбіваў кум. Усе давалі грошы, падарункі для малога. А бабка, што прынесла кашу, была дарагім госцем. Калі кашу б'юць, кум дзеліць яе. Верх аддаюць маці, яна нясе яго ў калыску, да дзіцяці. Кумаўям, бабе дарылі падарункі, а мы етыя падаркі стараемся ўкрасць, тады шукаем іх і паём песні. Потым хадзілі к куму, там гулялі. А ўвечары нараджалі воз: летам нейкую каляску, а зімой сані нараджалі лентамі, цвятамі, садзілі туды бабку і везлі дамоў. Яна таксама гатавала стол і ў яе гулялі, спявалі песні, жартавалі.

***Запісана ў в. Сеўрукі Гомельскага р-на***
***ад Сніцарэнка Наталлі Кірылаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Кавалеўскай Т.***

Як родзіцца дзіця ды стрэцішса з жэншчыной з дзіцём, дак трэба так казаць: "Што думаюць маткі, хай маткам. А што думаюць дзеткі, хай дзеткам".

Маткі думаюць плахое, а дзеткі нічого не думаюць, так ім добрэ тым дзеткам. Ешчэ дзецям надзявалі на левы бок кохтачку ці рубашку.

Калі хрысцілі дзіця, то рабілі кашу. Дзед і баба білі тую кашу.

***Запісана ў в. Старая Буда Гомельскага р-на***
***ад Гашко Евы Пятроўны, 1934 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Дуброва Конкаўская Петрыкаўскага р-на),***
***студэнткамі Шынкарэнка А., Цімашэнка Т. (2006 г.).***

Ад сурокаў парадзіха ізнаначнай стараной сваёй сарочкі выцірала сабе твар і твар свайго дзіця. Прышпільвала булаўку галоўкай уверх толькі на шоў ніжняга адзення.

Радзіцца дзіця, тры дні акрэпне – спраўлялі красную (радзіны). Звалі толькі бабу. Яна яго мыла, апранала. Потым спраўлялі хрысціны, звалі ўсіх: бабу, кума з кумой. Везлі на кані дзіця ў царкву, маці нельга было ехаць, ёй не дазвалялася. Імя даваў поп. Перад якім празднікам радзіўся, тое імя і атрымаў. Потым пасля царквы гулялі.

На хрэсьбінах было тры кашы: бабіна каша, куміна каша, кумава каша. Па чарзе яны чарапкамі кідалі ў дзверы, і калі разбівалі, то ўгашчалі гасцей кашай, калі ж не, то лажылі грошы.

Потым садзілі куму на санкі ці на каляску і везлі яе дахаты, усе шлі ў госці к куме. Ішлі "за хвастом" к куме, к куму, к бабе. Гэтым і заваршаюцца хрэсьбіны.

*Запісана ў в. Старыя Цярэшкавічы Гомельскага р-на*
*ад Дзедзенка Ганны Сафронаўны, 1932 г.н.*
*(перасяленка з в. Ільічы Брагінскага р-на),*
*студэнткай Ахрэменка Т.*

Калі жанчына была цяжарная, існавалі такія прыметы:

цяжарнай жанчыне забаранялася палохацца якой-небудзь жывёлы і дакранацца да свайго цела, бо лічылі, што там, дзе яна дакранецца, у дзецяці вырасце густое валоссе;

нельга было хапацца да цела або ліца, калі жанчына ўбача агонь або пажар. Бо лічылася, што там, дзе яна дакранецца, у дзіцяці будзе радзімая пляма.

Калі хацелі даведацца, хто радзіцца, хлопчык ці дзяўчынка, то раптам гаварылі цяжарнай: "Чаму рукі гразныя?" Тая спалохана працягвала рукі і глядзела. Калі ладонямі ўверх працягвала рукі, то будзе дзяўчынка, а калі ўніз – то хлопчык.

Калі падыходзіў час родаў, то звалі бабку-павітуху. Яна прыходзіла да рожаніцы, разглядала, жывот размінала і разглажвала рукамі цела. Расцірала жывот кароўім маслам і смазвала смятанай для размягчэння. Потым давалі рожаніцы піць настой з траў для ўспакаення і каб дзіця нарадзілася румяным і белым целам. Потым павітуха вяла цяжарную ў баню, каб распарыць і размягчыць косць. Чытала замовы ад дурнога глазу. Калі падыходзілі поцяжкі, жанчына малілася: "Ва імя Айца, і Сына, і Святога Духа! З горада Іерусаліма ідзе Ісус Хрыстос.Маці Марыя радзіла сына Ісуса Хрыста

не балеўшы, не станаўшы, і людзі не слыхаўшы. Так бы і мне, рабе божыей (імя) нарадзіць младзенца не балеўшы, не станаўшы, і людзі не слыхаўшы".

Калі роды зацягваліся, то бабка-павітуха брызгала вадой на рожаніцу і прыгаворвала: "Вада із рота, дзіцятка із цябе". Каб роды былі лёгкімі, павітуха развязвала ўсе вузлы на вопратке, распускала валасы і адмыкала замкі. Потым бабка-павітуха брала свечку, запальвала яе і прыгаворвала: "Пакуль свечка дагарыць, тут і яна (імя) радзіць. Амінь".

Перад нараджэннем дзіцяці маладыя выбіралі загадзя кума і куму, якія потым і хрысцілі малога. Яны вязлі дзіцёнка ў царкву. Хрысціў яго поп, чытаў малітвы. Выстрыгаў на галаве крэст і акунаў у купель. Потым прыводзілі дадому і гулялі хрэсьбіны. Баба варыла кашу, госці кідалі грошы, хто болей кінуў, той і біў кашу. Бацькі давалі падарункі бабе, куму і куме. Пелі песні, гулялі. Яшчэ быў і такі абрад: садзілі кума і куму на санкі або ў каляску і каталі па дзярэўне. За тое, што іх каталі, госці бралі з іх гасцінцы.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Казіміравай Кацярыны Ксенафонтаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Слесарэнка А. (2005 г.).***

Як дзіця радзіцца, сразу звалі бабу-павітуху. Яна адразала пупавіну. Далей вязуць дзіця ў цэркву. У цэркву ехалі толькі хросныя. Хросны трэба каб купіў хрэшчык, а хросная бярэ метру-два палатна. У бабы бралі таго, хто панравіцца. Баба кашу варыць з пшана, боршч, пака тыя ў цэркве. Як прыехалі ад Хрыста, тады сабіраецца радня, ядзяць, выпіваюць, а потым баба ставіць кашу, і колькі хто дасць. Хто болей. Кум – эта ўжэ аўтарыцет. Ён доўжан кінуць болей грошай. Вот калі дагодзяць яму, ён патом разбівае кашу. Чарапянкі кідае ў парог:

*Чарапянкі, біцесь,*
*А дзеці – вядзіцесь.*

Калі хрысцілі дзіцятка, то яго хрысцільнае імя нельга было гаварыць чужым людзям, толькі хросным бацькам. Казалі, што нядобрыя людзі могуць забраць здароўе ў дзіцёнка. Перад тым як пайсці за парог, кум і кума прысядалі на некалькі хвілін, "каб дарога была добрая". Як з цэрквы прыязджалі, садзіліся за стол. Елі, пілі.

Кашу баба гатовіла, а патом гэты гаршочак разбівалі, і кажды браў па кусочку. Кажуць, што да вяселля гэтага дзіцяці трэба храніць гэты кусочак.

*Запісана ў в. Цагельня Гомельскага р-на*
*ад Ленчуковай Ірыны Антонаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Сулейка Наталляй.*

К хрэсьбінам гатовіліся долга. Выбіралі, хто будзе хроснымі радзіцелямі. Выбіралі імя дзіцёнку. Кажуць, трэбаназываць па-царкоўнаму, тады судзьба будзе харошай і дзіцёнак балець не будзе. І хрысцілі не пазней сорак дней ад раждзенія. На стол гасцям піроґ ставілі і кашу ў гаршку. Яе патом разбівалі – абычай быў такі.

*Запісана ў в. Цагельня Гомельскага р-на*
*ад Серпікавай Антаніны Васільеўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Сулейка Наталляй.*

Сабіраліся свае: родныя і суседзі. Кум, кума і баба садзіліся ў кут перад іконай, пасля хрышчэння нavароджанага ставілі кашу на стол, якую зварыла баба. На кашу лажылі грошы. Першы кум, потым кума, баба і ўсе астатнія за імі. Хто першы разаб'е гаршок аб стол, таго называлі кумава каша, бабіна каша ілі суседа каша. Но всягда разбіваў кашу кум, і называлася кумава каша. Все бралі па кусочку кашу і елі. Кашу варыла баба з пшана ці з проса. Затым спявалі песні. Навароджанаму жадалі расці шчаслівым і не баляшчым. Куму, куме і бабе давалі падаркі, давала маці дзіцяці. Хрэсьбіны завяршаліся кашай. І на заканчэнне свята спявала баба: “Расці, мой унук, не па дням, а па часам, а мы пойдзем ужэ дахаты, дай вам Бог, штоб вы былі здаровы і багаты”.

*Запісана ў в. Целяшы Гомельскага р-на*
*ад Петуховай Марыі Сямёнаўны, 1935 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Рудня-Целяшоўская),*
*студэнткай Лянко Вольгай.*

З першых дней беременную жанчыну хавалі ад чужых людзей, што б не зглазілі і не паддзелалі ёй. Беременныя заўсёды насілі длінныя юбкі, штоб жызнь дзіця была доўгай. Таксама нельзя беременным пераступаць чэраз запутаную вяроўку, штоб дзіцё не запуталася

ў пупавіне, калі нараджалася. Калі жанчына раджала, окала яе аставаліся толькі яе матка, свякруха і бабка-павітуха. Муж звычайна памагаў насіць і грэць ваду. У часы родаў жанчына заўсёды распускала воласы, штоб лягчэй радзіць, і чытала спецыяльную малітву. Еслі ў хаце былі дзеці, то казалі: “Ідзі, галубка, з хаты раджаць, каб дзетак не пугаць”. Тада жанчыне прыходзілася раджаць ці ў клеці, ці на сене – дзе было ўдобней. Прымала дзіця бабка-павітуха, гэта жанчына, якая ўмела прынімаць роды. Абычна гэта адна са старэйшых жанчын у вёсцы.

Хрэсьбіны гулялі абычна чэраз сорак дней после нараджэння дзіця. Для хрэсьбін гатовілі новую хрысцільную рубашку і крэсцік для дзіцяці. Хросныя павінны былі сначала іспаведавацца і прычасціцца, а толькі патом хрысціць дзіця. Калі хросныя везлі дзіця ў цэркаў, маці гатовіла ежу на стол, а баба дзелала кашу. Бабай на хрэсьбінах абычна была бабка-павітуха, якая прынімала роды. Патом, калі сабіраліся ўсе за сталом, госці елі, пілі і ў п獣следнюю очарадзь дзялілі і елі бабіну кашу. Кашу всегда варылі сладкую, у гліняным чугунке. Калі кум выкупаў кашу, ён разбіваў гэты чугунок аб вугал стала, які стаяў бліжэй да ікон, і кашу елі ўсе госці. Гэту кашу нельзя было выбрасываць, а еслі не даелі, то астаткі аддавалі жывёлам у сваём дварэ, штоб было лучшым хазяйства, штоб вялося ўсё. Грошы і падарункі з выкупа кашы мама далжна сабраць і пашчытаць, штоб у сям’е быў дастатак. Кускі ад гаршка сабіралі і лажылі радзіцялям пад падушку ілі каля ікон, штоб сям’я была крэпкай. Таксама кусочкі ад гаршка давалі незамужнім жанчынам, якія былі на хрэсьбінах, штоб яны быстрэй вышлі замуж. Пасля хрэсьбін кум павінен быў давезці бабу да яе дому на тачке ілі дацянуць на баране.

***Запісана ў в. Заліп’е ад Волкавай Марыі Сямёнаўны, 1947 г.н., Кірпічовай Святланы Іванаўны, 1976 г.н. (пражывае ў в. Прасвет Гомельскага р-на), студэнткай Дабравольскай М.***

# Добрушскі раён

Дзіця craраліся пахрэсціць сразу жэ после раждзенія чэраз нескалькі нядзель, каб ніхто не мог здзелаць яму зла і каб ён быў больш здаровенькі. Маці з бацькам выбіраюць кумоў, у нас дык з родзічаў не бралі, а са знаёмых людзей і заранне ім гаварылі аб гэтым. Адказвацца ніколі нельзя было, бо лічылася нават за грэх.

Маці з бацькам самі назначалі дзень хрэсьбін, звалі кумоў і бабку, што первая дзіця купала і пеленала, а таксама іншых родных. Пакупалі для гэтага падаркі і кумам, і бабцы. Хто ручнікі дарыў, хто платочак, ужо толькі каб добры падарак быў. Маці да таго дня гатавала шмат розных блюд. Пелі песні:

*Не кукуй, зязюлечка, рана,*
*Не кажы, што ночачка мала.*
*Наша Маруська ўсю ноч не спала,*
*Яна к сабе мілых гасцей чакала,*
*Мілых гасцей і бабулечкі сваёй.*
*Столікі абрусам засцілала,*
*Кубочкі віном залівала.*
*Кубочкі віном залівала,*
*Яна сваіх кумочкаў паджыдала.*
*Хоць мяне ды ў доме не будзе,*
*Бабуля прыглашоная будзе,*
*Мёдам-віном напаёная будзе,*
*Падаркам падароная будзе.*

Кумы прыходзілі рана і бралі неслі дзіця ў царкву. Калі дзіця хваравіценькім было, то ў кумы маглі браць вабшчэ незнакомых людзей, бо шчыталася, што тады дзіця будзе здаравейшым і імем нават гэтага чалавека маглі назваць. Маці адзявала дзіця ў новыя адзежкі. Давала ручнікі, на якіх трэба было трымаці дзіця. Кумы трымалі яго па очарадзі. Калі прыносілі з царквы, то кум нёс дзевачку, а кума – хлопчыка, і аддавалі бацькам у хаце і гаварылі: “Бралі навароджанага, Богам даронага, а аддаем вам хрышчонага. Любіце, гадуйце, а часам пільнуйце, ды і он хай вас любя, шануе ды на старасці пагадуе”. Маці з бацькам дзякавалі ім і Богу і аддавалі падарункі. Кумы таксама дарылі нешта хрэсніку.

Затым маці садзіць гасцей за стол, што накрывалі белай скацеркай з розавымі цвяточкамі, калі дзевачка, і з сінімі ці з зялёнымі, калі хлопчык. Кумоў садзілі побач, маці сядзела з бацькам, дзе хацелі, і бабка, дзе хоча, сядае. Першую румку ўжо бацьку наліваюць. Ён выпівае і жадае сыну чаго-небудзь. Затым наліваюць маці, затым бабцы і кумам. А хто дык і не глядзіць на гэта, хто і вабшчэ разліваюць усім адразу, толькі бабка першая дае пажаданні, дора падарунак. Перад гэтым яшчэ могуць спець песню:

*Бабулька ж мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды маку,*
*Абы вырас унучак*
*Без годнага браку.*
*Бабуленька мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды проса,*
*Абы вырас унучак*
*Вельмі харошы.*

*Бабулька мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды пшаніцы,*
*Абы быў бы ўнучак*
*Вельмі вялікі.*
*Бабулька мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды канапель,*
*Абы яго ўсе любілі*
*Так вялікага, як цяпер.*

Затым прыносяць кашу і нехта павінен яе выкупіць. Кашу прыносіць маці ці бацька ў ручніку. Вядзецца торг паміж бабкай і кумамі, а хто выкупя, то разбівае яе аб стол, але замахваецца два разы і толькі на трэці раз разбівае аб стол. Маці гэтым часам ускідвае лёгенька дзіця, каб рос.Можа казаць пры гэтым пажаданні. Гасцям раздаюць кашу, і яны далжны хоць некалькі грошай заплаціць за яе, палажыці ў шапку куму ці ў тарэлку, калі кума. Затым усе пачынаюць пець розныя песні ці частушкі. Бабку ў нас не вазілі.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Тарошчынай Зінаіды Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Сярогавай В.***

У бальніцу не вазілі, бабка была.

Пагаварым і выберым кума і куму. У васкрысенне едуць хрысціць. А тут ужэ абедня гатуецца. Родзічаў пазавуць: брата, сястру з мужыком, свякруху. Ну, з-пад хрэста прыязжаюць, кума ўносіць дзі-

цёнка. Бярэ бабка і кладзе ў калыску. І начынаюць хрысціны гуляць.

Садзіцца кум і кума і гуляюць. Пагуляюць, дзела ўжэ пад расход, і баба нясе кашу ў рэшаце, штоб багаты быў младзенец, і кажа: "Наша каша з канапелькамі, а госці – з капейкамі".

Станавілі кашу на стол каля кума. Ну і кажаць: "Кумава каша". Ну і кладзе грошай. І тады ў кашу хто сколькі капеек тыркане. І куме, куму, бабе і дзеду давалі падаркі: палатна якога на сарочку. Грошы пазбіраюць, і кум б'е кашу. Пасля кашы ўсе вып'яць і гуляюць. Пагуляюць трохі – і дамоў.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Быкоўскай Пелагеі Дзмітрыеўны, 1919 г.н.***
***(перасяленка з в. Чырвоны Камень Навазыбкаўскага р-на),***
***студэнткай Зюзьковай В.***

Вось узнала дзеўка, што цяжарная. Колькі было радасці! З тых пор я ўсяго асцерагалася: не глядзелася амаль у зеркала, багата не ела (дзіцё магло нарадзіцца галодным і быць усягда такім), не дазвалялася піць гарэлку, не прысутнічала на могілках пры пахаванні.

Бацька мой, калі я была цяжарная, не дазваляў мне бачыць, як ён коліць дровы, праганяў заўсёды, баяўся, што дзіцёнак радзіцца з заячай губой. Калі прыходзіла врэмя родаў, звалі бабульку. Яна памагала парадзіхі радзіць. Перш за ўсё ўсхвалялі бабку, прысвячалі песні:

*Бабулька ж мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая,*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды маку.*
*Абы вырас унучак*
*Без годнага браку...*

Падчас родаў расчынялі дзверы, развязвалі вузлы, рашчопвалі кажухі, замкі адмыкалі, паясы развязвалі. Верылі ўсе, што гэта аблегчыць роды парадзіхі. Пры хрэшчэнні дзіцё апускалі ў ваду, чыталі малітвы, благаслаўлялі яго. Пасля абрада ішлі ўсе на абед. Бабка несла звараную ёй кашу. Яе выкупалі, а затым разбівалі. Елі з чарапкоў. Бабка зычыла: каб у гэтай хаце было многа дзетак, як летам у полі кветак. Бабке адводзілася ганаровае месца. Спявалі велічальныя песні ў яе гонар:

*Каб я знала, ведала,*
*А хто бабкай будзе,*
*Пасадзіла б я яе*
*У агародзе на градзе*
*За чырвоную розу,*
*Палівала б я яе*
*Не вадою, а мёдам.*

Кума і куму тожа ўсхвалялі. Пелі пра іх песні. Песні пра тое, што кум кахаў куму. Парадзіха адоравала куму, кума і бабку падаркамі (тканінай). У канцы абеда пелі розныя песні. У асноўным жартоўныя.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Шкуратавай Кацярыны Мікалаеўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Бур'як А.***

*Раса пала на травіцу,*
*Наша мама – парадзіца,*
*Наша мама – парадзіца.*
*Дзевяць сыноў параділа,*
*Дзевяць сыноў парадзіла,*
*А дзесятую дачушку.*

*Яе браты калыхалі,*
*Калышучы, прымаўлялі:*
*"Люлі, люлі, сястрыца,*
*Спі доўга, расці скора,*
*Сваёй маме на пацеху,*
*Чужым людзям на ўспамогу".*

*Ох, учора, мае кумочкі,*
*У нас радзінкі былі,*
*У нас радзінкі былі.*
*А сягоння, мае кумочкі,*
*Мы на хрэсьбіны прыйшлі,*
*Мы на хрэсьбіны прыйшлі.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па рубельчыку даць,*
*Па рубельчыку даць.*
*То мы будзем, мае кумочкі,*
*Аж да ўторнічка гуляць,*
*Аж да ўторнічка гуляць.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па каровачцы даць,*
*Па каровачцы даць.*
*То мы будзем, мае кумочкі,*
*Усю нядзелечку гуляць.*

*Кум з кумою на куце сядзіць,*
*Паміж іх да ручаёк бяжыць.*
*А ў тым ручайку да тры кубачкі,*
*Да тры кубачкі маляваненькіх.*
*У адным кубку зеляно віно,*

*У другім кубку саладок мядок,*
*У трэцім кубку горка гарэлка.*
*Зеляно віно для радзішачкі,*
*Саладок мядок для кумы з кумам,*
*Горка гарэлачка для суседачак.*

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Журавай Любові Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шкурынай Ю.***

### *Дародавы цыкл*

Кагда дзеўка бярэмянная, то ёй нельзя стрыгць косы, бо плод можа не развівацца.

Ні ў коім случаі, еслі хто спужае, нельзя брацца рукамі за ліцо, ці цела, на тым месце, за якоя яна ўзялась, у дзеткі будзе вялікае краснае пятно. Яшчэ бярэмяннай нельзя ругацца – дзіцёнак радзіцца з “заяччай губой”.

Нельзя садзіцца на камень, плод окамянее. Стаяць на парозе – будуць цяжкімі роды, перастyпаць вяроўкі – дзіцё запутаецца ў пупавіне, перастyпаць острыя прадметы – можа быць выкідыш.

Катаць пустую каляску, катацца на лісапеце, загадзя пакупаць адзежку – дзіця мёртвым родзіцца.

У празнік бярэмяннай і яе мужу нельзя работаць – дзіця будзе балець.

### *Родавы цыкл*

Кагда жанчынка едзе ражаць, ёй на шыю завязваюць вяровачку с «праскуркай», штоб Бог ёй радзіць дапамог. У хаце раскрываюць усе дзверы, вокны – роды каб былі лёгкімі.

### *Пасляродавы цыкл*

Да хрышчэння дзіцёначка ні ў коім случаі нельзя нікому паказаваць – могуць сглазіць. Нільзя назьшаць іменем роднага, яно можа паўтарыць яго судьбу. Трэба называць яго згодна царкоўнага каляндара – у які дзень радзілась, такое і імя.

Хроснага бацьку выбірае бацька дзіцёнка. Гэта яго самы лучшы друг. Хросную – мама дзіцёнка. Хроснымі могуць быць толькі хрышчоныя і толькі тры разы. Яны не могуць адказацца.

Калі едуць у царкву, то нельзя астанаўлівацца. Еслі ідзе дождж, эта тожа плоха.

Еслі хрэсцяць хлопчыка, то ў царкве яго дзержыць хросная мама, а кагда дзевачка – хросны. Хросны купляе крэсцік і плоціць за крышчэнне. Хросная купляе палаценца, якім дзіцёнка абціраюць. Пазней тым палаценцам, калі дзіця балее іли сільна плача, укутываюць. Пасля хрышчэння дзіця ўжо ў безапаснасці, яго аберагае Гасподзь.

Пасля ўсе едуць да дому бацькоў і начынаюць празнаваць хрэсьбіны. Гасцей завуць самых блізкіх і паважаных. За сталом нужна

пець песні, весяліцца, чтоб жызнь у дзіценка была такой жа. Первымі жадаюць здароўя і ўсяго харошага хросныя, а патом усе астальныя. Загадзей самай старай жанчынкай гатовіцца каша (яна даўжна быць сладкай). Часцей гэта «Дружба», пшонная, грэчка. Даўжна быць у гліняным гаршочку, а ён устаўлен у які-небудзь мех, штоб дзіця было багатым.

Гаршчок для хроснага. Ён должэн яго выкупіць. Госці і хросная ложаць грошы ілі падаркі, а хросны должэн гэта ўсё перабіць. Патом ён яго разбівае аб угал стала і чарапкі раздае ўсім гасцям і сабе астаўляе. Чарапок можна палажыць тым, у каго яшчэ няма дзяцей.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Шаўчэнка Ніны Іванаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Міхальковай С.***

Цяжарная жанчына ці рожаніца не павінна глядзець на ўсё некрасівае, бо ў яе будзе некрасівы рабёнак. Не гладзіць кошак, сабак, бо рабёнак будзе нямым ці доўга маўчаць. Нельга глядзець, як забіваюць жывотных – у дзіцяці будзе “радзімчык”.

Цяжарная жанчына павінна піць многа малака, тады кожа дзіцёнка будзе белай, як малако, павінна есці красныя ягады – клюкву, земляніку, каб малы быў румяны.

У гэты перыяд цяжарнай нельга быць кумой. Калі яна стане кроснай, яе крэснік не будзе жыць. Цяжарная не павінна цалаваць пакойніка і праважаць яго на могілкі.

Дзень родаў скрывалі ад людзей, бо чым больш ведаюць, тым цяжалейшымі будуць роды. Роды прымала бабка-павітуха. Яна старалася аблегчыць роды і прыгаворвала нейкія заклінанні. Каб не зглазілі, яна прыскала рожаніцу вадой, мазала ўгаворным маслам. Шчэ яна казала: “Прэсвятая наша Багародзіца, сайдзі з прастола Господня, бяры свае залатыя ключы і адкрывай у рабы Божай (імя) мясные ворота, і атпушчай младзенца на свет і на Божью волю”. Пупавіну абразалі ў хлопчыка на начатым сталярным дзеле, каб ён быў добрым хазяінам, а ў дзевачкі – ножніцамі на начатым шыцці. Першы раз купалі ў карыці з праточнай вадой, туды клалі хлебныя зёрны, металічныя грошы, каб дзіцёнак быў багатым.

Калі былі цяжкія роды, рожаніцы давалі піць ваду, дзе былі курыныя яйкі. Потым гэтыя яйкі разбівалі. У першыя послеродавыя

дні суседкі, родственнікі прыходзілі ў адведкі. Прыносілі яду (з хлеба), грошы, адзенне сваіх дарослых дзяцей. Хазяевы дома іх частавалі і празнавалі радзіны.

Пры крашчэнні галоўнымі ўдзельнікамі былі кросныя радзіцелі. У народзе іх называлі кум і кума. У кросныя часта выбіралі родственнікаў – дарослых і багацейшых. Прыглашэнне ў кросныя было вялікай чэсцю, і адказвацца было грахом. Кросныя павінны былі пакупаць падаркі мацеры і яе дзіцёнку. Кум пакупаў крэст, кума прыносіла дзіцёнку рубашку і трохі сітца ці халста, шчэ прыносіла палаценца свяшчэнніку, каб выцерці рукі пасля акунання ў купель рабёнка.

Нельга было ругацца з кумаўямі, гэта было вялікім грахом. Жанчыны баяліся паказвацца перад кумам босымі ці праставалосымі. Затое кум і кума маглі жыць умесце – гэта не было грахом.

Перад уходам у цэркву бабка-павітуха купала малога ў карыці з праточнай вадой і казала загаворы. Потым адзявала ў разрэзаную рубашку мамкі ці папкі ў залежнасці ад пола рабёнка. У царкве поп купаў дзяцёнка ў купелі, стрыг валасы і аддаваў яго спачатку кроснай у рукі, а затым кроснаму. Калі малога купалі і ён сжымаўся, плакаў і чыхаў, то ён будзе жыць, калі маўчаў і выцягіваўся – то памрэ.

Пасля царквы дома рабілі святочны абед. На ім былі ўсе родственнікі і кум з кумой. На абедзі галоўным блюдам была красцінная каша. За кашай праходзіў абмен падаркамі. Потым гаршчок з кашай разбіваў кум з вясёлымі разгаворамі. Вечарам павітуху каталі па сялу на баране.

Некрашчоных дзяцей на тым свеце не прымалі ў свой круг, і яны не ведалі пакою. Такіх дзяцей харанілі на перакрыжаваннях дарог, дзе іх маглі красціць усе, хто ходзіць па гэтым дарогам.

***Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на***
***ад Грудавенка Валянціны Гаўрылаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Сільчанка І. (2003 г.).***

Бабка роды прынімала, яна далжна ўнучку ілі ўнука пакупаць і ў сваю пялёначку ўвярнуць. А тады астальныя ідуць да бабкі і прыносяць свае пялёначкі, шапачкі, міску пампушак. Гэта адведкі называецца. Калі ражала парадзіха, вешалі посцілку, каб не бачылі мужыкі.

На хрэсьбіны сабіраюцца ўсе родныя, нясуць дзіцёначка хрысціць. Прыносяць дамоў, кладуць у калыску, і хросны і хросная кладуць падарак. Патом садзяцца ўсе за стол, атмячаюць хрысціны.

Вараць кашу, ставяць на стол. Бабіна каша стоя дарага, за яе бараюцца. У кашу канфетак насыпаюць і грошы ложаць. Трэба шчоб кум разбіў гаршочак, але спярва, каб ён выкупіў кашу. Калі ўбачаць, што ў кума грошы канчаюцца, дык зжаляцца над ім і больш не падкладваюць.

Парадзіха ў первую очарадзь дае падарак бабцы, а тады ўжэ куму і куме.

***Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на ад Лукеевай Ганны Герасімаўны, 1926 г.н., студэнткай Саламахай І.***

Калі жанчына цяжарная, то ёй нельзя нічога шыць і вязаць ні ў нядзелю, ні ў празнікі. Таксама нельзя нічога адразаць.

З успамін, адна жанчына была цяжарная, ударыла чорную свінню нагой у галаву, радзіўся хлопчык з чорным пятном на лбе між вачэй. А другая вышывала ў празнік рушнік, прыйшлі падругі і кажуць: “Што ты робіш? Сёння ж празнік!” А яна сказала: “Ну, і што”. Радзілась дзевачка. І той цвяток, які яна вышывала, астаўся ў яе на плячэ.

Раней ражалі дзяцей дома, прыходзіла бабка, яна была адна на ўсё сяло, потым яе бралі на хрэсьбіны.

Як родзіцца дзіця, после шасці нядзель хрысцяць яго, а як слабое дзіця, так раней.

На радзіны ішлі ўсе. Пяклі піражкі. Прыйшоўшы, ставілі на стол, а хазяйка ставіла гарэлку. На хрэсьбіны прыходзіла і тая бабка, што была на родах. Пасля царквы ўсе садзіліся за стол. Бабка нясла кашу. Кум, як усе пакладуць грошы на кашу, разбіваў гаршчок. І ўсе пілі, елі, пелі песні, танцавалі.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на ад Куранёвай Агаф’і Фёдараўны, 1923 г.н., студэнтам Шынкаровым Л.***

Женщина обычно рожала дома. Назавтра идут даведацца матка, сёстры, знакомые. Приносят обязательно сладости и взвар.

Бабка, которая принимала роды, варила кашу пшённую. Кто гулял хрэсьбины, клали на кашу деньги, а кто больше положит, тот разбивал горшок и все ели эту кашу по кусочку. Пели песни, танцевали.

*Запісана ў в. Дубовы Лог Добрушскага р-на*
*ад Шуставай Наталлі Іванаўны, 1922 г.н.,*
*студэнткай Гарбачовай Т. (1998 г.).*

Хрэсьбіны гулялі. Збіралісь людзі, дзіцёначка ў цэркву панясуць кум і кума, і тады стол, кум кашу б'е (кашу варылі), штоб ужо на кашу грошы клалі ім (кум б'е). Каша з пшана. Каша, штоб не расплылася, а ўжо так дзелалі, штоб яна стала як горшык той. Кума за гаршок і бегае па хаце, прыгаворвае: "Як я бегаю, штобы маленькае так скоранька бегала".

*Запісана ў в. Жгунь Добрушскага р-на*
*ад Гуцавай Марыі Клімаўны, 1918 г.н.,*
*студэнткай Ефімовіч К.*

Бабы-павітухі былі. Калі дзіця нараджаецца, бабку звалі. Яна роды прыме, рабёначка "закуся" і перавяжа суровымі ніткамі.

*Запісана ў в. Івакі Добрушскага р-на*
*ад Пархоменка Валянціна Іосіфаўны, 1936 г.н.,*
*студэнткай Тур А.*

Да цяжарнай жанчыны ўсе навакольныя людзі адносіліся з апаскай. Лічылася, што гэтая жанчына, акрамя сваёй душы, насіла яшчэ і душу дзіцяткі, якое шчэ не нарадзілася, і гэтая душа была здольная прыносіць людзям шкоду розную. Па павер'ях лічылася, што чалавек, які адмовіць у якой-небудзь просьбе цяжарнай жанчыне, панясе грашовы ўрон. Шмат было і іншых павер'яў, звязаных з цяжарнай жанчынай. Цяжарнай жанчыне нельга было ляжаць так, каб на яе свяціла месячнае святло, інакш дзіця народзіцца лунацістым.

Цяжарная жанчына не павінна станавіцца на вяроўку, бо дзіцятка можа нарадзіцца задушаным пупавінаю.

Вельмі строга забаранялася цяжарнай жанчыне падыходзіць да дохлых жывёл, прыходзіць на пахаванні, бо ў маці і дзіцяці магла пачацца цынга.

Калі жанчына напужалася пажарам, ёй нельга было датрагівацца рукамі да свайго цела, асабліва да ліца і шыі, бо ўсё, да чаго б яна

не датронулася ў гэты час, можа пашкодзіць дзіцятку. На тым месцы ў дзіця будзе чырвоная латка, якая можа не прайсці на працягу ўсяго яго жыцця.

Цяжарнай жанчыне нельга есці прама з чугунка ці скавародкі, бо дзіця народзіцца чорным.

Па народных павер’ях, ад таго, як праходзіў радзінны абрад, хто ў ім удзельнічаў, залежыла вельмі многае. Галоўным чалавекам радзіннага абраду была так званая бабка-павітуха. Яшчэ да родаў бабка-павітуха давала цяжарнай жанчыне розныя парады, дапамагала ёй. Гэтая бабка павінна была многа чаго знаць і ўмець. Патаму звычайна павітухай была пажылая вопытная знахарка, якая ведала розныя замовы. Абавязкова ў бабкі-павітухі не даўжно быць мужыка і яна павінна была мець “лёгкую руку”. Калі ў яе быў хазяін (муж), то яна лічылася нячыстай і не магла быць бабкай-павітухай. Роды часцей усяго праходзілі ў бані, яна лічылася святым месцам. Для аблягчэння родаў былі свае павер’і: адмыканне замкоў; распляталі косы парадзіхі; размешвалі ў дзежцы цеста для хлеба і садзілі на яе парадзіху; калі парадзіхе было вельмі цяжка, яе ўкладвалі на кажух з чорных баранаў і прымушалі мужа пераступіць чэраз яе.

Адразу пасля нараджэння дзіцяці ў галаве маці клалі венік-галень, які аберагаў жанчыну ад сурокаў. А над навароджаным бабка-павітуха чытала замову: “Першым разам, добрым часам, памажы мне, Госпадзі, подзіўкі згаварыці з (імя дзіцяці), з гэтага стану, з чорных вачэй, з шырокіх плячэй, з сініх жыл, з жоўтай косці, з румянага ліца, з чорнага воласа. Мо вы падуманныя, мо вы пагаданныя, мо вы женоцкія, мо вы дзявоцкія, мо вы парабоцкія, мо вы світальныя, мо вы змяркальныя, мо вы паўночныя, мо вы паўтріннія – па касцях жа вы не хадзіце. Досюль же вы калолі і паролі, як майго духу не чулі – цяпер жа палюбіце мой дух: мой дух лёгенькі і цёпленькі. Я ж вас прашу, малю, ссылаю і зговораю, на сухія лясы, на ніцыя лозы, дзе вецер не вее, дзе сонца не грэе, дзе людзі не ходзяць, дзе пташкі не лётаюць”.

Потым жанчыну вялі ў нацепленную для гэтага баню, дзіцятку таксама купалі, як бы ачышчалі. У ваду, дзе купалі, клалі розныя травы і грошы, каб дзіця было шчаслівае і багатае. А на шыйку і ножкі завязвалі чырвоныя матузачкі, яны былі завязаны, пакуль не выбіралі хрэсных бацькоў. Да хрэшчэння маленькага не спавівалі ў пялёнкі, яго ўкручвалі ў ношаную рубаху бацькі. Да самага

хрэшчэння каля дзіцяткі была бабка-павітуха і ў галавах гарэў агонь. Усё гэта засцерагала ад злых сіл, “каб чорт не змог падмяніць дзіцяці”.

Не пазней як праз нядзелю пасля нараджэння бацькі павінны былі выбраць хрэсных. Калі родзічы своіліся і ў маці дзіцяці быў брат, то ён вызначаўся хрэсным бацькам. Запрашэнне ў хрэсныя бацькі было вялікім гонарам. Адмовіцца ні ў якім разе было нельга. Хрэсныя бацькі клапаціліся на працягу ўсяго жыцця аб хрэсніку.

У дзень хрэсьбін у доме бацькоў дзіцяці збіраліся госці, прыходзілі хрэсныя бацькі і назіралі за тым, як бабка-павітуха збірала малога ў царкву. Хросная матка прыносіла з сабою бохан хлеба, клала яго на стол у хаце, кажучы добрыя словы, пажаданні. Збіраючы дзіця ў дарогу, бабка ў рукаў бацькавай рубахі закручвала вугаль, дробную манету, хлеб-соль, каб дзіця ў жыцці не мела патрэбы. Хрысціць дзіця везлі ў другой палове дня, благаславіўшы перад гэтым хлебам. Выносячы дзіцё з дому, кум станавіўся на сякеру правай нагой. Потым везлі дзіцятка “да Хрыста”.

Пасля хрышчэння на дзіця апраналі рубашачку, якая потым аберагала ад падзення з дзерава. І ўжо тут спавівалі хрэсніка ў пялёнкі, якія дарыла яму хрэсная матка.

Потым вярталіся назад, але сразу да хаты не ехалі, хрэсныя бацькі абавязкова абедалі ў любой хаце. Калі абедалі, то кума дарыла куму мацерыю на штаны, а ён адорваў куму грошамі. Паабедаўшы, дзесьці ўжо пад вечар вярталіся ў хату бацькоў малога. На парозе іх сустракала бабка-павітуха, на яе адзявалі аўчынны кажух з чорных баранаў, вывернуты аўчынай наверх. Яна забірала народжанае дзіця, пыталася, якое яму далі імя, і адносіла матцы, а сама вяла ўсіх гасцей у баню, там крапіла ўсіх вадой. Потым усе ішлі ў хату, дзе пачынаўся святочны абед.

Звычайна збіралася вельмі многа народу, сталы, дзе сядзелі госці, трэба было ставіць у адзін радок, каб жыццё дзіцяці было доўгім і праведным. Гасцей рассаджвалі ў строгім парадку: лепшыя кутныя месцы адводзіліся ганаровым гасцям – куму, куме і бабцы-павітухе. Астатніх гасцей рассаджвалі па старшанству. Пачынаўся абед тым, што першую чарку гарэлкі выпівалі кум і кума, а ў яе бацька кідаў грошы. Хросныя выпівалі гарэлку, гаварылі добрыя пажаданні дзіцяці і грошы забіралі. Пачынаўся абед. У час абеду госці спявалі багата песень. Першая песня на абедзе прысвячалася

бацькам дзіцяці. Галоўнае месца на радзінным абедзе займала бабіна каша. Каша варылася ў гліняным чугунку і накрывалася тарэлкай. Кашу трэба было выкупіць – у тарэлку клалі выкуп. Той, хто заплаце большы выкуп, меў права разбіць гаршок з кашай. Звычайна такім чалавекам быў хросны бацька, ён стараўся, каб каша дасталася яму. Пасля выкупу кашы кум павінен быў адным ударам аб стол разбіць чыгунок кашы і з чарапка карміць усіх гасцей. У час выкупу кашы таксама спявалі песню:

| | |
|---|---|
| *(для хлопчыка):* | *(для дзяўчынкі):* |
| *У нас радзіўся панічок,*<br>*У нас радзіўся панічок.*<br>*Нада мыла, пінжачок,*<br>*Нада мыла, пінжачок.* | *Наша Манічка ні ўдава,*<br>*Наша Манічка ні ўдава.*<br>*Кладзі чырвончык, хоць і два,*<br>*Кладзі чырвончык, хоць і два.* |

Лічылася, што доля дзіцяці ў многім залежыла ад таго, як адсвяткуюцца хрэсьбіны, таму бацькі старалісь як мага лепш прыняці гасцей, на сталы ставілі багата розных смачных страў, але трэба, каб іх было нячотнае чысло. Госці спявалі, плясалі, весяліліся. На заканчэнне застолля хазяйка дарыла хрэсным пірагі, так як яны куміліся. Госці разыходзіліся.

Але на другі дзень госці зноў сабіраліся ў гэтай хаце, пачыналася пахмелье: зноў садзіліся за сталы, пілі, елі, зноў спявалі песні. У канцы абеду бабку-павітуху закручвалі ў тканіну.

Затым мужыкі прыносілі барану, садзілі на яе бабку і на сабе цягнулі ў карчму. Там працягвалі есці, спяваць і весяліцца. Святкавалі яшчэ і трэці дзень, але з гасцей прыходзілі толькі блізкія родзічы і абавязкова кум з кумою і бабка-павітуха. У гэты дзень бабка купала дзіцяці. Ваду ці вылівалі ў якое-небудзь чыстае месца, ці потым ёю ўмываліся. Потым бабка-павітуха брала тры галінкі з веніка, дзелала з іх хрэст і клала на дол. Потым яна разам з парадзіхаю станавілася на гэты хрэст і абмывала рукі, і крапіла вадой усіх гасцей. Усе сядалі за сталы і зноў пачыналі весяліцца. На працягу ўсіх дзён гучалі ў хаце песні, жарты, музыка, усе радаваліся нараджэнню дзіцяці.

***Запісана ў в. Знамя Добрушскага р-на***
***ад Кавалёвай Праскоўі Ягораўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Федарцовай Т.***

Садзілі хросную бабу ў санкі, у каляску і вязлі да дома кумы. Дзяцей вазілі хрысціць у Чарнігаў.

*Запісана ў в. Івакі Добрушскага р-на*
*ад Драбышэўскай Ганны Мікалаеўны, 1942 г.н.*
*(перасяленка з в. Стары Сцепаноў Брагінскага р-на),*
*студэнткай Белай Н.*

Да цяжарнай жанчыны запрашаюць бабку-павітуху: "Хадзі да нас, маладзіца ражаць будзе". Гэтая бабка прымае роды ў жанчыны. Праз некалькі дзён бабка ідзе атведаць рожаніцу, бяручы аладкі, кашу, кампот. Бабцы доруць падарунак. Пакуль не прыйдзе бабка, нікога не пушчаюць да рожаніцы.

*Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на*
*ад Хадзюковай Ганны Рыгораўны, 1931 г.н.,*
*студэнткай Радзіновіч І.*

Баба варыць кашу із пшана, варылі яшчэ боршч. Падаркі малому дарылі. За сталом падаюць кашу і купляюць яе. Хто больш кіне грошай: "Мая каша", той і купляў кашу. Больш за ўсёх лажыў кум, а тады ён разбіваў кашу, рэзаў і лажыў па талеркам.

А потым садзілі бабу на каляску і цягнулі да яе хаты.

*Запісана ў в. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на*
*ад Кабанчук Святланы Мікалаеўны, 1938 г.н.*
*(прыехала з в. Астрагляды Брагінскага р-на),*
*студэнткай Стальмаховай А.*

Як бы не праходзілі роды, для жэншчыны быў вялікі стрэс. Калі адбыліся роды, маці накарміла дзіця, і к ёй прыходзяць жэншчыны. Але пасля абеду яны прыносяць якое-небудзь печыва: аладкі, бублікі, рагалікі, булачкі, варэнікі, якія абмочвалі ў мёд, салодкую смятану, варэнне. Яшчэ неслі кісель, розныя ягадныя адвары, каўбасу, яечню, малочныя прадукты. Жэншчыны, якія самі мелі дзетак, давалі нарады па дагляду за дзіцяці, ёй падказвалі. Як купаць, карміць. Бацька ў гэты дзень рабіў невялікае застолле. Ставіў на стол гарэлку. Першую чарку выпівалі за здароўе маці. Госці спявалі песні:

*А ў нядзельку ж да і раненьку*
*Прыйшоў Колечка да па бабеньку.*
*Та ж бабенька дагадалася да і сабралася.*
*Да адзін сапог да і без пояса.*
*Адзін сапог на ножаньку, другі на ручаньку*
*Да і адвесці свах у кучаньку.*

Нельга было прыходзіць у адведкі з пустымі рукамі, а таксама ігнаравалі наведванне жанчыны, якія ждуць дзіцяці або насілі жалобу па памёршых родзічах. Калі маці карміла дзіця, хто-небудзь бачыў яго, ён тут жа тройчы сплёваў праз левае плячо і гаварыў: “Дай, Бог, каб здаровенькім расло”. У нас былі дружныя людзі, як маці казала, памагаў адзін аднаму.

***Запісана ў в. Кругавец-Калініна Добрушскага р-на***
***ад Полубатонавай С.М., 1922 г.н.,***
***студэнткай Яўцюшкінай Т.***

На хрэсьбіны білі гаршкі, гулялі радзіны. Б’юць гаршкі, асколкі, або чарапкі, нясуць дамоў і кідаюць у хлеў, штоб вяліся свінкі. Кашу варылі, стол гатовілі. Кашу варылі пшонную ці рысавую, штоб смашна было, білі ў кашу яйцо.

***Запісана ў в. Перарост Добрушскага р-на.***

Калі баба ражае, усе вузлы развязваюць, замкі адкрываюць, каб аблегчыць мукі.

Для лёгкіх родаў сцялілі штаны мужчыны на парозе, і бярэменная павінна была пераступіць праз іх.

Калі дзіця нараджалася, яго прыкладвалі к грудзі правай. Калі прылажылі к левай, то будзе леўшой.

Нельга было калыхаць пустую люльку або каляску, а то дзіця памрэ. На каляску або люльку зашпілівалі шпільку, каб не зглазілі.

Нельга было дзіцячае на вуліцы астаўляць.

Ніколі не выбіралі кумоў з адзінакавымі імёнамі. Мужа і жонку ніколі не бралі ў кумоў. У хросных можна браць толькі хрышчоных. Калі выбіралі кумоў, адказвацца нельга было, лічылася грэхам.

Дзіця стараліся пакрэсціць адразу пасля нараджэння, праз некалькі нядзель, каб ніхто не змог зрабіць яму зла, каб быў больш

здаровенькі. Кумоў трэба выбіраць, каб былі маладыя за бацькоў, тады дзеці доўга не будуць заседжвацца ў халасцяках.

Калі едуць хрысціць дзяўчынку, адзяваюць ва ўсё белае.

Калі завуць кумоў, робяць гэта стоячы, каб дзіця навучылася хутчэй хадзіць.

Верх бабінай кашы аддавалі курам, каб несліся. Усе прысутныя стараюцца ўкрасць бабінай кашы, калі яе з'ясі, то зубы балець не будуць. Кум разбівае гаршок з кашай аб вугал. Чарапкі аддаюць прысутным. Яны нясуць іх дамоў і кідаюць у пуню свінням, каб вяліся.

***Запісана ў в. Перарост Добрушскага р-на***
***ад Давыдулінай Марыі Міхайлаўны, 1923 г.н.***

На хрэсьбіны білі гаршкі, гулялі радзіны. Б'юць гаршкі, асколкі, або чарапкі, нясуць дамоў і кідаюць у хлеў свінням, штоб вяліся свінкі. Кашу варылі, стол гатовілі. Кашу варылі пшонную ці рысавую, штоб смашна было, білі ў кашу яйцо. Калісь жа не так, як цяпер, варылі халоднае з маслամі.

Калі ражалі дома, то роды прымалі бабкі. Таму гэтых бабак, якія прымалі дзяцей, называюць бабкі павітухі.

***Запісана ў в. Перарост Добрушскага р-на***
***ад Канцавой Надзеі Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Аксенчыкавай Д.***

Дзяцей хрысцілі, звалі бацюшку. Звалі хросных. Кашу варылі, бабку звалі, харошую бабку выбіралі. Каторая харошая, яна тая бабка зварыць кашу, і кашу тую разбівалі, хрэсьбіны дзелалі красіва. І гэтыя чарапкі, што разаб'еце гаршок, схавайце. Яны палезныя.

***Запісана ў в. Перарост Добрушскага р-на***
***ад Чэпікавай Веры Кірылаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кузьміч А.***

Калі нараджаецца дзіця, то яму даюць імя і хрысцяць. Каб пахрысціць дзіця, прыглашаюць кума і куму. У назначаны дзень кумы едуць з дзіцём у цэркву. Пасля купання дзіця бярэ хросная. Яна надзяе яго ў тую адзежу, што сама купіла ці пашыла для свайго хрэсніка. Кум плаця за абрад хрышчэння. Послі етага яны едуць ці ідуць дамоў да бацькоў свайго хрэсніка. Калі яны прыходзяць, то іх

ужо ждуць прыглашоныя госці, матка, бацька і бабка – ета жанчына, якую прыглашаюць на ету роль. Раней етай бабкай была бабапавітуха, а ціпер каго ўжо прыглосяць. Яны ўжо садзяцца за сталы і паздраўляюць бацьку і матку, кума і куму, і само дзіця: “Каб ціхім было, каб здаровым ды разумным расло”. Гуляюць, а пад канец ужо баба прынося сваю кашу ці канфеткі, насыпаныя ў горшчок. Яна першая кладзе грошы на кашу, а потым гавора: “Хто болей пакладзе, тэй і паб’е”. І тут усе ўжо грошы ложаць на кашу. Але, па абычаю, доўжан сама больш палажыць кум і пабіць гаршчок. Абычна гаршок з кашай б’е кум. Ён два разы паднімае махотку над сталом, а на трэці ўжо разбівае. Тады ўжо разбіраюць чарапкі і тую кашу ці канфеткі. Послі кашы бацькі дзіцяці дорацъ падаркі. Куме – атрэз на плацце, куму – рубашку, бабі – атрэз на юбку. Калі бацькі багацейшыя, то дарацъ падаркі і жонцы кума, і мужыку кумы, калі яны жанатыя. Потым расходзяцца па хатах.

***Запісана ў в. Усоха-Буда Добрушскага р-на***
***ад Касцюковай Яўгеніі Аляксандраўны, 1939 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Бярозкі Добрушскага р-на),***
***студэнткай Мохавай Н.***

Калі нараджалась дзіця, то яго праз некалькі месяцаў хрысцілі. Бацькі выбіралі кума і куму. Спачатку яны ехалі ў цэркаў, там над малым дзіцём свяшчэннік маліўся, хрысціў і даваў яму імя. Затым яны ехалі дамоў. Дома іх сустракалі блізкія родзічы. Яны садзілісь за стол, елі, пілі, пелі песні, а затым куму і куме падносілі кашу, хто больш паложа грошай, таго і каша. Но сначала падносілі падманныя кашы. У гаршку падносяць бульбу нечышчаную, а затым петуха жывога, пояць яго гарэлкай і гаворацъ: “Эта ваша каша, купляйце сваю кашу”. А кумаўё ўсё адгаворваюцца: “Эта не наша каша. Наша каша ў другом гаршку”. Патом падносяць настаяшчую кашу. Яны яе выкупляюць і гаворацъ: “Эта наша каша”. Гаршок з кашай б’юць, кашу ядзяць, а чэрапкі ад гаршка ложаць маладым на галаву, каб яшчэ ражалі.

***Запісана ў в. Уць Добрушскага р-на***
***ад Чуянавай Ульяны Якаўлеўны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Сідарэнка Н.***

Да цяжарнай жанчыны адносіліся добра, было многа прымет і забарон цяжарным жанчынам. Выбіралі бабку, якая ўжо ўмела абрашчацца з дзіцяці, у якой ручкі былі маленькія. Бабкі былі вумнымі і ўмелі атрываць і завязваць пупок. Послі родаў ужэ бабка абязацельна вядзе парадзіху ў баню, штоб парадзіха паздаравела.

Перад тым як перахрысціць дзіця, кума і бабка варылі кампот з сухіх ягад і ішлі ў вотведкі, штоб адведаць парадзіх, абязацельна з кампотам. На хрэсьбіны кума варыла кашу ў гліняным гаршку, штоб разбіць можна было. Дзіця хрысцілі ў цэркві, ездзілі туды на конях. Каша была пшонная. На хрэсьбінах кум разбіваў гаршок з кашай. Гаварыў: "Раз, два, тры!" – і на трэці раз доўжан быў разбіць гаршок. А калі не разбіваў, то грошы плаціў. І штоб разбіць гаршок, яго білі бокам аб вугал. Кашу гэту бралі ўсе сабе дамоў. Кідалі яе скаціне, штоб скаціна вялася.

***Запісана ў г.п. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Сердзюковай Евы Пілipаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Ярохавай С.***

Хрэсьбіны праводзіліся на 8 ці на 40 дзень жыцця. Толькі былі кум і кума. Бацьку не пускалі ў царкву. Свяшчэннік чытае тры разы малітву – адганяе злых духаў. Апускае ў ваду свой крыж тры разы і навароджанага (у купелю). Як апускае дзіця, то называе яго імя і на Святой Тройцы. Ужо пасля гэтага лічылася, што ў дзіця з'явіўся нябесны пакравіцель. Пасля амалення дзіцёнка перадаюць хросным. Калі дзевачку хрысцяць, то яе павінна хрысціць толькі замужняя жанчына. Так і з хлопчыкам – жанаты мужчына. Так ты не забіраеш шчасця ў дзіця, яно ўжо ў цябе ёсць.

Хросных выбіралі так: маці выходзіць на скрыжаванне дарог, і хто першы ідзе, таму кажа хрысціць. Нельга было адмаўляцца. Ці выбіралі самі, каго хацелі. Нельга было браць мужа з жонкай. Калі былі блізняты, то ў кожнага павінны былі быць свае хросныя. У дзень хрэсьбін нельга было вязаць, капаць зямлю, шыць. Трэба было грошы шчытаць, каб вяліся ў дзіцёнка, каб быў багаты. Хросная адзявала дзіця для хрышчэння, а хросны аплочваў усе затраты.

Варылі кашу і ўжо на гэту кашу госці лажылі грошы ці падарункі навароджанаму. Гаршочак з кашай хросны разбіваў аб вугал стала, і шанавалі гасцей кашай. Разбіты гаршчок клалі ў сараі, каб усё вялося.

***Запісана ў в. Чырвоная Буда Добрушскага р-на***
***ад Нарэвіч Леанілы Міхайлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Крывашэевай С.***

Калі хацелі, штоб была дзеўка, пад падушку клалі грэбень, а калі хлопца, то тапор.

Бярэменнай нельзя гатаваць адзежу для малога, пакуль не родзя, а то дзіця мёртвае родзіцца.

Нельзя шыць і вязаць, а то пупавіна завяжыцца.

Нельзя стрыгчысь, а то вум у малога будзе кароткі.

Нельзя смяяцца з бальных – такое ж дзіцё будзя.

Калі маладая раджала, так у хаце развязвалі ўсе паясы, размыкалі замкі, дзеўкі косы расплятаді, каб лягчэй было разрадзіцца.

Калі малога прывозілі з царквы, то ўсе садзіліся за стол. Самая старэйшая ў сям'і баба прыносіла кашу, якую сварыла. Каша была пшаняная. Тады кум і кума выкупалі гэту кашу: хто болей дасць, той будзе гаршок разбіваць. Но нада, каб кум выкупіў, штоб у малога было багатае здароўе. Вот ён выкупае і тады ўжо разбівае гаршок, а кума дзеля кашу з гэтага гаршка ўсім гасцям. Гаршок хавалі ў прыпечак, пакуль дзіцё не жэніцца. А пасля гэтага маці дарыла падаркі куму і куме. Так нада было.

***Запісана ў в. Гардуны Добрушскага р-на***
***ад Багамазавай Зінаіды Міхайлаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Грыгор'евай Л.А., 2011 г.***

# Ельскі раён

Прыходзіць баба, каб завязаць пуп. Прыносіць пялёнкі, а патом праз дзве-тры нядзелі робяць хрысціны. Баба варыць кашу з пшана, назначаюць кума з кумой.

Збіраюцца – і хто больш грошай дасць. Заўсёды дае больш кум. Разбіваюць кашу, патом дзелюць тую кашу. А чарапкі стараюцца надзець якой-небудзь маладой, каб радзіла. Баба прыносіць пялёнкі, сповівача, яна спов'е яго, абмые, а маладая ўжо бабе падаркі дае: мо плацце, матэрыял які.

***Запісана ў в. Грышы Ельскага р-на***
***ад Пархоменка Таццяны Васільеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Азеракінай А.***

Родзіцца ребёнок, яго ідуць адведаць, нясуць хто што можа, через время бяруць кумоў, едуць хрысціць і тады готовяцца к хрэсьбінам: вараць кашу (толькі пшонную) з мёдам, маслам так, каб не рассыпалася, б'юць туды яечкі, потым разбіваюць гаршок, абавязкова даюць падаркі бабе, кумаўям.

***Запісана ў в. Двіжкі Ельскага р-на***
***ад Сеўчук Ірыны Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Самойленка Л., Сухамера В., Пятрук І., Мягковай В.***

Сначала выбіралі бабу. Баба далжна быць тая, якая прымала роды. Потым выбіралі кума з кумою. Везлі ў цэркаў. Таксама білі бабіну кашу. Яшчэ было такое, што бабу везлі на возіку па сялу, каб усе бачылі, што гэта баба едзе.

***Запісана ў в. Валаўск Ельскага р-на***
***ад Акуліч Мары Маркаўны, 1932 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Багуцічы Ельскага р-на),***
***студэнткай Урэцкай Таццянай.***

Выбіралі бабу. Баба купала маленькае. Патом выбіралі хрышчонага і хрышчэну. Бабе пяклі пірагі, насілі ёй, а яна павінна таксама нешта маламу даць. Калі адбываліся хрэсьбіны, баба варыла кашу. Прыносіла і загадвала, каб купляли яе ці хрышчэна, ці хрышчона. Хто больш грошай паложыць на кашу, той яе і б'е. Саму кашу раздавалі прысутным. А чарапочкі ад гаршка кідалі пад пазуху ці клалі на голаву маладым дзяўчатам, каб яны забярэменелі.

***Запісана ў в. Падгалле Ельскага р-на***
***ад Захарчанка Тамары Іванаўны, 1957 г.н.***

# Жлобінскі раён

На хрэсьбіны кашу вараць. Бярэцца кум, кума і бабка. Эта ж шчас у бальніцах ражаюць. Прыйшло ўрэмя ражаць – бабку завеш. Бабка кашу далжна варыць. Ну, а хрэсьбіны дзелаюць кум і кума. Кум доўжэн кашу пабіць. А кашу ён доўжэн пабіць тым, што грошы доўжэн палажыць. Такжэ і січас кашу б'юць. Но вабшчэ-та бывае такі кум скупы пападзецца! Хто-та і большэ паложыць. Ну, а падарак аддаеш каму – куму, рубашку там. Куме даюць на плацце, бабке – на плацце. Патом куму на барану садзяць і песні пяюць.

*Запісана ў г. Жлобін*
*ад Ражкова Пятра Іосіфавіча, 1928 г.н.,*
*студэнткамі Міроненка Н., Шчарбаковай М.*

Каб навароджанага не сурочылі, у калыску пад матрац клалі два ці шэсць арэхаў, галоўна, каб арэхі былі ў пары. Каб не сурочылі парадзіху, яна клала ў карман часнок.

На хрэсьбіны парадзіха купляла куму і куме падарункі. Бабі яна таксама купляла. Навароджанага адарывалі ўсе. Пасля царквы прыязджалі дахаты, садзіліся ўсе за стол. Баба ўносіла гаршкі, у адным з іх была каша. Кум адгадваў, дзе каша. Кум паказваў на гаршок. Баба казала: "Купляеш?" – і гаварыла цану, кум плаціў. Калі ж кум не ўгадываў, дзе каша, зноў выкупляў гаршок з кашай. І так пакуль не ўгадае. Баба ўжо тады грошай набірала. Потым кум разбіваў гаршок з кашай. Чарапкі ад гаршка клалі на галовы куму і куме. А калі былі госці, у каго не было дзяцей, то ім клалі на голавы чарапкі, каб у іх былі дзеці. Пасля стала бабу садзілі на воз і каталі па вёскі. Затым везлі бабу ў магазін, і там яна купляла бутэльку тым, хто яе катаў.

Таксама маглі ўкрасці госці падарункі ў бабы ці ў кумы. За падарункі, каб іх вярнулі, далжны былі баба ці кума, сматра ў каго ўкралі, выкупіць падарункі назад. Пагэтаму свае падарункі хавалі.

*Запісана ў г. Жлобін*
*ад Казловай Эльвіры Іванаўны, 1936 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Саланое Жлобінскага р-на),*
*студэнткай Ульянкінай У.*

У асноўным у кумы бралі суседзяў, якія ў свой час бралі кумоў сабе з гэтай сям`і. Хрысціць малое было забаронена нехрышчоным, удаўцам, а калі мянялі кума, мянялі і куму. Незамужняй дзеўцы нельга было хрысціць першую дзяўчынку.

Бабу бралі тую, якая ўжо сама не магла ражаць. У асноўным хрысцілі адразу ці на працягу першага месяца пасля родаў.

Перад царквой бабка купала малое, кідала ў ваду мох і кару дуба, каб "не баяўся" і каб "зубкі былі моцныя". Загортвала ці адзявала бабка малое ў тое, што прынесла кума. Калі ў бабкі быў хрэсцік, яна надзявала яго дзіцяці, а ў царкве бацюшка яго свяціў.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Холаставай Ларысы Ігнатаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Ісачанка Н., Бруевіч В., Кавалёвай А., Ульянчанка Х.***

На хрэсьбіны ўся радня збіралася: і радныя, і дваюрадныя, траюрадныя. Падаркі дарылі. Кашу варылі і гаршка білі. Кашу варылі толькі ў гаршку. Баба яе варыла. Бабушка варыла кашу, пірага пекла з макам ці з ігрушамі. Кум кіне кашу і б'е зразу гаршка. Еслі зразу разаб'ецца – дзіцё мала жыць будзе, а еслі не зразу, то доўга. А тады ўжэ чарапкі ад гаршка. Вот сядзіш ты з мужыком, напрымер, калі ў цябе яшчэ няма дзяцей, стараюцца надзець на галаву чарапка, каб у цябе скарэй дзеці паявіліся, і ты прыгласіла на хрэсьбіны.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Барэйшавай Надзеі Піліпаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Міронавай В., Дулуб А., Махнач І., Грынь В.***

Кашу на хрэсьбіны клалі ў адзін з двух пакетаў. Кум угадваў, у каком ляжыць каша. Кум выкупляе кашу, б'е яе. Асколкі з гаршка вешалі радзіцелям малога.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Аляксеенка Ганны Ігнацьеўны, 1941 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Лучын Рагачоўскага р-на),***
***студэнткамі Шапавал Я., Адарчук В., Цярохінай Ю.***

Едуць пад крэст. Туда едут, штобы яны пабылі пад крастом, каб бацюшка пакупаў лялечку, пяткі. Патом прыезжают, садзяцца госці, садзяць за стол, людзі выпіваюць. Как абычна, угашчаем. Патом начынаем кашу. Дапусцім, бабка ў нас. Начынае дзяліць кашу,

сначала сабіраем “на мыла”, чтобы ўнучачка была чысценькай, сабірают дзеньгі. А патом ужэ кашу, надзяваюцца-перадзяваюцца, хто там у цыганак. Начынаюць прынасіць бабе кашу. Спярва нада ўгадаць, чыя каша. Еслі не ўзнает сваю кашу, то астаецца без кашы. Паддзелываюць, прыносят ілі ў каробке што-нібудзь, ілі петуха прыносят какога-нібудзь. Ну, штобы абман сделаць. І патом, еслі бабка ўгадывает сваю кашу, то прэждзе, чем бабка ўгадае сваю кашу, ей нада купіць сваю кашу. Паэтаму ўсе госці слажывают дзенежкі. Чем большэ бабка саберёт дзенег на кашу, значыт, таго будзет і каша. У аснаўном кашу выкупае кум, іменна тот, который стаял пад крастом, каторы крэсціл і он выкупал кашу. Он покупает і разбівает. Каша сама сабой прэдставляет гаршочак, варыцца каша рысавая ілі пшонная, вакруг абадочка выкладваецца канфетамі шакаладнымі. Палучаецца как вяночэк. Кагда кашу купілі, разбівает ету кашу, нада, штоб кум разбівал эту кашу, этат вяночэк надзяваецца ўнучке-лялечке, её маць адзявает на голаву. Нада ўзяць з разбітай кашы хоць асколачак. Гаварят, што эта харашо. Патом бабку вязут, нясут у магазін. Нада на баране. Ана пакупает гасцінцы і ўгашчает людзей.

*Запісана ў г. Жлобін*
*ад Шыгалёвай Іны Анатольеўны, 1956 г.н.,*
*студэнткамі Данчанка А., Курасавай Л., Лях М., Стрыжаковай А.*

Рожаніца ражае. Бацька дзіцяці ідзе з хлебам і прыглашае бабку-павітуху. Бабка-павітуха прыняла роды і закутуе дзіця ў свае пялёнкі. Цераз нядзелю – хрэсьбіны. Бацька дзіцяці бярэ хлеб і ідзе прыглашае куму з кумам і бабу. Кум з кумой бярэ дзіця і нясуць хрысціць. Пахрысцілі дзіця. Прыехалі, ужэ тут – застолле. Баба варыць кашу, падаркі прыносяць кум і кума. Патом дзеляць кашу, яна ўкрашана канфетамі. Прыносяць, аддаюць куму, кум паложыць грошы і выкупляе кашу. Кум разбівае кашу так, штоб яна не развалілася. Кум зразае вяршочык і ложыць яго, а тады прадае кашу за грошы. Што астаецца, тое патом раздае за сталом. Раздаў кашу, выпілі. Садзяць бабу зімой на санкі, а летам – на калёсы і вязуць яе дамой, а яна едзе і ўсіх угашчае. Таксама бяруць і кума з кумой.

*Запісана ў г. Жлобін*
*ад Палевіковай Надзеі Пятроўны, 1929 г.н.*
*(раней пражывала ў п. Нікольскі),*
*студэнткамі Данчанка А., Курасавай Л., Лях М., Стрыжаковай А.*

На хрэсьбіны кашу бабка з пшана варыла. Гаршок новы пакупаеш. Кашу насыпаеш, каб поўдна відна было. Гаршок прыбярэш, канфетак навешаеш, прачаш так, штоб не ўкралі. Кашу ўкрадуць, убяруць у два адзінакавых гаршка і гаворáць: “Угадай, баба, дзе каша?” Кум выкуплівае кашу. Начынаецца ігра, хто кашу купіць. Кашу выкупліваюць, пака грошы не канчаюцца. Паследнія грошы ложыць кум і выкупае кашу. Гаршок разбівае кум аб угал, і харашо, кагда гаршок разбіваецца, а каша цэлая. Верх кашы адразаецца і аддаецца курам.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Гузавай Валянціны Іванаўны, 1954 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Верхняя Алба),***
***студэнткамі Петрыкавай Ю., Шэндзелевай І., Мазай І., Шкаруба Н.***

Пишут фантики с именами детей и раздают присутствующим людям, чтобы выбрать имя ребёнку. Бабина каша – куцця. Хресьбины заканчиваются песнями и танцами. Дарили подарки, приносили сладости, одежду ребёнку.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Будняк Наталлі Пятроўны, 1955 г.н.,***
***студэнткамі Поляк К., Абрамавай В., Івановай Я.***

Пасля нараджэння дзіцяці матка і бацька бяруць хлеб-соль і ідуць да той жанчыны або дзеўкі, якую яны абгаварылі ўзяць за куму. Прыходзяць к ёй і гаворáць: “Вам хлеб-соль, а нам куму”. Патом дагаворваюцца, у які дзень будуць хрэсьбіны.

У дзень хрэсьбін кума з кумам бяруць немаўляці і нясуць ці вязуць, еслі далёка, у цэркаў. Кума бярэ свой рушнік, а кум – грошы, каб расплаціцца з бацюшкам. У цэркве бацюшка хрэсціць дзіця. Послі етага кум з кумой варочаюцца, іх ужэ ждуць госці. Куму з кумам содзяць на вугле, каля іх – бабу, а патом госці садзяцца за стол. Пачынаецца гульня.

Да застолля баба хавае гліняны гаршок з кашай, і кум або другія з гасцей даўжны найсці гэты гаршок. Выпівалі, елі, танцавалі, пелі песні. Той, хто нашоў кашу, выносіць сначала “падманкавую” кашу (то петуха, то капусту) і пытае ў бабы: “Твая каша?”, а тая гавора: “Ета каша не мая, мая красівая, дарагая” (і так некалькі раз). Наканец баба бярэ сваю кашу. Яна даўжна ўручыць яе куму. Баба гавора: “Мая каша з канапелькамі, а вы, госці, з капейкамі”. У гэты час

госці ложаць грошы і таргуюцца з кумам, хто болей паложа, той забірае кашу. Кум кладзе грошай болей за ўсіх, каб каша была яго. Ета таргаванне дліцца, пакуль госці не пакладуць усе грошы. Кум бярэць кашу і разбівае яе аб вугол дзеравяннага (а калі госці сядзяць за некалькімі сталамі, то выбіраюць дзешавейшы) стала. Кашай угашчаюцца ўсе госці, а чарапкі даюць незамужнім дзеўкам. А тыя, што астаюцца, баба сабірае і кідае ў вугал, прыгаворваючы: “Кідаю на кут, каб на будучы год зноў быць тут”.

Куме, куму і бабе маці і бацька дзіцяя дораць падаркі, якія патом доўжэн хто-небудзь сцягнуць, а патом брацьвыкуп з таго, чый падарак. Калі дораць падаркі маломy, гавораць розныя прыказкі: “Нарадзілася дзіцяя на белы свет, хай не знае ніякіх бед. Вот яму мыла, каб было для ўсіх міла. Дару палаценца, каб выціраўся бела і глядзеў ясна ў акенца. Дару анучы, каб ножкі не балелі босы”. У канцы абраду бабу садзяць (калі зіма – на санкі, калі лета – на каляску) і вязуць у магазін, дзе яна даўжна гасцяваць тых, хто яе вёз. Бярэ віно, закуску, цукеркі, і яе вязуць дахаты. Нагуляўшыся і напіўшыся, госці разыходзяцца, дзякуюць хазяеў.

***Запісана ў в. Новая Слабада Жлобінскага р-на***
***ад Тамашовай Ганны Дзянісаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Цулыгінай Н.***

Бярэменнай жанчыне нільзя было пужацца, а калі спужаецца, ні хапацца рукамі за ліцо, каб у дзіцяя ні было відных плям, нільзя глядзець на пакойніка, каб дзіцёнак ні быў бальным і бледным, насіць нільзя адзёжу з вузялкамі, каб ні цяжка ражаць.

Каб аблегчыць роды, трэба было развязаць усе вузлы, касу расплесці. Пра дзень родаў нічога ні казалі, каб жанчыну аберагці ад чужых вачэй, ад урокаў і злога чалавека. Ражаць ёй памагала бабка-павітуха, якую зваў муж. Пелі песні:

* * *

*Не стук стучыць на вуліцы,*
*Іван ідзець, бабу вядзець.*
*Баба мая, бабулечка,*
*Перабаб мне дзіцятка.*
*Маё будзя раждзёнае,*
*Тваё будзя баблёнае.*

* * *

*У нядзельку ранесінька*
*Бяжыць Іван к сваёй бабусенькі.*
*Бабусенька дагадалася,*
*У адзін чабот абувалася.*
*Бяжыць яна скарэсінька,*
*Просіць Бога шчырэсінька:*
*“Дай жа, Божа, маёй унуццы*
*Лягесенька, дабрэсенька, скарэсенька”.*

Як з’яўляецца дзіця на свет, то яго абмываюць вадой, каб захаваць яго ад нічыстай сілы. Еты абрад ё і сённі: у царкве абмываюць дзіцей, калі хрысцяць. Акрамя бабкі, бралі кума і куму, якія тожа навароджанаму жадаюць долі, шчасця. У час хрышчэння ў царкве хлопчыка трэба было дзяржаць куме, дзевачку – куму. Пасля хрышчэння гулялі хрэсьбіны. На хрэсьбінах галоўным госцем была бабка. Яе садзілі на кут, радам з ей кум, кума. На хрэсьбінах галоўнай была бабіна каша, якую яна гатавала, украшала. У час падзелу кашы яе выкрадалі і прыносілі сваю. Бабка ўгадвала, дзе яе каша. Калі не ўгадала, то давала выкуп. А ў яе кашу перакупляў кум, разбіваў яе і дзяліў паміж гасцямі. Госці клалі на кашу грошы, падаркі. Етым яны жадалі шчасця, долі, здароўя дзіцёнку. У час падзелу кашы жартавалі:

*Бабка кашку нясець,*
*А кум казной трасець.*
*У бабкі кашка смачна,*
*А ў кума казна ясна.*

*На стол каша стала,*
*Залатога верха ждала.*
*Ой, ты, кумачку-пане,*
*Ой, такі ў цібе стане.*
*Усадзі руку ў кішэню,*
*Вымі грошыкаў жменю.*

Пасля падзелу кашы бабку, кума і куму адорвалі падарункамі, а яны давалі падаркі навароджанаму і яго бацькам. Пасля хрэсьбін бабку адвозілі дамоў і там іе частавалі ішчэ. Гучалі песні:

*У нядзельку рана-ранюсінька*
*Наша бабка ды па двару ходзя.*
*А дай, Божа, етаму дзіцяці*
*Да добрую долю.*
*І грашовую, і збажавую,*
*І трэцюю – вянчальную.*

*У нядзельку рана-ранюсінька*
*Наша кумачка ды па двару ходзя.*
*Па двару ходзя, Госпада Бога прося:*
*“А дай, Божа, етаму дзіцяці*
*А добрую долю.*
*І грашовую, і збажавую,*
*І трэцюю – вянчальную”.*

*У нядзельку рана-ранюсінька*
*Наш кумочак па двару ходзя.*
*Па двару ходзя, Госпада Бога прося:*
*“А дай, Божа, етаму дзіцяці*
*А добрую долю.*
*І грашовую, і збажавую,*
*І трэцюю – вянчальную”.*

*Ой, кум куме рад,*
*Павёў куму ў вінаград.*
*Шчыплі, кума, ягадкі,*
*Якія салодкі.*
*А якія горкія,*
*Кідай для маёй жонкі.*

*Упілася бабка,*
*Упілася.*
*І за печчу спаць*
*Уляглася.*
*А там мышы шалелі,*
*Шалелі.*

*Бабцы фартух праелі,*
*Праелі.*
*А ты, бабка, не ляжы,*
*Не ляжы.*
*А ідзі новы падвяжы,*
*Падвяжы.*

***Запісана ў в. Касакоўка Жлобінскага р-на***
***ад Страковіч Марыі Фёдараўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Чысловай С.***

Бралі бабку, яна прынімала роды. Пасля бабцы дарылі падарак, ткань на плацце. Гэта называлася выціраць рукі аб плацце. Гэта было абавязкова. Калі гулялі хрэсьбіны, бралі кума і куму. Куме дарылі плацце, а куму – рубашку. Бабка варыла кашу. Кашу кум купляў у бабы, а потым разбіваў кашу, чарапкі клалі на галаву, каб у другіх былі дзеці, і жадалі гэтаму чалавеку, каб была дачка, ці сын.

***Запісана ў в. Кіцін Жлобінскага р-на***
***ад Ткачовай Аляксандры Аляксееўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Говар І.***

Калі жанчына забярэменіла, то нада адразу ўсім сказаць гэта, каб дзіця хутка загаварыла. Трэба заўсёды саблюдаць усе свята. У свята нельга было шыць і працаваць. Адна жанчына шыла, і яе дзіця нарадзілася з зашытымі пальчыкамі, яны не раздзяляліся.

Нельга праходзіць праз цэп, калі прывязана сабака, а то народзіцца дзіця, у якога шыя будзе перавязана пупавінай.

Звалі бабку-павітуху. Яна прымала роды ва ўсёй вёсцы, перавязвала пуп, мыла дзіця, потым пелянала. Калі парадуха была маладая, то баба вучыла яе, як абыходзіцца з дзіцём.

Калі жанчына ражае, то трэба, каб валасы былі не заплеценыя, а то яна тады вельмі мучаецца пры родах.

Спачатку да жанчыны (парадухі) прыходзілі родственнікі. Гэта былі вотведкі. Прыносілі пячэнне, канфеты, бліны, каб падкрапляць сілы ў парадухі.

Потым пачыналіся хрэсьбіны. Іх стараюцца хутчэй зрабіць. Куму выбіралі, каб яна была замужняя. Бо калі дзіця будзе дзеўкай, то яна забірала ў кумы ўсё шчасце. Кума бралі любога. Раніцай кум

і кума (маці нельга было ісці) ідуць у царкву, каб крысціць дзіця. Імя выбіраюць па царкоўнаму календару. Калі вярталіся з царквы, усе садзіліся за стол і пачыналі дзяліць кашу. Баба павінна была прынесць сваю кашу. Яна брала гліняны гаршок і варыла кашу. Яна была з пшана, масла, малака і сахару. Абавязкова варыла ў печцы. Потым гаршок з кашай упрыгожвала лентамі.

Калі баба прыходзіла, то ставіла ля сабе кашу. Усе пачыналі віншаваць маці і бацьку з нараджэннем дзіцяці, а ў гэты час кралі бабіну кашу. Адбіралі некалькі жанчын, якія пераапраналіся і красіліся ў цыганей. Яны хавалі бабіну кашу і прыносілі падманную. Баба павінна пазнаць сваю кашу. Яны прыносілі яе тры разы. За гэтыя разы баба павінна пазнаць кашу. Калі яе пазналі, то пачыналі выкупаць. Першым выкупаць пачынаў кум. Ставілі тарэлку і лажылі на яе грошы. Пасля кума тарэлку перадавалі па ўсяму сталу і ўсе лажылі грошы. Але кум павінен палажыць больш за ўсіх, тады ён выкупляў яе. Потым кум бярэ кашу і б’е яе аб стол. Першы раз б’е слаба, другі – мацней, на трэці раз ён разбівае гаршок. Дно гаршка клалі на галаву куме, а чарапкі іншым жанчынам. Прыгаворвалі, каб нарадзіла ці сына, ці дочку. Потым кашу дзялілі паміж гасцямі. Потым усе елі, гулялі. Затым садзілі кума і куму на барану і везлі ў магазін, каб яны куплялі гасцям гарэлку і пачастункі. Потым парадуха павінна даць падаркі куму, куме і бабе.

***Запісана ў в. Кіцін Жлобінскага р-на***
***ад Ткачовай Аляксандры.***

У нас разныя прыкметы былі на цяжарную маладзіцу. Глаўная, што і яе ж пабойваліся, дзелалі ўсё, што тая хацела. А як адказваліся, дак таму чалавеку няўдача будзя, бо хто зная, з якою душой будзя тоя дзіця. А шчэ ў нас счыталі, як устрэціш нізнакомую цяжарную, дак у ету зіму хварэць ні будзяш.

А для самой цяжарнай былі тожа прыкметы. Ёй нільзя доўга ў зеркала глядзецца, каб дзіця ні стала касавокім, ці якія хваробы на вочы ні меў.

Гаварылі, як станя маладзіца на што крывое, на палку ці дугу, дак можа навароджаны гарбатым быць ці з адной нагой карацейшай.

Нільзя ёй было сабак, кошак да шчэ каго такога біць ці штырхаць, бо дзіця будзя з валасамі на целі. А як пры етым сабака ўкусіць жанчынку, дак будзя дзіцёнак злым, як той сабака.

Шчэ нільзя было красці, сварыцца з кім, на памёрлых ні давалі глядзець, бо ўсё ета магло стацца з дзіцём.

У нас гаварылі, як цяжарная стрыжэцца, дай дзіця дурным будзя. Абараняліся ўсе ад порчаў, ні смяяліся з хваравітых людзей, крывых, гарбатых – дзіця магло такім стаць.

Ну, ета ўсё да родаў было, а як прыходзіла ўрэмя, дак ужэ другоя было. Тады ўжэ, каб рожаніцы лягчэй было, дак расплятали ёй касу, бабка нешта прыгаворувала. Ды шчэ дзелалі так, каб ніхарошыя людзі про роды ні зналі. У ета ўрэмя ў хаці была толькі рожаніца да бабка-павітуха. Ета была ўдава, якая была пры маладзіцы да хрысцін дзіцёнка. Яна багата ўсяго знала і ўмела. У нас, як толькі радзілася дзіця, дак етая бабка ля галавы жанчынкі клала венічак з зёлак, а над дзіцём чытала загаворы. У еты дзень маладзіца мылася ў бані, а бабка мыла дзіця ў вадзе з лечашчымі травамі, каб яно здаровянькая было. Шчэ калі дак туды і манеты кідалі, каб багата да шчаслiва жылося.

Рожаніца не хадзіла ў цэркву, пакуль яе дзіця ні пахрысцяць. У хросныя выбіралі якіх родзічаў, да абязацельна жанатых да замужніх. Ну шчэ выбіралі больш багатых. Ад кумаўства ні адказуваліся, бо ета было грахом і прыносіла няўдачу. Хрысціць дзіця, дак прылучыць яго к Богу значыла, пры етым яму імя давалі, якоя бацькі выбіралі. Послі абеду везлі кум з кумою дзіцёнка ў цэркву ды хрысцілі. Патом яго ўжэ адзявалі, закручвалі ў пялёнкі, якія падарылі хросныя ці бабка-павітуха. Бліжэй к вечару ўжэ прыязджалі з царквы хросныя з хрэснікам, перадавалі дзіцёнка бабцы, а патом клалі спаць. Ну тут ужэ начыналася застолля. Ставілі сталы да яду выстаўлялі. Яна нячотнай даўжна быць, каб жызнь доўгая была ў дзіцёнка. Тут начыналі і песні пець, і частушкі. Песні разныя былі. Сначала, канешна, пелі пра навароджанага, прасілі яму ўсяго харошага:

*Каб мой дзіцёнак*
*Бальшы рос,*
*Каб у малога*
*Шчасця быў воз.*

Тут хвалілі і рожаніцу. Пелі, якая добрая гаспадыня, харошая жонка, красівая маладзіца. І бацьку дзіцёнка ўспаміналі, яму харошага ўсяго жалалі. І добрыя песні пелі, і смешныя. Пра кумоў тожа ўсякая гаварылі, яны сядзелі на куце. Пра хросную шчэ такоя смешная пелі:

*Напілася, кума, напілася,*
*Да ў каморцы спаць уляглася.*
*А там мышы дурнелі*
*Да куме плацця праелі.*
*Уставай, кума, ужэ дзень,*
*Ідзі дамоў да плацця перадзень.*

Абязацельна за сталом была “бабіна каша”. Як яе прыносілі, усе госці на сярэдзіну стала клалі грошы, якія патом забірала бабка і палавіну аддавала навароджанаму. Перад тым, як есці кашу, мылі рукі ў вадзе з бярозавымі галінкамі. Кашу ў нас варылі з ячменных круп і дабаўлялі туды сала, прыносілі ў глінянай пасудзіні. Кум біў гаршчок “на шчасця” свайму хрэсніку. Паслі етага шчэ ўгашчаліся гарэлкай, зноў пелі песні, хвалілі кумоў, спасібувалі бабцы, да трохі са смехам:

*Каб я знала,*
*Хто ж бабкай будзя,*
*Пасадзіла б я яе*
*У гародзі на градзе*
*За красную розу.*

І нармальныя песні пелі, бо бабка была надта ўважанай тут, завадатаркай:

*У лугу вярба лахматая –*
*На куце бабка багатая.*
*Ой, будам вярбу ламаць,*
*Ай, будам бабку вітаць.*

Як канчалася застолле, дак рожаніца дарыла кумам пірагі, ета значыць, ужэ радніліся з імі. А бабку бацька дзіцёнка доўжан быў завезці дамоў на калёсах ці на санях, калі хрысціны былі зімою.

На другія дні к маладзіцы прыходзілі ў вотвядкі. Прыносілі што з яды, гаварылі з маткай, глядзелі на дзіця да жалалі ўсяго харошага. Прыходзілі блізкія людзі, іх угашчаў бацька дзіцёнка.

***Запісана ў в. Лясань Жлобінскага р-на***
***ад Кудзіновіч Веры Іванаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Ісаенка В.***

Кум і кума едуць у царкву. Ім даюць увівч (кавалак тканіны), каб выціраць рукі. Другі кавалак тканіны аддаюць бацюшку. Пасля цэрквы – застолле. Білі кашу пшонную. На яе ложаць грошы. Пабіць кашу – чэсць. А калі кум кашу не пабіў, то пазор.

*Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на*
*ад Емяльяненка Лідзіі Віктараўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Бандарчук Т.*

Дамаўляліся сразу з папом. Далей бяруць бухан хлеба і нясуць таму чалавеку, якога хочуць узяць за кума і куму. Калі яны прымаюць хлеб, значыць, яны згодны. У дамоўлены дзень адбываецца абрад хрышчэння. Маленькага хрысцяць кум, кума і поп, а бацькам прысутнічаць нельзя. После абрада хрышчэння ўсіх запрашаюць за святочны стол. У канцы святочнага стала кум б’е гаршчочак з кашай (каша абавязкова варыцца з пшана) і гаворыць такія словы: “Каша з канапелькамі, а дзеці з капейкамі”, каб маленькі быў усягда з грошамі. Далей гэту кашу даюць паспытаць гасцям. Асколкі гаршчочка на голаву ложаць кум, кума і баба. Гэта робіцца для таго, што яны, штоб ні случылася, будуць разам з навараджоным.

*Запісана ў в. Нівы Жлобінскага р-на*
*ад Татарынавай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Дзмітрачковай А.*

Пасля нараджэння дзіцяці яго хрысцілі. Для гэтага выбіралі кума, куму, бабку, ішлі ў царкву. Послі сбіраліся ў гаспадароў і гулялі там. Потым рабілі абрад біцця “бабкінай кашы”. Спачатку куплялі яе, клалі грошы, а кум купляў даражэй, а потым разбіваў гэту кашу. Баба ўгашчала ўсіх гасцёў па ложцы кашы. Ужо к вечару бабу звалі ў магазін. Везлі яе на баране, якую маглі пакласці і на воз. Усе госці ззаду шлі і глядзелі. Падарункі дарылі кумам і бабі пасля разбіцця кашы.

*Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на*
*ад Калядзенка Соф’і Васільеўны, 1935 г.н.,*
*студэнткай Шышовай К.*

Самай галоўнай у гэтым абрадзе з’яўляецца бабка-павітуха. Бабкай далжна быць пажылая жэншчына, якая мае “лёгкую руку”.

Кагда раждаецца дзіцёнак, то выбіраюць хросных бацьку і матку, каторыя даўжны былі глядзець за етым малым, клапаціцца аб ім усю жызню. Еслі ў етай сям'і дзеці паміраюць, кагда родзяцца, то хросныя бываюць тыя, каго ўстрэцяць на дарогу ў цэркву, каб хрысціць.

У той дзень, кагда нарадзіцца дзіцё, так у госці не ходзяць, а ходзяць патом на сматрыны.

У дзень, кагда хрэсцяць навароджанага, у доме яго радзіцаляў сабіраліся госці. Хрысцілі малога хросныя, а радзіцелі сідзяць дома тагда. После цэрквы быў празнічны абед, на каком дарылі падаркі “бабке”, хросным, малому.

На абедзе была “бабкіна каша”, на якой сабіралі грошы, і хто больш заплаціць, тот імея права разбіць іё. Разбіць кашу ў гаршку нада з аднаго раза аб стол, а кашай накарміць усех у хаце.

Пелі песні, якія ўслаўлялі бабку, хросных, радзіцаляў, малога; песні былі і шутачныя.

*Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на*
*ад Дзенісенка Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Батуравай Т.*

Маці з бацькам малога самі выбіралі хросных. Яны маглі спытацца, ці будуць яны хроснымі, ці не, але калі ўжо маці з бацькам прыходзілі з кавалачкам хлеба, пасыпаным соллю і гаварылі: “Вам хлеб-соль, а нам дайце кума (куму)”.

У суботу дзіцёнка мыюць, прыбіраюць. У нядзелю хросныя нясуць дзіцёнка ў царкву, а маці з бацькам застаюцца дома. Бацюшка моліцца, раскрывае дзіцёначка, мые ножкі, ручкі, галоўку пасвячонай вадой, а хросныя ў гэты час дзержат свечкі. Пасля гэтага бацюшка дае пацалаваць хрэст хросным. Прыходзяць з цэрквы, сабіраюцца людзі: родныя, блізкія, суседзі. Садзяцца за стол, выпіваюць, гуляюць, кашу б'юць.

Баба варыць кашу ці прыносіць у гаршку канхфеты, пячэнне. Кум бярэ кашу, кідаюць на кашу грошы. Хто-небудзь пяць тысяч, кум перакрывае – дзесяць тысяч, пакуль не дойдуць да той сумы, якую думаў палажыць кум. Тады разбіваюць кашу і раздаюць гасцям. А грошы аддаюць бацькам малога, на усё неабходнае.

*Запісана ў в. Шыхаў Жлобінскага р-на*
*ад Ганжуравай Раісы Міхайлаўны,*
*студэнткай Удодавай Н.*

# Жыткавіцкі раён

Павітуха дапамагала парадзісе як магла. Акрамя чыста акушэрскіх прыёмаў, яна выконвала шэраг магічных дзеянняў, заснаваных на веры ў звышнатуральныя сілы. На парадзісе расшпілялі ўсе гузікі, развязвалі вузлы, паясы, расплятaлі косы, адкрывалі ўсе замкі, дзверы, куфры ў хаце. Бабка шаптала замовы, пастуквала венікам у столь, як бы звяртаючыся за дапамогай да дамавіка. Вадзіла парадзіху тры разы вакол стала і праз ганак, якія лічыліся свяшчэннымі месцамі хаты. Дзейсным сродкам аблягчэння пакут парадзіхі лічыўся такі: зняць у дзяжы абруч і надзець яго тры разы на парадзіху зверху ўніз.

Павітуха ніколі не прымала дзіця голымі рукамі, а накрывала іх якім-небудзь старым адзеннем, каб у будучым дзіця жыло ў багацці. Часам жартам павітуха загортвала хлопчыка ў жаночую сарочку, каб яго, як падрасце, любілі дзяўчаты.

Калі па дарозе ў царкву ішоў снег або дождж, лічылася, што дзіця будзе багатае і шчаслівае.

Самыя ганаровыя месцы за сталом, у святкаванні хрэсьбін, належалі куму і куме. Кумы павінны былі сядзець як мага бліжэй адзін да аднаго, каб у дзіцяці былі густыя зубы і каб жыло ў згодзе з другімі людзьмі.

Спецыяльнай абрадавай стравай на хрэсьбінах была бабіна каша. Падзел кашы суправаджаўся рознымі пажаданнямі дзіцяці.

На хрэсьбінах спяваліся прыпеўкі і пра кумоў:

*Кум куму любіў,*
*Па саду вадзіў.*
*А чаго ж мне кумы*
*Да й не любіці,*
*Па зялёнаму саду*
*Да й не вадзіці.*

***Запісана ў в. Азяраны Жыткавіцкага р-на***
***ад Шапавалавай Надзеі Юр'еўны, 1933 г.н.***

За дзень да хрысцін, а яны праводзіліся абавязкова ў нядзелю, бацька дзіцяці нёс у хату хросным бацькам і бабцы-павітусе хлеб-соль,

завёрнуты ў ручнік ці кавалак палатна, і запрашаў на хрысціны. На другі дзень з самай раніцы прыходзілі хросныя бацькі і бабка-павітуха. Яны ішлі не з пустымі рукамі: хросная маці брала з сабой "мятліка" (такі падарунак, які потым зносіць дзіця), бацька хросны браў грошы, а бабка несла адзенне, у якое будзе апранацца дзіця ў царкве. Спачатку бабка мыла дзіця вадою з мака, апранала яго адзеннем, прыказваючы: "Як я цябе адзявала, так штоб вяселле даждала. Дай, Бог, табе гэтае адзенне знасіці і нам усім любым быці. Каб ты, мой унучак, рос да прыбываў, да каралём стаў. А зараз я цябе хрышчу, перахрышчаю і да хроснай маці пасылаю" (у гэты момант аддае дзіця хроснай маці).

Калісь да царквы ішлі пешку альбо ехалі на конях. У царкве праходзіў абрад хрышчэння дзіцяці. Хросная маці на працягу ўсяго абрада трымала дзіця на сваіх руках. Той мятлік, што брала хросная з сабою, патрэбен толькі ў царкве. Калі дзіця хрысцілі і аблівалі свячонай вадою, мятлікам выціралі і аддавалі маці дзіцяці, каб тая абавязкова адзявала яго на дзіця. За хрышчэнне дзіцяці плаціў грошы хросны бацька і купляў крэшчык. Калі вярталіся з царквы, то ў хаце гаспадароў чакалі астатнія госці. За стол і на покуць садзілі бабку-павітуху, а за ёй кумаўя. Выпівалі першую чарку за бацькоў дзіцяці і дзіця. За сталом гаварылі, жартавалі, прыказвалі. Самым галоўным у гэтым застоллі была бабіна каша. Перад тым, як разбіць гаршчык з бабінай кашай, яе патрэбна было выкупіць. Выбіралі сярод прысутных самага гаварлівага і жартаўлівага чалавека, які быў лічыльнікам (лічыў, на якую суму пакладзе на гаршчык з кашай кум, кума, баба). Клалі на гаршчык не ўсё сразу, а паступова, а лічыльнік лічыў. Заўжды рабілі на канцы так, каб каша была кумава. І ён разбіваў гаршок з бабінай кашай. Лічыльнік назначаў суму за бабіну кашу і абавязкова плацілі бабі за яе кашу. Разбітыя кавалачкі гаршчыка кідалі на падол маладым маладзіцам, каб у тых таксама скора былі радзіны. На хрысцінах спявалі, танцавалі, жартавалі. Разыходзіліся госці аж за поўнач.

З хрысцінамі, як і з усякімі абрадамі, якія ідуць з чалавекам, звязаны розныя забабоны. Напрыклад, маці забаранялася ўваходзіць

у царкву ў момант хрышчэння. Лічылася, што пасля хрышчэння дзіця становіцца спакайней, лепш спіць. І як пройдуць хрысціны, такі будзе лёс у дзіцяці.

*Запісана ў в. Дзякавічы Жыткавіцкага р-на*
*ад Рагалевіч Вольгі Сяргееўны, 1936 г.н.,*
*Рагалевіч Кацярыны Аляксееўны, 1934 г.н.,*
*студэнткамі Толкач М., Дзяйкун М., Рымашэўскай Н.*

Жанчына, якая павінна народзіць, звалась парадзеля. На хрэсьбіны звалі блізкіх, бабку, якая перавязывала пуповіну, кума і куму. Парадзеля і яе муж звалі гасцей за стол.

Наварождзеннаму дзіцяці жадалі здароўя, каб доўга жыў і г.д. У концы застолля падавалі кашу. Кашу варыла бабка-павітуха з пшана ў гліняным гаршку. Кашу перакупалі. Наіболей даваў грошай кум (хросны бацька дзіцяці). Хто болей даў грошай, той і кашу дзяліў. Гаршок з кашай разбівалі аб стол. Раздаваў усім удзельнікам перакупу па куску кашы. Грошы аддаваліся парадзелі.

*Запісана ў в. Запясочча Жыткавіцкага р-на*
*ад Русай Ганны Іванаўны.*

Во і родзілось малэ. После яго рожэння не трэба нічого-нічого даваць з хаты тры дня. Ето для того, коб у хаці царыў покой, гетэ закрывало падход до сем'і і хазяйства тым, хто можэ навесці нячысту сілу і ўкрасці долю маленькага. Гетэ ж робілось, колі і хозяйство прыносіло прыплод.

Новорожанэ дзіцятко, колі ўносілі першы раз у хату, то клалі коло печы, там, дзе ложылі дрова, для того, шоб нечыста сіла побачыла з коміна, шо гето дрова, і потом не прыставала до дзіцяці, так дзіця будзе спокойнэ, і ешчэ дзіця, колі вырасце, будзе хозяйскім чоловеком. Потом дзіця клалі ў колыбель і вешалі над ім дзерэвянные цацкі з віду пташок ці жывёл, коб зашчыціць ад заговороў. Дзерэвянные пташкі вешалі на нітачцы на покуцці, шоб зашчыціць. Лялькі, зробленыя з онуч, ставілі на вокна, оны булі заступнікамі од ночніц – злых духоў, екія мучаць малэ по ночам.

Малэ трохі подростае і робілісь хрысціны. Бацькі малого вубіралі хросных, а баба була ўжэ з самого рожэння, вона і забоцілась об малом, пока родна маці окрыяе трохі. Бацько ішоў з хлебам-соллю

ў хату і до кума, і до кумы. Просіў іх охрысціць его дзіця. Отказваць у гетом не трэба ніколі, бо своіх дзецей можэ не будзь, колі хросны(а) молодые. Потом ідзе до бабы і ешчэ раз просіць бабу об помошчы. Баба прыходзіць перэд хрысцінамі (перэд тым, ек ехаць у цэркву), купае малэ, а колі ўваходзіць у хату, то сразу ж ідзе до колыбелі, ложыць туды грошы і прыговорвае: "А дай, Божа, етаму дзіцяці ўсякую долю ўзяці: і хлебовую, і солевую, трэцюю – здоровенькую". Говорыць, шо малэ нехорошы і плюе тры раза ўбок. Тут она доўжна его пакупаць і одзець нову одзежу. Баба гатовіць воду маломy і говорыць, шоб он чуў, шо ў водзе: "Во, мой дорогі, каб ты буў хорошы і чысты, я добаўлю чыстоцелу, а коб спаў добрэ – горбацу". Тут она доўжна вуняць немоўля з колыбелі і купаць, прыгаварвая: "Бог у воду, (імя) у воду". У канцы купання: "Бог з воды, (імя) з воды". Выціраючы і одзеючы малэ, вона говорыць: "Да сон, дрэмучкі ў вочэнькі, а здороўечко ў плечыкі. Да Прачыста Божа Маці будзе вашэ дзіцятко годоваці".

Потом прыходзяць кумоўя, і баба отдае дзіцятко куму, прыгаворвая: "Наце вам дзіця нарожанэ, а прынясіце хрышчонэ". Кумаўя ехалі ў цэркву, а дома готовіліса до прыходу госцей. Кумоўя верняліся з хрышчоным дзіцям, і ўжэ ўсе празнуюць. Спяваюць песні "Ой, кумка мая", "Ой вы, госці мае", "Рыкнула коровонька". Ужэ пры концэ баба выносіць кашу. Каша – гето самэ глаўнэ на хрысцінах. Баба ставіць на стол кашу і говорыць: "Годзі, Божэ, хлеб, кладзі, Божэ, статок, целяток на валу, дзеток на полу". Тут доўжны ўсе госці отдаць подаркі, і кум з кумою начынают торговацца. У рэзультаці кум усегда выкупае, але ж хоць і кума дасць больш, то ўжэ по закону кум б'е кашу. Кашу дзеляць, і ўсе расходзяцца. Маці і бацько малого даюць подаркі куму, куме і бабі. У подарку ўсегда доўжна буць буханка печаного хлеба.

*Запісана ў в. М. Малешаў Жыткавіцкага р-на*
*ад Шаўчук К. С., 1931 г.н.,*
*студэнткай Шаўчук Т.*

Даўней існавалі вераванні, звязаныя з цяжарнасцю жанчыны. Цяжарнай жанчыне забаранялася:

– пераступаць вяроўку, бо пры нараджэнні пупавіна перадушыць дзіця, вакол горла абаўецца;

– стаяць на парозе хаты, бо будуць цяжкія і працяглыя роды;

– прасіць у доўг, бо тое, што папросіш, з’ядуць мышы;
– працаваць, асабліва ў святы;
– хадзіць на могілкі ці на пахараны, бо дзіця народзіцца жоўтае.

У час родаў павінны былі прысутнічаць муж і баба-павітуха. Роды адбываліся ў хаце ці нейкай гаспадарчай пабудове. Цяжарная жанчына павінна была абысці вакол таго месца, дзе будзе ражаць, чытаючы пры гэтым малітву.

Пасля таго, як жанчына разрадзілася, баба-павітуха завязвала пупа, мыла дзіця. “Месца”, што выходзіла пасля дзіцяці, баба-павітуха забірала і закопвала пад печчу, каб ніхто яго не бачыў.

Калі ў цяжарнай жанчыны балеў жывот, яна ішла да бабак. Тыя ёй шэпчуць, “каб не разраджалася”. А пасля, перад родамі, жанчына ізноў ішла да шаптухі і тая зноў шаптала, каб “разраджалася”. Калі ж роды адбываліся цяжка ці цяжка жанчына выношвала дзіця, будучая павітуха тры дні насіла жанчыне яду і свечаную воду, каб тая хутчэй радзіла.

Важным было хрышчэнне – абарона дзіцяці ад нячыстай сілы. Звычайна кума выбірала кума. Таксама на хрысціны дзіцяці выбіралі хросную бабу.

Абрад хрышчэння дзіцяці адбываўся ў царкві. На хрышчэнне дзіцяці ехалі кум і кума. Маці і бацьку ехаць забаранялася. Пры хрышчэнні першым павінен прымаць дзіця кум і толькі пасля яго прымала кума. Спачатку дзіця ў царкві мылі свяцонай вадой, а затым яго падстрыгалі.

Абрад хрышчэння заканчваўся хрэсьбінамі, якія праводзіліся звычайна ў той хаце, дзе жыве дзіця. У хаце збіраліся родныя, суседзі. Кум і кума садзіліся на пачотнае месца.

Была каша, звараная бабай. Кашу ставілі на стол і куплялі яе, лажылі грошы, падаркі. У гэтым торзе патрэбна, каб перамог кум. Хто пераможа ў грошах, той і б’е кашу. Калі білі гаршок, гаварылі: “Дзе чарапкі б’юцца, там дзеці вядуцца”.

Пасля гэтага раздавалі чарапкі тым, у каго не было дзяцей. Затым усе госці гулялі, елі, спявалі:

*Ой, куме, куме,*
*Добра гарэлка.*
*Будумо піці*
*До понедзелка.*

***Запісана ў в. Рычоў Жыткавіцкага р-на***
***ад Рыдзецкай Г.М., 1932 г.н.***

***Хрэсьбінныя прыпеўкі***

*– Ой, ты, кум, куманёк,*
*Чыні сваю волю.*
*– Ой, хадзем, паскачэм,*
*Гайдучка, з табою.*
*Кацярына, кума мая,*
*А ў гародзе свіння твая.*
*Няхай рые, хоць начуе,*
*Бо салодкі корань чуе.*
*Кацілася, валілася*
*Калодачка з печы,*
*Ой, пабіла калодачка*
*Бабулечцы плечы.*

Кум разам з кумой, аддаючы дзіця бацьку пасля вяртання з царквы:

– Наце ваша раджонае, а наша хрышчонае. Судзіў Бог бачыць пад крастом, судзі, Божа, бачыць пад вянцом.

Як бабка ставіць гаршчок кашы на стол:

– Ну, гаспада, госці дарагія. Прасілі вас на хлеб, на соль, вось прашу і на бабіну кашу, прашу пакласці па чырвонцу.

Бабка, атрымаўшы падарунак ад парадзіхі:

– Дзякуй, унучка і ўнучак, за падаркі і піражок. Каб мой унучак, а ваш сынок вялікі рос і вяселлем трос.

Няхай Гаспод гадуе да долю гатуе.
Дай, Божа, прыждаць ды вяселле гуляць.
Дай жа, Божа, на жыццё, на быццё, на добрае здароўе, на доўгі век.
Каб свой розум і навука далі сыну сілу ў рукі.
Кумаўство не вялікае сватаўство.
Як не кум, то да кумы не падладжвайся.
Кума звяла з ума.
Кума ад кума без ума.
То не кума, што з кумам не піла.
Што радзіцца, усё згадзіцца.

***Запісана ў г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на***
***ад Акуліч Валянціны Міхайлаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Аксёнчык Ж.***

***Ды нашая Ганначка ў палозе ляжала***

*Ды нашая Ганначка ў палозе ляжала,*
*Ды захацелася ёй вішнёвага соку.*
*– Ды пазавіце Ванечку з току,*
*Хай ён прынясе мне вішнёвага соку.*
*– Як на сына, то буду стараццa,*
*А на дачушку – няхай выбачае.*
*– У нашом у садзе ўсе роўныя кветкі,*
*Сынкі, дачушкі – усе роўныя дзеткі.*

***А хто ў нас ды па ночцы ходзіць***

*А хто ў нас ды па ночцы ходзіць,*
*А хто ж у нас ды бабульку просіць:*
*– Бабулечка мая, галубачка мая,*
*Прыдзі ж ты ко мне, ды к моёй жане.*
*У моей жаны жыватoк баліць,*
*Жыватoк баліць, усю сярэдзіну ломіць.*
*– Унучак ты мой, галубочак мой,*
*Не журыся ж ты, каго Божа дасць.*
*Як сын, то пісаці будзе,*
*Як дачка, то вышываці будзе.*
*Як сын, малявана калыбелька,*
*Як дачка, лубяная каробачка.*

***Запісана ў г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на***
***ад Карась Валянціны Ігнатаўны, 1919 г.н.,***
***Кулеш Настассі Ігнатаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Аксёнчык Ж.***

Як бярэменная, то калі спужаесса, то не трэба хватацца за цело, бо дзіця будзе покрытэ пятнамі.

Нельзя лезці ў жэрдзіны.

Нельзя, як сціраеш, класці одзежу выкручаную на плечы, штоб пупавіна не завезаласа на шыі дзіцяці.

Нельзя на кладбішчы ходзіць, бо можэ зробіцца плохо, дзіця можэ родзіцца з жоўтою кожэю, бу ў мертвеца.

Нельзя гледзець у вокно, як везуць покойніка.

Калі ражала жэншчына, то звалі бабку-повітуху і роды прынімалі дома. Дома остоваліса толькі рожэніца, повітуха і баба, якія помогалі. Повітуха сама отрэзала пуповіну і завязвала яе. На другі дзень баба-повітуха прыходзіла муць дзіцятко, ужэ наварыць горшчык компоту да прынясе ўнуццы. Обмуваць обезацельно трэба було, потому што это шчытаецца, як бу ты его вубросіла на двор, но Бог его пудыме, і ён его сам обмуе. А сомой обмуваць нельзя. А еслі ты не обмула его, то это, шчытай, як ты яго вубросіла на поле. Калі жэншчына рожала, то трэба було, штоб людзей менш знало, штоб рожалоса легчэ.

Хрысціць везлі хросные бацько і маці, а родные бацько і маці оставаліса дома. Робілі отведкі і хрэсьбіны. Отведкі – это колі прыходзілі отведаць рожэніцу. А хрэсьбіны – это ўжэ покрысцілі дзіця і ўжэ кашу б'юць, і хто выкупе кашу, той і хросны бацько. Білі горшчык, і чэрэпкі клалі куме на галову. Калі яна была незамужняя, то яна ў той год пойдзе замуж.

***Запісана ў в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на***
***ад Купрацэвіч Ганны Пархомаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кудзелька Ю.***

# Калінкавіцкі раён

У час радзін баба вадзіла рожаніцу вакол стала, каб хутчэй разрадзілася.

Ваду, у якой збіраюцца купаць дзіця, тры разы хрысцяць, потым хрысцяць дзіця і прыказваюць: “Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Маці пакланюся. Прачыстая Маці, глядзі майго дзіцяці з вечара да поўначы, ад поўначы да ночы, ад ночы да свету. Глядзі жа маё дзіця да веку”.

*Запісана ў в. Антонаўка Калінкавіцкага р-на
ад Мінчанка Ганны Аляксееўны.*

Калі нараджаецца дзіця, то ў сям’і гэта вялікая падзея. Старэйшыя звалі бабку-павітуху, яна першы раз купае, спавівае, калыша ды напявае: “А-а-а, малое, а на лета другое”. Потым, калі дзіця крышку акрэпне, робяць хрысціны. Вязуць у царкву, бяруць кума ды куму. А дома тым часам гатуюцца, запрашаюць родных, суседзяў. Даюць дзіцяці імя, як правіла, у чэсць бабулі або дзеда, альбо якога-небудзь блізкага з сям’і чалавека.

На хрысціны варыцца тры кашы: хрышчонай маці, бацьку і бабулі-павітухі. Кладуць грошы, падарункі. Але самае цікавае, як гэта адбываецца, у выглядзе гульні “Запражыце коней”. Трое мужчын нагінаюцца, а жанчыны садзяцца ім на спіну і трымаюць у руках кашу, потым гэтыя коні павінны ўбрыкнуць седака. І просяць піць – ім даюць піць, потым павінны коні скінуць седака, але яны павінны крэпка трымацца, каб не зваліўся гаршок, ну а як зваліцца і паб’ецца гаршок, павінны выкупіць кашу. Купляюць кашу, хто болей дасць, таго і каша. Калі гаршок цэлы, не зваліўся ў седака, яго б’юць і дзеляць, а чарапкі ложаць на галаву маладзейшым, каб былі дзеткі. Тут жа дораць падарункі куме і куму, бабулі, а назаўтра пяклі пірагі, бралі падарункі, закручвалі іх, клалі ў каробку і насілі бабе, куме і куму. Калі дзяўчынка народжваецца, клалі сем пірагоў, а калі хлопчык – дзевяць. А потым яшчэ гуляюць “пакрышкі”. Вось так і заканчваюцца хрэсьбіны. А да хрысцін яшчэ ходзяць у адведкі, у суботу, пасля радзін ходзяць толькі жанчыны.

*Запісана ў в. Бярозаўка Калінкавіцкага р-на
ад Богдан Васіліны Сцяпанаўны.*

Дзяцей трэба было хрысціць на саракавы дзень пасля нараджэння. Але цяпер гэтае не робіцца. Дзяцей цяпер так не хрысцяць, бо бувае, што і праз год і ў дваццаць. Трэба дзяцей хрысціць абізацельна, бо раней нехрысцей не хавалі на могілках пасля смерці.

У Пост дзяцей не хрысцілі. У сходнія дні тожа. Калі ў сяле есць пакойнік, хрысціць дзяцей тожа нельга было.

Хросных выбіралі вельмі ўнімацельно. Хросная маці не далжна быць цяжарная. Калі выбіраюць кумоў, не трэба, каб яны былі муж і жонка. Не трэба, каб кумаўя адны ў адных хрысцілі дзяцей.

Кроме кумоў, выбіралі яшчэ і бабу. Ёй можа быць чужая жанчына. Яна варыла кашу і квас з грыбамі. Кашу варылі ў гліняным гаршчку. Калі ўжо прыязджалі з царквы, то садзіліся за стол, баба брала гаршчэчак з кашай і пачынала прадаваць яе куму. Кум плаціў бабе за ўсё: за крупы, за гаршчок, за дарогу, што баба везла кашу. Патом кум разбіваў гаршчок і пачынаў дзяліць кашу. Самую вярхушку аддавалі куме (маці хрышчонага дзіцяці). Астальную кашу рэзалі на долькі і за грошы аддавалі астатнім гасцям. Гэтыя грошы потым аддавалі мацяры дзіцяці, якога хрысцілі. Гаспадыня ў сваю чаргу адорвала кумоў падаркамі, а астальных гасцей частавала. Яна дарыла падарак бабе. Хросныя бацькі прыносілі падарункі сваёй куме і хрэшчэнніку.

***Запісана ў в. Вуглы Калінкавіцкага р-на***
***ад Бульскай Груні Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка Н. (2002 г.).***

Перад тым, як ехаць хрысціць дзіцятка, яго благаслаўлялі хлебам. А потым кум з кумою везлі дзіцё ў царкву. З царквы хросных з хрэснікам сустракала бабка ў вывернутым кажуху: “Дай, Божухна, гэтаму дзіцяці здароўя, радасці, багацця, каб бацькоў не цураўся, з людзьмі добрым быў”. Затым усе госці запрашаліся да стала. Самыя пачэсныя месцы займалі бабка і хросныя. Перш за ўсё бабку бацькі частавалі мёдам, а потым бацькі прапаноўвалі ўсім выпіць чарку за дзіцятка:

*А дай, Божухна, етаму дзіцяці*
*Усякую долю ўзяці:*
*І хлебавую, і салявую,*
*А трэцяю – здаровейкую.*

Увесь час хросныя, бабка і госці зычаць дзіцяці ўсялякага дабра, здаровейка, шчасцейка:

*А штоб наша ягодка*
*Бальшая расла,*
*Бальшая расла*
*І шчасліва була.*
*А дай жа, Божухна,*
*Етаму рабёнку долю!*
*І суджонаю, і раджонаю,*
*І тую вінчальную.*

Вельмі шмат песень спявалі пра кума з кумою ды пра бабку. А песні такія вясёлыя, з жартачкамі:

*А я ж і ету бабку,*
*А я ж і ету любку,*
*А я ж й бабкай не браў.*
*Ні часта хадзіла,*
*Ні смачна насіла,*
*Усё ўнучцы сваёй.*
*Першы раз к унучцы свае – юшку.*
*Другі раз к унучцы свае – калатушку,*
*Усё к унучцы свае.*

Вельмі любілі пець песні пра кума з кумою:

*Кума кума любіла,*
*К сабе ў госці звала.*
*– Ты, кума, ты, душа,*
*Саўсім кума хараша, красіва.*
*Кум к куме ў хату,*
*Кума куму букату.*
*Ты, кума, ты, душа,*
*Саўсім хараша.*
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў ножкі:*
*– Спасіба табе, кумок, мой галубок,*
*Што дамоўкі прывёз.*
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў пяткі:*
*– Дзякуй табе, мой кумок,*
*Што прывёз да хаткі.*

*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў пяткі:*
*– Дзякуй табе, мой кумок,*
*Што прывёз да хаткі.*

Але галоўнае на хрэсьбінах не гэтае, а бабіна каша. Калі госці добра пачаставаліся, бабка выносіла гаршчок з кашаю з такімі словамі-прыпеўкамі.

Потым бацькі адорвалі бабку і хросных. Бабцы звычайна дарылі прыгожую хустку. Хросная маці атрымлівала таксама ў падарунак хустку ці тканіну на спадніцу.

Маладыя не ўдзельнічалі ў хрэсьбінах.

Быць хроснымі – вельмі гонар. Звычайна гэта былі суседзі ілі радня. Галоўнае, каб людзі чэсныя, добрыя, працавітыя. І грэх было адказвацца.

***Запісана ў в. Гулевічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Шорап Марыі Іванаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Курылец С.(1999 г.).***

Роды прынімала бабка. Гэта бабка прыходзіла тры разы і ўсё прыносіць каробку гасцінцаў младзенцу. На трэці раз ужэ хазяін адарывае бабку – за младзенца. Бабка сама первы раз купае дзіця. В купель брасаюць сярэбраную манету і прыгаварваюць: “Штоб дзіця расло здаровае, умелае і абязацельна пачытала радзіцелей”. Первую рубашку бабка сваю (ёй прыгатаваную) адзявае малышу і тожа прыгаварвае: “Расці, дзіця, умнае, здаровае, адзяваем цябе ў жызнь бальшую. Жыві і прынясі людзям пользу, радзіцелям – радасць”.

***Запісана ў в. Залатуха Калінкавіцкага р-на***
***ад Шульга Еўдакіі Міхайлаўны.***

Хрэсьбіны мы праўлялі весела. За стол сабіралісь госці і паздраўлялі маці з навароджаным. Потым дарылі ім падаркі, а таксама і дарылі бабе, якая варыла кашу. Гучалі пажаданні маці навароджанага, навароджанаму, куме, куму. Потым выносілі кашу, і кожны стараўся яе перакупіць, але рабілі так, каб выкупіў яе кум. Кум біў гаршчок з кашай, і госці яе елі. Але, акрамя кашы, на стале даўжна стаяць юшка і хмыз, каб навароджаны быў багатым і не хварэў.

*Выйшла хмарка, выйшла цёмна,*
*А за ёю сіва.*
*Ці хто есь такі на свеце,*
*Як я нешчасліва:*
*– Ці ты мяне, мая мамко,*
*У купелі не купала,*
*Ці ты бо мне, мая мамко,*
*Шчасця не прохала?*
*– Ей Богу, мая доня,*
*Ей Богу, купала,*
*Толькі твая горка доля*
*У купель заглядала.*
*– Ці ты мяне, мая мамко,*
*У цэркву не насіла,*
*Ці ты бо мне, мая мамко,*
*Шчасця не прасіла?*
*– Ох, насіла, мая доня,*
*Ей-богу, насіла.*
*Толькі твая горка доля*
*Следочкам хадзіла.*

***Запісана ў в. Каплічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Кулага Таццяны Пятроўны, 1942 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Гарадок Лоеўскага р-на),***
***студэнткай Змушка Н.***

Родзіцца дзіця, бяруць бабу. Баба рыхтуе падарункі яму. Спачатку кутае дзіця, спавівае яго ў тое, што падрыхтавала на падарунак. Потым правяць хрэсьбіны. Едуць у цэркву, хрысцяць, бяруць куму і кума. Калі гэта навароджанае дзіця дзяўчынка, то баба пячэ тры пірагі, а калі хлопчык, то пяць пірагоў. Баба варыць кашу, квас, пячэ яшчэ якую-небудзь сваю страву.

Бабу садзяць на чырвоны кут (туды, дзе вісіць ікона), матку хросную і бацьку. Госці частуюцца за сталом. Баба разлівае квас па міскам, а кашу (каша зварана ў глінянам гаршку з круп пшонных, звязваліся ў вянок канфеты, якія ўпрыгожвалі вяршок кашы) павінны былі выкупіць у кума. Скідваюць усе грошы на кашу, але кум перакуплівае яе. Тры разы кум стукае аб стол гаршок з кашаю. Пасля гэтага кум

дзеліць кашу на ўсіх. Разбітыя чарапкі стараліся надзець на галаву незамужняй дзяўчыне, каб яна хутчэй выйшла замуж. Упрыгожванне ад кашы раздаюць дзецям. Далей свята працягваецца з песнямі і танцамі.

***Запісана ў в. Міроненкі Калінкавіцкага р-на ад Якавец Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.***

На пачатку хрэсьбін выбіралася кума, якая павінна была перахрысціць дзіця. Яна брала булку хлеба, драбок солі і крыху грошай. Хлеб і соль кума кладзе на стол і кажа: «Няхай жа добрае вядзецца!» Нельга гаварыць з кумам, калі дзіцё нясуць хрысціць, каб не было крыклівае.

Стол павінен быць ужо падрыхтаваны, на ім стаіць некалькі булак хлеба, прынесеных гасцямі, вялікая бутэлька гарэлкі. Хросных бацькоў з пашанай садзяць на першыя месцы. Дзед навароджанага налівае чарку гарэлкі, выпівае сам, а рэшткі вылівае ўверх са словамі: «Дай жа, Бог, штоб наш унук вялікі рос!» Ложыць капейку ў чарку, налівае ў яе гарэлку і перадае хроснаму бацьку. Той кажа словы, выплюхнуўшы рэшткі ўверх: «Каб наш хрышчонік так высока скакаў». Перадае чарку дзеду. Дзед, ложачы у чарку срэбную грыўню, налівае яе гарэлкай і перадае куме. Яна кажа тыя ж словы, што і кум. Тады пачынаюць частаваць гарэлкай усіх, толькі не кідалі ўжо ў чарку грошы.

Перадача ж чарак з грашыма хросным бацькам называецца «перапіваць кумоў».

Пасля «выпіўкі» пачынаўся абед. Ежа такая: квас, бліны, узвар. Пасля гэтага ставілі гаршчок з кашай. Гэта была бабіна каша. Гаршчок з кашай разбіваюць, і тады баба пачынае ўсім гасцям раздаваць па ложцы кашы. Кожны рукою браў кашу з ложкі, аў ложку клаў капейку. Сабраўшы ад усіх грошы і палажыўшы ложку кашы на талерку, баба перадае яе з талеркай парадзісе. Услед за гэтым ставяць на стол кашу хроснай маці.

Калі з’елі «кумаву» кашу – трэці гаршок, усталі з-за стала падпіўшыя, і паміж бабамі пачалася нарада!

– Калі рабіць змуркі, бо заўтра кума не прыйдзе да нас, ёй трэба прамыць вочы.

Баба бярэ кубак і, трымаючы на руках раздзетае дзіця, абліла яго вадой. Бацька дзіцяці прыносіць дзевяць галінак з лісточкамі, каб навароджаны дасягнуў дзевяноста гадоў. Стол накрываюць чыстым

абрусам, ставяць міску з галінкамі і такую ж другую з салодкаю гарэлкаю і, ложачы хлеб-соль, кажа: “Прамый жа, кума, вочы і рукі, каб не хварэлі”. Затым пачыналі спяваць хрэсьбінныя песні. Першай спявала баба:

*У нядзелю раненько*
*Бяжыць Іван к сваей бабусеньке.*
*Бабусенька дагадалася,*
*У адзін чобат абувалася;*
*Бяжыць яна боса і без пояса,*
*Бяжыць яна скарэсенько,*
*Просіць Бога шчырэсенько:*
*– Дай жа, Божэ, маёй унучцы*
*Лягесенько, дабрэсенько, скарэсенько!*

Усе госці глядзяць, як баба танцуе, а з парадзіхай пачынала развітацца. Парадзіха прапаноўвае падарунак. Ён павінен быць каштоўнешы тых грошай, якія яна атрымала ад кума.

У час хрысцін выконвалі спецыяльныя песні:

***Кума мая, кумачка...***

*Кума мая, кумачка,*
*Дзе жывеш ?*
*Чаму мяне ў госцейкі*
*Не завеш?*
*Яшчэ к таму сенечкі*
*Прыпляту,*
*З харошага дзераўца,*
*З асату.*
*Ці ты, куме, розуму*
*Пытаеш?*
*Ці ты маёй хатачкі*
*Не знаеш?*

*Тады цябе ў госцейкі*
*Пазаву,*
*Як свежае рыбачкі*
*Навару.*
*А вунь мая хатачка*
*Ля вады,*
*З высокага дзераўца,*
*З лебяды,*
*А свежая рыбачка –*
*Акунёк,*
*А любенькі госцічак –*
*Мой кумок!*

Калі бабка ставіць перад кумой гаршчок з кашай, адбываюцца прыгаворкі бабы і кума:

– Мой унучак, – ваш хрэснік, – кашу прыслаў, а бацька ягоны вінца здагадаў. Прашу адведаць, бабку пацешыць, унучка паславіць, маць з бацькай паздравіць.

З гэтай жа прамовай бабка звяртаецца і да іншых гасцей. Кум ад сябе і ад кумы адказвае:

– Наш хрэснік – прыветнік, не ўстаў узрасці, – вялеў кашу нясці, гасцей частаваць, дабра нажываць. Дай, Божа, здароўя яму, быць вумнаму, разумнаму, шчасліваму, багатаму, радзіцелям пацехай ва младасці, карміцелем іх старасці, а нам гуляць на радасці. Маць з бацькаю паздраўляем, прыбыткаў большых жалаем. Бабу за ўнука і ўгашчэнне прывячаем.

Бабка, кладучы на талерку тры грошы:

– Бог да нас чужаземца прыслаў і ад вас, дзядзькі і цёткі, успамогу ўзяць заказаў. Прашу чым яго падарыць, каб было за што мыла купіць, і прашу нікому не адмаўляць, бо будзе чужаземец смаракаваць, бо ён з далёкіх старон прыбыў і вас усіх накорміць і напоіць. Дайце, а не адмаўляйце. Гэты госць не прыбыў, каб век тут быць.

Бабка, атрымаўшы падарунак ад парадзіхі:

– Дзякуй, унучка і унучак, за падарунак і піражок. Каб мой унучак, а ваш сынок, вялікі рос і вяселлем трос.

Бабка на «муравінках», абвязаўшыся падараванай халсцінай:

– Каб мой унук вялікі рос, шчасліў быў! Каб на яго долю паслаў Бог уволю!

Кум, б'ючы кашу (гаршчок):

– Гадуй, Божа, малое, да каб на той год другое.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Пілiпейка Надзеі Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Афанасьевай С.(2003 г.).***

Нельзя берэменнай абразаць валасы, таму што ў дзіцяці ўма не будзе, жытку яму скараціць.

Нельзя берэменнай іголкай калоцца, таму як жыццё ў дзіцяці калючае будзе.

***Запісана ў в. Варатын Калінкавіцкага р-на***
***ад Асацкай Марыі Савельеўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Шуман В.В.***

# Кармянскі раён

Бяруць кумоў, бабу. Сабяруцца. Баба кашу вара, падаркі нясуць. За сталом п'юць, гуляюць. Потым нясуць чугунок, у які могуць пасадзіць пеўня. Так тры разы носяць абы-што, а на чацвёрты нясуць кашу. Бабка гаворыць: "Я кашу зварыла з лімонамі, а вы прыходзьце з мільёнамі. У мяне каша з канапелькамі, а вы прыходзьце з капейкамі. Прашу на кашу!"

Кашу падкідвалі тры разы кум з кумой. Разам з кашай падкідваюць тры разы дзіця. Потым б'юць кашу аб стол. Тады кашу рэжуць, спачатку даюць маладым, а потым астатнім гасцям. Чарапкі ад гаршка клалі на галаву адзін аднаму, бралі дамоў, каб свінні вяліся.

Бабу садзілі на барану і вазілі па вёсцы.

*Запісана ў в. Акцяброва Кармянскага р-на*
*ад Сітнікавай Таццяны Афанасьеўны, 1927 г.н.,*
*Пацёмкінай Яўгеніі Андрэеўны, 1925 г.н.,*
*Красоўскай Надзеі Іванаўны, 1931 г.н.*

Бярэменная жанчына – гэта самая красівая жанчына. Дзеўкі, якая насіла дзіця, нельзя было абразаць валасы, глядзець на пакойнікаў і хадзіць на пахароны. Калі яна абпеклася, нельзя сразу хватацца за тое месца, а то астанецца пятно ў дзіцяці. Также нельзя было ёй пераступаць ката і штоб кот не перабягаў паміж ног – будзе шэрсць у дзіцёнка.

Штоб абараніць ад урокаў, то прышпульвалі шпільку ля цела. Нельзя было калыхаць пустую каляску, бо, гаварылі, што дзіця памрэ. Нельга было есці са скаварод і многа работаць. Трэба было толькі берагчы здароўе і свайго будушчага рабёнка.

Калі ражала, тады стараліся адпіраць усе замкі, знімалі кольца, штоб ёй харашо было і лёгка радзіць свайго дзіця. Калі родзіць, то малога нікому не паказвалі, штоб не зглазіць. Малога да году не стрыглі. Калі яго пакупаюць, то тую ваду вылівалі пад бярозку.

Патом малога хрысцілі. Адразу выбіралі куму і кума, бабу. Незамужнюю дзеўку не бралі, бо яна не выйдзе замуж. Ехалі ў царкву, хрысцілі малога. Калі малы заплача пад хрэстам, то ён будзе шчаслівым. Калі выносілі малога з цэрквы, то хросны падымаў яго ўверх і праносіў прама, штоб яго жызнь ішла толькі ўверх і больш нікуды.

Баба гатовіла кашу. Гэту кашу кум разбіваў аб вугал стала. Бабінай кашай даўжны ўгасціцца ўсе госці, тады зубы не будуць балець. А чарапкі даюць незамужнім дзеўкам, каб быстрэй выйшла замуж. Але асколкі хватаюць усе. Прыносілі іх дамоў і кідалі ў сарай, каб усё вялося.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Кузьмянковай Фаіны Антонаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кузьмянковай С.***

Калі нараджаецца дзіця, завуць бабку. Бабка гэта перабабе (адрэжа пуп). Хрысцілі дзіця не раней чым праз тры нядзелі пасля нараджэння. Баба гатавала кашу з пшана, якую ўпрыгожвала. Кум тады разбіваў гаршок з бабінай кашай аб стол. Асколкі ад гаршка госці бралі сабе, а кашу дзялілі на ўсіх. Калі прыносілі асколкі дахаты, то кідалі свінням у хлеў, каб вяліся. Малога абкладвалі гасцінцамі, чарапкамі, каб быў багаты і крэпкі.

Нельга называць дзяцей імёнамі памершых раней. Падбіралі ж імёны па царкоўнаму календару.

Калі жанчына была цяжарная, то ёй нельзя было прапускаць кошку паміж ног, бо ў малога на плячах будзе кашачая шэрсць.

***Запісана ў в. Берастанец Кармянскага р-на***
***ад Максіменка Кацярыны Іосіфаўны, 1932 г.н.***

Хрысцяць звычайна ў нядзелю. Прыходзяць будучыя хросны бацька і маці да роджаніцы. З сабой яны нясуць падарункі да хрэсніка ці хрэсніцы, але дораць іх пасля таго, як дзіця пахрысцяць. Збіраюцца, маці дзіця апранае яго ў новае адзенне і аддае хлопчыка будучай хроснай, а калі дзяўчынка, то бацьку.

У нас за хросных можна было браць каго хочаш. Некаторыя бралі толькі родных, ну, з сваёй сям'і, але часцей бралі за хросных паважаных людзей. Таксама ў нас лічылася, што калі бралі за хросную незамужнюю дзеўку, то лепей, калі б яна хрысціла першага хлопчыка, бо ні ён, ні яна ў адзін аднаго шчасця не возьмуць, а дзяўчынку лепей не хрысціць, бо тады ці хросная шчасце ў сваёй хрэсніцы забярэ, ці хрэсніца.

Затым едуць ці ідуць у царкву. Хросная маці бярэ з сабой кусок мацер'ялу якогасьці ці палаценца. У царкве таксама бацька хросны павінен трымаць дзевачку, а маці – хлопчыка.

Калі ў роджаніцы дзіця было вельмі хворае ці проста нядужыла, то за хросных бралі незнаёмых людзей: выходзіў бацька з дому, каго бачыў, таго і браў. Часам і імя дзіцёнку такому давалі хроснай ці хроснага.

Калі вярталіся з цэркавы, то заносілі дзіця ў хату і перадавалі бацькам, гаворачы: "Бралі навароджанага, нясом вам хрышчонага". Роджаніца бярэ дзіця і ложыць яго на вялікую падушку, на якой ужо пасцяліла новае пакрывала.

Госці (першая – бабка) падыходзяць да дзіцёнка і дораць падарункі. Часцей дораць грошы, якія ложаць пад падушку, дзе ляжыць дзіцё, гавораць пажаданні. Затым падыходзяць хросныя бацькі і таксама нешта дораць.

Пасля ўсе госці садзяцца за стол. На шаноўнае месца содзяць бабку і хросных. Пачынаюць есці. Ну, песень такіх, дзе бабку хваляць ці хросных, як-та не спявалі. За сталом размаўлялі, дзіцю шчасця жадалі. Гаварылі, на каго пахожы і што хросныя павінны памагаць свайму хрэсніку ці хрэсніцы, павінны і бацькі іх паважаць.

Затым маці дзіця гаворыць, што зварыла кашу, пачынаюць таргавацца за яе. Таргавацца маглі і бабка, і хросны. Кашу могуць падменьваць: канхвет туды насыпаць ці баранкаў. Але потым прыносяць сапраўдную, і разбівае яе хросны, бо ён дае большую суму грошай за кашу. Маці дзіця дае яму палаценца, ён ставіць туды гаршок з кашай, завязвае вузлом, каб гаршок не выпаў, ну і як замахваецца, каб стукнуць аб стол, то маці дзіця падкідвае ўгору, і так столькі разоў, колькі хросны замахваецца. Звычайна на трэці раз гаршок ужо разбіваецца. Слоў маці ніякіх не кажа. Уздымае так дзіця, каб расло, здаровым было.

Ну і хросны потым разматвае палаценца і на чарапках дае гасцям кашу, дзецям таксама раздаюць. Усе пасля зноў сядаюць есці.

Потым возяць бабку: зімой – на санях, а так то на карчы, то на баране. Смяюцца ўсе, бо бабка можа і зваліцца. Ну, потым хто дамоў ідзе, хто йшчэ застаецца. Песні спявалі розныя.

***Запісана ў в. Вашчанкі Кармянскага р-на***
***ад Гайковай Евы Мікалаеўны, 1933 г.н.***

Цяжарная жанчына называлася рожэніца, а тая, якая не магла імець дзяцей, – бяздзетная. Калі жанчына нараджала незамужняй, гаварылі: радзіла ў дзеўках.

Калі жанчына чакала дзіцё, старыя людзі во што гаварылі. Калі ідзеш куды і ляжыць во падохшы сабака, скаціна якая, штоб не плювалі і не глядзелі. Толькі ета во ён ваняе здахляцінай, еслі дзіцёнак родзіцца, то ў дзіцёнка будзе з рота ванець здахляцінай.

Для аблягчэння родаў саветавалі пабольш работаць, штоб у жэншчыны развіваўся таз, расшыраўся і штоб ей было лёгка паражаць, а сільна цяжолага падымаць нядьзя, а работаць было можна, штоб двігацца.

Пры родах прысутнічалі свякруха і бабка, якая ўмее прымаць дзіця і бабіць. Каб лягчэй ражаць было, расплятаді валасы. Калі дзіцё радзіцца, абразаюць яму пупавіну. Хрэсцяць абычна цераз месяц, а то бывае, што быў дзіцёнак гадоўлены, а то і памрэ. Калі ўмер нехрышчоны, тады яго хароняць у бок кладбішча.

Адрэзаная пупавіна, што ў рабёнка, тая пупавіна няхай у табе храніцца, а то некаторыя яе на кут закапваюць, штоб твой дзіцёнак быў усігда ў пачоці і ў павазі. Бывала, што рабёнак раждаўся ў двух сарочках – гэта ён будзе шчаслівы. Некаторыя гэтыя сарочкі храняць, а некаторыя вмесце з пупавінкай на кут закопваюць.

Апошні рабёнак у сям'і называўся падшкробак меншы. Матка з бацькай гавораць: "Гэта мой хлебнік, будзе ўжо мяне хлебам карміць да смерці. Астальныя параз'язджаюцца, а гэты ўжо карміць будзе". Да хрышчэння было такое, што скрывалі імя, якое хацелі даць дзіцёнку. У хросныя выбіралі тых, хто панравіцца. Вось панравілася мне гэта суседка – будзь кумой. Я нясу ей хлеб, соль: "Прыдзі ка мне кумой заўтра, павязем хрысціць".

Прыязжаем у царкву. Бацюшка ўжо перакрышчае, вязуць з цэрквы. Хросная, эта ўжо каторая ўзялась за куму, яна падарак ложа, уматвае дзіцёнка малога падаркам сваім. А патом ужо матка ў канцэ хрэсьбін дае свае падаркі.

Калі ў царкву ехалі хрысціць, пераязджаюць мост і хлеба назад кідаюць, штоб усё харашо было, каб "свадзьба" сабачая не сустрэлася. Нельга, патаму каб дзеўка была небалаўная і хлопчык, адзінакава.

Кашу варaць на хрэсьбіны, тады вараць кашу і напаследак б'юць кашу. А падаркі аддае хазяйка хросным сваім, а яны на кашу грошы ложуць. А дзіцёнка тады, калі кум кашу падымае, падымаюць уверх, качаюць, штоб ён большы рос.Тры разы падымаюць. Кум кашы падымае гаршок, такі прымер дае к сталу, штоб разбіць, а маць свайго рабёнка ўгору падымае. Вот кум на трэці раз гаршчок разбівае, і ўсе

тыя чарапкі ложацьмаладым на голавы, штоб ражалі хлопчыкаў. Чарапок – гэта хлопчык, і таму кожнаму чарапок на галаву клалі.

Та бабка, што бабіла дзіця, яна на куце сядзела, кашу варыла, а хросны ўжо кашу ету далжон біць. Носюць яшчэ падманную кашу. Курыцу ў гаршок ці чыгунок пакладуць. Кашу носяць тыя, хто гуляе за сталом. Тыя двоя мужык і з жэншчынай, або дзве жэншчыны, але толькі це, каторыя яны з мужыкамі, каторая ўдава, той не разрашаецца кашу падманную падношаць.

На хрэсьбіны сабіраюць усіх з родства свайго, саседзей завуць, тых, хто ў вадведкі праходжае, абязацельна завуць.

Во падманную кашу як падношаюць. Бульбы накладуць у чыгунок і возьмуць на качаргу якую ці на палку, удвух нясуць і падаюць:

–На, бабачка, тваю кашу.

Баба прымае гэты чыгунок і гавора:

– Не, мае людачкі, мае дзетачкі, ета не мая каша, мая каша ў гаршочку з пшоннымі крупамі і наверсе там канфеты, а ета не пахожа на маю кашу, нясіце яе назад.

– Не, не. Мы не панясом.

Яна за яе ды на кут, пад скамейку. А тады ўжо выходжае дзіцёнак бабкі і яе мужык. Яны нясуць бабіну кашу.

– Во, баба, нясе ўжо ўнук тваю кашу.

– Во, во, мой унучак, гэта мая каша, давай, давай яе сюды.

Баба становя яе на стол і прыгаворвае:

– Мае людзечкі, мая каша з лімонамі, а вы, дарагія людзечкі, з мільёнамі. Мая каша з канапелькамі, а вы, мае людзечкі, з капейкамі.

І ета во баба ўжо на кашу прыглашае людзей, штоб яны дарылі падаркі. Там спорка е такая, хоць болей ты пакладзеш, усё раўно гэту даверанасць куму даюць кашу біць. Спачатку ўсе таргуюцца: "Я болей..."; "Я болей...", а ўсё раўно кум будзе біць. І з кума вымагаюць, каб ён болей паклаў.

А еслі ў яго няма ў кармане болей, усё раўно кум даўжон біць ету кашу. А ўжо патом бабу прыводжаюць дамой.

– А, баба, павязем цябе дамой.

І во еслі зіма, то на санках, еслі лета, то на калёскі во ета содзюць і хутка вязуць дамой. Баба ета дае ўжо людзям угашчэнне, і яны гуляюць у яе.

***Запісана ў в. Вынашаўка Кармянскага р-на***
***ад Радчанка Ганны Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***Міхайлоўскай Еўдакіі Антонаўны, 1927 г.н.***

Калі жанчына была рожэніца, то старыя людзі во што гаварылі: на скаціну здохлую, што ляжыць, нельзя глядзець ці пляваць, бо народзіцца дзіця і будзе ў яго з рота смярдзець здахляцінай. Нада была работаць, толькі сільна цяжкага не падымаць, тады роды будуць лёгкія. Пры родах прысутнічалі свякруха і бабка, што ўмее бабіць. Каб лягчэй ражаць было, расплятали валасы.

Хрэсцяць цераз месяц. Да хрышчэння было, што скрывалі імя, а ў хросныя бралі таго, хто панравіцца. Як вязуць з царквы, хросная, што ўзялась за куму, падарак ложа, уматвае дзіцёнка падаркам сваім.

Дома ўжо тожа хрысціны. Кума і бабка на пачотным месцы, а бабка аддае кашу паверанаму, каб спратаў. Садзяцца, угашчаюцца, п'юць. І тут ужо хазяева даюць бабке кашу, але абманваюць – ката ці пеўня ў гаршчок садзяць, каб смешна было. На другі раз чаркі п'юць і кашу настаяшчую ўжо. Бабка бярэ кашу і ўсе дораць падаркі.

Хто-небудзь выкупае ў бабкі кашу, штоб пабіць. Кашу дзелюць, а асколкі ложаць кожнаму на голаву, каб дзеці былі. Патом ідуць гуляць к бабке, к куме.

***Запісана ў в. Высокае Кармянскага р-на***
***ад Кавалёвай Ганны Ягораўны, 1930 г.н.***

Пасля родаў жонцы муж кліча бабу. Тая прыходзе з пялёнкамі. Потым яна дзіця перабабе (адрэжа пупавіну).

Прыкладна праз нядзелю звалі на хрэсьбіны (гукалі). Кум, кума, дзед і баба нясуць есці. Ад бабы падарункаў ніякіх не бралі. Потым, калі ўсе сядзелі за сталом, кум бярэ ступу, стукае ў яе і прыгаворвае: "Каша твая, баба, яшчэ не зварылася!" Садзяць у вядро ката і гавораць: "Ой, каша жывая, плоха зварылі!" Баба адказвае: "Не, гэта не мая каша". Потым садзяць пеўня, курыцу, і так тры разы.

На чацвёрты раз лажылі кашу. Кум гаворыць: "Бабка, твая каша салодкая. Мая ж каша з лімонамі, а ваша (на гасцей) – з мільёнамі". І на блюдца ложаць усё, што могуць, аддаюць гэта родцы. Потым, наліўшы ў кружку вады, бяруць малога, а кум – кашу і падкідваюць уверх тры разы дзіця і гаршок з кашай, пасля чаго аддаюць малога маці. Кум разбівае кашу, у чарапках усім раздае.

***Запісана ў в. Зяткавічы Кармянскага р-на***
***ад Марозавай Ганны Іванаўны, 1924 г.н.***

Калі ражала, то нельзя, каб зналі чужыя людзі. Звалі бабку, каб абрэзала пупавіну. Калі ражаеш, то нада расплятаць валасы, рашпільваць усе гузікі. Нельзя называць дзіцятку імём памерлага з родзічаў. Хрэсьбіны гулялі цераз тыдзень або месяц. Заўсегда ў нядзельку хрысцілі. Бацюшка перахрэшчыць, едзем з царквы.

Варуць кашу на хрэсьбіны, даруюць падаркі. Куму трэбачкі выкупляць кашу ў бабы. Яму можна дапамагаць. Як толькі ён выкупіў кашу, то разбівае яе з гаршочкам. Бабу хросную вазілі на баране ці ў калясцы. А як разаб'юць кашу, то матка дзіцятку паднімала даверху тры разы, каб здаровым расло.

Бярэменнай нельзя стрыгчы валасы, шыць у сьвяты і нядзелю.

Калі спужаешся, то нельзя брацца за жывот.

Нельзя сільна хваляваціца, то будзе нервны дзіцятка.

Нельзя біць сабаку і кошку, то будзе шэрсць у дзіця.

*Запісана ў в. Куракаўшчына Кармянскага р-на*
*ад Лашкевіч Марыі Лявонаўны, 1926 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Малашкі),*
*студэнткамі Смірновай І., Прудніковай І.*

Бярэменнай жанчыне нельзя было красць – рабёнак будзе злой.

Нельзя чэраз парог пераходзіць і смецце выносіць.

Нельзя было бярэменнай жанчыне ката трогаць і сабак біць.

Чужым людзям нельга знаць, када роды. Калі жанчына ражала, то, штоб лягчэй было радзіць, вось тыя вугалькі, што выпадаюць з печы, іх сабіраюць і даюць парадзіхе. Калі роды, дык ужо завуць бабку.

Пасля таго, як жанчына нарадзіла дзіця, ей нельга хадзіць у царкву шэсць нядзель. А пасля ўжо ўводзіны: яна прычашчаецца сама і нясе да прычасця рабёнка. Калі мальчык – нясуць яго да алтара, а як дзевачка, то толькі к "царскім варотам". Да ўводзін жанчына не далжна бываць і з мужам умесце. Гэта ўжо грашно.

Выбіраюць бабку і дзеда. Хто выбірае па ўважэнню, па пачоту, а хто і па выгадзе, штоб багаты быў.

Бабка к хрэсьбінам гатовіцца, варыць кашу. Кашу варац так: пшонныя крупы прамываюць харашо, варац у печке кашу, гаршочак красівенькі, выкладаюць тую кашу, штоб была з маслам і з сахарам. І ложаць у гаршочке і з бугарочкам, і ў печ. І ўжо ідзе бабка з кашай і з падаркамі.

А перад хрысцінамі бабка далжна тры разы атведаць "унучку" сваю – парадзіху з рабёнкам. Парадзіха з мужам – гэта "ўнукі" называюцца, а рабёначак таксама бабе "ўнук". Тры разы прыходзіць бабка, прыносіць падаркі, купае маленькага, а парадзіха ўжо яе ўгашчае. Ну, а патом хрысціны.

На хрысціны бяруць кума і куму – каго ўважаюць. Вязуць рабёнка хрысціць. Кум дзержыць яго на руках, потым перадае куме. Поп пахрысціць, і кума ўжо нясець рабёнка з царквы.

І дома ўжо пачынаюцца хрысціны. Садзяць кума на пачотным месцы і бабку на самым пачотным месцы. Бабка аддае кашу паверанаму, і ён яе прача. Першы раз садзяцца за стол, угашчаюцца, выпіваюць.

І тут ужо хазяева ("унукі") падносяць бабке кашу, але абманываюць: падносяць ката ці пеўня ў гаршке, штоб смяшно было. І на другі раз тры чаркі п'юць і падносяць ужо настаяшчую кашу. Прыдумваюць што-небудзь для інцярэсу: "каня" зробяць – аднаго чалавека накрыюць, а другі вярхом сядзіць і ўжо вязе кашу.

Бабка бярэ кашу і прыглашае ўсіх дарыць падаркі і гаворыць пры гэтым: "Мая каша з пірагамі і з лімонамі, а вы на яе кладзіце мільёны". Або так: "Лажыце мне грошы, каб жызнь была харошай". Ці яшчэ як-небудзь. Усе ложаць свае падаркі, хто што прынёс.

Потым кум выкупае ў бабкі кашу, каб пабіць. З яго ўжо цягнуць патрошкі. Хто-небудзь другі бярэцца: "Я паб'ю кашу!" Тады ўжо кум таргуецца, дае больш грошай, выкупае кашу. Тады ўжо з кумой разам на платочке падымаюць кашу тры разы. У гэты час падымаюць і рабёнка тры разы, штоб быў здаровы. На трэці раз кум б'е кашу.

Сначала, як раздаваць кашу, раздаюць гаршок з кашы. Бабка аддае "ўнучке" чарапкі. Яна ложыць іх на тарэлку і ўносіць. А тады кашу рассыпаюць і дзелюць па кусочкам. Асколкі гаршка імкнуцца палажыць кожнаму на галаву, каб былі дзеці. Могуць і старыку палажыць для смеха, для шуткі.

Пасля таго, як гулянне кончылася, значыць, бабу нада везці дамой. Бабку вязуць дамой для таго, каб яна ўгасціла ўсіх. На тачке

вязуць, на санках. Могуць і занесці бабку, толькі б яна ўгасціла. А пасля к куму ідуць і к куме і гуляюць.

*Запісана ў в. Літвінавічы Кармянскага р-на*
*ад Балаўцовай Валянціны Фёдараўны, 1931 г.н.,*
*Караедавай Сцепаніды Мацвееўны, 1925 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Ударнік Лельчыцкага р-на).*

Бярэменнай жанчыне не разрашалася нікому дарогу пераходзіць: можа ёй случыцца плоха.

Не нада ні з кім ругацца, каб жа і дзіцёнак не быў такі.

Нельга бярэменнай жанчыне садзіцца на парозе – плоха ей будзе.

У калодзеж нельга глядзець, каб плахі дзіцёнак не быў.

Стрыгчыся нельга, каб не было дзіцёначку дрэнна.

Што папросе бярэменная жанчына, то даюць, каб мышы не елі нічога ў хаце.

Калі жанчына збіралася ражаць, нікому не расказвалі, ніхто не знаў. Бабка прыдзе, паглядзіць, ці правільна дзіцёнак ідзе.

Дзіця народжанае бабку звалі мыць. Пупавіну з “местам” і “рубашку” закопвалі ў зямлю, дзе людзі не ходзяць. Задушаных і народжаных мёртвымі дзяцей хавалі пад парогам.

Як купалі ў першы раз дзіця, то заварочвалі ў бацькаву рубашку, штоб рос.

У адведкі да парадзіхі маладыя дзяўчаты і бярэменныя жанчыны не хадзілі.

Жанчына пасля родаў не хадзіла ў царкву шэсць нядзель, а потым ідзе з дзіцём у царкву – уваходжаецца.

На хрэсьбіны варылі кашу з пшана, бабка варыла. Была і падманная каша: курыцу ці ката прынясуць. Разбіваў кашу кум. Бабку потым вазілі на калёсах дамоў, і кумоў вазілі.

Калі ў сям’і памiралі дзеці, то бралі першых сустрэчных кумоў. Ідзець, устрэце: “Хадзі ка мне ў кумы”.

Калі нараджалася двойня, то бралі двух кумоў, а кума адна.

*Запісана ў в. Хізаў Кармянскага р-на*
*ад Сапроненка Ніны Сільвестраўны, 1913 г.н.,*
*Аляксеенка Надзеі Нікіфараўны, 1913 г.н.,*
*Стэльмаховай Тацьцяны Іванаўны, 1914 г.н.*

Кагда жанчына станавілася бярэменнай, ну, гэта ўсё мне расказвала мая мамуленька, а хто ёй ужэ расказваў, я не ведаю, то шчыталі, што яна станавілася як бы закрытай ад усякіх дрэнных сіл.

Матулечка гаварыла, што дажэ злыя сабакі не гаўкалі на бярэменную. Бярэменнай нельга было шыць, вязаць, насіць цяжкія вешчы.

Кагда прыходзіў час раджаць, то з дому ўсе павінны былі выйсці, асабліва ўсе мужчыны. Кагда роды былі цяжкімі, то жанчына, якая прымала роды, што-та шаптала і давала піць нейкія травы бярэменнай.

З калодца прыносілі ваду, награвалі яе, прыносілі многа чыстых белых трапак. Дзіцёнка на рукі бралі толькі накрытымі рукамі, штоб ён не балеў, быў багатым і шчаслівым.

Маці гаварыла, што дзіцёнка трэба крысціць на саракавы дзень пасля яго нараджэння. Па праваслаўным календары кожны дзень мае сваё імя, дык вось, кагда крэсцяць дзіця, то даюць яму тое імя, якое было ў гэты дзень.

У царкве давалі яшчэ імя, але бацькі не заўсёды даўжны былі яго каму-нібудзь гаварыць. Шчыталі, што яно абараняе дзіця ўсё яго жыццё.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрыновіч Зінаіды Паўлаўны, 1931 г.н.***
***(нарадзілася ў Кармянскім р-не).***

# Лельчыцкі раён

Каб абараніць парадзіху і нованароджанага ад сурокаў, шапталі ўрокі.

Спачатку бацькі хросныя везлі хрысціць дзіця ў царкву, а потым пасля хрышчэння прыязджалі дахаты і садзіліся за сталы. У час хрэсьбіннага святочнага стала гучалі розныя песні.

Калі баба прыносіла кашу, то пачынаўся торг паміж кумам і кумою за бабіну кашу. Хто з іх больш паложыць грошай, той і разбівае кашу, і кум патроху раздае кашу ўсім гасцям. Таксама на кашу кладуць грошы і госці. Потым бабка дзеліць грошы з мацер'ю. Яшчэ лічылася, што каму пападзе ад гаршка асколак, у таго яшчэ будуць дзеці. Госці зычылі яшчэ і навароджанаму, і яго маці шчасця, здароўя, усяго самага найлепшага.

Выконвалася шмат песняў, прысвечаных куму і куме, дзе іх часта высмейвалі. Нават гаварылі: "Што за кума, што пад кумам не была?"

*Ох, зялёны дуб развіваецца,*
*Ох, кум да кумы сабіраецца.*
*Ох, кумка мая, прынясу я жыта.*
*Ох, не нясі, куманёк, бо я буду біта.*
*Ох, кумка мая, прынясу я грэчкі.*
*Ох, кум, не нясі, будуць супярэчкі.*

У нас бабіна каша назву ніякую не мела. Песні спяваліся розныя вясёлыя. Да кашы абавязкова падавалі мёд, каб жыццё немаўляці было такім жа салодкім, як гэты мёд.

***Запісана ў в. Букча Лельчыцкага р-на***
***ад Сушчык Надзеі Раманаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ліпаўскіх Н.***

Бабку-павітуху садзілі на покуце. Яна прыносіла з сабой гаршок кашы. Калі за сталом вып'юць па тры разы, то на кашу пачынаюць лажыць грошы (хто колькі хоча), зразаюць верх кашы і разам з грошамі аддаюць парадзісе. Далей грошы пачынаюць лажыць бабцы, а той, хто паложыць грошай больш за ўсіх (звычайна гэта хросны), б'е гаршок і яго кускі кідае маладым жанчынам, каб ражалі дзяцей. Пасля гэтага пачынаюць збіраць грошы навароджанаму і жадаць найлепшага жыцця.

Хрэсьбінны стол завяршаецца падзелам кашы. У гэты момант выконваліся песні, прысвечаныя бабцы-павітусе, хвалілі яе кашу.

*Запісана ў в. Букча Лельчыцкага р-на*
*ад Ляхавец Марыі Якаўлеўны, 1934 г.н.*

Хрэсьбіны святкавалі вельмі цікава. Галоўнымі на хрэсьбінах былі бабка, кум і кума. Бабка павінна была варыць кашу. На пачатку хрэсьбін усе госці сядаюць за святочны стол. Потым адорвалі нованароджанага сваімі падарункамі. Потым, амаль у канцы свята, кум браў гаршок з бабінай кашай і разбіваў. Кашу дзялілі на ўсіх. Даюць падарунак і бабцы. Асколкі з гаршка госці кідаюць адзін на аднаго (за баку). У час раздачы кашы гаварылі: "Не каша добра, баба добра. Каб баба была здарова". Хрэсьбіны завяршаліся кашай, а таксама пажаданнямі дзіцяці, парадзісе і ўсёй сям'і.

*Запісана ў в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на*
*ад Зубрэй Настассі Васільеўны, 1945 г.н.,*
*студэнткай Міхалевіч Н.*

Кагда жэншчына ражала дзіця, бабы яе завешвалі на ложку прастынямі, каб ніхто не сурочыў, не зглазіў. Роды прымала бабка-павітуха. Бальніц не было, і таму бабка прымала дзіця. Родная баба навароджанага пякла кашу ў гаршчочку. Прыходзілі родственнікі з гасцінцамі. Кум доўжан быў пабіць гаршчок з кашай, а бабкі даць дзеньгі (выкуп за кашу), а навароджанаму аддаюць усе гасцінцы.

Калі прыходзілі наведываць роджаніцу, прыносілі што-небудзь пячонае: блінчыкі, пампушкі, сухарыкі, булачкі. Нада было абязацельна памакаць пампушку ў сметану, а потым пакачаць у сахары і даць жэншчыне.

Мужчыны на радзіны не хадзілі. Дзве нядзелі хадзілі жэншчыны. А ўжэ на хрэсьбіны завуць і мужчын, і жанчын.

*Запісана ў в. Дуброва Лельчыцкага р-на*
*ад Астаповіч Вольгі Фядосаўны, 1946 г.н.,*
*студэнткай Лаўровай Ю.*

Не можна біць нагою ката, бо дзіця будзе хрыпець. Наогул не можна біць нагамі ніякай жывёлы, лічыцца, што дзіця народзіцца з поўсцю на патыліцы.

Нельга пераступаць вяроўку, ніткі, бо пры нараджэнні пупавіна абматае шыю дзіцяці і можэ его задушыць.

Не можна піць воду з ведра – у дзіцяці будзе сіня пераносіца.

Нельга перадразніваць ці прыглядацца да людзей з фізічнымі недахопамі, а то дзіця перойме гэтыя недахопы.

Нельга казаць, што што-небудзь ваняе, трэба казаць, што пахне, бо ў дзіцяці будзе непрыемна пахці з рота.

Не можна выліваць воду праз парог – у дзіцяці будзе цекці слюна.

Нельга дуць на агонь, бо дзіця будзе зацекацца ад плачу.

На святы нельга родзічам што-небудзь рубаць – дзіця народзіцца з "заячай" (рассечанай) губою.

Калі наступаюць роды, стараліся, каб менш людзей зналі, для таго каб лягчэй прайшлі роды. Запрашалі бабку-павітуху, якая дапамагала парадзісе. Яна перавязвала пупавіну і купала першы раз дзіця, гэта называецца "бабіць дзіця". Для лягчэйшых родаў у парадзіхі расшпільвалі гузікі, расплятал і косу. Бабка-павітуха шаптала. Пеленалі ў стару жаночу льняну сарочку. После етаго бабка-павітуха шла дадому, пекла блінцы, пампушкі, брала мёд і несла парадзісе для ўзнаўлення сіл. Дванаццаць дней после родаў нельга выходзіць на вуліцу. Калі гэта неабходна, то патрэбна браць з сабою ёмку, кавеню ці вілкі, каб не зурочылі.

Чэрэз тры дні пасля нараджэння дзіця везлі хрысціць. За кумоў бралі як сваіх, так і чужых людзей. Кумы бралі дзіця і везлі ў царкву, а калі царква была блізко, то просто неслі. Пры хрышчэнні поп даваў дзіцяці імя. Пакуль дзіця хрысцяць, дома збіраюцца госці і рыхтуюцца да застолля. Прыехаўшы з царквы, кумы аддаюць дзіця маці і гаворацьімя. Патом сядалі за стол. Як п'юць першу чарку, жадаюць парадзісе, бацьку і дзіцяці здароўя, шчасця. Пасля трэцяй чаркі збіраюць падаркі для дзіцяці. Патом баба-павітуха прыносіць кашу, на яку ложаць грошы, і хто паложыць больш, той разбівае гаршок. Разбіць стараліса з першага разу. Чарапкі ад гаршка кідалі маладым жанчынам у пелену, каб да году раджалі дзяцей. Кашу лажылі ў тарэлку, адкуль госці стараліся хутчэй яе схапіць і з'есці, каб дзіця хутчэй пайшло. Потым гулялі да вечара.

***Запісана ў в. Дуброва Лельчыцкага р-на***
***ад Астаповіч Г.М., 1950 г.н.***

Бабку-павітуху саджалі на покуце. Яна прыносіла з сабой гаршок кашы. Калі за сталом вып'юць па тры разы, то на кашу пачынаюць лажыць грошы (хто колькі хоча) і зразаюць верх кашы, і разам з грашамі аддаюць парадзісе. Далей грошы пачынаюць лажыць бабцы, а той, хто паложыць грошай больш за ўсіх (звычайна гэта хросны), б'е гаршок і яго кускі кідае маладым жанчынам, каб раджалі дзяцей. Пасля гэтага пачынаюць збіраць грошы навароджанаму і жадаюць найлепшага жыцця. Хрэсьбінны стол завяршаецца падзелам кашы. У гэты момант выконвалі песні, прысвечаныя бабцы-павітусе, хвалілі яе кашу.

***Запісана ў в. Дуброва Лельчыцкага р-на***
***ад Ляхавец Марыі Якаўлеўны,***
***студэнткай Ляхавец В.***

*Дзякуй нашаму кавалю,*
*Што здзелаў нам гульню.*
*Ён і ручак не купаў,*
*Малаточкам не стукаў.*
*Без молату, без кувадла*
*Наладзілі дзіця ладна.*

Самай галоўнай была бабка-павітуха. Яна давала парады цяжарнай жанчыне і рабіла засцерагальныя дзеянні над парадзіхай і дзіцём у першыя гадзіны яго жыцця.

Праз некалькі дзён пасля нараджэння дзіцяці бацькі павінны былі выбраць для яго кумоў. Яны бралі хлеб, загортвалі ў ручнік і неслі паважаным людзям, тым самым запрашалі іх стаць хроснымі бацькамі іх дзяцей (дзіцяці), і калі тыя бралі хлеб, то значыць яны згаджаліся. У дзень, прызначаны для хрэсьбін, прыходзілі кум з кумой і везлі хрысціць дзіця ў царкву. Выносячы дзіця з дому, кум правай нагой станавіўся на сякеру альбо нож. У дарозе яны не размаўлялі, каб дзіця было спакойным. Калі пераязджалі праз раку, то павінны сыйсці з машыны і пранесці дзіця на руках, затым тры разы адвярнуцца і плюнуць.

Вяртаючыся з царквы, дзіцё павінна была ўзяць бабка-павітуха, апранутая ў вывернуты кажух, каб дзіцё было багатым.

Садзіліся за стол на пачэсным месце на покуці, садзілі хросных і бабу. Галоўнай стравай была бабіна каша. Праходзіў вялікі торг. Кашу выкупляў кум, і адным ударам ён павінен быў разбіць гаршчок. На хрэсьбінах звычайна спявалі песні:

*У лузе вярба махната,*
*На покуце бабка багата.*
*Ой, будзем вярбу ламаці,*
*Ах, будзем бабку вітаці.*

Спявалі кумам:

*А кум куме рад,*
*Павёў куму ў сад.*
*Пасадзіў куму ў садзе*
*На цвяток.*
*Еш, кумка, ягадкі,*
*Якія салодкі.*
*Якія горкі –*
*Дай маёй жонкі.*

Затым везлі бабку ў карчму.

*Запрагайце дванаццаць сабак*
*І павязём бабку ў кабак.*
*Наша бабка ягады любя,*
*Яна нам чарнікі купя.*

***Запісана ў в. Казлоўка Лельчыцкага р-на***
***ад Акуліч Вольгі Сяргееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Шырокай В.***

Раней, калі я была маладая, роды прынімала бабка-павітуха. За кума і куму сваіх сваякоў ці людзей з дзярэўні. А баба, ека прымала роды, варыла кашу і прыносіла на хрысціны. Прыходзілі кум з кумою і везлі ў цэркву хрысціць дзіця. Хрысцілі пасля абеду. Баба мыла дзіця і разам з кумою адзявалі яго. За хрышчэнне тада плацілі 5 рублей. Кума брала мятліка і на ём хрысцілі дзіця. Калі быў хлопчык, то яго неслі ў алтар, які знаходзіўся за царскімі варотамі, а як дзевачка, то яе хрысцілі каля прастола, а не неслі ў алтар. Пасля вяртання

з царквы ўсе званыя госці ішлі на хрысціны. Па запрашэнню бацькоў усе садзіліся за сталы частавацца. Першую чарку падымалі за дзіцятка, якое перахрысцілі і жадалі яму ўсяго найлепшага: “Хай вялікі расце, дужы, здаровы”.

Баба прадае кашу. Кум грошы кладзе апошнім, сама болей за ўсіх. І разбівае бабіну кашу. Потым кашай частуюцца госці і дараць падарункі дзіцяці з прыгаворкамі рознымі ў адрас дзіцяці: “Дай, Бог, каб наша дзіця було крэпка, як вада, багата, як зямля, вясёла, як пчала, і красна, як вясна”.

Кум з кумою і бабе бацькі давалі падарункі. Напрыклад, куму дарылі сарочку і ручніка, куме адрэз тканіны і хустку.

На хрысцінах спявалі розныя песні, танцавалі, потым зноў садзіліся за сталы частавацца.

Кум з кумою станавіліся блізкімі людзьмі бацькам дзіцяці, якое яны перахрысцілі. Для дзіцяці – хроснай маці і хросным татам.

***Запісана ў в. Мілашавічы Лельчыцкага р-на***
***ад Пятрычыц В. Л., 1922 г.н.,***
***студэнткай Лісіцкай А.***

На дзіця не трэба гледзець із-за головы.

Не трэба колыхаць пусту колыску, бо дзіця не будзе спаць.

До году дзіця не показваюць у зеркало.

Берэменным не трэба стояць у порозі, і за імі ўсігда трэба вуходзіць, як вона ідзе з хаты, шоб лёгка родзіла.

Берэменной не трэба іці на могліцы, вона стоіць за забором.

Берэменну не беруць за куму.

Кумамі ў одного дзіцяці не могуць буць чоловек і жонка.

Кумам не можна жэніцца, бо векікі грэх.

***Запісана ў в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на***
***ад Швед Г.І., 1938 г.н.,***
***студэнткай Федаракавай А.С.***

# Лоеўскі раён

Як толькі дзіця народзіцца, дак абязацельна бабу звалі. Калі акрэпне рэбёнак, то хрэсьбіны назначаюць. Раньшэ тайком хрэсцілі. Назначаюць хрэсьбіны чэраз 10 дней пасля радзін ці ў той жа дзень. Сабіраюць усіх радных, выбіраюць кума і куму, завуць бабу.

Гатуюць стол і ўсялякія блюда. Кашу вараць пшонную. Кашу варыла баба, а гаршок разбівае кум. Усіх гэтай кашай угашчаюць, а хто болей грошай дасць за кашу, таго і каша будзе. Але абязацельна нада было, штоб каша аставалася бабе. Яна ж яе варыла.

Па дарозе ў царкву песні не пелі. Бабе-павітухе дараць матэрыял, пялёнкі, бутылачкі.

Каб дзіця ніхто не сурочыў, надзявалі наізнанку распашонку ілі шапку, а яшчэ булаўку ў верхнюю адзежу прышпылялі. Каб у дзіцёнка ўсё добра было, не нада астаўляць на ноч яго вешчы на вяроўцы ў двара. После захода сонца не нада паднімаць дзіця вышэй галавы, бо будзе неспакойна спаць.

***Запісана ў г.п. Лоеў.***

Калі рэбёнак нараджаўся, дык кумы гатовілі кашу або ў чыгунцы, або ў гаршчочку. Часцей у гаршчочку, бо яго можно разбіць. А гаршчок падаш, ды ў яго можна ката пасадзіць. Мне кум першы раз ката прынёс, а куме сказаў: “А ты, кума, грошы гатоў”. Кашу павінна бабка варыць. Абычна кум плоціць за кашу, а калі хочаш болей грошай забраць, рублік палажы і па кругу пусці, і пачынаецца: “Ты столькі палажыў, а я болей”.

Была раней бабка-павітуха. Ета зараз усе ў бальніцах ражаюць, а раней прыходзіла і адразала пупкі. І баба павінна быць не родная, а чужая. Падаркі абавязкова дарылі і бабке-павітусе, і куму, і куме. Дарылі хто што можа. Куму дарылі рубашку, куме даюць палаценца або пакрывала, ілі простынь. Раньшэ так, а цяпер хто што, тое і дараць. Каб ражаць было лягчэй, трэба больш двігацца, работу рабіць. Яшчэ калі прыходзіш у роддом, трэба ўсе заколкі з галавы зняць, валасы распусціць. Нада, штоб рот не буў адкрыты, патаму што есць разрывы, а када рот закроеш, всё ціхонька будзе.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Ніцко Ніны Пятроўны, 1921 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на),***
***Прыцэп Галіны Іванаўны, 1934 г.н.***

Утрам прыязжае кум з кумою, маці аддае дзіця і гаворыць: “Даю табе нехрышчонае, а ты мне прывязі хрышчонае”.

Кум з кумою едуць у цэркву, а маці, бацька, усе родныя застаюцца дома. У царкве дзіця хрэсцяць. Потым яны едуць дадому. Маці з бацькам сустракаюць і, калі дзіця – дзеўка, то кума, а калі хлопец, то кум, гаворыць: “Брала ў цябе дзіця нехрышчонае, даю хрышчонае”.

Усе садзяцца за стол, жадаюць дзіцяці здароўя, шчасця. Галоўная ў застоллі баба, якая варыць кашу і ў канцэ застолля прыносіць яе. Кожны з гасцей кладзе грошы “на кашу”, а патом кум купляе яе і разбівае гаршок. Калі каша цэлая – жыццё ў дзіцяці будзе доўгае і шчаслівае. Усе ядзяць кашу, і застолле працягваецца.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Кароткай В.Д., 1926 г.н.***

На крэсціны варылі кашу. Бабушка далжна варыць. Кашу варылі з пшана і немножка рыса. Як каравай дзеляць, так і эту кашу дзеляць. Разбіваюць гаршчок, і кум должэн выкупіць эту кашу. Сначала прадстаўляем кашу, таргуемся, сколькі та каша стоіць. Дзед кажа: “Церез мора Вітацкае, церез акіян Любімы, церез дзве ракі Днепр і Сож дабіралась наша з бабушкінай каша. Прашла пуць нялёгкі, бальшой”. Бабушка выставіла кашу на аўкцыон. Пачалі таргавацца. Бабушка ўстанавіла сваю цэну. І тада начали таргавацца. У дзеда быў малаток. Па правілу должэн выкупіць кум. Кум тады выкупіў тую кашу, разбілі гаршок. На кусочкі падзялілі, парэзалі, каждаму ўжо падносяць, і яны ўжэ благадараць крэсніцы этай дзевачкі. І на эту кашу ложаць дзеньгі, падаркі. Пасля этага гульня, танцы, песні. Было такое, што радзі шуткі садзілі ў гаршчок кошку. Бабушку нада была вазіць. Калісь вазілі на санях, еслі зімой, летам – на калёсах. Летам вязуць яе “ўтапіць”. А бабушка ўзяла венік з сабой, к вадзе падвазілі, яна венік ужэ мачае і па ўсім махае, адбіваецца.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Шумігай Валянціны Лаўрэнцьеўны, 1933 г.н.,***
***Шумігая Міхаіла Пятровіча, 1929 г.н. (2005 г.).***

Калі дзеўка ждала дзіця, то было багата прымет: нельзя было, каб свет ад луны падаў на яе, бо дзіця па начах хадзіць будзе; пераступаць праз вяроўку, бо памрэ; калыхаць пустую люльку, бо тожэ памрэ. І гэтых прымет багата.

А как народзіцца, то трэба было хрысціць. У кумаўя трэба было зваць чужога чалавека, але ішлі родныя. У цэркаў ехалі толькі радзіцелі і кумаўя. Пасля прыязджаюць дахаты і садзяцца на кут, ядуць і выпіваюць. Патом робіцца напад на бабку з кашай. На гэтую кашу клалі грошы, каб выкупіць. Больш за ўсіх клалі грошы кумаўя. Так, хто большэ ўсіх пакладзе, той і б’е гаршчочак. Грошы аддавалі радзіцелям для дзіцяці. А яшчэ так шуцілі: клалі ў гаршчок не кашу, а ката. І, бывала, што выкупалі ката, а патом зноў выкупалі кашу. Во так было ў нас.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Паўлюшчанка Анастасіі Сяргееўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Кацярыніч А.***

Баба, што прыходзіць, яна ўжо варыць кашу і прыносіць. Вараць абыкнавенную кашу. Хрэсьбіны гуляюць, прыносяць патом кашу і б’юць. Ну, разбіваюць, яна ўжо рассыпалась. Б’е той, хто купіць, эта хто пасілее выкупіць. Нада перш куму выкупіць. А як кум не пасілее, то хто выбіў, той і разбівае. А тады ўжо бярыце кашу, грошы кладуць. Кашу разбівалі таго, што ты купіў. А тады ўжэ эту кашу рэжуць і кладуць на тарэлку – бярыце.

Ваабшчэ-та, кашу дзелалі з пшана. А падаркі дак дарылі, што ў каго было, усякае, карочэ, клалі. Хто багаты быў, той дажа бабу вазіў на канях, нада шоб ужэ былі і кум, і кума.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Юшчанка Марыі Рыгораўны, 1910 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Крупейкі Лоеўскага р-на).***

Варылі кашу. Каша была пшонная, харошая каша, не якая ж зря, а багата клалі яец у яе.

Кум разбіваў гаршчок. Разаб’е гаршчочак – той пасыпаўся, а кашка стаіць. Кум жа плаціў грошы. А тады ж баба кашу рэжэ трошку і каждаму падае, і тады за кашу кожан бабе плоціць.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Шынкарэнка Марыі Прохараўны, 1921 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Дзяражычы Лоеўскага р-на).***

Парадзіху-то, каб разродзілося, гладзіла па жвату да отмовляла: “Святы аўторак, памажы, Божа, гара раскацісьмо, камянь развалісьмо, а младзены нарадзісьмо. Амін”. А когда народзіцца дзіцё то, той вжо

сваты збіраюцца. Кума-то прыходзіць з хлебам та соллю, та на стол та ложыцьмо. А парадзісе тай грошку дае. Апяць вжо дзіця хрысціць нясуць. Той барані Бог, каб кума з кумам на дарозе гаварыла, то ж дзіця крыклівa будзё. От як пахрышчаць, дадому йдуць, то за стол садзяцца, а старэйшы сям'і дай кажа: "Божа, благаславі". Патом хросны тако ж. А патом хросна. Ну, тамо вжы ўсе госці п'юць да ядзяць. А ежа-то на хрэсьбінах той квас, да блінцы, та ўзвар, пацьмо вжо каша та. Кашу бабко на лыжкі раздае, а госцейкі заместо грошу ложаць. Поцьмо грошы гэты бабка парадзісе аддаець. Потом злішкі-то робяць (дзіця абліваюць вадой), а ўжо потам госці той вадой-та ўмываюцца да гарілкай запіваюцца. Ну, то як усі зробяць, так той вжо за стол-та садзяцца дай песні співаюць:

*Просіць баба-бабусінька,*
*Просіць дай шчырусінька:*
*"Дай жа ты, мой Божанька,*
*Унучаньку здаровянька.*
*Ой, то памалюся,*
*Ой, то пахрышчуся,*
*Дай той дапрашуся".*

Ну, той вжо как наспіваюцца, так парадзіха то куме падарунак вручае, а дарунак её давжон быць каштоўнейшым, чымсьці кумы. А тая ж довжна взяці падарунак, бо то як не возьме, от цяжкі-то грэх тоя парадзіхі.

Перад хрысцінамі хросная бярэ пялёнкі, рубашачкі. Адзяюць дзіця ў рубашкі, пялёнкі хроснай і вязуць у цэркву. Еслі дзевачка – поп у алтар не нясе, калі мальчык – заносіць у алтар. Пахрысцяць дзіця, прыязджаюць да хазяеваў. Садзяцца за стол.

Баба варыць кашу. Спярва даюць хроснай і хроснаму. Хроснай і хроснаму даюць падаркі.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на***
***ад Пятровай Марыі Раманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Пятровай Н.***

Бабу бяруць. Яна пуп адразае. Эта баба, када ўжэ хрэсьбіны, варыць кашу. Абычна кашу вараць у гаршках гліняных з пшана. Кум купляе эту кашу. Ложаць грошы. Хто больш паложыць грошай, таго

ўжо каша. Абычна паддзержываюць кума. А тады б'юць і чарапкі на галаву ложаць, каб дзеці вялісь. Бабе, куме, куму дараць падаркі, но дзеньгі ні даюць.

*Запісана ў в. Вулкан Лоеўскага р-на*
*ад Пратасава Арсенція Дзмітрыевіча, 1932 г.н.*
*(нарадзіўся ў в. Дуброва Лоеўскага р-на).*

Раней было так: бабку звалі. Баба прымала роды. Баба й купае, баба й пялёнкі дае палатняныя. Маладыя ўжэ панімалі, што эта бабушка іхняя. І дзеці яе завуць ужэ: “Бабушка наша”. Бабке маладыя давалі падаркі, даравалі мацерыі кусок якой. Пекла ў гаршку кашу. А тады насілі па парадку, хто ката пасадзіць да прынясе, хто цыпляня. Ну, хто што ўжэ. “Вот это во ваша каша? Ваша каша?” – “Не. То не наша. Не наша”. Тады ўжо кажуць: “Ото панеслі, глядзіце”. Ну, тады яны ўжо ўкупляюць тую кашу. Грошы кідаюць на тарэлку. А тады ўжо, хто болей кіне, б'е кашу тую. После выпіваюць ужэ. Гаршок б'юць. Чарапочкі на голавы адзяваюць, штоб дзеці былі.

Роды прымала бабка. Яна пераразала пупавіну. Нельзя, штоб была пры этым удава. Бабу бралі пажылую. Бабка адна была.

*Запісана ў в. Вулкан Лоеўскага р-на*
*ад Жураўскага Сяргея Адамавіча, 1910 г.н.,*
*Рагознік Марыі Сяргееўны, 1938 г.н.*
*(нарадзіліся ў п. Кірава (раней Зарэзаў) Лоеўскага р-на).*

Калі нараджалася дзіця і каб яго ніхто не сурочыў, надявалі наізнанку распашонку ілі шапку, а яшчэ булаўку ў верхнюю адзежду прышчаплялі. А калі дзіцёнка сурочылі і ён не спіць, капрызнічае, нада ўцерці яго левай стараной сваёй іСподней рубашкі.

Каб у дзіцёнка ўсё было добра, не нада астаўляць на ноч яго вешчы на вяроўцы ў дварэ. После захода сонца не нада паднімаць дзіця выша галавы, бо будзе неспакойна спаць.

На хрэсьбіны зараней выбіралі кума і куму. Каго хацелі і цяпер так, можа. У аснаўном бралі са свайго круга, родных. Бралі палаценца і неслі да кумоў. Калі сагласны былі быць кумам ці кумой, то бралі хлеб, а калі не – аддавалі назад хлеб. Выбіралі бабу. Патом выбіралі дзень, абычна еты дзень быў васкрасенне, бо ў гэты дзень нельга было рабіць. Кум і кума везлі дзіця ў цэркаў, там бацюшка вёў абрад

крашчэння. За абрад плаціў кум. Бацюшка вёў у атдзельную комнату і там чытае малітву спецыяльную. Патом едуць дадому і гатовяцца.

Садзяцца за стол, выпіваюць, гуляюць, танцуюць, спяваюць песні. Но я не знаю, якія спявалі, забылася. Радзіцелі дзіцяці дараць падаркі куму і куме, бабе, а яны, наадварот, дзіцяці. За сталом п'юць гарэлку і гаворачь усё добрае для дзіцяці.

Патом дзеляць кашу, яе гатовіць баба. Сначала могуць унесці замест кашы ката, патом петуха, а на трэці раз кашу. Кажды раз спрашваюць: "Баба, твая каша?" Баба яе ўгадвае, дзержыць, а кум доўжан заплаціць, калі панравіцца плата, баба аддае кашу, а калі не – кум плоціць грошы. Баба аддае кашу, і кум разбівае гаршок аб угал ці край стала, чарапкі адзяюць перваму папаўшаму, каму чарапок надзенуць, у таго будзе дзіця скора. Патом ложаць на кашу падаркі, без іх кашу есці не даюць.

Патом везлі бабу на карыце дадому. Як добра заплоціць, дак добра правязуць, патом яна ставіць магарыч.

Калі дзіця нараджалася, то першы раз даўжна памыць яго бабка, а не радзіцелі. Дзіця мылі ў пялёначках, каб яно не іспугалася. Патом нада абязацельна даць бабе выцерці палаценцам новым рукі і даць у падарак.

Раней, каб дзеці не былі труслівыя, ім пры раджэнні давалі ў рукі шпагу.

***Запісана ў в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на***
***ад Булацкай Марыі Дзмітрыеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Шэўчык Н.***

Был такой обряд. Родители встречают, когда с церкви идут. Если мальчика встречают, ложат на пороге молоток, пилу, гвозди, если хотят, чтоб хозяин был. Если девочку встречают, ложили вилки, чтоб хозяйкой была, иголку с ниткой, чтоб вышивала. В общем, кем хочешь, чтоб твой ребёнок стал, то и ложи. Чтоб красивая была, можешь розу положить.

В церковь ходили только кум и кума, родители не ходили, а дома уже родители встречают.

***Запісана ў в. Дзяражычы Лоеўскага р-на***
***ад Кудраўцавай Наталлі Данілаўны, 1972 г.н.***

Як дзіцёнак радзіцца, так бралі таго маленькага, везлі ў царкву. У царкву ехалі толькі хросны і хросная, і дажа матка не ехала. У хросныя бралі, каго зажалаюць. У царкву як едуць, трэба хросны штоб хрэшчык купіў. А хросная бярэ метру-дзве палатна. А еслі шыць умее, дак ужэ бяруць адзежынку якую, рубашачку, шапачку, шчэ ж маленькае. Прыглашалі бабу. У бабы бралі тожа, хто панаравіцца, шчэ ж выбіралі багацейшых. Баба кашу вара з пшана, боршч, пака тыя ў царкві.

Як прыехалі ад Хрыста, ужэ сабіраецца радня, ядзяць, выпіваюць, а патом ужэ баба ставіць кашу, і колькі хто дасць. Хто болей. Кум – эта ўжэ аўтарыцет. Ён даўжон кінуць болей грошай. Вот калі дагодзяць яму (дык і кума памагае, куму грошы дае, перадае пад сталом), ён патом разбіваець кашу. Разбівае той, хто купіў. Чэрап'янкі кідалі ў парог:

*Чэрап'янкі, біцесь,*
*А дзеці, вядзіцесь.*

Так гаварылі тры раза. Патом ужэ паядзяць кашу, на кашу – па сто грам, і хрысціны кончыліcь. А тады ўжэ выходзяць, бабу садзяць на саначкі на малыя (і летам) і цягнуць да яе дому. А баба ўжэ дзелае абед, тожа ўжэ садзяцца, выпіваюць. А то садзілі бабу і на барану. На барану пасадзяць на красцы, ну і мужчыны цягнуці, яны крапчэйшыя. І к бабе як прыцяглі, баба ставіць ім магарыч. Там ужэ збіраюцца і падаркі куму, куме, бабе дараць.

***Запісана ў в. Казярогі Лоеўскага р-на***
***ад Карась Ксеніі Іванаўны, 1922 г.н.***

Збіраюцца кумаўё. Вязуць дзіця ў царкву крысціць. Бацюшка галоўку дзіцяці мочыць, потым купае яго, выразае коскі на галаве крастом. Баба прыносіць кашу. Гэту кашу выкупляюць. Хто больш грошай за яе дасць, таму яна і дастанецца. Стараецца выкупіць кашу кум.

Хто выкупіў кашу, той разбівае яе і пачынаюць есці. Радзіцелі дзіця дараць падаркі бабе. Яны таксама дараць падаркі крэсніку.

***Запісана ў в. Карпаўка Лоеўскага р-на***
***ад Зязюлі Наталлі Пятроўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Нікіценка Н.***

Калі родзіцца дзіцятка, бацькі ідуць, прыглашаюць бабку. Заходзяць да яе з хлебам-соллю. Бабка вядзе рожаніцу ў баню і мыя яе і дзіця. На следуюшчы дзень гуляюць ужо хрысціны.

Бабка далжна на хрысціны сварыць кашу з пшана. На хрысцінах хросны должан выкупіць кашу. Калі ён кашу выкупіць, гаршчок разбівалі. Бабка зразае верх з кашы, кладзе на тарэлку, кладзе туды грошы, канхветы, падарак і гаворыць: “Бабіна каша з канапелькамі, а вы, людзі, з капейкамі”. І тады ўжо ўсе кладуць грошы, падаркі.

Потым бабу прыбіраюць абы-як і вязуць яе дадому на калясцы. Дома яна ўгашчае тых, хто яе прывёз.

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на***
***ад Драмач Ірыны Яфрэмаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Рагачовай Т.***

На хрысціны варылі кашу, разбівалі гаршок, адразалі верх і аддавалі маці, лажылі грошы, дзялілася каша. Выбіралі бабу, каб бабіла.

У адной сям'і не было дзяцей доўгі час. А калі нарадзіўся першы, то праз пару дзён ён памёр. Затым памёр і другі. Яны не ведалі, што ім рабіць. Плакалі, гаравалі.

Нарадзілася трэцяе малое, панеслі яго хрысціць. Там ім сказалі, каб яны па дарозе найшлі хросную, каб дзеці не ўміралі. Хросную – незнаёмую жанчыну, першую сустрэўшуюся. І панеслі дзіця хрысціць у царкву.

Неслі яго, а ён плакаў дужа моцна. Тады дзяк сказаў, каб яго хросная на рукі ўзяла, а як узяла, так ён і замоўк. У тазе нейкім вада была наліта, але яна (хросная) яго ў гэтую ваду не апускала, а дзяржала над ёй (вадой). Дзяк крэст узяў, намачыў у ваду, а тая вада святая, да перахрысціў тры разы малога.

Гавораць, цяпер у гэтай сям'і вялікі род выдаўся. А хросную і па гэты час цяпер ужо маладыя з гэтага роду на дарозе шукаюць.

***Запісана ў в. Мохаў Лоеўскага р-на***
***ад Панцелеймонавай Ганны Сяргееўны, 1939 г.н.***

Хрэсьбіны заўсёды гулялі. Пелі, кашу варылі. На кашу грошы збіралі. Хто больш грошай дасць, той і кашу б'е, ета значыць разбівае

гаршчок. А кашу нада такую варыць, штоб гаршчок разбіваўся, а каша стаяла. І малой будзе крэпкім тады.

*Запісана ў в. Пярэдзелка Лоеўскага р-на*
*ад Травянок Марыі Адамаўны, 1928 г.н.,*
*студэнткамі Тацоха Д.А., Савіцкай М.В., Кабаевай В.М.*

У дзярэўню прыглашалі бацюшку. Бацька і матка не прысутнічалі на хрышчэнні, толькі хросныя бацька з маткай.

Баба варыла пшонную кашу. Калі ўсе сядуць за стол, дык кідалі грошы на кашу. Кум должэн быў кінуць большэ. Білі гаршок з кашай і ўсім дзялілі. Кума падарак давала бабе на плацце і дзіцяці падаруначак.

Як прыязджалі ад Хрыста, то пілі і гулялі, а назаўтра прыходзілі пахмяляцца, маглі і на трэці дзень прыці.

Была такая гульня. Бабу вазілі па вуліцы на баране. Везлі і рагаталі. А пасля бабка вяла тых, хто цёг, да сябе ў хату і там угашчала іх. Усё яна павінна была прыгатовіць раней. Яшчэ маглі ўзяць палку ў хаце, дзе былі хрысціны, і чырыць столь.

Для таго каб дзіця было разумным, нельга было стрыгціся маці, пакуль яна носіць дзіця. Таксама нельга было пазычаць нічога, бо тады дзіцё будзе жыць у беднасці. Нельга было браць за куму незамужнюю, бо тады яна не выйдзе замуж.

*Запісана ў в. Рэкорд Лоеўскага р-на*
*ад Гаўрыленка Ніны Сямёнаўны, 1928 г.н.*
*(раней пражывала ў п. Пабядзіцель Лоеўскага р-на).*

Нада ўжо, шоб ребёнак запісаны быў у метрыкі. Выбіралі хроснага і хросную. І едзеш у царкву к бацюшку, гаворыш, што трэба дзіцёнка пахрасціць. Но мне ўжо нельзя ідці ў цэркаў после родаў. Як жа ж эта я без дзіцёнка свайго пайду, я ж хочу сама ўнесці яго. А мне бацюшка гаворыць, што заходзіць у цэркаў можна, но нельзя пад іконай пралазіць. Гэта як бы прычашчаліся.

Хросная і хросны падлязалі пад іконай. Кум купляе крэсцік. Ну, а патом едзем дамой. А бацюшка палівае вадой дзіцятка, малюе яму крэсцікі на лабу, руках, нагах. Іх нельзя сціраць. Патом уносім яго ў цэркаў. Як хлопчык, дык бацюшка ўносіць яго ў комнату сваю, і нікога не пускае туды, а дзевачка калі, дык абходзяць тры раза.

Кашу варылі, патом дзялілі. Трэба чужую бабу выбіраць. Патом сарэўнуюцца кум, кума і баба, выкуплёўваюць гэту кашу. Ложаць грошы: сначала, напрымер, пяць тысяч, другі раз – ужо большэ і так да таго, хто ўжо паследні. Паследні бярэ гаршок з кашай і разбівае яе. І ўсе ядуць гэтую кашу. Патом садзілі бабку ў цялегу і вязлі па ўсёй дзярэўні.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Гаўрык Зінаіды Сцяпанаўны, 1925 г.н. (2005 г.).***

Як толькі дзіця народзіцца, дак абязацельна бабу звалі. Баба перабабіць, на два пальцы прыложыць, пупок завяжа ніткай сыравой (лянай). І на ўсё врэмя бабай завецца.

Ужэ ж акрэпне рэбёнак, то крэсьбіны назначаюць. Раньшэ тайком красцілі. Назначаюць крэсьбіны чэраз дзесяць дней пасля радзін ці ў той жа день. Сабіраюць усіх радных, выбіраюць кума і куму, звалі бабу.

Гатуюць стол і ўсялякія блюды. Кашу вараць абязацельна пшонную. Кашу варыла абязацельна баба, а разбівае кум гаршчок.

Усех гэтай кашай угашчаюць, а хто болей грошай дасць за кашу, таго і каша. Вось кагда дасць дзесяць рублёў кума, тагда каша будзет яе. Але абязацельна нада было, штоб каша аставалася бабе. Яна ж яе варыла, значыць, ніхто не даўжон перашчэгаляць.

Такая завядзёнка вялася. А хто не меў грошай, падарак лажылі: хто пялёнку паложа, хто рубашку – у каго што было.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Бартнеўскага Дзмітрыя Паўлавіча, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Навумчык Т., Бандзюк А., Клімашэўскай Т.***

### *Песня на хрэсьбіны*

*Ну, кукуй, зязюлечка, рана,*
*Не кажы, што ночачка мала.*
*Аленка тую ночку не спала,*
*Яна к сабе госцікаў звала,*
*Любых госцікаў ды бабулю.*
*Столікі абрусам засцілала,*
*Талеркі сухароў накладала*
*Ды гасцей і бабку частавала.*

Калі выбіралі дзіцяці імя, то пелі песню:

*У полі гаёк расшугаўся,*
*Іванька з жонкай разругаўся:*
*– Ой, жана мая дарагая,*
*Дзе ўсю красу сваю дзела?*
*Ці з малайцамі прагуляла,*
*Ці з дзевачкамі прапяяла.*

*– Ой, муж ты мой, муж маладзенькі,*
*Які ж ты ў мяне яшчэ дурненькі.*
*Калі сам не знаеш, не ведаеш,*
*То ў добрых людзей папытайся:*
*Як табе сыночка я радзіла –*
*Усю сваю красу я загубіла.*

***Запісана ў в. Сяўкі Лоеўскага р-на***
***ад Кангар Таццяны Уладзіміраўны, 1938 г.н. (2005 г.).***

Вось цяжарнай жэншчыне нельга было глядзець на мерцвякоў, нада засцерагацца ад зглазу, ліхіх вачэй, нельга наступаць на нешта крывое, бо дзіця магло быць гарбатым.

***Запісана ў в. Сяўкі Лоеўскага р-на***
***ад Хлебінай Праскоўі Пятроўны, 1930 г.н.***

Работаць па празнікам нельзя бярэменным. Праклінаць цяжарнай нікога нельзя.

Баба, што купала ў первы раз, кашу варыла. Баба-прыродуха – старая баба, баба-павітуха. Яна прыходзіла ў ответкі тры разы, прыносіла падаркі. Жалалі дабра і дзіцёнку, і маці.

У цэркву хадзілі кум і кума. На хрэсьбіны бабе, куме і куму падаркі давалі. Сядзем на куце, кум разбіваў гаршок аб край стала. Лажылі маладым на галаву чарапкі, каб дзеці былі. Каталі ў калясцы ці ў балеі якой, гаварылі: “Давай, баба, магарыч за то, што вазілі!”

***Запісана ў в. Удалёўка Лоеўскага р-на***
***ад Малянка Уладзіміра Васільевіча, 1929 г.н.,***
***Малянок Любові Навумаўны, 1930 г.н.,***
***Рабянок Лідзіі Іванаўны, 1932 г.н.***

Паехалі, перакрысцілі, падаркаў налажылі, кашу падзялілі. Кашу на ўсе сталы разносілі, і глядзелі, хто болей паложыць. А кум стараецца заўсёды больш палажыць, каб у яго была каша.

Вось я была хроснаю, тожэ старалася, сваю кашу выкуплёўвала, бабіну кашу кум выкуплёўваў. Называлася то бабіна каша, то

кумава каша. Вот так і называлася. А раней мо на дзесяць сталоў збіралі і гулялі. Во раней гулялі! Я сама так гуляла. У мяне былі хрэсьбіны – дзве хаты былі забіты, да яшчэ і трэцяя поўненькая.

Кумаўю дарылі падаркі. Я, напрыклад, лажыла куме, куму і бабкі. А еслі я шла хрысціць, то мне давалі падаркі.

***Запісана ў в. Усход Лоеўскага р-на***
***ад Зелянцовай Веры Сцяпанаўны, 1930 г.н.***

Бяруць кумаўё, хто каму нравіцца. Бацькі не ездзілі ў царкву.

Рабілі кашу бабіну. За бабу бяруць, хто панаравіцца. Баба прыносіць падарачкі, гасцінцы, яна гатовіла кашу.

Каша была сладкая, штоб калі гаршок разбівалі, трэба каб яна не рассыпалась. Хто болей на кашу паложыць, той кашу разбівае, часцей кума. Чарапкі надзявалі на голаву маладым, штоб ражалі дзяцей.

Прыводзілі бабу дадому, штоб угасціла дома. Садзілі на барану і каталі, штоб магарыч давала. Падаркі давалі. Кашу кралі пад сталом. Калі кашу ўкрадуць, баба павінна яе выкупіць.

***Запісана ў в. Ястрабка Лоеўскага р-на***
***ад Бандарэнка Ніны Рыгораўны, 1927 г.н. (2005 г.).***

Калісь гатовілі рожаніцу. Бальніц не было. Звалі бабку-павітуху, якая прысутствавала на родах. Потым, калі ўжэ рожаніца родзіць, то эта ж бабка адразала пупавіну, завязвала яе, далей абмывала дзіцятка і прыносіла матцы ў палатняных пялёнках. Тады бабу садзяць за стол і частуюць. Тады баба ідзе дадому і астаўляе сваё благаславенства.

Праходзіць нядзеля, вязуць дзіцятка хрысціць. Завуць бабу, якая ідзе з пялёнкамі, завуць кума і куму, якая тожа ідзе з гасцінцамі. Збіраюць дзіцятка ў бабіны пялёнкі, акрайкай спавіваюць. Тады баба абвёртуе і аддае дзіця куме і куму. Яны вязуць коньмі хрысціць. Прывозяць у цэркву, бацюшка назначае імя дзіцяці, а тады толькі хрысцяць.

Потым прывозяць дамой і кладуць на запечак, і кум бласлаўляе радзіцелей з імям дзіцяці. Тады садзяць кумаўё за стол і частуюць. Далей ідуць дадому і вараць кашу, ззываюць усіх родственнікаў на хрэсьбіны.

Прыходзіць баба з кашай, з падаркамі, кума тожа з падаркамі, кум з грашамі. Сходзяцца людзі за стол. Тады выкупляюць у бабы кашу. Хто болей паложыць на кашу, той і будзе разбіваць кашу. Кум стараецца, каб яго была каша. Тады кум становіць кашу на стол і разбівае кашу, чарапянкі аббірае і кідае чэраз людзей у парог. Далей кум кашу рэжа на частачкі і раздае ўсім. Так у нашай вёсцы праходзілі хрэсьбіны.

***Запісана ў в. Каўпень Лоеўскага р-на***
***ад Анісавец Праскоўі, 1935 г.н.***

# Мазырскі раён

Дзіцятка гатовяць ужо, каб яно спакойнае было і мама штоб здаровая была. Штоб дзіцятка на хрысце не плакала. Но ано всё раўно расплачацца, эта не плоха було. У цэркве налiваюць вадзічкай цёпленькай, падсцілаюць такія спецыяльныя мякенькія пялёначкі, туда кладуць. Купаніе было не з мылам жа, бо дзіцятка малое было, накрываюць етымі трапачкамі, і яму дужа нравіцца. Ён прама после купання расце. Пасвецяць яго і прыносят дадому. Ішлі благаслаўляліся, і прыходзяць благаслаўляюцца, бо без Бога нікуды. І хрэсьбіны робяць. Сажаюць кума, куму і бабу-павітуху. Яна прыходзіць з кашай. Каша далжна быць усім кашам каша, варылася на малаку каша пшонная, некаторыя рыс дабаўляюць. Дабаўляюць і смятану, і масла, і мёда. Сначала кашу вараць у каструлі, а патом накладаюць у гліняны гаршчок, для таго, каб можна было пабіць гаршчок, а каша аставалася цэлай. Кум б'е кашу. Чарапкі ад гаршка кладуць на галаву маладым мужчынам, каб у каждага булі дзецi. Раз яму кладуць чарапок – значыць, абязацельна перадаецца эстафета яму, і не будзе ён бяздзетны, а абязацельна радзяцца дзеці. Кашу ўжо дзеляць, патом выкупаюць, как і каравай. Выкупаюць, каждаму на тарэлачку і чарку. Кажды бярэ, выпівае за рожаніцу і за дзіця, за тое, што парадніліся. Кум і кума ўжо ў етай сям'і бальшыя родственнікі, втарыя радзіцелі, дзіця для іх як роднае.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Кадол Алены Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнтамі Савіным М., Казловай Л.***

Хадзілі хрысціць дзіця кум, кума, бабка-павітуха. Імя для малога прыдумывала бабка. Калі бацькам нравілася імя, яны з ім згаджаліся, а калі – не, дык мянялі. На хрэсьбіны варылі кашу. Гэтую кашу кум з кумою прадавалі, яна дарага очэнь стоіла. Патом гаршок з кашай разбівалі і дзялілі яе. Бабку-павітуху очэнь шанавалі і абязацельна дарылі ёй што-нібудзь: платок ці плацце прыгожае. А патом везлі ў санках катаць па дзярэўні.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Кавальчук Марыі Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнтамі Савіным М., Казловай Л.***

Кагда малых хрэсцяць, тада ўжо спраўляюць госці. Бацюшку прывазілі дамой, людзі сабіраліся, гатовілі стол. Выбіралі кума, куму з саседзяў. Варылі кашу з пшана. Дома гатовіла кашу ў гаршке, гаршок украшала канфетамі, а яе кралі і казалі: “Давай, баба, магарыч, а то кашу не дадзім”. Кум разбіваў гаршок, ці хто болей грошай наложыць. Лажылі грошы ў гаршок і разбівалі, а потым хто схопіць чарапкі. Лажылі на галаву таму, у каго дзяцей не было і, бывала, старому якому лажылі для смеха, а хто дзяцей не хацеў, той галаву хаваў.

Кашай частавалі ўсіх, заносілі да сваіх дзяцей. Гаварaць у шутку: “Пасля кашы няма пашы”.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Шынкарэнка Антаніны Юр’еўны, 1925 г.н.,***
***Целепун Таццяны Аляксандраўны, 1916 г.н.,***
***студэнтамі Міхнаўцом В., Шынкаровым Л.***

Шыць нельга, сеяць, капаць, асобенна ў празнікі. У нас адна жэншчына радзіла. Была яна бярэменна, Люба яе звалі. Дзевачкай яна чысціла буракі, боршч дзелала – і “ой, гарыць там у печы”. Яна спугалася і хвацілася вот так за сваё ліцо, ухвацілася, і вот яна радзіла сабе дзевачку, і такое-то красно-цёмнае пятно. Это лічно у нас, у Козенках. І вот яна схвацілася і радзіла дзевачку з такім пятном. Вот яна ні шыла, ні парола, ні секла, ні рэзала, а просто спугалася, што гарыць чугун.

***Запісана ў г. Мазыр (в. Козенкі)***
***ад Міткевіч Вольгі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***Вяргеенка С.А., Кучаравай А.В.***

Бярэменным запрашчалі всё ў празнікі рабіць. Нельзя было кудзелю прасці, матаць. Еслі будуць рабіць, то гэта грэх. Гаварылі, што абматае дзіцяя пупавінай.

Нельзя было перaступаць вяроўку, провалку, вабшчэ, каб пятлі не было.

Калі ражала жэншчына, ей валаса расчасаць нада.

У адзежы нічога зашчэплена не было.

На радзіны звалі бабку-павітуху. Яна памагала парадзіхе. Патом на хрэсьбіны яна кашу варыла. Гэтую кашу выкупалі. Хто выкупіць, той разбіваў яе. Дзеньгі сабіралі для парадзіхі.

Яшчэ хросных бралі. Бралі хто каго, не абавязацельна радных. Бабке патом падаркі на хрэсьбіны дарылі. Яшчэ яе катаюць на санях. Павязуць, катаюць па ўсяму сялу, штоб яна адарыла іх.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Чуб Надзеі Гардзееўны, 1928 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Слабада Мазырскага р-на),***
***студэнткамі Анікеевай А., Новікавай І.***

На хрэсьбінах бабка кашу варыць. Яе выкупаюць. І кум павінен болей за ўсіх грошай даць, каб разбіць ету кашу. Сначала з кашы знімаюць пігарку. Пігарка – гэта верхняя частка кашы, што як корачка. Гэтую пігарку разам з дзеньгамі, якія даюць кум і бабка, кладуць у фартух паражайцы. А паражайка ложа яго пад галаву маломy, каб не прыставалі сурокі.

Усе, хто былі на хрэсьбінах, далжны былі даваць дзеньгі.

***Запісана ў г. Мазыр (в. Раеўскія)***
***ад Раеўскай Кацярыны Антонаўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Мялешкавічы Мазырскага р-на),***
***студэнткамі Кірылавай Ю., Сапонавай А.***

Цяжарным нельга пугацца. Калі спужалася, то нельзя себе трогаць, а то на тым месцы ў дзіця радзімае пятно будзе.

Беременным нельзя через верёвку ступаць, а то дзіця пупавінай абматае.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Мурашка Алены Пятроўны, 1932 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Бярозаў Мазырскага р-на),***
***ад Хацько Ніны Дзмітрыеўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Анікеевай А., Новікавай І.***

Бярэменным нельзя на агонь, на пажар, похараны, памерлых жывёл, увогуле на непрыятныя рэчы глядзець. Абхадзіць острыя рэчы, напрымер, у поле серп. А калі серп ці касу бросілі, то не пераступалі.

Кагда захадзілі ў комнату, дзе жанчына ражае, нада перакрасціцца і памаліцца. Муж не павінен быць у хаце, свякруха тожа. Кагда пачыналіся схваткі, то падвешвалі к ізгалаўю палаценцэ. Рожаніца бралася за яго і тужылася. Свякруха грэла ваду.

Пасля дзіця выходзіць паслед. Яго закапывают.

Пасля родаў жэншчына не павінна спаць з мужам шэсць недзель, і тады яна нясець дзіця ў цэркавь, дзе бацюшка яго благаслаўляе. Гэта называецца “ўводзіны”. І тут жа назначаюць дзень хрэсцін.

Выбіраюць кумоў. Тыя прыносяць падаркі. Калі прыязжаюць, сначала за стол садзяцца, вып’юць, пасядзяць і едуць у цэркавь.

Кум плаціць за крэсцік і за самі хрэсьбіны. Кума даець палаценца, якім пасля выціраюць дзіця. Яго (палаценца) пасля забірае бацюшка. Кума дае бацюшке і падаркі.

Бяруць бабу пастароннюю, бо чым больш у дзіця родных, тым лепш. Баба далжна быць пажылая, бязврэдная. Яна варыць кашу ў гаршочку з гліны. Каша звычайна пшонная на малаке з маслам, з ізюмам. Кагда каша вырасціт, то гавораць: “Какой вумны будзе рэбёнак”. А калі не падрасцёт каша, то гавараць, што на дзіця мала надзежды.

Крышку з дзяжы знімалі, засцілалі скацерцю яе і наверх ставілі кашу.

Госці ложаць дзеньгі, падаркі. Кум доўжан выкупіць кашу. Калі кашу выкупаюць, яе закрываюць палаценцам і б’юць аб века. Века – гэта крышка дзяжы. Б’юць для таго, каб рос рабёнак. Чарапкі падбіраюць, раздаюць тым, у каго шчэ няма дзяцей, каб скарэе радзіўся рабёнак у каго-небудзь. Калі пры выкупе ў кума заканчваюцца дзеньгі, то кума, каб ніхто не відзеў, дае яму дзеньгі. Кашу едзяць, дамой бяруць і курам даюць, каб несліся больш.

Бабу садзілі на барану з клецамі жалезнымі. Садзят бабу на барану і ведуць дамой, штоб і яна дала ўгашчэнне.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Салаўёвай Марыі Еўдакімаўны, 1920 г.н.***
***(перасяленка з в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на),***
***студэнткамі Кірылавай Ю., Сапонавай А.***

Эта ўжэ як хто пасаветуе са старшых. У мяне як сынок другі памёр, так мне целепунскія бабы пасаветавалі другіх кумаўёў узяць.

Як дзіця родзіцца – дзіця хрысцілі ў царкве, а патом ужэ дома гулялі. Цераз дзве-тры нядзелі ці праз адзін месяц. Бабак выбіралі, як бабка падскажа. Кашу яна варыла, кашу білі, да тады чарапкі на галаву лажылі, каб радзілі быстрэй.

***Запісана ў г. Мазыр (Целепуны)***
***ад Зубар Наталлі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткамі Дудко В., Сіраж А., Строкінай А.***

Хрысцілі сразу з роддому. У нас не было павітух, бо былі ўжэ врачы. Заяджалі к бацюшку. Ён ужэ ў цэркві дзіця тое пахрысціць, ну, і дамой. А бабка была на хрышчэніі дзяцей. У мяне – цётка хрысціла. Яна варыла кашу, а кум яе разбіваў, ну, гаршок аб стол, і так вот гаварыў: "Гаршкі біцяся, а дзеткі вадзіцеся".

*Запісана ў г. Мазыр (в. Целепуны)*
*ад Шэшка Паліны Арцёмаўны, 1933 г.н.,*
*студэнткамі Сіраж А., Строкінай А., Дудко В.*

Як бярэменная ходзіш, то на свята і ў нядзельку нельзя нічога рабіць, Божа барані.

На хрысціны выбіралі кума з кумою, хто як хацеў. Куму называлі матка хрышчоная, а дзіцятка – хрышчэніца, хрышчэнік. Вот яго бралі і ў храм неслі. У храме мальчыка як хрысцілі, дак у алтар няслі, бо мальчык – святы, а дзевачку нельзя, яна недастойна. Дзевачку ў нядзелю нельзя купаць, а мальчыка можна. Вот і ў храме мужчыны стаяць даўжны па правую старану, штоб бліжэй да алтара, а жэншчыны – па левую. І вот, кагда падходзяць к красту, то мужчын упярод прапускаюць.

Як дзевачку незамужняю выбіраюць за матку хрышчоную, то ето кажуць, што нада ёй першага мальчыка хрысціць, а дзевачку нельзя.

Дзіцятка пахрысцяць, пакупаюць, баба яго спавівае. Бярэ длінны пояс, метра 1,5, штоб усё дзіця спавіць, абмотуе яго ўсяго. Ета спавівач называецца. Патом дзіцятка нясуць дамой. Як прынясуць ад краста, то спраўлялі хрысціны.

Накрывалі стол, бутылку стаўлялі. Старая баба кашу рабіла, мёд туды паложа, масліца, кашу з пшана рабіла ў маленькам горшчычку. Кашу абязацельна рабілі, бо дзіцяці каша паложана, як родзіцца. І як помрэ чалавек, то тожа без яе не абысціся. Мёд клалі, што дзіцятка як вырасце, дак старацельне було, як пчолка. Бо пчолка ж гарапашная, маленькая самая, а меду сколькі наносіць.

Яшчэ кашу ў бабы возьмуць і ўкрадуць. Кралі хто хоча, каму ўспомніцца. Спёрлі кашу, а патом у бабы спрашываюць: "Дзе ты дзела кашу?" А патом назад ужэ нясуць. Кум ету кашу ў горшчычку бярэ і горшчычак аб вугал б'е, а баба дзеліць кашу, штоб усім хваціла. І дзецям да дому прынясе, дасць з'есці.

Як бярэменная ходзіш, то ні капаць, ні сціраць у свята нельзя, а то дзіця непалнаумнае будзе, хвальш якая ў яго будзе.

*Запісана ў г. Мазыр (в. Целепуны)*
*ад Бараноўскай Ганны Данілаўны, 1928 г.н.,*
*студэнткамі Строкінай А., Сіраж А., Дудко В.*

Як прывядуць з роддома жэншчыну з дзіцёнкам, то ўжэ без мужыкоў, самі ідуць туда. А ўжэ як хрэсьбіны, дык бяруць кума, куму. Тада ўжэ і жэншчыны і мужыкі – усе ідуць.

Кагда прынімалі роды дома, то эта жэншчына, што прынімала, баба счытаецца. Баба, яна так прыме роды, і ўсе падарак ей дадуць. Баба не абязацельна была адна. Это ўжэ хто каго возьме. Браў хто каго хоча ў бабкі, падруг бралі, родственнікаў. Так і ў кумаўёў. Можа быць кум – дваюраднай сястры мужык. Баба прыдзе прымаць роды, дык і свае пялёнкі прынясе.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Масько Таццяны Мікалаеўны, 1930 г.н.,*
*Сядлецкай Аксінні Сцяпанаўны, 1922 г.н.,*
*Верамеевай Кацярыны Пятроўны, 1926 г.н.,*
*студэнткамі Кушняровай К., Мельчанка Т., Сакаловай Ю.*

На хрэсьбіны куму дарылі рубашку, а куме на плацце. А кума нам мядку прыносіла, а кум нічога не нёс.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Арцюх Марыі Міхайлаўны, 1912 г.н.,*
*студэнткамі Кушняровай К., Мельчанка Т.*

Насілі к папу ў цэркву да й крысцілі. Як бацька з маткай хацелі, таго ў кумы выбіралі. Я не родственніца – і ў гэтай хаце дочка хрышчоная, і ў той хаце дочка хрышчона. Тожа так вот сабіраліся і крысцілі. Бабіну кашу елі, кум апошні выкупаў. Білі кашу.

Каб лягчэй радзіла, ето, па-моему, ніхто не прыкажа, ні дзелае, як ражаць. Усё дзелалі.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Крывалапчук Анастасіі Макараўны, 1908 г.н.,*
*Вяргеенка С.А.,*
*студэнткамі Маскаленка Ю., Васільевай І.*

Кумаўёў выбіралі. Хто хоча свайго чы брата, чы сястру, а як няма, дык прыяцеля якога. Жанчына дома ражала, пры гэтым бабка прысутнічала. Бабка моліцца. Каша бабіна была. З пшонкі гэту кашу варылі. Потом кашу эту поб'ют горшок. У нас на тачке бабу везут не на хрэсьбінах, а на свадзьбе.

***Запісана ў г. Мазыр (в. Навікі)***
***ад Кандратавай Галіны Пятроўны, 1916 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Капякі Рэшацілаўскага р-на Палтаўскай вобл.),***
***студэнткамі Данчанка Ю., Маскаленка Ю., Васільевай І.***

Кагда ребёнка прыносят з роддома, так его всегда бабка-павітуха абмывает дома. Бярэменным нельзя заглядвацца на плахога чалавека. Ідзеш ты ражаць, то табе мамка гаварыт: "Цябе Божа маці сахраніць". І так тры разы гаварыць.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Беленькай Анастасіі Рыгораўны, 1920 г.н.,***
***студэнткамі Дваракоўскай Т., Кучынскай Н, Паўленка Г.***

Сільна нада астарожна насіці ў сабе малога, бо што не так сделаеш – можа малое памерці.

Нельзя ўдарацць ката, бо можа радзіцца хрыплае дзіця. Чэраз парог, убарані Гасподзь, нельзя воду выліваць, бо будзет дзіця смаркатае да саплівае. І шыць нельзя, бо можа места прырасці ў жываце. Чэраз вяроўку нельзя перастуіпаць, бо пупавіна абаўе малога.

Былі разныя прыметы, па якім ужэ думалі, хто радзіцца. Ужэ калі ў бярэмянай селі вяснушкі, то будзе дзевачка, а калі нічога на ліцэ не змянілася – хлопчык. Калі ў бярэменнай круглы жывот і нізкі, то мальчык радзіцца, а калі востры і высокі, то далжна дзевачка.

Роды прынімала бабка. Да родаў яна далжна прыйці да рожаніцы тры раза. Выбіралі знакомую, з добрымі рукамі, бабку, якая ўмела. Ей давалі ўгашчэнне, ну, там што какое свойскае: малако, сыр, сала, мяса. Хрысцілі пасля шасці нядзель. Хлопчыка бацюшка нёс на алтар, бо ета будушчы мужчына, а дзевачку ў дзвярах. Іх акуналі поўнасцю вадой. Бабка далжна быць і на хрышчэнні. Як ужэ прыязджалі дамой, бабка везла з сабой кашы гаршок. Разная была каша, харошая – ета такая, што кагда яе разаб'еш, каша не рассыплецца. Гаршок разбіваў кум. Нада астарожна, аб вугал стала – цюк! Кум также плаціў за

кашу. Вяршок з кашы зразалі і хадзілі кругом, дзялілі за грошы для рожаніцы, а за астальную кашу грошы давалі бабе. Чарапкі ад гаршка сабіралі і лажылі хутка на галовы маладым замужнім жэншчынам, каб скарэй радзілі.

Бывала так шуцілі: калі дзе блізка мужык які сядзіць, дак яму чарапок еты на галаву – плясь, а ён ужэ начыная: "Яшчэ не хватала мне дзяцей ражаць!"

У каго дзеці ражаюцца мёртвыя, то встречныя кумаўя бяруцца. Шлі на перакростак, хто б ні шоў, таго і бралі. Дзяцей падавалі ў вакно к крэсту, с крэстам і прынеслі.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Сузько Зінаіды Ісакаўны, 1930 г.н.,*
*студэнткамі Сіраж А., Строкінай А., Дудко В.*

Нельзя вешаць вверх бельё, пуповіной запутаецца дзіця, хадзіць на похораны. Для лёгкіх родаў пасцяліць штаны мужніны на пароге і пераступіць тры раза. Цэпочкі раскрывалі, кольца снімалі. Ребёнка до года не показвалі в зеркале.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Громік Кацярыны Фёдараўны, 1943 г.н.*
*(перасяленка з в. Хаменкі Нараўлянскага р-на),*
*Кастрыцай А.А., Новак В.С.*

Ражалі ўсе дома. А хрысцілі, як ужэ панравіцца. Кажуць, каб не плакала дзіця, пахрысціць трэба. За кума і куму выбіралі каго хацелі: ці харошую падругу, хто бярэ брата, сястру, плямянніцу. Была і бабіна каша. Яе выкупалі. Давалі, хто болей грошай даваў, той б'е гаршок. Чарапкі клалі на галаву, каб хлопчык следушчы быў. Каб дзіця добра спала, па бабках насілі, лячылі. Бралі вугаль і соль і зацiскалі ў дзверы. А зачэм – не знаю, лячылі так.

*Запісана ў г. Мазыр (в. Навікі)*
*ад Крупы Міхаіла Ігнацьевіча, 1930 г.н.*
*(нарадзіўся ў в. Буда-Казіміраўская Мазырскага р-на),*
*Крупа Марыі Антонаўны, 1932 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Раманаўка Мазырскага р-на),*
*Вяргеенка С.А., студэнткамі Данчанка Ю., Васільевай І.*

Каб лягчэй радзіць, былі такія бабкі, што загаворвалі. Раньшэ ражалі дома. Прысутнічалі бабкі, якія зналі па етаму.

Каб пахрысціць, прыязджаў поп. Сабіралі ўсіх дзетак у адну хату дый крысцілі. Кума і куму выбіралі, хто як хоча: могуць з родзічаў, могуць і чужыя – хто каму нравіцца. Была і бабіна каша. Яе на хрэсьбінах варыць баба, катора ўжэ, як кажуць, павітуха. Тады плоцяць на гаршчок, то тады ўжо горшочок б'юць. Грошай хто больш дае – той хоча кашу пабіць. Некаторыя клалі чарапкі ад гаршочка маладым на галаву.

***Запісана ў г. Мазыр (в. Навікі)***
***ад Флёрка Ульяны Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(прыехала з в. Дубраўка Лельчыцкага р-на),***
***Вяргеенка С.А., студэнткамі Данчанка Ю., Васільевай І.***

Рэлігіі як так не было, но кум і кума былі. Вот пасля вайны ўжо і бальшых хрысцілі, каму ўжо і па дзесяць гадоў было і больш. Бабіна каша тожа была, эту кашу на хрышчэнне варылі. Эту кашу выкуплівалі ў каго болей грошай. Вот адзін даваў тры рублі, другі болей дае, а трэці шчэ болей дае. І вот, хто болей грошай дае, той кашу і разбівае. Разбівалі еты гаршок на стале, дзе варылі кашу. Некаторыя бралі чарапкі ад гаршка і лажылі на галаву маладым, а зачэм, я не знаю. Кумаўёў выбіралі родственнікаў абычна, ілі харошых друзей, саседзей. Імя выбіралі, як каму нравіцца, ніякіх забарон не было. У аснаўном імя выбіралі па-родственнаму. Вот у маладой ацец умер, то сына яна называла, як бацьку звалі. Па родственнаму в аснавном.

***Запісана ў г. Мазыр (в. Навікі)***
***ад Барысенкі Фёдара Іванавіча, 1927 г.н.***
***(нарадзіўся ў в. Фабіянаўка Калінкавіцкага р-на),***
***Вяргеенка С.А., студэнткамі Данчанка Ю., Васільевай І.***

Пры родах баба-пупарэзна была, як пагукаюць яе, адна прыходзіла.

На отвядкі прыносілі на пялёнкі матэрыю. Частавалі тым, у каго што было. Называлася родыны. "Проведаем рожэніцу", – казалі. Кумамі выбіралі, кому як панравіцца. За стол сядалі, страву ставілі, у царкву насілі дзіцця. Отцы дома ўсё подготовяць, а хросныя дзіцця нясуць. Як біруць дзіціну, то моўчкі забіраюць, а як прыносяць, то

кажуць: “Бралі нехрышчонае, а цяпер хрышчонае”. Дзівчынку кум дзіржав, а як мальчык – дык кума. Кашу шчэ варылі, баба накладала ў талерку кашу, а ёй давалі гасцінец.

*Запісана ў г. Мазыр (в. Козенкі)*
*ад Максіменка Галіны Пятроўны, 1932 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Дзеркачыўка, прыехала з Сумской вобл., Недрэгайлаўскага р-на),*
*студэнткамі Данчанка Ю., Маскаленка Ю., Васільевай І.*

Крісцілі ў цэркві. Кросны і кросная неслі дзіця на руках да цэркві. Кросны і кросная неслі мацерію для ребёнка. Радзіцелі ў цэркаў не хадзілі. Яны гатовілісь к хрэсьбінам. Калі поп хрысціў дзіця, вадзічкай прамываў галоўку і трошкі валос адразаў. Выбіралі імя радзіцелі. Які празнік быў, дык так яны хацелі назваць.

*Запісана ў г. Мазыр (в. Бабры)*
*ад Бабровай Еўдакіі Якаўлеўны, 1924 г.н.,*
*Бобрык Марыі Пятроўны, 1928 г.н.,*
*студэнткамі Невяроўскай Н., Вярэніч М., Ступінскай М.*

У хросных можна браць толькі хрышчоных. Можна браць замужных і незамужных. Калі мальчык, надо штоб дзеўка перахрысціла мальчыка, а еслі дзевачку, лучш штоб перахрысціў хлопчык. Раньшэ імя цэркаў выбірала.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Бондаравай Васіліны Сяргееўны, 1923 г.н.*
*(прыехала з в.Тульгавічы Хойніцкага р-на),*
*Станкевіч Валянціны Станіславаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткамі Вярэніч М., Ступінскай М., Кабадзейцавай І.*

Як дзіцятко адужае, яго нада было ўжэ везці ў цэркву. Тады выбіралі родзіцелі кума, куму, бабу. Патом бралі падводу і ехалі ў цэркаў хрысціць. Кум і кума ў царкве заходзюць у комнату, поп чытае малітву мінут дваццаць. А тада ўжэ бярэ малога і ваду з кадушкі на галаву яму ліе. Патом, як поп малога пахрэсціць, кума адзяе яго ў адзежку, крэсціка яму павесяць. Поп дае куме свечкі, а тая аддае іх матцы. Ета еслі дзіця забалее, дак іх запалюць і просяць Бога, штоб ачуняло дзіцятко. Кума і баба пякуць кашу. Калі прыязжаюць

з царквы, то сядаюць усе за стол, пакушаюць, а патом давай кашу купляць. Зразу купляюць куміну кашу. Хто больш заплоціць грошай, той паб'е і кашу. Тады гаварылі: "Гаршку канец, а дзеўцы вянец". Чэрапкі на галаву лажылі мужыкам, штоб на той год у іх дзеці былі, штоб хрэсьбіны гуляць.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Маслоўскай Ефрасінні Дзмітрыеўны, 1922 г.н.*
*(прыехала з в. Раманаўка Нараўлянскага р-на),*
*студэнткай Строкінай А.*

Нельзя перастулаць берэменай цераз венік, вяроўку, бо будзе ребёначык абмотаны пупавінаю.

Нельзя было біць ката, сабаку, жывёлу і дажа насекомых, а то дзіця памрэ.

Сесць на пол, уставая, калі апёршася на левую руку – мальчік, а на правую – дачка.

Перад родамі сняць цэпочкі, бусы, пояс, каб разрадзілася добра і лёгка.

Еслі острый жывот – мальчік, круглый – дзевочка.

Встрецiць беременную – к шчасцю. Калі маладыя едуць на вянчанне і встречаюць беременную, то вялікае шчасце ім будзе.

Нельзя беременнай рубіць дрова, мяса, а то дзіця з заячай губой нарадзіцца.

Шыць, вышываць і браць іглу ў рукі, асабліва на празнікі запрашчалася, бо дзіця радзіцца з прышытай часцю цела.

Каб дзіця было шчаслівая, як толька яго радзілі, памылі, апранулі, у люльку пад падушку клалі кніжку, ножніцы, вілку, цетрадку. Гэта для таго рабілі, каб дзіця ўмелае, вумнае, здаровае было.

Адна жанчына хадзіла берэменная, і ў ніх перад акном была сірэнь, на якой птушка гняздо звіла. Чірікала птушка і чірікала кожны дзень, да так ёй надаела, што яна раскідала яе гняздо. І радзілася ў яе дачка, і ў тры года ў дочкі па целу пайшла экзэма. Не маглі сначала паняць, што гэта, дажа ўрачы, і ніхто не мог нічога здзелаць. І вось у нашу вёску прыйшлі нішчыя, і адна жанчына, як убачыла гэтую дзяўчынку, кажа:

– А што гэта ў тваёй донькі на руках?

І вось тая жанчына нічога не адказала. Бабка гаворыць:

– А хочыш, я цябе адкажу і вылячу яе?

Жанчына кажа:

– Я аддам усё за гэта, і хату прадам, і ўсё што хочаш, толькі вылячы маё дзіця!

– Не, не трэба мне нічога і хаты мне не трэба, а хата трэба той птушкі, у якой ты яе адняла і ўбіла яе дзетак.

– А як я зраблю гняздо той птушкі?

– Вось як разбурыла, так і зрабі!

Тая так і зрабіла, але ж долга ў яе нічога не палучалася, а як зрабіла, так і прайшло ўсё ў дачкі.

Крёсную не бралі ўдаву. Еслі ўмірал ребёнак, то следуюшчего далжны кресціць родныя брат і сястра (таму што паміж імі ёсць родственная связь).

Калі хрысцілі, нада штоб была хросная бабушка. Яна дзелала цвяточкі, потым з іх звязвала букецікі, якія былі пабрызганы святой вадой і водкай – гэто сімвалізавала здоровье кресніка.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Піліпюк Марыі Пракопаўны, 1941 г.н.*
*(раней пражывала ў г. Новавалынск Валынскай вобл., Украіна),*
*студэнткай Геннум Н.*

Не разрешалася ругацца, нічего ў празнік дзелаць было нельзя. Нельзя переступаць церез венік, а то ребёнок ненармальны будзе. В васкресны дзень ідці в церковь, до абеда нічего дзелаць нельзя. Баба-павітуха купала сама дзіця і пуп завязывала.

Ідуць у цэркаў. Крёсных бралі знакомых ці родственнікаў. Купал бацюшка дзіця ў купеле. Наказ на шчасце рабёнка дзелаў бацюшка. Кум і кума пріносілі ў падарак дзеньгі. Баба-павітуха была главнай на хресьбінах.

*Запісана ў г. Мазыр*
*ад Аўчарэнка Марыі Антонаўны, 1924 г.н.*
*(раней пражывала ў г. Шкенза,*
*у 1950 годзе пераехала ў г. Ташкент, у 1966 г. – у г. Мазыр),*
*студэнткай Геннум Н.*

Каб абараніць навароджанага і парадзіху ад сурокаў, на навароджанага плявалі, казалі плахія словы. Навароджанаму маці павінна была адзець красную нітачку на правую ручку, гэта памагала, як гаварылі, ад зглазу.

На хрэсьбіны баба варыла кашу. Дзіця вазілі ці насілі ў царкву, там яго свяшчэннік храсціў. Кум павінен спачатку таргавацца з бабай за кашу, а патом выкупаць. Пелі песні:

* * *

*Ой, завешаны каўры,*
*Ой, завешаны каўры*
*Аж да самай да зямлі,*
*А за тымі за каўрамі*
*Парадзішачка ляжыць.*
*А хто к ней прыхінецца,*
*Мёду-віна нап'ецца?*
*Кумачка прыхінецца,*
*Мёду-віна нап'ецца.*
*Кумочак прыхінецца,*
*Мёду-віна нап'ецца.*
*Бабулька прыхінецца,*
*Мёду-віна нап'ецца.*

* * *

*Мой кумочак, мой кумочак,*
*Не на тое прыйшла,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшла.*
*Залажыце, запражыце*
*Клячу вараную.*
*Завязіце, адвязіце*
*Куму маладую.*
*Мой кумочак, мой кумочак,*
*Не на тое прыйшоў,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшоў.*
*Залажыце, запражыце*
*Ды дванаццаць сабак.*
*Завязіце, адвязіце*
*Майго кума ў кабак.*
*Мой унучак, мой унучак,*
*Не на тое прыйшла,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшла.*
*Залажыце, запражыце*
*Ды рабую свінню.*
*Завязіце, адвязіце*
*Усю бабіну сям'ю.*

Навароджанаму і парадзіхе дарылі падарункі родственнікі. А бабку адорвалі за кашу на хрэсьбіны падарункамі. Ім казалі: "Расціце вялікімі, жывіце сто год, не балейце і г.д." Абавязкова выконваліся спецыяльныя песні, прысвечаныя бабульцы-павітусе, куму, куме.

*Бабуля – пахучая мята,*
*Любім цябе, што ты вельмі багата.*

*Кумачка – чырвоная ружа,*
*Любім цябе, што ты вельмі прыгожа.*
*Кумочак, сіні васілёчак,*
*Любім цябе, што ты сеў з намі ў радочак.*

Калі раздавалася бабіна каша, то спявалі адпаведныя песні:

*Наша бабка пірагі пякла,*
*Ай, у панядзелак муку сеяла,*
*А ў ва ўторак вадзіцу грэла,*
*А ў сераду цеста чыніла,*
*А ў чацвер жа цеста мясіла,*
*А ў пятніцу жа цеста кісліла,*
*А ў суботу ў печ садзіла,*
*А ў нядзелю ўмывалася,*
*К унучачцы (або ўнучку) сабіралася.*

Пасля раздзелу бабінай кашы пелі песні аб долі і далейшым лёсе дзіцяці. Стол завяршаў кісель. На заканчэнне свята кум, баба, усе старшыя людзі спявалі пра нававароджанага.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Чырыч Вікторыі Паўлаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Рэчыц А.***

Цяжарным нельга было пугацца. Калі спужалася, то нельзя себе трогаць, а то на тым месцы ў дзіця радзімае пятно будзе. Бярэменным нельзя через верёвку ступаць, а то дзіця пупавінай абматае.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Мурашка Алены Пятроўны, 1932 г.н.,***
***Хацько Ніны Дзмітрыеўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Анікеевай А., Лапіцкай В., Новікавай І., Сапонавай А.***

Бярэменным запрашчалі всё ў празнікі рабіць: нельзя было кудзелю прасці, матаць. Еслі будуць рабіць, то гэта грэх. Гаварылі, што абматае дзіця пупавінай. Нельзя было пераступаць вяроўку, провалку, каб пятлі не было. Калі ражала жэншчына, её валасы рашчасаць нада. У адзежы нічога зашчэплена не было. На радзіны звалі бабку-павітуху. Яна памагала парадзіхе. Патом на хрэсьбіны яна кашу варыла. Гэтуя кашу выкупалі. Хто выкупіць, той і разбіваў яе. Дзеньгі сабіралі для парадзіхі. Яшчэ хросных бралі. Бралі хто каго. Не абязацельна радных. Бабке патом падаркі на хрэсьбіны дарылі. Яшчэ яе катаюць на санях. Павязуць, катаюць па ўсяму сялу, штоб яна адарыла іх.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Чуб Надзеі Гардзееўны, 1928 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Слабада Мазырскага р-на),***
***студэнткамі Анікеевай А., Кірылавай Ю., Сапонавай А.***

Спачатку выбіралі кума з кумой. Калі прыязжалі з роддома, дня праз тры звалі бабку, каб яна скупала дзіця. Яна заварвала траву і ў гэтым купала дзіця.

На хрэсьбіны куму, куме і бабе дарылі падаркі. Кумаўям завязвалі палаценца. На палаценцах завязвалі вузлы. Колькі завяжуць вузлоў, столькі будзе ў хаце дзяцей. На трэці дзень пасля красцін купаць прыходзіла кума. Яна і забірала гэтыя палаценцы.

Баба кашу дзелала. Кашу выкупалі. Кум крычаў: "Мая каша". А хто-небудзь тожа крычаў: "Не, мая каша". Так, хто больш дасць. Звычайна гэта быў кум. Сорамна, калі не ён разаб'е кашу. Усе грошы аддавалі рожаніцы.

Бабу падымалі на скамейцы, крычалі што-небудзь. Яшчэ бабу каталі па снягу на санках, а летам – на возе.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Скуратовіч Марыі Ільінічны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Будка-Шыбенка Рэчыцкага р-на),***
***студэнткамі Анікеевай А., Кірылавай Ю.,***
***Лапіцкай В., Новікавай І., Сапонавай А.***

Баба варыць кашу. Усе прыходзяць, садзяцца за стол. Кашу выкупаюць. Хто больш дасць грошай, той б'е кашу. Сорамна, калі кум не пераб'е цэны і не разаб'е гаршчок. Грошы, што сабіраюць, даюць бабе на гаршчок. Яшчэ грошы на пялёнкі лажылі. Гэта ўжо парадзіхе.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Куган Ганны Кузьмінічны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ясенец),***
***студэнткамі Анікеевай А., Новікавай І., Сапонавай А.***

Тады звалі бабку, якая роды прымала і ўмела гэта рабіць. На вёсцы былі такія жэншчыны, што ўмелі пуп той завязваць дзіцяці.

Хрысцілі кумаўя, вязуць на конях. Бацюшка дзяржыць дзіця, а потым дае кумам. Бацюшка аблівае вадой, імя выбіралі па празнікам. У хаце кашу білі, хто больш заплаціць. Першы кум плаціў.

Чарапкі клалі на галаву, жадалі шчасця, долі, штобы жылі добра. Кашу варылі з пшана. Кожнаму на тарэлку клалі кашу. Кожнаму давалі румачку.

Дзіця клалі на парог, маці пераступала, штоб спало. Калі жэншчына бярэменна, то яна не павінна нічога шыць, не нада нічога рабіць, нада сябе акуратна весці, дак будзе і рэбёнак акуратны. Калі жэншчына берэменная рабіла, то ў дзіця магла пупавіна закруціцца.

*Запісана ў в. Гурыны Мазырскага р-на*
*ад Фешчанка Хадоні Васільеўны, 1912 г.н.*

На радзіны ідзе бабка-павітуха. Узвар з чарніц ці груш, платок нясе, адзеялы. На радзіны родственнікі неслі хто што. Баба вара кашу. Кум з кумой едуць хрысцюць. Садзяцца на куце (кум і кума). Тры разы наліваюць (выпіваюць). Выкупляюць кашу, кум доўжан больш усіх даць.

*Запісана ў в. Гурыны Мазырскага р-на*
*ад Лаўрыноўскай Ганны Міхайлаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Трафімец М.*

На хрэсьбіны абязацельно варылі кашу. У нас яе называлі бабінай кашай. Ету кашу патом выкупалі, але доўжэн быў выкупіць ці кум, ці кума, і разбівалі.

Кашу варыць баба, што дзіцяці прымала ў гэты свет, а выкупляюць кумаўя: хто грошай больш дасць, той і паб’е. Гэту кашу варылі з мёдам. Патом яе разбівалі і дзялілі ўсю тую кашу. Падаркі даюць. Малога адорваюць, бацькоў, абязацельна бабу, патом астальных. Кашу абязацельна клалі і ў калыску дзіцяці.

А патом у нас шчэ быў абрад: пасля хрэсьбін етых у сельсавет ехалі запісваць малога. Там таржэственна запісваюць, марш іграюць і кумаўям такія кніжачкі давалі: “Пачотны бацька”, “Пачотная маці”, і там напісана, што да савершэнналецця, да шаснаццаці год, штоб хросныя бацькі памагалі дзіця.

Вось еты абрад мне падабаўся, было красіва. Ідзеш па краснаму палавіку, там трыбуна была, усе сядзяць за сталом, на стале была красная скацёрка. За трыбунай выступала хросная маці, а потым хросны бацька. Гаворацць, як бу-дуць памагаць малому, гадаваць.

А патом уручаюць кніжачкі. Як на дзевачку, дык цёмна-розавыя, ну, а як на хлопца, то ўжо сінія. Вось так і праходзілі ў нас хрэсьбіны.

*Запісана ў в. Зімовая Буда Мазырскага р-на*
*ад Кашэвіч Антаніны Уладзіміраўны, 1937 г.н.*

Існавалі павер'і, калі жанчына была цяжарная. У нас жанчына магла даведацца, хто ў яе будзе: мальчык ці дзевачка. Дома ткалі кросна (усякае палатно). В эціх кроснах быў пруток з дрэва. Гэты пруток прымацоўвалі пасля Каляд. Калі кросна ткуць і палатно заканчваецца, пруток падае. Потым цяжарная жанчына бярэ пруток і тры разы абыходзіць з ім дом на вуліцы. Калі сустрэне жанчына мужчыну ці жанчыну, то такога полу будзе і дзіцятка.

Калі памірае хто-небудзь, то нельга знаходзіцца, калі выносяць труну, нельга ісці на кладбішча.

Калі жанчына цяжарная, то нельга біць кабана, бо будзе з дзіцём плоха. Калі мая бабуля была цяжарная, то кабан выбег з хлява, і бабулі прыйшлося заганяць яго нагой. Калі нарадзілася дачка, то яна круцілася-круцілася і не ляжала на адным месцы. Тады бабулі параілі зрабіць так: узяць салому, на якой ляжаў гэты кабан, пакласці ў ваду і пакупаць дзіцё і потым гэту ваду выліць на ростанях. І дзіцё перастала круціцца.

Калі цяжарная, то нельга пераступаць вяроўку, бо дзіця будзе заматана пупавінай. Ніколі не глядзі на ўродлівага чалавека, не смейся з яго, не абгаварвай, бо і тваё дзіця пераніме недахопы.

Яшчэ існавала такое павер'е, што цяжарнай нельга адказваць, бо твае ўсе рэчы мышы паядзяць.

Яшчэ былі такія павер'і. Калі маленькае не спіць, тады надо яго палажыць на парог, тры разы пераступіць, паплюваць і сказаць: "Якая маць радзіла, такая і адхадзіла". Калі малое хтосьці зглазіць і яно будзе плакаць усю ноч, то трэба ўзяць святую ваду і тры раза абмыць твар. І сказаць: "Якая маць радзіла, такая і атхадзіла".

Калі малое нараджаецца, то адразу хрэсьбіны цераз адзін-два дні.

Галоўнае было выбраць кумоў. Абычна кума і куму выбіралі з сям'і: роднага брата ці родную сястру, ці дваюраднага брата ці сястру. На хрэсьбіны запрашалі кумоў, бабку-павітуху. Кумы маглі быць замужнія і незамужнія, жанатыя і нежанатыя.

Бабку-павітуху садзяць на кут, калі яна прыходзіць. Потым бацька з маткай дораць ей падарунак. Дораць падарунак таксама куме, куму. Кум, кума дораць малому падарунак.

Бабка-павітуха варыць кашу з пшана ў гаршку. Калі каша зварана, то госці садзяцца за стол, п'юць, ядзяць. Потым аб стол кум разбіваў гаршок. Гаршок павінен быў разбіцца з трох разоў.

Потым быў абрад “катаць бабку”. Бабку, калі зіма, садзілі на санкі, а калі лета – на каляску, і вазілі па вуліцы. Потым бабка павінна была ставіць бутэльку.

Імя наракалі па святам. Напрыклад, на Міколу – Мікола, на Юр’я – Юрый. А калі не было свята, то наракалі, як хацелі бацькі.

Заключны этап хрэсьбін – гулялі, пелі песні.

*Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на*
*ад Кадол Кацярыны Іванаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Кадол Т.*

У маладых выбіраліся кум і кума, садзяць іх за стол умесце. Выпіваюць па чарке. Выкупаюць кашу. Хто больш паложа грошай, той пабівае кашу. Кашу не сразу выносяць: то ў чугун ката ўгоняць, то яшчэ чаго паложаць разы мо чатыры. Кашу рэжуць на кускі. Чарэп’я стараюцца маладым на галаву палажыць, каб дзеці вяліся.

Кум і кума заўсёды далжны быць вместе, за сталом сядзець побач, кашу варыць баба, а ўсе астатнія яе выкупляюць. Падавалі падманную кашу (4 разы), напрыклад, ката ў гаршок садзілі. Баба казала: “Не мая гэта каша”. Потым кашу ставілі на вугал стала і выкупалі. Хто больш грошай дае, той і б’е кашу. Ну, больш даваць павінен быў кум, а то яму стыдна будзе. Пасля кашу рэзалі на кускі і ўсім давалі. Чарапкі ад гаршка лажылі на галаву таму, хто малодшы, каб дзеці раджалі.

*Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на*
*ад Хальчэні Анатоля Паўлавіча, 1941 г.н.,*
*студэнткамі Кушнаровай К., Ісаенка В., Швед А.*

Баба кашу варыць. Сначала маглі ката ўсадзіць у гаршок, прынесці. Па тры разы абойдуць стол. Хто боляй грошай дась, той б’е кашу, стараецца кум. Баба на куце сядзела. Бабе на гаршок сабіралі, што пабіла. Маладой жонцы чарапка на галаву клалі, каб дзеці былі. Возяць бабу на калясцы па дзярэўні, пакуль магарыч не паставіць.

*Ой, добра, куме,*
*Добра гарэлка,*
*Будзем піць да панядзелка...*

*...Ой, куме, куме,*
*А на нядзелю не маю дзела,*
*Будзем піць і ў нядзелю.*

*Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на*
*ад Вягера Дар’і Паўлаўны, 1937 г.н.,*
*студэнткамі Кушнаровай К., Ісаенка В., Швед А.*

Каб абараніць маці і дзіцё ад сурокаў, то казалі: “Каб Бог даў, да здаровенькае расло, да было, да спало, да прыбувало. Каб маці гадавала сваё дзіцятко і гора не знала”.

Святкаваліся хрэсьбіны. Прыдзе хазяін, пазаве нас за стол, а мы свае закускі нясём, а ён сваю гарэлку ставіць, і ўжэ начынаем паздраўляць рожаніцу і наваражэнца ўсякімі харошымі словамі. Тады адорвалі, калі ўжо былі хрэсьбіны, не атведкі, а хрэсьбіны. Дак на хрэсьбінах баба кашу нясе, баба боршч нясе. О, бабіна каша аўтарыцетна, няхай папрэбуе даць торта ці што, дак нічога і грошай не дадуць. А як баба дась ужэ кашу, во тады гэта прымалі. А ўжэ кум сядзе, кума і баба, баба падае кашу, а мы на тую кашу кладзем грошы, а хто падарункі, і ўсе гэтыя падарункі ідуць мацяры навароджанага. Толькі ўсе крычалі: “Бабіна каша, бабіна каша” і “Спасіба за кашу”, там тыя чарапкі, якія заставаліся ад разбітага гаршка, да надзявалі іх на галаву маладому ці хлопцу, ці дзяўчыне: “Да ў вас каб на той год было дзіцятка, ці дзевачка, ці хлопчык”. Прыгаварваем да смяімся. Каша сама на заканчэнне, а потым ужо закончым, да ўстаём за стала, а хазяін крычыць: “Наце вам яшчэ на пасашок”. Потым падзякуем за ўсё і ўсе пачастункі і расходзімся па дамам.

*Запісана ў в. Касцюковічы Мазырскага р-на*
*ад Рэчыцкай Ганны Афанасьеўны, 1937 г.н.,*
*студэнткай Нікіценка Н.*

Пры набліжэнні родаў жанчына імкнулася, каб пра гэта ведала як мага меньш людзей.

Да парадзіхі звалі бабку-павітуху, па якую ішоў муж або замужняя жанчына. Адпраўляючыся да павітухі, адразалі акрайчык хлеба, пасыпалі яго соллю і бралі з сабой. Па прыходзе да бабкі-павітухі гаварылі: “Хадзі, бабулічка, к нам. Нешта нашай маладусі ня дужа ладна дзелаецца”.

Нарадзіўшагася дзіцяці бабка ніколі не брала голымі рукамі, а замотвала ў старое адзенне, каб яно жыло ў багацці. Потым бабка перавязвала пупавіну пасмачкай чыстага лёну ці суровай ніткай. Пупавіну пераразалі хлопчыку на сякеры, нажы, дубовай кары ці кавалачку хлеба, малатку. Дзяўчынцы пераразалі на грэбне, верацяне, нітках, кружках, нажніцах. Усе гэтыя прадметы вызначалі будучую

працу дзяцей. Пупавіна адвальвалася на чацвёрты-пяты дзень і маці хавала яе ў куфар ці запіхвала ў дзірку, якая была прасвідравана для гэтай мэты ў сцяне хаты. Калі дзіцяці спаўнялася сем гадоў, яму давалі вузельчык з пупавінай, развязвалі, каб "развязаць" свой розум.

Хрэсьбіны імкнуліся адсвяткаваць у дзень царкоўнага хрышчэння. Без запрашэння на гэтую ўрачыстасць ніхто не прыходзіў. Хрэсьбіны ўключалі ў сябе агульнае частаванне. Усе жанчыны, што ішлі на хрэсьбіны, неслі з сабой прадукты.

Спецыяльнай абрадавай стравай на хрэсьбінах з'яўляецца бабіна каша, якую гатавала павітуха або хросная бабка. Для гэтай стравы куплялі новы гаршок, які потым разбівалі. У час падзелу кашы, якая амаль заўсёды заставалася за кумам, прыходзіў бусел, які віншаваў бацькоў і прыносіў калыску. На хрэсьбінах заўсёды прысутнічалі песні, якія былі пранізаны малітвамі за лепшую долю дзіцяці. Бабіну кашу хутка з'ядалі, каб дзіця пачало хутчэй хадзіць і гаварыць.

***Запісана ў п. Крынічны Мазырскага р-на***
***ад Кананчук Надзеі Архіпаўны, 1954 г.н.***

Цераз сколькі дней бабы прыходзяць у отвяды. На хрысціны варяць кашу з пшана. Мёд, сахар туды дабаўляюць. Б'е кашу бацька хросны. Тарэлку носяць па гасцях, і тыя грошы туды ложаць.

***Запісана ў в. Майсееўка Мазырскага р-на***
***ад Граб Марыі Яўхімаўны, 1934 г.н.***

Шукалі бабу-павітуху. Яна прымала роды. Трэбо было, каб у павітухі не было мужа. Калі быў муж, то павітуха счыталася "нячыстая". У яе павінна быць лёгкая рука. Яна ахраняла дзіця да самых хрэсьбін і первая прымала яго з рук хросных. Пасля хрэсьбін быў абязацельна абед. Бабка шаптала, малілася і гадала на тое, штоб у дзіцяці быў лёгкі лёс.Праз тры дні выбіралі хросных бацькоў. Хросным бацькам быў брат маці дзіцяці, а хроснай – сястра бацькі. Пры першым купанні дзіця павязвалі краснымі паяскамі, пакуль выберуць хросных.

Раніцай таго дня, калі дзіцятко трэбо хрысціць і вязці ў цэркву, у хаце сабіраліся бацькі навароджанага, кума, кум, бабка-павітуха.

Бабка-павітуха мела вялікую ролю. На хрэсьбіны дзіцяці яна варыла і хавала кашу.

Перад тым як ехаць у цэркву, бабка хрысціла дзіцятко. А калі вярталіся з цэрквы, ад яе трэбавалі хутчэй назваць імя дзіцяці, каб ён быстро і рано начаў гаварыць.

Пасля выкуплівалі кашу грошамі. Хто сколька мог. Но кум заўсёды даваў больш грошай, і кашу звалі "кумава". Прыносілі кашу і ставілі яе на стол. Кум падымаў крышку, і із гаршка выскокваў певень, які "танцаваў" на стале. Калі кум біў гаршком па стале, маці падымала дзіця – ужо калі кум падымаў рукі з гаршком.

*Запісана ў Мазырскім р-не*
*ад Царэпка Г. С., 1927 г.н.,*
*студэнтам Есісам Я.*

Маладым крошкі на кажух лажылі, штоб дзеці кучаравыя былі. Бралі рушнік з царквы і перавязвалі жывот тыя жанчыны, якія хацелі зацяжарыць. З ім хадзілі адзін-тры дні.

Не дазвалялі пляваць, а то ў дзіця слюна са рта цекці будзе. Жывотное ўдараць нельзя, а то ў дзіця будзе крыкса. Нельзя гаварыць бярэменнай: "Фу, ваняе", а то ў дзіця запах са рта дурны будзе. Нельзя глядзець на старых, уродлівых, бальных. Нельзя адказваць цяжарным, а еслі адказаў, то трэба запаліць соль услед.

*Запісана ў в. Прудок Мазырскага р-на*
*ад Кур'ян Марыі Аляксандраўны, 1941 г.н.*
*(кіраўнік народнага калектыву "Валошкі" ,*
*раней пражывала ў г. Хойнікі),*
*Яшчыкоўскай Раісы Васільеўны, 1935 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Загорыны),*
*Прус Наталлі Васільеўны, 1959 г.н.*
*(дырэктар СДК, нарадзілася ў в. Мерабель).*

Калі жанчына ражала, раскрывалі ўсе вокны і дзверы, чыталі наступныя словы: "Госпадзі Божа, Прасвятая Багародзіца, атварыце варата, памагіце крышчонай (імя) выпусціць ребёнка наружу". У мяне дачка ражала, я яе ў роддом павезла, а ў мяне на верандзе сцекло выпала само. Калі прыехала, даведалася, што дачка ўжо нарадзіла.

*Запісана ў в. Прудок Мазырскага р-на*
*ад Прус Наталлі Васільеўны, 1959 г.н.*
*(дырэктар СДК, нарадзілася ў в. Мерабель).*

Калі жанчына цяжарная, то нельга на пажар глядзець і за цела тады брацца, бо пляма будзе ў дзіця на тым месцы. Скаціну біць нельга цяжарным, чараз вяроўку пераходзіць, бо пупавіна за шыю заматаецца.

На хрэсьбіны баба кашу варыла з пшана (зрэдку з рыса). Етую кашу хросны разбіваў аб стол. Зразалі з кашы вяршок і ў тарэлкі пускалі па стале – кідалі грошы. Етыя грошы матка ў падол забірала.

З хрэсьбін бабу цягнулі так: санкі, на іх станавілі барану, а тады ўжо бабу. Цягнулі яе, каб гарэлкі ім наліла.

*Запісана ў в. Скрыгалаў Мазырскага р-на*
*ад Чараўко Клары Герасімаўны, 1930 г.н.*

Людзі гатовілі дома, зносіліся па тры блюды, хазяін гарэлку. Тады роды прымала бабка-павітуха. Яна была ў пачоце. Ёй дарылі падаркі. Бабка мятлікаў прыносіла, шапачку. Бабка варыла кашу. Разбівалі гаршок і елі кашу. Чарапкі лажылі на голаў дзеўкам, калі яны хацелі дзяўчынку, хлопцам, калі яны хацелі хлопца. Кумоў бралі ні толькі з радні.

*Запісана ў в. Слабада Мазырскага р-на*
*ад Рухло Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.*
*(перасяленка з в. Казіміраўка),*
*студэнткамі Шупляковай Г., Падцерабковай Ю., Гайчук М.*

Як была бярэменна, дзе вуж паўзе, хацела ўдарыць: “Не бі, не бі, не бі. Табе не можна біць”. За нішто не бярыся, як гарыць агонь, то будзе красна латка. Спадніцу расшпульвалі, паясы развязвалі.

Прыдуць у вотведы. Пагосцяць, як перахрысцілі. Баба, кум, кума былі галоўнымі. Даюць падаркі. Кашу выкупалі. Паставяць на стол. Кум дакладвае грошы. Кум разбівае на углу гаршчка і раздае кашу. Чарапкі на галаву ложаць: штоб тая другое радзіла. Вазілі конямі бабу.

*Запісана ў в. Слабада Мазырскага р-на*
*ад Клявец Надзеі Данілаўны, 1935 г.н.*

Мы ражалі ўсе ў бальніцы. Ето шчэ нашы мацеры ражалі дома, і то не ўсе. Когда жэншчына была беременна, то рабіла, усё дзелала, усё можна было рабіць, працаваць. Сначала прывязуць дадому жэншчыну з дзіцям. Патом ідуць в отведы. В отведы пріходяць только одны

жэншчыны. С пустымі рукамі не ідуць. Несуць ей ужэ што-нібудзь. Закуску несуць в отведы. Ужэ хозяін ставіць жэншчынам бутылку, закуску. Отведаюць, а ўжэ после робяць хрысціны. Выбіраюць кума і куму і завуць іх на хрысціны. І была на хрысцінах баба. Баба варыла кашу. Яна к сем'е не атнасілась. Бралі вот проста жэншчыну за бабу. Вот колісь "бабілі", прымалі гэту бабу. Вот колісь не было бальніц, мацеры нашы дома ражалі, так па закону бралі бабу. Баба прымала роды. Баба прымала ета дзіця, "бабіла", пупавіну завязвала.

Ну вось, бралі любую жэншчыну за бабу, і яна варыла кашу на хрысціны. Кашу варылі з пшана. Каб салодка была, штоб рассыпчата была. Кашу ў гаршочку варылі. Ужэ сядаюць за стол, кум сядае, ужэ бяруць такую тарэлку і кідаюць у гэту тарэлку на пялёнкі. Хто што паложыць: хто пялёнку, хто капейку. Вот хто болей паложыць. А кум вот, хросны, должэн палажыць болей сама. І еслі палажыў болей, значыць, ён сам кашу б'е, значыць, стараўся кум болей палажыць і, значыць, кум разбівае кашу. І, каб гліняны горшчык разбіўся, а каша каб стаяла цэла.

І вот эту кашу дзеляць па кусочку каждому, а чарапкі хваталі хутчэй на галаву: "Вот табе хлопчык, вот табе дзевачку". Разбіваў кашу аб угал стала той, хто плаціў грошай болей. На хрысцінах бабку-павітуху не вазілі. Іншы раз кум толькі выхадзіў, а так у нас не вазілі.

А за сталом гулялі асобенно. Хрысціны спраўлялі адзін дзень, а ўжэ як сталі багацей, так на другі дзень пахмяляцца хадзілі. Хрысцілі ў цэркве, а як багата сабярэцца дзяцей, дак папа ў дзярэўню звалі. Поп прыязжаў у дзярэўню, астанаўліваўся ў адной хаце, і дзяцей тады сабіралі і хрысцілі ў етай хаце.

Бярэменнай не можна з вядра ваду піць, вот будзе слюнявае, так казалі. Не можна перастулаць чэраз вяроўку, будзе пупавіна заматана. Не можна чэраз аглоблю перастулаць, калі воз стаіць, штоб лёгка радзіла, штоб ніякай прэграды не было.

Калі дзіця прынасілі дамоў, то пасярод хаты ў мяшок саджалі. А то лажылі пад прыпячак. Штоб маўчала як палена, ляжала, бо калісь жа на полі цэлы дзень рабілі.

*Запісана ў Мазырскім р-не.*

# Нараўлянскі раён

Калі ўжэ нарадзілася дзіця, ва ўзгалоўі маткі клалі венік, зроблены з бярозы, а бабка-павітуха чытала спецыяльную замову для малога. Тая ж бабка прымала роды і даўжна была быць з дзіцём аж да хрышчэння. Яна яго і купала. Бабку бралі пажылую, у яе не даўжно было быць мужыка. Як прашло ўжэ два дні, бацькі выбіралі хросных. У хросныя звалі каго-небудзь са сваіх. Ад хрыста ніхто не адказваўся, бо ета было грахом. Калі ўжэ дзіця хрысцілі, у доме бацькоў навароджанага сабіраліся госці. Першаю ў хату ўваходзіла хросная маці, яна клала на стол кулітку хлеба, а жанчына ёй давала матэрыял.

Дзіця хрысцілі пасля абеду. Калі ўжэ пахрысцілі, то малому адзявалі белую рубашачку. Дадому ехалі моўчкі, каб дзіця не было крыклівым. А дома стол накрываюць. Кума і кум садзяцца на лучшыя места. Патом кум перапіваўся з кумам.

У канцы падавалі бабіну кашу. Яе варылі з ячменнае ці грэцкай крупы. Кашу прыносіла бабка, яна яе доўжна была варыць дома ў сябе. Каша ў гліняным гаршочку, калі кашу з'ядуць, у гаршок усе госці клалі грошы. Тое, што яна сабірала за кашу, бабка забірала сабе. Патом кум доўжэн быў разбіць еты гаршок. Калі ўсе сабіраліся ехаць дадому, матка дзіцяці дарыла хросным пірагі.

Напалоханая пажарам жанчына не доўжна брацца рукамі за ліцо, шыю, покуль не пройдзе спуг, бо ета ўсё можа наўрадзіць шчэ не радзіўшэмуся дзіцяці.

Ня трэба цяжарнай жанчыне падыходзіць да трупаў жывёл і пляваць на яго.

Цяжарнай жанчыне нельга есці са скаварады, нажа.

Калі пераступіць цераз дзіця, то яно не будзе расці.

Ня трэба гойдаць калыску, калі ў ей няма дзіцяці.

Каб дзіця не хварэла, даюць піць ваду, якую зліваюць тры разы скрозь прабой замка.

Тое месца, дзе дзіця ўпадзе первы раз, трэба паліць тры разы вадой, а калі вады пад рукой няма, трэба плюнуць тры разы.

Да года не шыць дзіцяці адзенне з новага матэрыялу і не даваць глядзецца ў люстэрка.

Гэтай песняй велічалі хросных і з імі бабку:

*А ў саду явар зелянюсенькі,* 2 р.
*На куце кумок маладзюсенькі.* 2 р.
*А ў саду вішня зелянюсенька,* 2 р.
*На куце кума маладзюсенька.* 2 р.
*Пад гарой вярба сукаватая,* 2 р.
*На куце бабка дай гарбатая.* 2 р.
*Йна й гарбатая, йна й багатая.* 2 р.

Жартоўная песня пра кума і куму:

*А кум куме рад, павёў куму ў сад,* 2 р.
*Пасадзіў куму ў садзе на цвяток.* 2 р.
*– Еш, кума, ягадкі, каторыя салодкія,* 2 р.
*Каторы горкі – для маей жонкі.* 2 р.

*Сядзіць бабка на куце,*
*Й Госпада Бога просіць,*
*Госпада й Бога просіць:*
*"Долю харошую і дамавую, і векавую,*
*І долю венчальную,*
*І долю венчальную".*

### Чэраз рэчаньку, чэраз быструю

*Чэраз рэчаньку, чэраз быструю*
*Гібка кладачка й ляжыць.*
*Па той кладачкі, па той гібенькай*
*Ды ўсё Ванечка ідзе.*
*Ён жа Манечку, ён душу сваю,*
*Ён за ручаньку вядзе:*
*– А ты, кладачка-сірабраначка,*
*Ты не гніся пада мной.*
*А ты, Манечка, ты й душа мая,*
*Ты ні старайся за мной.*

*А ты пі віно і гарэлачку –*
*Не будзь, не будзь п'яненька.*
*А радзі сына і дачушку –*
*Не будзь старэнька.*
*– А ты й, Ванечка, ты, дружочак мой,*
*Усе й няпраўдачка твая.*
*Буду піць віно і гарэлачку –*
*Буду, буду п'яненька.*
*А раджу сына і дачушку –*
*Буду стараньку.*

***Запісана ў в. Будкі Нараўлянскага р-на***
***ад Макаранка Ульяны Фёдараўны, 1922 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Вуглы Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Пятроўскай А.***

# Петрыкаўскі раён

Хрэсьбіны (радзіны) рабіліся не раней, чым праз сорак дней пасля нараджэння. Лічылася, што сорак дней роджаніца находзілася паміж небам і зямлёй. На хрэсьбінах была бабка-павітуха, якая прыгатавала кашу, а кум падчас гульні даўжон быў выкупіць яе. Аб далейшым лёсе дзіцяці нельга було гаварыць і пець, каб не зламаць наканаванае Богам.

*Запісана ў в. Багрымавічы Петрыкаўскага р-на*
*ад Бічана Міхаіла Фёдаравіча, 1928 г.н.,*
*Бічан Вольгі Фёдараўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Мяжэнька А.*

Раньшэ рожаніца ражала дома ў хаце. Калі прыходзіў час ражаць, звалі бабку-павітуху, і бабка прымала роды. Наварождзенаму бабка-павітуха пуп перавязвала льняною ніткаю абязацельна (кужальнаю). Еслі ражаўся хлопчык, пуп перавязалі над паленам, а калі дзевачка – пуп адразалі на начоўках. Потым бабка купала наварождзенага, і калі была дзевачка, воду вылівалі ў маліннік, а калі хлопчык – ваду вынасілі і вылівалі на ростанцы. Імя наварождзенаму да-ваў усегда бацька. Мальчыку – Іван, Сямён, дзевачкам – Ганна, Соня... Калі хадзілі ў вотведы, неслі з сабою і яечніцу, і хлеб, і піражкі, хто што хацеў. Усегда жанчыны хадзілі ў вотведы адны, без мужыкоў. Мужчынам не паложэна было хадзіць.

За кумоў бралі адну пару. Еслі дзеці не выжывалі і ўміралі, бралі ўстрэчных кумаўёў. Выходзіў бацька на дарогу, браў хлеб, закручаны ў палаценца, выхадзіў на ростанцы (на скрыжаванне) і ўстрачаў: каго першым устрэціць на дарогі, мужчыну і жанчыну, і прыглашаў іх за кумоў.

Перад тым як везці дзіця хрысціць к папу, бабка брала наварождзенага, запеленоўвала ў пялёначкі і абносіла яго вакруг стала, штоб яно любіла родны дом. У цэркву дзіця везлі кумы, а маці ў цэркаў не ездзіла. Калі ўжо ехалі ў цэркаў хрысціць дзіця, бралі з сабою палатно хрышчэнскае і давалі бацюшке. Папу везлі паўлітра гарэлкі і хлеб. Кум купляў за свае грошы крэсцік для дзіцяці. Калі вярталіся з цэркві, аддавалі дзіця мацеры і гаварылі: “Паздраўляем з імем (Іван ці Ганна)”.

Хрэсьбіны гулялі ці сразу, ці калі падгатовяцца. Сабіралі ўсіх родственнікаў і спраўлялі хрэсьбіны. На хрэсьбіны бабка-павітуха варыла кашу. Быў такі абрад. Сначала неслі кашу абманную: то картошкі наложаць, то ката паложаць для таго, штоб смяяліся. Ужэ трэці раз неслі настаяшчую кашу. Аддавалі кашу радзіцелям і благаслаўлялі: “Благаславі, ацец і маці, кашу разбіваці”. Потым выкуплівалі кашу, хто больш паложыць грошэй, той разбівае кашу. Кум усягда стараўся выкупіць кашу. Калі ўжо разбівалі кашу, сталіся ўзяць усе. Бралі і кашу, і чарапкі. Чарапкі аддавалі тым, хто не імеў дзяцей, хто быў бяздзетны – абязацельна давалі чарапкі, штоб у іх былі дзеці.

Кумаўям дарылі падаркі, а госці выхватвалі і трэбавалі выкуп. І кум з кумою давалі ім выкуп і забіралі падаркі. Потым маці і бацька жэлают свайму дзіцяці: “Дай, Бог, каб наша дзіцятка была бягучае, як вада, багатае, як зямля, вясёлае, як пчала і краснае, як вясна!” Потым жадаюць радзіцелям госці: “Хай вам дась Бог шчаслівы лёс вашаму Іванку, а я дару грошы і пшанічку, каб муж жонцы і далей часцей глядзеў пад спаднічку”, “Дай Бог вашаму Іванку здаровенькім, шчаслівенькім і вясёленькім жыць. А я на бабіну кашу кладу грошы і трошкі гліны, каб і на следуюшчы год прыйці к вам на радзіны”. У канцы крысцін на калясцы або на санках везлі бабку дадому, яна ставіла ім бутылку гарэлкі.

Шэсць нядзель парадзіха лічылася нячыстай. Пасля гэтага шла з дзіцём уводзіцца ў царкву. У гэты дзень яна несла куме, куму і бабке пірагі з жытняй мукі па дзевяць штук. Цяпер такога няма.

Дзеці спалі ў дзеравянных калысках да трох гадоў. Калі шлі на поле, дзяцей бралі з сабою. Ставілі на полі казлы і пад іх вешалі калыску, лажылі туда дзіця і абкрывалі калыску шэсціклінным полагам. І маці ўжо рабіла сваю работу. Грудзьмі кармілі да трох гадоў. Стрыглі дзяцей у год першы раз, стрыгла маці. Валасы палілі ў печы або пускалі на ваду. І цяпер таксама робяць.

***Запісана ў в. Кацуры Петрыкаўскага р-на***
***ад Плікус Марыі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Яновіч М.***

Завуць радзіцелі хросну і хроснаго. Патом ідуць у цэркву. Бяруць булку хлеба, полоценцэ, крэсцікі і ідуць у цэркаў. Еслі дзевачку хрэсціць, то хросны должэн дзевачку пад крэстом дзяржаць.

Мальчыкаў бярэ бацюшка і абносіць кругом алтара. Патом прыходзяць і садзяцца за стол. Варацъ кашу. Іменно ў гаршку. З полоценцэм. Кум должэн етую кашу разбіць аб стол. Штоб чэрапкі разляцеліся ўдрэбезгі, і етымі чарапкамі нада з'есці кашу. Ложаць малому чэрапкі на голаву. Патом на кашу ложаць грошы. Кум должэн большэ ўсех палажыць. Выконваліся песні:

*Ой, учора ў кумы*
*І сягоння ў кумы.*
*А я заўтра куму*
*Да сябе пазаву.*

*Дай заб'ю я стрэльца,*
*Дай уб'ю варажца.*
*Ай з таго варажца*
*Да сем страў навару.*

*Із печы зелянец*
*Дай звару халадзец.*
*Ай, на ты хрэсьбіны*
*Дай звару халадзец.*

*Дай вазьму я стрэльца,*
*Дай куплю ведзерца.*
*А ў тыя ведзерца*
*Дай налью я вінца.*

*Кума пі, кума еш,*
*Не засалівайся.*
*І ў рукаў, і ў карман*
*Не закладывайся.*
*І ў рукаў, і ў карман*
*Не закладывайся.*

*Я й наелася,*
*Я й напілася,*
*Што й дадому еле-еле*
*Дакацілася.*
*Што й дадому еле-еле*
*Дакацілася.*

***Запісана ў в. Макарычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Вяргей Веры Мікітаўны, 1934 г.н.,***
***Вяргей Пятра Іванавіча, 1969 г.н.,***
***студэнткай Цыхан І.***

Цяпер-та гатовяць, а раньшэ прыносілі людзі закуску, а хазяйка строіла гарэлку, кашу варыла і боршч варыла. Кашу з пшана. Такі абычай быў. Кашу варыла бабка, прыносіла. На пялёнкі сабірала, грошы лажылі. Патом ужэ кум разбіваў той гаршчок.

Пасля таго як пагасцілі, давалі бабке кашу. Падманвалі. Яе абкручвалі палаценцам, а ў другі саджалі ката, ці бацінак паложаць. Баба далжна ўгадаць, дзе яе каша. Злажваюць на кашу грошы, падаркі, пялёнкі. З кума выбурваюць найбольш грошай.

***Запісана ў в. Новыя Галоўчыцы Петрыкаўскага р-на***
***ад Лосевай Ніны Мікітаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кажамяка М.***

Раньшэ ражалі дома. Мая бабка прымала роды ва ўсіх жанчын. Прымаць роды магла толькі жанчына, у якой няма на рубахі. Калі хто збіраецца ражаць, то звалі маю бабку. Спачатку яна пераадзявалася ва ўсё чыстае, потым са сваім палаценцам шла да рожэніцы. Абавязкова трэба было выцерці рукі этым палаценцам. Калі народзіцца дзіця, то пупок завязвала толькі сама баба. Потым яна шла дадому, гатовіла есці і несла ўсё рожэніцы. Раньшэ маглі пазнаць, хто будзе, хлопец ці дзеўка: так, калі збіраешся ражаць, то каго першым сустрэнеш, той і нарадзіцца.

***Запісана ў г. Петрыкаў***
***ад Прыкота Валянціны Аляксандраўны, 1958 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Фаустава Васкрэсенскага р-на Маскоўскай вобл.),***
***студэнткай Бараніч Я. (2007 г.).***

Хрэсьбіны (радзіны) рабіліся не раней, чым праз сорак дней пасля нараджэння. Лічылася, што сорак дней роджаніца находзілася паміж небам і зямлёй. На хрэсьбінах была бабка-павітуха, якая прыгатавала кашу, а кум падчас гульні даўжон быў выкупіць яе. Аб далейшым лёсе дзіцяці нельга було гаварыць і пець, каб не зламаць наканаванае Богам.

***Запісана ў в. Багрымавічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Бічана Міхаіла Фёдаравіча, 1928 г.н.,***
***Бічан Вольгі Фёдараўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мяжэнька А. (2003 г.).***

Бабка-павітуха казала ў нас, што кагда сразу пасля нараджэння дзіцёнак плача, то будзе доўга жыць, кагда ж нет, то мала.

***Запісана ў в. Дарашэвічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Ганчар Евы Адамаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Чэрнянок І.,Флерка Н.,***
***Лемяза Л., Мітраховіч В. (2007г.).***

Цяпер-та гатовяць, а раньшэ прыносілі людзі закуску, а хазяйка строіла гарэлку, кашу варыла і боршч варыла. Кашу з пшана. Такі абычай быў. Кашу варыла бабка, прыносіла. На пялёнкі сабірала, грошы лажылі. Патом ужэ кум разбіваў той гаршчок. Пасля таго як пагасцілі, давалі бабке кашу. Падманвалі. Яе абкручвалі палаценцам,

а ў другі саджалі ката, ці бацінак паложаць. Баба далжна ўгадаць, дзе яе каша. Злажваюць на кашу грошы, падаркі, пялёнкі. З кума выдурваюць найбольш грошай.

***Запісана ў в. Новыя Галоўчыцы Петрыкаўскага р-на ад Лосевай Ніны Нікіцічны, 1939 г.н., студэнткай Кажамяка М.***

Радзіны святкаваліся праз два-тры тыдні пасля нараджэння дзіцяці і супадалі з днём яго хрышчэння ў царкве. Для гэтага бяруцца хросныя маці і бацька. Хросны бацька бярэ дзіця і дзержыць яго пры малітвах. Младзенцу змачвалі галаву і зразалі трошкі валос. На ручках і ножках ставяць крыжыкі вадой. Крыж у асноўным ляжыць на хлебе, а хлеб ляжыць на рушніку, затым крыж свеціцца і адзяецца на дзіця.

На застоллі сабіраліся ўсе, а ў асноўным павінны быць кум з кумою, бабка. Была на стале бабіна каша. Гэтая бабка ўносіла кашу і пачынала торг. Усе кладуць грошы, а больш усяго павінен пакласць, а і значыць купіць яе, хросны бацька. Потым браў гэтую кашу ў гліняным гаршочку і разбіваў яе аб куток стала і прыгаварваў розныя добрыя пажаданні. Кашу потым дзялілі паміж гасцей. Ёсць такое павер'е: калі дзіця пачынае рабіць першыя крокі, паміж ног нажніцамі "перараззалі путы". Спяваюць яшчэ дзецям калыбельныя, калі яны маленькія, каб хутчэй засыпалі:

*Люлі-люлі-люлі,*
*Прыляцелі гулі,*
*Селі на вароцях*
*У чырвоных боцях,*
*Сталі шчабятаці,*
*Што дзіцяці даці:*
*Ці ячменю жменю,*
*Ці гароху троху.*

***Запісана ў в. Белін Петрыкаўскага р-на ад Маславай Ніны Фёдараўны, 1920 г.н. (нарадзілася ў в. Лобча), студэнткай Чарэўкай Т.***

Малому securityнованароджанаму ад урокаў надзявалі рубашку на левую сторану, пад падушачку лажылі свянцовы мак. Як купаюць, прыгаварваюць:

Якая маці радзіла, такая адхадзіла. Які госць, такая чэсць.

Калі прывядуць парадзіху з нованароджаным і яна радзіла первае дзіця, дык ідзе бацька нованароджанага і прыглашае да сябе бабу, куму, кума. Баба далжна нагатовіць дзевяць блюд. Ставіць міскі ў каробку і ідзе разам з кумаўямі ў вотведы. Яшчэ да хрэсьбін кумаўя і баба далжны разоў нескалька атведаць парадзіху да хрэсьбін.

***Песня да бабы***

*А ў нядзельку да й параненьку*
*Бег Іванушка да па бабаньку.*
*Тая бабачка дагадалася,*
*У адзін чабаток абувалася.*
*Абувалася, Бога прасіла:*
*– Асвабадзі, Божа, дай дзве душачкі.*
*Адну душаньку да старэньку,*
*Другую душаньку да маленьку.*

Потым намячаюць дзень хрэсьбін. Нованароджанага нясуць кум з кумою ў цэркаў. Там пакрэсцяць. І тады пачынаюцца хрэсьбіны. Садзяцца за стол. Кум з кумою і баба на покуці, так як яны самыя пачотныя госці. Два раза вып’юць, потым за трэцяй чаркай падаюць бабіну кашу на стол. Бабіна каша ўгортваецца ў ручнік. Бяруць тарэлку з платком і гаворацъ: “Бабіна каша стоіць столькі рублёў”.

Хто больш грошай паложыць, той кашу паб’е. Усе стараюцца лажыць грошы, штоб з кума пабольш выцягнуць грошай. Но абязацельна, штоб кумава каша была. Тады бярэ кум і аб стол разбівае кашу. Еслі каша была крутая, значыць, баба вельмі добрая. І кашу пачынаюць дзяліць. Потым спявалі песні, танцавалі.

Садзілі кума і куму на барану і ездзілі да крамы. Кум купляе гарэлку, а кума – канфеты. Бабу садзілі на барану адну і вазілі да крамы. Баба купляла ці гарэлку, ці канфеты. Потым апяць садзяцца за стол і прадаўжаюць гуляць, спяваюць песні і танцуюць.

Даюць бабе, куму і куме падаркі. Многа песен спявалі і да кума, і да кумы, да бацькі і маці, но я пазабывала.

***Запісана ў в. Навасёлкі Петрыкаўскага р-на***
***ад Серады Еўдакіі Ціханаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Сенька С.***

Хрысціць дзіця можна было после таго, як яму споўнілася сорак дней. Калі выходзіць эты срок, жанчыну прычашчалі ў цэркві і яна лічылася ўжо "чыстай", а дасюда была "грязная". Бацькі выбі-ралі кума і куму. Калі збіраліся ў цэркаў, кум спрашваў у бацькоў, ці будзе каша. Тыя казалі, што будзе. Дзіця ў цэркаў адзявае кума. Яна бярэ з сабою хлеб, ён застаецца ў цэркві, палаценца, на якім будуць дзяржаць дзіця. Пасля цэркві ўсе збіраліся за сталом. Бацькам яшчэ трэба было выбіраць бабу – жанчыну, якая з'яўляецца "чыстай".

Першым дзелам збіралі дзіцяці на шапачку. Тарэлку трэба было заслаць палаценечкам ці платочкам. Кашу далжна гатовіць баба. У гліняны гаршчок сыпалі пшано ці рыс, дабаўлялі мёд, сахар, масла. Баба далжна вынесці кашу на салфетцы. Але перад этым нада было выбраць касіра, які будзе збіраць выкуп за кашу. Дальшэ баба падымала кашу і казала: "Першым разам каша стоіць рубель, другім разам каша стоіць два рублі". Дальшэ ўжо госці куплялі кашу: хто больш грошай дасць, таму давалі кашу. Паследнім кашу должэн купіць кум. Там, дзе сядзіць кум, ставілі дубовы стол. Калі кум купіць кашу, ён должэн падняць і сказаць: "Каша стоіць сто рублей". Патом нада, каб кум разбіў кашу аб вугал стала. Калі з першага раза каша не разаб'ецца, то трэба куму дабавіць грошай і разбіць другім разам. Чарапкі з гаршка трэба палажыць на голаву дзеўцы ці хлопцу, і яны хутка знойдуць сабе пару. Куме, куму і бабе бацькі абязацельна далжны купіць падаркі, бо пасля смерці гэтыя людзі могуць быць прывязаны да крэста. Раньшэ хрысціць дзяцей можна было толькі ў нядзелю. Эта зараз ужо хрысцяць у пятніцу і суботу.

***Запісана ў г. Петрыкаў***
***ад Прыкота Валянціны Аляксандраўны, 1958 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Фаўстава Васкрэсенскага р-на Маскоўскай вобл.),***
***студэнткай Бараніч Я. (2007 г.).***

### *Хрэсьбінныя песні*

***

*Ой, у нядзельку да й параненьку*
*Бяжыць хазяін дай па бабаньку.*
*Тая ж бабанька дагадалася,*
*У адзін чобат абувалася.*
*Ой, абувалася, Бога прасіла:*

*– Ой, спасі, Божа, да дзве душачкі:*
*Адну душачку – да для радасці,*
*Другу душачку – да для жаласці.*

***

*Ой, сягоння бабка, сягоння галубка*
*На вяселках була.* 2р.
*І сягоння бабка, сягоння галубка*
*На хрэсьцінкі прыйшла.* 2р.
*Запрагайце, запрагайце да сямі пар жэ валоў,* 2р.
*Да й увозьце, да й увозьце гэту бабку дамой,*
*Гэту бабку дамой.*
*І сказала бабка, сказала галубка:*
*"Я ж дадому не пайду,* 2р.
*Пакуль за свайго ўнучка да й галубочка*
*Мёд-гарэлку не пап'ю, мёд-гарэлачку не пап'ю".*
*Запрагайце, запрагайце*
*Да й сівую лашыцу.* 2р.
*Да й увозьце, да й увозьце*
*Гэту кумку-сястрыцу.* 2р.
*І сказала кумка, сказала галубка:*
*"Я й дадому не пайду,* 2 р.
*Пакуль за хрэшчэніка, пакуль за галубочка*
*Мёд-гарэлачку не пап'ю".* 2 р.
*Запрагайце, запрагайце*
*Да й сівога жарэбца,* 2 р.
*Да й увозьце, да й увозьце*
*Ето й кума-галубца.* 2 р.
*І сказаў кумок, і сказаў галубок:*
*"Я ж дадому не пайду,* 2 р.
*Пакуль за хрэшчэніка, пакуль за хрэшчэніка*
*Мёд-гарэлку не пап'ю".* 2 р.

***Запісана ў в. Беланавічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Музыка Праскоўі Лявонцьеўны, 1903г.н.,***
***студэнткай Федарэнка А.***

Калі толькі нараджалася дзіця, то і яго, і маці імкнуліся абараняць ад дурнога вока – ад сурокаў: дзіцяці апраналі распашонку навыварат, а маці абцірала яго падолам сваёй кашулі. Калі жанчына была яшчэ цяжарнай, ёй нельга было пераступаць вяроўку, завіваць валасы, каб

у дзіцяці не запуталась пупавіна, нельга было адліваць ваду з вядра ў калодзеж, каб дзіцё не мала насмарку. За сталом у час хрэсьбін спявалася шмат жартоўных песень, прысвечаных “бабе”, куму і куме, у іх гучалі незласлівыя намёкі, насмешкі; песні, прысвечаныя маці і дзіцяці, зычылі ім здароўе, шчаслівую долю, спадзеі на лепшае жыццё. У час хрэсьбін абавязковай была “бабіна каша”. Цяпер за “бабу” бяруць добрую знаёмую ці жанчыну з сям’і. Яна варыць пшонную кашу, упрыгожвае гаршочак стужкамі і нясе яе да гасцей. Пачынаецца “торг”. Паводле звычая, кашу павінен выкупіць кум, даць больш за ўсіх грошай. “Торг” суправаджаецца жартамі, песнямі, пажаданнямі. Купіўшы кашу, кум разбівае яе аб стол; калі сярод жанчын есць незамужнія, ім кладуць на галаву чарапкі, каб хутчэй выйшлі замуж. Кашу раздаюць кожнаму госцю, за яе трэба выпіць.

***

*На вуліцы на шырокай*
*Там кумоўе і бабоўе.*
*Яны судзяць і гавораць*
*Аба мне, маладой:*
*Да, знаць, гэта жана ў мужа*
*Да ніколі не біта.*
*Сядзіць яна ў бяседзе,*
*Як пчолка ў брэдзе.*
*Сядзіць яна ў радочку,*
*Як пчолка ў мядочку.*

***

*Чый гэта садочак, тынам тынаваны,*
*Тынам тынаваны, брукам брукаваны?*
*Манечкі садочак тынам тынаваны,*
*Тынам тынаваны, брукам брукаваны.*
*Па гэтаму садочку Манечка хадзіла,*
*Манечка хадзіла, сыночка насіла.*
*Сыночка насіла, бабульку прасіла:*
*Бабка-бабулька, прыхініся да мяне,*
*Прыйдзі да мяне, да майго дзіцяці,*
*Дам табе зарплату, на хвартух лату.*

***Запісана ў г.п. Капаткевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Казловіч Раісы Юльянаўны, 1950 г.н. (нарадзілася ў в. Жалы),***
***студэнткай Булжанінай А.***

На крэсьбіны запрашаюць кросных маці і бацьку. Кагда крэсцяць хлопца, абязацельна бяруць кумам жанатага, калі дзевачку, то кумой бяруць замужнюю жанчыну.

Сразу ехалі ў царкву красціць дзіця, а после дамой за стол.

У канцы гуляння кросны і кросная таргаваліся за гаршок з кашай. Хто дасць больш грошай, той і разбівае гаршок. Гаршок разбівалі, а чарапкі з яво лажылі на галовы незамужніх дзевак, штоб быстрэй замуж павыходзілі.

***Запісана ў в. Лучыцы Петрыкаўскага р-на
ад Аземшы Галіны Міхайлаўны, 1929 г.н.,
студэнткай Яськовай Р. (2008 г.).***

Для крышчэння дзіцяці запрашалі кума і куму – кросных дзіцяці. Калі ў сям'і памiралі дзеці, то за кума бралі першага ўстрэчнага.

Перад ад'ездам у царкву бабка-павітуха брала вузельчык, у якім было сабранае зерне, соль, гліна з печы. Вузельчык выкідаўся на скрыжаваннях дарог, штоб пазбегнуць ліхой сустрэчы.

Пры крышчэнні пры дзіцяці павінен быў быць вузельчык, які клалі ў пялёнку. У ім ляжалі хлеб, соль, вугаль, штоб дзіця, кагда вырасце, заўсёды мела хлеб, соль і агонь.

Пасля хрышчэння налажвалі застольную бяседу – хрэсьбіны. Да гэтага бабка-павітуха гатовіла кашу.

Хрэсьбіны заканчваліся дзяленнем і купляй кашы. Бабулька пачынала прыдлагаць купіць кашу. Пачынаў выкуп кросны дзіцяці. Калі ён выкупліваў у бабкі кашу, то разбіваў гаршок з кашай. Затым бабка рэзала яе на кавалкі і прапаноўвала кавалачкі кашы гасцям, за што тыя давалі грошы або падаркі і зычылі здароўе, шчасце дзіцяці і яго сям'і.

Калі разбівалі гаршок, то гаварылі: "Гадуй, Божа, малое, каб на той год другое". А калі клалі падарунак і падымалі чарку, гаварылі: "Дай, Божа, прыждаць ды вяселле згуляць".

У канцы хрэсьбін бацькі дзіцяці давалі падарункі кумаўям і бабке. На хрэсьбінах спявалі песні, прысвечаныя бабулі і кумам.

*Бабулька ж мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды маку.*
*Абы вырас унучак*
*Без годнага браку.*

*Бабка ж мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды проса,*
*Абы вырас унучак*
*Вельмі харошы.*

*Бабулька ж мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды вікі,*
*Абы быў бы ўнучак*
*Вельмі вялікі.*

*Бабка ж мая міленькая,*
*Парода твая лёгенькая.*
*Дам табе, бабулечка,*
*Тры пуды канапель,*
*Абы вялікага, як цяпер.*

*Кум з кумою на покуце сядзяць,*
*На покуце сядзяць, мёд п'юць:*
*– Пі, кумок, пі, кумка,*
*Калі мёду не будзець,*
*Хоць кароўку збуду, а мёду дабуду.*

***Запісана ў в. Чалюшчавічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мазай Ульяны Цімафееўны, 1928 г.н.***

Калі вызначалася, што жанчына стала цяжарнай, то яе засцерагалі ад палоху. Цяжарнай раілі хадзіць пазычаць што-небудзь у суседзяў і знакомых, таму што яна магла нарвацца на чалавека з лёгкай рукой і роды тады пройдуць хутка і добра.

Кагда жанчынка начынала ражаць, муж або свякруха звалі бабку-павітуху. Разам з ёю да жанчыны звалі і другую бабку, што перавязвала пупавіну і першы раз купала дзіця. Звычайна бабка даводзілася блізкай сваячніцай сям'і, патом станавілася кроснай бабкай дзіцяці, прыносіла яму падаркі на розныя святы.

Роды праходзілі ўзімку ў хаце, улетку ў хляве або гумне.

Павітуха прынімала роды, а бабка перавязвала пупавіну пасмачкай суровай ніткі. Хлопчыку перавязвалі на кавалачку хлеба, дзяўчынцы – на грэбне, верацяне.

Пасля родаў жанчыну праведвалі сваякі і суседзі, што як бы гаварылі аб прыняцці наварождзенага ў свой гурт. У адведкі да жанчыны і дзіцяці хадзілі замужнія жанчыны без запрашэння з боку бацькоў дзіцяці. Наведвалі жанчыну на працягу двух тыдняў і болей.

Жанчын, якія прыходзілі праведаць рожаніцу, не частавалі. Рожаніца давала ім гарбуз (сушаныя семечкі), сушаныя чарніцы, баранкі. Калі рожаніца не рабіла гэтага, то магла наклікаць на сябе розныя няшчасці.

***Запісана ў в. Пціч Петрыкаўскага р-на***
***ад Ёрш Яўгеніі Сяргееўны, 1925 г.н.***

Збіраліся кумаўя і родственікі, хрысцілі навараждзёнага. Сабіралі застолле, варылі кашу, а патом гаршок хросны разбіваў і лажылі дзеньгі на кашу.

*Кум і з кумою – гасціна мая,*
*А братка з сястрою – радзіна мая.*
*Братка з сястрою нагаворацца,*
*А кум з кумою мёду нап'юцца.*

Адорвалі немаўля і яго бацькоў: куплялі падарунак. Бабка прыносіла пялёначкі, а яе адорвалі.

Бабіна каша вялікую роль іграла ў гэтым дзеле. Адразу ў бабкі выкуплівалі кашу, а потым хросны таргаваўся з гэтаю кашай.

***Запісана ў в. Колкі Петрыкаўскага р-на***
***ад Равуцкай Элеаноры Ігнатаўны, 1930 г.н.,***
***студэнтам Паляковым Д. (2008 г.).***

У нас хрэсьбіны праходзяць так.

Таго дня, калі нада хрысціць дзіцятка, з самага ранку да мацер з бацькам прыходзіла баба. Гэта жанчына, якой ужо за пяцьдзясят, у якой е свае дзеці і ўнукі. Прыносяць ёй кулітку хлеба і просяць быць за бабу. Нільзя адказвацца. Яна ўмывае дзіцяці лічыка, ручкі, ножкі, а тую ваду лье пад дзерава. Напрымер, калі гэта дзевачка,

то льюць ваду звычайна пад яблыню ці вішню, прыгаворваючы: “Каб расла і цвіла як гэтая яблыня”. А калі хлопчык, то лілі пад дуб ці клён і казалі: “Каб рос вялікі і моцны, як гэты дуб”. Баба прыносіла з сабой гасцін-цы і рушнік, якім выціралі дзіця.

Бацькі з кроснымі ехалі ў царкву крысціць дзіця, а баба аставалася стол накрываць.

После таго як пакрысцілі дзіця, збіраліся ўсе родныя за сталом. Бабка выносіла кашу, прыбірала яе, украшала канфетамі, ягадамі, цветамі. Кашу доўжэн выкупіць кум. Усе госці клалі на кашу грошы, падаркі. Калі кум выкупліваў кашу, біў яе аб стол, а чэрапкі кідаў маладым дзеўкам, каб у іх дзеці вяліся.

Ужэ як падзялілі кашу, гулялі, елі, пілі, танцавалі. Калі госці расходзіліся, кум з кумой аставаліся. Ім нада было ўсю ноч калыхаць дзіця.

***Запісана ў в. Макарычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Макарэвіч Надзеі Пятроўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Ісаковай Т. (2009 г.).***

Бярэменнай нельзя было глядзець доўга ў зеркала, ваду, штоб дзіця не было касое, наступаць на крывыя прадметы, браць чужыя вешчы, бо дзіця будзе красці.

Як ужэ трэба ражаць, развязвалі ўсе вузлы ў хаце, дзверы адкрывалі.

Раней не было больніц, усе самі, звалі спецыяльную жанчынку, якая пераразала пупавіну.

***Запісана ў в. Бабунічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Бардыгі Лідзіі Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Глушко М. (2006 г.).***

Як у царкву ішлі, бралі з сабою вузялок з хлебам і соллю, каб дзіця вырасло ў дастатку. Як з цэрквы прыйдуць, зразу за стол, наладжвалаcа бяседа, ці хрэсьбіны.

Бабка гатовіла ў печы кашу. Патом той гаршок разбівалі. Хто больш грошай паложа. Як разбівалі, прыказвалі: “Гадуй, Божа, малое, каб на той год другое”.

*Ой, у нядзельку, да й па раненьку,*
*Бяжыць хадзяін да й па бабаньку.*
*Тая ж бабанька дагадаласа,*
*У адзін чобат абуваласа.*

*Ой, абуваласа, Бога прасіла:*
*– Ой, спасі, Божа, да дзве душачкі.*
*Ой, спасі, Божа, да дзве душачкі:*
*Адну душачку да для радасці.*
*Адну душачку да для радасці,*
*Другу душачку да для жаласці.*
*Ой, сягонні бабка, сягонні галубка*
*На вяселках була, на вяселках була.*
*А сягонні бабка, сягонні галубка*
*На хрысцінкі прыйшла,*
*На хрысцінкі прыйшла, на хрысцінкі прыйшла.*

***Запісана ў в. Бабунічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Арновіч Любові Іванаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Глушко М. (2006 г.).***

Роды прымала бабка-павітуха. Каб маці і дзіця не прыстрэчылі, жанчына адзівала сарочку на левую старану. Казалі: "Прыстрэк не прыстане".

Пасля родаў жанчына павінна ісці з дзіцяткам у царкву, толькі пасля сарака дней. Калі нарадзілася дзяўчынка, маці падходзіць з ёй да алтара. Калі хлопчык, то бацюшка нясе яго ў алтар, а потым аддае яго маці. Гэта трэба зрабіць абавязкова, т.е. паказаць Богу дзіця. Гэта закон здароўя, падзяка за сваё і дзіцячае жыццё.

Шэсць тыдняў пасля родаў жанчына не павінна мець ніякіх адносін з мужам, бо ўвесь гэты час яна стаіць адной нагой на зямлі, а другой – на тым свеце.

Варыць кашу баба і называюць яе бабіна каша. Потым ставіць на стол і яе выкупаюць, хто больш даець грошаў, той і будзе яе дзяліць. Звычайна выкупае яе кум. Ён разбівае гаршок і дзеліць яе. Жанчына дарыць падарункі бабе, куму і куме. А кум з кумой плацяць за хрэсьбіны і купляюць адзёжу дзіцяці.

Дзіця трэба было хрысціць, бо тады ангел будзе з ім, ды і лепш спаць будзе, крычаць не будзе, да і дзецкае к хрышчоным дзеткам амаль не падкідаецца. Як нарадзіцца дзяўчынка, не трэба вывешваць пялёнкі першыя два тыдні, каб не прыстрэчылі, бо яна вельмі хрупкая. А калі хлопчык – то можна.

***Запісана ў в. Белка Петрыкаўскага р-на***
***ад Літош Ніны Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Яворскай С.***

# Рагачоўскі раён

Пасля выкупу кашы кум доўжан быў адным ударам разбіць гаршчок аб стол на шчасця нованароджанаму і з чарапка гаршка накарміць кашай гасцей.

На другі дзень тожа гулялі хрэсьбіны. Называўся гэты дзень "пахмелкі". Госці збіраліся ў доме бацькоў нованароджанага. Прыходзілі кум з кумою і бабка-павітуха. Часта ў гэты дзень дзялілі кашу кума і кумы. У канцы абеда бабку-павітуху закручывалі ў пасцілку і пелі ёй песні.

*Запісана ў в. Азяраны Рагачоўскага р-на*
*ад Раманавай Марыі Сцяпанаўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Мурашка З.*

Галоўнай асобай з'яўляецца бабка, яе яшчэ называюць бабка-павітуха. Яна павінна знаходзіцца з дзіцём з першага дня яго жыцця аж да хрышчэння. Яна робіць рытуальнае купанне дзіцяці. Першая павінна браць дзіцяці з рук хросных бацькоў пасля хрышчэння. А ў час хрысціннага абеду выпаўняе шмат рытуалаў, якія павінны забяспечыць дабрабыт бацькам і дзіцяці. Бабкай выбіраюць жанчыну, якая многа ведае і ўмее.

Пасля нараджэння дзіцяці бацькі выбіраюць хросных. У хросныя бацькі звычайна запрашалі каго-небудзь са сваякоў (хросны – брат маці). Запрашэнне ў хросныя лічылася вялікім гонарам, адмовіцца ад якога было нельга.

У дзень хрэсьбін у доме бацькоў збіраліся госці. Пасля хрышчэння дзіцця апраналі ў пялёнкі, якія дарыла яму хросная маці. Калі хросныя с хрэснікам прыязджалі дамоў, іх сустракала бабка. Яна першая брала дзіцця з рук хросных і адносіла яго да маці.

Важным этапам быў святочны стол. Страў было шмат (колькасць не абмяжоўвалася), але галоўным была каша, якую варыла бабка ў гаршку (цагляным). Госці павінны былі выкупіць кашу. Грошы, якія бабка атрымала за кашу, амаль заўсёды аддавала маломý "на мыла ды пялёнкі". Пасля выкупу кум павінен быў адным ударам разбіць гаршок "на шчасце" і накарміць усіх гасцей. Звычайна каша была з крупы (грэчка), але потым сталі кашай называць цукеркі, якія таксама клалі ў гаршочак.

Калі абед заканчваўся, на развітанне гаспадыня дарыла хросным падарункі. І пасля гэтага госці разыходзіліся.

На абедзе гасцей рассаджваў гаспадар. Самыя добрыя месцы даставаліся бабцы, куме, куму. Перад тым як начаць абедаць, кум, кума, бацькі і бабка выпівалі па першай чарцы гарэлкі. Пры гэтым кум і кума гаварылі добрыя пажаданні ў адрас дзіцяці. Пасля чаго ўсе госці запрашаліся абедаць.

***Запісана ў в. Востраў Рагачоўскага р-на***
***ад Хвашчынскай Зоі Дзмітрыеўны, 1948 г.н.***

Каб лягчэйшымі былі роды, жанчыну клалі на кажух з чорных бараноў, а мужу прыказвалі пераступіць чэраз яе.

***Запісана ў в. Вялікія Стралкі Рагачоўскага р-на***
***ад Бічанковай Яўгеніі Фёдараўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Мурашка З.***

У старадаўнасці нованароджанага да крышчэння ніколі не спавівалі ў пялёнкі, яго ўкручувалі ў паношаную адзежу бацькі ці маткі. Гэта абараняла дзіця да крышчэння ад злых сіл.

У рукаў бацькавага адзення бабка закручвала кавалак гліны з печы, вугаль і дробную манету ці хлеб-соль, каб дзіця ні ў чым не нуждалася. Абязацельна хрысціць дзіця везлі ў другой палавіне дня. Выносячы дзіця з дому, кум станавіўся правай нагой на сякеру ці грэбень. Па дарозі да “хрыста” хросныя не даўжны гаварыць, каб дзіця не было крыклівым. А калі праязджалі чэраз мост, хросныя даўжны былі сыйсці з калёсаў і прайсці па масту пяшком, дзяржучы дзіця на руках, а потым, абярнуўшыся, плюнуць на мост тры разы і кінуць на яго жменю сена.

Пасля хрышчэння на дзіця апраналі кашульку ці кавалак палатна з дзіркай для галавы. Гэтае палатно аберагала дзіця ў будучым ад падзення з дрэва, служыла талісманам.

***Запісана ў в. Вялікія Стралкі Рагачоўскага р-на***
***ад Лысавай Еўдакіі Міхайлаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мурашка З.***

Збіраліся кум, кума, суседзі. Прыносілі ладкі, кісель. Выбіралі кума і куму, запрашалі іх на хрэсьбіны, тады ніхто не мог адмовіцца, лічылася, што адмаўляцца нельга. На хрэсьбіны баба вара кашу,

а кум павінен выкупіць яе. Калі гаршчочак з кашай разбілі, то дзеўкі і хлопцы, якія хочуць пажаніцца, хватаюць асколкі ад гаршочка. Кашу, якая засталася, выносяць курам. Пелі песні і бацьку, і матцы, і маломy, штоб рос бальшы ды разумны быў.

Вечарам бабу вазілі на баране пляцямі ўверх. За тое баба даўжна весці гасцей к сабе і частаваць.

***Запісана ў в. Гарадзец Рагачоўскага р-на***
***ад Кірылюк Марыі Карлаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Данілавай І.***

Калі на хрэсьбінах пелі песні, дык у песнях гаварылася пра бабку, што яна не працавітая і хваравітая, а "варавітая". Як жыта жаць, дык ляжыць, як ісці куміць, дык бяжыць.

***Запісана ў в. Каменка Рагачоўскага р-на***
***ад Наважэнцавай Еўдакіі Сцяпанаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Мурашка З.***

Роды вельмі часта праходзілі ў бані, якую шчыталі святым местам. А каб роды былі лягчэйшымі, дак расплятаі косу парадзіхі. А калі сільна цяжкімі былі роды, дак разводзілі ў дзяжы цеста для хлеба і садзілі на яе парадзіху. Людзі ўважалі хлебную дзяжу як бажаство, што апякая сям'ю.

***Запісана ў в. Каменка Рагачоўскага р-на***
***ад Сількевіч Ніны Мікалаеўны 1930 г.н.,***
***студэнткай Мурашка З.***

Цяжарнай жанчыне нільзя было ўглядацца, абсуждацца, нільзя, штоб ёй пераходзілі дарогі, нільзя было стаяць на парозе, бо цяжка будзе ражаць.

За бабу бралі таго, хто панаравіцца. Ехалі ў царкву, красцілі малога, а потым ужо гулялі дома. Баба варыла дома кашу і прыносіла яе з сабой, прычым першай і частавалася, потым давала ўнуку ці ўнучцы, затым ужо частаваліся астатнія. А ў канцы гулянкі ўжо гаршок гэты з кашай разбівалі.

*Пасадзіў (імя) Коля бабачку*
*На самы куток.*
*Ганаруе ні для каго,*
*А сам для сябе,*
*Для свайго дзіцяці,*
*Штобы долю яму даці.*

Потым ужо як пагуляюць, бабу, куму і кума садзяць на барану і вязуць да бабы дамоў. Там яна ўжо вынімае гарэлку, закуску. Тады ўжо зноў п'юць, гуляюць.

*Запісана ў в. Канапліцы Рагачоўскага р-на*
*ад Палевіковай Кацярыны Тарасаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Палевіковай А.*

Чэраз некалькі дней пасля нараджэння дзіцяці (но ня пожжа, чым праз нядзелю) бацька і матка даўжны выбраць хросных. Хросным выбіраўся брат маткі. Хросны бацька забоціўся пра хрэсніка ўсю жызнь.

*Запісана ў в. Красніца Рагачоўскага р-на*
*ад Філіпчанка Аліны Ігнатаўны, 1924 г.н.,*
*студэнткай Мурашка З.*

Тры дні людзі гулялі на нараджэнні дзіцяці. Трэці дзень называлі муравіны. Гулялі ў сям'і нованароджанага, калі першы раз купалі дзіця пасля хрышчэння. Збіраліся толькі блізкія родзічы, кум, кума, бабка-павітуха. Бабка купала дзіця.

*Запісана ў в. Красніца Рагачоўскага р-на*
*ад Акінчыц Сцепаніды Рыгораўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Мурашка З.*

Сначала быў у нас такі звычай – хадзіць у вотвядкі. Гэта было перад хрэсьбінамі. Хадзілі ў нас звычайна замужнія жанчынкі. Яны прыносілі да гаспадароў што-небудзь варанае і хлеб. Звалі кума і куму. Іх выбіралі толькі са сваёй радні. У той дзень хрэсьбін кум і кума прыхадзілі да парадзіхі. Яны бралі з сабой пірагі і соль. Калі яны сядзяць і ядзяць, бабка купае дзіцё, захутвае яго ў мужыковую рубашку і ў рукавы завязвае хлеб, соль і жыта. Жыта яны тожа прынасілі з сабой. Патом, як пакупае, перадае малога куме. Куму з кумой трэба было абысці стол тры разы. Люляюць дзіцё і ідуць да бацюшкі. Пасля царквы прыязжаюць дамоў да ўходзяць у хату, а кума тая кажа: "Як відзелі пад храстом, так дай Бог відаць пад вянцом". А ў хаце збіраюцца госці, нясуць гасцінцы: хто хлеб, хто сала, хто грошы. Усё гэта аддаюць бабе ці дзецям. За сталом хазяін выпівае чарку гарэлкі за здароўе кума, кумы і ўсіх гасцей. Калі ўжо нагуляюцца і "прагрэюцца", нясуць бабіну кашу. Баба ставіць гаршок пасяродке і кажа гасцям: "Ну, госцейкі дарагія, калі прышлі

пагасцяваць ды гарэлачкі папіць, не жалейця і па чарвонцу палажыць”. Тады закрывае кашу тарэлкай, ну ўсё, і кідаюць туды грошы, каму сколькі не жалка. Усё гэта патом даюць парадзіхі. Пасля кум падыходзіць і бярэ гаршок. Ціха стукае яго аб стол і кажа: “Ну, у цябе, баба, і гаршок, што разбіць не магу?” Потым ён яшчэ тры разы спрабуе разьбіць гаршок з кашай. Калі разбівае, кашу дзеляць, падыходзюць і малыя, і старыя. Калі госцейкі нагуляюцца і паўходзяць дамой, бабу, кума, куму і ўсіх радных апяць просяць за стол. Бабе даюць паркалю. Ну, тады бабу садзюць на перадок ад калёс і вязуць у карчму. Вось там яна і адкупліваецца гарэлкай.

На другі дзень клічаць бабку купаць дзіцёнка. Калі сядзелі за сталом, пелі многа песняў навароджанаму і яго мамкі з папкам, бабе-павітухі, куму з кумой. Смяяліся, было весела, смяшынкі розныя казалі. Больш усіх смяяліся з кума і кумы. Пелі такую песню:

*Ішоў кум гарою,*
*А кума далінаю.*
*Зацвёў кум яворам,*
*А кума калінаю,*
*А хрэснічак доляю,*
*Доляю шчасліваю,*
*Каму нам, каму нам*
*Падарачкі даць?*
*З каго нам, з каго нам*
*Магарыч нада ўзяць?*
*А як к куму кума*
*У рэшаце прыплыла,*
*Грабянцом праграбала.*
*А ў мяне для кумы*
*Верабей у саду*
*Да й тэй без заду.*
*Як завешу я кацёл*
*Паўтараста вядзёр*
*І згатую для кумы*
*Адну шыячку.*
*– Еш ты, кума,*
*Не засальвайся,*
*Еш, ужывай,*
*А ў кішэню не хавай.*
*А тым ты, кума,*
*Не супоўніш двара,*
*Не накорміш дзяцей,*
*Толькі насмяшыш людзей.*

Вось такія ў наша ўрэмя былі хрэсьбіны. Весела было, бо многія людзі прыходзілі на свята. Былі і суседзі, і сваякі.

***Запісана ў в. Шчыбрын Рагачоўскага р-на***
***ад Паляшчук Марыі Міхайлаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Емяльяненка Т.***

# Рэчыцкі раён

Адведкі спраўлялі ў нас у пятніцу, на першым тыдні. Да парадзіхі прыходзілі мы пасля абеда. З раніцы мы гонім ў поле жывёлу, заўтрак трэба прыгатовіць. А як ужо ўсё паробіш, дык ўжо сабіраемся ў адной з хат і ідзём. Бралі з сабой аладкі, варэнне, цукар, можна было ўзяць трохі масла са смятанай. Нас было чалавек пяць, але і добра: меней людзей, спакойней, дзіцё будзе спаць спакойней. Ну вот ужо падыйшлі да хаты. Сустракае нас бацька. Мы ўжо ў яго і пытаем, ці тут дзіцё. Калі ківае, дык мы ўжо заходзім. Аддаём яму гасцінцы, а ён ідзе гатаваць стол. Ну, а мы заходзім у пакой парадзіхі. Яна ляжыць. Мы падыходзім ціхенька, каб не спужаць дзіцё. Садзіліся на кравацъ. Стараліся на дзіця не глядзець, бо яно яшчэ нехрышчонае і няма ў яго імя. Калі ўжо хто і паглядзеў, то тры разы перахрысціўся, ды тры разы паплюваў праз левае плячо. Ну, так мы сядзім і гаворым, даем саветы парадзісе, як купаць, спавіваць. Ну, тут ужо прыходзіць бацька і запрашае за стол. На стале ежы багата не было. На стале стаялі гасцінцы, якія прынеслі мы, ды трохі іхняй ежы. Вось мы садзімся за стол, каб адзначыць гэтае свята, ды і можам тады песню заспяваць, але не громка, каб не разбудзіць малога. Пасля чакаюць сем тыдняў, каб хрысціць малога.

На сёмым тыдні ад нараджэння дзіця хрысцілі. Но перад тым, як хрысціць дзіця, бацька выбіраў куму і кума. Перад тым як аддаць кумам дзіцё, баба-павітуха рыхтавала яго: мыла, спавівала. Калі спавіла, то бярэ ў рукі дзіця і аддае куме і прыгаворвае: “От, унучак, будзеш цяпер добра спаць. Не бачыш вуха, каб не бачыў і ліха”.

Тут кума бярэ дзіцё і едуць у царкву. Пакуль яны знаходзяцца ў царкве, баба-павітуха, маці да бацька гатовяць сталы. У гэты час падходзяць госці. Ну, а калі ўжо прыехалі, маці і бацька кідалі ўсё і беглі сустракаць куму з кумам. Яны ўжо гаварылі імя дзіця. Тады ўжо ўсе ішлі за стол і пачыналася застолле. Кумоў і бабу садзілі на куце. Первую чарку пілі за дзіця. Потым пілі за маці, бабу, бацьку. Затым была бабіна каша. Каша была смачнай, салодкай, жоўценькай. На стале рассцілалі ручнік і ставілі на яго кашу. Госці кладуць грошы, падарункі. Хто болей грошай пакладзе, той і будзе біць кашу. У нас заўсёды б’е кашу кум. Разбіваў аб вугал стала. Затым баба брала

чарапкі і кідала іх у парог. Затым брала нож і разразала кашу. Рэзала так, каб тая каша не раскрашылася. Затым маці выносіла падарункі бабе, куме і куму. Бабе дарылі мацерыю і платок, куме мацерыю на плацце і сукенку, куму рубашку. Затым маладзіцы пелі песні. Але пелі не доўга. Гэта рабілася для таго, каб не затрымліваць дзіцё. Бо яно ж утамілася ў гэты дзень.

Заканчваліся хрэсьбіны, адвозілі бабу дадому. Везлі яе на санках. Да гэтых санак прывязвалі міскі або яшчэ якую металічную пасуду, каб звінела і было весела.

Падсцілкай быў кажух. Вось засцілаюць кажух і вязуць бабу па вёсцы. Аб'ехаць павінны былі ўсе двары. Пасля таго, як аб'ехалі ўсе двары, прывозілі бабу дамоў.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Палівач Валянціны Міхайлаўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Палівач І.***

Самай галоўнай часткай з'яўляецца тая, калі разбіваюць гаршчок з крутой кашай. Разбіваў гаршчок кум. Але перад гэтым ставілі вёдры ўверх дном, а пад адно з іх – кашу. Кум пасля таго, як угадваў, дзе знаходзіцца гаршчок з кашай, разбіваў яго. А чарапкі клалі яму на галаву.

Каша была добрай, калі яна заставалася цэлай, не рассыпалася.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Еўдачэнка Надзеі Рыгораўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Мудаббіравай Г.***

Я буду казаць, як са мною було. Прывялі бабку, чытала малітву, якую, хто яе знае, бо не ўголас чытала. Падсунула стала і вадзіла тры кругі вакол стала. Уголас сказала: “Як у цэркві златы вароты аткрываюцца, шоб так у рабе божай Вольгі аткрылася”.

Калі нарадзілася дзіця, узяла гарэлкі чарку, прасеяла попел, дала выпіць і гаварыла: “На, унучка, выпі, шоб уроку не баялася, шоб дзіцятка не баялася, шоб жывот не балел”. То ўжэ адрэжа пупок, пакупае і ўходзіць. Гэта ўсё рабіла баба, яка ўсягда ходзіць да родаў.

Каторую за бабу будуць браць, дак бярэш акрайчык хлеба, абматуем ручніком і хазяін ідзе да яе. Ложыць на стол тае бабе. Ад етага хлеба не атказваліся. Потым етая баба тры дні прыходзіць атведаць

дзіця. Пячэ аладкі, коржыкі, узвар варыць і прыносіць унучцы або ўнуку. Калі падыходзіць дзень хрэсціць, то ўжэ ідзеш да кума і кумы, тожэ нясеш хлеб і намечуеш, калі несці дзіцятка да хрэста. Далёка да цэркві – коньмі, блізка – пешкі. Баба купае дзіцятка, прыходзіць кум і з кумою. Баба перадае куме хрэшчэніка і кажа: "Даю дзіцятка раждзёнае, но не хрышчонае, а вы шоб прынеслі нам хрышчонае". Кума з кумам нясуць у царкву хрэсціць. Пахрэсцяць, прыносяць дадому і збіраюцца гуляць.

На хрэсціны баба варыць боршч, кашу і звар. За сталом пасядзелі, папелі, паелі і трэбуюць бабін боршч. Усяк шуткуюць, гаворацць, што бабін боршч не смашны. А пасля нясуць бабіну кашу ў гаршку тры разы. Першым кладуць нешта жывое – ката, другім разам – пасадзят куклу або бульбы ці капусты, ручнікам абматаюць. Баба кажа: "Не прымаю, ета не мая каша". За трэцім разам прыносяць натуральну бабіну кашу. Хваляць бабіну кашу. Абязацельна ацэньваюць, сколькі стаіць вона. Хто большэ кіне, той будзе біць, а кум не дапускае, каб перабілі. Кагда каша выкуплена, кум абматуе яе платком, устае і на вугал стала б'е. Тыя чэрапкі кладуць мужчынам ці маладым на галовы, каб на той год было і ў іх дзіця. Кашу кум разрэзае і раздае па сталам.

*Ета каша хароша, прыгожа,*
*У пяці ступах тоўчэна,*
*На дзесяці сітах сеяна,*
*На малацэ варана,*
*На масле жарана,*
*А каша пяклася і румянілася,*
*І ўсім гасцям панравілася.*
*Дак бій, кум, кашу і разрэзай*
*І да кашы па сто грам налівай.*
*Шоб каша ўсім сладка прайшла*
*І ўсім у гонар была.*

Калі каша ўжо з'едзена, то кажуць: "Пасля кашы няма пашы". Усе выходзяць з-за стала, гуляюць, танцуюць. Бабу садзяць на слон і падымаюць тры разы на "ўра". Падымаюць і кажуць: "Шо, баба, даруеш унучцы?" І яна абяцае. Так і з кумам, і з кумою. Патом садзяць людзей за стол і даюць падаркі бабе, куму і куме. І на етам канец.

На другі дзень сходзяцца ўсе пахмяляцца. Пасядзелі за сталом і вязуць бабу дадому. Калі зімою – на санках, а ўлетку – на баране. У сваёй хаце баба садзіць за стол. Ад бабы да кума, той угашчае. Пры гэтым пяюць:

*Куме, куме, добра гарэлка.*
*Вып’ем, куме, яшчэ з панядзелка.*
*Складземся, куме, па рублей сорак*
*Да вып’ем, куме, у аўторак.*
*Складземся, куме, яшчэ па срэбру*
*Да вып’ем, куме, яшчэ ў сярэду.*
*А прадай, куме, міскі да ложкі*
*Да і вып’ем у чацвер трошкі.*
*Прадай, мо, куме, рабу цяліцу*
*Да вып’ем, куме, яшчэ ў пятніцу.*
*Пакінь, мо, куме, усю работу*
*Да вып’ем, куме, яшчэ ў суботу.*
*Да прадай, мо, куме, рубашку белу*
*Да вып’ем, куме, яшчэ ў нядзелю.*
*Ад панядзелка да панядзелка*
*Вып’ем, куме, бо добра гарэлка.*

Ад кума куму нясуць на руках да яе хаты, там і яна частуе.

*Тэрмін, тэрмін, тэрмінаю,*
*Ідзе кум да кумы далінаю.*
*Нясе ў руках чабаточкі,*
*Шоб не стукалі насочкі.*
*Кум да кумы абяцаўся,*
*Пасеяць ёй канапелькі абязаўся.*

Ой, сеяў, пасяваў, пасяваючы, казаў: “Ты, кума, ты, душа, ой, ты ж, кума, хараша”.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Худзенка Вольгі Ціханаўны, 1926 г.н.***

Роды прынімала ў нашы часы бабка-павітуха. На ўсю вёску іх была адна ці дзве. Калі нараджалася дзіцяці, звалі хроснага і хросную (кумаўя). Кум з кумой бралі малога і насілі ў царкву крэсціць, бо была такая прымета: калі малому не палажыць крэст (не пакрысціць), то на яго будут сыпацца ўсе напасці. Садзіцца ў царкве куму з кумой нельга было, яны стаялі з дзіцём на руках. Калі прыходзілі з царквы, то звалі бабку, якая была пачотным госцем. Садзілі бабку на кут, а радам сядзелі хросны з хроснай. Спявалі:

*А наша бабулька пірагі пякла,*
*А ў панядзелак муку сеяла,*
*А ў аўторак вадзіцу грэла,*
*А ў сераду дзяжу чыніла,*
*А ў чацверг дзяжу кісліла,*
*А ў пятніцу дзяжу мясіла,*
*А ў суботу ў печ садзіла,*
*А ў нядзелю ўжо мылася,*
*К унучку сабіралася.*

Сядалі за стол, які быў вельмі багаты. Пасля таго, як выпілі, паелі, пачыналі спяваць розныя песні. Больш таго, канечне, жартоўных. Насміхаліся над бабкай, кумам, кумой. А таксама пелі частушкі, плясалі:

*Ішоў кум па сялу,*
*Кума па гародзе,*
*Кум дроў насячэ,*
*Кума бліноў напячэ.*
*Кум бліноў не хоча,*
*Каля кумы рагоча.*
*Сядзіць бабка на куце,*
*Як галубка ў гняздзе,*
*Не трогайце яе,*
*Не чапайце яе.*
*Ой, той чабаток і халявачка,*
*У мяне куманёк, як каравачка.*
*А я Бога папрашу: “Прымі, Божа, душу,*
*А не прымеш душу, я яго задушу”.*

Былі жартоўныя гульні. Напрыклад, кажуць: “Даём табе, бабка, кашы, паспытай-ка нашай”. Давалі гаршчок, а туды садзілі ці маленькага ката, ці сабачку, ці курачку і накрывалі зверху чым-небудзь. А потым давалі бабке паспытаць. Яна адчыняла і крычала: “Ай, абдурылі!” Так рабілі тры разы. А затым ужо яна са словамі: “Паспытала я кашу тваю, а зараз паспытаем маю”, ставіла перад кумамі гаршчок з кашай, які трэба разбіць, і па парадку павінен быў біць кум. А перад тым, як разбіць, таргуюцца, кладуць грошы. Хто болей пакладзе, той і разбівае. Аднак паложана біць куму, таму ён болей усіх кладзе грошай і разбівае гаршчок.

Куму, куме і бабке давалі падарункі, а патом дзялілі кашу. Атрымліваючы кусок, кожны жадаў:

*Каб мой унук вялікі рос,*
*Шчаслівы быў,*
*Каб на яго долю*
*Паслаў Бог усяго ўволю.*
*Гадуй, Божа, малое,*
*Ды каб на той год другое.*

А потым плясалі, пелі песні. І толькі ўвечары разыходзіліся па дамам, жадаючы шчасця, прыбытку, здароўя гэтаму дому.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Гарбуновай Кацярыны Мітрафанаўны, 1907 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Рэчыца),***
***выкладчыкам Новак В.С.***

Правілы, якія павінна выконваць цяжарная жанчына.

Наведванне цяжарнай жанчынай нябожчыка было непажаданым, бо яе дзіця магло радзіцца бледным.

Нельга было бурыць ластаўчае гняздо, бо будзе рабое дзіця.

Калі жанчына ўбачыць пажар, ёй нельга хватацца за рукі і твар, бо ў дзіця будуць чырвоныя плямы на твары.

Нельга было пераступаць цераз крывыя прадметы, бо ў дзіця маглі быць крывыя ногі. Таксама ёй забаранялася красці, зайздросціць, абгаварываць людзей-уродаў: гэта магло адбіцца на характары яе дзіця.

Калі набліжаліся роды – адчыняліся ўсе вокны, дзверы, развязваліся паясы, вузлы, калі ў каго-небудзь з жанчын была каса, яе расплятаталі, каб лягчэй ішлі роды.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Еўтушэнка Раісы Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Грабянчук А.***

Пасля таго, як дзіця перахрысцілі, матка хросная ўваходзіць на руках з дзіцём у хату і кладзе яго на пол ля печы, каб дзіця ляжала ціха, як тыя дровы, як палена, было спакойнае. Баба прыносіла кашу ў гліняным гаршку, станавіла на пол і казала: “Мая кашка з канапелькамі, а вы, дзеткі, ужэ з капейкамі”. Спачатку кум выкупляў кашу ў бабы, а тады ўсе выкуплівалі кашу ў кума. А кум даўжон перабіваць усім цану, і ён кладзе болей грошай, і каша застаецца ў кума. І ён разбівае гаршок з кашай. Кашу раздзяляюць дзецям, грошы – парадзісе, а чарапкі – у сарай. І госці ідуць у сарай, разбі-

раюць сабе чарапкі, штоб вялася ў кожнага худоба. Тады кума, куму ці бабу садзілі на барану і везлі-цягнулі да іх дому. І яны тады ўжо ставілі магарыч.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на ад Цуранковай Соф'і Кандратаўны, 1925 г.н., Новак В.С.***

Спачатку выбіралі кума, куму і бабу. Бацька з маці прыходзілі да іх з хлебам і соллю і прасілі пахрысціць іх дзіця. Потым гатовіліся да хрэсьбін: накрывалі сталы, звалі гасцей. На хрэсьбіны прыходзілі суседзі, радня, кумаўё. З раніцы хросная з хросным ехалі хрысціць маленькае ў царкву. А баба дома кашу варыла. Потым, калі перахрысцілі малое дзіця, збіраліся госці. Садзіліся за стол, пілі, елі, спявалі песні. Потым прыносілі “бабіну кашу”. Кашу патрэбна было так зварыць, каб гаршок разбіўся, а каша засталася цэлая. Перад тым, як разбіць гаршок з кашай, трэба было спачатку абмануць бабу. Баба павінна была ўгадаць: яе гэта каша ці не. У посцілку заварочвалі петуха, або кошку, або яшчэ што-небудзь. Калі бабе падносілі посцілку, пыталіся: “Баба, твая каша?” Калі баба гаварыла, што каша не яе, то прыносілі што-небудзь другое ў посцілцы. Пакуль баба не ўгадае. Калі баба гаварыла, што гэта яе каша, а разварочвалі і там была не каша, то ўсе рагаталі. Кашу разбіваў аб вугал кум. Кожны павінен быў паспытаць “бабінай кашы”. На кашу скідалі грошы. Кум павінен быў кінуць сама больш грошай, каб разбіць гаршок. Але калі хто-небудзь кінуў больш грошай за кума, той мог разбіваць кашу. Кашу разбілі, сабралі грошы. Уражэніца (парадзіха) адорвала падарункамі бабу, куму і кума. Тыя таксама дарылі падарункі. Гулянне працягвалася да вечара.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на ад Луцко Зінаіды Іванаўны, 1923 г.н., студэнткай Лявоненка Л.***

Роды прымала бабка-павітуха. Калі народзіцца дзіця, мужык бярэ хлеб і ідзе да бабкі. Бабку выбіраюць з родзічаў. Яна прыходзіць, прыносіць пялёнкі. Мужык ставе на стол гарэлку. Бабка прыходжвае не адна, а з дзедам. Бабка павінна прыйсці разоў 5-7 адведаць нараджанага.

Пасля хрэсціны. Гэта бабка варыць кашу, якая называецца бабінай. Гэтую кашу дзеляць на хрэсціны. Спачатку п’юць, ядзяць, закусваюць, а потым ужо і кашу дзеляць. Кідаюць грошы. Хто болей і апошні кіне грошы, той і кашу паб’е. Кашу варылі ў гаршку. Баба кажа: “Мая каша з канапелькамі, а вы, людзі, з капейкамі. Мая каша з фальбонамі, а вы, людзі, з мільёнамі”. Кум стараецца кінуць грошы паследні, каб потым яму не было стыдна, і пабіць кашу. Б’юць кашу, стукаючы ёмкай па гаршку, чарапочкі адкідваюць і дзеляць кашу кусочкамі, каб кожны яе папробаваў. Яшчэ да таго, як біць кашу, прыносяць каструлю ці вядро, дзе сядзіць кура або кот. А бабка кажа, што гэта не яе каша. Тады і падаркі бабе даюць кум і кума. Прыносяць якія-небудзь дыравыя штаны ці рубашкі і дораць, а баба кажа, што гэта не яе падаркі, гавора, каб забіралі іх назад.

Пасля нараджэння дзіцяці прыходзяць у адведкі, прыносяць падаркі, частункі. Гасцей частуюць, а госці пелі:

*Вясёлы дзянёчак, радзіўся сыночак,*
*Прыйшлі ў адведкі, паселі ў абедкі,*
*Пяюць песенкі ў мяне...*

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***Новак В.С.***

Забаранялася цяжарнай жанчыне хвалявацца, выконваць цяжкую працу. Ёй таксама забаранялася пераступаць цераз ляжачую жывёлу. Калі дзіця нараджалася, бабка-павітуха дзелала самыя простыя магічныя дзеянні над жанчынай.

На хрэсьбіны выбіралі кума, куму і бабу. Бацька з маці прыходзілі да іх з хлебам-соллю і прасілі пахрысціць дзіця. Потым гатаваліся да хрэсьбін. Накрывалі сталы, звалі гасцей. З раніцы хросная з хросным ехалі хрысціць малое ў цэркаў. Баба варыла кашу. Калі збіраліся госці, прыносілі бабіну кашу. Гаршок з кашай разбівалі, але перад гэтым трэба абмануць бабку. Баба павінна была ўгадаць, дзе яе каша. Кашу разбіваў аб вугал кум. На кашу скідалі грошы. Потым парадзіха дарыла падаркі бабе, куму, куме. Яны таксама дарылі падаркі. Гулянне было да вечара.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Шапавал Хрысціны Юр’еўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Качанавай Н.***

Назначаюць дзень, едуць к бабе-павітухе, к куме і куму з хлебам-соллю. Просяць, штоб яны не адказалі і прыйшлі ў назначаны дзень. Бабка-павітуха прыносіць шапачку і пялёнкі для дзіцяці. А самае глаўнае – прыносіць даматканы пояс, штоб малыша звязвалі ім пасля пеленання, тады ён расце добрым, паслухмяным і дужым.

Бабка-павітуха варыць кашу і боршч, без гэтага не абыйсцісь нават самаму беднаму. Кума прыносіць падарункі, а кум бутэльку гарэлкі.

Малыша нада везці ў царкву і пахрысціць. Становяцца ўсе і моляцца Богу. После малітвы кума вымаўляе замову ўголас, смела, не баючыся, што нехта падслухае: "Выхаджу я, раба божая (імя) у дарогу. Не адна накіроўваюся, са мной тры ангелы-архангелы. А адзін ангел-архангел у далёкі шлях праважае, другі ангел-архангел у шляху сустракае і сілы мне дабаўляе, прыстаўляе. Трэці ангел-архангел шляхом маім кіруе, падказвае. Прашу вас, ангелы-архангелы, спасайце і сахраняйце, бо я (імя) – хросная матка, вязу к Хрысту дзіцятка".

Потым кума забірае дзіця, пытае, як назваць. Кум ідзе да павозкі, садзяцца і едуць у царкву. Пахрысціўшы, едуць да гаспадароў. Сталы накрыты, пачынаецца гулянне. Галоўнае – падаюць упрыгожанаю кашу і боршч з грыбамі. Потым праводзяць торг: чыя каша? Хто паложыць на кашу болей грошай, той і гаршок з кашай разбівае, так, штоб чарапкі лятаді, а каша стаяла цэлая. Еслі каша не рассыпалася, то хваляць бабку за кашу, а кума за смякалку і спрыт. Гаспадары стараюцца, штоб кум разбіў, нават тайком перадаюць свае грошы. Кум ложыць грошай болей за ўсіх і разбівае гаршок з кашай.

Чарапкі ложаць на галовы гасцям, асобенна ў каго няма дзяцей, і падпяваюць. Калі гэта жанчына, то пяюць: "Сколькі на галаве чарапкоў, штоб столькі было дачок і зяцькоў", а мужчыне: "То столькі чарапкоў, штоб столькі сынкоў". Стараюцца лажыць як мага больш. Пасля гавораць: "Дзякуй, бабка-павітуха, за кашу, штоб яна на той год радзіла дачку Малашку. Дзякуй, бабка, за боршч, штоб цябе дзеду цалаваў каждую ноч". П'юць па чарцы-дзве, што стаіць на стале, нада ўсяго папробаваць. Што цябе панравіцца, нада хваліць, бо прыносяць і госці, калі ідуць на хрэсьбіны. Хваляць добрую кухарку і пытаюць, як яна гэта рабіла, а тая радасна адказвае, штоб навучыліся і другія.

Потым выходзяць скакаць польку, барыню, гапак. Гарманіст і барабаншчык, падвыпіўшы, падцягваюць частушкі. Гулянне працягваецца да позняй ночы. Выходзячы з хаты, пяюць гаспадарам: "Дзякуй

гэтай хаце, штоб было тут кожны год па дзіцяці". Бабка-павітуха, кум з кумою забіраюць падарункі, якія ім далі, цалуюцца з гаспадарамі і ідуць дахаты. А назаўтра прыходзяць на пахмелле, усе радасныя і вясёлыя, спяваюць хорам: "Бывайце здаровы, жывіце багата".

*Запісана ў в. Васількоў Рэчыцкага р-на*
*ад Шафарэнка Лідзіі*
*студэнткай Дунаевай Г.*

Раджэнне дзіця – гэта адзін з цудаў прыроды. Самы галоўны чалавек на радзінах – бабка-павітуха. Яна давала саветы бярэменнай, як тая далжна сябе весці. Бабка прымала роды (хаця шчас такога няма) і дзелала самыя простыя магічныя дзеянні над жанчынай і дзіцёнкам у першыя часы яго жызні. Павітуха далжна была не адлучацца ад дзіця да хрышчэння. Гэта нада было абязацельна. Етым яна як бы засцерагала яго ад "злых сіл". Баба рабіла купанне, гатовіла "да Хрыста" і першай прынімала дзіця з рук хросных пасля хрышчэння. Бабкай пастаянна бралі жанчыну, якая была пажылой вопытнай знахаркай, знала замовы, знала, як аблегчыць роды. І абязацельна нада было, штоб у яе не было чалавека, г.зн. мужа, а то яна шчыталася "нячыстай". Бабка далжна была імець лёгкую руку.

Чэраз нескалькі дней пасля таго, як радзілася дзіця (але не пазней, чым цераз нядзелю), радзіцелі далжны былі выбраць хросных. Але аб гэтым думалі яшчэ да нараджэння дзіця. У хросныя бацькі прасілі каго-небудзь са сваіх далёкіх або блізкіх родзічаў. Запрашэнне ў хросныя лічылася бальшым гонарам, адказацца ад яго было нільзя. Можна было запрашаць чужых людзей у хросныя. Але толькі ў тым выпадку, еслі да навароджанага ў сям'і былі яшчэ дзеці, але якія памерлі па хваробе. Вот тады бралі чужых. Хросны бацька забоціўся аб хрэсніку на працягу ўсяго жыцця і ў жызні свайго падапечнага займаў першае месца пасля бацькоў. Хросная маці займалася таксама сваім хрэснікам, і ў яе былі тыя ж абязацельства, што і ў хроснага. Калі ж дзіця яшчэ не дасягнула сталага ўзросту, а бацькі родныя паміралі, то дзіця павінен быў забраць хросны бацька к сабе ў сям'ю, а не хросная.

Цяжарная жанчына вяла строгае жыццё. Чамусьці ў тыя часы яе баяліся. Чаму, я не знаю.

Роды часцей праходзілі ў бані, патаму што баня лічылася святым, чыстым местам. У гэты час у хаце адкрывалі ўсе дзверы і юшкі, адмыкалі ўсе замкі, каб хутчэй прайшлі роды. У ваду, у якой купалі дзіця першы раз, кідалі грошы і лекавыя травы, каб той быў здаровы і багаты.

Хрысціць дзіця везлі не як цяпер, уранні, а ў другой палове дня. Хросныя ў дарозе не разгаварывалі, каб дзіця не было крыклівым. Пасля хрышчэння хрэсніка спавівалі ў пялёнкі, якія яму дарыла хросная. З цэрквы хросных сустракала “бабка”, забірала дзіця і несла да маці. Патом усе садзіліся за сталы. Але сталы далжны былі стаяць адной роўнай лініяй, каб дзіця доўга жыло. Абавязкова была “бабіна” каша. Яе варылі з любых круп. Потым госці “куплялі” кашу. Усе падаркі дзяліліся паміж “бабай” і бацькамі дзіця. Усе смяяліся, выпівалі, елі, пелі песні. Песні пелі розныя. Але ж не тыя, што пяюць на пахаронах. А так усе, абы было весела. Потым абед заканчваўся, і ўсе ішлі дамой. А перад етым радзіцелі дзіця далжны былі што-небудзь падарыць хросным. На другі дзень прыходзілі толькі мужыкі, каб пахмяліцца. А ўвечары ўжо абязацельна прыходзілі хросныя са сваімі мужыком і жонкай, “бабай-павітухай”.

Прыкметы для цяжарных жанчын ёсць. Калі цяжарная ела са скаварады, то лічылі, што дзіця будзе чорнае.

Цяжарнай нельга было станавіцца на вяроўку, таму што дзіця можа нарадзіцца задушаным пупавінай.

Калі пераступіць цераз дзіця, то яно не будзе расці.

Як толькі дзіця зробіць першыя крокі, маці ці хто-небудзь, хто прысутнічае пры гэтым, далжна ўзяць нож і правесці ім па палу лінію паміж ножкамі дзіця і сказаць: “Разарвіцеся, путы!”

Нельга дазваляць качаць каляску, калі ў ёй няма дзіця, таму што гэта вядзе да яго смерці.

Да года нельга дзіцяці шыць адзежу з новага матэрыялу і не даваць глядзецца ў зеркала, нельга стрыгці дзіця.

Тое места, дзе дзіця ўпадзе, звычайна палівалі вадой ці плявалі тры разы.

*Запісана ў в. Гіроў Рэчыцкага р-на*
*ад Сычыкавай Ларысы Аляксандраўны, 1910 г.н.,*
*студэнткай Лісоўскай В.*

Прыходзяць госці, выпіваюць, гуляюць. Ну, выпілі, пагулялі, гавораць: “Давайце бабіну кашу”. Прачуць, а тады прыносяць бабе: бульбы якой набяруць або буракоў, куру пасадзяць, пятуха – штонебудзь такое. Тады баба кажа: “Ета каша не мая!” Тады ўжо і бабіну прыносяць кашу. Яна гаворыць: “Во, ета каша мая”. Ставіць баба на стол кашу і кажа: “Мая каша з канапелькамі, а вы, людзі, з капейкамі”. Людзі кідаюць, хто сколькі, а кум борыцца за то, штоб пабіць кашу. Хто болей грошай паложыць, таго і каша. Б’юць кашу, бо так паложана. Чарапкі хаваюць дзесьці, заносяць у хату для дзіцяці ці для каго.

*Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на*
*ад Кірыловіч Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,*
*Новак В.С.*

На втарую нядзелю пасля нараджэння хрысцілі рабёнка маленькага. Хрысцілі і гулялі хрэсьбіны. Сабіралася радня ад бацькі і мацеры. Патом дзялілі кашу, кашу варыла баба. Наражаліся, прыносілі ету кашу. Сначала абвёртвалі ў платок там чыгунок які, сажалі петуха. Прыносілі і спрашывалі: “Баба, твая каша, узнаёш ці не?” На кашу вешалі з канфеткамі мяшок, а патом баба брала і гаварыла: “Мая каша”, і кагда раскрывала, вылятаў пятух. Патом саджалі ката, і таксама баба брала ката, развязвала платок – выскакваў кот. А патом трэці раз прыносілі кашу. Баба брала кашу, знімала канфеты, зразала верх і аддавала внучцы етай, каторая радзіла. Падносяць і таргуюць кашу, хто дзеньгі ложыць пасследні, тот разбівае, несматра сколькі там дзенег, там ілі многа, ілі мала, ліш бы пасследні палажыў дзеньгі. А патом, як ужо абойдуць усіх, абратна пачынаюць, а кум усё ложыць, усё купляе і купляе: “Мая каша”. А другая гаворыць: “Нет, эта мая каша”. І прадаўжаецца дальшэ. І з кума выцягваюць очэнь многа дзенег. А патом, кагда ён ужо пасследні (шчэ ў кума е дзеньгі), патом кум бярэ і аб вугал стала разбівае. Ну, і от в асноўным хваляць бабу тада, када каша не разбілась, а от іменна стаіць уся цэленькая, як гаршчок, от тада хвалілі бабу. А калі ўжо разбівалася каша, гаварылі, што баба не гадзіцца, і другія ўжо не возьмуць яе за бабу.

*Запісана ў в. Жмураўка Рэчыцкага р-на*
*ад Гапоненка Ніны Паўлаўны, 1937 г.н.,*
*Новак В.С.*

Хрэсьбіны гуляюць так. Як радзілася дзіця, яго абавязкова трэба пакрысціць у цэркввы. Для гэтага знаходзяць бабу, кума і куму. Кум з кумой вязуць малога ў цэркву, там яго бацюшка свеціць і вешае на шыю пасвяцоны крэсцік. І гэты крэсцік нельга знімаць з малога. Пасля цэркві ўсе едуць дамой гуляць. Сабіраюцца родныя, суседзі, сваякі і садзяцца за сталы частавацца. Усе танцуюць, песні пяюць.

Пасля пачынаецца абрад бабінай кашы. Баба варыць кашу ў гліняным гаршку і прыносіць з сабой. Усе прысутныя пачынаюць кашу выкупаць, і той, хто пакладзе больш грошай, атрымоўвае кашу. Потым гаршок з кашаю разбіваюць і даюць усім паспрабаваць. Чарапкі з гаршка ложаць усім маладым дзяўчынам на галаву, каб тыя таксама нарадзілі дзяцей. Яшчэ чарапкі забіраюць дамой і аддаюць свінням, каб вялося патомства.

*Запісана ў в. Заспа Рэчыцкага р-на.*

Беражаць бярэменную жанчыну. Прыказваюць, дзе там ніткі ці вяроўкі, штоб не ступала, штоб пераступвала. Тады спакойна дзіця родзіцца. Калі гарыць пажар, а яна ўзяла за ліцо, тады і ў дзіцяці будзе пляма красная на ліцэ. І калі ўпадзеш сільна да спужаешся, то дзіця можа нарадзіцца глуханемым.

*Запісана ў в. Чырвоная Дуброва Рэчыцкага р-на*
*ад Міхалка Любові Восіпаўны, 1920 г.н.,*
*студэнткамі Якушэнка Х., Лаўровай Ю.*

Тады забаранялася цяжарнай жанчыне хвалявацца, выконваць усялякую цяжкую працу. Ёй забаранялася пераступаць цераз ляжачую жывёлу, яна не павінна была вельмі часта глядзецца ў люстэрка, бо дзіцё магло быць касым. Цяжарнай нельга было зычыць каму-небудзь што-небудзь. Самае галоўнае, што ёй забаранялася глядзець на людзей, у якіх былі якія-небудзь фізічныя дэфекты (уродцы). І яна не павінна была абгаворваць такіх людзей. Бо яе дзіця магло радзіцца таксама з заганамі.

Гэта жанчына расказала, што калі яна была цяжарная, то быў пажар, яна ўпала і спужалася, і ў яе нарадзілася глуханямое дзіця.

*Запісана ў в. Чырвоная Дуброва Рэчыцкага р-на*
*ад Міхалка Любові Восіпаўны, 1920 г.н.,*
*студэнткай Грабянчук А.*

Усё адбываецца звычайна ў сялянскай хаце. Там знаходзяцца бацька, маці, дачка і зяць. Яны чакаюць гасцей. Маці пытаецца ў зяця, на колькі ён запрасіў гасцей. Той адказвае, што на восем і дадае: "Маці, то ж скора, а ў нас шчэ і сталы не накрыты". Маці просіць дачку быстрэй накрываць сталы, а старога адпраўляе пашукаць да стала чаго-небудзь да "пакрэпча".

У гэты час звычайна прыходзяць суседзі і гавораць: "Віншуем вас, бацька і матка, і ваша дзіцятка, жадаем вам шчасця, моцнага здароўя, добра спаць, не па днях, а па часах прыбываць". Суседкі звычайна цікавіліся, каго ўзялі за бабку нарачоную. Маці называла ім яе імя.

Калі прыходзілі нарачоныя баба з дзедам, то дзед казаў: "Добры дзень вам у хату, жадаю гэтай хаці заўжды чуць вясёлы смех дзіцяці". Баба віталася: "Добры дзень, унучка і ўнук". Потым прасіла паказаць маладую маці, што ёй бусел прынёс.Маладая маці просіць нарачоную бабку, каб тая памагла памыці дзіця. Баба згаджаецца, і пакуль рыхтуюць ваду, яна паказвае, якія падарункі яна прынесла дзіцяці, дастае кожны і гаворыць: "Вось шапка – красны цвет, каб мой унук быў, як макаў цвет, а сукенка розавая, каб мая ўнучка, калі вырасце, была страйна, як галінка бярозава".

Калі вада для купання гатова, бабка гаворыць: "Я ў ваду кладу святыя краскі, каб у маёй унучкі было багата ласкі. А ў красках ёсць сінія васілёчкі, каб у маёй унучкі былі галубыя вочкі. Яшчэ кладу манеткі, каб былі здаровы вашы дзеткі, яшчэ кладу маргарыткі, каб былі тоўстыя лыткі". Потым нарачоная баба вучыць маладых бацькоў пеленаць дзіця пасля купання. Потым кажа, каб бацька ўзяў дзіця на рукі, і гаворыць: "Я жадаю, каб яна (ён) была багатая, як зямля, вясёлая, як вясна, здаровая, як вада, ды штоб мінула яе ўсякая бяда, штоб спала начамі, падрастала часамі". Вось у гэты момант баба вучыць маладую маці, як зберагчы дзіця ад урокаў: "Первым разам, добрым часам, Госпаду Богу памалюся, святой Багародзіцы пакланюся. За морам, за акіянам, там сядзелі тры дзявіцы. А то ж не дзявіцы, а тры родныя сястрыцы. Адна шыла, другая вышывала, а трэцяя ўрокі адганяла. Амінь".

Маладая маці дзякуе бабцы і цалуе яе. Бабка, пацікавіўшыся, хто будзе кумамі, можа прапанаваць, каб сёння і хрысціны адправіць. Малады бацька ідзе за кумамі. Тыя прыходзяць і гавораць: "Віншуем вас з дачкой (сынам), жадаем ёй моцнай быць, як мядзведзь, і ніколі не балець".

Калі ўсе госці збяруцца, родная бабка запрашае ўсіх за стол і гаворыць: "Наша (імя маладой маці) усю ноч не спала, яна сабе гасцей ждала, столікі накрывала, абрусам засцілала, тарэлкі аладкамі напаўняла ды бабку частавала". Адразу ж за маці маладой з-за стала ўставаў дзед дзіцяці і гаварыў: "Давайце вып'ем да дна, каб у нас была думка адна, каб наша (імя дзіцяці) падрастала да на ўсю акругу прыгажуняй стала". Госці п'юць, ядуць, спяваюць песні.

Потым адна з суседак гаворыць: "У нашага (імя бацькі дзіцяці) вінаград на дварэ, пасадзіў ён бабку на самым куце". Ёй дапамагае яшчэ адна з суседак: "Штось ты, бабка, зажурылася, наверна, твая каша не зварылася. Штось і дзед зажурыў, наверна, ён кашу згубіў". У гэты час павінны зайсці дзве жанчыны і сказаць: "А мы вот ішлі і кашу знайшлі. Вот, бабка, твая каша". Але бабка не згаджаецца з імі і гаворыць: "Ой, ды тут штось жывой, ды і гаршчок не мой". Глядзіць, а ў гаршку жывы голуб. Кажа: "Не, гэта каша не мая". Тады ёй даюць другі гаршчок і гавораць, што ўжо гэта каша твая. Баба адкрывае, а ў гаршку – грыбы. Яна кажа, што і гэта каша не яе: "Вы ж паглядзіце, госці дарагія, на дварэ снег і мароз, а ў гаршку грыбы параслі". Госці смяюцца і кажуць: "Такая ты, баба, што ў тваім гаршку каша парасла".

Баба адказвае гасцям прыкладна так: "Мая каша ў трапкачэ, яна нікуды не ўцячэ. Ідзі, дзед, паглядзі да кашу сяды прынясі. Я сем дней у печы тапіла, сем начэй мая каша прэла, на восьмы я сюды прыйшла". Калі дзед прыносіць кашу, баба паказвае яе ўсім і гаворыць пры гэтым: "Вось мая каша настаяшчая. Мая каша з канапелькамі, а вы, госцейкі, усе з капейкамі. Хто кашу не купіць, той ні разу не ўкалупіць. Мая каша – на торг. А ты, кум, засунь руку ў кішэню, ды выньмі грошай жменю, ды на стол палажы, ды кашу разбі". Кум згаджаецца з бабай і кажа: "Кладу на стол дзесятку і разбіваю кашу сладку". Але госці кашу таргуюць, хто кіне больш грошай, но кум кладзе болей за ўсіх і разбівае кашу.

Калі ў маладых нараджалася дачка, то бабка рабіла так: зразала вяршок з кашы, клала на талерку і давала маладой маці. Другі кавалак кашы яна клала на галаву маладога бацькі і казала: "Табе кладу чарапок, каб на другі год быў сынок". Кум рэжа астатнюю кашу, бярэ сабе кавалак і гаворыць: "Няхай майму дзіцятку шчасця, долі ў хатку, хай яму столькі год пражыць, сколькі ў маёй чарцы кропель дрыжыць, быць яму здаровым, крэпкім, як мядзведзь, і ніколі не

балецьˮ. З-за стала ўстае кума, бярэ ў рукі кавалак кашы, з'ядае яго і гаворыць: “Дай, Божа, нашаму дзіцяці ўсякую долю ўзяці: і салявую, і хлебавую, шчасця вам, бацька і маці, і вашаму дзіцяціˮ. Потым адзін за адным устаюць госці і гавораць свае пажаданні:

– Жадаю дзіцятку быць высокім, як дуб, здаровым, як зуб.

– Дару бульбы копчык, каб на другі год нарадзіўся хлопчык.

– Кладу грошы са свістам, каб на другі год нарадзіўся хлопчык і быў гарманістам.

Пасля таго як госці выкажуць свае пажаданні, маладая маці пачынае адорваць нарачоную бабку і кумоў падарункамі. Дорыць бабе падарунак і гаворыць: “Мая ты бабулька, пахучая, як мята, люблю цябе, што ты багата, прымі і ад нас падарунакˮ. Дорыць кумам і гаворыць: “Ой, кумка мая, чырвона ружа, люблю цябе, што ты прыгожа. А кумочак мой, як сіні васілёчак, і табе падаруначакˮ. Пасля гэтага суседка гаворыць, што бабку трэба пасадзіць на пол і адправіць дамой. Баба адмаўляецца, кажа, што яна за куток плаціла грошай шматок. Усе пачынаюць спяваць і хваляць гарэлку: “Ёсць вам чым пахваліцца, смачна гарэлка, можна напіццаˮ. Баба заве гарманістаў, каб тыя зайгралі вясёлую. Усе пяюць прыпеўкі, скачуць танцы. Потым госці кажуць, што трэба бабку і кумоў падняць на “ўраˮ, каб і іх, гасцей, адорвалі падарункамі. Падымаецца кум і кажа: “Даю вам на закуску вала, каб наша (імя дзіцяці) здарова былаˮ. Потым баба падымаецца і кажа: “Дару вам я бутэль гарэлкі, каб былі вясёлыя дзеўкіˮ. Пасля гэтага гарманістам загадвалі граць песні: “Ой, ты, Ваня, Ваняˮ, “Вецер вее, навеваеˮ, “Дзе ты, мілы, скрыўсяˮ. Госці спяваюць, скачуць танцы. Прадаўжаюць гуляць радзіны.

***Запісана ў в. Левашы Рэчыцкага р-на***
***ад Калесніка Івана Сцяпанавіча, 1925 г.н.,***
***Новак В.С.***

За дзень да хрэсьбін бацька дзіцяці разносіць хлеб куме і куму. У дзень хрэсьбін баба, якая прымала роды, укутвае младзенца, і хросная маці з хросным бацькам едуць у царкву. У цэркві бацюшка бярэ дзіця на рукі і чытае малітву. Потым бацюшка ў кума і кумы пытаецца: “Адракаецесь ад сатаны яго?ˮ Яны адказваюць: “Адракаемсяˮ. Пасля гэтага бацюшка тры разы пагружае дзіця ў вадзіцу. Як кажуць, знімаецца з яго адамаў грэх. На хрэсьбінах пяюць жартоўныя песні пра кума і куму:

*Вытаплю я ў печы,*
*Прыбяру ў хаце.*
*Да й пайду я да кумы*
*Новасцей пытаці.*

*Як прыйшла я да кумы,*
*Стала пад сцяною,*
*А мой мілы чарнабрывы*
*Любіцца з кумою.*

*Ставіць кума пляшку,*
*На закуску рыбку.*
*А я ўзяла не сцярпела*
*Да й пабіла шыбку.*

*Як прыйшла дадому*
*Ды лягла на койку,*
*Абвязаўшы хусцінаю*
*Бедную галоўку.*

*Пытаецца мілы:*
*"Чаму забалела?" –*
*"Таму, чаму ў кумы*
*Шыбачка ляцела".*

*Вытаплю я ў печы,*
*Прыбяру ў хаце.*
*Зноў пайду я да кумы*
*Новасцей пытаці.*

*А ў хаце ў кумы гразна –*
*Пасуда не мыта.*
*"Чаму ў цябе, кумачка,*
*Шыбачка пабіта?"*

*"Была ў мяне кура*
*Вельмі ж-жа пужліва.*
*Паляцела цераз хату,*
*Шыбачку пабіла".*

*"Брэшаш, мая кумка,*
*Табе прызнаюся,*
*Што з тваім я мужам*
*Дзесяць год люблюся".*

***Запісана ў в. Ліскі Рэчыцкага р-на***
***ад Шаўлоўскай Ніны Андрэеўны, 1933 г.н.,***
***Новак В.С.***

Калі бяруць жанчыну на роды, то яна павінна распусціць косы, парашчопвацца ўсюды. Да й радзіцелі, вот там матка, там еслі, дак даўжна тожа распусціць косы, штоб лёгкія роды былі.

А вось як хрысцілі дзіця. Нясуць хлеб, куму нясуць хлеб, куме, уперад бабе нясуць хлеб, баба прыйдзе пабабіць. Калісь не было етых, ужэ медзічкі не бабілі, а нясуць, і баба бабіла. Прыходзіць ужо баба, у чыстае адзяецца, прыходзіць, памые яго. Бабу ўжо пачастуюць.

Но, а тады ўжэ, калі скажаш на хрэсьбіны, ужо сабіраюцца хрэсьбіны. Ужэ куме нясеш хлеб, і куму нясеш хлеб, ужэ ўвечары палаценцам накрываеш і нясеш. Занясеш хлеб, а тады ўжэ прыходзяць і прыязджаюць (тады ж коні былі, вазілі дзяцей). Вязуць,

хрысцяць. Браць у кумаўя можна хоць брата і сястру. Абавязкова баба варыць кашу з пшана. Тады варэйкі былі, цяпер дак няма варэяк, а тады былі. Ну, варэйку тую ў печы ўжаруеш яе, жырам умазуеш, маслам. На маслі добра, штоб яна прапіталася жырам. А пшана варыш у другой ужэ пасудзіне. А тады яе састаўляеш, змешуеш туды масла, яічкі б'еш ужэ. І тады злажуеш у гэты гаршчок і ў печ стаўляеш, прыкрываеш. Тады верх такі вырасці мог. А тады ўжэ нясеш туды, прыбіраюць яе, кашу етую. А тады сядзіш ужэ, як прынясуць разоў пяць не кашу, а там гаршчок такі які другі. Ну, штоб пасмяяцца. А тады ўжо таргуюць, 100 рублей, а там той дае ўжэ болей, а ты йшчэ болей. Ну, а кум жа не хоча паддацца, кум перамагае. Да. Ну, й тады ўжэ, еслі кум ужэ палажыў болей, значыць, кум кашу разбівае. Тады знімаеш верх із кашы, адразаеш, падаеш, кладзеш падарак унуццы. А чарапкі, калі там збоку сядзіць, дак чарапок той возьмуць і на галаву, так шуцілі.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Шувалавай Ганны Піліпаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Яфрэменка В., Зюзьковай А., Храньковай Н.***

Калі цяжарная бачыць на зямлі вяроўку, яе нельга пераступаць, бо дзіця пры родах задушыцца пупавінай.

Цяжарнай нельга біць наском абутку жывотных, асабліва свіней, бо дзіця будзе сапець у нос.

Калі цяжарная бачыць пажар, нельга ад спалоху хапацца за розныя ўчасткі цела, бо ў дзіцёнка на тым месцы будуць красныя пятны.

Нельга смяяцца з калек, каб дзіця такое не было.

Калі ў цяжарнай папросяць падаяння, трэба абавязкова падаць, каб дзеці не прасілі.

Калі ў цэркві пры хрышчэнні дзіця заплача пад крастом, значыць, будзе яно шчаслівае і шмат пражыве.

Начную рубашачку младзенца трэба захоўваць, пакуль дзіця добра не падрасце. Гэта забароніць ад дурнога вока.

Перад хрэсьбінамі друзья і родственнікі ідуць у атведкі, абавязкова з падаркамі. Без падаркаў ісці – грэх. Бацькі дзіцяці выбіраюць каго ўзяць за кума і куму і ідуць да гэтых людзей з рушніком і хлебам-соллю. Кажуць такія словы: “Калі ты сагласны быць хросным майму дзіцяці – прымі хлеб-соль”. Также выбіралі і бабку.

Потым намячалі дзень хрэсьбін. Пасля прыезду з цэрквы было застолле, на якім выкуплівалі "бабіну кашу". Кашу бабка гатавала ў невялікім гаршочку, які ўпрыгожвалі абадочкамі і канфетамі. За сталом бабка прапанавала выкупіць кашу. Хто даваў болей грошай, той і меў права разбіваць гаршок з кашай. Калі гаршок разаб'юць, а каша не рассыплецца – гэта чэсць бабцы. Чарапкі з разбітага гаршка адзявалі тутачка на галаву хросным. Верх кашы знімалі і клалі асобна, каб яго не пачаставала маці дзіцяці, бо тады ў дзіцёнка будзе лічыка ў прышчах.

*Запісана ў в. Салтанова Рэчыцкага р-на*
*ад Кляцоўскай Марыі Іванаўны, 1935 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Старакраснае Рэчыцкага р-на),*
*студэнткай Васілюк А.*

Замоў ніякіх не было, каб абараніць парадзіху і навароджанага. Трэба было прышпіліць шпільку на сарочку, каб не сурочылі. А калі дзіця сурочылі, трэба было выцерці яго падолам спадніцы і сказаць: "Якая маці радзіла, такая і выхадзіла". Яшчэ ў дзірку ў услончыку трэба было пераліць тры разы ваду і даць дзіця выпіць (ад спугу).

На хрэсьбіны баба варыла кашу. Абавязкова пшонную ў гліняным гаршку. У канцы гульні кашу "прадавалі". Хто болей пакладзе грошай, той б'е гаршок. Кум заўсёды хаваў заначку, каб з яго потым не смяяліся.

Канешне, спецыяльныя песні былі. Толькі іх ніхто не ўспомніў. На хрэсьбіны госці прыносілі печаныя ладкі, пячэнне, канфеты. Абавязкова паўлітру гарэлкі. У канцы гульні бабу садзілі на барану і каталі па вуліцы, а потым парадзіха адорвала бабу падарункам.

*Запісана ў в. Яноўка Рэчыцкага р-на.*

Як раджалі, то звалі акушорку. Загадзя нельга нічога купляць. Хрысцілі ўсіх дзяцей. Баба варыла кашу. А калі разбівалі, то чарапкі на голаву надзявалі тыя, у каго дзяцей не було. Баба варыла шчэ боршч. Падаркі давалі ўсім.

*Запісана ў г. Рэчыца*
*ад Патапенка Евы Антонаўны, 1925 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Нудзічы Брагінскага р-на).*

# Светлагорскі раён

Галоўнымі на хрэсьбінах былі кум, кума і бабка-павітуха. Пакуль кум, кума і навароджаны(ая) былі ў царкві, у хату прыходзілі госці. Аны прыносілі з сабою якія-небудзь стравы. Потым прыязжалі кумы з дзіцём і аддавалі яго бацькам. Пасля ўсе рассажваліся за сталом, кумы даўжны былі сядзець радам. На стол ставілі розныя стравы, але галоўнай была бабіна каша. Яна магла быць рысавай або грэцкай. Калі гатавалі кашу, то лажылі туды многа масла, малака, цукру. Потым етую кашу павінны былі выкупіць, а потым ужо дзяліць. На гаршчок лажылі хустку і абходзілі ўсіх гасцей, а яны павінны былі лажыць на хустку грошы. Хто апошні паложыць, таму і застаецца каша, але часцей за ўсё гэта быў кум. У канцы хрэсьбін бабку "цягалі на бара-не", а яна падганяла іх дубцам ці венікам. Пасля гэтага госці разыходзіліся дадому.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Стома Зінаіды Рыгораўны, 1931 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чэрнін Светлагорскага р-на),***
***студэнткай Мазоўка Г.***

Раджалі ў мамы. Звалі бабу, якая панімая. Радзіху вадзілі вакол стала. Бабка чытала малітвы.

Калі ў цэркві перахрэсцяць, бяруць куму, бабу, якая прымала дзіцё, і гуляюць хрэсьбіны.

Баба варыць кашу на хрысціны, кум кашу б'е. Кашу куплялі, хто болей паложыць, той і б'е.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Зайчанка Домны Якаўлеўны, 1911 г.н.,***
***студэнткай Савіцкай І.***

У асноўным гатавалі блінчыкі, халоднае, кісель. А галоўным быў кампот з яблыкамі і грушамі сушанымі, каб не балеў жывот. Гарбуз (кабачок) на хрэсьбіны надзяром, чарніц сушаных намочым – яны набракаюць, буракоў надзяром – атрымлівалася павідла. Мы называлі "мёд". Маку натаўком.

У адной жанчыны радзілася дзеўка. Баба накупляла багата падарункаў і ходзіць. Раз прышла, другі... А маці гаворыць: "У цябе што, лішнія грошы? Чаго ты ходзіш?" Яна не ведала, што трэба тры разы хадзіць.

Куму давалі падаркі, бабе, куме. Сваім бабам таксама давалі.

Баба вара кашу, завязвае кругавую лентамі, чапляе розныя канфеты. Кум кладзе грошы на кашу, тады б'е гаршчок. Чарапкі клалі на галаву маладым (гасцям), каб яшчэ дзеці раджаліся. Усё робіць, у асноўным, кум. Кума сядзіць моўчкі, нічога не робіць.

Пасля нараджэння дзіцяці баба-павітушка прыходзіць са сваім поясам, які сама саткала.

*Запісана ў в. Баравікі Светлагорскага р-на*
*ад Барсук Арыны Якаўлеўны, 1924 г.н.,*
*студэнткай Крыловай Л.*

Цяжарная жанчына павінна паводзіць сябе прыстойна: ні абражаць брыдкімі словамі людзей, ні рабіць шкоды, ні красці. Глядзець трэба на прыгожых, добрых людзей. Не быць зайздрослівай. Не выстаўляць жывот, а насіць вольнае адзенне. Не адразаць валасы, не малявацца, тады будзе і дзіцяці добра. Бацька павінен быць таксама прыстойным гаспадаром, не піць напояў (гарэлку, віно).

Калі цяжарная жанчына прыйдзе ў хату чаго-небудзь пазычыць, а ў вас таго няма, то трэба за ёй кінуць кавалачак хлеба, нельга кідаць вугаль, бо дзіця будзе есці вуглі, мел. А калі нічога не дадзіце, то ў вас будуць мышы есці ваш скарб. Людзі з павагай павінны адносіцца да цяжарнай жанчыны.

Роды былі дома, грэлі ваду, у хаце было цёпла. Звалі бабку, якая прынімала роды, дзіця зразу купалі. Пры родах мужчын выпраўлялі з хаты. Каб роды праходзілі лягчэй, адчынялі вароты, жанчыны развязвалі паясы.

Калі ражаць у полі, то будзе цяжкая жаночая доля.

Да жанчыны-парадухі (так у нашай вёсцы называлі рожаніцу) прыходзілі жанчыны ў адведкі, прыносілі розныя стравы. Самыя родныя жанчыны прыходзілі, калі родзіцця дзіця. Потым жанчыны згаварваліся і прыходзілі на радзіны. Радзіны – гэта таямніца, дзе толькі жаночыя справы. Усе прыгатаванні да радзін рабілі самі, жанчыны прыходзілі на радзіны з прыгатаванымі стравамі. Стол быў накрыты скацеркай, на голы стол ежа не ставілася. Прыносілі мёд, студзень, мяса, сала, рыбу, кісель, кампот, медавуху, аладкі, сухарыкі, блінчыкі, бульбу-смажанку з мясам, з грыбамі.

Выбіралі кума і куму. Неслі хлеб да іх і прасілі быць хроснымі дзіцяці. Калі хлеб прынімалі, то давалі згоду. У царкву збіраліся рана. Родныя, бацька і маці ў царкву не ездзілі. Імя давалі і па царкоўнаму каляндару, і хто як хацеў.

Пасля хрышчэння дзіцяці рабіліся хрысціны. Запрашаліся родзічы, суседзі. Галоўнымі на хрысцінах былі кум і кума, якіх садзілі на лаву, дзе чырвоны кут. Бабка, якая купала дзіцядзіця, варыла кашу з прасяных круп. Каша была галоўнай стравай. Яе выкупалі: хто болей паложыць грошай, той б’е кашу.

Жанчыны прыносілі падарункі, стравы, неслі тожэ і гарэлку, каб гаспадарам не было ўбытку. Запрашаліся музыкі, мужчыны таксама былі на хрысцінах. Халасцякоў і халасцячак не запрашалі. Гэта маглі быць толькі кум ці кума. Кума з кумой паднімалі на заслоне, яны давалі выкуп. Бабку тожа зімой вазілі на саначках па сялу ў краму, за выкуп.

Дзіця лажылі ў калыску. Дзіця хавалі ад злых вачэй, каб ні сурочыць. Злым людзям кідалі вугольчыкі ўслед з прыгаворам. Дзіцяці спявалі калыханкі. Навароджанае дзіця ўзвешвалі на бязмене.

Сава не родзіць сокала, а такога чорта, як сама.

Якое палена – такі клін, які бацька – такі сын.

***Запісана ў в. Каралеўская Слабада Светлагорскага р-на ад Фраловай Агаф’і Акімаўны, 1934 г.н.***

Бывала так, што рожаніца ражала дома ці ў бальніцы, то абавязкова палілася печ сразу і грэлі ваду, звалі бабку-павітуху чужую. Маці родная рожаніцы не павінна купаць дзіця. Клала траву для дзіцёначка: рамашку, вотрубі пшанічныя ў вадзічку і туды лажылі хлеб, раньшэ ў начовачках дзяравянных купалі. Хлеб клалі для таго, каб дзіця не пужалася вады. Бабка прыносіла палатняныя полачкі. І ў етых полачках купала дзіцёнка. Перад купаннем бабцы даюць чысты рушнік і фартух. Перад купаннем бабка мые рукі і пасля купання выцірае аб чысты рушнік рукі. Вынімае дзіця з начовак, заварочвае і падае маці. Бабку пасля купання частуюць абавязкова.

Прывозяць рожаніцу дамой і прыходзяць в атведкі толькі жанчыны. Прыносяць усю прыгатаваную страву, рожаніца не павінна гатаваць. Прыносяць ладкі, раней з макам, рожаніца паесць, і дзіця добра спала. Прыносілі мёд, каб салодка было, сухарыкі выпякалі,

кісель з журавін і чарніц у місках, густы, штоб ложкай есці, абавязкова хлеб, гарэлку, віно. Усё неслі. І прыносілі з сабой адзенне маленькаму, каб дзіцёначак быў ня бедны, а багаты. Праходзіць час, шукаюць кумоў, бяруць хлеб, соль і ідуць у хату, кланяюцца і просяць дзіця пакрысціць іхняе. Кума бярэ адзенне, адзявае яго і вязуць у царкву. У царкву бярэ яшчэ кусок тканіны і дзяржыць на ім дзіця, штоб голымі рукамі ў царкве дзіця не дзяржаць. У царкву маці і бацька ня едуць, а едуць толькі хросныя. Далей прывозяць дзяцёнка дамоў, дома іх сустракаюць. Хросных садзяць на кут і бабку садзяць, далей садзяць гасцей. Бабка, якая купала дзіця, яна дома варыць кашу з пшана і прыносіць яе на хрэсьбіны, і хто болей паложыць грошай за кашу, той яе і разбівае. Кашу падзялілі, па кусочку ўсім далі, за кашу абязацельна выпілі, хазяйка дае ўсім падарункі за сталом. Пяюцца прыпеўкі:

*Мяне маменька радзіла,*
*Туга ножанькі звіла.*
*На раду яна сказала,*
*Штоб танцорачкай была.*

*Мяне маменька радзіла*
*У поле пад асінкаю.*
*На раду яна сказала,*
*Будзеш звацца Зінкаю.*

***Запісана ў в. Лядцы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Усцінні Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Красаковай А.***

Калі жанчына станавілася цяжарнай, да яе прыходзілі госці, толькі самыя блізкія людзі. Віншавалі яе, весяліліся. Спявалі песні, штобы мальчык ці дзевачка нарадзіліся:

*А хто ў нас, а хто ў нас*
*З юга ходзіць?*
*Іванька і Іванька*
*З юга ходзіць.*
*Іванька і Іванька*
*Бабку просіць:*
*Бабка мая,*
*Любенька мая,*
*Пойдзем да мяне,*
*Да мяне, да мяне,*
*Да к маёй жане.*

*Іванька і Іванька,*
*Што ж вам Бог даў?*
*Аль сына, аль сына,*
*Альбо дачушку?*
*Калі сын, калі сын,*
*Будзе пісаць.*
*Калі дочка, калі дочка,*
*Будзе вышываць.*
*Калі сын, калі сын,*
*Калыбелька разрісованая,*
*Калі дочка, калі дочка,*
*Калыбелька лубяная.*

Калі жанчына нараджала, таксама прыходзілі ў вответкі да ёй маладыя падругі, бабкі, яны таксама спявалі розныя песні, пілі віно, гарэлку, закусвалі. Прыходзіла бабка, купала дзіця ў хрышчонай вадзе, жадала яму быць багатым, здаровым, шчаслівым, долгага жыцця. Шаптала над ім. Раней знала што, ды і нельга іх занадта маладым расказваць. Шчыталася, што кумою нельга браць незамужнюю жанчыну, таксама маладой дзеўке нельга было хрысціць першую дзяўчынку, бо тады сваіх дзяцей у яе не будзе. Але ж яшчэ гаварылі, што ад кумаўства ніколі нельга было адказвацца. Хросныя бацькі прыходзілі з падарункамі да дзіцяці, а затым усе ехалі ў царкву. Калі вярталіся з царквы, то сядалі за стол, празнавалі радзіны. Хросныя бацькі далжны былі, як родныя бацькі, даглядаць за дзіцём, вадзіць яго ў царкву, частавалі хрэсніка, дарылі падаркі на святы.

Раней жанчына раджала дзіцё сама. К ёй ва ўрэмя родаў запрашалі бабулю. Яна адразала пупавіну дзіцяці і перавязвала яе льном. Потым акунала дзіця ў начоўкі з вадой тры разы, каб дзіцё расло здаровае, і аддавала яго маці. Гэтая ж бабуля рыхтавалася і да хрэсьбін. Гэта зараз то зусім не хрэсцяць дзяцей, то праз гады, а ў нас усё рабілася хутка, ніводнага лішняга дня не цяралі, каб не прапаў дарма. Дык вось к дню хрэсьбін баба варыла кашу з пшана і прыносіла яе да рожаніцы. А госці хочуць украсці кашу. Тады бабуля яе выкупае і гаворыць: “Мая каша з канапелькамі, а вы, госцікі, з капейкамі”. Хросны ацец бярэ кашу і разбівае яе аб стол. Падаркі на кашу аддаюць рожыніцы.

*Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на*
*ад Кузьмянок Зінаіды Мікітаўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Гайковай Ю.*

Жанчына, калі бярэменная, павінна быць асцярожнай, еслі хоча, каб дзіця радзілася здаровым. Барані Бог што-небудзь рабіць у святы і ў нядзелю.

Калі абрэжа бярэменная валасы, то дзіця народзіцца лысае і доўга валасы не вырастуць. А калі што-небудзь рэзаць ці секчы ў нядзелю, то дзіця будзе з “заячай губой”.

У нас у вёсцы так было: адразала мацерыю на пялёнкі ў нядзелю, і дзіця радзілася з “заячай губой”. І яшчэ быў случай: шыла на свята – і дзіця радзілася абматанае пупавінай і ледзь не памерла пры родах.

Раней роды прынімала бабка-павітуха. У атведкі да парадзіхі прыходзілі толькі жанчыны, прыносілі ў падарак вопратку для малога, а такжа разную яду, якую самі гатавалі.

Як спаўняўся месяц дзіцяці, яго хрысцілі ў царкве. Выбіралі кума і куму, і яны хрысцілі малога. Радзіцелі ў цэркву не ездзілі, а гатовілі ўсё дома. Увечары да іх прыходзілі госці. Абязацельна была баба – гэта тая жанчына, што первы раз купала дзіця. Баба гатовіць кашу ў гліняным гаршку. Радзіцелі гатовяць падаркі куму, куме і бабе. Ужо пад канец другая якая-небудзь жанчына выносіць, прытанцовывая, кашу. Баба павінна прадаць сваю кашу куму. А потым кум таргуецца з усімі гасцямі. Усе збіраюць на кашу грошы. Пасля кум разбівае гаршок з кашай і раздае ўсім. Спявалі:

*Ой, учора, мае кумочкі,*
*У нас радзінкі былі.*
*А сягоння, мае кумочкі,*
*Мы на хрэсьбінкі прыйшлі.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па рубельчыку даць,*
*То мы будзем, мае кумочкі,*
*Да аўторка гуляць.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па каровачцы даць,*
*То мы будзем, мае кумочкі,*
*Усю нядзельку гуляць.*

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на***
***ад Дайнэка Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н.,***
***Дайнэка Анастасіі Фядосаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Камандзірчык Н.***

Нараджэнне дзіцяці ў сям'і заўсёды ўспрымалася з радасцю. У кожнай сялянскай сям'і дзяцей нараджалі столькі, колькі “Бог пашле”. Было, што дзяцей нараджалася па дзесяць і больш. Медыцынская дапамога амаль адсутнічала. Галоўнай асобай у час родаў была бабка, якую запрашалі да парадзіхі. У вёсцы мелася жанчына, якая валодала народнымі ведамі, звязанымі з родамі. Ісці ж у бабы мела права жанчына, якая сама выйшла з дзетароднага ўзросту. Бабка дапамагала парадзісе не толькі парадамі, як паводзіць сябе ў час родаў, але нярэдка прыбягала да магічных дзеянняў (развязванне ўсіх вузлоў, расшпільванне гузікаў, расплятанне касы і інш.). Бабка ведала, як адрэзаць пупавіну, куды схаваць яе. Звычайна пупавіну і пасled закопвалі пад тым вуглом хаты, куды не траплялі сонечныя прамені. Туды ж вылівалі і ваду, дзе першы раз купалі дзіця.

У першыя дні пасля родаў бабка ва ўсім дапамагала парадзісе. У першы тыдзень тройчы прыходзілі ў адведкі. Прыносіла аладкі, налісніki, коржыкі, кісель і інш. Купала дзіця сама жа бабка. Мела за ўсё гэта ад гаспадара пачастунак.

У адведкі прыходзілі і жанчыны. Раней такога не было, каб на адведкі збіраліся ўсе ў адзін дзень. Стараліся не глядзець на дзіця, каб яму не пашкодзіць. Мужчыны і незамужнія жанчыны ніколі ў адведкі не хадзілі. Апякунскія функцыі заўсёды выконвалі кум і кума – хросныя бацькі дзяцей. Быць кумам і кумою лічылася справай гонару. Адмаўляцца было нельга.

Потым ладзіліся хрэсьбіны. Галоўнымі былі кума і баба. Гаспадары ў сваю чаргу рабілі падарункі сваім кумам, а таксама і бабе. На хрысцінах абавязкова была бабіна каша. Яе ставілі на стол насупраць кума. Бо менавіта ён павінен быў разбіць гаршчок (пабіць кашу). Але права такое трэба было яму заслужыць. Справа ў тым, што ў канцы абраду ўсе госці клалі грошы на кашу. Пасля ўсіх гасцей грошы клаў кум. Пасля госці зноў лажылі грошы.

***Запісана ў в. Славань Светлагорскага р-на***
***ад Кацура Кацярыны Максімаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Грабанавай Л.***

Гаршчок біў кум, яму давалі рубашку. Куме давалі вымыты платок ці кофту. Дзяцей называлі Апанас, Афанасій, Авер’ян, Мітрафан, Акуліна, Аксіння, Малання, Прохар, Параска, Прося.

Калі выбіралі кумоў, то нельга было адмаўляцца. Калі звалі ў кумы, то стаялі, тады дзіця хутка навучыцца хадзіць. Калі хрысцілі дзіця і яно крычала, то лічылі, што яно будзе бойкім, а калі маўчала – будзе хворым.

***Запісана ў Светлагорскім р-не.***

Як цяжарная жанчына, ніколі не нада чэраз парог выліваць ваду, бо будзе слюнкаватае дзіця.

На Ражаство цяжарныя ніколі нічога не закручвалі, каб не закруцілася пупавіна.

Кагда цяжарная пячэ блін і астаецца корачка на скаварадзе, то не трэба яе браць, каб не прырастаў язычок у дзіцяці.

Ішлі за кумам, бралі хлеб у рушнічок і так пргглашалі на хрэсьбіны, прыглашалі ўсіх родственнікаў. На еты праздпік рыхтавалі ўсякія стравы: блінчыкі, салаты. Прызывалі куму з кумам, налівалі ім першую чарку, і яны ўжо жалалі, каб узрастала, працвітала. Потым куму і куме давалі падаркі: куму – на рубашку, куме – на плацце, і бабе таксама. Баба купала дзіця. Баба варыла кашу пшонну ў гаршку. Варыла кашу і прыносіла сама ў гаршку.

Калі патроху папілі і паелі, то падавалі кашу, баба сядзела радам ля кумы на куце. Кашу перадавалі прама на кут куму. Кум вяршок зразае і ложыць на тарэлачку, а потым гаршчок ад аднаго разу б'юць, каб гаршчок разбіўся, а каша засталася цэлая. Пры етым прыгаварваюць: "Гаршкі б'юцца, а дзеткі вядуцца". А ў ету тарэлку, дзе вяршок кашы, ложаць дзеньгі, спачатку кум і кума, потым баба і пасля ўсе астатнія. Гэтыя грошы аддаюць рожаніцы і тады ўжо гуляюць. І гармонь гуляе, і барабан б'е. А калі захочуць яшчэ пагуляць добра і калі пажалалі, то садзілі на каляску кумоў і трэбуюць магарыч, і назад прывозяць. Спявалі розныя, любыя песні.

***Запісана ў в. Чыркавічы Светлагорскага р-на ад Усціменка Марыі Якаўлеўны, 1929 г.н., студэнткай Анянковай А.***

# Хойніцкі раён

Ета ж зараз доўга не хрысцяць, а тады – сёння родзіцца, а назаўтра і хрысцяць. Прыбяраюць дзіцятка харашэнька, вязуць у цэркву, бацюшка ўжэ малітвы такія чытае над тым дзіцяткам, ложаць яго, на руках дзяржаць кум і кума, спярва падзержыць кума, а потым бацюшка кажа: перадайце куму дзіцятка. Бацюшка мірам такім мазаў, ладонькі – крэсцікам на адной, на другой, на ножках, ну і свечанаю вадою яго пасвеціць, і такая цёплая вадзічка стаяла ў такім чайніку, апускалі тое дзіця ў тую воду, ета называецца крысцілі.

Тады ўжо бацюшка вымае тое дзіцятка з тае вадзічкі, і кума яго ўжэ пялёначкаю абатрэ, сухенькаю, і зноў у пялёначку чысценьку ўкруціць яго, і зноў дзержыць, бацюшка зноў малітвы чытае, ну, во ета так крысцілі дзіця. Як прывозяць дзіцятка з цэркві, дак вот ужэ нагатаўляецца загадзей, узаўтры павязуць, дак ужэ прыгатаўляюць: напеклі там і коржыкі, і ўсё-ўсё гатуюць.

Прывозяць ужэ дзіцятка з цэрквы і ўжэ завуць людзей багата, ета ўжэ называюцца крысціны, садзіліся ўжэ ўсе людзі за стол: кума і кум должны іці на хрысціны, далжны варыць сваю кашу ў чыгунчыку, і кума нясе, і кум сваю нясе. Кумава жонка нясе кумаву кашу, а кума нясе сваю кашу. Ужэ пагасцюють-пагасцюють, ужэ тады падносяць кашу на стол, уперад бабіну кашу, яшчэ і баба варыла кашу. Калісь звалі бабку старэньку, каб радзіць дзіця, бабка тая дзіцятка абмуе, усё зробіць. Ну, і там кажа, потым ложаць грошы, хто ўжэ самае более паложыць грошай. Вот, напрымер, я палажу пяць рублей, а ты паложыш дзесяць, ета ўжэ твая каша, ета называецца, хто болей паклаў грошай, болей ужэ ніхто ні кладзе, тое ўжэ называецца, той купіў кашу. Усе клалі грошы.

Хто купіў кашу, той ету кашу б'е па стале. Тады ўжэ тую кашу бралі з чарапочкам і елі ўжэ. А тады ўжэ станавілі кумінуюю кашу. Ужэ тую, бабіну, паядзяць, трохі шчэ, можа, і не даядзяць, усё роўна становяць кумінуюю кашу. Тады ўжэ зноў кумінуюю купляюць, кладуць ужэ хто сколькі, а хто самае более паложыць, той, называецца, кумінуюю купіў кашу. Ужэ, хто купіў тожа, б'е тую кашу, ужэ паб'е таго гаршочка. Кумінуюю паядзяць кашу, тады ўжэ кумаву саму паследнюю становяць. Кумаву кашу купляюць, тожэ хто пакладзе меней,

а хто болей. І хто ўжэ самае более пакладзе, той ужэ купіў кашу, той ужэ б'е кашу. Тады ўжэ кумаву ядзяць кашу. Падаркі дарылі. Бабе давалі каліcь палатняну сарочку, хто пашые, а хто не пашые – крам на спадніцы, на кохты ёй даюць. І куме даюць падаркі тожа. Куме сарочкі не даюць, куме ета ўжэ там хустку, палаценца, крам на спадніцу ці на кохту. А куму тожа давалі падаркі: рубашку, палаценца. І за етыя падаркі ўжэ і баба кладзе грошы, і кума кладзе грошы, і кум кладзе ета грошы тожа.

Рожаніца калісь як родзіць дома, дак засцілалі такую посцілку – называлася полагам, за полагам рожаніца, і к ёй ішлі жэншчыны, хто ўжэ хацеў, той і шоў к рожаніцы, нёс ёй такое, што есці: канхветы там, пячэнне, хто булку спячэ, хто што. Неслі за полаг – ета называлася к рожаніцы хадзілі. Яе, рожаніцу, глядзелі, сцераглі яе, адну не пускалі нікуды, за ею ці мужык хадзіў, ці большае дзіця, ці сястра якая. Нельзя было воласы абразаць, ета нельзя. Хто якія ўмеў, такія песні на хрысцінах і пелі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча Хойнікскага р-на),***
***студэнткамі Салаўёвай Т. Вайтовіч К.***

Калі нараджалася дзіця, то, каб абараніць яго ад дурнога глаза, яго ўмывалі свянцонай вадой. Раніцай збіраліся ў цэркву. Бацькі навароджанага ў цэркву не ездзілі, ехалі толькі хросныя бацька і маці. Пасля хрышчэння вярталіся ўсе і садзіліся за стол. Спявалі адпаведныя песні:

*Сягоння ў нас імяніны,*
*Сягоння ў нас імяніны.*
*Добрай жаны-гаспадыні,*
*Добрай жаны-гаспадыні.*
*Сягоння ў нас госці будуць,*
*Сягоння ў нас госці будуць.*
*Госці будуць траякія,*
*Госці будуць траякія.*
*Першыя госці – дзед і баба,*
*Першыя госці – дзед і баба.*
*Другія госці – кум з кумою,*
*Другія госці – кум з кумою.*
*Трэці госці – брат з сястрою,*
*Трэці госці – брат з сястрою.*
*Брат з сястрою – размаўляці,*
*Брат з сястрою – размаўляці,*
*Кум з кумою – пагуляці,*
*Кум з кумою – пагуляці,*
*Дзед і баба – уся парада,*
*Дзед і баба – уся парада.*

Таксама спявалі песні, прысвечаныя куму і куме.

*Сядзіць кумка на куце,*
*Сядзіць кумка на куце,*
*Як лябёдка ў гняздзе,*
*Як лябёдка ў гняздзе.*
*– А не рушце мяне,*
*А не рушце мяне,*
*Не чапайце мяне,*
*Не чапайце мяне.*
*Я й за гэты куток,*
*Я й за гэты куток*
*Палажыла ласкуток,*
*Палажыла ласкуток.*

Песні, прысвечаныя бабцы-павітусе:

*Бабулька мая гордая,*
*Парадзіха твая лёгкая.*
*Вот табе, бабулечка,*
*Гарнец мёду.*
*Каб было, бабулечка,*
*Харашо пры роду.*
*Вот табе, бабулечка,*
*Гарнец гарэлкі.*
*Зрабі мне, бабулечка,*
*Каб было неспадзеўкі.*
*Вот табе, бабулечка,*
*Гарнец маку.*
*Зрабі мне, бабулечка,*
*Каб не было і знаку.*

Кашу пекла баба. Яна пячэцца ў гаршку. Кашу б'е кум. І была прыкмета: на колькі чарапкоў разаб'ецца гаршок, столькі будзе дзяцей. За кашу давалі падаркі і грошы. У канцы хрэсьбін кум з кумою садзяць бацькоў немаўляці за стол. Перад імі ставяць сваю гарэлку і свае пачастункі. На гэтым хрэсьбіны заканчваюцца. Прычым у канцы спявалі песні:

* * *

*Дадому, любыя госці, дадому,*
*Вы нам ужо, госцейкі, надаелі,*

*Дзве печы пшоннага хлеба з'елі,*
*Тры купы гарэлачкі выпілі.*

*Час дадому, час,*
*Час да ўжо даўно.*
*Будзе мяне мілы біці,*
*Няма каму бараніці.*
*Час дадому, час.*

* * *

*За лес, за лес сонца коціцца,*
*Уся бяседачка расходзіцца.*
*Мамка мая дамоў строіцца,*
*Я ж, малада, пайду правадзіць*
*Праз два полі, праз два чыстыя,*
*Праз тры рэчкі беражыстыя.*
*– Ты свякроўка, мая матачка,*
*Калышы маё дзіцятачка.*
*– А чорт яго накалышыцца,*
*Трое, двое ў калысачцы.*

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Санцэвіч В.***

Да, хрэсьбіны – абрад вядомы. Хрэсьбіны, ці, інакш кажучы, хрысціны.

У цэркву ездзілі абавязкова. Пры хрышчэнні дзіцяці перш за ўсё чыталі малітву, якая называлася малебен. Затым дзіця акуналі ў чан са свечанай вадой.

Хросных выбіралі абавязкова. Бацькі самі выбіралі іх і ішлі з хлебам да кумы і кума. Калі кумаўя згаджаліся хрысціць дзіця, тады хлеб забіралі. Калі згоды не было, то хлеб не бралі.

Застолле было пасля царквы. Гатавалі кашу, якая была галоўным атрыбутам хрэсьбін. Кашу гатавалі кума, кум і бабка-павітуха. Затым гэтую кашу выкуплялі. Хто болей даваў грошай, той разбіваў гаршок з кашай. Затым кашу разлажвалі па талеркам. Хросным дарылі падарункі. Песні спявалі. Песні былі прысвечаны кумаўям, дзіцяці і бабке-павітухе.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лагвіненка Марыі Васільеўны, 1960 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2005 г.).***

Хто родзіць дзіця, дык сабіраюцца тады бабы і ідуць даведацца. Бралі міску мукі, крупу, ілі сухароў напякуць, ілі якога малака возьмуць, ну што было. Прыходзяць сюды, етая рожаніца саджае за стол. Там іх сабярэцца чалавек пяць-шэсць, а можа, і болей. Вуп’юць, тады закусяць, трохі пагуляюць і пайшлі дадому. Ета былі так называемыя вотведы.

А патом ужэ дзелалі хрэсьбіны. Дзіця вязуць ужо ў цэркаў. Сабіраюцца кум, кума і баба. Баба ўкручвае етае дзіця і тады ўжэ атпраўляе яго ў цэркаў. Калі з цэрквы прыязджаюць, садзяцца за стол. Хрэсьбіны ўжэ, значыць, гуляюць. Бабе етай дорацъ падаркі. Варылі кашу. У нас абычна варылі кум, кума і баба. А патом етую кашу выкупалі людзі, што сядзелі за сталом. Хто даваў болей грошай, той і кашу забірае, но тады ўсё раўно етую кашу ўсе ядзяць. Но такі закон, што хто-та доўжан яе выкупіць. Абязацельна доўжэн кум купіць сваю кашу, ну ці кума, ета няма разніцы. Яны самі паміж сабой. Ежэлі багата кума, яна б’ецца з кумам: “Я кінула пяць рублей!”, а ён кажа: “А я кінуў шэсць рублей”. Ну, а тады даходзіць да таго, што ўжо ніхто не кідае. Тады кум забірае кашу, тры разы падымае ўверх еты гаршчок – і аб стол яго, і разбівае. Гаршкі етыя былі гліняныя

спецыяльна, каб лёгка разбіць кашу. А чарапкі з етага разбітага гаршка потым адзявалі на галаву. Ета ўжо счыталася, што будзе дзяцей багата. Ета каша абычна называлася “кумава каша” ілі “бабіна каша”. За сталом спявалі песні. Спецыяльных такіх уродзі і не было, пелі песні, як каму заманецца. Тады бабу вязуць на санках ці на калясцы дадому. Кашу выкупалі і разбівалі ў канцы застолля, калі ўжэ пасядзелі, паелі. І ўжо казалі: “Пасля кашы няма пашы”. Раз кашу разбілі, то ўжо і дадому можна ісці.

*Запісана ў в. Алексічы Хойніцкага р-на*
*ад Рышанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.*
*(нарадзілася ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),*
*студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.*

Калі цяжарная ішла на пахараны, яна прывязвала да пояса чырвоную лентачку ці адзявала чырвоную хустку, каб не прычынілася ліхога. Цяжарная павінна насіць увесь час хвартух, тады дзіця не будзе баяцца благога вока. Каб людзі не ўраклі, цяжарная, як ідзе ў людзі, павінна апранаць усё да пары: пару сарочак, пару спадніц і г.д. Тады ніхто не ўрачэ. Калі цяжарная спужаецца каго-небудзь, то павінна заткнуць за пояс вялікі палец левай рукі.

У дзень нараджэння ці назаўтра дзіця вязуць у царкву хрысціць. Кум з кумою садзяцца на лаве, а хазяйка перад тым закрывае печ засланкаю, каб у дарозе добра паводзілася. Кумы бяруць у дарогу хлеб і соль, каб дзіця багатае было. У цэркві кумы хрысцілі дзіця, а як бацюшка састрыжэ ў дзіцяці валосікі, то кум капае на іх воскам і кідае ў купель. Каліваласы адразу патонуць, то дзіця скора памрэ, а як будуць наверсе плаваць, то дзіця будзе шчаслівае.

Калі кумы з дзіцём вяртаюцца з цэрквы і ўсе госці збіраюцца ў хаце, парадзіха падносіць бабе падарак, кланяецца ў ногі і кажа: “Прасціце мяне, бабусечка. Дзякуй вам за вашу працу, што не пагрэбавалі мною”. Бабка набірае ў рот гарэлкі і пырскае на яе, каб не бралі сурокі. Потым пачынаецца застолле. Госці гуляюць, пяюць песні парадзіхе, бабцы, кумам, дзіцяці і проста песні. Дзіця адорвалі тады, як была каша (лажылі на кашу ці грошы, ці адзёжкі). Парадзіхе госці дарылі грошы, як прыходзілі ў хату. А бабку адорвала толькі парадзіха, яна дарыла ёй намётку. Госці жадалі дзіцю, каб здаровае расло, каб дужае было.

Песні, прысвечаныя бабцы-павітусе, куму, куме:

* * *

*А па сенцам,*
*А па новым,*
*Вецер дымам вее.*
*А там Іванка*
*Маладзюсенькі*
*Гарэлачку гоніць.*
*Падсыпле мядку,*
*Падкіне жарку,*
*Каб была саладзенька.*
*Упоіць бабульку,*
*Упоіць галубку,*
*Каб была п'яненька.*

* * *

*Не кукуй, зязюлечка, рана,*
*Не кажы, што ночачка мала.*
*Аленка ўсю ночку не спала,*
*Яна к сабе госцікаў звала,*
*Любых госцікаў ды бабулю.*

*Столікі абрусом засцілала,*
*Талеркі сухароў накладала,*
*Кубачкі ды віном налівала,*
*Яна сваю бабулю частавала.*

*Бабулечка на куце сядзела,*
*Бабулечка песню запела.*
*А первую ды раджоную,*
*А другую ды саджоную,*
*А трэцюю хрэсьбінскую.*

* * *

*Півушка, півушка, ты піўное,*
*Дзівушка, дзівушка, ты дзіўное.*
*Да не будзем, міленькі, упівацца,*
*А будзем на госцікаў спадзявацца.*
*А любыя госцікі – кум з кумою,*
*Яшчэ найлюбейшыя брат з сястрою,*
*Яшчэ наймілейшыя татка з мамкай,*
*А найдаражэй за ўсіх бабка наша.*

* * *

*– Чаго ты, кумок,*
*Чаго, галубок,*
*Увесь кут заняў?*
*– Я за гэты кут,*
*Я за гэты кут*
*Чырвонец аддаў.*
*– Чаго ж ты, кумка,*
*Чаго ж ты, любка,*
*Увесь кут заняла?*

*– Я за гэты кут,*
*Я за гэты кут*
*Прынесла адзежы скрут.*
*– Чаго ж ты, бабулька,*
*Чаго ж ты, рыбулька,*
*Увесь кут заняла?*
*– Я за гэты кут,*
*Я за гэты кут*
*Адрэзала ўнучцы пуп.*

* * *

*А ты, кумка, сорам май,*
*Сорам май, сорам май,*
*А на мыла рубля дай,*
*Рубля дай, рубля дай,*
*Хоць не рубаль – чырванец,*
*Чырванец, чырванец.*

*Наша ўнучка маленька,*
*Маленька, маленька,*

*Хоча мыцца бяленька,*
*Бяленька, бяленька.*

* * *

*Ай, кум куме рад,*
*Павёў куму ў сад.*
*Пасадзіў куму*
*У садзе на суку.*
*– Сядзі, кумачка,*
*Ты, галубачка,*

*Покуль я прыду,*
*Мёду прынясу.*
*Сядзіць кума дзень,*
*Сядзіць і другі:*
*– Ні кума майго,*
*Ні мёду яго!*

* * *

*Ой, учора, мае кумочкі,*
*У нас радзінкі былі,*
*А сягоння, мае кумочкі,*
*Мы на хрэсьбінкі прыйшлі.*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па рубельчыку даць,*
*То мы будзем да аўторка гуляць!*
*Не шкадуйце, мае кумочкі,*
*Па каровачцы даць,*
*То мы будзем усю нядзельку гуляць!*

Завяршае хрэсьбіны бабіна каша, у нас яе так і называлі або проста казалі: “Каша”. Бабка варыць густую пшонную ці грэцкую кашу. Гэты гаршчок яна перадае куму. Ён быццам знарок кідае гаршчок на стол так моцна, што ён б’ецца, і кажа: “Разбіся, гаршчок, штоб дзіцёнку доўга жылося”. Бабка збірае чарапкі і ложыць нежанатым на галаву, каб хутчэй ажаніліся, а каша так і стаіць, і не рассыпаецца. Гэта добры знак, значыць, дзіцятка будзе жыць доўга і багата. Потым бабка раздае ўсім гасцям па ложцы кашы, а яны адорваюць дзіця грашыма ці адзёжкамі. Песен зараз не пелі, проста елі кашу і дарылі падаркі. Як бабка ўсіх абойдзе, то нясе парадзіхе ўсё тое, што назбірала. Потым кума несла сваю кашу, давала ўсім па ложцы, але грошай не збірала. Пасля кашы госці збіраліся і пелі песні, а потым ішлі куды-небудзь танцаваць.

* * *

*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў грудцы:*
*– Дзякуй табе, мой кумочак,*
*Што звазіў у людцы.*
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў ножкі:*
*– Дзякуй табе, мой кумочак,*
*Што прывёз з дарожкі.*
*Кланялася кума куму*
*Нізенька ў пяткі:*
*– Дзякуй табе, мой кумочак,*
*Што прывёз дахаткі.*

* * *

*Запрагайце, запрагайце*
*Ды дванаццаць валоў.*
*А павязём, а павязём*
*Ды бабусю дамоў.*
*Наша бабуся, наша галубуся*
*Нам гарэлкі купіць.*
*Запрагайце, запрагайце*
*Ды дванаццаць сабак.*
*А павязём, а павязём*
*Ды кумочка ў кабак.*
*Наш кумочак, наш галубочак*
*Нам гарэлкі купіць.*
*Запрагайце, запрагайце*
*Ды дванаццаць канёў.*
*А павязём, а павязём*
*Нашу кумку дамоў.*
*Наша кумуся, наша галубуся,*
*Яна паязды любіць,*
*Наша кумуся, наша галубуся*
*Нам гарэлкі купіць.*

***

*Тут, тут, тут дай хрэсьбінкі былі,*
*Тут, тут, тут дай гарэлачку пілі.*
*Запала дай дарожанька сняжком,*
*Не зойдзе наша кумачка пяшком.*
*Запражыце клячу вараную,*
*Завязіце куму маладую.*
*Запражыце каня варанога,*
*Завязіце кума маладога.*

* * *

*– Мой кумочак, мой кумочак,*
*Не на тое прыйшла,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшла.*
*– Залажыце, запражыце*
*Клячу вараную,*
*Завязіце, адвязіце*
*Куму маладую.*
*– Мой кумочак, мой кумочак,*
*Не на тое прыйшоў,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшоў.*

*– Залажыце, запражыце*
*Ды дванаццаць сабак,*
*Завязіце, адвязіце*
*Майго кума ў кабак.*
*– Мой унучак, мой унучак,*
*Не на тое прыйшла,*
*Каб ад цябе, каб ад цябе*
*Пехатой я пайшла.*
*– Залажыце, запражыце*
*Ды рабую свінню,*
*Завязіце, адвязіце*
*Усю бабіну сям'ю.*

* * *

*На вуліцы пятух пяе,*
*А вы, госці, чуйце,*
*А вы, госці, чуйце,*

*Багатыя, едзьце дамоў,*
*Бедные, начуйце,*
*Бедные, начуйце.*

* * *

*Стаіць шацёр над вадою,*
*Веццейкі да долу,*
*Веццейкі да долу.*
*А ты ж сабе, мая кумачка,*
*Едзь сабе дадому,*
*Едзь сабе дадому.*

*Ды я ж цябе, мая кумачка,*
*Люблю і кахаю,*
*Люблю і кахаю.*
*Ды я ж цябе, мая кумачка,*
*Я ж цябе не трымаю.*

* * *

*Выбачай, бабка,*
*Выбачай, любка,*
*Можа, я не ўгадзіла.*

*Кроіла падарак пры луначцы,*
*Можа, я ўкараціла.*

***Запісана ў в. Аравічы Хойніцкага р-на***
***ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шаўцовай А.***

Помню, как кресцілі самага младшега брата. Былі хросный і хросная. Запрэглі самых лучшіх конікаў, павезлі ў Астрагляды. Пріехалі з цэркві дамой. Стол был накрыт, госці прыехалі. Была сначала падманная каша, і баба песню пела. У канцэ выносілі гаршок бальшой з настаяшчай кашай на рушніке красівам. А з гаршка свісалі цветочкі. Разбівалі гаршок, усім давалі па кусочку кашы, на падаркі дарілі на палаценцах ільняных. Грошы давалі за кашу. Каша пшонная вкусная была.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.,***
***(ураджэнка в. Чэхі).***

Матка цяжарную пеленой выцірала, як ідзе тая куда. Ці шпульку ля цела прышпульвала. Хрэсьбіны, калі хрысцілі дзіця. Збіралі гасцей, кума, куму, бабу. Спявалі, шчасця зычылі навароджанаму. А кашы куплялі. Хто болей грошай заплаціць, таго і каша. Гаршчок б'е. Пры тым, як лажылі грошы, тожа зычылі шчасця, здароўя і інш.

***Запісана ў в. Баец Калінкавіцкага р-на***
***ад Коўгар Соф'і Іванаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Буда Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Хмяльніцкай І.***

### *На хрэсьбіны*

* * *

*Парадзіха на палозе ляжыць,*
*А захацела яна віннага соку,*
*А пазавіце майго мілага з току:*
*Ці не дастанець мне*
*Віннага соку?*
*А ён пытаецца:*
*Каго мама радзіла?*
*Калі сына, я мёду дабуду,*
*Калі дачку, я і так абыдуся,*
*Калі сына, я і горад пастаўлю,*
*Калі дачку, з кажухамі адпраўлю.*

* * *

*Ішоў кум па сялу –*
*Кума на гародзе.*
*Наш кум папялу –*
*Кума скавароду.*

*Кум дроў нясе –*
*Кума бліны пячэ.*
*Кум бліноў не хоча,*
*Каля кумы рагоча.*

***Запісана ў в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н., студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

Бярэменнай нялььзя многа чаго рабіць: стрыгціся, красіцца, нельзя ёй адказываць, а то ў селішчы завядуцца мышы. Варожаць, каб узнаць хто будзе: кажуць, каб бярэменная паказала рукі. Калі яна пакажа ладонямі – будзе дзевачка, калі другім бокам – хлопчык. Колісь бабка-павітуха прымала роды. Павітуха даўжна быць чыстая і не павязана са злымі духамі. Каб роды былі лёгкімі, то трэба расплесці косы рожаніцэ, развязаць усе вузлы, адкрыць усе замкі. Як радзілася дзіця, то бабка-павітуха яго купае ў начоўках, тады пелянная ў льняныя пялёнкі. Тады ідуць радзіны. Прыходзілі на іх толькі жэншчыны і неслі хто што. Раньшэ не було як купіць, то неслі сахар, коржыкі, сыр.

Пасля радзін ішлі хрысціны. Хрысцілі да года. За куму бралі ад бацькі, а ад маці за кума. А зараз бяруць лучшых друзей. Калі первая дзевачка, тады кума была замужам, а то казалі, што дзевачка забярэ судзьбу кумы. Калі бралі за куму, то насілі хлеб і соль. Еслі мне прынеслі хлеб і соль, і я адказала, то я аддаю назад. А калі саглашаюся, то забіраю сабе. У цэркву едуць толькі кум, кума і дзіця. Радзіцелей не бяруць. За бабу бралі тожа тую, што была пры родах. У цэркві кума адзяе дзіця ва ўсё сваё. Як родзіцца дзевачка, тады насілі яе да варот, а калі хлопчык, то за вароты. Аднажды дзевачку звалі Саша, то перапуталі і панеслі за вароты, патом вярнулі назад.

Глаўнымі гасцямі былі кум, кума і бабка. Было і тры кашы. Кум, кума і бабка гатовілі з проса. Баба яшчэ прыносіла боршч з мясам і грыбамі і звар з груш, яблык, чарніц. Сначала давалі бабін боршч, кашу, але над ёй шуткавалі да трох раз. У гаршчок лажылі буракі, сыр, картошку, а на трэці раз – бабіну кашу і цанілі яе. Самая дарагая бабіна каша, тады кума і кумы. Усе кідалі грошы, но кум доўжан быў палажыць болей грошай, тады ён і біў кашу. Зразу знімалі

вяршок з кашы на аддзельны сподак. Як разбілі кашу, чарапкі кідалі ў парог, штоб было дужэйшае дзіця. Хто схваціць чарапок і надзене каму-небудзь на галаву, то яго возьмуць за куму, кума ілі бабу. Кашу дзялілі на ўсіх абязацельна. Потым падавалі звар запіць. На бабіну кашу лажылі грошы, матэрыю, хусткі. Унучка (рожаніца) давала падаркі і абязацельна бабе давала хвартух, каб калі баба памрэ, то на том свеце была не прывязана. Тады ўсе госці разыходзіліся. Другі дзень называўся пахмелле. Баба несла патраўку з грыбамі і мясам. А тады бабу везлі на баране, ішлі да яе ў госці. Раньшэ, мая матка казала, баба хадзіла цэлу нядзелю ў госці да дзіцяці і насіла гасцінцы, то напячэ чаго, то з адзежды, што іе.

Спявалі песні для кумы, кума, бабы. Усе падрад, якія зналі. На хрысцінах кумоў і бабу падымалі, бо гэта буў гонар і раньшэ кумаўё садзілася ў пачоце.

***Запісана ў в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

Чараватая жанчына ўвесь час знаходзілася дома, ля хаты. Пры гэтым выконвала самую абыдзенную работу: сеяла, палола, лён церла і трапала – аж да самых родаў. Калі пачыналіся роды, свякроўка ішла да бабкі-павітухі, якой павінна було ужо буць за пяцьдзясят год. Яе прасілі, і яна ішла і прымала роды.

Калі з’яўлялася дзіця, яна яго брала, укладала ў начоўкі і абмывала. Тады садзіліся за стол.

Калі дзіця везлі хрысціць, бабка-павітуха мула дзіця і давала на рукі куме. Кум і кума ехалі ў Юравічы хрысціць яго. Калі вярталіся з царквы, ізноў бабка-павітуха брала дзіця з рук кумы і несла ў хату. Затым збіраліся госці і адзначалі хрэсьбіны.

Да стала ў абавязковым парадку падносілі тры “кашы” (звараная пшаняная каша ў гаршку). Спачатку бабіную, потым куміную, а затым кумаву. Гэтыя “кашы” выкупліваліся гасцямі. На сподачак клалі грошы, падарункі для немаўляці, хто болей дасць, таго і “каша”. Затым зверху каша здымалася і давалася рожаніцы, а астатняя раздавалася гасцям. Гаршок білі, хваталі чарапкі і прыгаворвалі: “Давайце хватаць чарапкі, штоб малы хутчэй хватаўся ісці”. Разбітыя

чарапкі клалі на галовы жанчынам і мужчынам, каб у іх нараджаліся дзеці. За сталом спявалі песні, весяліліся. На гэтым хрэсьбіны і заканчываліся.

***Запісана ў в. Глінішча Хойніцкага р-на***
***ад Касцючэнка Ганны Яўхімаўны, 1936 г.н.***

Раней цяжарную жэншчыну ў бальніцу не вазілі, ражалі дома. Ражаць дапамагала бабка. Яна прыходзіць, пупа адразае, і ўжэ радзіны правяць. Шоб лёгка радзіла, дак маліліся. Як трэ ісці раджаць, дак косы распускалі, шоб лягчэй радзіць. Бярэменнай усё нада было даваць, што яна папросіць, ей усё пазычалі. І бярэменная нічога жалець не даўжна була, а то дзіця родзіцца жадным, гліну есці будзе.

Як хрысцілі, то ў цэркву матак не бралі. Ішлі толькі хросны, хросная, бацька. Рожаніца ў цэркву дванаццаць дней не хадзіла. Хрысцяць дзіця, у ваду апускаюць. Закрываюць яму вочы, вушы і ў ваду апускаюць. Тады ўжэ крэсціка вешаюць, перахрысціць бацюшка, і дадому едуць.

Дома хрысціны правілі. Гатовілі ўсё як на свадзьбу. Падаркі дарылі малому. Абавязкова варылі кашу, варылі яе з пшана. Таксама была і падманная каша, куру паднасілі ў гаршку. Казалі: "Бач якую баба кашу прынесла", да смяяліся. Курыцу ці ката ў гаршок пасадзяць, накрыюць. Шуцяць, а тады ўжэ нясуць кашу нармальную. Радзіцелі давалі падаркі хросным, а хросныя – малому. Вобшчам, мяняліся падаркамі.

Называлі дзяцей, як хацелі. От захацела я дачку Тамарай назваць – назвала Тамарай, захацела Ленай – дак Ленай назвала. У чэсць празніка называлі. Як на Ганны радзілася дзіця, да дзевачка, дык Ганнай называлі, на Іллю – дак Іллёй.

***Запісана ў в. Казялужжа Хойніцкага р-на***
***ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.***

Дзіцятка везлі ў цэркаў. Баба первая ідзе, дзіцятка тое выкупае. Як дзевачку купалі, то бралі цвяток такі, што сабіраюць краскі, нагаткі называюць, а хлопчыка проста купалі. Назаўтра збіралі баб. Збіраюць сваіх баб. А як хрысціць, то завуць сваіх родных. Хлеб

вязуць куме і куму. З хлебам бацькі ішлі да кумоў, каб пагадзіліся. Баба пакупае дзіцятка і сама выносіць хросным бацькам. У цэркву вязлі канём, а як пакрэсцяць, то дзяржалі дзіцятка то кума, то кум. Увечары ўжо прыязджалі гуляць. Вадой палівалі дзіцятка ў царкве. Кашу варыла баба. Перакупвалі кашу. Хто болей грошай дасць, таго і каша. Абычна кум перакупваў кашу, а тады ўжо разбівалі і дзялілі на ўсіх, а чарапкі адзявалі незамужнім дзяўчатам, каб хутчэй замуж выйшлі. Была таксама падманная каша. Маглі ката пасадзіць у гаршок для смеху. Песні на хрысцінах спяваюць. Як нап'юцца, дык спяваюць.

***Запісана ў в. Клівы Хойніцкага р-на***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.***

На хрэсьбінах абязацельна далжны былі быць баба, кум і кума. Яны з сабою прыносілі кашу, кожны – сваю. На хрэсьбінах дарылі добрыя падаркі. Калі сядзелі за сталом, то пачыналі купляць бабіну кашу. Спачатку адзін паложыць грошы, другі ўжо большэ, трэці – шчэ больш. І вось хто сама больш паложыць грошай, таго і каша. Тады ўжо кум бярэ гаршчок з кашаю і цаляе ў сцену. Гаршчок разаб'е, і тады кашу паміж гасцямі дзеляць. Бабіна каша была толькі пшаняка. І калі куплялі кашу, то спачатку бабіну, потым ужо – кума і затым – кумы. Баба – самы пачэсны госць на хрэсьбінах.

***Запісана ў в. Навасёлкі Хойніцкага р-на***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

На хрэсьбінах прысутнічалі ўсе, хто зайдзе, хто хоча. Але абавязкова кум, кума і баба. Шчас гэта акушорка, а раньша была баба. Баба сядзела за сталом да хлеб дзяржала, нітачкай завязвала пупок. Бабе даюць падарак. Гаспадыня, маці дае. Бяру два пірагі ці два батончыкі, абвертываю падаркам – палаценцам і даю ёй ужо. Таксама куму і куме даю хлеб і даю падарак. А астальная пляска і песні обшчая.

Раньша дак не было паложана дарыць падаркі бабе і куме, а зараз, калі есць, дык, канешне, нясуць, што-небудзь дараць. Раньша дык я далжна даць бабе, куму і куме, а яны мне – неабязацельна. Кума толькі магла младзенцу гэтаму спелянуць што прынесці.

Кашу варыла баба. А неслі кашу і кум, і кума. І гэту кашу неслі ў гаршку, а потым цанілі ўжо.

– Колькі гэта каша стоіць?

Я рубель даю.

– Вы даеце два – ваша каша.

А дзяўчына тры – яе каша.

А ўжо хто больш дае – ужо няма цаны. Бах, кашу разбілі. Кум кашу разбівае. А потым вы бярыце, дзеці там гуляюць, і ім – кашу, усім. Гэта ж бабіна каша. Кашу такую баба варыць, каб яна стаяла. Потым, калі разаб'юць гаршчок аб стол, чарапкі ўбяруць, то ўжо каша і стаіць. От і каша.

***Запісана ў в. Навасёлкі Хойніцкага р-на***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Пасля шчаслівых родаў мужык, запрошаны быць кумам, прыходзіць у хату парадзіхі з загорнутым у белую хустку хлебам і кладзе на стол. Кума прыносіць парадзісе пляшку гарэлкі, прыпраўленую мёдам і перцам. Бабка-павітуха благаслаўляе дзіця і перадае яго кумам, якія едуць да святара на абрад хрышчэння. Кумы разам з дзіцём прыносяць святару хлеб. Пасля хрышчэння кума прыносіць дзіця ў хату і перадае бабцы-павітусе, а тая – мацеры. Пасля падаюць вячэру, а потым падносяць падарункі кумам і бабцы-павітусі. Звычайна гэта хлеб і кусок палатна.

Адным з галоўных момантаў на хрэсьбінах з'яўляецца падача на стол "бабінай кашы". Кашу пеклі з прасяных круп і дабаўлялі мёд або цукар, масла, малако. Каша павінна быць жоўценькай і абавязкова смачнай. Перад тым як падаць "бабіну кашу", на стале засцілалі ручнік. Потым кашу павінны былі выкупіць, а кум – пабіць кашу. Чарапкамі пакрывалі галовы маладзіцам, у якіх доўгі час не нараджаліся дзеці, або дзяўчатам, якія доўгі час не выходзілі замуж.

Бабка рэзала кашу на кавалкі і раздавала ўсім прысутным. Калі госці атрымлівалі "бабіну кашу", то клалі грошы на выкуп кашы.

У наступны дзень кумы наведваюць парадзіху, прыносячы ёй грэчневую кашу і аржаныя пірагі. Частуючы кашай, кум гаворыць: "Няхай Бог нашага хросніка (імя) гадуе ды долю яму гатуе" – і праз

бабку-павітуху перадае парадзіхе кашу і грошы. Тое ж робіць і кума. Бабка-павітуха ставіць на стол міску і просіць ва ўсіх гасцей грошы на мыла. Усе, хто ў хаце, кідаюць у міску грошы. Потым падаюць абед, а пасля абеду збіраюць грошы на гарэлку, выпіваюць і разыходзяцца па хатах.

Маці імкнулася закрываць немаўлятка "ад чужога вока". Калі хто-небудзь убачыў яго, ён тут жа тройчы сплёўваў назад праз левае плячо і прыгаворваў: "Дай Бог, каб здаровенькім расло!"

У момант хрэсьбін госці спявалі:

*Паздраў, Божа, каваля,*
*Што скаваў нам дзіця.*
*А ні ў ручкі не хукаў,*
*А ні малатком не стукаў,*
*А ў мяккіх падушках,*
*А пад цёплай дзяружкай,*
*Без молата, без кавадла,*
*А паглядзім: дзіця ладна.*

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.).***

Ражалі ў хаце пры бабках. Назначалі бабу, яна завязвала пупавіну. Гэту бабу бралі і на хрэсьбіны.

Па-першае, быў "бабін боршч", разлівалі яго ўначале. Калі нагуляюцца, крычалі: "Давай бабіну кашу!" Кашу насілі па сталах, і ўсе давалі дары. Але кум павінен быў купіць кашу ў бабы. Калі прасілі бабіну кашу, то ў мяшок клалі петуха ці ката, каб пажартаваць. Тады кашу разбівалі, калі асколкі распадаліся, а каша заставалася стаяць, то ўсе крычалі і хвалілі "бабіну кашу": "Харошая каша" – і ставілі бабе бутылку. Асколкі ад гаршка кідалі ў малодшых, каб ім тожа прыплод быў. Вяршок кашы павінен зрэзаць кум і аддаць хрэсніку ці хрэсніцэ. Маленькае дзіця баяліся паказваць, каб не зглазілі. Клалі спаць дзіця і казалі: "Куры на седале спяць, так і ты спі".

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

На хрэсьбіны вараць кашу. Была падманная каша. Як кашу падносяць, ката садзяць у каструлю. Выкупляюць людзі гэтую кашу. Яны ж не знаюць, што там кот. А як набяруць грошай, адкрыюць

каструлю, а кот выйшаў і пайшоў. Бывала, што і кроліка садзілі. Як разаб'юць кашу, людзі збіраюць чарапкі сабе дадому.

***Запісана ў в. Слабажанка Хойніцкага р-на ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.***

Ужо як ражалі, нада было, штоб нічога не было на целі, штоб свабодна. Як родзіш, баба пупа завязвае, у нас яна называецца парадзіха. Тады ўжо садзяцца і красну замачваюць. Мужыкоў штоб не было, адны толькі жэншчыны. Эта п'юць красну, яна ў нас так называлася. Усе садзяцца за стол, а жэншчыну, якая радзіла, за стол не пускаюць, так няльзя, патаму што ў цябе яшчэ ідуць роды, ты не далжна за сталом сядзець, ты не далжна абшчацца, вось так.

Хрэсьбіны святкуюцца так. Едуць у цэркаў кума, кум, прыходзіць баба, яна павінна свайго ўнучыка ўпелянаць ва ўсё сваё, што прыносіць на хрэсьбіны. У цэркву забіралі дзіцёнка ў сем дней, із бальніцы – сразу ў цэркаў. Жанчыну, якая радзіла, у цэркву не пускалі. Патом перахрысцяць і прыязджаюць дадому, усе сабіраюцца і п'юць красну. Пелі:

* * *

*Наша бабка падпіла,*
*Пад прыпечкам прылегла,*
*А там мышы зашалелі,*
*Хвосцік бабкі пераелі.*

*Стала бабка плакаці:*
*Нечым хвартух латаці.*
*Заплакала, загаласіла*
*Да й зашыла ласкутком.*

* * *

*Куме, кума, смачна гарэлка,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ з панядзелка.*
*Прадай мне, куме, шчэ валоў сорак,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ ў аўторак.*
*Прадай мне, куме, гусей у сярэду,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ ў сярэду.*
*Прадай мне, куме, міскі да ложкі,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ ў чацвер трошкі.*
*Прадай, куме, белу цяліцу,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ ў пятніцу.*
*Закончым, куме, усяку работу,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ ў суботу.*
*Зложым мы, куме, сарочку-белку,*
*Вып'ем мы, куме, шчэ ў нядзельку.*
*Ад панядзелака да панядзелака,*
*Ой, куме, куме, смачна гарэлка.*

* * *

*Вып’ем, кумка, чарачку,*
*Каб мы былі ў парачку.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем дзве,*
*Каб нам былі рады ўсе.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем тут:*
*На тым свеце не дадуць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем тры,*
*Каб нас людзі любілі.*
*Вып’ем, кумка, чатыры,*
*Каб нас людзі хвалілі.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем тут:*
*На тым свеце не дадуць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем пяць,*
*Хай нас людзі не стыдзяць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем шэсць,*
*Хай нам будзе слава й чэсць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем тут:*
*На тым свеце не дадуць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем сем,*
*Каб была нам слава ўсем.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем восем,*
*Каб нам добра скрозь жылося.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем тут:*
*На тым свеце не дадуць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем дзевяць,*
*Вып’ем, людзі, нас не дзесяць,*
*Няхай людзі нас пепеляць.*
*Вып’ем, кумка, вып’ем тут:*
*На тым свеце не дадуць.*

Пахрысцілі, паспявалі, патом ужо кашу дзеляць. Нясуць кумаву кашу, там канфеты нясуць, што кум прыгатовіць. Там ужо грошы ложуць, як раздаюць ужо, весяляцца. Патом кума прыносіць кашу. Потым ужо ідзе бабіна каша. Баба кашу ўжо наварыць з пшана і рыса ў гаршку. І баба боршч нясе. Бабін боршч еты ўсягда ставяць на стол і весяляцца. Бывае падманная каша. Бывае, могуць пеўня пасадзіць у гаршчок ілі курачку пасадзяць. Дзе садзяць, ужо етыя госці вешаюць кружок, і нада, штоб кум папаў туды гаршчком, штоб гаршчок разбіўся там. А чарапкі садзяць на кума, куму, маладых, каб яны скарэй жаніліся ці замуж выхадзілі.

А патом пасля гулянкі трэба ж бабу дадому завезці. І бабу, калі зімою, дык садзяць на санкі, еслі летам – на барана. І ўсе запраўляюцца і вязуць бабу дадому. Баба там стол накрывае і апяць усіх угашчае. Як разбілі бабіну кашу, бабу садзілі на стул, качалі і гаварылі: “Што будзе? Што будзе?” Яна гаворыць: “Што дасце? Што дасце?” Потым бабу падымаюць, і яна кажа, што паедуць усе да яе. Калі ж не паедуць, то яна ставя тут. Так у нас праходзілі хрэсьбіны.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.).***

На хрэсьбіны дзіця ў царкву сабірае баба: мые, пялянае ў свае пялёнкі, адзявае ў сваю адзежу. Маці з бацькам у царкву ехаць не дазваляласся. Ехалі толькі кум з кумою.

Пасля царквы ўсе садзяцца за стол. Куму, куме і бабе радзіцелі дарылі падаркі. Баба несла сваю кашу, якую варыла ў гаршочку. Кашу заўсёды купляў кум. Над дзвярамі рысавалі кружочак, і кум павінен быў туда кінуць кашу, каб папасці. І калі каша была харошая, то яна не падала, не рассыпалася. Пеліся розныя песні.

***Запісана ў в. Стралічава Хойніцкага р-на***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

Дзеўке, якая носіць дзіця, няльзя было станавіцца на вяроўку, бо дзіця можа задушыцца пупавінай.

Бярэменнай нельзя было глядець на пакойніка ці на памерлую скаціну, а такжа хараніць, быць на пахаранах.

Калі бярэменная абпекалася, то ей нельзя трогаць рукамі галаву ці шэю, покуль не пройде шок, бо діця можа нарадзіцца с краснай плямай на тым месце.

Нельзя калыхаць каляску ці краватку, калі там няма дзіця. Гаварылі, што дзіця памрэ.

Да аднаго года няльзя даваць дзіцю зеркала, няльзя шыць яму адзежу з новага матэрыялу. Чэраз шэсць дней пасля раджэння дзіця бацькі выбіралі яму хросных бацькоў, якія аберагалі дзіця ўсё яго жыццё. Пра кумоў і песня е:

*А кум куме рад, павёз куму ў сад,*
*Пасадзіў куму ў садзе на цвет.*
*Еш, кумка, ягодкі, каторы салодкі,*
*Каторы горкі – аддай маёй жонкі.*

***Запісана ў в. Стралічава Хойніцкага р-на***
***ад Сацура Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Фяськовай Т.***

Сабіраліся к хрэсту, пасядзяць за сталом і едуць хрысціць дзіця. Прыедуць з храста, зноў прымаюць іх, садзяць за стол. Паабедалі

і разайшліся. А тады гуляюць хрэсьбіны, ілі той жа дзень, як хрысьцяць, і гуляюць хрэсьбіны, спраўляюць. Рабілі падаркі. Давалі хросным, а малому, дык ета ж абязацельна. Як ідзеш хрысціць, так і нясеш падарак. Хросныя пеклі кашу. Хто ж яе варыў – хросныя, і хроснага, і куміна каша. Была і падманная каша, дажа і ката садзілі ў каструлю, закрыюць да нясуць.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***выкладчыцай Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

Як ходзіла бярэменна, то сільна хацела спаць, а баба мая казала: “Не спі, бо прыспіш дзіцятко”.

На хрэсьбіны садзілі бабку на возік і вазілі па сялу, і магарыч штоб яна паставіла. Кума і куму тожа вазілі.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на***
***ад Ядчанка Марыі Фёдараўны, 1948 г.н.***
***(перасяленка з в. Дронькі Хойніцкага р-на),***
***выкладчыцай Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

# Чачэрскі раён

Цяжарная жанчына не далжна стаяць на парозе, шыць на святы, пераступаць аглоблі – пупавіна закруціцца вакол шэі дзіцяя.

Нельга глядзець на пажар і ў гэты час трогаць ліцо рукамі – будуць красныя пятны ў дзіцяя.

Нельга красць – дзіця будзе красць.

Цяжарная жанчына не далжна стрыгціся – у дзіцяя не будуць расці валасы.

Яшчэ да хрышчэння бацюшка ўводзіць дзяўчыну ў цэркву, чытае малітвы. Потым бярэ за руку і вядзе: вакол алтара – калі дзевачка, на алтар – калі хлопчык.

Для дзіцяя завуць бабу – жанчыну, якая ўжо вырасціла сваіх дзяцей. Баба ў царкве купае дзіця і надзявае ва ўсё новае. Кум і кума нясуць пад крэст. Пасля цэрквы прыходзяць усе дамоў.

Баба вара кашу з пшана з маслам і мёдам. Кум знімае вянок з канфет з гаршка з кашай і корачку з кашы і дае куме. Патом кум разбівае кашу, гаршок ставіць у палаценца. Калі кум падымае гаршок, маці падымае дзіця.

Кашу разбілі і кожны бярэ па трошкі. Чарапкі кладуць друг другу на галаву, каб дзеці былі. Патом даруць падарункі. Маці дарыць кумам і бабе. Кума – таксама. Затым бабу адносяць на пакрывале (летам) ці адвозяць на санках (зімой) дадому, дзе яна прыгатавала стол, і ўсе весяляцца ўжо ў бабы.

***Запісана ў г. Чачэрск***
***ад Буланавай Марыі Макараўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ткачовай А.***

Уперад вязуць дзіцёнка ў цэркаў. Берут кумоў. Там дзіцёнка хрэсцюць, каб быў здаровенькі і ахраняўся Богам. Бацька і маці хросныя вязуць дзіцёнка дамоў. Дома чакаюць блізкія родныя і госці. Садзяцца за стол. Варят кашу ў варэйцы. Варыць бабка. Нясуць кашу за стол і госці павінны выкупляць кашу. Трэба класці падаркі ці грошы на кашу. Хто пакладзе паследні – значыцца, каша яго. Но бацька хросны должон выкупіць кашу, каб потым біць яе самому. Вот ён і выкупляе яе, пакуль у гасцей не застанецца падаркаў ці грошай. Грошы бацькі хроснага далжны быць паследнія. Тады ма-

ці выносіць дзіця і паднімае яго ўверх на руках тры разы, разам з ею кум і кума падымаюць тры разы кашу і разбіваюць яе на трэці раз аб вугал стала. Тады деляць кашу, каждаму даюць чарапкі або кладуць на галаву.

Баба тоже на хрэсьбінах есць. Эта тая жанчына, каторая до хрешченія сматрела за роженіцей і первая купала ребёнка. Ей дарілі падаркі, всё прахадзіла весела. Патом яе садзілі на барану і цягнулі да её дома, ана всё хахатала. Ці мужчыны занасілі яе на руках. Там яна пріглашала всех гасцей к себе дамоў. Гуляніе шло ў бабкі.

***Запісана ў г. Чачэрск***
***ад Адамовіч Аляксандры Васільеўны, 1931 г.н.,***
***студэнткамі Антушэвіч І., Сусоевай Т., Хімянковай Л.***

На ролю кумы і кума бяруць чужых людзей, але можна і сваіх. Раней роды прынімала баба-павітуха. За гэта ёй давалі гасцінцы, рушнік, скацерку, платок. У царкву хрысціць дзіця ехалі кум, кума, сама маці не едзе. Пасля царквы едуць дамоў гуляць хрэсьбіны.

Баба вара кашу ў гаршку. Гаршок называецца “варэйка”. Хтонебудзь скажа: “Нясіце бабіну кашу”. Прынясуць гаршок, а там ці ката жывога ўсодзяць, ці ляльку. Баба гавора: “Не, гэта не мая каша”. Нясуць другі гаршок з сырой бульбай. Баба зноў кажа: “Не, не мая каша”. Трэці раз ужо нясуць бабіну. Баба бярэ кашу і аддае хроснаму бацьку. Ён падыме яе тры разы, узважвае і гаворыць: “Наша каша з канапелькамі, а ўсе з капейкамі”. Тады перадае хроснай матцы. Тая таксама робіць тое ж самае. Тады зноў перадае хроснаму бацьку. А ён гавора: “Хай мая хрэсніца будзе здаровая і шчаслівая”. Потым разбівае гаршок аб стол. Усе хватаюць чарапкі (тады кідаюць іх свінням, каб вялікія раслі). А кашу ядуць, каб здароўе было. Тады саджаюць бабу на калёсы ці саначкі і вязуць катаць па вуліцы.

***Запісана ў в. Асінаўка Чачэрскага р-на***
***ад Антончыкавай Лідзіі Нікanoраўны, 1924 г.н.***

Маладыя пажаніліс і радзілі сабе младзенца. На трэці дзень спраўлялі радзіны. На радзіны прыходзілі родственнікі, друзья, саседзі. Кожны штосьці прыносіў на радзіны: хто зерно, хто хлеб, сала, прыносілі і кампот гарачы ў куўшыне. Усіх, хто сабраўся на радзіны, угашчалі самагонам і жарылі яешніцу, гушчу, дранікі.

Праз месяц спраўлялі хрэсьбіны. Кумаўёў бралі багатых. Прыглашаць іх у кумы хадзіў дзед (бацька парадзіхі). Ён атносіў хлеб-соль. І калі ён ужо прыйшоў к камусьці з хлебам-соллю, то яму ўжо нельга было адказваць. Лічылася, што тады ў гэты дом прыдзе бяда. У першую чаргу звалі бабку, каторая бабіла младзенца. Кумаўя неслі на радзіны (хрэсьбіны) гасцінцы, палатно, хто нёс фартух. Прышлі, аддалі падаркі і потым ужо вязуць хрысціць младзенца. З сабой бяруць палатно, зярно і плацяць папу за хрышчэнне. Затым прыязджаюць дамоў і гуляюць хрэсьбіны. Поп накладваў імя младзенцу. Калі плацілі харашо, значыць, даваў харошае імя, а калі мала – плахое (Пуд, Іюда).

Кумоў садзяць на кут. Усе п'юць гарэлку, пяюць песні. Потым баба прыносіць сваю кашу. Трэба, каб яна была ўкусная, салодкая. І на кашу пачынаюць лажыць хто грошы, хто палаценца, хто фартух. Выкупіўшы кашу, кумаўя разбіваюць яе. Калі разаб'юць гаршок, усе хочаць узяць кашу і асколак гаршка. Кашу прыносілі дамоў і давалі курам, штоб харашо несліся. Асколкі гаршка брасалі к свінням у хлеў, каб свінні бальшыя раслі.

*Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на*
*ад Маркоўскай Марыі Лагвенаўны, 1919 г.н.*

Перад хрэсьбінамі маладыя бацькі выбіраюць кумоў. Калі ідуць іх зваць, нясуць хлеб і соль, зашоўшы ў хату, кладуць на стол са словамі: “Хлеб, соль вашы, а кума або кум нашы”.

Раніцай вядуць пад хрэст. Баба варыць кашу. Прыязджаюць з-пад храсту, збіраюць гасцей. Кума, куму і бабу садзяць за першы стол на кут. Баба хавае сваю кашу, штоб не нашлі. Выпіваюць па первай, па втарой чарцы. За трэцяй чаркай далжны падносіць кашу бабе. Находжаюць кашу, якую яна схавала. Надзяюцца дзве жэншчыны, звязваюцца ўдваіх кабылай, накрываюць іх посцілкай. Адна садзіцца паверх на іх. Не кашу падносяць, а падманную кашу. У чугун кладуць пеўня ці ката. Падносяць бабе гэтую кашу. Баба кажа: “Не мая каша”. Яны назад з гэтай кашай. Потым кашу абвязваюць у платок, надзяюць на палку і вязуць. І баба павінна за гэту кашу даць магарыча. Гаворыць: “Мая каша”. Потым забірае яе і дае магарыч. Вылажае са стала і носіць па сталах. Госці кладуць грошы на кашу. Грошы сабірае і кладзе іх маці. Збірае з кашы верх, а пасля аддае куму.

Таргуюцца за кашу, колькі стое. Кум кладзе дзесятку ці дзве і аб'яўляе: "Каша стоя дзесяць рублей. Хто болей?" Кожны з гасцей кладзе падарунак са словамі: "Мая каша", а кум за кожным павінен выкупіць яе. Калі ўсе госці паклалі на кашу, кум яшчэ кладзе грошы і кажа: "Мая каша". Госці крычаць: "Кумава каша" і дазваляюць біць. Маці бярэ малога, кладзе падарункі куму, куме, бабе. Дае куму насавы платок. Ён бярэ гаршок насавым платком, падымае кашу і кажа: "Первым разам, божым часам няхай мой хрэснік вялікім расце і шчаслівым будзе" (тры разы). За трэцім разам бярэ, падымае і б'е кашу. Пабілі кашу, рэжуць на кускі, раздаюць па ўсіх сталах. Наліваюць чаркі, замачваюць кашу. Песні пяюць. Папяюць, мужыкі бяруць кума і вядуць у магазін. Ён ім бярэ бутылку. А бабы бяруць бабу і куму, содзяць летам на каламажку, а зімой на саначкі і вязуць у магазін. Яна бярэ і ўгашчае іх канфетамі. А потым працягваюць гулянне.

***Запісана ў в. Гацкое Чачэрскага р-на***
***ад Гулевіч Тафілі Кузьмінічны, 1927 г.н.***

У дванаццаць часоў кум з кумой нясуць дзіцёнка ў царкву на абрад крышчэння. Послі абраду дома выкупляюць кашу. Кашы далжно быць дзве: кумава і бабіна. Патом бяруць кашу і нясуць куму і бабе. Кум дае да етай кашы грошы. Кашу нясуць каля гасцей, госці даюць падаркі. Кум дае больш усіх грошай, тады б'е кашу, верх снімае, аддае куме. Чарапкі ад гаршка кладуць на галовы тым, у каго няма дзяцей. Выходзячы з-за стала, кума і куму падымаюць уверх. Тады ўжо кума і бабу вязуць па сялу.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Міхальковай Марыі Пракопаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В.***

Як дзіця пакрэсцяць, дык ужо сабіраюцца ў хаце і гуляюць. Каторую бабу бралі за бабу, тая варыць кашу з пшана. Потым, калі людзей за стол пасадзюць, кашу хаваюць, тады ходзюць, шукаюць. Жэншчыны прынясуць ката ці жывое штосьці, куру завярнуць у трапкі і пытаюцца ў бабы: "Баба, твая каша?" Баба ўжо адказвае: "Мая? Шчас пагляжу. Не, не мая каша!" І так тры разы. Тады ўжо ж кашу прынясуць. Баба кажа: "Мая каша" і прыгаворвае: "Мая каша з лімонамі, каб лажылі мільёны, мая каша з канапелькамі, каб

усе былі з капейкамі”. Тады ўжо кашу на стол паставяць, кладуць грошы. Пакладзе адзін, і з кума цягнуць, кум пакладзе грошы, а яны зноў болей яго. Тады бабы прынясуць чапялу ці палку і гавораць: “Кум, не б’еш кашу, дык мы паб’ем”. Потым кум ложыць больш за ўсіх грошаў, бярэ гаршок з кашай і трасе тры разы, і кідае аб стол, разбівае кашу. Тады ж падаркі ложуць, хто што. А бабы пакрадуць падаркі і трэбуюць выкуп. Бяруць воз, садзяць туды кумоў і возяць па дзярэўні, трэбуюць выкуп. Тады ўжо гуляюць, пяюць розныя песні, танцуюць, усіх частуюць. У нас на хрэсьбіны пелі такія песні:

***Цячэ рэчанька, цячэ быстрая***

*Із-пад камушка серабрыстага*
*Цячэ рэчанька, цячэ быстрая.*
*А ў той раке дзева мылася, умывалася,*
*Таргаўцу-купцу спадабалася.*
*Таргавец-купец вёў каня паіць,*
*А раўнівы муж вёў жану тапіць.*
*А жана ў мужа ўсё прасілася:*
*– Не тапі мяне рана з вечара,*
*А ўтапі мяне супраць ночанькі.*
*Людзі будуць спаць,*
*Ніхто не будзе знаць.*
*Із-пад камушка серабрыстага*
*Цячэ рэчанька, цячэ быстрая.*

***Запісана ў в. Іванаўка Чачэрскага р-на***
***ад Марозавай Ульяны Паўлаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Судаленка Н.***

Цяжарная жанчына должна была хадзіць з пярэднікам на жываце для таго, каб малы не баяўся ўроку. Роды прымала бабка-павітуха. Сначала абязацельна малое дзіцятка пеленалі ў палатняную пялёнку, адрэзаную знізу ад вопраткі жанчыны. Тады прыходзілі ў атветкі, прыносілі падаркі.

На хрэсьбіны пелі песні. Аддзельных песен для малога дзіцяці, яго маці, бабкі-павітухі не было.

Бабіна каша была ўсегда. Раней яе варылі з пшана на малаке, салодкую, у гаршку. Зверху кашу аблажвалі канфетамі. Гэты верх потым зразалі і аддавалі маці младзенца. Сразу бралі выкуп за кашу. Баба даўжна была пазнаць кашу, а пасля выкупіць за грошы ў кума. Потым

баба, кум, кума паднімалі яе тры разы ўверх. Тады далжны былі маленькага прынесці і адначасова падымалі яго ўверх. І тады кашу адразу білі, штоб яна разбілася з першага раза. Чарапкі ад гаршка кладуць на галаву маладым, каб яны тожа ўжо ражалі, а саму кашу раздавалі.

***Запісана ў в. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на***
***ад Кудзінавай Ганны Васільеўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Якубоўскай Т.***

Перад хрэсьбінамі маладыя бацькі выбіраюць кумоў. Калі ідуць іх звацць, нясуць хлеб і соль. Зайшоўшы ў хату, кладуць на стол са словамі: "Хлеб, соль вашы, а кума або кум нашы". Раніцай кумы ідуць або едуць з дзіцём у царкву хрысціць. Гасцей завуць к абеду. Калі запрашаюць за сталы, куму, кума і бабу садзяць за першы стол на куце. Баба абавязкова варыць салодкую кашу з пшонных круп у гаршку.

Цікава, як у нас падносяць кашу. Абавязкова сярод гасцей знаходзяцца вясёлыя і знаходлівыя людзі, якія пераадзяваюцца ва ўсё смешнае і з жартамі ў рукавіцах нясуць бабіну кашу. Са стала, які на куце, убіраюць усё, каб ён быў чысты і пусты. Сюды і ставяць кашу. Калі адкрываюць ручнік, адтуль, як шалёны, вылятае кот, а баба кажа, што гэта не яе каша. Праз некаторы час ізноў прыносяць кашу, але на гэты раз пеўня засадзілі ў чугунок, і баба таргуецца, што гэта не яе каша. І толькі на трэці раз прыносіць сапраўдную кашу.

Баба ставіць яе на стол, паверх ложыць падарунак або грошы, і кажа: "Мая каша з канапелькамі, а вы, госцейкі, з капейкамі". Пасля запрошвання бабы кум падымае кашу тры разы. Хто стаіць бліжэй да стала, падымаюць яго тры разы, а маці ўверх сваё дзіця са словамі, каб расло здаровенькім, шчаслівенькім... Кум з сілай разбівае гаршок з кашай аб стол. Усе прысутныя стараюцца ўхваціць бабінай кашы, таму што ў вёсцы кажуць, калі яе з'ясі, то зубы не будуць балець. Хватаюць таксама і чарапкі з гаршка, прыносяць іх дамоў і кідаюць у пуню свінням, каб вяліся.

Потым пачынаюць "класць на кашу". Кум абавязкова выкупіць кашу, штоб за ім было апошняе слова. Ён разменьвае грошы на мелкія. Кожны з гасцей кладзе падарунак са словамі: "Мая каша", а кум за кожным абавязаны выкупіць яе, і калі гасцей шмат, куму даводзіцца нялёгка. Калі ўсе госці падаравалі гаспадарам, кум яшчэ кладзе грошы і кажа: "Мая каша". Госці крычаць: "Кумава каша" і дазваляюць біць.

Гаспадары адорваюць бабу і кумоў падарункамі, якія госці папытаюцца ўкрасці, каб з жартам іх даставілі дамоў, каб выкупілі гарэлкай і закускай. Бабу вязуць або вядуць дамой. Усе хрэсьбіны з прыпеўкамі, скокамі, гармонікам. Потым вяртаюцца да гаспадароў, дзе гуляюць да позняй ночы.

***Запісана ў в. Палессе Чачэрскага р-на***
***ад Міхальковай Марыі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***Палянок Ганны Андрэеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткамі Мартынавай Н., Луцэнка Ю., Канавалавай В.***

Хрэсьбіны праходзілі праз два або чатыры тыдні пасля нараджэння дзіцяці. Менавіта з гэтага дня дзіця далучалася да веры дзядоў і прадзедаў. Да гэтага дня бацькі выбіралі кумоў, і ў дзіцяці да гэтага часу была бабка-павітуха, якая прымала яго на свет. Бацькі і родзічы рыхтаваліся да хрэсьбін: варылі, пяклі, рыхтавалі святочную ежу. Да святочнага абеду прыходзілі бабка-павітуха, кумы. Бабка мыла ў травах дзіця, маці рыхтавала чыстыя, новыя пялёнкі, якія прынесла кума, а бабка загортвала дзіця, спавівала яго стужкай: калі дзяўчынка – чырвонай, калі хлопчык – блакітнай.

Кумы везлі на кані хрысціць малога ў царкву (раней у в. Залессе, пазней у г. Чачэрск). Бацькі і родзічы накрывалі святочныя сталы. Збіраліся госці – родзічы дзіцяці. Калі кумы с хрэснікам вярталіся з царквы, то яны казалі, як назвалі дзіця ў божым храме, і аддавалі яго маці, тая клала яго ў калыску.

Потым ўсе садзіліся за сталы, на куце, пад абразамі, садзілі бабку і кумаў. Першую чарку налівалі куме і прапаноўвалі выпіць за хрэсніка, пажадаўшы добрай долі маломy. Калі госці пад’ядуць, то пачынаюць спяваць песні, расказваюць жарты, танчуць. Потым зноў садзяцца за стол, чакаючы бабіну кашу. Часта хтосьці з гасцей жартаваў і прыносілі абгорнутую “кашу з пеўнем, катом”, але бабка не хацела прымаць гэтую кашу, на трэці раз прыносілі сапраўдную бабіну кашу ў гліняным гаршчочку ці варэйцы. Каша была зварана з пшана і абавязкова з мёдам. Гаршочак упрыгожваўся цукеркамі. Каша павінна вырасці і быць жоўтай, як сонца, рассыпчатай, каб спадабалася гасцям, тады і ў дзіцяці будзе доля і шчаслівая і прыгожая.

Кашу трэба было выкупіць у бабкі. Бабка таргавалася. Кашу мог купіць той, хто больш накладзе на кашу грошай. Кашу па звычаю павінен біць кум-хросны, ён за хрэсьбінным сталом павінен быць самым багатым. Родзічы стараліся падкідваць грошы за кожным

кумавым таргаваннем. Але кум быў хітры, ён ведаў пра гэта і меў грошы пра запас. Маці дзіцяці таксама “выкупляла” кашу, яна клала на кашу падарунак для бабкі-павітухі. У рэшце рэшт кашу выкупліваў кум, бабка казала “Мая каша з бублікамі, а вы, госцейкі, з рублікамі”. Потым яна падымала кашу і жадала здароў’я, долі, шчасця дзіцяці. Кашу перадавала куме, якая таксама тры разы падымала гаршчок і выказвала пажаданні. Каша перадавалася куму, той тры разы падымаў кашу і казаў: “Няхай мой хрэснік вялікі расце, бацьку з маткай на слугу, а людзям на славу”. А маці ў гэты час тры разы падымала ўгору дзіця. Потым кум павінен быў аб край стала разбіць гаршчок з кашай. Калі гаршчок разбіваўся з першага разу, то ў малога будзе добрае жыццё. Калі гаршчок разбіўся, то кавалачкамі ад гаршка чэрпалі кашу і раздавалі ўсім гасцям. Пасля таго госці заставаліся надоўга: пелі, скакалі і танчылі. Пелі песні:

***

*Як у сенічках музыкі іграюць,*
*Як у хатачцы хрэсьбіны гуляюць,*
*Дай Бог, каб Ганначка не хварэла,*
*Каб нам гарэлачкі не жалела.*
*А ўчора бабка на радзінах была,*
*А сягоння бабка на хрэсьбіны прыйшла*
*І бліноў міску прынесла.*
*Запражыце бабцы шасцярых вараных,*
*Адвядзіце бабку ў каморачку,*
*Напаіце бабку ды гарэлачкай.*

***

*У саду груша расла, ў саду груша вырасла,*
*На высокі церам пахілілася, шчэй на вуліцу.*
*Там сядзела Машанька позна вечарам адна,*
*Зажыгала яна свечы з воску ярага.*
*Дажыдала дружка, ды ўдалага.*
*І стучыць і гручыць, па дарожцы бяжыць*
*Ці вор, ці зладзейнічак, ці разбойнічак.*
*Ні вор, ні зладзейнічак, ні разбойнічак,*
*А Машын палюбоўнічак.*

***Запісана ў в. Покаць Чачэрскага р-на***
***ад Лаўрыноўскай П.П.***
***студэнткай Гунькова й Н.***

*Запрагалі мы дванаццаць валоў.*
*Адвязом мы любу бабку дамоў.*
*Люба бабка паездку любя,*
*Яна гарэлачкі нам купя.*
*Калі купя – будзем піць,*
*А не купе – будзем бабку біць.*

Прыглашае хазяін на хлеб-соль, а бабка – на кашу.

*Мая каша з мятнымі каплямі,*
*Мужчыны, прыдзіце ка мне*
*З двaццаціпятнымі.*
*Мая каша з прыгарачкамі,*
*Прыдзіце ка мне, жанчыны,*
*З падарачкамі.*
*Кладу медзь, каб мой унук*
*Быў здаровы, як мядзведзь.*
*Каб ніколі не балеў,*
*Штоб у доме шчасце меў.*

***Запісана ў в. Шырокае Чачэрскага р-на***
***ад Хранькoвай Валянціны Ігнатаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Хранькoвай Н.***

А сейчас так жа, как і раньше, ну, вот только без всех эціх забабонаў. Кагда раждаецца рэбёнак в сем’е, его нікому стараюцца, кроме сваіх членаў сем’і, не паказываць, штобы не сурочылі. Бывае, вока і добрае, а завідлівае. Рэбёнак будзет крічаць па начам без прычыны. Знаю, что не паказваюць, пакуда не пахрысцяць у царкве. Можна толька маленькіх дзетак пускаць да малога. Дзеці вреда не здзелаюць. Нельзя к зеркалу паднасіць, штобы себя не відзел, а то спужаецца і касавокім можа стаць. Валаскі не стрыгуць і не брыюць да першага года. Вешаць крэсцік нельзя, пака нехрышчоны. Нужна не перехваліць дзіця, а то будзе плакаць. Вот гаварят: “Какой харошы, спакойны, красівы, здаровенькі...” Вот нельзя многа. Еслі спужаецца, то нада сплюнуць тры разы ў левы бок, таму што ангел с правага боку, а бясоўская сіла слева. Вот і плююць на нево, штобы вреда рэбёнку не дзелал. На хрышчэнне прыходзяць і друзья, і родственнікі, ну і все знаёмые. Іх не далжны зваць, ані самі далжны прыходзіць у госці. Это сугляды – так называют, кагда приходзят в дом, дзе радзі-

лася дзіцяці. Прыносяць што-небудзь з ежы на стол, каб пасядзець, а также падарункі рэбёнку. Часцей што-небудзь з адзежды, касцюмчыкі ці пагрымушкі.

На хрэсьбіны збіраюцца з раніцы ў тэй дзень, калі свяшчэннік назначыць. Часцей у суботу ілі васкрэсенне. Могут і в такіе дні. Прыходзяць толькі тыя, хто быў прыглашон. Еслі на сугляды прыходзяць все, хто хочэт, то сюда толька званыя. Нужна зваць добрых людзей. Кума выбіраюць благанадзейнага, а кумою тую, у якой е свае дзеці. Каб была як свая матка. Кума з кумам далжны суправаджаць сваево крэсніка ўсё жыццё. Далжны ўчаствавацъ у васпітаніі сваево крэсніка. Выбіраюць бабку, біць кашу. Часцей за ўсё балт-лівую, каб многа гаварыла і ведала многа спевак. Яна дома варыць кашу з пшонкі з малаком і салодзіць яе, штоб вкусная была. Ставяць гаршок на рушнік, вакруг яго, как правіла, многа канфет. У цэркву едуць кумы і маці. Бацьку нельзя ехаць у царкву. Са званых людзей, хто хоча, можа также паехаць. У нас в царкве бацюшка запрэшчает прысутстваваць ва врэмя храшчэнія бацьку.

Бабка застаецца дома з астальнымі гасцямі ждаць, кагда вярнуцца с цэркві. Кума дзержыць мальчыка, а еслі дзевачка, то кум яё дзержыць ва время хрэсьбін. Еслі кума не замужам, то яё можна браць толька для крэшчэнія мальчыка, патаму што шчасце ў дзевачкі забярэ. Кум с кумой далжны быць хрышчонымі і крэсцік на шые насіць. Пасля этай цырымоніі ўсе едуць дамой на застолле.

На стале звычайна далжна быць малочная, сырная, мясная ежа, абавязкова гарэлка, каб за малога выпіць. Кажуць старыя, што чым мацнейшая, тым крапчэйшы будзе тост за здароўе дзіця. Усе госці паздраўляюць хрышчонага і яго матку з бацькам, дораць ім падарункі. Пяюць ім песні:

*Маці, маці-ражаніца,*
*Наша маці – ражаніца.*
*Пяць сыноў радзіла,*
*Пра дачушку не забыла.*

Пяюць звычайна, кагда дзевачка родзіцца. А такжэ кожны падымае ўніз-уверх малога і кажа такія словы: “Расці вялікі і здаровы”. Так па тры разы. Толька нужна не спяшыць, штобы не спугаць дзіця. Все садзяцца за стол, пачынаюць біць кашу. Баба бярэ яе ў рукі і пачынае трэбаваць за яе выкуп. Хто больш дасць грошай, той і б’е гаршок

з кашай. Часцей за ўсё эта дзела выігравае кум. Ёсць прыкмета такая, што каму дастанецца гаршок з кашай біць, таму пашанцуе ў гэтым годзе. Пагэтаму і грошы не шкадуюць. Разбітую кашу з кусочкамі гаршка, яго асколкаў ложаць на галовы ўсім, хто за сталом. Потым кашу збіраюць, а кусочкі ложаць у куток. Госці тожа могут браць кашу дамой.

За сталом не прынята гаварыць а праблемах ілі а другіх какіх-та дзелах. Всё вніманіе толька на пахрышчаным малым і яго радзіцелях. Іх хваляць, жэлаюць шчасця, здароўя, цярпімасці. Могуць і заспяваць. Кагда расходзяцца па дамам, са стала нельзя нічаво браць і выносіць з дому, бо вынесуць прыбытак. І стол убіраць да ўтра не нада. Мыць пасуду ілі месці ў доме в дзень хрэсцін не нада. Грошы, сабраныя за выкуп бабінай кашы, аддаюць хазяйке. Малога в этат дзень не моюць, как правіла.

Чужым нельзя купаць дзіця. Лучшэ, кагда матуля купае. Это ж із жызні дажэ так. Малы толькі маці слухаецца. У вадзічку нужна ціхонечка апускаць, штоб не спужался. Вадзічкай палівают на галоўку і гаварат такія словы: “Как с гуся вада, так с раба Божага майго дзіця хай цякуць все бядоты і няўзгоды”. Для таго, штобы смыць всё, ну, как правіла, балезні, зрокі, крыкушкі. Так і крыкушкі ўбірают с немаўляці: “Куркі-рабушкі, забярыце крыкушку, дайце немаўляці сон”. Еслі спугался рэбёнак, то маці подалам рубашкі сваёй працірае тварык малага тры разы і кажа: “Як радзіла, так і выхадзіла”. Вот яшчэ забыла: купаюць первый раз – грошы кладуць на ваннaчку, дзе купаецца рэбёнак. Это штобы багаты быў. Малага носяць у царкву кожнае васкрасенне на святое прычасціе. Бацюшка дае хлеб с вінаградным віном, толька не такое, как прадают. І запіваюць свяцонай вадой. Можна маці замест маленькага.

***Запісана ў г. Чачэрск***
***ад Чвыровай Наталлі Іванаўны, 1966 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Глыбочыца),***
***студэнткай Асіпенка А.***

Дзеўцы, якая носіць дзіця, было нельга станавіцца на вяроўку, бо дзіця можа задушыцца пупавінай.

Нельга было пазычаць нічога, бо тады дзіця будзе жыць у беднасці.

Для таго каб дзіця было разумным, нельга было стрыгціся маці, пакуль яна носіць дзіця.

Бярэменнай нельга было пінаць нагамі кошку або сабаку, бо дзіця будзе ва сне каўкаць.

Калі жанчына цяжарная, нельга было рабіць нікому з сям'і ў празнікі – дзіця магло радзіцца калечаным.

Шчаслівым лічылася тое дзіця, якое нарадзілася на вялікае свята.

Калі хрысцяць дзіця, а ён крычыць, то будзе бойкім у жыцці, а маўчыць – слабы, хілы.

Бабка бярэць кашку і разбівае яе аб вугал стала. Кашай угашчаюцца ўсе госці, а чарапкі даюцца незамужнім дзеўкам, каб хутчэй вышлі замуж.

Мужа і жонку нельга было браць за кумоў.

*Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на*
*ад Дуброўскай Галіны Іванаўны, 1927 г. н.,*
*студэнткай Селівестрэнка А.*

Чарапкі ад разбітага гаршка бабінай кашы завязвалі ў платок, а потым аддавалі свінням, каб свінні вяліся.

*Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на*
*ад Селюковай Юліі Рыгораўны, 1922 г.н.,*
*студэнткай Селівестрэнка А.В.*

Цяжарнай нельга было хадзіць і глядзець на пажар – дзіця народзіцца з плямамі на твары. Нельга было цяжарнай хадзіць на пахаванне, каб нарадзілася здаровае дзіця. Нельга абразаць валасы, каб у дзіцяці былі прыгожыя валасы. Калі цяжарная жанчына пачуе шэвяленне плода с правага боку – народзіцца ў яе хлопчык, а калі з левага – дзяўчынка. Гаварылі яшчэ, калі ясі акрайчык хлеба, то народзіцца хлопчык.

Бабка-павітуха прыймала роды. Перад гэтым ёй неслі хлеб, соль. Каб роды прайшлі добра, не трэба садзіцца ў хаце павітухі.

Кумоў выбіралі з ліку родных і сяброў, гэта павінны быць добрапрыстойныя людзі. Яны павінны адказваць за выхаванне свайго крэсніка перад Богам, і толькі яны павінны ведаць хрысцільнае імя дзіцяці. Калі чалавек дрэнны будзе ведаць імя, можа зрабіць падробы. Хросныя бацькі павінны быць праваслаўнымі, яны не павінны быць мужам і жонкай. Хросныя бацька і маці на тым свеце будуць самымі блізкімі і роднымі людзьмі.

Калі маладую дзяўчыну бралі ў кумы, то яна першая павінна хрысціць хлопчыка, калі пахрысціць дзяўчынку, то не выйдзе замуж або дрэннае замужжа будзе. Хлопец павінны першы хрысціць дзяўчынку.

Калі ў сям'і паміралі дзеці, то бралі сустрэчных хросных, незнаёмых людзей. На перакростку станавіліся і першага прахожага бралі, і не павінна было адказвацца ад кумаўства – лічылася вялікім грахом.

Калі прыйшлі без хлеба, солі, яны маглі адказацца, або ў сям'і цяжарная жанчына – нельга ісці ў кумы.

Цяжарная жанчына на працягу сарака дзён не магла заходзіць у царкву, бо сорак дзён пасля нараджэння дзіцяці лічылася "гразнай", грэшнай.

Калі блізняты нараджаліся, іх павінны крысціць у розныя дні.

Я не знаю, чаму так лічылася, калі дзяўчына старая дзеўка, калі пакрэсціць байструка (пазашлюбнае дзіця), то яна выйдзе замуж.

Калі назначаўся дзень хрэсьбінаў, нельга шыць, сціраць, вязаць, прасці, секчы дровы, к гэтаму дню трэба падгатовіцца. У дзень хрышчэння вельмі добра лічыць грошы, якія ёсць у хаце, дзіця будзе багатае. Не дай Божа, каб у гэты дзень у хаце адбывалася нейкая сварка.

Хросная маці павінна падрыхтаваць усё беленькае адзенне на крышчэнне. Адзенне, у якім хрысцілі дзіця, нельга аддаваць нікому чужому. Перад тым як ехаць у царкву, бацькі іх благаслаўлялі – кума і куму. У дарогу кум і кума бралі хлеб і соль, розныя прадукты, пасля хрышчэння абавязкова павінны паесці ў дарозе.

Калі ў дзень хрышчэння ідзе дождж і снег, лічыцца, дзіця будзе багатым.

Калі хрысцяць, у гэты дзень кум павінен заказаць малебен святому, кум плоціць за крыжык, купляе абраз святога. Абавязкова, калі ўваходзяць у царкву, трэба падняць дзіця высока, і пасля хрышчэння, штоб жыццё было добрае, штоб быў моцны і здаровы. Пад крыстом дзіця павінна спаць або крычаць, то будзе доўгае жыццё.

Па дарозе назад трэба стаць і паесці, каб дзіця ніколі не было галодным. Прывязлі дадому, кума павінна палажыць дзіця каля парога, каб яго цянула дадому, каб увесь род яго любіў. Затым зноў паднесці да іконы, падняць і перадаць бацькам, сказаўшы словы: "Бралі ў вас народжанае, аддаем хрышчонае".

Галоўнымі гасцямі былі бабка і хросныя бацькі. Пачынаецца застолле, першым абавязкова павінен сказаць хросны бацька дзіцяці, сказаць добрае слова, а затым хрэсніку: "Няхай расце і шчаслівым будзе".

Бабка рыхтавала кашу, грэчневую звычайна, з салам, і алеем запраўленую. Кашу старалісь украсці, каб выкуп палучыць за эта. Бабка выкупала гэту кашу, калі ўкралі, ставіла на стол і гаварыла: “Прашу на гэтую кашу пакласці грошыкі”. І госці пачыналі класці, хто сколькі можа. Апошнімі пачыналі кум, кума, бабка. Кум павінен больш за ўсіх пакласці грошай.

Паднімалі гаршок, завернуты ў палатно, утраіх тры разы, а маці ў гэты час паднімала дзіцятка тры разы высока. На трэці раз кум біў з усёй сілы гаршок, ён разлятаўся на шмат чарапкоў, кожны стараўся ўхваціць кашы і чарапок. Чарапок бралі, каб свінні вадзіліся добрыя, і прыкладвалі к галаве, каб яна не балела. Далей госці частаваліся, спявалі песні:

*Ай, што ў нас ды дзіва выходзя,*
*Кум да кумы ў начы ходзя,*
*Стук да стук у ваконцы:*
*– Кумачка, адчыні, кума, у хату ты пусці.*
*Добра ж, ой, табе ў пярынах ляжаці,*
*А цяжка, ой, і мне пад акном стаяці.*
*Я, ой, па тваім гародзе ходзячы,*
*Чорныя сцежкі павыбіваў.*
*І шаўковыя боты патаптаў*
*Я, ой, пад тваім акном стоячы.*

Калі ўжо разыходзіліся, госці стараліся ўхваціць кумоў ці бабку, каб тая іх пачаставала. Звычайна садзілі ў ночвы ці на калёсы, якія і цягнулі вочапам (самі) і спявалі такую песню:

*Запрагайце, запрагайце да дванаццаці валоў,*
*Адвязіце, адвязіце, ай, бабусю вы дамоў.*
*Запрагайце, запрагайце да дванаццаці валоў,*
*Адвязіце, адвязіце, ай, бабусю вы дамоў.*

Свята заканчвалася, але гасцяванні паміж цяпер ужо роднымі працягваліся. Кумы хадзілі ўжо адзін да аднаго ў госці, а ўжо хросныя бацькі прымалі ўдзел і былі ганаровымі гасцямі ў свайго хрэсніка на свадзьбе, на провадах у армію, займалі пачотныя месцы на ўсіх святах. Настаўлялі свайго хрэсніка на працягу ўсяго жыцця.

***Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на***
***ад Клімянковай Тамары Пятроўны, 1955 г.н.,***
***студэнткай Рыбак Т.***

# Змест

Навукова-папулярнае выданне

# Радзінна-хрэсьбінныя абрады і звычаі беларусаў
**(на матэрыяле фальклору Гомельскай вобласці)**

**Аўтары-ўкладальнікі:**

**Новак** Валянціна Станіславаўна
**Шынкарэнка** Вольга Карпаўна
**Кастрыца** Алена Аляксандраўна
**Воінава** Алена Мікалаеўна
**Вяргеенка** Святлана Анатольеўна
**Палуян** Алена Мікалаеўна
**Партнова-Шахоўская** Ала Уладзіміраўна

| | |
|---|---|
| Рэдактар | М. А. Беразоўская |
| Карэктар | М.Л. Краўчанка |
| Тэхнічнае рэдагаванне і вёрстка | В. М. Сакунова |
| Афармленне вокладкі | К. П. Чындарава |
| Малюнкі | В .А. Кісловай |

Падпісана ў друк 27.02.2013 г. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура “SchoolBookAC”.
Ум. друк. арк. 21,88. Ул.-выд. арк. 16. Тыраж 400. Заказ №299.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА “Барк”.
ЛИ № 02330/0549485 от 14.05.2009 г.
ЛП № 02330/0494249 от 25.04.2009 г.
246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3.
Тэл. (0232) 74-34-08, 74-35-41